**Юры Дракахруст. АКЦЭНТЫ СВАБОДЫ.** (Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе). — Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 430 с.: іл.

Заснавальнік і каардынатар сэрыі
*Аляксандар Лукашук*
Мастацкі рэдактар *Генадзь Мацур*

Рэдактар *Кацярына Гарэлік*
Карэктар *Настасься Мацяш*
Мастак *Генадзь Мацур*

Гэтая кніга — зборнік выбраных перадачаў праграмы Беларускай службы Радыё Свабода «Праскі акцэнт», якія выйшлі ў этэр у 2001—2009. Парадоксы станаўленьня нацыі і дзяржаўнасьці, аўтарытарызм і змаганьне за дэмакратыю, геапалітыка і мараль — пытаньні «круглых сталоў», адказы на якія шукаюць вядомыя беларускія і замежныя экспэрты і палітыкі.


FOL

ISBN 978-0-929849-28-7

## Зьмест

## Свабода без акцэнту

Некалі я спытаўся Яна Новака-Езяраньскага, легендарнага калегу (падчас Другой усясьветнай вайны — бясстрашны сувязны ўраду Польшчы ў выгнаньні ў Лёндане і партызанкі на радзіме, потым — шматгадовы дырэктар Польскай службы Радыё Свабодная Эўропа), што б ён — са сваім досьведам працы падчас надзвычайнага становішча і Салідарнасьці, палітычных забойстваў і інтэрнаваньня тысячаў актывістаў, агоніі камуністычнага рэжыму і першага кампрамісу ўлады і апазыцыі, вызваленьня сваёй краіны ад імпэрскай удушкі з усходу і адкрыцьця сакрэтных архіваў — параіў Беларускай Свабодзе?

«“Круглыя сталы”, — адказаў ён. — Рабіце гутаркі за круглым сталом, на любыя тэмы, зь левымі, правымі, з уладай, з апазыцыяй, з тымі, хто за рынкавую эканоміку і хто супраць яе, хто сьніць сны аб эсэсэсэрыі і хто ненавідзіць імпэрыю. Бо сам жанр “круглага стала” — часам большы ўрок дэмакратыі, чым самыя аналітычныя аргумэнты і гарачыя клятвы ў вернасьці ёй...»

Першая перадача «Праскі акцэнт» выйшла ў этэр у першую нядзелю пасьля пераезду Радыё Свабода зь Мюнхэну ў Прагу ў траўні 1995 году. З таго часу сотні беларускіх палітыкаў і пісьменьнікаў, палітвязьняў і прадстаўнікоў улады, удзельнікаў падзеяў і экспэртаў з Амэрыкі і Украіны, Нямеччыны і Расеі, Літвы і Канады штотыдня спрачаліся і шукалі адказы на пытаньні Радыё Свабода.

Юры Дракахруст, які правёў большасьць «Акцэнтаў» з Прагі, кажа, што сама гутарка, якімі б ні былі складанымі пытаньні і аўтарытэтнымі госьці, — ня самае цяжкае. Бо вядоўца праводзіць гадзіны на тэлефоне, каб знайсьці суразмоўцаў, акрэсьліць праблему, узгадніць прымальны для ўсіх час запісу, і калі ўсё быццам дамоўленае — у людзей мяняюцца пляны, іх могуць арыштаваць ці яны могуць забыцца, раптам сядае батарэйка мабільнага тэлефона ці здараецца нешта, што вымагае тэрмінова зьмяніць тэму і шукаць іншых удзельнікаў.

Юры памыляецца. Ня толькі таму, што перадача ні разу не сарвалася. Але і таму, што вядоўца перш за ўсё — інтэлектуальны лідэр дыскусіі і аб'ектыўны рэфэры, зацікаўлены ўдзельнік і талерантны гаспадар, крыху актор і заўсёды рэжысэр радыёспэктаклю. І калі спэктакль удаецца, тады паўгадзіны спрэчак пралятаюць як адна хвіліна. І дзякуй інтэрнэту — там заўсёды ёсьць месца для аргумэнтаў і фактаў, якія не ўпісаліся ў жорсткі фармат этэру.

Гэтыя перадачы маглі б скласьці ўжо некалькі важкіх тамоў. Дагэтуль пад імем аўтара ў бібліятэчных каталёгах зарэгістравана толькі адно выданьне: «Лякальна-глябальны нормавы прынцып для палёў альгебраічных лічбаў». (Так называлася дысэртацыя маладога кандыдата матэматычных навук, будучага  журналіста і аналітыка, аднаго з заснавальнікаў «Мартыралёгу Беларусі» і БНФ, ад 2000 году — супрацоўніка Свабоды.)

Гутаркі, адабраныя аўтарам для выданьня, адбыліся ў 2001—2009 гадох. Але гэтая кніга — не пра мінулае, бо калі б усе адказы можна было адшукаць у мінулым, дык сьветам кіравалі б гісторыкі і бібліятэкары.

Ня ўсе аргумэнты суразмоўцаў Юр'я Дракахруста вытрымалі б праверку строгім матэматычным аналізам. Але яны вытрымліваюць выпрабаваньне жанрам.

Дыскусія — гэта мова дэмакратыі, якую скалечанае дзесяцігодзьдзямі несвабоды грамадзтва вучыць як замежную, шукаючы і блытаючы словы, не разумеючы іх сэнсаў, успрымаючы іншы пункт гледзішча як здраду, а апанэнта — як ворага. Гісторыя дый сучаснасьць таксама сьведчаць, што гэтую мову спрабуюць імітаваць і выкарыстоўваць для цалкам супрацьлеглых мэтаў.

Часам адзінае, што адрозьнівае сапраўднага носьбіта мовы ад імітатара — гэта акцэнт.

Акцэнт Свабоды.

*Аляксандар Лукашук,*
*Радыё Свабода*

# СКРЫЖАВАНЬНІ БЕЛАРУСКАГА ШЛЯХУ

## Адраджэньне і народ: з намі ці бяз нас

Ці пацярпеў няўдачу праект Адраджэньня? Якімі могуць быць шляхі мадыфікацыі адраджэнскай ідэі? Як спалучыць Сапегу і Машэрава?

**29 чэрвеня 2001**

Удзельнікі: Валянцін Акудовіч, Ігар Бабкоў

### Праект Адраджэньня: папярэдні дыягназ

**Дракахруст:** Цяпер беларускія мэдыі поўныя палітычнай «злобы дня» — прэзыдэнцкімі выбарамі. Але менавіта ў гэты час у газэце «Наша Ніва» зьявілася надзвычай канцэптуальная публікацыя, якая можа стаць паваротнаю ў разьвіцьці нацыянальнай ідэі. Размова ідзе пра эсэ філёзафа Валянціна Акудовіча пад красамоўным назовам «Бяз нас»*. Гэты тэкст — жорсткі дыягназ, калі не сьмяротны прысуд, ідэалёгіі нацыянальнага Адраджэньня, прынамсі ў той форме, у якой яна стваралася, практыкавалася ў Беларусі апошнія 10 гадоў. Эсэ «Бяз нас» — тэкст палемічна завостраны, ён выклікае пярэчаньні і нават правакуе іх. Вось мы і вырашылі прыняць гэты выклік.

Напачатку — некалькі цытатаў з эсэ «Бяз нас»:

*«Адраджэньне адмовіла рэальнай Беларусі ў хоць якой вартасьці. За патрабаваньнем вяртаньня гістарычнай спадчыны, мовы і культурнага досьведу мінулага хавалася жорсткая ідэалягічная канструкцыя, у якую ня ўпісваліся здабыткі і каштоўнасьці тагачаснага беларускага грамадзтва, бо ўсе ягоныя перамогі, плёны і радасьці мелі альбо камуністычнае, альбо каляніяльнае паходжаньне».*

* *Акудовіч В.* Бяз нас // Наша Ніва. 2001. № 23 (232).



*«Краіна Беларусь жыве бяз нас. Калі б ня колькі палітычных перадачаў на дзяржаўным радыё і тэлебачаньні, дык сёньня мала б хто ведаў, што ў Беларусі, акрамя проста беларусаў, ёсьць яшчэ нейкія “сапраўдныя” “шчырыя”, “сьвядомыя”, “зацятыя”, “адданыя” беларусы, гэта значыць — мы. У адзіноце мы засталіся не таму, што ад нас нехта адыйшоў, а таму, што абсалютная большасьць жыхароў дзяржавы, у якой мы тулімся па завугольлі, і не зьбіралася выпраўляцца на адкрытую намі “новую зямлю”».*

Спадар Бабкоў, ці згаджаецеся Вы з высновамі Валянціна?

**Бабкоў:** Адзінае, з чым можна пагадзіцца, гэта тое, што надышоў час татальнай пераацэнкі ідэалёгіі і практыкі апошніх дзесяці гадоў. Але расцаніць праект найноўшага беларускага Адраджэньня як мроі ідэалістаў без народу, якія так і ня здолелі стварыць у гэтай краіне нічога рэальнага, — я думаю, што гэта палемічнае завастрэньне тэзы Валянціна. Рэч у тым, што ў адрозьненьне ад адраджэнцаў пачатку XX стагодзьдзя, перад якімі сапраўды стаяла задача сацыяльнага і культурнага вызваленьня беларускай вёскі, перад адраджэнцамі канца XX стагодзьдзя такая задача не стаяла. Беларускі народ быў ужо вызвалены ў выніку каляніяльнай мадэрнізацыі і ўрбанізацыі. Задачаю нацыянальнага Адраджэньня канца стагодзьдзя якраз і было стварэньне прыгожых мітаў, беларускай ідэнтычнасьці, прычым такой ідэнтычнасьці, якая не базавалася б на ідэі пэрманэнтнага вызваленьня, а, хутчэй, на ідэі вызваленасьці. І нездарма адраджэнцы канца XX стагодзьдзя ўсьведамляюць сябе хутчэй нашчадкамі польска-беларускай шляхты XIX стагодзьдзя, чым нашчадкамі народнікаўадраджэнцаў пачатку XX стагодзьдзя.

**Дракахруст:** Валянцін, паводле якіх крытэраў можна вызначыць посьпех ці няўдачу той ці іншай ідэі, таго ці іншага праекту? Чаму ў выпадку з праектам беларускага Адраджэньня Вы ставіце дыягназ: няўдача?

**Акудовіч:** У ідэі нацыянальнай Беларусі закладзенае мноства памылак. Але я паспрабую праналізаваць дзьве зь іх. Канцэптуальная памылка — тое, што мы як бясспрэчную пэўнасьць прызналі скалянізаванасьць Беларусі Расеяй. Але Беларусь наўпрост не была скалянізаваная Расеяй. Больш за тое — нават Вялікае Княства Літоўскае не было скалянізаванае. Расея заваявала Рэч Паспалітую, куды ВКЛ уваходзіла фармальна фэдэратыўна-самастойна, але насамрэч — ужо як паўкаляніяльная частка. І ўласна беларуская нацыя сфармавалася ў прасторы Расейскай імпэрыі. Немалую ролю тут адыграла ідэя заходнерусізму. І Беларусь як краіна паўстала не з антыкаляніяльнага супраціву, а зь беларускага сэпаратызму, калі гэтая частка Расейскай імпэрыі пачала адчуваць у сабе дастатковы патэнцыял. А ўсю папярэднюю гісторыю ад Полацкага княства беларускія сэпаратысты толькі скарысталі ў якасьці ідэалягічнай легітымацыі сваіх палітычных памкненьняў. Гэта не азначае, што ўся тысячагадовая гісторыя нашага краю ніякім чынам ня можа быць зьвязаная з сучаснай Беларусьсю. Гэта азначае, што тая Беларусь, якую мы маем, ня ёсьць вынікам лягічна-пасьлядоўнай хады гістарычных падзеяў. Наадварот — цяперашняя Беларусь ёсьць вынікам глябальных разрываў у ланцугу гэтых гістарычных падзеяў, штучна сашчэпленых намі ў лінейную пасьлядоўнасьць.



## Калі скончыцца Адраджэньне?

**Дракахруст:** Ігар, Вы сказалі, што адраджэнскі праект патрабуе кардынальнай мадыфікацыі. Гэтаму могуць быць дзьве прычыны: ці ён выканаў свае задачы, ці ўсё ж такі быў недастатковым...

**Бабкоў:** Мне здаецца, што задачы, якія ставіліся напрыканцы 80-х гадоў XX стагодзьдзя, а менавіта, задачы стварэньня новай беларускай ідэнтычнасьці (гэта значыць — стварэньне корпусу тэкстаў, якія б рэпрэзэнтавалі гэтую ідэнтычнасьць, стварэньне гістарычных мітаў, новай літаратуры), уласна кажучы, былі выкананыя. Іншая рэч, што, усмактаўшы сапраўды антыкаляніяльны патас папярэдняй традыцыі, беларускае Адраджэньне абсалютна некрытычна ўспрыняло тэзу ненармальнасьці беларускай сытуацыі і рэшты народу як пасіўнай масы насельніцтва, якая толькі і чакае новай беларусізацыі, чакае, пакуль новая беларуская ідэнтычнасьць будзе гвалтам «накінутая» ёй. І ў гэтым сэнсе, калі з 1994 году раптам пачаўся іншы ідэалягічны рух і ў выніку сёньня мы маем рэанімацыю беларускіх савецкіх мітаў, беларускай савецкай ідэнтычнасьці, то гэты працэс беларускае Адраджэньне ўспрыняло як нацыянальную катастрофу, як правал нацыянальнага праекту.

Аднак у рэальнасьці мы маем перад сабою дзьве беларускія ідэнтычнасьці, дзьве беларускія суб'ектнасьці. Дарэчы, кожная зь іх — нацыянальная адраджэнская і беларуская савецкая — аднолькава зыходзіць з патасу і рыторыкі незалежнасьці. Калі праанілізаваць і прамовы адраджэнцаў, найбольш радыкальныя — Пазьняка, і прамовы Лукашэнкі, то можна заўважыць, што абодва ў якасьці найвышэйшай каштоўнасьці ставяць ідэю незалежнасьці беларускага народу. Іншая рэч, што Пазьняк заклікае

быць незалежнымі ад Усходу, а Лукашэнка — ад Захаду. І сытуацыя і з таго, і зь іншага боку аднолькава расцэньваецца як ненармальная.

Мне здаецца, што тая інтэлектуальная пераацэнка, рэвізія, якая мусіць адбыцца, палягае на прыняцьці беларускай разнастайнасьці, посткаляніяльнай гетэрагеннасьці беларускага грамадзтва, на спробе будаваць нейкія гібрыдныя формы культурнай ідэнтычнасьці. У апошняй частцы эсэ Валянціна Акудовіча ёсьць крыху іранічны пасаж наконт таго, ці магчымая беларуская ідэнтычнасьць, у якой на аднолькавых правох прысутнічалі б Леў Сапега і Пётар Машэраў, Юры Гагарын і Антон Луцкевіч. Тое, што цяпер адбываецца, хутчэй размываньне межаў з абодвух бакоў. Я не магу сказаць, што беларускае Адраджэньне пацярпела татальную паразу — хутчэй наступае час рэвізіі базавых антыкаляніяльных мітаў і размываньня ідэалягічных межаў.

**Дракахруст:** Валянцін, Вы мелі намер прааналізаваць дзьве прычыны няўдачы адраджэнскага праекту, а выклалі толькі адну. А ў чым, на Ваш погляд, палягае другая?

**Акудовіч:** Другая, сытуацыйная, памылка паходзіць з таго, што мадэль Беларусі, якая трымаецца на антыкамунізьме, антыкаляніялізьме, нацыяналізьме і тарашкевіцы (а тарашкевіца — ня правапіс, а яшчэ адна беларуская мова), сфармавала беларуская эміграцыя. Гэта «папяровы» праект людзей, якія ня мелі сваёй рэальнай краіны і маглі выдумляць, як у снах, гэтак і на паперы, яе якой заўгодна. Калі пачалася перабудова і шмат што сталася магчымым, мы гэтую літаратурную выдумку эмігрантаў паспрабавалі і па сёньня заўзята спрабуем рэалізаваць у жыцьці рэальнай Беларусі. У выніку атрымалася тое, што і мусіла атрымацца. Рэальная Беларусь не



прыняла гэтай літаратурнай казкі, а ўсе мы, хто сэрцам і розумам ухваліў эмігранцкую мадэль Беларусі, неўпрыкмет апынуліся ў эміграцыі ў сваёй роднай краіне. Дарэчы, заўважым, што сёньня ладная частка самых апантаных распаўсюджвальнікаў гэтай ідэалягемы апынулася ўжо і ў вонкавай эміграцыі — у Вільні, Польшчы, Чэхіі, Амэрыцы. І невыпадкова, бо гэткі праект і не прадугледжвае нашага рэальнага існаваньня ў рэальнай Беларусі.

## Рынкавыя стратэгіі promotion Адраджэньня

**Дракахруст:** У паліталёгіі існуе, можа, і цынічны, але плённы погляд на суперніцтва, барацьбу ідэяў у рынкавых катэгорыях. Групы інтэлектуалаў, ідэолягаў ствараюць своеасаблівы «тавар» — мадэлі таго, як трэба асэнсоўваць рэчаіснасьць. І прапаноўваюць яго на рынак. Калі публіцы тавар падабаецца, яна, фігуральна кажучы, «купляе» яго, гэта значыць — прапанаваныя сэнсы, ідэі завалодваюць сьвядомасьцю людзей. І ў тэрмінах такога падыходу дыягназ спадара Акудовіча можна сфармуляваць так: «тавар не ідзе». Расчараваньне ўзмацняецца спэцыфічнасьцю тавару. Прапаноўваліся ж нацыянальныя сэнсы, ідэі, якія мусіла «купіць», прыняць пераважная большасьць. Нацыянальная ідэя, якую падзяляюць 10% насельніцтва, а астатнія ставяцца да яе ці не варожа, — гэта нонсэнс паводле азначэньня. І падаецца, што тут магчымыя дзьве рынкавыя стратэгіі. Адна — чакаць, трываць, узмацняць рэклямную кампанію, спадзеючыся на тое, што пакупнік, публіка ці зьменяць свае густы, ці рассмакуюць тавар. Здаецца, апошнія дзесяць гадоў адраджэнцы практыкавалі менавіта такую стратэгію. Другая стратэгія — мя-

няць, мадыфікаваць тавар, адаптуючы яго для патрэбаў рынку ідэяў.

Ігар, Вы казалі, што мэтаю Адраджэньня было стварэньне корпусу тэкстаў, мітаў. Але, з гледзішча прыгаданага мной падыходу, мала было стварыць такі тавар, яго трэба было «прадаць». У сваім артыкуле, спадар Акудовіч, Вы вызначаеце шлях такой адаптацыі — спалучэньне, умоўна кажучы, Машэрава з Сапегам. Але падаецца, што праблема тут ня толькі ў тым, каб паставіць іх побач і сказаць, што абодва яны ёсьць беларускай гісторыяй, а знайсьці такі пункт гледзішча, зь якога абодва яны былі б праявамі чагосьці адзінага. Чаго?

**Акудовіч:** Найперш трэба скасаваць варожасьць паміж намі, нацыянальна заангажаванымі, і астатняю часткаю беларускага грамадзтва. Трэба кіравацца на скасаваньне гэтай варожасьці, разумеючы, што мы самі вінаватыя ў тым, што яна ўзьнікла. Затым разабрацца самім з сабою. Я мяркую, варыянт татальнай «беларускай Беларусі» ў сытуацыі камунікатыўна адкрытага грамадзтва амаль немагчымы. Калі я маю рацыю, то ёсьць два варыянты. Першы — мы можам скіраваць свае высілкі на абарону саміх сябе як своеасаблівай нацыянальнай меншасьці, а другі — знайсьці месца і ролю беларускасьці ўва ўсім тым цэлым, што мы называем Беларусьсю.

Мы, нацыянальна заангажаваныя, мусім вызначыцца ў кірунку гэтых дзьвюх стратэгіяў. Ці мы будзем сябе кансэрваваць — гэта таксама магчымы шлях — у нейкай пэўнасьці, цэласьці, якая будзе адпавядаць ідэалам ідэальнай Беларусі, ці мы паспрабуем знайсьці і сваё месца, і месца беларускай мовы, і месца беларускай культуры ў грамадзтве як цэлым.

**Дракахруст:** Ігар, а як Вы бачыце шляхі мадыфікацыі нацыянальнай ідэі?



**Бабкоў:** Ва ўсім сьвеце галоўны «пакупнік» сымбаляў, мітаў, нацыянальнай ідэі — гэта дзяржава, якая мае патрэбу ў пэўнай сымбалічнай легітымацыі сябе самой, мае патрэбу ня проста быць у наяўнасьці, а чымсьці абгрунтаваць сваё існаваньне. Сапраўды, пасьля 1994 году беларуская дзяржава перастала «купляць» радыкальную вэрсію беларускіх культурных і гістарычных мітаў, беларускай ідэнтычнасьці. І калі думаць пра супрацоўніцтва зь дзяржаваю, хаця я ня ведаю, наколькі яно магчымае нават у постлукашэнкаўскай пэрспэктыве, бо гэта ўсё адно ня будзе татальнаю перамогаю Адраджэньня, то тут, зразумела, трэба мадыфікаваць гістарычныя міты і, умоўна кажучы, уключаць Машэрава ў Пантэон беларускіх герояў. Не бяздумна ўключаць, а інтэрпрэтуючы яго пэўным чынам.

Гэта першая вэрсія. Іншая рэч, што ўсе культурныя прадукты былі скіраванымі, зарыентаванымі на «няшчасны беларускі народ» наагул, а не на канкрэтных спажыўцоў групавой ідэнтычнасьці. У такім сэнсе радыкальныя вэрсіі беларускай ідэнтычнасьці таксама застануцца і будуць паступова пашырацца, будуць мець сваю «спажывецкую» аўдыторыю, але гэта будзе пэўная сацыяльная страта, сацыяльная група.

**Дракахруст:** Нацыянальны праект функцыянуе ва ўмовах канкурэнцыі зь іншымі праектамі. Адзін з такіх, што існуе ў Беларусі, — гэта лібэральны праект, рэпрэзэнтаваны і пэўнымі палітычнымі сіламі, і пэўнымі выданьнямі, і гэтак далей. Наколькі магчымы нейкі альянс паміж адраджэнскай і лібэральнай плынямі?

**Акудовіч:** Я мяркую, што калі такога альянсу не адбудзецца, калі мы, радыкальна нацыянальна заангажаваныя, застанемся ў сваім радыкалізьме,

то ў нас сапраўды ня будзе іншага шляху, як выбіраць шлях своеасаблівай нацыянальнай меншасьці, «звышбеларусаў» у беларускім грамадзтве. А калі нейкае пагадненьне, паразуменьне, нейкія тэхналёгіі спалучэньня, здавалася б, сёньня неспалучальных ідэалёгіяў лібэралізму і «крутога» нацыяналізму будуць знойдзеныя, то мне яно бачыцца адной з магчымых пэрспэктываў.

**Дракахруст:** Ігар, а якое Вашае меркаваньне на гэты конт?

**Бабкоў:** Тут ёсьць яшчэ такі момант, што па сутнасьці сам нацыянальна-адраджэнскі праект ужо не ўяўляе сабой пэўнай цэласьці. У выніку крызы ён распаўся на самыя розныя часткі, а нацыянал-радыкальная частка існуе асобна. І таму я думаю, што альянс паміж лібэральнай часткаю нацыянальнага беларускамоўнага праекту і лібэральнай часткаю рускамоўнага беларускага праекту рэальна ўжо адбыўся, і нават часам цяжка адрозьніць, хто да якога праекту належыць. Адзін са стэрэатыпаў, які мы пачынаем паступова пераадольваць, — гэта тое, што няма ў нашай краіне насамрэч беларускамоўных і расейскамоўных, адных — нацыянальна арыентаваных, другіх — не нацыянальна арыентаваных. Насамрэч тут ёсьць толькі білінгвы, трылінгвы і моналінгвы (тыя людзі, якія лічаць для сябе дастатковым ведаць толькі адну мову, пераважна расейскую).

## Як спалучыць Сапегу і Машэрава?

**Дракахруст:** Часткова ўсё ж ідэі Адраджэньня аказаліся зрэалізаванымі. І мо гэта, як ні парадаксальна, толькі паглыбляе расчараваньне адраджэнцаў. Прыгадайце: дзесяць гадоў таму ідэя незалежнасьці ўспрымалася большасьцю проста як дзікунства, як нешта немагчымае. Я спашлюся на зьвесткі сацыялягічных апытаньняў: 70% ня хочуць страты незалежнасьці. Што яны разумеюць пад незалежнасьцю — іншае пытаньне, але тое, што імпульс, пасланы адраджэнцамі, незалежнікамі ў нейкім трансфармаваным выглядзе ўспрыняло, «купіла» грамадзтва — на мой погляд, гэта факт. Ігар ужо казаў, што нават Лукашэнка цяпер гаворыць пра сьвятасьць сувэрэнітэту. Самы сьвежы прыклад — мы гаварылі пра Машэрава. Зараз яго дачка ідзе ў прэзыдэнты, і нават яна гаворыць: «Інтэграцыя з Расеяй, але пры захаваньні сувэрэнітэту». Для нас у дадзеным выпадку важна ня тое, наколькі шчырыя гэтыя заявы, а навошта ёй гэта патрэбна? Няўжо толькі дзеля таго, каб дагадзіць «купцы» людзей, якія ў роспачы гавораць — «бяз нас»?

**Акудовіч:** Я з Вамі цалкам згаджаюся, нягледзячы на тое, што Вашыя словы як быццам супярэчаць усяму, што я сказаў тут, і тым больш усяму, што я напісаў у эсэ. Ніяк не выпадае адмаўляць, што многае было зробленае і стала рэальнасьцю, хаця і незаўважанай. Праўда, я ня стаў бы ўсё гэта прыпісваць, хаця мне б і хацелася гэтага, толькі адраджэнцам-незалежнікам. Маё эсэ — хутчэй спроба сказаць, што ўсё, што магла зрабіць нацыянальная ідэя ў форме ідэі Адраджэньня, у форме памкненьня да ідэальнай Беларусі, ужо вычарпанае і, можа, даўно. І ўжо даўно яна працуе не на пазытыў, не на насычэньне гэтай прасторы чымсьці новым, а на адмаўленьне самой сябе, адмаўленьне нас, на варожае стаўленьне да нас. Размова ідзе пра тое, што нам трэба пачаць думаць, дзе мы ёсьць, што і як рабіць далей, а не ўпірацца рогам у тое, што ўжо ня мае ў сабе патэнцыялу стварэньня.

## Ці павінныя ўлада і апазыцыя пайсьці насустрач адна адной дзеля абароны незалежнасьці?

Ці павінныя ўлада і апазыцыя дзеля абароны незалежнасьці пайсьці насустрач адна адной, падвёўшы «тлустую рысу» пад 90-мі гадамі мінулага стагодзьдзя? Ці справядлівы прынцып: «Чым далей ад Расеі, тым лепей для беларускай дзяржаўнасьці»?

**11 студзеня 2004**

Удзельнікі: Сямён Букчын, Андрэй Дынько

### Што можна даравацць і што трэба дараваць?

**Дракахруст:** На думку некаторых аналітыкаў, дыскусія паміж Андрэем Дыньком і Сямёнам Букчыным, што разгарэлася ў лістападзе-сьнежні 2003 году — адна з самых значных інтэлектуальных падзеяў мінулага году.

Тут прыгадваецца вызначэньне славутага дацкага фізыка Нільса Бора: *«Глыбокая думка — гэта такая, адмаўленьне якой — таксама глыбокая думка».*

Дыскусія пачалася з пэўнай сэнсацыі: «Наша Ніва» перадрукавала артыкул рэдактара «Советской Белоруссии» Паўла Якубовіча, прысьвечаны вынікам расейскіх думскіх выбараў. У рэдакцыйным камэнтары «Нашай Нівы»* было падкрэсьлена, што «ацэнкі афіцыёзу і незалежнае прэсы супалі да дзясятых». Для тых, хто не чытаў гэтага тэксту, дазволю сабе некалькі цытатаў:

*«Лукашэнкаўцы таксама пачалі глядзець на Расею як на “незразумелую”, а значыць, чужую...», «...беларуская прэзыдэнтура зрэагавала на выніку думскіх выбараў нарадаю па пытаньнях замежнай палітыкі. Гаворка пра “дыялёг” з ЗША ды Эўразьвязам успрымалася як палітычны сыгнал Захаду і папярэджаньне Расеі». «Аднак замежнапалітычны курс застанецца няўстойлівым,* — працягвала «Наша Ніва», — *пакуль улады і апазыцыя не пачнуць гуляць у адным стылі і на адным полі».*

Неабходнымі ўмовамі гэтага газэта называе дзьве: «тлустая рыса» пад мінулым, пад 1990-мі гадамі, і адмова ад гвалту як спосабу дасягненьня палітычных мэтаў.

Гэтыя развагі Андрэя Дынька выклікалі рэзкую рэакцыю публіцыста Сямёна Букчына. Вось некалькі цытатаў зь яго артыкулу, надрукаванага ў «Народнай волі»*:

*«У разбэшчанай крытыцы “імпэрскага суседа” ў афіцыёзным друку дзеячы «Нашай Нівы» бачаць падмурак будаўніцтва сувэрэннай беларускай дзяржавы.*

*Лёгіка простая: чым далей ад Расеі, тым бліжэй да незалежнай Беларусі»,* — піша Сямён Букчын. Асаблівае абурэньне ў яго выклікае прапанова наконт «тлустай рысы». *«...Ухваліць злом Канстытуцыі? Зьбіцьцё дэпутатаў Вярхоўнага Савету? Выкраданьне лідэраў апазыцыі? Зьнішчэньне прадпрымальніцтва і незалежнага друку?»* — задае рытарычныя пытаньні публіцыст. Цытатаў, бадай, хопіць, тым болей што дыскусія на старонках «Нашай Нівы» і «Народнай волі» працягваецца. Дадзім слова яе ўдзельнікам. Спадар Дынько, падвесьці «тлустую рысу» пад 1990-мі — сапраўды дараваць усё тое, што гэтак красамоўна пералічыў спадар Букчын?

* *Андрэй Дынько.* Калёнка рэдактара: Тлустая рыса пад мінулым // Наша Ніва. 2003. № 46.

* *Семен Букчин.* Старый-новый облик коллаборантов // Народная воля. 2003. 20 снежня.

**Дынько:** Калі мы хочам дабіцца прагрэсу, то відавочна, што на пэўныя кампрамісы прыйдзецца iсьцi i аднаму i другому боку. У маiм камэнтары да тых ацэнак вынiкаў думскiх выбараў, што зьявiлiся ў беларускiм друку i прагучалi з вуснаў беларускiх палiтыкаў, я падкрэсьлiваў неабходнасьць пераходу да змаганьня на адным палiтычным полi i ў адным палiтычным стылi. Адмова ад гвалту як спосабу дасягненьня палiтычных мэтаў ёсьць умовай такога кампрамiсу. Узамен на такую адмову, i нават самая гэтая адмова непазьбежна працягне пэўную «тлустую рысу» пад мiнулым.

**Дракахруст:** Спадар Букчын, Вы пiшаце ў сваiм артыкуле, што iдэя «тлустай рысы» пад мiнулым фактычна запазычаная ў палякаў, яна — частка фiлязофii знакамiтага «круглага стала» апазыцыi i ўлады. I польская апазыцыя пайшла тады менавiта на тое, каб шмат што дараваць уладзе. I справа, дарэчы, зусiм ня ў тым: дараваць — не дараваць, а ў тым, што тады бакi, ворагi дамовiлiся аб правiлах гульнi. Можна прыгадаць яшчэ больш раньнi прыклад — пакт Монклёа, якi гiшпанскiя франкiсты i антыфранкiсты заключылi пасьля сьмерцi дыктатара. Пры гэтым на сумленьнi польскiх камунiстаў i гiшпанскiх франкiстаў было ня менш, чым на сумленьнi лукашэнкаўцаў. Ёсьць, дарэчы, i айчынны досьвед — дыялёг памiж уладай i апазыцыяй аб правiлах палiтычнай барацьбы, якi ў 1999—2000 гадох спрабаваў наладзiць кiраўнiк мiсii АБСЭ Ганс-Георг Вiк. Значыць, Андрэй Дынько — кепскi. А Лех Валэнса, якi пагадзiўся сесьцi з Войцехам Ярузэльскiм за «круглы стол», — добры? I амбасадар Вiк, якi хацеў падобнага ж пагадненьня для Беларусi — таксама добры? Цi ўсе яны кепскiя, усе — калябаранты?



**Букчын:** Я не зьяўляюся палiтыкам, я — пiсьменьнiк. Я трымаюся запавету Чэхава: заўсёды быць на баку пакрыўджаных, тых людзей, каго так цi iнакш закранула несправядлiвасьць. I мне падалося, я нават у гэтым упэўнены, што прапанова «Нашай Нiвы» — гэта амаральная прапанова. Хаця можна зразумець, што рэдактар Дынько i яго калегi шукаюць пэўных шляхоў выхаду з таго замкнёнага кола, у якiм апынулася наша Беларусь. Я гэта разумею. Але трэба, мне здаецца, гаварыць адкрыта. Калi ты гаворыш, напрыклад, што трэба падвесьцi «тлустую рысу», то давай скажам, што́ маецца на ўвазе. Гэта працяг старой спрэчкi пра тую самую «сьлязiнку дзiцяцi».

**Дракахруст:** Вы гаворыце пра маральныя прынцыпы. Маральныя прынцыпы, як вядома, маюць унiвэрсальны характар. Спадар Дынько са сваiмi прапановамi, на Ваш погляд, амаральны. А спадар Валэнса ў 1989 годзе быў амаральным? Спадар Вiк у 1999-м быў амаральным? Адкажыце, калi ласка.

**Букчын:** Сёньня ў Польшчы iдзе вельмi гарачая палемiка наконт таго, чаго быў варты той «круглы стол» i чаго дасягнула Польшча. Не была асуджаная камунiстычная iдэалёгiя, ня быў асуджаны камунiстычны рэжым, шмат на што проста заплюшчылi вочы, i гэта спарадзiла вельмi балючыя праблемы, якiя мае цяперашняе польскае грамадзтва. Гаворка не iдзе пра тое, што нехта заклiкае да гвалту, а нехта стаiць за кампрамiс. Я таксама не за гвалт.

Мне здаецца, што пэўная нацыянальная абмежаванасьць некаторых аўтараў «Нашай Нiвы» зьвязаная, прабачце, з пэўным узроўнем палiтычнай, фiлязофскай i чалавечай культуры. Тут далучаецца i iншая праблема: што першаснае — правы чалавека цi нацыянальныя iнтарэсы?

## Дыялёг: выйсьце ці пастка?

**Дракахруст:** Спадар Дынько, я, у адрозьненьне ад спадара Букчына, ня буду вучыць Вас маралі, але хачу зьвярнуць увагу на адзін практычны чыньнік. Ваш апанэнт заканчвае свой артыкул словамі: *«Гаспадар заўсёды ўкажа месца “шасьцёрцы” — каля парашы».* Гэта, безумоўна, груба, але прыгадваецца інтэлектуальны кручок, на які чэкісты лавілі дзеячаў БНР. Маўляў, эміграцыя, падпольле — месца для пацукоў, а трэба далучацца да будаўніцтва рэальнай Беларусі. Праўда, улада ў гэтай рэальнай Беларусі крыху іншая, чым вам, адраджэнцам, хацелася б, але ж вы зможаце працаваць, пераконваць гэтую ўладу. І шмат хто папаўся на гэты кручок, вярнуўся і трапіў урэшце нават не да лягернай парашы, а наўпрост у Курапаты. Калі не кранаць гістарычных ценяў, можна паглядзець крыху бліжэй.

Я дакладна ўяўляю сабе, як нават не Лукашэнка, а Ўрал Латыпаў* патэлефанаваў пасьля выхаду нумара Вашай газэты Паўлу Якубовічу і, пасьміхаючыся, сказаў: «Малайчына, Паша. Каб цябе друкавала газэта, якую Гавал** уганараваў як флягмана беларускай дэмакратыі, і прычым друкавала бяз грошай, без шантажу — гэта найвышэйшае майстэрства».

* Урал Латыпаў — у 2004 г. кіраўнік адміністрацыі прэзыдэнта Беларусі — напярэдадні рэфэрэндуму ў кастрычніку 2004 г. аб скасаваньні абмежаваньняў на колькасьць прэзыдэнцкіх тэрмінаў, выступаючы на беларускім тэлебачаньні, выказаў меркаваньне, што за прапановы А. Лукашэнкі прагаласуюць і чытачы газэты «Наша Ніва». У лістападзе 2004 г. У. Латыпаў пайшоў у адстаўку.

** У кастрычніку 2003 г. былы прэзыдэнт Чэхіі Вацлаў Гавал быў узнагароджаны прэміяй імя дабрачыннай дзяячкі Гано Эленбонген. Паводле традыцыі гэтай прэміі, ён перадаў узнагароду беларускай газэце «Наша Ніва».



Вы, спадар Дынько, выбудоўваеце тонкія схемы ўплыву на грамадзкае жыцьцё, а Вас, магчыма, проста «разьвялі», як «разводзілі» чэкісты ў 20—30 гадох мінулага стагодзьдзя дзеячаў тагачаснага Адраджэньня. Ці ня так?

**Дынько:** Ня думаю, што паралель з 1920—30-мі гадамі карэктная. Тады Беларусь была фактычна калёніяй імпэрыі, часткай Савецкага Саюзу. Цяпер мы маем сваю незалежную дзяржаву. Як любіць паўтараць наш галоўны палітык, хочаце вы гэтага ці не, але гэта факт. Тое, што ўлады падобнымі артыкуламі проста імкнуцца заваяваць сабе папулярнасьць сярод апазыцыйнага электарату, прынамсі ні да чога не абавязвае. Мне здаецца, што цяпер маральна разважаць у катэгорыях нацыянальных інтарэсаў Беларусі. Я лічу вельмі сур’ёзнымі і вартымі роздуму меркаваньні, якія выказаў на старонках «Народнай волі» палітык з Аб’яднанай грамадзянскай партыі (АГП) Яўген Лабановіч*. Ён даў інтэрвію газэце па выніках яго працы на апошніх расейскіх выбарах. Паводле Лабановіча, пападаньне Лукашэнкі паміж кавадлам і молатам Усходу і Захаду прывядзе не да падзеньня рэжыму, а да падзеньня Беларусі пад ударам усходняга молату. Гэта сапраўды небясьпечна. І той самы Лабановіч перакананы, што з расейскім рэжымам нам можа быць нашмат горш, дакладней, значна безвыходней. Можа стацца так, што мы ўжо нічога вырашаць ня будзем. Яўген Лабановіч лічыць, што ў пытаньні абароны сувэрэнітэту ад крамлёўскай пагрозы апазыцыя павінная Лукашэнку падтрымаць. Ён адзначае, што перад новымі выклікамі апазыцыя, магчыма, мусіць перагледзець сваё стаўленьне да Лукашэнкі, а ня выключана, і шукаць шляхі збліжэньня зь цяперашняй

* Российский избиратель готов голосовать за нацистскую идею... // Народная воля. 2003. 20 снежня.

уладаю. Гаворка не ідзе пра падтрымку Лукашэнкі ў пытаньнях эканамічных, палітычных ці культурных, але ў вельмі канкрэтным пытаньні абароны суверэнітэту апазыцыя павінная адназначна выказацца. Я мяркую, што спадар Букчын пагодзіцца з тым, што амаральна было б гандляваць сувэрэнітэтам у цяперашніх умовах.

**Дракахруст:** Спадар Букчын, Вы абураецеся стаўленьнем аднадумцаў спадара Дынька да Расеі. Але прыгадаем некаторыя падзеі апошняга часу: крызіс вакол украінскай касы Тузла, расейскі плян урэгуляваньня прыднястроўскага канфлікту, які вёў да распаду Малдовы, небясьпечныя гульні Крамля з грузінскімі аўтаноміямі. Зразумела, калі Пуцін гаворыць пра «мухи и котлеты»*, камусьці можа спадабацца, як гаспадар Крамля «мочыць» Лукашэнку, якому дома ніхто супрацьстаяць ня можа. Але ці толькі Лукашэнку ён «мочыць»? Дарэчы, хачу прыгадаць вядомае інтэрвію Дзьмітрыя Рагозіна «Бі-Бі-Сі», дзе ён ня толькі заявіў, што *«беларуская дзяржаўнасьць — гэта недарэчнасьць»*, але і дадаў: *«Для мяне няма розьніцы паміж Шушкевічам і Лукашэнкам. Абодва нацыяналісты, а Лукашэнка нават горшы»*. Беларусі ўсходняя суседка дэманструе твар ня Пушкіна ці Ліхачова, а Дзьмітрыя Рагозіна. Вам ён падабаецца? І нават больш, чым твар Лукашэнкі?

**Букчын:** Я шмат выказваўся ў сваіх артыкулах наконт сёньняшняй Расеі. Я крытыкаваў усё, пра што Вы зараз казалі, я маю на ўвазе яе імпэрскія захады, яе нежаданьне бачыць Беларусь як нармальную дзяржаву, а беларусаў як самастойную нацыю.

* У чэрвені 2002 г., празь некалькі дзён пасьля 10-гадзінных перамоваў з А. Лукашэнкам, У. Пуцін рэзка скрытыкаваў інтэграцыйныя прапановы Менску, менавіта тады прагучала яго пажаданьне ў працэсе інтэграцыі аддзяліць «мух от котлет».



Я ведаю, што Расея лічыць нас нейкім сваім адгалінаваньнем. Што тычыцца майго крытыцызму наконт антырасейскасьці, то я мяркую, што не заўсёды праводзіцца мяжа паміж крытыкай расейскай імпэрскасьці і рускасьці. Гэтая мяжа даволі лёгка пераходзіцца некаторымі аўтарамі «Нашай Нівы», людзьмі, якія залічаюць сябе ў лягер беларускай патрыятычнай, нацыянальна сьвядомай інтэлігенцыі. І яны не заўсёды адчуваюць, як адбываюцца гэтыя пераходы.

У прыгаданым артыкуле я якраз пісаў, што нічога ў Расеі не зьмянілася, і думскія выбары паказалі, што ранейшая палітыка працягваецца. Палітыка Беларусі пры гэтым будуецца паводле прынцыпу: «Далей ад Расеі». Можна і далей, але Беларусь ніколі са свайго геаграфічнага месца не ўзьляціць.

На старонках «Нашай Нівы» я бачу кожны раз неймаверную радасьць, калі Лукашэнка нешта такое «ляпне» на адрас расейскіх уладаў. Гэта ім здаецца знакам вялікай антырасейскасьці, беларускай самастойнасьці і яе зарукай. А для мяне гэта проста заявы ў стылі Жырыноўскага, за якімі абсалютна нічога не стаіць. Я мяркую, што Лукашэнка сёньня дзейнічае абсалютна ў рэчышчы расейскай палітыкі, яго «незалежніцкія» заявы — фальшывыя заявы на публіку. Ён спрабуе такім чынам шантажаваць кіраўніцтва Расеі, але нашая краіна цалкам падпарадкаваная расейскаму КГБ, расейскаму войску, расейскай уладзе, і трэба проста цьвяроза прымаць гэтую сытуацыю.

**Дракахруст:** Спадар Букчын, хачу заўважыць, што Ваша пазыцыя цалкам супадае зь меркаваньнем Зянона Пазьняка. Ён таксама лічыць, што Лукашэнка, нягледзячы на ўсе ягоныя незалежніцкія заявы — ня больш чым расейская марыянэтка.

**Букчын:** Я ў гэтым цалкам згодны зь Зянонам Станіслававічам.

## Чым далей ад Расеі, тым лепш для... чаго?

**Дракахруст:** Спадар Дынько, Ваш апанэнт прыпісвае Вам формулу: «Чым далей ад Расеі — тым лепш для беларускай незалежнасьці». Але ці толькі прыпісвае? А насамрэч Вы мяркуеце інакш?

**Дынько:** Я хацеў бы ўдакладніць пазыцыі. Нельга казаць, як гэта прасьлізнула ў Вас, Юры, што Сямён Букчын выступае за Расею, а Андрэй Дынько выступіў за Лукашэнку. Па вялікім рахунку, і Сямён Букчын, і Андрэй Дынько ў сваіх развагах выступаюць за адно і тое ж — за дэмакратыю і незалежнасьць Беларусі. Мы толькі па-рознаму бачым, як гэтага дасягнуць. Магу запэўніць, што зусім не антырасейскасьць нейкіх заяваў ці ўчынкаў радуе «Нашу Ніву». Калі гэта так прачытваецца, дык, відаць, ад няўменьня добра напісаць. Тое, што нас сапраўды радуе, гэта высьпяваньне ў краіне пэўных перадумоваў умацаваньня дэмакратыі і незалежнасьці. Іх нашмат больш, чым было 5 ці 10 гадоў таму. І для мяне гэта безумоўны плюс.

Мне, як і 5 гадоў таму, здаецца, што цяпер у Беларусь дэмакратыя можа прыйсьці і ўсталявацца толькі ў адным пакеце зь незалежнасьцю. Ня можа такога быць, што мы пабудуем дэмакратыю, але будзем Паўночна-Заходнім краем Расеі. Ня можа таксама быць, што мы станем незалежнай краінай, увойдзем у Эўразьвяз, але пры гэтым у нас застанецца безальтэрнатыўны парлямэнт і на выбарах кандыдаты будуць атрымліваць па 98% галасоў. Адно можа прыйсьці толькі разам з другім. І першай, галоўнай умовай зьяўляецца ўмацаваньне нацыянальнай тоеснасьці, нацыянальнага пачуцьця, адчуваньне сябе беларусамі, гонар за сваю краіну, умацаваньне нацыянальнай эканомікі, яе пераарыентацыя з усходняга рынку на розныя рынкі.



Калі казаць пра тэзу — далей ад Расеі ці бліжэй да яе, то, як паказалі клясыкі тэорыі нацыятварэньня, нацыянальная ідэнтычнасьць фармуецца, апроч іншага, і пры наяўнасьці вонкавай пагрозы. І менавіта таму, камэнтуючы ў «Нашай Ніве» вынікі выбараў у Расеі, мы не маглі не зьвярнуць увагі на тое, што яны трактуюцца абсалютна аднолькава як у апазыцыйным, так і ў дзяржаўным друку. Гэта знак пэўнага нацыянальнага адзінства. Тут паказальная і самая аднолькавасьць, і тое, што і адны і другія трактуюць гэта як пэўную пагрозу. Мы ўбачылі знак, што, магчыма, праз пэўны час такая сытуацыя паспрыяе ўмацаваньню нацыянальнай саматоеснасьці.

Украінскія палітыкі могуць спрачацца і па ўнутраных пытаньнях, і наконт адзінай эканамічнай прасторы, і па пытаньнях эўраінтэграцыі. Але адносна касы Тузла спрэчак не было, украінскі парлямэнт быў адзінадушны. Гэта і ёсьць зарукай нацыянальнага кампрамісу. Калі за аднолькавым бачаньнем беларускіх інтарэсаў вонкі краіны прыйдзе таксама разуменьне, што нацыянальныя інтарэсы зможа забясьпечыць толькі дэмакратыя, толькі ўмацаваньне сувязяў з Эўропай — тым лепш. Хто б гэта ні зрабіў — такога чалавека варта будзе падтрымаць.

Прыгаданы Яўген Лабановіч мае рацыю, калі кажа, што мала шанцаў на тое, што гэта зробіць Лукашэнка. Але калі б Лукашэнка стаў такое рабіць, трэба пакінуць адчыненымі дзьверы і для яго.

**Дракахруст:** Спадар Букчын, мяне асабіста крыху зьдзівіла ў Вашым артыкуле адна думка: лукашэнкаўцы будуюць Беларусь безь беларусаў, безь беларускай культуры. Усё гэта магчыма толькі на падмурку сапраўднай дэмакратыі. Чуць такія сэнтэнцыі ад гісторыка даволі дзіўна. Бісмарк, паводле яго выразу, будаваў Нямеччыну «жалезам і крывёй». У Варшаве каля Бэльвэдэру стаіць помнік марша-

лу Пілсудзкаму — бацьку цяперашняй польскай дзяржавы. А ўжо якім дэмакратам быў пан маршал, Вы ведаеце ня горш за мяне. Можна прыводзіць і іншыя прыклады, скажам, расейцаў ці кітайцаў. Шмат якія дзяржавы, нацыі стваралiся «моцнай рукою» ці пры «моцнай руцэ». І толькі беларусы, паводле Вас, могуць зрабіць гэта менавіта праз дэмакратыю. Чаму? Проста таму, што Вам так хочацца?

**Букчын:** Паралелі, якія Вы, Юры, тут праводзіце, гэта нацяжкі. Пачнём з таго, што прэзыдэнт Рэспублікі Беларусі не гаворыць са сваім народам па-беларуску. Гэта факт жудасны, ён сьведчыць пра тое, што Лукашэнка цалкам адмаўляе існаваньне беларускай нацыі і культуры. Для яго ёсьць пэўная тэрыторыя, над якой ён хоча ўладарыць невядома колькі, можа, усё жыццё. Ён разумее, што ў сьвеце існуюць нацыянальныя дзяржавы, іншых няма. Таму нейкі такі флёр, каларыт мусіць быць: гэтая мова павінная трошкі гучаць на тэлебачаньні, на радыё, нейкія нацыянальныя тэатры павінныя быць, але далей — не. Далей ён адчувае ўсё чужым, неадпаведным яго натуры. Бісмарк гаварыў па-нямецку, Ёзэф Пілсудзкі зьвяртаўся да палякаў па-польску. І ў гэтым — найгалоўнейшая розьніца. Таму я глыбока перакананы: Лукашэнка будуе Беларусь безь беларусаў, безь беларускай культуры.

**Дракахруст:** Спадар Дынько, свой артыкул Вы сканчаеце словамі: «70% беларусаў хочуць, каб Беларусь увайшла ў Эўразьвяз. Гэта раней ці пазьней абавяжа». Наколькі я разумею, Вы тут спасылаецеся на зьвесткі НІСЭПД. Але, паводле зьвестак таго ж дасьледнага цэнтру, прыкладна столькі ж беларусаў хочуць аб'яднаньня з Расеяй. А калі пытаньне ставілася рубам: ці на Ўсход, ці на Захад, вынік атрымаўся такі: амаль 50% — за аб'яднаньне з Расеяй і толькі крыху больш за трацiну — за ўступленьне Беларусі ў Эўразьвяз. А гэта, гаворачы Вашымі словамі, таксама «раней ці пазьней абавяжа»?



**Дынько:** Калі паглядзець на гэтыя лічбы ў дынаміцы, мы ўбачым, што сапраўды ёсьць сытуацыя такога раздваеньня. Як і раней, калі беларусы хацелі і незалежнасьці, і аб'яднаньня з Расеяй, прынамсі за гэта выказвалася даволі вялікая частка грамадзтва, гэтак і цяпер шмат беларусаў хочуць адначасна і ўступленьня ў Эўразьвяз, і аб'яднаньня з Расеяй, не разумеючы, што гэта немагчыма. Трэба выбіраць.

Ізноў жа, калі мы зірнем на дынаміку, то ўбачым, што лічба тых, хто хоча ўступленьня Беларусі ў Эўразьвяз, увесь час расьце, калі ня браць пад увагу хістаньні пад уплывам розных усясьветных фактараў. А лічба людзей, якія хочуць аб'яднаньня з Расеяй, увесь час падае. Па-другое, сярод тых, хто хоча ўступленьня ў Эўразьвяз, большасьць — людзі маладыя, адукаваныя. А сярод тых, хто прагне аб'яднаньня з Расеяй, большасьць — людзі старыя, пэнсіянэры, сацыяльна неабароненыя. Я мяркую, што будучыня адназначная: лічба прыхільнікаў эўраінтэграцыі будзе расьці, а лічба прыхільнікаў аб'яднаньня з Расеяй — няўхільна скарачацца*.

* Паводле зьвестак НІСЭПД, дынаміка праэўрапейскіх настрояў у Беларусі выглядае наступным чынам:

**Адказы на пытаньне «Ці лічыце Вы, што Беларусь павінна стаць сябрам Эўрапейскага Зьвязу?» (у %)**

| Варыянт адказу | 12.02 | 09.05 | 06.06 | 09.07 | 03.08 | 09.08 | 12.08 |
|---|---|---|---|---|---|---|---|
| Так | 60,9 | 38,0 | 31,5 | 29,9 | 35,4 | 26,7 | 30,1 |
| Не | 10,9 | 44,0 | 49,2 | 46,7 | 35,4 | 51,9 | 40,6 |

# Ацэнка вайны: нацыянальная ці ўнівэрсальная?

Ці ацэнка Другой усясьветнай вайны павінна быць унівэрсальнай, усясьветнай, як і сама вайна, ці ў кожнай нацыі — у беларусаў, расейцаў, эстонцаў, габрэяў, немцаў — свая нацыянальная ацэнка? Ці была тая вайна і перамога ў ёй беларускай вайной і беларускай перамогай?

**9 траўня 2007**

Удзельнікі: Валянцін Акудовіч, Алег Гардзіенка, Валянцін Тарас

## Праўда аб вайне: адна на ўсіх ці ў кожнага розная?

**Дракахруст:** Драматычныя падзеі ў Эстоніі, зьвязаныя зь пераносам помніку савецкаму салдату, сталі, апроч іншага, яшчэ і жорсткім сутыкненьнем розных, нават дыямэтральна процілеглых, поглядаў на Другую ўсясьветную вайну. І рэч нават ня ў лёсе ўласна манумэнту ў Таліне — ён ня быў дэмантаваны ці разбураны, а перанесены на вайсковыя могілкі, — а ў розных падыходах, якія даволі выразна дэкляраваліся задоўга да цяперашняга канфлікту.

Я дазволю сабе прывесьці словы прэзыдэнта Эстоніі Тоомаса Хэндрыка Ільвэса:

*«У нашай сьвядомасьці гэты салдат увасабляе дэпартацыі і забойствы, разбурэньне краіны, а не вызваленьне. Адну групу бандытаў — нацыстаў — выгнала іншая хеўра — савецкія войскі»*.

Цяжка сказаць, ці падзяляе думку кіраўніка дзяржавы значная частка эстонскага грамадзтва. Магчыма, і значная. Але тут узьнікае больш шырокае пытаньне: ці мае права на існаваньне асобная нацыянальная праўда аб той вайне? Вайна ж была ўсясьветнай. Ці можа нацыянальная праўда, нацыянальнае бачаньне супярэчыць усясьветнаму? Ці такога наагул няма, а ёсьць толькі асобныя нацыянальныя праўды, ацэнкі, якія могуць і не супадаць?



**Акудовіч:** Другая ўсясьветная вайна, з майго гледзішча, была не вайной, а ўсясьветнай катастрофай у форме вайны. А ў катастрофы няма праўды. Вайне прыдумваюць праўду ідэолягі, палітыкі, публіцысты пераможнага боку. Сьледам за імі мы прызвычаіліся меркаваць, што паколькі ў Другой усясьветнай вайне агрэсарам была Нямеччына і яе хаўрусьнікі, дык той, хто зь імі змагаўся, вёў справядлівую вайну. На першы погляд, тут і запярэчыць няма чаму, тым больш што нямецкі фашызм выявіўся сапраўдным крыважэрнай пачварай.

Але калі мы дзеяньні антыгітлераўскай кааліцыі ацэньваем катэгорыямі праўды, катэгорыямі справядлівай вайны, дык мусім прызнаваць справядлівымі ня толькі падзел Нямеччыны на дзьве краіны і акупацыю на паўстагодзьдзя Ўсходняй Эўропы савецкімі войскамі, але і скінутыя на Хірасіму і Нагасакі атамныя бомбы.

А паколькі сёньня лічыць усё гэта справядлівым не выпадае, дык лепей было б наагул адмовіцца выкарыстоўваць у ацэнцы вайны такія катэгорыі, як праўда, справядлівасьць і да іх падобныя. Нялішне памятаць, што ніхто і не змагаўся за няпраўду, усе змагаліся за справядлівасьць, толькі ў кожнага яна была сваёй. І нямецкі салдат, і японскі камікадзэ, і францускі партызан, і чырвонаармеец аддавалі свае жыцьці за нейкую праўду. Гэта калі ўжо больш за 50 мільёнаў чалавек загінула, тым, хто застаўся жывым, патлумачылі, чыя праўда была справядлівай, а чыя — падманам. Няма праўды ў вайне.

**Дракахруст:** Валянцін Тарас, у мяне да Вас тое самае пытаньне: ці маюць права на існаваньне асобныя нацыянальныя праўды ў ацэнках той вайны, ці

ёсьць ўсё ж такі нейкая ўнівэрсальная, усясьветная праўда, супольнае бачаньне Другой усясьветнай вайны, якое адпавядае і яе характару?

**Тарас:** Тут я хачу давесьці да лягічнага канца тое, што зараз казаў Валянцін Акудовіч: у нацыстаў была свая праўда, нямецкі салдат таксама думаў, што змагаецца за справядлівасьць.

Падчас вайны аднойчы ў Асьвенцім прыехала камісія Чырвонага Крыжа са Швайцарыі. Яна сустракалася з камэндантам Асьвенціму Гёсам і хтосьці спытаў у яго: «Як Вы можаце тут жыць, калі кожны дзень зьнішчаюцца тысячы людзей?» «Людзей? — перапытаў Гёс. — Калі б я хоць на адну хвіліну дапусьціў, што гэта людзі, я б пусьціў сабе кулю ў лоб».

Усё ж такі нямецкі нацызм паўстае як абсалютнае зло на той час. У гэтым сэнсе тыя, хто змагаўся зь нямецкім нацызмам, адстойвалі праўду ўсяго чалавецтва.

**Дракахруст:** Спадар Гардзіенка, цяпер пазыцыю эстонскага ўраду крытыкуе пераважна расейскі друк, расейскія палітыкі, што можна патлумачыць імпэрскімі ці постымпэрскімі комплексамі Расеі.

Але вось цытаты зусім не з расейскага выданьня:

*«Эстонцы з зусім зразумелых прычынаў падкрэсьліваюць тую ролю, якую расейцы і габрэі адыгралі ў злачынствах камуністаў, у той жа час замоўчваюць супрацоўніцтва эстонцаў з нацыстамі ці прымяншаюць значэньне гэтага супрацоўніцтва. Расейцы і габрэі, са свайго боку, працягваюць разглядаць перамогу Чырвонай арміі ў Эстоніі і канец нацысцкай акупацыі як вызваленьне і ўратаваньне... Прыбраўшы помнік, урад Андруса Ансіпа відавочна гуляе на нацыяналістычных пачуцьцях, але ў вачох этнічных групаў, уратаваных Чырвонай арміяй, такі крок мяжуе з блюзьнерствам».*



Гэта «Jerusalem Post», артыкул Эфраіма Зурава, дырэктара Цэнтру Шымона Візэнталя. Цэнтар займаецца перасьледам нацысцкіх злачынцаў ва ўсім сьвеце. Такая ацэнка гучыць з краіны, якая зусім не хварэе на імпэрскія комплексы адносна Эстоніі. Магчыма, у іх свая нацыянальная праўда.

Да Вас, Алег, такое ж пытаньне: ці распадаецца праўда аб той вайне на асобныя нацыянальныя праўды, ці існуе ўнівэрсальная ацэнка?

**Гардзіенка:** Я б, напэўна, як і Валянцін Акудовіч, пазьбягаў паняцьця «праўда» ў гэтым кантэксьце. У сьвеце ўсталяваўся погляд на падзеі вайны дзяржаваў-пераможцаў: Амэрыкі, Англіі, Савецкага Саюзу і яшчэ Францыі. Але ў гэтай вайне бралі ўдзел і некалькі дробных краінаў, і ў кожнай зь іх быў свой погляд на гэтыя падзеі, да прыкладу, у тых жа самых эстонцаў.

Я хачу нагадаць, што Другая ўсясьветная вайна пачалася не 22 чэрвеня 1941 году, а 1 жніўня 1939-га. І гэтыя паўтара году — да савецка-нямецкай вайны — умясьцілі ў сябе акупацыю савецкімі войскамі Эстоніі і жудасныя дэпартацыі. І натуральна, што эстонцы радаваліся нямецкай акупацыі і сустракалі яе з кветкамі.

І я лічу, што прэзыдэнт Эстоніі Ільвэс абсалютна мае рацыю, калі ад імя эстонскага народу гаворыць, што вайна была барацьбой дзьвюх бандаў. Для эстонцаў і першыя і другія былі акупантамі. Свой погляд у Латвіі, свой погляд у Літвы, Харватыі. І трэба паспрабаваць зразумець гэтыя падыходы.

Пакуль Эўропа глядзіць на падзеі вайны вачыма чатырох дзяржаваў-пераможцаў, пакуль яна не пачне разумець, што думае пра гэта Ўсходняя Эўропа: Польшча, Літва, Чэхія — будзе цяжка. Мы бачым па

сытуацыі зь пераносам помніку савецкаму воіну ў Таліне, што за Эстонію заступаюцца толькі дзяржавы-суседкі і польскі прэзыдэнт. Заходняя Эўропа пакуль што, як мне здаецца, абыякава глядзіць на падзеі ў Таліне.

**Дракахрус:** У падтрымку Эстоніі афіцыйна выступіла НАТО, афіцыйна выступіла ўся Эўракамісія — уся, а ня толькі прадстаўнікі краінаў Усходняй Эўропы.

**Гардзіенка:** Але няма пратэстаў наконт свавольстваў Расеі, якія робяцца ў Маскве.

**Дракахрус:** Менавіта наконт гэтага і былі адпаведныя заявы і НАТО, і Эўракамісіі, і, дарэчы, Злучаных Штатаў. Але гэта між іншага.

**Гардзіенка:** Ня можа быць агульнай праўды, агульных поглядаў: кожны перасьледаваў свае мэты ў гэтай вайне.

**Тарас:** Я разумею эстонцаў і быў бы дурнем ці вар'ятам, калі б стаў адмаўляць пакуты эстонскага народу, усё тое, што прынесла ім савецкая ўлада, савецкая акупацыя. Я згодны, гэта была акупацыя. Але я думаю, што эстонскі ўрад усё ж такі зрабіў памылку — ён падагрэў самыя рэакцыйныя пачуцьці, якія пануюць у сучаснай Расеі, ён падагрэў ксэнафобію, нянавісьць да суседзяў.

А калі вярнуцца да агульнага пытаньня — да асобных праўдаў пра Другую ўсясьветную вайну, то я ўсё ж лічу — і гэта маё глыбокае перакананьне — што было нешта супольнае ў той вайне, у змаганьні з гітлераўскім фашызмам.

Рэч ня ў тым, які рэжым — сталінскі ці гітлераўскі — быў меншым злом, хоць і наагул няма паміж імі прынцыповай розьніцы, і адзін і другі былі двума жорнамі аднаго млына, паміж якімі апынуўся беларускі народ. На той час глыбінны характар вайны вызначала ня сталіншчына, а супраціў народу, беларускага народу, іншаземнай навале, яго бітва за сваё ня толькі гістарычнае, але і проста фізычнае існаваньне.

Нацысты былі нелюдзямі, пасьлядоўнымі і вельмі пэдантычнымі, і свае пляны ліквідацыі ня толькі габрэйства, але і славянства, калі і ня ў печах крэматорыяў, дык шляхам анямечваньня, мелі намер зьдзейсьніць да канца.

Нам варта памятаць і нагадваць, асабліва маладым людзям, што ўсё гэта было даказанае ў Нюрнбэргу, на міжнародным судовым працэсе. Наш народ яшчэ ў 1941 годзе адчуў гэта інстынктам самазахаваньня і адразу разгледзеў у нямецкім фашызьме зьвера ня менш страшнага, чым свой, «хатні». Ды гэты іншаземны зьвер не хаваў сваёй натуры — першыя ж яго крокі на нашай зямлі былі крывавымі і нялюдзкімі.



## Ці была перамога ў вайне беларускай перамогай?

**Дракахрус:** Валянцін Тарас закрануў яшчэ адно пытаньне, больш канкрэтнае і блізкае Беларусі. Апошнім часам у беларускай літаратуры, гістарыяграфіі, публіцыстыцы ідуць дыскусіі пра тое, ці была Другая ўсясьветная, ці Вялікая Айчынная, вайна нашай, беларускай вайной, у чым у ёй палягаў беларускі нацыянальны інтарэс, ці быў ён увогуле? І ці была перамога ў той вайне і беларускай перамогай?

**Акудовіч:** Яшчэ на самым пачатку 1990-х гадоў я надрукаваў у «ЛіМе» артыкул «Вялікая Айчынная ці Другая ўсясьветная», дзе паспрабаваў давесьці, што для беларусаў тая вайна не была і не магла быць Вялікай Айчыннай. Рэч у тым, што беларусы ў тую пару наагул ня мелі Айчыны, бо не былі яшчэ сфар-

маванымі як нацыя, яны проста жылі на гэтай зямлі, і калі змагаліся, то змагаліся пад савецкім ці нямецкім прымусам або каб вызваліцца ці схавацца ад самой вайны. Беларускі нацыянальны інтарэс у той вайне, безумоўна, быў. Беларусы хацелі апынуцца свабоднымі і ад немцаў, і ад саветаў. Але, па-першае, такіх беларусаў было ня так ужо і шмат, а, па-другое, паноўныя дзяржавы-монстры і не зьбіраліся пытацца ў беларусаў пра іх нацыянальныя інтарэсы.

А што да ўнёску беларусаў у перамогу над фашызмам, дык ён, вольны ці нявольны, быў немалым. А вось пра нейкую перамогу беларусаў наагул я б казаць ня стаў. Мы як былі да вайны ў савецкім канцлягеры, так у ім і засталіся.

**Дракахруст:** Я б тут хацеў прыгадаць досьвед іншай краіны — Францыі, дзе маршал Пэтэн, які ўзначальваў рэспубліку Вішы, зусім ня быў прымітыўным прыслугачом Гітлера, ён думаў пра Францыю, пра захаваньне нейкай часткі Францыі. І, дарэчы, ступень самастойнасьці рэспублікі Вішы была значна большай, чым усіх іншых дзяржаўных фармаваньняў, створаных пад эгідай нямецкага нацызму. І тым ня менш Францыя вынесла свой вэрдыкт: «Пэтэн — здраднік», і гэты вэрдыкт застаецца актуальным дагэтуль.

**Гардзіенка:** Так яно і ёсьць. Але трэба ўлічваць, што Францыя да 1940 году шмат стагодзьдзяў была незалежнай дзяржавай. А ў беларусаў не было сваёй дзяржавы, тут я з Валянцінам Акудовічам пагаджуся.

Па-другое, нельга забываць, што да 1939 году Беларусь была падзеленая на дзьве часткі: усходняя ўваходзіла ў склад СССР, а заходняя — у склад Польшчы. Два зусім розныя грамадзтвы. І жыхароў заходняй часткі Беларусі ў любым выпадку цяжка назваць здраднікамі. Людзі, напэўна, яшчэ і пашпартоў не паатрымлівалі, каб змагацца за тую ж савецкую Айчыну.

Трэба таксама размежаваць дзьве рэчы. Абсалютная большасьць насельніцтва банальна імкнулася выжыць на гэтай тэрыторыі, імкнучыся максымальна доўгі час не станавіцца ні на які бок — ні на савецкі, ні на нямецкі. З 1941 па 1944 год, па самых аптымістычных падліках, у Беларусі ў партызанах было 375 тысячаў чалавек.

Зразумела, што ў ваенных падзеях, тым больш у грамадзка-палітычным жыцьці, бяруць удзел прыкладна 5—10% насельніцтва. Менавіта да іх можна адносіць беларускі нацыянальны інтарэс.

Сытуацыя была такой, што да канца 1930-х гадоў ні савецкі Менск, ні савецкая Масква, ні Варшава ня вырашылі беларускага нацыянальнага пытаньня. У савецкай дзяржаве ўсё вынішчалася, былі масавыя рэпрэсіі. Польшча таксама ні на якую беларускую аўтаномію не ішла. І таму натуральна, што беларускія нацыянальныя дзеячы — лічаныя дзясяткі — зьвярнулі ўвагу на Нямеччыну, якая дэкляравала Новую Эўропу.

Прычым досьвед быў станоўчым: фактычна дзякуючы Гітлеру незалежнасьць набылі славянскія дзяржавы Славакія і Харватыя. І беларусы паверылі нямецкім дэкларацыям.

Але немцы не зьбіраліся даваць незалежнасьць Беларусі, не было гаворкі нават пра аўтаномію. Магчыма, нацыянальныя дзеячы памыліліся, што зрабілі стаўку на Нямеччыну. Але тады прапагандысцкая машына працавала добра. Усё замаскаванае, да 1942 году было цяжка падлавіць немцаў на нейкіх карных апэрацыях, толькі з канца 1942-га ды ў 1943 годзе стала відавочным, што гэты рэжым рэпрэсіўны.

А наконт перамогі — зразумела, што пазытыўным было тое, што вайна скончылася, наступіў мір. Гэта плюс. Але Беларусь выйшла з гэтых падзеяў у жахлівым стане.

**Тарас:** Мне даволі цяжка вытрымліваць такі спакойны, акадэмічны тон, бо я тут у пэўнай ступені ангажаваная асоба, паколькі сам быў у партызанах паўтара году, хаця і падлеткам. І гэта ня можа не вызначаць маёй пазыцыі.

Я магу пагадзіцца з тым, што акрэсьленага нацыянальнага інтарэсу беларусы ў гэтай вайне ня мелі. Так, людзі выжывалі. Пазыцыя — выжыць, не гарнуцца ні да тых, ні да іншых — была больш уласьцівая вёсцы.

Але я лічу, што ў гісторыі вельмі далёкі прыцэл. І калі мы змагаліся з гітлераўскім фашызмам тады, ва ўмовах нацысцкай акупацыі, мы змагаліся за тую Беларусь, якую і я, і Валянцін Акудовіч маем на ўвазе. Ня тую Беларусь, у якой мы жывем сёньня, а тую, якую мы хочам бачыць — сапраўды дэмакратычную, незалежную, багатую. Калі б гэты гітлераўскі зьвер ня быў паваленаі і зьнішчаны, наўрад ці нам давялося б вось так разважаць і выказваць акадэмічны погляд на тыя падзеі.

У маім атрадзе — я партызаніў на Валожыншчыне ў Налібоцкай пушчы, каля Пяршаяў — было чалавек 30 менчукоў. І далёка ня ўсе яны былі камуністамі ці камсамольцамі. Гэта былі людзі рознага ўзросту, розных прафэсіяў. Яны пайшлі ў лес, бо іх чалавечую годнасьць абурыў абсалютна пачварны, зьверскі характар акупацыйнага рэжыму: людзі не маглі бачыць, як мэтадычна зьнішчаецца габрэйскае гета, як за кожны «праступак» цябе маглі павесіць на шыбеніцы...

Сям'я маёй жонкі — гэта рэпрэсаваныя, раскулачаныя. Мой цесьць пасядзеў у 1937 годзе ў сталінскіх засьценках, а ў 1943-м стаў партызанскім сувязным. У партыю ніколі не ўступаў, Сталіна ненавідзеў, але сьвядома дапамагаў партызанам. Так што не было так, што толькі выжывалі і што толькі ідэалёгіі адыгрывалі сваю ролю.



## Праведнікі і справядлівая справа

**Дракахруст:** Я хачу вярнуцца да думкі Валянціна Акудовіча, што вайна была толькі трагедыяй, катастрофай і ніякай праўды ў ёй не было. Я хачу прыгадаць думку Ўінстана Чэрчыла, таксама аднаго зь пераможцаў у той вайне, які неяк сказаў: *«На вайне вы ня можаце быць праведнікам, але справа вашая павінная быць справядлівай».* А калі паспрабаваць прыкласьці гэтую формулу знакамітага брытанца да Другой усясьветнай вайны ў Беларусі?

Апошнім часам абнародавана шмат фактаў пра тое, што, беларускія чырвоныя партызаны былі, мякка кажучы, не анёламі. Але ці мае гэта значэньне для ацэнкі? Тое ж, што рабілі савецкія партызаны ў Беларусі, рабілі французскія партызаны-макі, рабіла Армія Краёвая ў Польшчы, наагул партызанка ўва ўсіх краінах разгортваецца прыкладна аднолькава — «нельга быць праведнікам». Але канчатковую ацэнку, прынамсі паводле Чэрчыла, вызначае: «...справа вашая павінная быць справядлівай». Дык ці была справядлівай справа? І што наагул вызначае правільнасьць, справядлівасьць справы?

**Акудовіч:** Чэрчыл — бліскучы майстра палітычных афарызмаў. Але калі зазірнуць у самы под гэтага афарызму, дык ад яго бляску мала што застанецца. А ў сытуацыі зь беларусамі, для якіх тая вайна не была, як ужо адзначалася, айчыннай, а значыць, і ня мела агульнага інтэгралу, казаць аб агульнай для

ўсіх справядлівай справе, з майго гледзішча, не выпадае. Бо надта неаднолькавай была тут справядлівасьць для розных слаёў насельніцтва.

Як слушна казаў Алег, абсалютная бальшыня беларусаў хацела проста выжыць. Ужо пазьней, значна пазьней мы гераізавалі і беларусаў, і беларускую партызанку, і наш змагарны патас у той вайне, хай прабачыць мне вельмі шаноўны Валянцін Тарас.

Але ўсё ж гэтая гераіка зьвязаная толькі зь невялікай колькасьцю людзей.

**Дракахруст:** Спадар Акудовіч, прабачце, у мяне ёсьць пытаньне адносна тэзы: прага выжыць была ва ўсіх. І ва ўсіх народаў урэшце арытмэтычна ў вайне ўдзельнічала меншасьць — гэтак было ў расейцаў, амэрыканцаў, ангельцаў, нават у немцаў. У вайне ня можа фізычна ўдзельнічаць уся нацыя. І таму Вашыя меркаваньні наконт таго, што бальшыня беларусаў трымалася ўбаку, можа, любога народу тычацца?

**Акудовіч:** Не зусім так. У даўно сфармаваных дзяржавах, якія ўжо мелі нацыянальную сьвядомасьць, акупацыя была агрэсіяй супраць іх нацыянальнай дзяржавы і іх нацыянальнай ідэі. Таму колькасьць тых, хто змагаўся, сьвядома змагаўся, а ня быў проста кінуты ў пашчу гэтага ненажэрнага Малоха вайны, была там значна большай, хаця, натуральна, і там кожны чалавек хацеў выжыць.

У той жа час беларуская сытуацыя была сытуацыяй безь дзяржавы, без выразнай нацыянальнай супольнасьці: людзі ўвесь час жылі пад нейкімі акупацыямі. Беларусы ня мелі нават граматычнай катэгорыі ўласнага часу, яны звычайна казалі: тое было за немцамі, за палякамі, за рускімі, за саветамі. Яны ўвесь час жылі за кімсьці. І вось беларусам чамусьці менавіта зь нямецкай акупацыяй раптам закарцела гэтак моцна змагацца.



Мне зразумелы патас Валянціна Тараса, але давайце згадаем, што гэтая страшная фашыстоўская складовая нямецкай агрэсіі ў поўным аб’ёме праявілася значна пазьней. Тады, калі хтосьці змагаўся, то змагаўся з акупантам і агрэсарам, а ня з гэтым страшным фашызмам.

У беларусаў не было асаблівай матывацыі змагацца з чарговым акупантам. Яны даўно прызвычаіліся да акупацыяў, як да ціску атмасфэры: ня тая акупацыя, дык іншая, адна больш жорсткая, другая менш жорсткая. І таму беларус, па азначэньні, калі чаго і хацеў, дык выжыць, а не перамагчы. Беларусы не маглі a priori перамагчы, бо, каб перамагаць, трэба мець уяўленьне пра сябе як пра суб’екта, на якога хтосьці нападае.

**Дракахруст:** Спадар Алег, я зьвяртаюся да Вас як да гісторыка. Валянцін Акудовіч вылучыў тэзу, што беларусы збольшага хаваліся, бо ня мелі нацыянальнага інтарэсу, нацыянальнай сьвядомасьці, а іншыя народы, якія гэта мелі, усёй народнай масай удзельнічалі ў змаганьні на тым ці іншым баку. Ці можна даказаць ці абвергнуць гэта арытмэтычна, параўнаўшы долю насельніцтва, якая ўдзельнічала ў чырвонай партызанцы ў Беларусі, з доляй удзелу ў антынацысцкіх партызанскіх злучэньнях, скажам, у Францыі?

**Гардзіенка:** У Францыі ў калябарацыі ўдзельнічала каля 150 тысячаў чалавек, а ў партызанцы — 170 тысячаў. Колькасьць прыблізна аднолькавая. Але я пагаджуся з Валянцінам Акудовічам, што беларусы сапраўды імкнуліся больш выжыць у гэтай сытуацыі. І ня трэба забываць, што прыкладна 80% беларускага насельніцтва складалі сяляне. А для сялянаў галоўнае, каб падаткі былі меншымі.

Чаму ў Заходняй Беларусі яны віталі немцаў? Бо не зусім добрае было жыцьцё за польскім часам, быў сацыяльны ўціск. Чакалі саветаў, і многія сапраўды віталі іх кветкамі. Думалі, што будзе палёгка. Прыйшлі саветы, паказалі сябе ўва ўсёй сваёй «красе», таму кветкамі сустракалі немцаў, думаючы, што тыя прынясуць палёгку. І ва Ўсходняй Беларусі тое ж самае.

Але калі пачаліся рэпрэсіі, асабліва з 1943 году, многія, больш за ўсё ва Ўсходняй Беларусі, палічылі за лепшае сысьці ў партызаны. Бо ў лесе было прасьцей выжыць, чым у вёсцы дзе-небудзь у Магілёўскай вобласьці.

Трэба таксама мець на ўвазе, што ў Заходняй Беларусі была моцная польская партызанка. Да 1943 году колькасна яна была, відаць, большай, чым савецкая. На Наваградчыне і Лідчыне сярод польскіх партызанаў была істотная колькасьць праваслаўнага насельніцтва. Безумоўна, значная частка імкнулася трымацца ўбаку, але і ідэйных хапала, тых, што сьвядома змагаліся і ў савецкіх партызанах, і ў польскіх. Былі і тыя, хто шчыра змагаўся на баку немцаў — у паліцэйскіх атрадах ці ў беларускіх злучэньнях — Беларускай самаахове, Беларускай Краёвай Абароне.

У нас 40—50 гадоў ідэалізавалі савецкую партызанку. Потым, у сярэдзіне 1990-х гадоў, у некаторых выданьнях пачаўся рэзкі крэн у бок нацыянальных дзеячаў. Усе тыя, хто змагаўся з бальшавікамі, раптам парабіліся героямі і анёламі. Ня можа такога быць, трэба кожнага чалавека разглядаць асобна, паставіць перад сабой імправізаваныя шалі, добрае класьці на левую шалю, кепскае — на правую, і глядзець, што пераважыць.

А таксама ўлічваць, што гэта падзеі вайны.



Так, партызаны рабавалі беларускіх сялянаў, многія сяляне баяліся партызанаў больш, чым немцаў. Але партызанам таксама трэба было жыць, есьці, браць недзе рэсурсы для змаганьня з нацыстамі.

**Дракахруст:** Спадар Алег, я хачу яшчэ раз вярнуцца да лічбаў. Паводле Вас, у 50-мільённай Францыі 150 тысячаў было ў калябарантах, 170 — у макі, агулам 320 тысячаў актыўна змагаліся ў вайне. У 10-мільённай Беларусі, паводле Вас, 375 тысячаў удзельнічалі толькі ў «чырвонай» партызанцы. І пасьля гэтага Вы і спадар Акудовіч гаворыце, што французы ўсёй нацыяй ваявалі, а беларусы сядзелі ў кустох? Лічбы сьведчаць хутчэй пра адваротнае.

**Гардзіенка:** Не, 375 тысячаў — гэта ня людзі са зброяй, гэта рэсурсы, якія маглі быць партызанамі. Іх было крыху меней. Колькасьць тых, хто браў удзел у змаганьні, ува ўсіх краінах прыкладна аднолькавая. У Францыі магла быць духоўная апазыцыя, тыя, хто актыўнага ўдзелу ні ў партызанах, ні ў падпольлі ня браў, але выразна ўсьведамляў, што ён француз, што гэта немцы — і ён супраць іх. У нас была крыху іншая сытуацыя.

**Тарас:** Асабліва калі я слухаў Валянціна Акудовіча, у мяне стваралася ўражаньне, што мне хочуць давесьці, што я там ня быў і нічога ня бачыў, што былі толькі нейкія беларусы, якія хацелі адно выжыць — і больш нічога.

Я бачыў іншых беларусаў. У маім атрадзе большасьць складалі беларускія сялянскія хлопцы, і прычым заходнікі з Валожынскага і суседніх раёнаў. І я вам скажу, што яны ня толькі выжыць хацелі — у іх была чалавечая годнасьць, у іх было разуменьне — не такое, як у нас з вамі сёньня, акадэмічнае, высокаадукаванае, а простае чалавечае разуменьне

таго, што адбываецца і чаму трэба быць у гэтым лесе са зброяй у руках.

Відаць, вы ня бачылі майго фільму, які некалі паказала беларускае тэлебачаньне. Гэта фільм-маналёг, дзе я расказваў пра сваю вайну, пра сваю партызанку, і расказваў пра тое страшэннае, нялюдзкае, бесчалавечнае, што было і з нашага боку. На мяне тады абрынулася дзяржаўная прэса, а Камітэт вэтэранаў зьвярнуўся да генэральнага пракурора зь лістом, у якім патрабаваў, каб мяне аддалі пад суд як здрадніка за тое, што я паказваю беларускіх партызанаў рабаўнікамі, што яны прыходзілі да сялянаў і забіралі апошнюю карову, жыта, вопратку.

Я гэта ўсё перажыў, гэта была моцная атака на мяне. Тыя людзі прыкідваліся, што хлеб для партызанаў вісеў недзе на дрэвах.

Вядома, што беларускае сялянства пакутавала ад партызанкі, гэта было велізарнае і прытым нерэгулярнае войска. Трэба было есьці кожны дзень.

Наконт таго, што праведнікаў не было. Вось у маім атрадзе каго толькі ні было, якіх толькі чалавечых тыпаў. Былі і добрыя людзі, і нядобрыя, і хцівыя, і такія, што як без усякага заданьня на вёсцы апынуцца, дык пастараюцца добрую рэч «прыдбаць» толькі для сябе. І такія, што пілі беспрабудна. Усё было, гэта такая чалавечая каша. Але была ўсё-такі агульная справа. Стаяў на гэтым, стаю і буду стаяць, што трэба было перамагчы, выгнаць іншаземнага зьвера.

Вядома, цяжка ў любой вайне — і ў той, што была, і ў тых, што ідуць цяпер, — казаць пра нейкую справядлівасьць. Вайна — заўсёды кашмар, але ў той нашай вайне агульны інтэграл, агульны назоўнік усё ж быў.



# Музыкі і Праляскоўскі: дылемы беларускага Фаўста

Вынікі сустрэчы музыкаў з Алегам Праляскоўскім — здрада ці дапушчальны кампраміс? Перад кім нясе адказнасьць мастак? Ці павінныя мастакі быць палітычна ангажаванымі?

**25 лістапада 2007**

Удзельнікі: Валянцін Акудовіч, Лявон Вольскі, Мікалай Халезін

## «Можа, вы ня грайце там...»

**Дракахруст:** З падзеяў апошняга тыдня хіба ня больш за ўсё спрэчак і жарсьцяў выклікала сустрэча музыкаў, лідэраў вядомых у Беларусі рок-гуртоў, з кіраўніком ідэалягічнага аддзелу адміністрацыі прэзыдэнта Алегам Праляскоўскім. Алею ў агонь спрэчак дадаюць і супярэчлівыя тлумачэньні таго, да чаго ж дамовіліся ўдзельнікі сустрэчы. Здаецца, самая нэўтральная вэрсія такая: улада ў асобе Праляскоўскага прызнала наяўнасьць «чорных сьпісаў» музыкаў, якія трапілі туды за выступы на апазыцыйных акцыях, паабяцала гэтыя сьпісы скасаваць, а ў абмен прапанавала музыкам трымацца далей ад палітыкі. Кіраўнікі рок-гуртоў адказалі, што маюць намер трымацца ад яе далей. Калі я сфармуляваў вынік сустрэчы не зусім дакладна, удзельнік сустрэчы з Праляскоўскім і ўдзельнік нашага «круглага стала» Лявон Вольскі мяне паправіць.

Аднак у любым выпадку ёсьць тэма для абмеркаваньня, ёсьць прыватны выпадак старой, як сьвет, праблемы: мастак і ўлада. Некаторыя ахрысьцілі вынікі сустрэчы музыкаў з Праляскоўскім угодай з д’яблам.

Лявон, як Вы пачуваецеся ў ролі доктара Фаўста? На якія зьдзелкі, кампрамісы, на Ваш погляд, можна ісьці ў Вашай сытуацыі, а на якія — нельга?

**Вольскі:** Я наагул віншую ўсіх, што адбылося такое ажыўленьне беларускага інтэрнэту, што ёсьць нагода паразмаўляць. У мене ўвесь livejournal засыпаны допісамі — і гнеўнымі, і ў падтрымку.

Насамрэч, нічога страшнага і сакрамэнтальнага не адбылося. Быў непацьверджаны факт забароны. Калі канцэрты, як было нядаўна ў Сашы Кулінковіча, забараняюцца, то музыкі гэта вельмі хваравіта ўспрымаюць. І мы падтрымлівалі яго. Трэба было паставіць нейкую кропку.

У нас ёсьць палітычныя вязьні ў краіне, але ім нешта фармальна інкрымінуюць. Калі б нам сказалі, што ў нас нізкі мастацкі ўзровень, і таму мы ня мусім выступаць на вялікіх пляцоўках, мы б прынялі гэта як умову гульні. Але гэтага не сказалі: былі нейкія тэлефанаваньні, і так цягнулася тры гады. І калі была ініцыятыва ўлады з намі сустрэцца, мы, безумоўна, пайшлі на гэта.

**Дракахруст:** Лявон, я б хацеў удакладніць зьвесткі пра тую частку размовы, калі Праляскоўскі сказаў, што някепска вам было б трымацца далей ад палітыкі — вы ж усе разам не паслалі яго значна далей за адміністрацыю прэзыдэнта. Вы ці прамаўчалі, ці адказалі, што так, і сапраўды лепш трымацца далей.

**Вольскі:** Хтосьці прамаўчаў, хтосьці сказаў, што мы ня надта і лезьлі ў палітыку. Але згоды не было, як не было і пастаноўкі пытаньня — мы вам дадзім гэта, а вы нам абяцайце тое. Не было такога гандлю. Нам сарамліва парэкамэндавалі (ці не сарамліва, а спакойна) — можа, вы ня грайце там... Хтосьці сказаў — ну як ня грайце?



Потым прапанавалі зрабіць канцэрт на беларускім тэлебачаньні «Рок за Беларусь». Мы адразу адмовіліся, сказалі, што калі штосьці і будзе, то пад іншым назовам. Я, напрыклад, дагэтуль не знаходжу пунктаў сутыкненьня з БТ.

**Дракахруст:** Лявон, ці правільна я зразумеў, што на сарамлівую просьбу прагучала ці сарамлівая згода, ці сарамлівае маўчаньне?

**Вольскі:** Гэта залежыць ад асобы. Мы рэпрэзэнтуем розныя музычныя фармацыі, і розныя людзі па-рознаму рэагуюць на розныя прапановы.

## Мараль і творчасьць

**Дракахруст:** Мікалай, Вы ў камэнтары да сустрэчы, якую мы абмяркоўваем, назвалі паводзіны музыкаў амаральнымі. Ці трэба гэта разумець так, што маральна — гэта выступаць на баку апазыцыі, на баку дэмакратыі? Перафразуючы вядомага гістарычнага дзеяча, *«маральна ўсё, што спрыяе справе дэмакратыі, амаральна ўсё, што перашкаджае яе перамозе».*

**Халезін:** Мяне турбуе, што на перамовы пайшлі музыкі. Мяне б зусім не цікавіла, куды ідзе група «J-MORS» ці Паліна Смолава. Але ёсьць лідэры сучаснай грамадзкай думкі, на якіх глядзіць моладзь. І іх, як і мяне, турбуе, куды пайшоў Лявон Вольскі і Ігар Варашкевіч, з кім і пра што яны размаўлялі.

Гэта ніяк не ўкладаецца ў той грамадзкі дыялёг, пра які кажуць палітыкі. Музыка, мастак, рэжысэр, драматург ня можа ўдзельнічаць у перамовах. Ён можа ў іх удзельнічаць толькі тады, калі яму мандат на такія перамовы выдалі яго калегі. Калі такога мандату няма, то сантэхнікі будуць самі размаўляць з

уладай, стаматолягі — самі, мастакі — самі, і кожны будзе казаць пра сваё.

На перамовы з уладай, тым больш з уладай аўтарытарнай, павінен ісьці нехта адзін з мандатам ад нас усіх.

Вось быў арыштаваны «Свабодны тэатар» разам з гледачамі спэктаклю. Я б таксама абурыўся, як Саша Кулінковіч, і пайшоў бы ў адміністрацыю на перамовы? Не, я не пайду на гэтыя перамовы. Я творца, і я буду працаваць далей, сьцяўшы зубы. А потым я абяру таго палітыка, які будзе ад мяне і ад маіх калегаў удзельнічаць у перамовах і «душыць» гэтую ўладу.

**Дракахруст:** Валянцін, а які Ваш погляд на гэтую сытуацыю і наагул на праблему — мастак і ўлада? Калі праводзіць аналёгіі, то можна казаць пра досьвед, скажам, Вацлава Гаўла, чыя пазыцыя адносна камуністычнай улады была абсалютна бескампраміснай. Але можна прыгадаць Янку Купалу, Васіля Быкава, расейца Міхаіла Булгакава, якія ішлі на пэўныя зьдзелкі з д'яблам — з уладай.

**Акудовіч:** Напачатку нашай размовы Вы, Юры, прыгадалі Фаўста. А я прыгадаў літаратурную байку пра аўтара Фаўста. У каралеўскім парку на лаўцы сядзяць і размаўляюць Гётэ і Бэтховэн. Раптам Гётэ падхопліваецца, здымае капялюш і становіцца крукам. Бэтховэн азіраецца і бачыць на даляглядзе караля са сьвітай. Калі працэсія праходзіць каля іх, Бэтховэн крыху прыўздымаецца з лаўкі, а пасьля кажа Гётэ: «Я думаў, што Вы — кароль паэтаў, а Вы — толькі паэт каралёў».

Для мяне мараль байкі — не ў апошніх словах Бэтховэна, а ў тым, што для ўсясьветнай культуры сваноўны лісьлівец Гётэ значыць ніяк ня менш, чым бунтоўны жабрак Бэтховэн.



Значнасьць таленту, тым больш таленту генія, ніяк не залежыць ад таго, супрацоўнічае ён з уладай ці змагаецца зь ёй. Прыкладаў гэтай тэзы — лічыць не пералічыць.

Але мы тут сабраліся ня дзеля абстрактнага тэарэтызаваньня. У нас ёсьць канкрэтная сытуацыя. Чатыры вядомых беларускіх музыкі вырашылі зьмяніць пазыцыю супраціву на пазыцыю супрацоўніцтва з уладай. Магчыма, пра супрацоўніцтва яны і ня думалі, а толькі хацелі паразумецца. Але ў нашай сытуацыі адно ад другога ня надта адрозьніваецца.

Мяне ў гэтым зацікавіла ня столькі праблема стасункаў творцы з уладай, колькі з тымі, хто шанаваў іх творчасьць. Апошнія два дні я глядзеў розныя сайты. Мне здаецца, каб неба абрынулася на зямлю, то мы б не пачулі столькі енку, ляманту, стогну, праклёнаў і абурэньня. Нашыя музыкі зрабілі тое, чаго іх прыхільнікі не маглі ўявіць сабе нават у жахлівым сьне.

Тут прыгадваюцца знакамітыя словы Сэнт-Экзюпэры пра адказнасьць перад тым, каго ты прыручыў. Мне здаецца, што калі хлопцы зьбіраліся на сустрэчу з Праляскоўскім, яны думалі пра што заўгодна, але толькі не пра тых, для каго іх вольналюбівая творчасьць была сапраўдным апірышчам у жыцьці.

Я падзяляю абурэньне Аляксандра Кулінковіча, які жаліўся, што за апошнія дні на яго вылілі вядро дзярма. Але ці думаў Аляксандар і ягоныя сябры, які рэальны фізычны боль яны зрабілі тым, хто іх так моцна любіў і шанаваў?

**Дракахруст:** Я тут хачу прывесьці рэакцыю Кулінковіча на злосную заяву нейкага чалавека, які выкіне дыскі гэтых рок-гуртоў і выдаліць іх песьні са свайго кампутара. На гэта лідэр «Neuro Dubel'a» адказаў, што, відаць, гэты чалавек шанаваў ня нашую музыку, а нашую пазыцыю, якая яму прымроілася.

**Вольскі:** Кожны мае права на сваё меркаваньне. Я паважаю меркаваньні Мікалая і Валянціна, але збоку на ўсё проста і лёгка глядзець. Калі сам трапляеш у нейкую сытуацыю, гэта цяжэй. Я ня бачу ніякага крыміналу ў нашым паходзе да ўлады, тым больш што і выніку сур'ёзнага няма. Ня факт, што дазволяць канцэрты, сам я на БТ не зьбіраюся ісьці.

Мне здаецца, самы факт, што гэтыя абразы са сьцяны зьлезьлі і пайшлі да Праляскоўскага, ужо абурыў людзей. Але гэта неяк дзіўнавата. Адсюль вынікае, што людзі, якія цяпер выкідаюць нашыя кампакты, ня вельмі паглыбляліся ў нашую творчасьць і ў нашыя біяграфіі. Такімі, значыць, яны былі аматарамі.

## Ці месца мастака — на барыкадзе?

**Дракахруст:** Сьвятлана Алексіевіч неяк сказала: *«На барыкадзе немагчыма разгадаць загадку жыцьця. Барыкада — гэта ня месца для мастака»*. Лявон, Вы пагаджаецеся з гэтай тэзай? Можа, улада ў асобе Праляскоўскага, кіруючыся, зразумела, сваімі мэтамі, прапанавала Вам зрабіць тое, што Вы і самі хацелі зрабіць — «зьлезьці з барыкады»?

**Вольскі:** Нам асабліва нічога не прапаноўвалі і ні на што не штурхалі, вось у чым рэч.

**Дракахруст:** Лявон, мы тут гаворым аб прынцыповых рэчах, а не праводзім інквізытарскае разьбіральніцтва. Я кажу пра агульную праблему: Вы хочаце «зьлезьці з барыкады»?

**Вольскі:** Я ня бачу, каб мы ўжо так моцна на яе залазілі. Як толькі ў краіне складзецца рэвалюцыйная сытуацыя, калі насамрэч нешта насьпее — мы абавязкова будзем там. Калі застой, як цяпер, трэба займацца творчасьцю. Роля прафэсійнага змагара, прафэсійнага рэвалюцыянэра мяне ня вельмі цікавіць, я бачу сябе больш творцам. Я не пішу песьняў пра змаганьне. Мы пішам песьні пра жыцьцё, пра тое, што нас хвалюе. Не апошнім з гэтага можа быць і палітыка, і соцыюм. Але гэта ня значыць, што мы — прафэсійныя змагары.



**Дракахруст:** Мікалай, Вы ў прыгаданым мной камэнтары сказалі, што зьдзелка, на якую пайшлі музыкі (Вы мяркуеце, што яна адбылася), зьнішчыць іх перш за ўсё як мастакоў, як творцаў. А Вы думаеце, што месца творцы — менавіта на барыкадзе, на чале рэвалюцыйнай калёны, што толькі там ён можа быць сапраўдным творцам? Вось Валянцін зараз прыгадаў гісторыю з Гётэ. Гётэ застаўся Гётэ, хаця і кланяўся каралям.

**Халезін:** Я б не падзяляў сьвет на чорнае і белае. Калі мы кажам пра сучаснае мастацтва — гэта і рок-культура, і сучасны тэатар, я і сябе да гэтага адношу, — мы не займаемся пастаноўкамі Шэксьпіра, як і Лявон не перапявае нейкіх савецкіх кампазытараў. Гэта сучаснае мастацтва. І яно патрабуе зусім іншых і адносінаў з аўдыторыяй, і ўласных паводзінаў.

Барыкада зьяўляецца ў жыцьці творцы, які займаецца сучасным мастацтвам, сама па сабе. Я спадзяюся, што, калі зьменіцца ўлада, мы і новую ўладу будзем штурхаць гэтак жа, як і цяперашнюю. Можа, менш, бо гэта будзе дэмакратычная ўлада. Але мы не зьбіраемся пераходзіць на бок улады. Улада заўсёды горшая за людзей.

**Дракахруст:** А ці ня можа атрымацца так, што разам з сыходам рэжыму зьнікне і мастацтва, галоўны патас якога — змаганьне з гэтым рэжымам?

**Халезін:** Актуальнае мастацтва ёсьць ва ўсіх краінах сьвету, у тым ліку і ў самых дэмакратычных. І там яно б’е ўладу па патыліцы і па лобе. Ды ня сыдзе гэтае мастацтва. Можа, нейкія асобныя прадстаўнікі, канфармісты, сыдуць, але на іх месца прыйдуць маладыя зь яшчэ большымі дубінамі і будуць малаціць імі новую ўладу.

Мне таксама ня хочацца інквізытарскага разьбіральніцтва. У мяне такая прапанова: дзеячы контракультуры зьбіраюцца, складаюць патрабаваньні, потым абіраюць палітыка, якому даручаюць весьці перамовы. І няхай гэты палітык, прафэсія якога — шукаць кампрамісы (у адрозьненьне ад нас), б’ецца за нас. А мы ад яго будзем патрабаваць.

**Акудовіч:** Алексіевіч мае рацыю — барыкада ня месца для мастака. Але мастак — гэта ня нейкі фантом, а чалавек у рэальным жыцьці. І ў гэтага чалавека ёсьць свая грамадзянская пазыцыя (калі яна, зразумела, ёсьць), нейкія ідэалы і каштоўнасьці, якія ён гатовы адстойваць, а часам нават і абараняць. На барыкады ідзе не мастак, а грамадзянін.

Праўда, звычайна ён там доўга не заседжваецца, і калі застаецца жывы, мастак у ім хутка перамагае грамадзяніна, і ён з барыкады зьбягае да сваёй працы, як многія з нас зьбягалі да сваіх сталоў і майстэрняў з Плошчы.

Але героі нашай гутаркі ніяк не атаесамляюцца з барыкаднымі змагарамі ці з тымі, хто кліча на барыкады. Яны — стваральнікі, яны — дойліды. Яны ня толькі заканцэптавалі Незалежную Рэспубліку Мрою, яны сваёй творчасьцю стварылі і жыхароў гэтай краіны — вольналюбівых і адважных. Больш за тое, яны, як тры чарапахі з адной зь іх песень, трымалі на сваіх панцырах створаны імі сьвет.

Беларуская рок-музыка 90-х гадоў ХХ стагодзьдзя для станаўленьня нацыі адыграла тую ж ролю, што



і опэры Вагнэра для станаўленьня нямецкай нацыі ў ХІХ стагодзьдзі.

І калі Лявон Вольскі ў «Нашай Ніве» зьдзіўляўся, адкуль столькі трагедыяў з таго, што яны схадзілі паглядзець на дываны і вазоны ў адміністрацыі прэзыдэнта, дык, значыць, ён яшчэ ня хоча зразумець, што адбылося. Шмат для каго сытуацыя ўбачылася трагічнай зусім ня зь іх пікантнай вандроўкі, а з таго, што «тры чарапахі», якія трымалі створаны імі сьвет, пачалі распаўзацца ў розныя бакі.

І таму я яшчэ раз прашу нашых музыкаў падумаць пра адказнасьць, і ня толькі перад сваёй творчасьцю, а перад сьветам, які яны стварылі, і перад тымі, каго яны ў гэты сьвет завабілі. Трагедыя ў тым, што яны самі гэты сьвет могуць і разбурыць.

## Перамовы і іх наступствы

**Дракахруст:** Лявон, ці разумелі Вы рызыку тых калі не абяцаньняў, то згодаў, якія Вы далі падчас гутаркі з Праляскоўскім? Каб не выглядаць тут усязнайкам і настаўнікам маралі, прыгадаю ўласны досьвед, калі я распавёў тэлеканалу АНТ свае меркаваньні наконт найноўшай гісторыі, іх потым належным чынам прэпаравалі і падалі мяне ў этэры апалягетам Лукашэнкі. Вы, пэўна, чалавек больш разумны за мяне, але ці не баіцеся Вы, што прапановы Праляскоўскага — пастка, у якую Вас злавілі?

**Вольскі:** Я яшчэ раз паўтараю — нічога кардынальна ня зьменіцца. Мы рыхтаваліся да горшага, мы чакалі, што мы прыйдзем — і нам прапануюць нешта ў абмен на нешта. Нічога не было, проста музыкі выказвалі свае шматгадовыя крыўды, хтосьці падрыхтаваў свае прамовы, як Алег Хаменка. Больш

слухалі нас, чым мы слухалі нашых апанэнтаў ад улады.

Я б яшчэ хацеў сказаць, што мне вельмі баліць, што ў апошнія гады ў Беларусі склалася сытуацыя, блізкая да застою. Няма бліскучых культурніцкіх і палітычных падзеяў, усе прызвычайваюцца да status quo, да таго, што ёсьць апазыцыя, такая, якая ёсьць, ёсьць улада, такая, якая ёсьць, ёсьць музыкі — чыстыя і сьветлыя, сумленьне нацыі. Можа, лёсам так наканавана гэтае расхістаць. І рэакцыя на апошнія падзеі, у тым ліку і ў інтэрнэце, сьведчыць пра тое, што нешта мяняецца.

**Дракахруст:** Мікалай, Вы намалявалі такую цікавую схему: мастакі зьбіраюцца, фармулююць патрабаваньні, даручаюць весьці перамовы палітыку, той ідзе да Праляскоўскага па дыялёг (калі той яго прыме, дарэчы). Але ж мастакі — людзі індывідуалістычныя, у кожнага свае патрабаваньні.

Дзесьці з пачатку гэтага году ідзе гутарка пра нейкія перамовы, Мілінкевіч яшчэ ў лютым 2007 году пісаў ліст Лукашэнку, дарэчы, таксама ні з кім сваю ініцыятыву не ўзгадняючы. А музыкі правялі свае перамовы, пайшлі на нейкія кампрамісы. Ну і што? Можа, тут і няма ніякай праблемы?

**Халезін:** Дыялёг павінныя весьці палітыкі. Іх праца, іх прафэсія — гэта пошук кампрамісу. Ні Лявон не палітык, ні я не палітык. У мяне ўзьнікае першае жаданьне: узяць дубіну і даць па галаве. І ў яго таксама. Таму мы ня можам весьці ніякіх перамоваў.

Я ведаю, што калі зьбяруцца артысты, музыкі, мастакі, літаратары, нашыя патрабаваньні абмяжуюцца літаральна пяцьцю пунктамі: першае — вызваліць палітзьняволеных, а астатнія будуць спэцыяльныя — скасаваць «чорныя сьпісы», адкрыць пляцоўкі для працы і гэтак далей.



Я не кажу пра тое, што гэты палітык павінен ісьці да Праляскоўскага. Ён мусіць рэпрэзэнтаваць нас у той групе, якая будзе весьці перамовы з уладай.

Я мяркую, што там будуць і нейкія прафсаюзы, і грамадзкія арганізацыі.

У такім паходзе музыкаў да адміністрацыі будзе пазытыў.

Я ведаю Лявона з канца 1980-х гадоў, я ведаю, як ён ставіцца да ўлады, ведаю, хто ён, нас нават арыштоўвалі разам. Ня трэба так псаваць рэпутацыю, якая набывалася дзесяцігодзьдзямі.

**Вольскі:** Чаму ж тады тры гады ніводны палітык, ніводная ініцыятыўная група не заняліся тым, што было балючым для значнай часткі насельніцтва — забаронай вялікіх нармальных канцэртаў? Усе гэта прынялі чамусьці як дадзенасьць.

**Халезін:** Гэта наша віна. Мы не сабраліся разам і не «задушылі» нашых палітыкаў, каб яны нашы правы абаранялі.

**Дракахруст:** Мікалай, улада мае вельмі шмат недахопаў, але яна, я б сказаў, прагматычная. Яна можа і будзе весьці перамовы толькі з тымі людзьмі, якія ўяўляюць сабой пэўную сілу — палітычную, духоўную ці яшчэ якую. Гэтых музыкаў запрасілі, бо палічылі, што яны штосьці сабой уяўляюць. І таму лепш зь імі дамовіцца. Магчыма, абдурыўшы пры гэтым, але дамовіцца.

Нейкі палітык — пасярэднік, якога Вы прапануеце, — а хто ён такі для ўлады? Навошта наагул зь ім размаўляць?

**Халезін:** Ён — прадстаўнік контракультуры. Паглядзіце на апошнія падзеі ў краіне. Адзін дэпутат «палаткі» кажа: «Давайце правядзем дыялёг з моладзевымі арганізацыямі». Радзькоў, які ачоліў «Белую

Русь», кажа: «Я гатовы размаўляць з прадстаўнікамі апазыцыі». Прыехаў намесьнік міністра замежных справаў Нямеччыны і кажа: «У вас павінен быць дыялёг унутры краіны». Гэта новы трэнд, да яго трэба ставіцца па-сучаснаму. Улада слабее, а мы мацнеем.

І я нязгодны зь Лявонам, што ў нас нічога не адбываецца. Я бачу новыя літаратурныя праекты ў інтэрнэце, я бачу новыя музычныя групы, ёсьць «Свабодны тэатар», ёсьць мастакі. Людзі працуюць, але яны ня могуць цяпер раскрыцца.

**Акудовіч:** У пэўным сэнсе я зь Міколам згодны. Я таксама лічу, што дыялёг патрэбны. У нас адна краіна, адзін народ, фармуецца нацыя. І мы раней ці пазьней усе бар'еры, якія нас падзяляюць, мусім пераадолець і злучыцца ў нешта цэлае.

Чым варыянт Мікалая добры, што ў такой сытуацыі мастакі, творцы, якія маюць у сваёй публіцы і наагул у краіне пэўны імідж, застануцца зь ім. А кожная пэрсанальная сустрэча мастака з уладай самнасам, ці зь нейкай групай, заўсёды будзе ставіць мастака ў вельмі складанае становішча.

Рэч ня ў тым, што непатрэбныя перамовы. Рэч у тым, што гэтыя перамовы не павінныя выглядаць як здача мастаком сваёй пазыцыі.

# ЗА НАСТУПНЫМ ПАВАРОТАМ ШЛЯХУ

## Незалежнасьць Беларусі вачыма замежнікаў

Ці адбылася беларуская незалежнасьць, альбо яна застаецца ўяўнай і хісткай? Ці ёсьць расейскамоўнасьць многіх беларусаў пагрозай беларускай незалежнасьці? Ці стане Беларусь перад выбарам паміж Эўразьвязам і Расеяй?

**21 сакавіка 2004**

Удзельнікі: Лаўрас Бялініс, Агата Вяжбоўска-Мязга, Леанід Радзіхоўскі, Вячаслаў Пяхоўшэк

### Незалежнасьць — гэта…

**Дракахруст:** Незалежная Беларуская Народная Рэспубліка, абвешчаная 25 сакавіка 1918 году, праіснавала некалькі месяцаў і была ліквідаваная войскамі савецкай Расеі. Незалежная Рэспубліка Беларусь, абвешчаная ў 1991 годзе, існуе дагэтуль. Наколькі сталай, устойлівай выглядае цяперашняя беларуская незалежнасьць, беларуская дзяржаўнасьць? Зададзім гэтае пытаньне аналітыкам, адмыслоўцам з суседніх краінаў. Суседзкае вока, як падказвае жыцьцёвы досьвед, бачыць нават вастрэй, глыбей, чым сваё. Такім чынам, ці адбылася беларуская незалежнасьць, альбо яна дагэтуль выглядае ўяўнай і хісткай?

**Бялініс:** Я мяркую, што незалежнасьць Беларусі ўсё ж адбылася. Але трэба падкрэсьліць, што яна надзвычай хісткая, бо ёсьць шмат эканамічных, сацыяльных і палітычных фактараў, якія супрацьдзейнічаюць умацаваньню гэтай незалежнасьці. У палітычным сэнсе — гэта, зразумела, рэжым, які стварае магчымасьць хутка і эфэктыўна ўцягнуць Беларусь у сфэру ўплыву Расеі. У эканамічным — гэта няздольнасьць вырашыць праблемы, створаныя яшчэ за Савецкім Саюзам. Я маю на ўвазе эканамічную залежнасьць ад Расеі ў базавых галінах эканомікі. У сацыяльным сэнсе — гэта нястача грамадзянскай сьвядомасьці. Я мяркую, што незалежнасьць пры гэткай нізкай грамадзянскай сьвядомасьці можа вельмі хутка памяняцца на імкненьне далучыцца да суседняй дзяржавы, прычым ня ў якасьці саюзнай дзяржавы, а проста стаць складнікам Расейскай Фэдэрацыі.

**Дракахруст:** Пра тое, як яна ўпэўнілася ў беларускай незалежнасьці, распавядае супрацоўніца Польскага цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў Агата Вяжбоўска-Мязга.

**Вяжбоўска-Мязга:** Што тычыцца беларускай дзяржаўнасьці, то тут, напэўна, ёсьць посьпехі. Калі я пачынала езьдзіць у Беларусь у 1996 годзе, шмат хто ў Польшчы пытаў у мяне: «Што гэта за дзяржава?» І мы наагул мала ведалі пра краіну-суседку. Цяпер я бачу, што погляд на Беларусь іншы — ніхто не глядзіць на беларусаў як на расейцаў, усе ведаюць, што гэта беларусы. Я лічу посьпехам тое, што калі я цяпер размаўляю зь беларускімі чыноўнікамі, то хаця яны часьцей і не беларускамоўныя, але гавораць мне: «Мы — беларусы, мы — беларускія чыноўнікі». Гэта ўжо штосьці значыць. Яны зьвязваюць свой лёс зь беларускай дзяржаўнасьцю.

**Дракахруст:** Пытаньне пра незалежнасьць Беларусі амаль заўсёды ёсьць пытаньнем незалежнасьці ад Расеі. Ці адбылася гэтая незалежнасьць?

**Радзіхоўскі:** Мне цяжка меркаваць, бо ўсе праблемы Беларусі ў вачох чалавека збоку, на жаль, цалкам заслоненыя моцнай постацьцю Лукашэнкі. І ўсё зводзіцца да яго капрызаў, да яго выступаў, да яго сяброўства з Расеяй і з Эўропай, да яго варожасьці да Расеі і Эўропы. Тое, што Лукашэнка адбыўся як

незалежны палітычны дзеяч і парушальнік спакою і ў Расеі, і ў Эўропе — гэта факт. А вось у якой ступені за яго сьпінай адбылася дзяржава, мне ацаніць цяжка. Хаця я мяркую, што гэтае пытаньне наагул штучнае. У сучасным сьвеце, а тым болей у Эўропе, калі дзяржава фармальна абвешчаная незалежнай, яна такой і застанецца. Ніякіх варыянтаў зваротнага аншлюсу няма і ня будзе ніколі, з Лукашэнкам ці безь яго.

У якой ступені незалежная вашая эканоміка? На гэты конт існуюць розныя ацэнкі. У якой ступені незалежная вашая палітычная кляса? На першы погляд яна цалкам расьціснутая Лукашэнкам і знаходзіцца пад ягоным ботам.

**Дракахруст:** І нарэшце пра беларускую незалежнасьць з краіны, якая таксама шукае свой шлях і месца ў сьвеце.

**Пяхоўшэк:** Я б сказаў, што па вялікім рахунку незалежнасьць Беларусі адбылася. Ёсьць асаблівасьці гэтага працэсу ў кожнай з постсавецкіх краінаў. Магчыма, у Беларусі гэты шлях да незалежнасьці — адзін з самых цяжкіх. Пры тым, што асыміляцыя Беларусі ў Савецкім Саюзе была надзвычай глыбокай, больш глыбокай, чым нават Украіны. 13 гадоў незалежнасьці — вялікі падарунак лёсу для Беларусі. За гэтыя гады ўмацавалася нацыянальная сьвядомасьць, зьмянілася пакаленьне, у тым ліку і ў палітыцы. З гледзішча разьвіцьця, генэзісу гэтага працэсу мне здаецца, што на нейкім базавым, культурным узроўні нацыянальная незалежнасьць Беларусі істотна прасунулася ў пазытыўны бок.

**Дракахруст:** Спадар Пяхоўшэк, перасьцярогі наконт страты беларускай незалежнасьці — гэта «страшылкі» ці такая пагроза рэальная?



**Пяхоўшэк:** Аб'ектыўна кажучы, гэта ўзровень рэальнай пагрозы. Рэальнай таму, што важкім застаецца суб'ектыўны фактар у беларускай палітыцы. «Цар» Лукашэнка добры ці злы, ён туды павернe ці сюды. Чым менш дэмакратычна ён паводзіцца ўнутры сваёй краіны, тым мацнейшы ціск Захаду, а выціснуць Беларусь з Захаду можна толькі на Ўсход. І гэты працэс ня надта спрыяе ўсталяваньню беларускай незалежнасьці. Шмат таксама залежыць ад суб'ектыўнага фактару, зьвязанага з паводзінамі Пуціна. Ці хоча ён мець Беларусь як прыдатак, ці для аднаўленьня імпэрскай велічы расейцаў трэба фармальнае далучэньне Беларусі? А калі так, дык на якім этапе? Тут дзейнічае шмат фактараў, і гэта ўражвае, а то і палохае.

## Ці магчымая расейскамоўная незалежная Беларусь?

**Дракахруст:** Спадарыня Вяжбоўска-Мязга казала пра дзіўную для яе зьяву: беларускія чыноўнікі, нават тыя, што гавораць па-расейску, сьцьвярджаюць: «Мы — беларусы, мы — не расейцы». Наколькі наагул зрусіфікаванасьць Беларусі ёсьць пагрозай беларускай незалежнасьці?

**Вяжбоўска-Мязга:** Я буду вельмі шчасьлівай, калі ад маладых беларусаў ня буду чуць: «У нас на дыскатэцы ёсьць музыка расейская і замежная». Ці калі я змагу купіць у Беларусі беларускамоўныя дэтэктыўныя раманы. Але галоўнае — гэта ідэнтыфікацыя зь дзяржавай, каб беларусы шанавалі сваю дзяржаву, шанавалі яе незалежнасьць.

**Дракахруст:** Наколькі культурная, моўная зрусіфікаванасьць Беларусі ёсьць пагрозай яе незалежнасьці?

**Радзіхоўскі:** Справа ў тым, што гэтая незалежнасьць не была заваяваная, не была выпакутаваная, яна была атрыманая, як кажуць, па недарэчнасьці. Калі ўва ўсіх рэспубліках былога СССР, нават у паснулай Сярэдняй Азіі, былі нейкія рухі супраць Масквы, то ў Беларусі яны былі, на мой погляд, мінімальнымі. У пэўным сэнсе гэта быў бясплатны падарунак. Але такі падарунак, што потым ад яго, калі і захочаш, дык не пазбавісься. Нават калі народ хоча аб'яднаньня з Расеяй і лёгка аддасьць сваю дзяржаўнасьць. Уявім сабе, што гэта так. Але палітычная кляса, якой бы яна ні была, ніколі не аддасьць сваю незалежнасьць і дзяржаўнасьць.

Да таго ж далучэньне Беларусі да Расеі было б надзвычай небясьпечным і для самой Расеі. Гэта прывяло б да такога велізарнага клубка невырашальных супярэчнасьцяў унутры Расеі, настолькі сапсавала б стасункі зь іншымі краінамі Садружнасьці Незалежных Дзяржаваў і ўскладніла б адносіны з Эўропай ды Амэрыкай, што Расеі проста не пад сілу было б утрымаць такі падарунак. Гэта кавалак, які немагчыма пераstравіць. Пуцін сьвядома вядзе палітыку на зрыў інтэграцыйнай гульні, са свайго боку тую ж палітыку вядзе і Лукашэнка — гэта цалкам лягічна і зусім натуральна.

А тое, што няма культурнай, мэнтальнай незалежнасьці, што беларусы не адчуваюць сябе асобнай краінай, — гэта цалкам магчыма. Тым больш што пачуцьцё мэнтальнай незалежнасьці звычайна ўзьнікае супраць кагосьці. Напрыклад, у Заходняй Украіне такія пачуцьці ёсьць, у Прыбалтыцы яны вельмі моцныя, яны існуюць нават у Армэніі, хаця яна — самая прарасейская ў Закаўказьзі. А ў Беларусі іх сапраўды няма з прычыны моўнай блізкасьці і блізкасьці да расейскай культуры. Але гэта абсалютна нічога ня значыць. Адсутнасьць псыхалягічнага, мэнтальнага самавызначэньня, ці самавызначэньня, што мы бліжэй да Расеі, чым да саміх сабе, зусім не азначае, што зь юрыдычнай і палітычнай незалежнасьцю будзе скончана.

**Дракахруст:** Моўная праблема ва Ўкраіне падобная да беларускай. Як гэтая праблема зьвязаная з умацаваньнем незалежнасьці?

**Пяхоўшэк:** Мне падаецца, што моўная праблема ўяўляе сабой невялікую пагрозу, калі параўнаць зь іншымі пагрозамі, якія існуюць у Беларусі. Чаму? Бо ня толькі ў Беларусі, але і ў іншых краінах найважнейшым фактарам, які мацуе фармальную незалежнасьць ад Расеі, ёсьць карупцыя. Злодзеі крадуць у сваіх краінах і ня хочуць пускаць да сябе расейскіх злодзеяў. Іранічна кажучы, карупцыя выступае фактарам канцэнтрацыі дзяржаўніцкіх памкненьняў эліты. Мне здаецца, што такі фактар мае істотна большае значэньне, чым тое, як арыентаваныя беларускія выбарнікі.

**Дракахруст:** А цяпер літоўскі погляд на суадносіны культурнай і палітычнай незалежнасьці Беларусі.

**Бялініс:** Зразумела, моўны фактар вельмі важны для дзяржаўнасьці, бо бяз мовы, без усьведамленьня, што мая мова адрозьнівае мяне ад іншых народаў, нацыянальная дзяржава існаваць ня можа. Хаця дзяржаўнасьць залежыць ня толькі ад гэтага — ёсьць выпадкі, калі некалькі дзяржаваў гавораць на адной мове, але людзі адчуваюць сябе рознымі нацыямі.

Але ж беларуская гісторыя паказвае, што на працягу стагодзьдзяў Беларусь, якая раней была часткай Вялікага Княства Літоўскага, геапалітычна была супрацьпастаўленая Расеі. Расейскае стаўленьне да беларусаў традыцыйна ўтрымлівае жаданьне

зьнішчыць любую магчымасьць адраджэньня гэтай геапалітычнай структуры, якая існавала гадоў 200—300 таму. Мэта палягае ў тым, каб выкрасьліць з грамадзкай сьвядомасьці беларусаў усё, што магло б весьці да фармаваньня дзяржаўнага мысьленьня, нацыянальнай палітычнай самасьвядомасьці.

Цяпер шмат беларусаў сапраўды сымпатызуюць расейскай мове, расейскай культуры і вельмі часта не разумеюць, ці існуе беларуская мова і культура як асобныя. Некаторыя беларусы глядзяць на беларускую мову як на сродак моўнай камунікацыі ніжэйшага ўзроўню, што памылкова. Гэта — вынік доўгай культурнай і сацыяльнай палітыкі імпэрскіх сілаў. І такая палітыка мела плён, значная частка беларусаў усьведамляюць сябе як расейскамоўных людзей, а расейскую культуру як сваю.

І гэта няблага. Кепска тое, што яны не выдзяляюць сваёй беларускай адрознасьці, сваёй тоеснасьці. Відаць, людзі павінныя перажыць гэты этап, які ёсьць самым крытычным, — этап аднаўленьня, этап успаміну сваёй культурнай каштоўнасьці.

## Лукашэнка — гарант незалежнасьці ці «гарант» яе страты?

**Дракахруст:** Раней спадар Бяляніс выказаў меркаваньне, што пагрозай незалежнасьці Беларусі ёсьць дзейны аўтарытарны рэжым. Нядаўна ў расейскай «Независимой газете» палітоляг Дзьмітры Трэнін выказаў меркаваньне, што пры новай, больш актыўнай палітыцы Пуціна адносна краінаў СНД усе яны захаваюць сваю незалежнасьць*. Усе, акрамя Беларусі — пасьля сыходу Лукашэнкі, мяркуе Дзьмітры Трэнін. Дык калі пагроза страты незалежнасьці большая: пры інтэгратары Лукашэнку ці пасьля яго?

**Радзіхоўскі:** Лукашэнка — гэта наймацнейшы гарант беларускай незалежнасьці. І, зразумела, ён аніводнай сэкунды ня думаў аб’ядноўвацца з Расеяй ці ўлівацца ў Расею. Ён надта шмат сілаў паклаў на ўмацаваньне сваёй асабістай улады. Адзіны варыянт, на які ён мог бы пагадзіцца — стаць «царом» аб’яднанай Расеі і Беларусі. Але паколькі такі варыянт абсалютна немагчымы, і ўсе, у тым ліку і ён, гэта ўжо зразумелі, то ні пра якое аб’яднаньне, пакуль ён палітычна жывы, і размовы быць ня можа. Ён, зразумела, гарант незалежнасьці, бо гэтае пытаньне — пытаньне ягонай асабістай незалежнасьці, ягонай асабістай улады, і нікому і ніколі ён гэтай улады і кроплі не аддасьць.

Што тычыцца пэрыяду пасьля Лукашэнкі: калі прыйдуць празаходнія сілы, то яны ня пойдуць ні на якое аб’яднаньне з Расеяй з-за ідэалягічных чыньнікаў. Але хай сабе перамогуць колькі заўгодна прарасейскія сілы. Хай сабе народ будзе ня супраць аб’яднаньня. Хай нават палітычная кляса, узначаленая нейкім вельмі дзіўным палітыкам, будзе гатовая да аб’яднаньня. Кажу — дзіўным, бо не было прэцэдэнту аб’яднаньня на працягу апошніх ста гадоў. Адзіны прэцэдэнт — аб’яднаньне дзьвюх Нямеччынаў. Але яно адбылося выключна паводле аднае прычыны: пасьля падзеньня сацыялізму палітычная кляса Ўсходняй Нямеччыны была зьнішчаная пад корань, і ГДР проста абрынулася як дзяржава.

Але ня будзем нават зважаць на прэцэдэнты. Уявім сабе, што беларуская палітычная кляса будзе настолькі прарасейскай і схільнай да капітуляцыі, што папросіць аб’яднаньня. Я ўпэўнены, што гэтага

* *Дмитрий Тренин.* Realpolitik Москвы: Россия замыкается в постсоветском пространстве // Независимая газета. 2004. 9 февраля.

ніколі не адбудзецца, бо на такое ніколі ня пойдзе Расея. Аб’яднаньне зь Беларусьсю для Расеі — занадта «дарагое задавальненьне».

А калі знойдзецца такі вар’яцкі расейскі прэзыдэнт, які захоча гэты кавалак узяць, то гэта будзе азначаць вялікія забурэньні для Расеі і Беларусі, якая стане яе часткай, а скончыцца справа ўсё роўна развалам. На наступны дзень пасьля аб’яднаньня ўзьнікне Беларускі нацыянальны фронт, які павядзе змаганьне за аддзяленьне, за адмысловыя правы, і Расея атрымае другую Чачэнію. Не такую крывавую і ваяўнічую, але палітычна — менавіта Чачэнію. Навошта гэта Расеі — незразумела.

**Дракахруст:** Дэмакратыя і незалежнасьць — рэчы ня тоесныя. Цяперашні Туркмэністан — пачварная ўсходняя дэспатыя, але наўрад ці ёсьць сумневы ў яе незалежнасьці. Дарэчы, значны час даваеннай гісторыі Літвы прыпаў на аўтарытарны рэжым Антанаса Сьмятоны.

**Бялініс:** Я б хацеў інакш павярнуць гэтую лёгіку. Менавіта аўтарытарызм, цэнтралізаванасьць кіраваньня, жорсткі палітычны рэжым у Беларусі стварылі немагчымасьць збалянсаваць беларускае грамадзтва, каб у больш крытычных умовах яно вытрымала ціск звонку. З аднаго боку, Лукашэнка робіцца нібыта адзіным выратавальнікам незалежнасьці беларускай дзяржавы. Але калі мы паглядзім на іншыя дзяржавы, у тым ліку на даваенную Літву, дзе быў аўтарытарны рэжым, мы ўбачым, што менавіта з прычыны сваёй аўтарытарнасьці такія дзяржавы і страцілі сваю незалежнасьць, бо не было створана іншых сілаў, якія маглі стаць супрацьвагай сілам звонку.

У Беларусі цяпер аналягічная сытуацыя. Парасткі іншых, адрозных ад улады, эканамічных і палітычных сілаў за 10 гадоў былі зьнішчаныя ці амаль зьнішчаныя. І ўсё абапіраецца на адміністрацыю Лукашэнкі. Прыбраць гэтую адміністрацыю — значыць прыбраць падмурак дзяржавы. У такім сэнсе Дзьмітры Трэнін мае рацыю. Але ён ня мае рацыі ў тым, што аўтарытарная дзяржава ёсьць выйсьцем для такіх краінаў, як Беларусь. Магчымасьць быць незалежнымі пры Лукашэнку — гэта ілюзія незалежнасьці, бо будучыня ў такіх умовах вельмі крохкая.



**Дракахруст:** На думку Вячаслава Пяхоўшэка, варыянты будучыні Беларусі не вычэрпваюцца стратай незалежнасьці пасьля сыходу Лукашэнкі.

**Пяхоўшэк:** Трэнін аналізуе гіпатэтычную сытуацыю, бо мы ня ведаем, як і калі адбудзецца сыход Лукашэнкі, ці адбудзецца ён увогуле і хто прыйдзе на месца Лукашэнкі. Я з такім жа посьпехам магу спрагназаваць і процілеглы сцэнар: Лукашэнка выбірае сабе спадкаемцу і перадае яму ўладу, якую мае цяпер. Гэта, як правіла, дастаткова складаны сцэнар, бо чалавек, умантаваны ў сыстэму так, як Лукашэнка, ня можа мэханічна знайсьці сабе замену. Але і гэта выключыць нельга. Тады будзе сцэнар, калі цяперашні status quo адносінаў Пуціна і Лукашэнкі захаваецца, толькі зь іншымі ўдзельнікамі.

**Вяжбоўска-Мязга:** Відавочна, што Лукашэнка гатовы аддаць частку незалежнасьці, калі гэта спатрэбіцца для захаваньня яго ўлады. Але, як ні парадаксальна, Лукашэнка сёе-тое робіць для беларускай незалежнасьці. Усе яго канфлікты з Масквой, на маю думку, у сьвядомасьці беларусаў азначаюць, што Беларусь — гэта не Расея, што ў яе ёсьць свае ўласныя інтарэсы.

## Беларусь паміж Эўропай і Расеяй

**Дракахруст:** Крыху больш чым праз месяц мы станем сьведкамі велізарнай зьмены геапалітычнага становішча ня толькі ў рэгіёне, але і ў сьвеце*. Беларусь апынецца наўпрост паміж двума геапалітычнымі гігантамі: аб'яднанай Эўропай і Расейскай Фэдэрацыяй. Некаторыя палітолягі і палітыкі лічаць, што такі стан паставіць Беларусь перад жорсткай дылемай: ці Беларусь уступае ў Эўразьвяз, ці далучаецца або будзе далучанай да Расеі.

**Бялініс:** Мне здаецца, што лёгіка геапалітычнай дылемы існуе на гэтай тэрыторыі гадоў 300, калі ня больш. Выйсьці з зачараванага кола падзелу Беларусі, як раней падзелу Вялікага Княства, — вельмі цяжка. І адзінае выйсьце — у стварэньні дэмакратычных інстытутаў у самім гэтым грамадзтве, якія маглі б існаваць незалежна ад таго, моцная ці слабая адміністрацыйная ўлада. У такім выпадку далучэньне да Эўразьвязу сталася б не зьнікненьнем дзяржавы, а ўмацаваньнем гэтых грамадзянскіх інстытутаў у глябальнай структуры Зьвязу. Беларуская дзяржава, зразумела, страціла б пры гэтым некаторыя свае атрыбуты, але захавалася б нацыянальнае грамадзтва, якое мае сваю дзяржаўнасьць і здольнае выстаяць у гістарычных выпрабаваньнях. Калі Беларусь далучаецца да Расейскай Фэдэрацыі, то мы бачым, што Расея ня надта далёка прасунулася шляхам дэмакратыі, калі яна ўвогуле ідзе гэтым шляхам. Таму яна ня будзе падтрымліваць тыя дэмакратычныя, свабодныя інстытуты ў Беларусі, якія цяпер непатрэбныя Расеі. Бо, наколькі я разумею, Расеі больш выгадна мець Беларусь як свой складнік, а не як саюзную дзяржаву, якая мае свае прэтэнзіі ў палітыцы, эканоміцы і сацыяльных пытаньнях.

* 1 траўня 2004 г. у склад Эўрапейскага Зьвязу ўступілі 10 краінаў Цэнтральнай і Ўсходняй Эўропы, у тым ліку і суседзі Беларусі — Польшча, Літва і Латвія.



**Дракахруст:** Супрацьлеглы погляд на беларускую дылему паміж Эўразьвязам і Расеяй — у Леаніда Радзіхоўскага.

**Радзіхоўскі:** Ня бачу такой дылемы. Паняцьце незалежнасьці ў цяперашнім глябальным сьвеце — гэта атавізм, гэта цацка для адсталых слаёў насельніцтва. Але што тычыцца Беларусі, то ў яе неймаверна геапалітычна выгаднае становішча паміж аднымі і другімі. Можна гандляваць гэтым становішчам амаль з той жа выгадай, зь якой Расея гандлюе газам і нафтай. Гэта тычыцца і газаправодаў, і розных палітычных камбінацыяў. Зразумела, гадоў 300—400 таму такое становішча азначала б, што вас захопяць або адны, або другія, што будзе вайна і разьня. Але ў нашую эпоху, калі ніхто нікога, і тым болей у Эўропе, не зьбіраецца захопліваць, у вас фэнамэнальна выгаднае становішча, становішча пераборлівай нявесты, якая не сваёй незалежнасьцю (незалежнасьць якраз нікому непатрэбная), а сваімі газаправодамі, сваім транзытам можа гандляваць то з аднымі, то з другімі. Наколькі я разумею Лукашэнку, ён будзе абяцаць аддаць што-небудзь то Расеі, то Эўропе, набіваць цану, гандлявацца. У выніку не аддасьць ні тым, ні іншым, зразумела, пакіне ўсё ў сябе. Але камбінаваць, круціцца, падымаць сваю капіталізацыю, капіталізацыю тых жа газаправодаў, нафтаправодаў ён можа да бясконцасьці, і гэта надзвычай выгадна. Калі б ён ня быў у такім сярэдзінным становішчы, то гуляць у такія гульні ён бы, зразумела, быў ня ў стане.

**Дракахруст:** Вячаслаў Пяхоўшэк лічыць, што ў Беларусі ёсьць трэці шлях паміж магутнымі суседзямі.

**Пяхоўшэк:** Так, ёсьць трэці сцэнар. Усё будзе залежаць ад канкрэтных паводзінаў Лукашэнкі, які мае ў сваіх руках велічэзныя магчымасьці маніпуляцыі грамадзтвам. Насамрэч такога кшталту «шэрых зонаў» у свой час было даволі шмат. Можна прыгадаць статус Фінляндыі паміж савецкім гігантам і яе найбліжэйшымі суседзямі — на той момант сябрамі НАТО і Эўразьвязу. Нічога не перашкаджала Фінляндыі не ўступаць ані ў Эўрапейскі Зьвяз, ані ў Савецкі Саюз. Гэта крыху іншы прыклад, бо Фінляндыя была дэмакратычнай краінай, пра такі стандарт дэмакратыі Беларусь можа толькі марыць.

Што тычыцца Беларусі, то ўсё будзе залежаць ад таго, як канкрэтна здолее скарыстаць свае маніпуляцыйныя магчымасьці сам Лукашэнка. Напрыклад, ці будуць прынятыя пратэкцыяніsцкія альбо рэпрэсіўныя захады супраць польскага капіталу, які імкнецца працаваць на тэрыторыі Беларусі? Як будзе знойдзены аптымальны баланс паміж інтарэсамі Польшчы і Расеі? Я мяркую, што пэўны час Беларусь можа пратрымацца ў гэтым працэсе. Урэшце, шмат што ў значнай ступені будзе залежаць ад дынамікі стасункаў Расеі і Эўрапейскага Зьвязу. Калі гэтая дынаміка будзе такой, якой была летась, то ў Беларусі ўзьнікнуць новыя магчымасьці адыгрываць сваю, хай невялічкую, ролю і знайсьці сваё месца ў гэтым працэсе.



# Сумесь турмы і дзіцячага садка

Што будзе пасьля Лукашэнкі? Ці можна збудаваць нацыю на каштоўнасьцях, супольных зь іншай нацыяй? Ці ёсьць у Беларусі супольныя грамадзкія інстытуты, на якіх можна будаваць грамадзянскую нацыю?

**9 ліпеня 2007**

Удзельнікі: Сьвятлана Алексіевіч, Павал Якубовіч, Пётра Садоўскі

## Супольны падмурак для асобнага дому?

**Дракахруст:** Сёлета Беларусь у адзінаццаты раз сьвяткавала Дзень незалежнасьці. Гэтая дата — нагода паразмаўляць пра дзіўную прыроду той дзяржаўнай, а можа нават і нацыянальнай ідэалёгіі, якую прышчапляе беларусам дзейная ўлада. Рэч тут ня толькі ў тым, правільная яна ці не, а ў тым, чаму яна наагул працуе.

Звычайна нацыянальная ідэнтычнасьць — нешта, паводле азначэньня, унікальнае і асобнае, будуецца на такіх жа ўнікальных, асобных ад іншых, каштоўнасьцях, гістарычных і культурных падзеях: французы сьвяткуюць гадавіну сваёй француcкай рэвалюцыі, амэрыканцы — абвешчаньне сваёй незалежнасьці ад Брытанскай імпэрыі і гэтак далей. У той жа час, паводле афіцыйнай вэрсіі, гістарычны і культурны падмурак цяперашняй нацыянальнай незалежнасьці Беларусі — не асобны беларускі, а супольны зь іншымі народамі, у першую чаргу, з расейскім. Савецкая ўлада? Дык яна і была ўладай супольнай дзяржавы. Вялікая Айчынная вайна? Дык Айчынай тады быў Савецкі Саюз.

Ці можна пабудаваць трывалую нацыянальную ідэнтычнасьць на такім падмурку?

**Якубовіч:** Чым менш грамадзкая думка будзе разважаць пра нацыянальную ідэнтычнасьць, тым, магчыма, хутчэй Беларусь выйдзе з глыбокага крызісу, які дастаўся ёй у спадчыну і яшчэ не пераадолены. І мне здаецца, што няма нічога страшнага, калі больш думаць пра тое, што аб’ядноўвае, а не разьядноўвае. Ці варта сёньня думаць пра тое, што Вялікая Айчынная, ці Другая ўсясьветная, вайна адбывалася ў Беларусі такім чынам, як яна адбывалася, некаторыя кажуць нават пра грамадзянскую вайну. Гэта тэма для дасьледчыкаў, але калі жарсьці пераносяцца на людзей, якія жывуць дастаткова цяжкім жыцьцём, ні да чога добрага гэта не вядзе. Мне здаецца, што ў Беларусі спакойна высьпявае нейкая добрая ідэя, «нацыянальная ідэя», хаця я і не люблю гэтыя словы. Моладзь ужо абсалютна ўпэўнена лічыць, што Менск — гэта сталіца іх роднай краіны, а Масква, як і Варшава, — сталіцы суседніх дзяржаваў, што мы — частка Эўропы і гэтак далей.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, Вы гаворыце як прапагандыст. Я ўчаплюся за вашыя апошнія словы, што моладзь уяўляе, што Менск — гэта сталіца роднай краіны, а Масква — сталіца іншай краіны. Чаму? Чаму гэта іншая краіна, калі, паводле афіцыйнай дзяржаўнай ідэалёгіі, гэтыя дзьве сталіцы нічога не падзяляе?

**Якубовіч:** Чаму? Тут я з Вамі, Юры, нязгодны абсалютна. Менск — гэта сталіца Беларусі, а Масква — сталіца Расеі. Гэта дадзенасьць, і калі глядзець спакойна, то якая тут супярэчнасьць і да чаго тут чапляцца, як Вы сказалі? Ёсьць людзі, якія мэнтальна яшчэ з Савецкім Саюзам разьвітацца ня могуць. Але для большасьці, хто 15 гадоў жыве ў сувэрэннай дзяржаве, гэта ўжо не праблема. А наступнае пакаленьне наагул пра гэта наўрад ці будзе разважаць.



Іншая рэч, якія канфігурацыі будуць выбудоўвацца ў будучыні — будзе гэта саюз ці нешта іншае. Ніхто не выключае, што Беларусь праз пэўны час можа быць у Эўразьвязе. Але ў любым выпадку я сёньня ведаю няшмат людзей, якія блытаюць сталіцы нашых дзяржаваў. І я кажу гэта не як прапагандыст, а як самы просты абыватаць.

**Дракахруст:** Пятро Садоўскі, спадар Якубовіч сказаў, што гэта не праблема, але, на мой погляд, пытаньне тут палягае ў тым, чаму яно перастала быць праблемай. І чаму гэта перастала быць праблемай на тым грунце, які на першы погляд здаецца даволі хісткім. Такая мадэль дзяржаўнай ідэалёгіі, як у Беларусі, мае месца хіба ў непрызнаным Прыднястроўі, цяжка прывесьці іншы прыклад. Дык чаму ж гэта працуе, чаму, як сказаў спадар Якубовіч, людзі ўсё ж уяўляюць, што Менск — гэта наша сталіца, а Масква, пры ўсёй любові ці іншых пачуцьцях да яе — ня наша? Чаму?

**Садоўскі:** Я тут не пагаджуся з Паўлам, у пэўных момантах хацелася б паспрачацца. Калі мы гаворым пра тыпы дзяржаўных ідэалёгіяў, нам не абысьці такія паняцьці, як крэольства, канстытуцыйны патрыятызм, паноўная культура. Я ня ведаю, ці можна адрэзаць мінуўшчыну ад сёньняшняга дня, як часткова робіць Павал. Я ня ведаю, ці можна пабудаваць устойлівую мадэль дзяржавы без інстытутаў грамадзянскай супольнасьці, якія могуць быць збудаваныя, абапіраючыся на гісторыю. Я ня ведаю краіны, нават крэольскай, якая б збудавала трывалую дзяржаву, адкінуўшы гісторыю і культуру.

У Эўропе мы гаворым пра постнацыянальную эпоху, але калі праект эўрапейскай Канстытуцыі быў тарпэдаваны Францыяй і Галяндыяй, дыскусіі ішлі па ўсёй Эўропе.

І старшыня нямецкага парлямэнту — бундэстагу — крытыкуецца за яго тэзу пра «паноўную культуру» (Leitkultur), якая павінная быць у Нямеччыне. Немцы спрачаюцца наконт паняцьця «канстытуцыйны патрыятызм».

Ёсьць такая краіна, як Ізраіль, якая ня мае ні Канстытуцыі, ні сталых межаў. Яна рэалізавалася ідэалягічна ў часе, а не ў прасторы. І цяпер змагаюцца дыяспарысты зь сіяністамі. Прынамсі 4 мільёны габрэяў, якія жывуць у ЗША, лічаць, што яны працягваюць мэсіянскую ідэю, што абраны народ павінен быць гумусам для разьвіцьця іншых цывілізацыяў.

Калі адказваць наўпрост на Вашае пытаньне, ці можна пабудаваць трывалую ідэнтычнасьць на такім падмурку, варта пералічыць, з чаго складаецца ў нас гэты падмурак.

Найперш гэта — ідэалёгія праваслаўнага хрысьціянства, ідэалёгія ізаляцыянізму, нейкай фобіі адносна Захаду. Трэба таксама казаць пра сацыяльную дзяржаву і пра карпаратыўную, пра міты, на якіх трымаецца гэтая сыстэма. Вы пытаецеся, чаму яна трымаецца. Трымаецца на добрай прапагандзе і на пакуль што трывалым падмурку, дзякуючы добрым цэнам на энэрганосьбіты.

Я ўпершыню за апошнія 12 гадоў непакоюся. Я — пэнсіянэр, і мне хапае з жонкай пэнсіі на 3 тыдні — толькі харчавацца і заплаціць за кватэру.

Мы цяпер пачалі наладжваць адносіны з трэцім сьветам, нарэшце загаварылі пра сапраўдную эканомію і дывэрсыфікацыю паставак энэрганосьбітаў, гаворым пра «Белую Русь» і «За незалежную Беларусь». Нашае кіраўніцтва шукае.

Я сёньня не хачу па-беларуску крытыкаваць Лукашэнку, я хачу, каб мы ў нейкім кансэнсусе спрабавалі знайсьці адказ на тое пытаньне, якое Вы, Юры, задалі.



**Дракахруст:** Падчас апошніх крызісаў у беларуска-расейскіх адносінах расейцы разважалі прыкладна гэтак: «Беларусы ж — такія, як мы, у іх і ідэалёгія трымаецца на тым, што ў нас супольнае. Прыкрыем кранік, і будуць яны нашымі». І кожны раз расейцы з гэтымі развагамі гараць сінім полымем. Чаму?

**Алексіевіч:** Я ня думаю, што расейскія палітыкі і культуролягі ня маюць рацыі ў гэтых развагах. У іх будзе шанец, няма тут, у краіне, унутранага супрацьстаяньня. Я не прыхільніца Лукашэнкі, але Беларусь, як тое ня дзіўна, трымаецца на ім ды яшчэ на ілюзіях і спадзяваньнях моладзі. Але нашая ўлада збудаваная на старой савецкай, славянскай харызматычнасьці лідэра. Ён маласымпатычны нам, інтэлігенцыі, але ён акумулюе сялянскую боязь прагрэсу, пераменаў, і ў той жа час такую сялянскую цьвярозасьць.

Улада малакультурная, а сёньня нават на інтуіцыі моцнага лідэра нельга доўга ўтрымацца. Працэсы глябалізацыі, рэлігійнага супрацьстаяньня нарастаюць, і Беларусь мусіць да чагосьці далучыцца.

Кубай у Эўропе ўжо нельга быць. І я мяркую, што вось гэтая ідэалёгія, пра якую казаў Павал, — вельмі дзіўная рэч. Ён — адзін з ідэолягаў сёньняшняга часу, і яго словы мяне яшчэ раз пераканалі, наколькі нашая ўлада не гатовая да новага часу. Пануе вульгарны пэрыяд: людзі наядаюцца, робяць эўрарамонты, падарожнічаюць і сьпяшаюцца ўсё рабіць, як галодныя дзікуны, у якіх у мазгах сядзіць, што ўсё хутка можа скончыцца. І вось такі жывёльны пэрыяд трэба ж неяк ідэалягічна прыкрыць. Чым? Улада ж не задзейнічала інтэлектуальны патэнцыял нацыі. Калі даць свабоду дыскусіі, свабоду ідэалягічную, нешта б сасьпела ў грамадзтве. Нічога гэтага ня робіцца, а замест толькі пачынаецца старое савецкае клікунства: вось у нас была вайна.

Я шмат ежджу па Расеі і па Беларусі. Мяжа ёсьць, але ўлада — савецкая, народ — савецкі і ўсе атрыбуты савецкага мысьленьня і з расейскага, і зь беларускага боку. Проста там інтэлектуальны патэнцыял іншы і грошы іншыя. Пакуль гэта крыху прыхаванае: там — нафтадалярамі, тут — калгаснай хітрасьцю. Але давядзецца адказваць. Доўга такі прамежкавы стан не пратрымаецца. І ня будзе беларускай дзяржавы. Што гэта за ідэалёгія — давайце накормім і напоім людзей? Прабачце, але гэта ж не жывёлагадоўчая фэрма.

**Якубовіч:** Я з глыбокай павагай стаўлюся да меркаваньняў Сьвятланы і Пятра. Але ў чым прадмет спрэчкі? Дзяржава павінная клапаціцца пра ўсё: і пра тое, каб людзі былі абутымі і сытымі, дакладней, людзі самі павінныя сябе апранаць і карміць, а дзяржава павінная ствараць умовы. Калі людзі сталі жыць крыху лепш, чым раней, дык гэта відавочна.

Сталі жыць лепей, зьявіўся нейкі спакой у людзей, у моладзі ёсьць альтэрнатыва — працаваць у Беларусі, Польшчы ці Ірляндыі, вучыцца ў БДУ ці Варшаўскім унівэрсытэце. Калі такая сытуацыя ёсьць у краіне, гэта ўжо някепска.

Можна лічыць уладу некультурнай. Але ёсьць розныя людзі і ў палітыцы, і ў эканоміцы, і ў адміністрацыйных органах.

Я са Сьвятланай не зусім пагаджуся. Езьдзячы па Расеі і Беларусі, можна ўбачыць шмат рознага. Але рабіць з гэтага выснову, што Беларусь ператвараецца ў жывёлагадоўчую фэрму — гэта занадта.

Мне самому ня вельмі падабаюцца некаторыя атрыбуты нашай ідэалягічнай працы — занадта просталінейныя плякаты, што вісяць на вуліцах, спрошчаныя схемы. Часам дзеяньні прапагандыстаў улады проста пыл узьнімаюць з працаў 1970-х гадоў. Але адносна апазыцыі гаварыць пра нейкі сацыяльны і грамадзкі крэатыў наагул не выпадае. Часьцей там проста «Менская газэта» 1941 году. Толькі мяняй прозьвішчы, а зьмест — той жа самы, пячорны. Хаця ёсьць і цікавыя людзі, і цікавыя ідэі.



Але ня варта казаць, што ўсё ў дзеяньнях улады грунтуецца на савецкім досьведзе.

Вось я нядаўна апублікаваў артыкул пра тое, што ў Гомелі знайшлі месца пахаваньняў ахвяраў сталінскіх рэпрэсіяў 1937 году. Чаму гэта трэба замоўчваць? Мне не зразумела. Некаторыя людзі ва ўладзе кажуць: гэта супраць камунізму, а камунізм — гэта... Мы, сёньняшнія грамадзяне Беларусі, гаворым, што хочам узяць з савецкай эпохі толькі пазытыўнае. Яно сапраўды там было. Але мы павінныя адмовіцца ад таго нялюдзкага, што адбывалася ў 1930-я, часткова ў 1920-я і 1940-я гады мінулага стагодзьдзя. І вось тады зьявіцца нейкае паразуменьне.

## Што будзе пасьля Лукашэнкі?

**Дракахруст:** Існуюць дзьве мадэлі пабудовы нацыі: на культурна-этнічным адзінстве — нямецкая мадэль, і на грамадзянска-палітычным адзінстве — француская. Хіба не найбольш яркім узорам апошняй мадэлі зьяўляюцца Злучаныя Штаты Амэрыкі, там этнічнага адзінства няма як такога, а мова — супольная з былой мэтраполіяй. Але ёсьць тое, што называюць грамадзянскай рэлігіяй амэрыканцаў. Дарэчы, амбітным, хаця і няўдалым праектам пабудовы грамадзянскай нацыі была ідэя савецкага народу.

Цяперашняя ўлада Беларусі адкідае культурна-этнічны праект пабудовы нацыі. Як мы чулі ад Паўла Якубовіча, улада зводзіць культурна-этнічны праект да досьведу калябарацыі часоў Другой усясьветнай

вайны. Гэта азначае, што выбар робіцца на карысьць мадэлі грамадзянскай нацыі. Але ж для пабудовы грамадзянскай нацыі патрэбныя моцныя, паважаныя грамадзкія інстытуты, якія і могуць злучыць людзей у супольнасьць, і злучаюць, да прыкладу, у тых жа ЗША. Ці ёсьць у Беларусі такія інстытуты, на якіх можна ўгрунтаваць грамадзянскую нацыю?

**Садоўскі:** Я пачаў бы адказ з парадаксальнай прымаўкі: каб эканоміць ваду, яе трэба больш піць. Людзі ахвотна п'юць кока-колу, піва і гарэлку. Але каб вырабіць літар піва, трэба страціць 7 літраў вады, на літар кока-колы — 4, а на літар біяпаліва этанол — 4650 літраў вады.

Мы гаворым пра эканамічныя і сацыяльныя посьпехі, пра простае, штодзённае жыцьцё, якое задавальняе абываталя, а абываталі складаюць у любой краіне адсоткаў 75, тыя, хто думае, складаюць 10—15%, а хто актыўна працуе — 4%. Мяркую, што нам лепш апэраваць эўрапейскімі прыкладамі, вось і Павал гаворыць, што мы — Эўропа.

Вы, Юры, некалькі разоў ужывалі тэрмін «грамадзкія інстытуты» і згадвалі Злучаныя Штаты. Я паўтаруся, што ня ведаю нацыі, дзяржавы, дзе грамадзкія інстытуты былі б збудаваныя без нацыянальнай ідэі.

Праўда, цяпер гэта ўжо нібыта нямодна, кажуць, што нацыянальная ідэя скончылася ў XX стагодзьдзі, але мы — недабудаваная нацыя, і наш прэзыдэнт — люстэрка гэтага. Ён мае посьпех, бо адлюстроўвае стан электарату. Але відавочна, што ўжо трэба пайсьці наперад.

Калі зірнем на эўрапейскія краіны, такія, як Нямеччына, то ўбачым, што ў эпоху глябалізацыі робіцца актуальным патрыятызм, і ня толькі канстытуцыйны, але і нацыянальны. Я як германіст магу сказаць, што калі б немцы не былі нацыяй у звыклым сэнсе, яны б усе свае інвэстыцыі вывезьлі туды, дзе танная працоўная сіла, і беспрацоўе ў Нямеччыне было б яшчэ большым, чым цяпер. У апошнія два гады беспрацоўе там зьмяншаецца. І гэта ў значнай ступені ёсьць вынікам таго, што нямецкія прадпрымальнікі, якія нібыта цалкам урасьлі ў глябалізацыю, паводзяць сябе, як патрыёты, думаюць ня толькі пра свае прыбыткі, але і пра тое, як заняць працай суайчыньнікаў. Паглядзіце на паводзіны нямецкіх энэргетычных канцэрнаў адносна Францыі, Італіі, Расеі, балтыйскіх краінаў. Яны паводзяцца патрыятычна. Крэольская нацыя такога ня зробіць. Калі вы зірнеце на Лацінскую Амэрыку, то ўбачыце, што там няма стрыжнёвай нацыянальнай ідэі, многія краіны застаюцца бананавымі рэспублікамі.

**Дракахруст:** Спадарыня Алексіевіч, Вы ўжо назвалі адзін інстытут, на якім цяпер спрабуюць збудаваць беларускую нацыю. Гэта — прэзыдэнт, прычым не пасада прэзыдэнта, а канкрэтная асоба, якая гэтую пасаду займае — Аляксандар Лукашэнка. У пэўным сэнсе ўлада будуе беларускую нацыю як народ Лукашэнкі. Пакуль гэтая мадэль неяк працуе. Што будзе, калі ён сыдзе — так ці інакш? Ці не атрымаецца, што ня толькі палітычная сыстэма, але і нацыянальнае адзінства, збудаванае толькі на гэтым стрыжні, можа пахіснуцца і нават рассыпацца?

**Алексіевіч:** Фэномэн Лукашэнкі трымаецца ня толькі на ягоных асабістых якасьцях. І адзінае, у чым я згодная з Паўлам, што апазыцыя ў нас кволая і кепска вучыцца, яна не жыве ў сьвеце сучасных выклікаў. Трэба аддаць належнае Лукашэнку: ён вучыцца хутка, ён падобны на тое, што Арналд Тойнбі называў «палітычнай жывёлай». І тут мы ўсе атрымалі паразу. Ён інтуіцыяй спаралізаваў уласны

народ, «падкінуў» яму ніжні ўзровень спажываньня. Нацыю нівэлявалі да вульгарнага ўзроўню спажываньня, наконт чаго ўвесь сьвет крыкам крычыць, што гэта — шлях у пустэчу. А ў нас яшчэ называецца прагрэсам.

Лукашэнка зьмікшаваў пераход у гэтую новую, незразумелую, страшную прастору, і ягоныя асабістыя якасьці супалі з часам. Ён даў адчуваньне, што нічога ў сьвеце не памянялася. Пётра ўжо казаў, што гэта было за чужы кошт, але савецкасьць у ім — якраз тое, на чым трымаецца і сам ён, і ілюзіі народу.

У мяне ёсьць дом у вёсцы, каб жыць сярод звычайных людзей, а не на пісьменьніцкіх лецішчах. І там адзін селянін мне сказаў: «А вось сыдзе Лукашэнка — і будзе ж жахліва, будзе ж хаос». І я ўбачыла, чаго баяцца людзі, чаго баіцца намэнклятура, якая, магчыма, і ненавідзіць яго, паколькі ён прыніжае яе, трымае ў страху, чаго баяцца сяляне, якія атрымліваюць мізэрныя заробкі, але ж хочаш — дзьве каровы трымай, хочаш — дзесяць. Яны баяцца, яны чуюць той хаос, які прыйдзе. Бо падаўленая ўсялякая сіла супраціву, сіла ідэі, сіла альтэрнатывы. Застаецца тое, што ёсьць у моладзі. Павал казаў, што людзі, асабліва моладзь, адчуваюць сябе ў асобнай дзяржаве, што мы тут — беларусы, а там — расейцы. Гэта як у Расеі. На чым трымаецца сёньня расейскае антызаходніцтва, асабліва сярод моладзі? На крыўдзе: падмануў Захад, не падтрымаў, не прыняў на роўных. На чым трымаецца адчуваньне, што мы беларусы? На крыўдзе на расейцаў: яны багатыя, а мы... Крыўда — гэта кепскі падмурак. Няздольнасьць мяняцца спараджае ахвяру, а гэта вельмі агрэсіўная істота. І я думаю, што нас чакае цяжкі час. І ён прыйдзе.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, для Вас гэтае пытаньне, магчыма, далікатнае, але які Ваш адказ на



яго? Ці не атрымаецца так, што калі Лукашэнка, раней ці пазьней, з тых ці іншых прычынаў, сыдзе, то беларуская дзяржава «сыдзе» разам зь ім?

**Якубовіч:** Сьвятлана істотна падняла плянку размовы. Я зь ёй шмат у чым згодны, але хачу сёе-тое ўдакладніць. 10 гадоў таму я браў інтэрвію ў Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі. І ён тады сказаў: *«Я ў чымсьці разумею канцлера Сапегу. Перада мной стаяць у пэўным сэнсе тыя ж праблемы»*.

І сапраўды, у Беларусі шмат у чым праблемы тыя ж, што былі ў Вялікага Княства Літоўскага. Сьвятлана гаворыць пра крыўды. Я б ня стаў пераводзіць іх у эмацыйную плашчыню. Але ж, сапраўды, сёлета ў студзені нашу краіну — і левых, і правых, і праваслаўных, і каталікоў, — «Газпром», як бранiраваны кулак, спрабаваў паставіць на калені. Прычым вельмі прагматычна: ці здавайце вашую прамысловасьць нашым прадпрымальнікам, ці мы адключаем вам газ. Дзякаваць Богу, у адказ гэтыя людзі атрымалі цьвёрдую і халодную непахіснасьць, хаця, зразумела, ані праблема ня вырашаная, ані больш шырокае пытаньне гістарычнага выбару.

Захад гэтак жа холадна паставіўся да такой сытуацыі, маўляў, вы там блізкія адно аднаму, дык і вырашайце свае справы, а мы з-за плоту паглядзім, чым гэта ўсё скончыцца.

Вось першае маё ўдакладненьне. Другое — наконт расейскага князя Івана Каліты. Ён у гісторыі застаўся неадназначнай фігурай, але, на мой погляд, галоўнае ў ягонай дзейнасьці было ня тое, што ён далучыў некалькі княстваў да свайго Маскоўскага, а тое, што захаваў дзяржаўнасьць і выхаваў у людзей, асабліва ў моладзі, поўную адсутнасьць страху перад Ардой. І таму, калі ён памёр, зьявіліся і Сергій Радонескі, і Дзьмітры Данской.

Мне здаецца, галоўная заслуга Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў тым, што ён захаваў Рэспубліку Беларусь, захаваў чалавечы, духоўны патэнцыял, зь якога ўсё потым створыцца — і грамадзянская супольнасьць, і ўпэўненасьць, што мы беларусы, а Масква для нас — сталіца вельмі дружалюбнай дзяржавы, але ня больш за тое. Гэтак, як і Варшава. Што мы — частка Эўропы. Але гэты пэрыяд трэба пераджыць.

Сьвятлана, як знакаміты літаратар, выказала тое, што хвалюе нас усіх — нас чакае цяжкі час. І рыхтуючыся да яго, неабходная ўнутраная кансалідацыя. І тое, што такая кансалідацыя ёсьць — на мой погляд, галоўная заслуга Лукашэнкі і часу Лукашэнкі, пры ўсіх экстравагантнасьцях прапаганды, нехлямяжасьці літаратараў і кампазытараў і адсутнасьці агульнанацыянальных дыскусіяў. Я, дарэчы, за іх — Польшча сваім «круглым сталом» паказала, як гэта важна. Але самае галоўнае — вырастае новы народ.

**Дракахруст:** Пятро Садоўскі, а Вы ці пагаджаецеся з такой аптымістычнай ацэнкай? А ці ня можа атрымацца наадварот, што сыстэма, збудаваная на адной асобе, рассыплецца пасьля яе сыходу? І не квітнеючы сад застанецца пасьля яе, як абмаляваў нам Павал Якубовіч, а пустыня.

**Садоўскі:** Мне здаецца, што Павал усё ж не казаў пра квітнеючы сад. А што да Вашага пытаньня, то мяркую, што нічога страшнага ня будзе. Мы проста вернемся ў 1990—1991 гады і будзем шкадаваць пра страчаны час. Але нашае шкадаваньне, а таксама выгляд квітнеючага саду ці развалінаў будуць залежаць ад таго, як доўга мы будзем жыць так, як жывем, як здолее вырасьці бізнэс, і ня толькі буйны, а той, што ў вёсках і райцэнтрах.

Я думаю, што пасьля сыходу нашага прэзыдэнта будзе развал маленькага Савецкага Саюзу.



Мы павінныя разумець тое, што па-расейску называецца «привходящие обстоятельства».

Вось мы глядзім на Расею і зайздросьцім ёй. Але хай Расея падзякуе Злучаным Штатам за тое, што яны ваююць на нафтаносным Усходзе.

Расейцы разумеюць, што некалі гэта скончыцца, і дай Бог ім свае шалёныя даляры разьмясьціць як трэба. І мы тое ж самае. Маем расейскі рынак, які пакуль што нешта ў нас купляе, і мы 12 гадоў тут трошкі «жыравалі». Усё залежыць ад зьнешніх абставінаў.

## Ад любві да нянавісьці...

**Дракахруст:** Спадар Садоўскі, я б хацеў пагаварыць якраз пра тое «жыраваньне», пра якое Вы казалі.

**Садоўскі:** «Жыраваньне» вельмі адноснае.

**Дракахруст:** Так, але шмат эканамістаў гавораць пра сапраўдны спажывецкі бум, які назіраецца ў Беларусі, сьведчаньне чаму — значны рост пакупак аўтамашынаў і неймаверны рост цэнаў на нерухомасьць, асабліва ў сталіцы.

І гэта пры тым, што якраз улада пасьля беларуска-расейскай «нафтагазавай вайны» крыкам крычыць, што трэба рыхтавацца да горшых часоў, зацягваць паясы, сьведчаньне чаму — дэкрэт Лукашэнкі пра эканомію. А народ нібыта ня чуе, нібыта сам сабе гаворыць: «Нічога, наш “бацька” ўсё адно неяк выкруціцца». І працягвае купляць, купляць, купляць... Ці не стварае гэта сапраўды псыхалягічнай пасткі і для ўлады, і для народу? І чым гэтая сытуацыя можа скончыцца?

**Садоўскі:** Мне здаецца, што адказ тут вельмі просты, і таямніцы ніякай няма. Ёсьць дасьледаваньні

наконт спажывецкіх бумаў. Скажам, у Нямеччыне такі бум назіраўся ў часы Адэнаўэра і Эргарда. У краінах пераходнага пэрыяду такія бумы назіраюцца, калі ёсьць трывога і няўпэўненасьць у эканамічным разьвіцьці краіны. Калі б была адкрытая эканоміка, калі б быў свабодны бізнэс, людзі панесьлі б свае грошы ня ў банкі, а куплялі б акцыі і каштоўныя паперы, пра што Станіслаў Багданкевіч гаворыць ужо 10 гадоў. Людзі б не куплялі другой машыны, трэцяга мабільніка, другой кватэры. Людзі сапраўды баяцца, я тут са Сьвятланай абсалютна згодны, яны ня ведаюць, што будзе заўтра. Бо што з таго, што людзі панясуць грошы ў банкі?

Я сам у банку паўтара году працаваў і ведаю, калі прадпрыемства атрымлівае грошы не за кошт продажу акцыяў, а бярэ крэдыт — становіцца даражэйшай вытворчасьць, растуць цэны.

На сёньняшні дзень спажывецкі бум — гэта своеасаблівая форма ашчаджэньня, людзі ўкладаюць грошы ў машыны, кватэры, тэлевізары. Ня ўсе разумеюць, што тыя высокія заробкі, якія мы атрымлівалі апошнія гады, — незаробленыя. Асабліва гэта зразумела, калі паглядзець на інфляцыю, на рэнтабэльнасьць прадпрыемстваў, на ўліваньне ў іх грошай. Гэта незаробленыя заробкі. І людзі сьпяшаюцца іх патраціць на ўсякі выпадак, каб на «чорны дзень» не застацца безь нічога.

Пастка тут такая, што сынэкура аднойчы скончыцца, давядзецца жыць па сродках, будуць даяжджаць аўтамабілі, дапрацоўваць пральныя машыны. І ўсё пачнецца спачатку.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, а як бы Вы ахарактарызавалі гэты цікавы фэномэн? У чым яго прычына, акрамя, зразумела, росту жыцьцёвага ўзроўню: недавер да дзяржавы, пра які казаў спадар Садоўскі, ці наадварот — залішні давер?



**Якубовіч:** Гэта пытаньне інтэрпрэтацыі. Можна зайсьці сёньня ў любую віленскую краму, кшталту «Акраполіс», і ўбачыць велізарную колькасьць людзей, якія купляюць, прычым гэта не беларусы, а літоўцы. Але пры тым нельга сказаць, што літоўцы, паводле схемы Пятра, так ужо баяцца заўтрашняга дня. Людзі хочуць жыць сёньня і цяпер, і калі ёсьць магчымасьць набыць машыну, то яе купляюць.

З аднаго боку, людзі сталі жыць крыху лепш. Я, Юры, не казаў ні пра сады квітнеючыя, ні пра бум вар'яцкі, якога няма. Ёсьць цяжкое жыцьцё, і нездарма зьяўляюцца дырэктывы, якія нагадваюць: не расслабляйцеся, мы вельмі бедная дзяржава. Многія людзі ня вельмі крытычна ставяцца да ацэнкі сваіх пэрспэктываў, існуе грамадзянскае ўтрыманства: маўляў, ёсьць прэзыдэнт, ён ведае, як будзе сёньня, заўтра і пасьлязаўтра. І хаця прэзыдэнт увесь час кажа, што трэба разьлічваць на сябе, а дзяржава зробіць тое, што яна можа зрабіць, вера ў правадыра — гэта частка нашай мэнтальнасьці.

Чалавек павінен ведаць, што найлепшыя інвэстыцыі — гэта інвэстыцыі ў дзяцей, адукацыю, нерухомасьць, ён не павінен чакаць, калі выканкамаўская чарга падыдзе, а сам думаць. Спадзеў на правадыра — гэта мэнтальная скрыўленасьць, рудымэнт сацыялістычнай мінуўшчыны, а ня нешта, што «падкідае» прапаганда. І я лічу, што грамадзтва, якое ўсур'ёз разважае наконт будучыні, павінна разумець, што будучыня залежыць ад таго, як кожны канкрэтны чалавек гэтую будучыню сабе ўяўляе.

**Дракахруст:** Спадарыня Алексіевіч, а ў Вас які погляд на гэтую праблему?

**Алексіевіч:** Я бачу яе крыху інакш. Я мяркую, што мы — не асобныя людзі, і ня ўсё тут залежыць ад мясцовых умоваў. Сёньня толькі ў краінах іслаа-

му яшчэ працуе энэргія рэлігіі. А ў астатнім сьвеце скончыўся час вялікай гісторыі. Людзі расчараваліся ва ўсіх ідэях і містычных сэнсах. І беларусы — нацыя, якая спазьнілася зь недабудаванай дзяржавай, сыходзіць зь вялікай гісторыі ў сваю маленькую і кажа: «Чума на абодва вашыя дамы! Ёсьць сёньня і цяпер, і я хачу жыць сёньня». Гэта мы, наіўныя шасьцідзясятнікі, думалі, што разваліцца ўсё, і людзі кінуцца каяцца, будаваць дзяржаву, вучыцца свабодзе, а яны кінуліся вучыцца жыць. Яны, як дзеці, усё спрабуюць. Мне даводзілася сустракацца з расейскімі алігархамі — Беразоўскім і Абрамовічам. І здавалася б — людзі ўсё маюць, але нават яны выхваляюцца тым, што набылі.

Мы, беларусы, яшчэ недафармаванае цела, а цябе выкідаюць у дарослае жыцьцё. На пэўны час аўтарытарны лідэр нібыта абараніў грамадзтва, зрабіў такую сумесь турмы і дзіцячага садка. Але ва ўсім сьвеце ўсталёўваецца, а ў нас, на непадрыхтаванай глебе, хутчэй і жахлівей — дыктатура маленькага чалавека, які хоча смачна есьці і мала працаваць. У сваім доме я паспрабавала памяняць газавую пліту. Дык два дні трэба сядзець на тэлефоне, 10 дзяўчат адказваюць вам, але ніхто не адказвае за вынік. І, можа, праз месяц да вас хтосьці прыедзе. Яны атрымліваюць новыя заробкі, пэўна ўжо езьдзяць на патрыманых машынах з Захаду, але ўменьне працаваць — усё тое ж. Іх навучылі толькі хацець.

Лідэр сам не падазрае, якая небясьпека, перш за ўсё для яго, але і для народу — дыктатура маленькага чалавека, дыктатура яго любові. Але калі ён будзе расчараваны, калі гэтага ўсяго яму не дадуць, а ён толькі ўвайшоў у смак — якой страшнай будзе яго нянавісьць. І няма чаго замілоўвацца такім дзіцячым садком, які хоча жыць. Мы — як дзеці, і гэта вельмі страшна для ўсіх нас.



# Каму належыць спадчына БНР?

Чаму ўлада Беларусі і вялікая частка беларускага грамадзтва адмаўляюць Беларускай Народнай Рэспубліцы ў гістарычнай значнасьці? Прычына — у няведаньні ці ў нечым іншым? Якая палітычная і дзяржаўная будучыня ў сьвята 25 сакавіка?

**24 сакавіка 2008**

Удзельнікі: Валянцін Акудовіч, Сямён Букчын, Захар Шыбека

## «Спадчына БНР належыць гісторыі?»

**Дракахруст:** Чыёй спадчынай зьяўляецца БНР? Ці толькі тых, хто сьвяткуе 25 сакавіка? Прычым размова — ня толькі пра фармальна-гістарычны бок, але і пра ідэйны. Адкрыўшы знакамітую Трэцюю ўстаўную грамату БНР, чытаем: *«Права прыватнай уласнасьці на зямлю касуецца».* Гэта ж амаль што дакладна — пытаньне рэфэрэндуму 1996 году. Дык каму ж належыць спадчына БНР?

**Шыбека:** Гэта — скарб, пра які беларускі народ яшчэ недастаткова ведае. Гэта — падзея калясальнай важнасьці, і яна належыць усяму беларускаму народу. Адзіная праблема — усьвядоміць значэньне і важнасьць 25 сакавіка 1918 году.

Паводле сваёй ідэалягічнай накіраванасьці, БНР была сацыялістычнай дзяржавай, таксама як, дарэчы, і БССР. У гэтым быў трагізм нашай гісторыі, што мы змаглі выпрацаваць два сацыялістычныя дзяржаўныя праекты, і не было альтэрнатыўнага, больш правага, больш лібэральнага праекту дзяржаўнасьці.

Чаму так здарылася, што мы ня ведаем пра свой скарб, пра гэтую спадчыну? Усё тлумачыцца ідэалягічнай барацьбой паміж стваральнікамі БССР і БНР. Па сутнасьці, і адны і другія былі сацыял-дэ-

макратамі, сацыялістамі. Так склалася, што больш прымальнай для нашага народу аказалася сацыялістычная ідэалёгія. І гэта была, можна сказаць, унутрыпартыйная барацьба, толькі з рознай арыентацыяй — на Ўсход і на Захад, і ў большай ступені — на незалежнасьць.

**Дракахруст:** Сямён Букчын, а як бы Вы адказалі на пытаньне, каму належыць спадчына БНР?

**Букчын:** На маю думку, спадчына БНР сёньня найбольш належыць гісторыі і гісторыкам, у тым ліку і паважанаму Захару Шыбеку. Але трэба зьвярнуць увагу на тое, што апошнія 10 ці нават больш гадоў, як толькі набліжаецца гэтая дата, нешта ў грамадзтве адбываецца. Калі выйсьці на вуліцу і спытаць у мінакоў, дык яны пачнуць моршчыць лоб і прыгадваць, што нешта такое даўно было, і разам з тым дата небясьпечная.

Усё ж такі гэтая дата за апошнія гады паволі ўвайшла калі не ў сьвядомасьць, то ў нейкі побыт. Яна жыве разам з грамадзянінам Беларусі, як бы ён да яе ня ставіўся.

А тое, што самое сьвяткаваньне, самая дата не набылі шырокага гучаньня, — гэта, зразумела, наша палітычная сытуацыя. Калі б яна была іншай, то можна ўявіць сабе, якія перадачы былі б на тэлебачаньні, якія фільмы паказвалі б. Дарэчы, каб неяк калі не прымірыць, то хаця б паказаць гэтыя дзьве гістарычныя плыні — бальшавіцкую і нацыянальную, прайшлі б нармальныя палемікі. Не такія, якія мы памятаем з часоў перабудовы і першых гадоў незалежнасьці, са злосьцю, а нармальныя навуковыя палемікі, зь якіх шмат чаго б мы даведаліся. Дарэчы, даведаліся б пра біяграфіі многіх людзей. І гэта было б вельмі добра, бо адрадзіўся б важны пэрыяд беларускай гісторыі.



А што тычыцца Трэцяй устаўной граматы, то спадар Шыбека абсалютна мае рацыю: стваральнікі БНР былі сацыялістамі і кіраваліся сацыялістычнымі лёзунгамі.

**Дракахруст:** Валянцін Акудовіч, Сямён Букчын пачаў свой адказ зь яскравай тэзы, можа, крыху правакацыйнай, што спадчына БНР належыць гісторыі, хаця ўсім сваім адказам, можа, удакладніў, а можа, і абверг сваю тэзу. Дык усё ж спадчына БНР належыць гісторыі ці не?

**Акудовіч:** Я тут са сваімі калегамі мушу проста пагадзіцца. Галоўнай падзеяй у стварэньні Беларускай Народнай Рэспублікі было стварэньне дзяржавы. І таму БНР ёсьць неад'емнай спадчынай кожнага грамадзяніна Рэспублікі Беларусі. І Аляксандра Лукашэнкі ў тым ліку. Ці перадусім менавіта яго, бо ён зьяўляецца першым прэзыдэнтам незалежнай беларускай дзяржавы, якая ёсьць ня чым іншым, як правапераемніцай Беларускай Народнай Рэспублікі, хаця юрыдычна гэта не аформленае і нават публічна не дэкляруецца.

А што да праграмы БНР, то мы чамусьці ўвесь час акцэнтуем у ёй нацыяналістычны аспэкт. Але рэалізацыя нацыянальнай ідэі як такой не была галоўнай мэтай гэтай праграмы. Праграма па сутнасьці, пра што ўжо казалі мае калегі, была сацыял-дэмакратычнай. І гэта цалкам натуральна, бо левыя ідэі панавалі тады ўва ўсёй Эўропе, і сярод стваральнікаў БНР рэй вялі беларускія сацыял-дэмакраты.

### Для каго і чаму 25 сакавіка — ня сьвята?

**Дракахруст:** Спадар Букчын, чаму значная (магчыма, пераважная) частка беларускага грамадзтва і цяперашняя ўлада Беларусі не ўспрымаюць 25 сакавіка, дзень стварэньня БНР, як вялікую дату сваёй

беларускай гісторыі, адмаўляюцца прыняць яе ў свой нацыянальны міт? У чым тут прычына: у знакамітай тэлеграме кайзэру, у тым, што незалежнасьць была аддзяленьнем ад Расеі, разрывам зь ёй, у тым, што стваральнікі БНР гаварылі па-беларуску?

**Букчын:** Калі з апошняга пачаць, дык мне здаецца, што Вы, Юры, лісьлівіце перад шараговым беларусам, што ён ведае і пра тэлеграму кайзэру, і пра разрыў з Расеяй, і што стваральнікі БНР гаварылі па-беларуску. Калі б сярэдні беларус такое ведаў, дык шапку перад ім трэба было б здымаць за ягоную дасьведчанасьць. Ды ня ведае ён гэтага.

І мне ўсё ж здаецца, што хаця мы і гаворым, што гэта агульная дата, трэба адрозьніваць аб'ектыўны бок справы ад адносінаў да комплексу праблемаў, зьвязаных з БНР, улады і насельніцтва. Усё ж такі ўлада свой радавод вядзе ад Савецкага Саюзу і бальшавіцкай ідэалёгіі. Хаця гэта больш інструмэнт прапагандысцкі, але іншаму яна не давярае, ня любіць і выкрывае як свайго ворага.

А што тычыцца насельніцтва, то нічога людзям пра гэта не распавядаюць. Мы вельмі ўдзячныя і Грыцкевічу, і спадару Шыбеку, і іншым нашым гісторыкам, але стварэньне БНР ня стала фактам шырокага грамадзкага жыцьця, ня стала прадметам прапаганды. Трэба было больш расказваць пра БНР, мусілі быць фільмы мастацкія, дакумэнтальныя, партрэты яе стваральнікаў. Гэта не адмяняла б і дыскусіяў.

Таму вось так яно сталася. І толькі тыя маладзёны, якія хочуць быць беларусамі, начыталіся гісторыі, прынялі яе да свайго сэрца, у свой розум і з гэтым жывуць. Але, на жаль, яны меншая частка нашага грамадзтва. Астатняя і, на жаль, большая частка, падыходзіць да гэта насьцярожана, бо яны ня ведаюць пра стварэньне дзяржавы ў 1918 годзе.



**Дракахруст:** Спадар Акудовіч, ці згаджаецеся Вы з апошняй тэзай спадара Букчына, што значная, магчыма большая, частка грамадзтва ставіцца да БНР насьцярожана, бо ня ведае яе? У адпаведнасьці з такім асьветніцкім падыходам казаў і спадар Шыбека. У мяне вось такое пытаньне: а што б людзі маглі даведацца пра БНР, які факт зь яе гісторыі мог бы кардынальна зьмяніць іх уяўленьне? Цяпер ужо і на ўзроўні школьнай праграмы людзі ведаюць, што БНР была абвешчаная ў разгар вайны, што праз некалькі месяцаў яна была разгромленая. Дык ці справа ў ведах, ці ў нейкіх іншых фактарах, якія культурна, палітычна адсланяюць людзей ад гэтай даты, ад гэтай падзеі?

**Акудовіч:** З аднаго боку, я салідарызуюся са спадаром Букчыным у тым, што калі б сапраўды ведалі шырока ў грамадзтве пра БНР, дык адносіны і стаўленьне былі б трохі іншымі. Але беларусы ў сваёй масе не сьвяткуюць і не адзначаюць 25 сакавіка, бо ім не загадалі сьвяткаваць гэтую падзею.

Яшчэ зусім нядаўна ўся краіна сьвяткавала дзень Кастрычніцкай рэвалюцыі. І зь якім размахам, колькі песень сьпявалася, колькі гарэлкі выпівалася! А перастала ўлада гэтае сьвята падтрымліваць, нават пакінуўшы гэты дзень сьвяточным, і ператварыўся ён у немаведама што.

Разам з тым я недзе згодны з вашай прыхаванай тэзай, што ўсё ня так проста, што нават калі б беларусы сёньня больш шырока ведалі пра гэтую падзею, пра сутнасьць БНР і яе праграму, дык пэўная адчужанасьць у шырокіх масах заставалася б. Бо тыя нацыянальныя каштоўнасьці, якія ўсё ж вылучала БНР, застаюцца для вялікай колькасьці беларусаў чужымі. У асноўнай сваёй масе яны і па сёньня да нацыянальнай ідэі, мовы, беларускай культуры як такой ставяцца досыць насьцярожана. Так што пакуль гэ-

тая перасьцярога адносна нацыянальных каштоўнасьцяў у грамадзтве будзе, да той пары стварэньне БНР будуць сьвяткаваць і адстойваць гэтую падзею толькі нацыянальна заангажаваныя людзі.

**Дракахруст:** Спадар Шыбека, у мяне да Вас тое ж «дзіцячае» пытаньне. Вось кажуць — людзі ня ведаюць. А што б яны маглі даведацца пра БНР, каб зьмяніць сваё стаўленьне? Я мяркую, што шараговы паляк таксама пра Дзень незалежнасьці Польшчы ня ведае ўсіх дэталяў. Але яму дастаткова, што ў гэты дзень Польшча была абвешчаная незалежнай.

**Шыбека:** Тут трэба ўлічваць ня толькі фактар веданьня, але і мэнтальнасьць нашага народу, ягонае стаўленьне да такой каштоўнасьці, як незалежнасьць. Хаця тут ня столькі праблема няведаньня БНР і недасьведчанасьці насельніцтва, колькі праблема яе няведаньня беларускай элітай.

Так склалася, і гэта заўважыла Астрыд Зам, вядомая нямецкая дасьледніца Беларусі, што нас падзяляюць ідэалягічныя барыкады. БНР і БССР зьяўляюцца такой трывалай барыкадай, якая захоўваецца да гэтага часу. Таму тыя эліты, якія вядуць свой радавод ад БССР, не ўспрымаюць БНР.

У цяперашніх уладных элітаў існуюць тры асноўныя міты. Першы — БНР стварылі нацыяналісты, другі — буржуі, і трэці — яны абвясьцілі БНР пад нямецкай акупацыяй, адштурхоўваючыся ад Расеі. Гэтыя тры грахі, якія стаяць на шляху разуменьня дзейнасьці БНР.

Што тычыцца нацыяналізму, то спадар Акудовіч ужо адзначыў, што нацыяналізму і бракавала дзеячам БНР. Нават у тых умовах мы былі больш інтэрнацыяналістамі, выступалі прыхільнікамі фэдэрацыі ці канфэдэрацыі зь Літвой, Украінай, Расеяй ці Польшчай. Нацыяналізму нам тады якраз і не хапала, а менавіта ён быў ідэалёгіяй, якая забясьпечвала сувэрэннасьць і самастойнасьць. Фінляндыя і Польшча былі дастаткова нацыяналістычнымі, таму і захавалі сваю незалежнасьць.



Другі міт — стваральнікамі БНР былі нейкія памешчыкі і буржуі, якія хацелі прыгнятаць беларускі народ, абапіраючыся на Захад. Тут мы ўжо таксама казалі, што буржуазнасьцю і не патыхала, што гэта была сацыялістычная і па сутнасьці савецкая дзяржава, паўсюль у Беларусі тады абіраліся Рады — тыя ж Саветы.

І самы «страшны» момант, які, можа, найбольш адштурхоўвае сёньняшняе кіраўніцтва: гэтая дзяржава была абвешчаная пад нямецкай акупацыяй. Нібыта немцы стварылі нам гэтую дзяржаўнасьць. Людзі ня ведаюць пра тое, што БНР стваралі абраньнікі беларускага народу, дэлегаты Ўсебеларускага зьезду ў сьнежні 1917 году. Тады сабраліся 1872 дэлегаты, якія рэпрэзэнтавалі практычна ўсю Беларусь. І дзеячы БНР выканалі наказ гэтага зьезду: стварыць Беларускую Народную Рэспубліку, прычым насуперак волі нямецкіх акупантаў.

Што тычыцца знакамітай тэлеграмы кайзэру, то ў ёй выказвалася толькі ўдзячнасьць за вызваленьне ад бальшавікоў і просьба дапамагчы стварыць беларускую дзяржаўнасьць. Там не было просьбы — узяць пад апеку, мы не прызнавалі над сабой пратэктарату Нямеччыны, мы не згаджаліся са станам сатэлітнай дзяржавы. Дарэчы, на гэта пагадзіліся літоўцы.

## Будучыня БНР

**Дракахруст:** І напрыканцы — пытаньне пра будучыню даты 25 сакавіка як індыкатару зьменаў у беларускім грамадзтве. Ці застанецца яно сьвятам часткі грамадзтва з пэўнымі палітычнымі погляда-

мі, як, дарэчы, было ў 1991—1993 гадох, да прыходу да ўлады Аляксандра Лукашэнкі, ці стане яно ўсё ж агульнанацыянальным сьвятам? І ў якім выпадку адбудзецца другое, што для гэтага патрэбна?

**Шыбека:** Ня толькі ў нашых перавагах, але і ва ўсіх недахопах, якія мы маем, і праяўляецца нашая нацыянальная адметнасьць. Што мы такія нестандартныя, што мы такія скамунізаваныя, гэтым мы вызначаемся сярод іншых.

У нас створаная фундамэнтальная база — этнічная, культурная, навуковая, для таго, каб існаваць як дзяржава. Нам толькі не хапае надзейнага даху ў гэтым будынку. Гэта вельмі важная дэталь, бо бяз даху будынак можа разваліцца.

Прызнаньне БНР — гэта якраз было б вельмі добрым крокам па ўмацаваньні нашага даху. Яно адбудзецца, я мяркую, позна ці рана. Чым хутчэй мы адмовімся ад палітызацыі гэтай падзеі, ад палітызацыі гісторыі, тым хутчэй адбудзецца прызнаньне БНР.

Спачатку 25 сакавіка стане сьвятам гісторыкаў, а потым і сьвятам усяго народу. Цяпер гэта ўжо сьвята пэўнай часткі нашага грамадзтва, якая цэніць грамадзянства Беларусі, каштоўнасьць дзяржавы, а потым яно стане сьвятам усяго народу, у тым ліку і нашага кіраўніцтва. Я ў гэта вельмі моцна веру.

**Букчын:** Я не прарок, гісторыя апошніх 15—20 гадоў, сьведкамі і ўдзельнікамі якой мы былі, пацьвярджае свой непрадказальны характар. Але ў што я веру абсалютна — заўсёды будуць людзі (не бяруся сьцвярджаць, будзе іх больш ці менш), якія будуць помніць пра гэтую дату, будуць сьвяткаваць яе, будуць дасьледаваць гісторыю БНР. БНР і 25 сакавіка — гэта абсалютна незьнішчальная зьява, памяць людзей, якія хочуць памятаць і гэтым жыць.



**Дракахруст:** Валянцін Акудовіч, а на Ваш погляд, ці доўга будзе гэтае сьвята сьвятам толькі, як Вы пісалі ў сваім эсэ, «архіпэлягу Беларусь», ці стане яно сьвятам усяго беларускага «акіяну»? І ці ёсьць гэтае пытаньне — стане ці ня стане 25 сакавіка агульнанацыянальным сьвятам, індыкатарам стану беларускага грамадзтва?

**Акудовіч:** Калі пачаць з канца пытаньня — пра індыкатар, то ў пэўным сэнсе гэта сапраўды так. Але я хацеў бы вярнуцца да заўвагі, што дзень стварэньня БНР не сьвяткавалі на дзяржаўным узроўні і да таго часу, як да ўлады прыйшоў Аляксандар Лукашэнка. Ведаеце, тады было моцнае камуністычнае лобі, каб не дапусьціць гэтага сьвята ў рэестар дзяржаўных. Яшчэ падчас існаваньня камуністычных сілаў нацыянальна-дэмакратычны рух, які быў у апазыцыі да іх, уключыў дзень стварэньня БНР у якасьці аднаго з асноўных ідэалягічных начыньняў сваёй праграмы.

І вось прыйшоў Аляксандар Лукашэнка. Для яго галоўнай сілай, якую трэба перамагчы, быў нацыянальна-дэмакратычны рух. І ўсё, што адстойваў гэты рух — мова, БНР, нацыянальная гісторыя і культура, — сталася палітычным супраціўнікам, калі заўгодна, ворагам гэтай новай улады. І яна зрабіла ўсё, каб нагрузіць адмоўнымі канатацыямі і ацэнкамі падзеі БНР. БНР у пэўным сэнсе апынулася нявольным закладнікам палітычнай барацьбы.

Цяпер, калі ўлада амаль ушчэнт разьбіла апазыцыю, незалежніцкія сілы, яна магла б вярнуць БНР легітымнасьць і адносна самой сябе. Калі гэтая ўлада праіснуе яшчэ доўга, то, мяркую, яна так і зробіць. У сутнасьці БНР няма нічога, што асабліва пярэчыла б сёньняшняй уладзе. Нікуды ў будучыні ўладам Беларусі не падзецца ад легітымізацыі гэтага сьвята, гэтай падзеі як дзяржаўнай.

## Лёс спадчыны Лукашэнкі

Што са спадчыны Аляксандра Лукашэнкі застанецца пасьля яго сыходу? Ці застанецца Беларусь аўтарытарнай дзяржавай? Ці зьменіцца яе цяперашні савецкі антураж?

**28 ліпеня 2008**

Удзельнікі: Сьвятлана Алексіевіч, Андрэй Дынько, Аляксандар Фядута

### Што застанецца пасьля?..

**Дракахруст:** Што са спадчыны Аляксандра Лукашэнкі захаваецца ў жыцьці Беларусі пасьля яго сыходу? Цяпер такая пастаноўка пытаньня здаецца недарэчнай, прыкметаў таго, што сыход адбудзецца хутка, пакуль няшмат. Але такое пытаньне — спосаб паразважаць, штó ў нашым сёньняшнім жыцьці — бягучае, часовае, абавязанае асаблівасьцям цяперашняга кіраўніка краіны, а што — больш трывалае, доўгатэрміновае.

Часам мары і нават развагі пра тое, «што будзе, калі...», зводзяцца да спадзеву, што гады кіраваньня Лукашэнкі пасьля яго сыходу разьвеюцца, як кепскі сон, і беларусы прачнуцца ў чэрвені 1994 году. Аднак, назіраючы за наступствамі самых выбітных «каляровых» рэвалюцыяў апошніх гадоў, часта прыходзіш да высновы, як мала там па сутнасьці зьмянілася, і што матрыца, зададзеная аўтарытарнымі ўладарамі, засталася непахіснай.

Давайце паспрабуем спрагназаваць, што ж зь сёньняшняй спадчыны застанецца ў будучыні. Пачнём з дэмакратыі. Цяпер яе няма. А будзе? Хіба досьвед кіраваньня Лукашэнкі ня будзе спакусай для ягоных пераемнікаў, нават калі яны будуць паходзіць з самай дэмакратычнай апазыцыі? Яны ж будуць ведаць, што можна і так.



А з другога боку — ці не атрымаецца так, што прыйдзе сапраўдная дэмакратыя, а празь некаторы час народ скажа: «Пры Лукашэнку быў парадак, а цяпер — бардак»? Аляксандар Фядута, Вам першаму пытаньне.

**Фядута:** Захаваецца, на мой погляд, гэтая спадчына. І ў мяне ёсьць дзьве падставы так лічыць. Папершае, правесьці эканамічныя і палітычныя рэформы можна, толькі выкарыстоўваючы аўтарытарныя мэханізмы ўлады. І менавіта дзеля таго, каб дэмакратыя ўсталявалася хутка, новая ўлада павінна будзе дзейнічаць гэтак жа аўтарытарна, як Лукашэнка.

А па-другое, сёньняшнія лукашэнкаўскія апанэнты маюць той жа самы палітычны досьвед, што і ён. Яны не зьяўляюцца, уласна кажучы, дэмакратамі: паглядзіце, што адбываецца ў Партыі БНФ, паглядзіце, як паводзяць сябе прадстаўнікі Аб'яднаных дэмакратычных сілаў, калі размова ідзе пра спробу абмеркаваць іх пазыцыю і іх учынкі, і вы ўбачыце, што гэта — тое люстэрка, у якое глядзіцца Лукашэнка.

**Дракахруст:** Андрэй Дынько, ці пагаджаецеся Вы з прагнозам Аляксандра?

**Дынько:** Мне падаецца, што пытаньне, якой будзе палітычная сыстэма пасьля Лукашэнкі, застаецца адкрытым. Чым даўжэй Лукашэнка будзе трымаць уладу ў краіне, тым менш шанцаў, што сыстэма, якую ён заклаў, захаваецца пасьля яго сыходу. Такія сыстэмы «заточаныя» пад аднаго чалавека. І, як паказвае досьвед, яны не захоўваюцца пасьля сыходу гэтага чалавека.

Трэба зьвярнуць увагу, што цяперашняя сыстэма, апроч іншага, яшчэ і дысфункцыянальная. Напрыклад, мы маем парлямэнт, які не выконвае ролі парлямэнту, ён выконвае ролю легітымацыі рашэнь-

няў, якія прымаюцца выканаўчай уладай, і ня больш за тое. Гаварыць пра поўную стабільнасьць гэтай сыстэмы не выпадае, хаця словы Яна Максімюка* пра тое, што Лукашэнка заклаў элемэнты дзяржаўнасьці, якія яго пераасываць, маюць сэнс. Ён стварыў нармальную мытную сыстэму, памежную службу, падатковую службу. Ясна, што яны захаваюцца. А вось наконт Камітэту дзяржаўнага кантролю ў мяне ёсьць сумнеў.

**Дракахруст:** Сьвятлана, Андрэй падышоў да пытаньня тэхналягічна, разьбіраючы лёс дзяржаўнай сыстэмы па пэўных інстытуцыях. А калі паглядзець у цэлым: сыстэма, якая складзецца пасьля Лукашэнкі, будзе набліжанай да той сыстэмы, якая існуе ў Польшчы, Літве, ці гэта будзе толькі пэўнай мадыфікацыяй таго, што ёсьць цяпер?

**Алексіевіч:** Я мяркую, што трэба падзяляць, што зрабіў Лукашэнка, а што зрабіў час. Мытня, памежная служба — стварэньне іх прадыктаваў час, гэта робяць і суседзі. Гэта не ягоная справа.

Што ж зрабіў сам Лукашэнка? Я асьмелюся сказаць, што ён нічога новага не зрабіў. Гэта — працяг таго, што ў нас было, генэральны сакратар, толькі называецца сёньня прэзыдэнтам, з тымі ж паўнамоцтвамі і ўладай, хіба што зь непадпарадкаваньнем Маскве. А ў астатнім — сталінская арганізацыя. Я нідзе ня бачу Лукашэнкі, паўсюль тырчыць Сталін.

Мы кажам, што Сталін сышоў. А хто пасьля яго застаўся, хто застаўся нават пасьля «адлігі», пасьля хрушчоўскага бунту намэнклятуры, прыніжанай Сталіным? Застаўся сталінскі чалавек.

* *Максімюк Я.* Апазыцыя павінна перагледзець мэты // Наша Ніва. 2008. 15 чэрвеня.



Лукашэнка здолеў даказаць, што ў сацыялізму застаўся рэсурс, што ён ня выпрацаваны, што, дарэчы, гаворыць на карысьць Гарбачова, яго маштабу. Лукашэнка ўскосна даказаў, што калі б у нас былі больш разумныя кіраўнікі, то разьвіцьцё магло б пайсьці іншым шляхам, шляхам народнай дзяржавы, народнага капіталізму, а не намэнклятурнага і не прыхаванага, як у нас цяпер. Гэта быў бы шлях з арыентацыяй на маленькага чалавека.

Я не прыхільніца Лукашэнкі, але ён, на жаль, падабаецца большай частцы майго народу. Савецкі чалавек застаецца, і Лукашэнка — ягонае люстэрка.

Адзінае, што застанецца пасьля Лукашэнкі і з чым давядзецца лічыцца любому яго пераемніку — гэта тое, што дзяржава павінная быць народнай. Яна ня стала народнай, якой магла б быць, але пэўны сацыяльны кантракт з насельніцтвам быў і да апошняга часу вытрымліваўся. Ва ўсялякім выпадку, так дэкляравалася. Я мяркую, што ён увойдзе ў гісторыю як неадназначная постаць, калі своечасова і без крыві сыдзе.

## На чым трымаецца савецкасьць?

**Дракахруст:** Сьвятлана ўжо сказала пра савецкасьць структурную, зьмястоўную. А я хачу пагаварыць пра савецкасьць зьнешнюю, бо гэта таксама немалаважны чыньнік.

Беларускі рэжым, магчыма, і ня самы рэпрэсіўны на абшарах былога СССР, але ўжо пэўна — самы савецкі, хаця б паводле антуражу. І зварот «таварышы», што гучыць з вуснаў кіраўніка дзяржавы, і архітэктура, і зьмена бел-чырвона-белага сьцягу на падноўлены савецкі, і перанос Дня незалежнасьці на 3 ліпеня — дзень вызваленьня Менску ад нацыстаў. Усё заклікана стварыць уражаньне, што Беларусь

працягвае жыць у СССР. Такой канцэнтрацыі савецкасьці няма ня тое што ў Кіеве ці Вільні, але нават у Ашгабадзе ці Ташкенце.

А пасьля Лукашэнкі застанецца гэта ці не? Можа, справа ня толькі ў тым, што цяперашні прэзыдэнт — своеасаблівы рамантык савецкасьці, але і ў яго ўпэўненасьці, што гэта ў ідэалягічным сэнсе працуе, а нешта іншае працаваць ня будзе? Можа, у гэтым давядзецца даволі хутка ўпэўніцца і ягоным пераемнікам, кім бы яны ні былі?

**Дынько:** Сьвятлана Алексіевіч вельмі мудра прапанавала аддзяліць тое, што зрабіў Лукашэнка, і тое, што прадыктаваў час. У такой закрытай, ізаляванай сыстэме, як цяперашняя Беларусь, мы часам схільныя ўсё зводзіць да дзеяньняў аднаго чалавека ці, прынамсі, нейкай закуліснай групы, якая ажыцьцяўляе ўладу. Насамрэч грамадзтва залежыць ад волі і дзейнасьці мільёнаў людзей, кожны зь якіх па-свойму ўплывае на ход гісторыі, кожны зь якіх ёсьць творцам сваёй нацыі, сваёй дзяржавы і яе будучыні.

Лукашэнкаўцы старанна лепяць са свайго правадыра вобраз беларускага Ататурка, нават мянушку яму выбралі аналягічную: Ататурк — па-турэцку азначае «бацька туркаў». Туркмэнбашы, дарэчы, таксама ж «бацька туркмэнаў»...

Улада бачыць у цяперашняй сыстэме зародак вечнага рухавіка, які зможа захавацца. Але яна пры гэтым робіць адну вялікую памылку. Чаму спадчына Ататурка аказалася такой даўгавечнай, чаму ён шануецца ў сваёй краіне? Бо ён жалезнай рукой вёў сваю краіну ў будучыню, мадэрнізаваў, эўрапеізаваў яе.

Са спадчыны Лукашэнкі захаваецца тое, што было арыентаванае ў будучыню, што прадбачыла яе. А ўсё, што было арыентаванае на мінулае, аджыве. Гэта закон гісторыі.



Лукашэнка навязвае савецкую спадчыну, ён сілай заганяе грамадзтва ў савецкую «скуру». Мне падаецца, што ўсё абсыплецца і трэсьне, як толькі беларускае грамадзтва перарасьце сябе.

**Дракахруст:** Сьвятлана, вось Андрэй сказаў, што, на яго погляд, Лукашэнка «навязвае савецкую спадчыну беларускаму грамадзтву». А яно што — супраціўляецца, як нечаму абсалютна для яго чужому?

**Алексіевіч:** Я не магу, на жаль, падзяліць рамантызму Андрэя. Я днямі зайшла ў краму ў сваім раёне. Гэта цэнтар гораду, даволі заможны раён. І ўбачыла жанчыну (яна настаўніца, мы некалі зь ёй размаўлялі), якая купляе паўдзясятка яек і грамаў 200 самай таннай кілбасы. І я адчуваю, што мне сорамна побач зь ёй купляць нешта лепшае...

Я абсалютна савецкі чалавек, з савецкімі комплексамі, і я ганаруся гэтымі комплексамі. І не зьбіраюся «танчыць» перад лібэральнымі каштоўнасьцямі, дзе маленькі чалавек ня ставіцца ні ў што. Хаця я — зацятая лібэралка. Але мне не падабаецца, што маленькі чалавек выкінуты з гэтага вазка, які скача невядома куды. Арыенціру няма.

Арыенцір ёсьць у інтэлігенцыі, у маладога пакаленьня. Але мы, на жаль, — гарадзкія вар'яты ва ўласным грамадзтве, мы — маргіналы, ізгоі. Усё, пра што мы гаворым, абсалютна незразумелае і непатрэбнае майму суседу Пятру Селіверставічу, які жыве ў вёсцы побач са мной.

На чым трымаецца Лукашэнка, на чым трымаецца савецкасьць? Ня ён яе дэкляруе, ён проста зразумеў, што гэтая савецкасьць — яго адзіны шанец утрымацца.

Я памятаю, як у першыя месяцы свайго кіраваньня ён хацеў запрасіць Рыгора Яўлінскага. Тады быў іншы Лукашэнка. Але як сапраўдная «палітычная

жывёла» ён унюхаў, што народ жа іншы. Тут пра дэмакратыю ведае толькі пара інтэлігентаў, ды і тое ім толькі здаецца, што яны ведаюць.

А што тычыцца заўтрашняга дня, то відавочна, што грамадзтва будзе расслойвацца, будзе ўсё прадавацца, пойдзем шляхам Расеі, будуць бедныя і багатыя. Цяперашнія калгасы — гэта мільёны бедных людзей, яны будуць трымацца за савецкае. Стратныя заводы, мільёны людзей, выкінутых з працы, таксама будуць трымацца за савецкае.

У нашых рамантычных мроях нам здаецца, што Лукашэнка нясе за ўсё адказнасьць. А Вы думаеце, што імпэрыя, якая мела такую магутную філязофію, якая праліла столькі крыві, так проста сыдзе?

**Дракахруст:** Аляксандар, а чый рамантызм Вам бліжэй — Андрэя ці Сьвятланы?

**Фядута:** Я наагул пэсыміст, таму мне бліжэй пэсымістычны рамантызм спадарыні Алексіевіч. І каб пацьвердзіць тое, што яна казала, я прыгадаю расповед былога кіраўніка прэзыдэнцкай адміністрацыі Сініцына пра тое, як Лукашэнка абіраў эканамічную мадэль краіны. Ён спытаў віцэ-прэм'ера Лінга, ці ведае той, што такое рынак. «Не», — адказаў Лінг. Ён спытаў амаль палову ўраду, а ўрад ужо меў нейкі рынкавы досьвед. Але пасьля таго, як нават прэм'ер Чыгір шчыра прызнаўся, што ня ведае, што такое рынак, Лукашэнка сказаў Сініцыну: «Будзем будаваць тое, што ведаем. Ведаем сацыялізм».

І тое, што гэтая абраная мадэль аказалася больш прыстасаванай да жыцьця, чым усе мы думалі і чакалі, насамрэч пацьвярджае слушнасьць таго, пра што кажа спадарыня Алексіевіч.

Справа, сапраўды, не ў Лукашэнку, справа ў тым, што ў кожным беларусу жыве Лукашэнка. У ім ёсьць і савецкае, і беларускае. І гэтая выбуховая сумесь і ёсьць пэўнай падставай для таго, каб меркаваць, што Лукашэнка ня сыдзе як постаць ідэалягічная. Ён сыйдзе толькі як кіраўнік дзяржавы. Але ён застанецца ў сэрцах людзей. Сёньня старэйшае пакаленьне адчувае настальгію па Сталіну, а тыя, хто стане старэйшым пакаленьнем заўтра, будуць настальгаваць па Лукашэнку.



## «Мы — не вар'яты, мы — дактары»

**Дынько:** У словах Сьвятланы Алексіевіч мяне больш за ўсё зачапіла яе непахісная вера ў тое, што нічога на гэтым сьвеце не зьмяняецца. Такая эклезіястычная вера. Я сыходжу зь іншага, з таго, што ўсё мяняецца, нічога не стаіць на месцы. Казаць, што беларусы заўсёды застануцца савецкімі, бо яны савецкімі былі і ёсьць, — гэта значыць адмаўляць людзям ва ўсялякім уплыве на грамадзкія працэсы. Беларусы не застануцца савецкімі, бо я гэтага не хачу, бо я дзейнічаю супраць гэтага. І такіх, як я, — тысячы. І дзейнасьць гэтых тысячаў людзей дасьць свой плён.

Сьвятлана кажа, што маленькі чалавек ні ў што ня ставіцца ў лібэральным сьвеце, называе нас, беларускіх інтэлектуалаў, «гарадзкімі вар'ятамі». Мы — не вар'яты, мы дактары. Роля інтэлектуалаў у такой сытуацыі, як сёньня, якраз у тым, каб быць дактарамі.

Што ж тычыцца маленькага чалавека, то ён якраз у лібэральным сьвеце, у лібэральных дэмакратыях абаронены. Чаму людзі пачуваюцца шчасьлівымі ў Даніі, у Нямеччыне, але пачуваюцца няшчаснымі ў Беларусі (пра што сьведчаць сацыялягічныя дасьледаваньні)? Не ў апошнюю чаргу — праз пачуцьцё неабароненасьці, якое пануе ў нас, праз адсутнасьць бясьпекі маленькага чалавека, як называе яго Сьвят-

лана, ці простага чалавека, як называюць яго лукашэнкаўцы.

Тое, што яму ў Беларусі добра — гэта адзін з найвялікшых лукашэнкаўскіх мітаў, да яго і трэба ставіцца, як да міту. Давайце паглядзім на аб'ектыўныя рэаліі сучаснай Беларусі. Беларусь выйшла на першую пазыцыю ў сьвеце па колькасьці самагубстваў на душу насельніцтва. Па колькасьці забойстваў на 100 тысячаў насельніцтва Беларусь у 8 разоў перавышае ўзровень Эўразьвязу. Лукашэнка сам прызнаў, што за апошнія 5 гадоў узровень злачыннасьці ў Беларусі вырас на 70%.

Сыстэма вінаватая ў тым, што адбываецца дэградацыя чалавечага патэнцыялу. Чаму? Бо людзі ня бачаць жыцьцёвай пэрспэктывы. На іх таксама ня ўсклалі адказнасьці, людзей пазбавілі ўласнасьці, людзей уключылі ў сыстэму эканамічных адносінаў, у якіх ад іх мала што залежыць. Нарэшце, адной са складовых сыстэмы, якую мы маем сёньня ў Беларусі, ёсьць культ сілы, які таксама спрычыняе траўмы, выклікае комплексы і вынішчае сацыяльны капітал.

Тое, што нам застанецца пасьля Лукашэнкі, — гэта дэградаваны сацыяльны капітал. З гэтым Беларусь будзе мець вялікія праблемы. Бо лягчэй адбудаваць заняпалую інфраструктуру, лягчэй перабудаваць эканамічную сыстэму, але значна цяжэй перавыхаваць тых людзей, якія прывучыліся красьці, бо «ўсё вакол калгаснае, усё вакол маё», якія прывучыліся піць, бо няма чаго рабіць, якія прывучыліся дабівацца свайго кулаком. З гэтым давядзецца жыць доўга.

**Дракахруст:** Цяпер наконт таго, што казаў Андрэй пра дэградацыю сацыяльнага, чалавечага капіталу. Аляксандар, Вы, наколькі я ведаю, пэўны час займаліся палітычнай працай ва Ўкраіне. Ці можаце параўнаць гэтыя працэсы там і ў Беларусі?



**Фядута:** Украінцы дэградавалі ў значна меншай ступені. І я гэта вельмі балюча адчуваю. Ёсьць такі паказьнік — адносіны да посьпеху іншага чалавека. Зайздрасьць ва Ўкраіне амаль што адсутнічае, асабліва сярод моладзі. Маладзёны глядзяць на пасьпяховага чалавека і кажуць самі сабе: «Мы таксама будзем такімі. Мы будзем працаваць. Ня будзе ў мяне той імпэрыі, якую мае Рэнат Ахмэтаў, але ў мяне будзе маленькая друкарня, маленькая цырульня ці нешта іншае». Моладзь да гэтага імкнецца.

У нас такое немагчыма. Немагчыма для ўсіх, акрамя вельмі нешматлікай часткі моладзі, для якой бацькі стварылі ўмовы. А іншыя ня могуць атрымаць добрай працы, ня могуць атрымаць стартавага капіталу, каб распачаць уласную справу. І вось гэтае пачуцьцё безвыходнасьці, пачуцьцё адсутнасьці пэрспэктываў — тое, што пакідае Лукашэнка. Яно адчуваецца менавіта цяпер, калі пачалася сапраўдная прыватызацыя і высьветлілася, што ўласных беларускіх прыватызатараў няма, няма тых людзей, якія маглі б легальна набыць уласнасьць, якая належыць беларускай дзяржаве, і стаць яе гаспадарамі.

Калісьці Васіль Лявонаў сказаў мне: *«Самае жудаснае нават ня тое, што няма багатых у Беларусі, а тое, што тыя багатыя, якія будуць, ня будуць адчуваць сябе беларусамі, яны будуць прышлымі, нетутэйшымі. І для іх беларусы застануцца тубыльцамі, нацыяй працаўнікоў і ня больш за тое».*

Насамрэч я хачу сказаць камплімэнт Вам, Юры. Вы ў якасьці сёньняшніх суразмоўцаў абралі прадстаўнікоў трох розных пакаленьняў утапістаў. У кожнага з нас у галаве свая ўтопія — і ў спадарыні Алексіевіч, і ў мяне, і ў спадара Дынька. Гэтыя ўтопіі адрозьніваюцца тым досьведам, які мае пакаленьне кожнага з нас. Тое, што мы абмяркоўваем, — гэта крах дзьвюх утопіяў, спадарыні Алексіевіч і маёй

уласнай, і адзіны з нас, у каго ёсьць пэўны аптымізм, хаця гэта і ўтапічны аптымізм, — спадар Дынько. І дзякуй Богу, калі ён, а ня мы, будзе мець рацыю.

**Алексіевіч:** Андрэй сказаў: «Сьлядоў Лукашэнкі ня будзе, бо я гэтага не хачу». Я таксама гэтага не хачу, але я больш цьвяроза сабе ўсё ўяўляю. Мае рацыю спадар Фядута, у мяне сапраўды ўжо няма таго біялягічнага аптымізму, якім Вы яшчэ поўныя. Мне бліжэй тое, што казаў Бродзкі: *«Салжаніцын думае, што ўся справа ў камунізьме, а справа ў чалавеку».*

Мы і без Лукашэнкі спазьняемся з фармаваньнем нацыі, мы яшчэ ня выйшлі са стадыі народу. Я думаю, што нашы маладыя людзі, у якіх ёсьць шанец уратаваць гонар нацыі, таксама ідэалісты. Яны ў чарговы раз спрашчаюць праблемы. Не спадзявайцеся на рэвалюцыю, будзе марудная, паўзучая эвалюцыя. А параўноўваць нас з Даніяй — гэта наагул сьмешна. У найлепшым выпадку з Расеяй можна. На Захадзе дэмакратычны мэханізм адточваўся стагодзьдзямі, ня трэба нават глядзець туды. Гэта як роды ў жанчыны — нельга пераскочыць пэўныя этапы.

Ніводнае пакаленьне ўтапістаў ня можа сёньня сказаць: «Я ведаю, як будзе». Ды нічога мы ня ведаем. Вось ірванула 4 ліпеня*. І ніхто ня ведае, што гэта — ці нейкія гульні, ці вар'яцтва адзіночкі. Мы нават не ўяўляем сабе, што нас чакае наперадзе, мы проста не гатовыя да гэтага. Народ за вакном жыве па сваіх законах, бізнэс — па сваіх, улада — па сваіх, а мы, інтэлігенты — па сваіх. І ўтапізм у такіх умовах — гэта ўжо злачынна.

---

4 ліпеня 2008 г. падчас сьвяточнага канцэрту з нагоды сьвяткаваньня афіцыйнага Дня Рэспублікі, дзе прысутнічаў і прэзыдэнт Лукашэнка, прагрымеў моцны выбух. Дзясяткі людзей былі параненыя. Па справе дапыталі тысячы асобаў, аднак вінаватых у выбуху не знайшлі.

# ВЫБАРЧЫЯ РОСТАНІ

## З чым прэтэндэнты на прэзыдэнцкую пасаду зьбіраюцца ісьці да выбарнікаў?

Якія галоўныя праблемы, на думку прэтэндэнтаў на найвышэйшую пасаду ў дзяржаве, стаяць перад краінай? Якую працу над ранейшымі памылкамі яны правялі? Чаму лічаць, што вырашаць праблемы краіны лепш адзін за аднаго і за Аляксандра Лукашэнку?

**26 верасьня 2005**

Удзельнікі: Аляксандар Казулін, Анатоль Лябедзька, Аляксандар Мілінкевіч

### Тры самыя балючыя праблемы

**Дракахруст:** Дваццаць шосты прэзыдэнт ЗША Тэадор Рузвэлт казаў: *«Найлепшы палітык той, хто гучней за ўсіх і часьцей за ўсіх гаворыць тое, што думае кожны».* Нібыта і няцяжка ведаць, што думае кожны, але ня кожнаму палітыку насамрэч гэтае разуменьне дадзенае, ня кожны здольны яго сфармуляваць.

Што думае кожны беларус? Назавіце тры найбольш важныя, балючыя праблемы, якія хвалююць грамадзтва, якія вы гатовыя вырашаць, калі станеце прэзыдэнтам. Падкрэсьліваю, якія хвалююць грамадзтва, а не падаюцца важнымі для вас асабіста.

**Мілінкевіч:** Я думаю, што для беларусаў самае цяжкае — гэта тое, што яны зарабляюць мала ў параўнаньні са страшэнна высокімі цэнамі, людзі баяцца беспрацоўя, адчуваюць страх і ім непрыемна ў ім жыць, людзі баяцца за сваіх дзяцей, за іх будучыню.



**Дракахруст:** Спадар Казулін, а якія тры галоўныя праблемы, што хвалююць беларускае грамадзтва, вызначаеце Вы?

**Казулін:** Сёньня самае галоўнае — маральна-палітычны клімат у нашай краіне. Беларусы як нацыя, як народ заўсёды вылучаліся сваёй высокай духоўнасьцю і маральлю. Сёньня гэтыя паняцьці ў нашым грамадзтве зьведзеныя на нішто. За невялікія, паводле эўрапейскіх меркаў, грошы, за нейкія асабістыя даброты можна наступіць на сваё сумленьне, свой гонар, сваю годнасьць, купіць іх. Адсюль — палітычнае беззаконьне і ўлада кулака.

**Дракахруст:** Спадар Лябедзька, а як Вы вызначаеце тройку самых балючых праблемаў Беларусі?

**Лябедзька:** Першая — цэны і заробак. Другая — карупцыя і бюракратыя. Трэцяя — дэмаграфія.

### Чым Вы лепшы за іншых?

**Дракахруст:** Вы вызначылі галоўныя праблемы, якія, на ваш погляд, найбольш хвалююць беларускае грамадзтва. А чаму Вы, спадар Казулін, лічыце, што вырашыце іх лепш, чым Вашыя суразмоўцы, і нават лепш, чым Лукашэнка?

**Казулін:** Я назваў толькі адну праблему, ёсьць яшчэ некалькі. У нашай краіне падаўляецца асоба, і сёньня дыктат дзяржавы паралізуе разьвіцьцё і грамадзтва, і асобы. Калі мы гэта зьменім, то на гэтым падмурку ўзьнікнуць і новыя чалавечыя, і — што самае галоўнае — вытворчыя адносіны.

Мы сёньня цалкам страцілі талерантнасьць, уласьцівую беларускаму народу. Страцілі менавіта ў кіраўніцтве — у нас паўсюль сёньня ворагі. І гэта ў

далейшым пагражае стратай сувэрэнітэту беларускай дзяржавы.

Я магу сказаць, што гэтыя пытаньні, натуральна, могуць вырашаць ня толькі я, Аляксандар Мілінкевіч ці Анатоль Лябедзька. Можна знайсьці вялікую колькасьць годных людзей у нашым беларускім грамадзтве. Важна толькі, каб людзі, якія могуць вырашаць гэтыя праблемы, разумелі адказнасьць уладаў і несьлі гэтую адказнасьць не на словах, а на справе. Каб яны ведалі, што́ такое дзяржаўнае кіраваньне, каб мы ня кінулі краіну ў хаос безуладзьдзя і свавольства.

Сёньня людзі больш за ўсё баяцца, што, калі зьменіцца ўлада, будзе горш. Калі яны зразумеюць, што горш ня будзе, а будзе толькі лепш, у нас зьменіцца сьвядомасьць і ўсё будзе інакш.

**Дракахруст:** Спадар Лябедзька, а чаму Вы лічыце, што будзеце лепшым кіраўніком, чым Вашыя сёньняшнія суразмоўцы і чым Аляксандар Лукашэнка?

**Лябедзька:** Рэч ня ў тым, што я лепшы за Аляксандра Лукашэнку. «Фішка» ў тым, што эканамічная праграма, якую распрацавала і прапанавала ўраду каманда Анатоля Лябедзькі, паводле ацэнкі міжнародных экспэртаў, якраз вырашае праблему цэнаў і заробкаў для Рэспублікі Беларусі. Гэта ня лёзунгі, а распрацаваная праграма, якая прайшла экспэртызу ў Польшчы, Эстоніі і Славеніі. Гэта дазваляе мне гаварыць, што мы здольныя правесьці тыя рэформы ў эканоміцы, якія вырашаць пытаньні заробку і спыняць цэны, якія сёньня ўжо на эўрапейскім узроўні.

Рэалізацыя нашай праграмы прывядзе ў адпаведнасьць эўрапейскія цэны, якія сёньня ёсьць, і эўрапейскія заробкі, якіх сёньня няма ў беларускіх людзей.



Што тычыцца карупцыі і бюракратыі, то ў нас ёсьць рэформа сыстэмы кіраваньня, якая зьмяншае магчымасьці для карупцыі. Чым большая прысутнасьць дзяржавы пры разьмеркаваньні, пры вызначэньні тых ці іншых кірункаў дзейнасьці, тым больш спрыяльная глеба для карупцыі. Нашая рэформа сыстэмы кіраваньня дзяржавай і эканомікай зробіць гэтую прысутнасьць мінімальнай.

Што тычыцца дэмаграфіі, то ў сытуацыі, якую мы сёньня маем, калі Лукашэнка будзе правіць яшчэ некалькі гадоў, насельніцтва Беларусі зьменшыцца на мільён чалавек. Гэтая праблема надзвычай важная. Калі мы рэалізуем эканамічную праграму, правядзем рэформу кіраваньня, зробім інвэстыцыі ў чалавека, мы вырашым і пытаньне дэмаграфіі. І калі да ўлады прыйдзе нашая каманда, то шмат беларусаў, якія сёньня пакінулі краіну, вернуцца назад.

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, «шапка Манамаха», як яе называюць у Расеі, ня толькі прыгожая, але і цяжкая. Пацягнеце?

**Мілінкевіч:** Я быў ва ўладзе, і даволі доўга — я быў адным з кіраўнікоў Горадні. Сапраўды, гэта цяжка. Цяжка для тых, хто разумее ўладу як вялікую адказнасьць, а не як магчымасьць дадаткова зарабляць ці ўплываць.

Калі мы кажам: замянілі Лукашэнку на Мілінкевіча — мы ж не мяняем цара на цара. Прыход дэмакратычнага кандыдата, які будзе абраны на Кангрэсе*, зьменіць усю атмасфэру ў краіне — псыхалягічную,

* Кангрэс дэмакратычных сілаў прайшоў у Менску 1—2 кастрычніка 2005 году. За тое, каб стаць адзіным кандыдатам ад Аб’яднаных дэмакратычных сілаў, спаборнічалі Сяргей Калякін, Анатоль Лябедзька, Аляксандар Мілінкевіч і Станіслаў Шушкевіч. Шушкевіч зьняў сваю кандыдатуру. Пасьля другога туру перамогу атрымаў Мілінкевіч.

маральную, палітычную. Людзі стануць свабоднымі, будуць мець магчымасьць вырашаць свой лёс, за свой дабрабыт яны змогуць змагацца сваім розумам і сваімі рукамі.

Улада будзе не пад кантролем аднаго чалавека, а абірацца самімі людзьмі, будзе нармальнае самакіраваньне, і людзі будуць самі вызначаць, хто павінен імі кіраваць. Яны будуць проста наймаць гэтага чалавека на працу.

Дэмакратыя — гэта не хаос, дэмакратыя — гэта права чалавека на самарэалізацыю, і я думаю, што мы гэта забясьпечым.

## Вера кандыдата і вера народу

**Дракахруст:** Спадар Лябедзька, Вы зараз каротка выклалі сваю праграму, і наколькі я зразумеў, гэта клясычная лібэральная праграма — чым менш дзяржавы, тым лепш. Але беларусы перасьцерагаюцца адваротнага боку лібэральных рэформаў — прынамсі, закрыцьця буйных прадпрыемстваў, беспрацоўя. Вось суседняя Польшча: значна вышэйшыя, чым у Беларусі, заробкі, правільная прыватызацыя, свабода бізнэсу і гэтак далей, але ж і 19% беспрацоўных. Тыя шляхі, якія Вы прапануеце, адпавядаюць Вашай веры ці памкненьням большасьці беларусаў?

**Лябедзька:** Мы не дэкляруем, а прапаноўваем. З усімі распрацоўкамі можна пазнаёміцца на нашым сайце ці зайсьці ў офіс і атрымаць іх у пісьмовым выглядзе. Нашая эканамічная праграма распрацаваная ня толькі з улікам беларускай спэцыфікі, але і з улікам досьведу трансфармацыяў, якія адбываліся ў той жа Польшчы, Чэхіі і Прыбалтыцы. Мы ўлічылі памылкі, зробленыя людзьмі, што нядаўна перад намі праходзілі такі шлях.



Самы галоўны прыярытэт нашай праграмы — прыцягненьне інвэстыцыяў у краіну. Калі ідуць інвэстыцыі, вельмі проста разбураць сьцены велізарнага гмаху, дзе стаіць, а часам проста туліцца абсталяваньне хрушчоўскіх часоў. Мы ставім пытаньне, каб у Беларусь прыйшлі інвэстыцыі і былі пабудаваныя ня толькі асобныя новыя прадпрыемствы, але і цэлыя галіны эканомікі, якія адпавядаюць сёньняшняму дню, дзе былі б апошнія дасягненьні навукі.

Па-другое, ідзе размова пра стварэньне моцнай «сярэдняй клясы», умоваў для разьвіцьця дробнага і сярэдняга бізнэсу. Гэта мусіць стаць асновай, а не стварэньнем адной ці дзьвюх алігархіяў з падзелам паміж імі тых прадпрыемстваў, якія ёсьць.

У нас усё прапрацавана і прадумана, і я мяркую, што рэалізацыя нашай праграмы ня створыць напружанасьці ў грамадзтве і не прывядзе да сацыяльных забурэньняў.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, на працягу шэрагу гадоў дэмакратычнае крэда ў Беларусі вычэрпвалася трыядай «дэмакратыя — рынак — Эўропа», часам да яе дадавалася нацыянальнае адраджэньне. Але і апытаньні, і досьвед выбараў паказваюць, што «жорсткі» дэмакратычны электарат, які гэтыя ідэі кранаюць, паводле самых шчодрых ацэнак, не перавышае 30%. А для перамогі на прэзыдэнцкіх выбарах патрэбна 50% + 1 голас. Чым Вы хочаце прывабіць «сярэдзіну» грамадзтва, якую сёй-той называе «балотам»? Балота — не балота, але ж людзі, выбарнікі.

**Казулін:** Я якраз належу да той большасьці беларускага народу, у якога ў крыві памяркоўнасьць, талерантнасьць і да ўлады, і да апазыцыі. І сёньня мы якраз і прапануем гэтай большасьці ўбачыць сваю

ўласную будучыню. Мы прапануем народу паглядзець, як зьмянілася сьвядомасьць за гэтыя 11 гадоў і дзе мы апынуліся.

Сёньня мы жывем у мінулым стагодзьдзі, нават не ў мінулым, а ў сярэднявеччы. Вы ўжылі слова «балота». Я не магу такія словы ў дадзеным сэнсе ўжываць, бо не бывае балота сярод уласнага народу. Гэта — наш народ, той, які ёсьць сёньня.

Я — частка той большасьці, якая ня хоча рэвалюцыяў, а хоча эвалюцыйнага разьвіцьця беларускага грамадзтва на дасягненьнях, якія былі і ва ўладзе, і ў апазыцыі, але з улікам і таго цяжару памылак, які ёсьць і ва ўладзе, і ў апазыцыі.

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, тое ж пытаньне да Вас. Я яшчэ раз прыгадваю насамрэч глыбокую формулу Тэадора Рузвэлта — *«...хто гучней за ўсіх і часьцей за ўсіх гаворыць тое, што думае кожны»*. Тое, да чаго Вы заклікаеце, ці ёсьць яно тым, пра што ў пэўным сэнсе думае кожны беларус, а ня толькі Вашае кола аднадумцаў, хай сабе і вельмі высакароднае?

**Мілінкевіч:** Сапраўды ёсьць вялікая праблема адносна дэмакратычных сілаў у грамадзтве. Увесь час павялічваецца колькасьць людзей, якія пратэстуюць, якія ня хочуць так далей жыць. Але колькасьць людзей, якія падтрымліваюць апазыцыю, практычна не павялічваецца. Безумоўна, гэта перш за ўсё праблема самой апазыцыі — яна не знаходзіць гэтых словаў для простых людзей, пра якіх Вы кажаце, а займаецца больш сваімі ўнутранымі справамі і барацьбой з Лукашэнкам.

І людзі так і ўспрымаюць: па адзін бок барыкадаў — мы, а па другі — апазыцыя з Лукашэнкам змагаюцца за ўладу, а нас не разумеюць і да нас не прыходзяць.



Гэта вялікая праблема, і калі падчас выбараў мы яе ня вырашым, безумоўна, мы прайграем з трэскам.

Я думаю, што для людзей сёньня сацыяльна-эканамічныя праблемы, хаця яны і вельмі важныя, ня могуць быць рухавіком іх удзелу ў пераменах у краіне. Першае, што даводзіцца чуць ад пераважнай большасьці людзей, — што на іх нагналі страх. Гэта прыніжае іх годнасьць, сорамна так жыць, прыкра так жыць. І тое, што кажуць пра беларусаў, быццам яны прызвычаіліся прагібацца — хто ніжэй прагнецца, той выжыве — гэта абсалютная няпраўда. Я цалкам упэўнены, што заклік да людзей — адстаяць сваю годнасьць — сёньня вельмі важны для тых, хто жыве і ў вёсках, і ў малых гарадох, і ў вялікіх.

Мы ведаем, што́ трэба зрабіць, каб людзі жылі больш годна, зараблялі больш, каб дзеці мелі шанцы на адукацыю, на працу і не ад'язджалі за мяжу. Усё гэта ёсьць у праграмах, але чалавечая годнасьць і яе адстойваньне я б паставіў на першае месца, калі мы ідзем да людзей.

Падчас апошніх выбараў я шмат хадзіў па вёсках са сваёй камандай і ўбачыў, што нават там старыя бабулі гэтае адчуваюць. У гарадох — тым больш.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, Вы сказалі, што належыце да большасьці народу. Але я хачу заўважыць, што Вы гаворыце на расейскай мове. Гэта Вашае права, якое тут ніхто не аспрэчвае. Але ўсё ж — як Вашыя прэтэнзіі на тое, каб узначаліць краіну, стасуюцца з тым, што Вы не размаўляеце на мове, якую большасьць народу гэтай краіны называе роднай?

**Казулін:** Я вучыўся ў так званай ангельскай школе, ангельскай мовы ў нас было 10 гадзінаў на тыдзень. А беларускай не было ніводнай гадзіны. І толькі ў апошняй, 10-й клясе я вывучаў беларускую

літаратуру адну гадзіну на тыдзень. Дзяржавай не былі створаныя ўмовы, каб мы ведалі беларускую мову.

Я лічу, што нельга сілай прывучыць людзей гаварыць на роднай мове. Трэба ствараць рэальныя ўмовы, каб родная мова распаўсюджвалася зь дзяцінства, каб было прэстыжна размаўляць па-беларуску. І калі гэтае будзе зроблена, тады і прэзыдэнт будзе размаўляць па-беларуску. Я праз нейкі прамежак часу добра авалодаю беларускай мовай, бо разумею, што бяз мовы няма ані нацыі, ані народу.

## Тры галоўныя памылкі апазыцыі

**Дракахруст:** На чыйсьці погляд найноўшая гісторыя дэмакратычнага руху ў Беларусі — гэта суцэльны ланцуг памылак. Тое, што акрамя памылак нічога не было, відаць, перабольшваньне, але, спадар Лябедзька, назавіце тры сапраўды сур'ёзныя памылкі, якія Вам і Вашым калегам па дэмакратычным лягеры паўтараць у цяперашняй перадвыбарчай кампаніі нельга ні ў якім выпадку.

**Лябедзька:** Калі праводзіць паралелі з папярэдняй кампаніяй, то мы не павінныя губляць часу. Па-другое, калі мы прымаем нейкія рашэньні, то ў людзей павінна скласьціся адчуваньне, што яны таксама бралі ўдзел у выпрацоўцы гэтых рашэньняў. Неабходна ўцягнуць, у першую чаргу, актыўных людзей у выпрацоўку стратэгіі і тактыкі, каб яны ўсьведамлялі, што былі часткай гэтага працэсу.

І трэцяе — праца з насельніцтвам, праца «ад дзьвярэй да дзьвярэй». Трэба, каб быў такі стан, як падчас апошняй выбарчай кампаніі ў Палату прадстаўнікоў. Тады практычна ўсе лідэры, усе актывісты кожны вечар хадзілі «ад дзьвярэй да дзьвярэй» і працавалі зь людзьмі.



**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, назавіце тры сапраўды сур'ёзныя памылкі, якія зараз нельга паўтараць, тыя граблі, на якія нельга наступаць ні ў якім разе.

**Мілінкевіч:** Першая памылка — мы яшчэ да сёньняшняга дня не даказалі, што ўмеем рэальна аб'ядноўвацца. Маю надзею, што Кангрэс гэта прадэманструе ўпершыню. Другая — амбіцыі лідэраў часьцяком вышэйшыя за іх амуніцыю. А трэцяя — мы сапраўды часта адарваныя ад людзей, і тое пытаньне, якое Вы задалі, вельмі слушнае. Але мы ведаем, чым жыве народ і з чым трэба прыйсьці да яго.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, а якія тры галоўныя памылкі бачылі ў мінулых кампаніях Вы? Спадар Мілінкевіч назваў адну зь іх: «мы ня ўмеем рэальна аб'ядноўвацца». Ці ня ў Ваш гарод гэты камяньчык?

**Казулін:** Я думаю, што такі камяньчык можа кожны кінуць і ў свой гарод. Я ў палітыцы абсалютна новы чалавек, і тое, што я ўбачыў, якраз і паказвае, што мы ўвесь час наступаем на адны і тыя ж граблі. У шмат якіх амбасадах, замежных краінах, па тэлебачаньні беларусы, якія бачаць сябе лідэрамі ці спрабуюць бачыць імі, гатовыя ўтапіць адзін аднаго ў лыжцы вады, ня ўмеюць радавацца дасягненьням адзін аднаго і ня ўмеюць аб'ядноўваць іх у адзінае цэлае.

Калі б мы сапраўды радаваліся дасягненьням адзін аднаго, то ў нас зь невялікіх ручаінак нашых посьпехаў атрымалася б вялікая рака. І тады б мы маглі дасягнуць рэальнага посьпеху. Сёньня гэтага няма, і мы цалкам можам паўтарыць памылкі 2001 году,

калі, з аднаго боку, было афіцыйнае аб'яднаньне вакол адзінага кандыдата, а з другога — тыя сілы, якія ўвайшлі ў гэтае аб'яднаньне, вонкава былі разам, але не працавалі на адзінага кандыдата. Больш за тое, вялі працу супраць яго.

Па-другое. Я лічу, што мы часам надаём надзвычайную ўвагу працэсу, а не рэальнаму дасягненьню вынікаў. З прычыны такога перамяшчэньня акцэнтаў канчатковага выніку мы можам не дасягнуць.

І трэці момант. Аляксандар Мілінкевіч правільна сказаў: мы забываем, што ёсьць народ, што нам на яго трэба зьвяртаць галоўную і першаступенную ўвагу. Трэба ў першую чаргу працаваць з народнымі масамі. Мы шмат разоў казалі пра тое, што нам трэба аб'ядноўваць высілкі. Сёньня мы працуем самі з сабой, а не зь людзьмі — гэта наша самая галоўная памылка.

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, Вы нядаўна ў інтэрвію «Народнай волі» распавялі, што ганарыцеся сваім адкрыцьцём на Гарадзеншчыне магілы апошняга караля Рэчы Паспалітай. Вы з абурэньнем казалі пра нейкую жанчыну, якая заўважыла: «А што нам той польскі кароль?» Дык падчас перадвыбарчай кампаніі Вы будзеце вучыць беларусаў, якія іх карані, хто яны такія, будзеце для іх своеасаблівым настаўнікам, прарокам, ці ўсё ж яны для Вас будуць настаўнікамі?

**Мілінкевіч:** Я б ня супрацьпастаўляў гэтыя дзьве рэчы, бо трэба і вучыць людзей, можа, лепш сказаць — несьці праўдзівую інфармацыю, бо яны жывуць у хлусьні ўжо вельмі даўно. Але трэба і вельмі ўважліва слухаць іх. Калі мы гаворым, што хочам вылечыць нашую дзяржаву і што мы — дактары, то нават самы вопытны доктар заўсёды паслухае пацыента, перш чым паставіць дыягназ. Таму мы павінныя абавязкова слухаць людзей, разумець іх праблемы, і самае галоўнае — даказаць, што мы ведаем, як іх вырашаць, і ўжо вырашаем нават у такіх кепскіх умовах. А калі прыйдзем да ўлады — цалкам зможам вырашыць.

А тое, што людзі пазбаўленыя праўдзівай інфармацыі, што яны жывуць у вакууме, яны самі адчуваюць. Я нядаўна адведваў у шпіталі свайго сваяка і бачыў, што калі пачынаецца інфармацыйная праграма беларускага тэлебачаньня, нават старыя людзі, якія падтрымліваюць прэзыдэнта, пераключаюць тэлевізар на расейскія каналы, дзе ідуць фільмы. Людзям надакучыла хлусьня. Таму і адно і другое трэба рабіць.



## Хто Вашыя героі?

**Дракахруст:** Амэрыканскі палітоляг Збігнеў Бжэзінскі некалі дасьціпна назваў СССР краінай зь «непрадказальным мінулым». Наколькі прадказальнае беларускае мінулае для Вас? Назавіце тры самыя выбітныя для Вас постаці ў беларускай гісторыі. Толькі давайце дамовімся — апрача Васіля Ўладзімеравіча Быкава. Я амаль упэўнены, што вы яго ўсе назавяце, але тады вас цяжка будзе разрозьніць. Спадар Лябедзька, Вам першаму слова.

**Лябедзька:** Кастусь Каліноўскі, Леў Сапега, Францыск Скарына. Каліноўскі — гэта сымбаль свабоды, Сапега — сымбаль дзяржаўнасьці, аўтар першай пісанай Канстытуцыі, Скарына — сымбаль інтэлекту, адукаванасьці і адукацыі.

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, а якая Вашая тройка самых выбітных герояў Беларусі?

**Мілінкевіч:** З тых людзей, што жывуць сёньня, для мяне вялікі маральны аўтарытэт — Рыгор Барадулін. Без такіх людзей ня можа адбыцца кансалідацыя нацыі. А калі казаць пра гісторыю, я б назваў тых, хто змагаўся за незалежнасьць Бацькаўшчыны і адстойваў яе — гэта Кастусь Каліноўскі, Тадэвуш Касьцюшка і Вітаўт Вялікі. Менавіта на гэтых асобах я засяроджваю ўвагу, бо ў Беларусі сёньня галоўная праблема ня толькі тое, ці будзем мы заўтра дэмакратычнай эўрапейскай краінай, але і тое, ці наагул мы будзем краінай, ці часткай іншай краіны. Таму гэтыя асобы для мяне надзвычай важныя.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, а як выглядае Ваша тройка беларускіх герояў?

**Казулін:** Я мяркую, што мы павінныя пагледзець, хто гістарычна зрабіў найвялікшы ўнёсак у беларускасьць, у станаўленьне Беларусі як дзяржавы, як культуры і як нацыі. Я думаю, што на першым месцы будзе князь Вітаўт Вялікі, які адстаяў незалежнасьць Вялікага Княства Літоўскага. Калі ягоны дзядзька Ягайла стаў польскім каралём і хацеў цалкам паглынуць нашую дзяржаву, то Вітаўт здолеў абараніць нашую самастойнасць. Больш за тое, ён здолеў аб'яднацца зь Ягайлам і перамагчы тэўтонцаў, тым самым даказаўшы сваю сапраўднасьць як нацыі, народу і дзяржавы.

І самае галоўнае — тады Вялікае Княства Літоўскае было прызнанае адной зь вялікіх эўрапейскіх дзяржаваў. Вітаўт шмат зрабіў, кансалідаваўшы дзяржаву з фэадальных падзелаў.

На другім месцы — Янка Купала, чалавек, які зрабіў велізарны культурны ўнёсак у станаўленьне беларускага народу і нацыі. Яго верш «А хто там ідзе?» актуальны і дагэтуль, бо сапраўды беларусам пара зразумець, што трэба «людзьмі звацца», і толькі тады мы зможам дасягнуць посьпеху.

Нарэшце, трэцяя постаць, мяркую, шмат для каго будзе нечаканай. Ёсьць людзі, зьнешне сьціплыя, незаўважныя, але яны сваім жыцьцём даказваюць вельмі шмат. Некалькі гадоў таму памёр беларускі гісторык з Маладэчна Мікола Ермаловіч. Дзякуючы яго працам мы здолелі ідэнтыфікаваць сябе як нацыю, як народ, як дзяржаву, і сёньня ягоныя гістарычныя працы прызнаныя і ў Эўропе, і ў сьвеце. Дзякуючы яму мы ўбачылі свае вытокі, свае карані і зразумелі, хто мы.



## Магніты беларускай геапалітыкі

**Дракахруст:** Мы ўжо ў нашай размове закранулі тэму незалежнасьці Беларусі. Мяне цікавіць, што́ вы будзеце казаць выбарнікам пра месца Беларусі паміж двума яе спрадвечнымі магнітамі — Расеяй і Эўропай. Часам палітыкі гавораць: будзем сябраваць і з аднымі і з другімі.

Але многія могуць запярэчыць, што ў гэтай шырыні ёсьць абмежаваньні: расейскія ваенныя базы несумяшчальныя зь сяброўствам у НАТО, мяжа можа быць адкрытай ці на Ўсход, ці на Захад. Закрытай яна можа быць, зразумела, ва ўсе бакі, але адкрытай (на жаль ці на шчасьце) можа на сёньняшні дзень быць толькі ў адзін бок.

Як гэтыя дылемы зьбіраецеся вырашаць Вы, спадар Мілінкевіч, калі беларусаў цягне і ў адзін бок і ў другі?

**Мілінкевіч:** Напэўна, я б казаў людзям, што самае прыкрае — быць калідорам, прахадным дваром, што мы павінныя мець свой дом, у якім жывем утульна і самі вызначаем лад у гэтым доме.

У Беларусі ёсьць выдатны гістарычны шанец, Беларусь можа стацца дзейным мостам паміж Расеяй і аб'яднанай Эўропай. А куды рухацца — на Ўсход ці на Захад, то мне здаецца, што беларусам трэба заставацца на той зямлі, якую Бог ім даў і дзе яны могуць будаваць нармальнае жыцьцё.

Сапраўды, трэба мець узаемавыгадныя адносіны і з аднымі і з другімі. І калі людзі пытаюцца: *«Вось мы будзем у Эўразьвязе, будзе беспрацоўе, што мы будзем рабіць з нашымі таварамі, мы ж іх не прададзім?»*, — тут вельмі просты адказ. Па-першае, пэрспэктыва ўступленьня ў Эўразьвяз вельмі далёкая, а сёньня нам проста трэба мець вельмі добрыя стасункі з Эўропай і пашыраць супрацоўніцтва зь ёй.

Што тычыцца НАТО, то ва ўсіх беларускіх Канстытуцыях, прынятых падчас незалежнасьці, было напісана, што мы — нэўтральная краіна, і нам трэба захаваць свой нэўтралітэт. Людзі не прымаюць уступленьня ў НАТО, і сёньня гэтую тэму ня варта абмяркоўваць.

Я думаю, што такі падыход успрымаецца большасьцю людзей, і гэта сапраўды пэрспэктыва для Беларусі.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, а як Вы будзеце вызначаць Вашае стаўленьне да названай дылемы? Я паўтару: мяжа можа быць адкрытай толькі ў адзін бок. І ў дадзеным выпадку паняцьце «мяжа» азначае крыху больш, чым месца, дзе праводзіцца мытны і памежны кантроль.

**Казулін:** Я мяркую, што ўмоўнай мяжы Беларусі ня будзе, бо беларусы — нацыя адкрытая, і ўсе межы, якія сёньня існуюць, будуць скасаванымі. Беларусы будуць імкнуцца і да Эўропы, і да Расеі, і да ўсіх суседзяў. Але самае галоўнае — беларусы будуць



імкнуцца да саміх сябе, беларусы будуць імкнуцца асэнсаваць сябе як дзяржаву, як народ, годны эўрапейскай цывілізацыі. Натуральна, што беларусы хочуць бачыць сябе ў эўрапейскай цывілізацыі, але гэта не азначае, што яны бачаць сябе па-за Расеяй.

Тая ж Расея сёньня дэманструе, што эўрапейская цывілізацыя робіцца адным з прыярытэтаў у яе разьвіцьці.

Але мы жывем у канкрэтны гістарычны час. І Аляксандар Мілінкевіч абсалютна дакладна сказаў, што магчымасьць уступленьня ў Эўразьвяз у нас на працягу бліжэйшых 25—30 гадоў наўрад ці ёсьць. Таму натуральна, што без супрацоўніцтва з Расеяй, рэальнага, з апорай на культурна-гістарычныя сувязі, мы ніяк не абыдземся. Але мы таксама абсалютна дакладна разумеем, што шырокага ўваходжаньня ў Эўропу мы таксама аніяк не мінем.

**Дракахруст:** Спадар Лябедзька, як Вы вырашаеце для сябе месца Беларусі паміж яе геапалітычнымі магнітамі — Эўропай і Расеяй?

**Лябедзька:** Значная частка грамадзянаў адчуе перамены да лепшага пры рэалізацыі нашай зьнешняй палітыкі. У першую чаргу будзе пастаўленая кропка на палітыцы самаізаляцыі Беларусі ад вонкавага сьвету. Гэта тое, што рэальна можна даць людзям.

У падмурак нашай зьнешняй палітыкі будуць пакладзеныя два прынцыпы: «Беларусь — наш дом у эўрапейскім квартале» і «Эўропу — у Беларусь». Першы прынцып азначае нашую геаграфію, нашую прыналежнасьць да эўрапейскай цывілізацыі, падкрэсьлівае, што жыць мы павінныя ўсё ж у сваім доме, але гэты дом — у эўрапейскім квартале.

Што тычыцца тэзы «Эўропу — у Беларусь», то яна азначае, што мы не павінныя весьці Беларусь кудысьці, мы мусім прынесьці ў беларускую рэ-

чаіснасьць эўрапейскія каштоўнасьці. Патрэбная пасьлядоўнасьць крокаў. І найперш трэба, каб да грамадзтва былі прышчэпленыя, як да дрэва, эўрапейскія каштоўнасьці.

Другі крок — мы павінныя пабудаваць нашую ўнутраную і зьнешнюю палітыку такім чынам, каб выйсьці на ўзровень капэнгагенскіх крытэраў, абавязковых для ўступленьня ў Эўразьвяз. Калі мы зробім гэтыя два крокі, у нас значна пашырыцца палітычнае поле для прыняцьця рашэньня. У нас тады будзе выбар: альбо быць Швайцарыяй, альбо быць сябрам Эўрапейскага Зьвязу. Але гэта мы зможам асэнсавана рабіць толькі пасьля таго, як «прынясем» у беларускую рэчаіснасьць эўрапейскія каштоўнасьці і выйдзем на ўзровень капэнгагенскіх крытэраў.

А пакуль мы не зрабілі гэтых двух крокаў, нашая палітыка павінная палягаць не ў будаўніцтве муроў, накшталт Бэрлінскага, а ва ўзьвядзеньні мастоў. Мы павінныя ўсю Беларусь ператварыць у Эўрапейскую свабодную эканамічную зону, стварыць спрыяльны клімат для бізнэсу, каб сюды ішлі інвэстыцыі, каб да нас прыяжджалі замежныя турысты, і гэта будзе прымальна для пераважнай большасьці грамадзянаў Рэспублікі Беларусі.

**Дракахруст:** У кожнага зь вядомых палітыкаў амаль заўсёды ёсьць пазнавальная метка — учынак, крок, можа, рыса характару, паводле якіх яго ідэнтыфікуюць. Напрыклад, у 1994 годзе Аляксандар Лукашэнка меў метку — той, хто не пабаяўся выкрыць карупцыю ва ўладзе. Праўдай гэта было ці няпраўдай, але менавіта такую метку ён тады меў. Ці Зянон Пазьняк — той, хто стварыў БНФ і раскрыў праўду пра Курапаты. Як бы вы вызначылі такую метку для саміх сябе? Лябедзька, Мілінкевіч, Казулін — гэта той, хто...



**Казулін:** Аляксандар Казулін — гэта асьветнік, ваяр сьвятла.

**Лябедзька:** Я хацеў бы, каб мяне ідэнтыфікавалі як лідэра палітычных аптымістаў і прыхільнікаў пераменаў.

**Мілінкевіч:** Аляксандар Мілінкевіч — гэта рэгіянальны лідэр, які хоча зрабіць уладу прыстойнай, а жыцьцё — годным.

# Ці зьявілася ў Беларусі альтэрнатыва Аляксандру Лукашэнку?

Ці зьявілася ў Беларусі асабовая і праграмная альтэрнатыва Аляксандру Лукашэнку? Чаму найбольш сур'ёзнымі апанэнтамі дзейнаму прэзыдэнту сталі ў той ці іншай ступені нацыянальна арыентаваныя палітыкі? Ці ператвараецца цяперашняя выбарчая кампанія ў сутыкненьне Польшчы і Расеі?

**31 студзеня 2006**

Удзельнікі: Валянцін Акудовіч, Сьвятлана Алексіевіч, Уладзімер Някляеў

## «На сьцяне вісіць партрэт Мілінкевіча»

**Дракахруст:** На падставе выступаў, інтэрвію, заяваў прэтэндэнтаў на кандыдата ў прэзыдэнты, на падставе збору подпісаў за іх ці можна сказаць, што зьявіліся годныя альтэрнатывы Аляксандру Лукашэнку — альтэрнатывы як асобе і альтэрнатывы праграмныя — іншага шляху краіны? Спадар Акудовіч, паводле Вашых назіраньняў, ці пачула беларускае грамадзтва адказ на пытаньне: «Хто, калі ня ён»?

**Акудовіч:** Толькі шалёны аптыміст можа казаць, што мы ўжо маем сёньня альтэрнатыўную Аляксандру Лукашэнку палітычную фігуру. Але разам з тым у мяне з кожным днём мацнее пакуль яшчэ смутнае прадчуваньне, што патэнцыял такой альтэрнатывы ёсьць у Аляксандра Мілінкевіча.

Магчыма, такім жа смутным прадчуваньнем кіраваліся і дэлегаты Кангрэсу дэмакратычных сілаў, калі ў якасьці адзінага кандыдата абралі не кагосьці з палітычных «зуброў» — Лябедзьку, Калякіна ці Шушкевіча, а мала каму вядомага Мілінкевіча. І падобна, што яны не памыліліся. Не прамінула і паўгоду, а гэтага адукаванага чалавека з Горадні ўжо прымалі на найвышэйшым палітычным узроўні ў шэрагу суседніх краінаў.

Аднак ня будзем сьпяшацца з высновамі. Выбары якраз і пакажуць, ці мае рацыю той, хто прадчувае патэнцыял агульнанацыянальнага лідэра ў Аляксандру Мілінкевічу. Але ня ў тым сэнсе, што ён пераможа на выбарах — хто пераможа, праўдай ці няпраўдай, усім добра вядома.

Выбары могуць дапамагчы Мілінкевічу раскрыць увесь свой палітычны патэнцыял. А калі ён пасьля 19 сакавіка ня сыдзе ў палітычны цень, як Ганчарык калісьці, дык беларускае грамадзтва, магчыма, нарэшце будзе мець доўгачаканую альтэрнатыву Аляксандру Лукашэнку.

**Дракахруст:** Спадарыня Сьвятлана, некалькі месяцаў таму Вы ўдзельнічалі ў «Праскім акцэнце» з Генадзем Бураўкіным. Тады Вы казалі, што ніякіх альтэрнатываў Лукашэнку і блізка няма, хіба Казулін, — і дадавалі, што хутчэй за ўсё і ён такую альтэрнатыву не ставарае нават тэарэтычна. Якія ў Вас уражаньні цяпер?

**Алексіевіч:** Я ўжо каля двух месяцаў у Беларусі, крыху езьдзіла па вёсках, па невялікіх гарадох, нядамі вярнулася з Магілёва. Прыемна ўспамінаю: вось мы сядзім у Магілёве ў залі, чалавек 100, і на сьцяне вісіць партрэт Мілінкевіча.

Я гляджу на тыя добрыя твары настаўнікаў, мясцовай інтэлігенцыі, а на сьцяне вісіць партрэт. І ў мяне адчуваньне, што я ці то ў Польшчы, ці то ў Чэхіі. Я бачу, што зьявіўся годны, нармальны чалавечы твар. Ён адпавядае і часу, і драматычным падзеям, якія ў нас адбудуцца незалежна ад таго, зьменіцца гэтая ўлада ці застанецца. У ягонай плястыцы, забытай інтэлігентнасьці для мяне ёсьць пэўная надзея.

Я слухала аўдыторыю і бачыла, што беларуская прастора ўжо напрацаваная, да мяне падыходзілі маладыя людзі, яны распавядалі, як шукалі сьляды паўстаньня Каліноўскага. Яны ўсе гавораць па-беларуску.

Бачна, што расьце колькасьць такіх людзей. І зьяўляецца твар, на якім факусуюцца чаканьні найлепшай часткі грамадзтва. Чакала грамадзтва Лукашэнку — яно яго і атрымала. А цяпер грамадзтва поўнае новых чаканьняў, яшчэ неасэнсаваных, схаваных.

Я ня ведаю, ці адбудзецца гэты цуд цяпер, я мала ўпэўненая. Хаця ўкраінскія інтэлектуалы за месяц да рэвалюцыі казалі, што ня вераць у яе магчымасьць. Але раптам узьнік нейкі новы «хімічны» элемэнт. Мы дзеля гэтага працуем, думаем — раптам тое адбудзецца. А фігура ёсьць.

**Дракахруст:** І спадарыня Сьвятлана, і спадар Акудовіч гавораць пра альтэрнатыву толькі ў асобе Аляксандра Мілінкевіча. Спадар Някляеў, Вы — сябра штабу іншага кандыдата — Аляксандра Казуліна. Ці ёсьць ён сапраўднай альтэрнатывай Аляксандру Лукашэнку?

**Някляеў:** Па-першае, я хачу падтрымаць Сьвятлану ў тым, што нельга дапускаць бязьвер'я ў перамогу, якое пануе ў большасьці нашых людзей. Сьвятлана, дарэчы, прыгадала прыклад Украіны, я там таксама нядаўна быў, і сапраўды, ніхто да таго, як адбылася «аранжавая» рэвалюцыя, ня верыў, што яна можа быць. Мэнтальна ўкраінцы вельмі да нас падобныя, і развагі былі такімі ж: «Ніколі ў нас ужо нічога ня будзе, так мы і сканаем на гэтым памежжы». Не, сталася.

Любая альтэрнатыва — калі ня годная, то лепшая за тое, што мы маем. Па сутнасьці, для выбарніка любая праграма ў вуснах прэтэндэнтаў пазбаўленая сэнсу, бо яна нічым не напоўненая. Па сутнасьці, ёсьць не праграмы, а чаканьні пэўных сацыяльных групаў, у тым ліку і інтэлігенцыі.

Якраз неактыўны ўдзел інтэлігенцыі ў палітычных пэртурбацыях апошняга часу мяне найбольш насьцярожвае.

Я ня ў штабе Казуліна, але сапраўды ў групе, якая яго падтрымлівае. Чаму? Чаму не ў Мілінкевіча? А што мне рабіць у Мілінкевіча? Ён беларус натуральны, у адрозьненьне ад большасьці нашых палітыкаў, якія толькі палітычна беларусы. Яны і гавораць па-беларуску толькі на трыбунах.

Беларускасьць — гэта брэнд, гэта адзінае, што можна супрацьпаставіць Лукашэнку. Яго нельга перайграць ні ў эканамічным, ні ў палітычным пляне, таму яны ўсе становяцца на гэтую самую беларускасьць.

Казулін — гэта таксама не натуральны беларус, але ён скіроўваецца да таго. І не ўплываць у гэты момант на чалавека з пэрспэктывай было б памылкай.

Асабіста ён мне трохі нагадвае Генадзя Карпенку, зь якім я ў свой час блізка сябраваў, і мае адносіны з Карпенкам прывялі да зьяўленьня Маладэчанскага фэстывалю народнай музычнай культуры.

Усе гавораць — «адзіны кандыдат, адзіны кандыдат». Я заўсёды быў за шырокі палітычны спэктар у Беларусі. Я таксама спадзяюся на цуд кшталту ўкраінскага, але палітыка адзінага кандыдата на мінулых выбарах прывяла да таго, да чаго прывяла. І чым так радыкальна зьмянілася сытуацыя, што тая ж палітыка праз 5 гадоў прывядзе да іншага, калі ня будзе ня толькі альтэрнатывы Лукашэнку, але і альтэрнатывы сярод тых людзей, якія вылучаюць сябе сёньня кандыдатамі на прэзыдэнта?

**А якая ў яго праграма?**

**Дракахруст:** Спадар Някляеў ужо пачаў размову аб праграмах кандыдатаў. Тут прыгадваецца вядомы анэкдот: «Хто такі зануда? Гэта — чалавек, які на пытаньне: "Як справы?", пачынае распавядаць, як ягоныя справы». Сапраўды, часам выбарнікі гавораць пра кандыдатаў: «Якая праграма ў Мілінкевіча, а якая — у Казуліна? Я яе ня ведаю». Хаця калі ў адказ пачуюць, што кандыдат мае намер зьменшыць, скажам, падаходны падатак на 10%, зьнізіць на 3% стаўку рэфінансаваньня, прыцягнуць інвэстыцыі, то скажуць: «Ды не, гэта ня тое». А што людзі маюць на ўвазе, калі гавораць аб праграме? І ці ёсьць праграмы ў такім народным уяўленьні ў прэтэндэнтаў на кандыдата ў прэзыдэнты?

**Алексіевіч:** Я думаю, гэта кепска, што мы не ўкладаем у праграму таго сэнсу, які ўкладаюць у эўрапейскіх краінах. Але, відаць, трэба пагадзіцца, што мы знаходзімся ў прамежкавым стане будаўніцтва новага жыцьця. Мы больш давяраем харызьме, носьбіту нашых прадчуваньняў.

Што людзі зьвязваюць зь Мілінкевічам, калі інфармацыя даходзіць да іх? Я заўважыла, што беларускае тэлебачаньне робіць даволі пісьменна з глядзішча ўлады — не называе імёнаў. Людзі, асабліва ў вёсках, проста ня ведаюць, што ёсьць такі чалавек, ня ведаюць, як ён выглядае, якія яго якасьці.

Для нашых людзей чалавечыя якасьці кандыдата значаць больш, чым яго праграма. Наш выбарнік — яшчэ палітычнае немаўлятка.

Для людзей, якія аддадуць свае галасы за Мілінкевіча, а іх будзе нямала, ён увасабляе ідэю іншага жыцьця на славянскім, ірацыянальным узроўні. Яго інтэлігентнасьць канфліктуе з тым, што мы маем сёньня ў нашай дзейнай уладзе — у нашым грамадзтве татальнай пасрэднасьці зьверху данізу. Калі бачыш людзей улады, проста ўражвае, як гэтая шэрасьць адраджае сябе і генэруе.



Зь Мілінкевічам людзі зьвязваюць тое, што мы адкрыемся сьвету, што будзе ня сорамна ані за тое, як чалавек гаворыць, ані за тое, як ён глядзіць. Гэта ўвасабленьне нашых надзеяў.

Сорамна за свой страх, якім прасякнутае грамадзтва, сорамна за свой сорам, сорамна за прыніжанасьць свайго жыцьця. Назапасілася вялікае сховішча псыхалягічных чаканьняў. І патрэбная фігура, якая зробіць гэты эмацыйны прарыў.

**Дракахруст:** Са словаў спадарыні Сьвятланы вынікае, што калі людзі гавораць аб праграме, яны маюць на ўвазе нейкае пасланьне кандыдата на прэзыдэнта. Скажам, у Лукашэнкі ў 1994 годзе такім пасланьнем было: «Адпомсьцім і пакараем злодзеяў і карупцыянэраў», пуцінскае пасланьне ў 2000 годзе ўкладалася ў ёмістае «мачыць у сарціры». Спадар Някляеў, Вы маглі б сказаць, якое пасланьне ў гэтым сэнсе ў Аляксандра Казуліна?

**Някляеў:** Усё на паверхні нібыта ляжыць. Мы цяпер тое самае кажам, што казалі і на мінулых выбарах, і на пазамінулых. Народ не чакае аніякіх эканамічных пасланьняў. Я маю на ўвазе менавіта народ, тых людзей, якія з дня ў дзень думаюць, як пражыць. Чалавек сам ведае, што калі ён не засее поле, не зарэжа курку, то хто б там якую эканоміку яму ні абяцаў, ён будзе галодным. Таму, канечне, чакаецца нейкае духоўнае пасланьне. З маіх сустрэчаў з простымі людзьмі вынікае, што ім абрыдла жыць у сьвеце невыразна.

Праўда, калі гаварыць пра сёньняшняе нашае выразнае існаваньне, дык лепш бы яго не было, кожна-

му нармальнаму чалавеку за такое «выразнае» існаваньне сорамна.

Беларусь — гэта зусім не маленькая краіна, як пра яе часам кажуць. Вунь Літва, Латвія, Эстонія — сапраўды краіны невялікія, але яны існуюць у сьвеце выразна і перш за ўсё гэтая выразнасьць зыходзіць з таго, штó яны нясуць у сабе нацыянальнага.

Калі пачынаеш гаварыць пра нацыянальнае на ўзроўні істэблішмэнту, чуеш, што гэта, маўляў, неперспэктыўнае, асабліва што тычыцца беларускага, што гэта ўсё лясьнецца, што будзе панаваць нейкае глябальнае нешта. Але так задумвацца, дык яно ўсё разам узятае непэрспэктыўнае, бо некалі пад патухлым сонейкам усё скончыцца. Але ж з гэтага не вынікае, што чалавецтва будзе хацець перастаць жыць. І з гэтага не вынікае, што чалавек, якому ў дадзены момант хочацца быць нацыянальным, хочацца быць выразным, расхоча гэтага таму, што яно некалі ў аддаленасьці скончыцца.

І Казулін пры адпаведным карэктаваньні якраз вось гэтую выразнасьць мог бы выказаць. Ён, як і Мілінкевіч, яшчэ крыху дзіўнаваты для большасьці людзей. «Адкуль такі ўзяўся?» — пытаюць пра яго. А ён падобны да гэтых людзей, ён і на сустрэчах блытаецца гэтак жа, як і тыя, з кім ён сустракаецца. Але відаць, што ён хоча разам з усімі людзьмі стаць выразным. Я думаю, што гэта асноўнае, штó ён на сёньняшні дзень у сабе нясе.

**Дракахруст:** Валянцін, ва Ўладзімера зараз прагучала фраза: «Мы казалі гэта і на мінулых выбарах, і на пазамінулых», а людзі, маўляў, занятыя сваімі куркамі і не падымаюць вачэй угару. Але мы памятаем нават па найноўшай беларускай гісторыі, як людзі ў 1994 годзе аб'ядналіся вакол пэўнай постаці — добрай ці кепскай — няважна, але яны ў пэўнай ступені адарваліся тады ад сваіх курак.



Ці пазалеташні досьвед Украіны, калі блізка мільёну чалавек стаялі на майданах па ўсёй краіне. Тут рэч, відаць, у своеасаблівым «залатым ключыку» — калі яго знойдзеш, то ён адчыняе душы людзей. Ці ўбачылі Вы, спадар Валянцін, у руках нейкага кандыдата такі «залаты ключык»?

**Акудовіч:** Я крыху дыстанцуюся ад гэтай вядомай думкі, што ёсьць недзе нейкае слоўца «сэзам», яго толькі трэба знайсьці — і дзьверы адчыняцца. Я думаю, што ўсё наадварот — калі сытуацыя высьпявае, тады ўжо неістотна, якое слоўца, слоган, лёзунг прагучыць. Мне даводзіцца дастаткова сустракацца з замежнымі сябрамі, у якіх гэта ўжо адбылося. Яны чамусьці ўвесь час робяць акцэнт на сваім, славакі кажуць пра свой лёзунг, сэрбы — пра свой. Я ня веру, што праблема ў нейкім «ключыку».

Патрэбны найперш «замок», куды ўтыркнуць той «ключык». Калі замок не вісіць, то насі той ключык у кішэні і бразгай ім колькі хочаш.

І таму пытаньне, хутчэй, у тым, калі ў Беларусі сасьпее крытычная маса. І людзі выйдуць. Выходзілі мы і па 20, і па 50, і па 100 тысячаў, і неістотна пад якімі словамі, а магчыма, неістотна нават, пад якім сьцягам.

Я пакуль ня бачу гэтага высьпяваньня.

Яно існуе, тут я згодны з Уладзімерам і Сьвятланай, яно ёсьць у колах інтэлігенцыі, грамадзка актыўных людзей. Але пакуль, мне здаецца, гэтага вельмі мала. Іншая рэч, што наш досьвед сапраўды паказвае, што вялікія ўзрушэньні адбываліся нечакана.

І таму застаецца спадзявацца, што працэсы, якія адбываюцца, нам проста нябачныя. Нам вельмі цяжка ацэньваць, што насамрэч адбываецца ў Беларусі, бо мы знаходзімся пад накрыўкай дыктатуры. Там штосьці «варыцца», штосьці «булькоча», але мы ня

можам бачыць, бо мы накрытыя рэпрэсіўным рэжымам, рэжымам страху. Мне страшэнна цікава было б даведацца, што там «зварылася».

## Выбары і нацыянальная ідэя

**Дракахруст:** Уладзімер, Вы ўжо казалі, што часам можна пачуць меркаваньні пра тое, што нацыянальная інтэлігенцыя ў Беларусі ізаляваная са сваімі размовамі пра мову і культуру, якія народу абсалютна нецікавыя. Але калі даходзіць да справы, то высьвятляецца, што чаканьні той часткі грамадзтва, якая не задаволеная існым становішчам, факусуюцца ці на людзях, выразна нацыянальна арыентаваных, такіх, як Аляксандар Мілінкевіч, ці на такіх, як Аляксандар Казулін, якія шукаюць гэтай арыентаванасьці — хаця Казулін і не належыць да гэтага кола, нават пабеларуску не гаворыць, але яго атачаюць такія людзі, як Уладзімер Някляеў, Ніл Гілевіч, Алесь Пашкевіч, Вольга Іпатава*. Чаму? Чаму атрымліваецца, што альтэрнатыва аказваецца зьвязанай з нацыянальнай ідэяй?

**Някляеў:** Я катэгарычна нязгодны з тым, што зараз сказаў мой паважаны сябра Валянцін, што яму ўсё адно, пад якім сьцягам мы выходзілі на вуліцы разам з тысячнымі натоўпамі. А мне ня ўсё роўна.

З майго гаўбца некалі быў бачны бел-чырвона-белы сьцяг, які тады лунаў над рэзыдэнцыяй прэзыдэнта. Я выходзіў з каўкай і цыгаркай на гаўбец, і ў

* У 2005 г. Вольга Іпатава паставіла свой подпіс пад дэклярацыяй руху «Воля народу», які спрабаваў ствараць Аляксандар Казулін. Аднак пасьля таго, як гэтая перадача выйшла ў этэр, яна зьвярнулася на Радыё Свабода з тлумачэньнем, што не зьяўляецца прыхільніцай Аляксандра Казуліна, а падтрымлівае кандыдатуру Аляксандра Мілінкевіча.



мяне разам з гэтым сьцягам лунала душа. Як толькі яго памянялі, я там ні разу не сядзеў, не паліў і нікуды не ўзьляцеў.

На он-лайн-канфэрэнцыі на «Свабодзе» ў Зянона Пазьняка спыталіся, што б ён зрабіў найперш, калі б стаў прэзыдэнтам. Ён адказаў, што адразу б памяняў нацыянальную сымболіку. Палітычна і эканамічна нібыта ня з гэтага трэба пачынаць, але вось тут я цалкам на яго баку.

Калі гэтага няма, то я не разумею, дзеля чаго ўсё астатняе.

Лукашэнка на сёньня стаў найперш перашкодай у духоўным жыцьці краіны. Як бы яна разьвівалася эканамічна, калі б быў ня ён, а нехта іншы? Думаю, што прыкладна гэтак жа, можа, крыху больш рынкава. Але пры любым іншым прэзыдэнту ў нас бы было іншае духоўнае жыцьцё. У гэтым і праблема.

**Акудовіч:** Мой любімы паэт, дарагі мне сябра Ўладзімер Някляеў трошкі ня так зразумеў маю рэпліку. Я ня менш за яго і за каго заўгодна заангажаваны і ў нашую сымболіку і ў беларускасьць. Я казаў, што калі людзі выходзілі масава на вуліцы, яны выходзілі не як мы зь Някляевым — пад пэўны сьцяг, яны выходзілі, бо была энэргетыка і патрэба пераменаў.

**Дракахруст:** Спадар Валянцін, у знакамітым эсэ «Бяз нас» Вы з горыччу апісалі глыбокую ізаляцыю нацыянальнай інтэлігенцыі. Дык чаму ж урэшце на альтэрнатыўным баку лідэрамі аказваюцца людзі ўсё ж такі нацыянальна сьвядомыя?

**Акудовіч:** Мала хто заўважае, што за 15 гадоў незалежнасьці беларусы ўжо амаль аформіліся як нацыя. А не заўважаюць гэтага найперш таму, што шлях нацыятварэньня бачыўся і бачыцца многім зусім іншым — менавіта этна-лінгвістычным, праз

ахопліваньне ўсяго грамадзтва ўласнай гісторыяй, нацыянальнай культурай, беларускай мовай і да таго падобным.

Аднак атрымалася ўсё зусім інакш. Беларусы неўпрыкмет для сябе пачынаюць гуртавацца ў нацыю на сацыяльных падставах — гэта значыць, свая дзяржава, свае законы, свой дзяржаўны лад і гэтак далей.

Але з чаго тады нават у нацыянальна неангажаваных палітычных лідэраў відавочна бачны акцэнт на ўласна нацыянальнае, як у спадара Казуліна? Рэч у тым, што нацыянальна сфармаваны чалавек, на якіх бы падставах ён ні фармаваўся, пачынае разумець значэньне ўнівэрсальных каштоўнасьцяў. А значыць, ён пакрысе ўсьведамляе, што ўласна беларускае, якім бы маргінальным сёньня яно ні было, — адна з тых унівэрсальных каштоўнасьцяў, якая нябачна зьвязвае нашу краіну ў адно цэлае.

Беларускасьць сёньня знаходзіцца ў маргінальным стане, але гэта — цэнтрапалеглая маргіналія. Вымі яе цалкам — і ўсё пасыплецца.

І таму чуйныя, разумныя людзі, як у выпадку з Казуліным, першае, што робяць, калі самі не зьяўляюцца ўнутры нацыянальнымі ў пляне ўласна беларускага, — агароджваюць сябе людзьмі выразна нацыянальна заангажаванымі, як Іпатава, Някляеў.

**Дракахруст:** Спадарыня Сьвятлана, ізноў жа вяртаюся да Вашай палемікі з Генадзем Бураўкіным у «Праскім акцэнце». Вы тады казалі, што нацыянальна арыентаваная інтэлігенцыя — гэта такія летуценьнікі, іх сьвет — гэта вузенькая прастора каля рэдакцыяў «Нашай Нівы» і «ARCHE», а вакол жыве зусім іншае грамадзтва, чужое гэтым ідэям.

Але цяпер Вы самі адзначаеце, што на вастрыні чаканьняў апынуўся Мілінкевіч — чалавек менавіта такіх ідэяў. Чаму?



**Алексіевіч:** Не зусім дакладна перададзены сэнс таго, што я хацела сказаць раней. Я не казала, што ёсьць шчырыя беларусы вакол «ARCHE», «Нашай Нівы», вакол лідэраў такіх, як Акудовіч. Я казала, што большая частка Беларусі яшчэ гаворыць па-расейску. Рэч ня ў мове ці ня толькі ў мове. Ня важна, на якой мове адбываецца высьпяваньне нацыі, высьпяваньне наагул чалавечай сьвядомасьці, роўнай той, што існуе ў сьвеце.

І калі размова ішла пра трансьляцыю зь Нямеччыны, я сапраўды лічу, што вельмі разумнае рашэньне, каб яна была на расейскай мове, бо да выбараў засталося няшмат часу (высьветлілася, што яго яшчэ менш), і давайце заангажуем расейскамоўную частку людзей.

Што тычыцца нацыі, то яна сапраўды відавочна зьбіраецца, і гэта адбываецца ня толькі паводле ўнутраных, але і паводле зьнешніх прычынаў. Іншага стрыжня, акрамя нацыянальнага, на сёньняшні момант разьвіцьця чалавецтва няма. Я б не сказала, што гэта маргінальная інтэлігенцыя і што гэтыя каштоўнасьці маргінальныя. Мы ўжо прызвычаіліся так думаць і прыніжацца. Яны яшчэ не артыкуляваныя і адбываюцца на падсьвядомым узроўні.

Адзін нямецкі філёзаф казаў, што ёсьць ананімныя хрысьціяне — людзі, якія ня ведаюць, што яны хрысьціяне. У нас краіна беларусаў, якія ня ведаюць, што яны беларусы. Я гэта магу сказаць і пра сябе.

Дзяржаўная ўлада закрытая ад сьвету, сьвет не прымае яе, але людзі езьдзяць, глядзяць. Хай сабе яны цягаюць скрыні з харчамі ці рэчамі, якія прадаюць, але яны бачаць, які велізарны сьвет. І яны бачаць, што гэты сьвет сёньня мае праблемы, і яны вырашаюцца праз асэнсаваньне чалавека, хто ён ёсьць: італьянец — гэта італьянец, француз — гэта француз, паляк — гэта паляк.

Людзі бачаць, што войны, якія ідуць сёньня і якія часам называюць тэрарызмам, зьвязаныя з глыбокімі нацыянальнымі праблемамі. Усходні сьвет ня хоча жыць, як амэрыканцы ці эўрапейцы, ён ня хоча жыць на такіх хуткасьцях і так хутка губляць каштоўнасьці.

У нас — страх выжываньня, а там — страх страты сябе, страты свайго сьвету. І за што чалавек можа ўхапіцца? У экзыстэнцыяльным сэнсе — за дом, але калі ён выходзіць зь яго, ён можа ўхапіцца за нейкую супольнасьць. Бяз гэтай кропкі ён будзе ці камфортнай жывёлай, ці страчанай пясчынкай.

Іншага шляху няма.

**Дракахруст:** Спадарыня Сьвятлана, Вы кажаце, што ёсьць вялікая колькасьць беларусаў, якія гавораць па-расейску. Дык чаму ў выніку спантаннай канкурэнцыі ў апазыцыйным лягеры на першыя месцы выйшлі людзі, адзін зь якіх сам гаворыць па-беларуску, а другі, калі сам і не гаворыць, то атачае сябе людзьмі з гэтага кола?

**Алексіевіч:** Людзі, якія выяжджаюць — я шмат бачыла па сьвеце беларусаў, расейцаў, украінцаў, — адʼяжджаюць касмапалітамі. Але потым у іх зьяўляюцца ці самавары, ці слуцкі пояс — чалавек хоча за нешта зачапіцца, асэнсаваць, хто ён. Мы гойсалі па постсавецкай прасторы, як ніводная нацыя, мы былі нічыйнымі. Але глядзім — там жывуць украінцы, там малдаване, там расейцы. А хто мы? Іншай энэргетыкі няма.

Валянцін слушна сказаў, што можна пачуць энэргетыку прасторы сьвету, толькі калі ты на нечым стаіш.

І нягледзячы на тое, што нацыянальнае не артыкулюецца ўладай, не артыкулюецца культурай, якая сёньня расьцярушаная, людзі артыкулююць яго на падсьвядомым узроўні.

Людзі разумнейшыя і за пісьменьнікаў, і за палітыкаў. Нашае грамадзтва разумнейшае за нашую ўладу і нашую культуру.



## Чаму Пазьняк зьняў сваю кандыдатуру?

**Дракахруст:** Зьвернемся да прадстаўнікоў культуры. Я папрашу сказаць, як вы ацэньваеце тое, што ініцыятыўная група Зянона Пазьняка адмовілася здаваць подпісы ў ЦВК. Гэта азначае, што кіраўнік КХП БНФ спыніў змаганьне за пасаду прэзыдэнта.

**Акудовіч:** Па-першае, гэтага ўсе чакалі, усе ведалі, што так яно і будзе. Відавочна, што ў БНФ цяпер вельмі малы рэсурс у самых розных плашчынях, тым больш калі нацыянальна заангажаваныя атрымалі менш радыкальнага лідэра — Мілінкевіча. Тое, што здарылася, павіннае было здарыцца, а, па-другое, гэта і да лепшага.

**Алексіевіч:** Я нават зьдзіўленая такому цьвярозаму рашэньню. Я ня ведаю, якімі матывамі ён кіраваўся, але для мяне гэта быў нейкі знак, што надышоў час новых інтэлектуальных выклікаў у грамадзтве, і нацыянальная ідэя са стадыі рамантыкі пераходзіць у стадыю рэалізацыі. Спатрэбіўся новы лідэр, які захоўвае мяккую беларускую мэнтальнасьць і, у той жа час, дастаткова канкрэтны ў сваім бачаньні краіны.

Адзінае, што мяне засмучае, і я мяркую, што яно засмуціць значную частку нашага грамадзтва, — гэта тое, што Мілінкевіч — палітык польскага тыпу, а з гэтым зьвязаныя гістарычныя крыўды і складанасьці. Я баюся, што «польскі тып» у пэўнай ступені яму перашкодзіць.

Пазьняк ў свой час таксама быў падобны да палітыка польскага тыпу. Але калі быў час разбурэньня, патрэбныя былі такія фігуры, як Пазьняк. А зараз надыходзіць час стваральніцтва. І зьяўляюцца іншыя фігуры. І дзякаваць Богу, што старыя фігуры годна сыходзяць у гісторыю.

**Някляеў:** Зянон Станіслававіч як палітык вымушаны гуляць у прапанаваных яму ўмовах. Ён ня мог не ўключыцца ў перадвыбарчую прэзыдэнцкую кампанію і ня мог ня выйсьці зь яе.

## Выбары: прэзыдэнцкія і геапалітычныя

**Дракахруст:** На гэтым тыдні адбылося магчыма выпадковае, але сымбалічнае супадзеньне. У той час як Аляксандар Лукашэнка ў Санкт-Пецярбургу вёў перамовы з Уладзімерам Пуціным і старшыняваў на саміце Эўразійскай эканамічнай супольнасьці, Аляксандар Мілінкевіч выступаў з трыбуны польскага Сойму і паціскаў руку польскаму прэзыдэнту Леху Качыньскаму*.

У той жа час Аляксандар Казулін на он-лайн-канфэрэнцыі на «Свабодзе» заявіў: «*Не сакрэт, што праект "адзінага" — праамэрыканскі і празаходні. Я ж выступаю за збалянсаваную палітыку Беларусі як з Расеяй, гэтак і з Эўропай і Амэрыкай. І я такі не адзін у нашай краіне*».

Ці можна сказаць, што гэтая кампанія, як тое ня раз было ў беларускай гісторыі, ператвараецца ў спаборніцтва двух вялікіх беларускіх культурных і

* Пазьней падчас выбарчай кампаніі адбыліся сустрэчы Аляксандра Мілінкевіча з канцлерам Нямеччыны Ангелай Мэркель, прэзыдэнтам Эўракамісіі Жузэ Мануэлем Барозу і іншымі кіраўнікамі эўрапэйскіх краінаў і Эўразьвязу.



мэнтальных «магнітаў» — Расеі і Польшчы, як тых вучоных — Заходняга і Ўсходняга — у купалаўскіх «Тутэйшых», якія ўвесь час зьяўляюцца з розных бакоў сцэны і ствараюць своеасаблівы кантэкст таго, што адбываецца.

Уладзімер, ці лічыце Вы, што кампанія атрымліваецца такой: Расея супраць Польшчы?

**Някляеў:** Тут ня толькі Расея супраць Польшчы. Нашая кампанія, як і папярэдняя, атрымліваецца такой, што ўсе супраць усіх. Калі ў кожнага з кандыдатаў спытацца: «Калі ты не пераможаш, то што лепш: каб перамог твой дэмакратычны канкурэнт ці каб застаўся Лукашэнка?» — то кожны скажа: «Хай лепш застанецца Лукашэнка».

Да мяне ўжо колькі народу чаплялася: як гэта ты, Някляеў, у Казуліна? Распавядаюць, што Казулін ня толькі праект лукашэнкаўскай улады, але і крамлёўскі праект, маўляў, усё там ужо даўно дамоўлена, што надыходзіць «гадзіна Х» і Лукашэнку мяняюць на Казуліна. Дык я ў адказ: калі так, то я проста дурань, калі не пайду да Казуліна, калі ўжо запраграмавана, што ён будзе пры ўладзе.

Што да супрацьстаяньня Захаду і Ўсходу і бліжэй — Расеі і Польшчы. У Янкі Брыля ёсьць абразок, калі яму адзін паляк, прычым інтэлігентны, выкшталцоны, прафэсар, казаў, калі яшчэ толькі пачалася нашая нібыта незалежнасьць: «Нешта вы там загульваеце з Расеяй, вы гуляйце ня зь ёй, а з намі, мы, палякі, вам болей дамо дэмакратыі».

Казаць пра расейскі бок, як там мысьліцца пра Беларусь, няма чаго — мы для іх «сапсаваныя расейцы», якіх трэба «адрамантаваць». І, вядома, бяз гэтай выразнасьці, выразнасьці гістарычнай, без аднаўленьня годнасьці нічога ня будзе. Мы забыліся пра слова «годнасьць». А яно, па-мойму, наагул ключавое ў існаваньні чалавецтва.

**Акудовіч:** Некалі я пісаў, што Расея — не на ўсход ад Беларусі, а яна Ўсход Беларусі. Гэта значыць, што Расея пэўным сваім контурам, як і Эўропа, натуральна знаходзіцца ўнутры нашай уласнай самасьці.

У розныя гістарычныя эпохі на нашых землях дамінавала то Эўропа, то Расея, і ўсяк для нас было ня надта добра. Цяпер мы ізноў маем вельмі небясьпечны дысбалянс у бок Расеі. Яшчэ трохі — і наш родны карабель можа перакуліцца.

Таму зь якой бы пазыцыі наступны прэзыдэнт ні прыйшоў да ўлады, зь якой бы праграмай ён ні прыйшоў — у рэальнай палітыцы будзе змушаны быць празаходнім, каб хаця б выправіць гэты дысбалянс.

З апірышчам на адну Расею беларусы ніколі шчасьлівага жыцьця не збудуюць. Але не збудуюць яго і толькі на Эўропе. Нам аднолькава патрэбныя і Эўропа, і Расея. І ня зь нейкіх вонкавых меркаваньняў, а таму, што мы ўнутры сябе — і Эўропа, і Расея. Гэтае спалучэньне і дае эфэкт Беларусі і беларусаў.

**Алексіевіч:** Я, калі даведалася пра паездку Мілінкевіча ў Польшчу, зьдзівілася. Я перакананая, што гэта была памылка. Зразумела, чаму яна была зробленая. Зрабіць украінскую рэвалюцыю дапамаглі антырасейскія настроі, якія вельмі моцныя ва ўкраінскім народзе. У мяне бацька — беларус, а маці — украінка, і я ведаю, як моцна ва Ўкраіне ня любяць «маскалёў». Гэтая нелюбоў — велізарная энэргія, і яна ў пэўным сэнсе дапамагла зрабіць рэвалюцыю.

Але беларусы — іншыя людзі, тут такой антырасейскасьці няма. У 1994 годзе ў вёсцы мне адзін стары сказаў, што будзе галасаваць толькі за Лукашэнку, а не за Пазьняка ці Шушкевіча. Я спытала: «Чаму?» Ён адказаў: «Бо тыя глядзяць на Польшчу, на каталіцызм. А калі для расейцаў мы — малодшы брат, то для палякаў мы — быдла». І мне здаецца, што памылка палітыка, які толькі пачынае сваю кар’еру, гэтак абазначаць наш гістарычны варыянт. Сапраўды, павінная быць раўнавага. І я думаю, што такая дэманстрацыя прыхільнасьці памылковая.



У мяне было адчуваньне палітычнай некарэктнасьці і недакладнасьці.

Урэшце становішча Польшчы ў Эўропе дастаткова маргінальнае. Яе любяць як ідэю, а не як краіну. Палякі дастаткова складана ставяцца да Беларусі. Гэта канфлікт, які нас чакае наперадзе — праз 10—20 гадоў.

# Прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі: высновы і пэрспэктывы

Якое значэньне будуць мець для Беларусі вынікі прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году? У чым беларуская сытуацыя адрозная ад сытуацыі ў такіх краінах, як Казахстан і Азэрбайджан? Якой будзе рэакцыя на беларускія выбары Расеі і Захаду?

**19 сакавіка 2006**

Удзельнікі: Аляксандар Класкоўскі, Віталь Портнікаў, Павал Шарамет.

## Што стаіць за лічбамі ЦВК?

**Дракахруст:** Некалькі гадзінаў таму ў Беларусі завяршыліся прэзыдэнцкія выбары. Вашая агульная ацэнка таго, што адбылося ў Беларусі, і таго, што адбываецца гэтай ноччу. Якое значэньне гэта будзе мець для Беларусі?

**Класкоўскі:** Лічбы, агучаныя ЦВК, выглядаюць фантастычнымі*, тут дзейнічае лёгіка сыстэмы, якая мусіць з кожным разам нарошчваць паказьнікі, якія б сьведчылі гэтым разам, відаць, пра «супэрэлегантную перамогу». Але ў гэтай кампаніі было шмат фактаў, якія не дазваляюць сказаць, што такая перамога адбылася. І сам мітынг у цэнтры Менску, зь якога я нядаўна вярнуўся — там такая энэргетыка. Цэлая плошча пераважна маладых людзей, якія пераадолелі свой страх*. І ўжо гэта сьведчыць, што тыя, хто жадае іншага шляху для Беларусі, — ня «купка адмарозкаў», а вялікі пласт грамадзтва. Гэты пласт зрушаны, і Беларусь за апошні месяц шмат у чым стала іншай краінай.

**Дракахруст:** Віталь Портнікаў, Вы цяпер знаходзіцеся ў Кіеве, там, дзе ў сьнежні 2004 году таксама праяўлялася магутная энэргетыка. Параўнайце, калі ласка, тагачасныя падзеі ва Ўкраіне і цяперашнія — у Беларусі: у чым падабенства, у чым адрозьненьні?

**Портнікаў:** Я думаю, што «аранжавую» рэвалюцыю ва Ўкраіне і цяперашнія падзеі ў Беларусі цяжка параўноўваць з гледзішча мэты, якую перад сабой ставілі беларускія і ўкраінскія апазыцыянэры. Ва Ўкраіне барацьба ішла за перамогу. Варта прыгадаць, што і ўкраінскі парлямэнт ня быў цалкам кантраляваны дзейнай уладай, і праўладны кандыдат ня быў ужо такім блізкім да ўладнай эліты. Ва Ўкраіне ішла барацьба нават ня супраць фальсыфікацыяў, як такіх, там ішла барацьба за перамогу апазыцыйнага кандыдата.

У Беларусі, мне здаецца, што калі б нават не было фальсыфікацыяў, Лукашэнка мог бы спадзявацца на перамогу. Мэтай беларускай апазыцыі было

* Паводле зьвестак Цэнтравыбаркаму, на выбарах 2006 г. Сяргей Гайдукевіч набраў 3,5% ад тых, хто ўзяў удзел у галасаваньні (3,2% ад агульнай колькасьці выбарнікаў), Аляксандар Казулін — 2,2% (1,8%), Аляксандар Лукашэнка — 83% (76,8%), Аляксандар Мілінкевіч — 6,1% (5,6%).

Паводле апытаньня НІСЭПД, праведзенага ў сакавіку — красавіку 2006 г., Сяргей Гайдукевіч атрымаў 2% галасоў ад агульнай колькасьці дарослага насельніцтва, Аляксандар Казулін — 4,7%, Аляксандар Лукашэнка — 58,2%, Аляксандар Мілінкевіч — 18,8%.

* 19 сакавіка 2006 г. пасьля абвешчаньня вынікаў выбараў у Менску на Кастрычніцкай плошчы пачаўся мітынг прыхільнікаў апазыцыі. 19 сакавіка ў ім удзельнічалі да 20 тысячаў чалавек. Падзеі на Плошчы працягваліся ў наступныя дні, 20 сакавіка там было ўтворанае намётавае мястэчка. У 3 гадзіны раніцы 24 сакавіка намётавы лягер ліквідавалі праваахоўныя органы.

стварэньне заўважальнай, легітымнай часткі грамадзтва, якая магла б гаварыць, што яна не пагаджаецца з курсам Аляксандра Лукашэнкі, што ў Беларусі можа быць іншы шлях.

У апошнія тыдні Лукашэнка і ягонае атачэньне зразумелі ўсю небясьпеку такога стварэньня. Тая параноідальная рэакцыя на апазыцыю, якую мы бачылі пасьля рэгістрацыі кандыдатаў на прэзыдэнта, была зьвязаная менавіта з гэтым.

Аляксандру Лукашэнку ніхто не перашкаджаў спакойна выйграць у апазыцыйных палітыкаў, тым больш што яны выступалі па тэлебачаньні, крытыкавалі яго. Але была відавочная боязь таго, што зьяўляюцца іншыя людзі.

**Дракахруст:** Павал Шарамет, прагучала думка Віталя Портнікава, паводле якой Лукашэнка перамог бы і без фальсыфікацыяў, магчыма, не з такім туркмэнскім лікам. Калі гэта сапраўды так, то што адсюль вынікае?

**Шарамет:** Я лічу, што гэта апошняя перамога Лукашэнкі, і гэта піррава перамога. Ён задзейнічаў абсалютна ўвесь свой адміністрацыйны, рэпрэсіўны, фінансавы і прапагандысцкі рэсурс. Выбары зь вялікай колькасьцю скандалаў, нявінных ахвяраў — такая перамога ня зможа кампэнсаваць увесь гэты шлейф, гэты дух разлажэньня, які ідзе ад улады Беларусі.

Гэтыя выбары — пачатак заходу палітычнай зоркі Аляксандра Лукашэнкі. Я б не падводзіў цяпер канчатковых вынікаў палітычнага крызісу, пагляддзім, як заўтра пройдзе мітынг апазыцыі, якія крокі зробяць улады. Але я лічу, што ўсіх дыктатараў падводзіць нястрыманасьць, іх забівае палітычны апэтыт, які прыходзіць да іх падчас палітычнага пажыраньня ўсяго навокал, сваіх супернікаў і сваіх падданых.



Калі б Лукашэнка намаляваў сабе 70%, гэта б успрынялі больш-менш спакойна экспэрты і палітолягі. Ці калі б гэта была лічба 60%, як даваў Усерасейскі цэнтар вывучэньня грамадзкай думкі напярэдадні выбараў. Не, яму трэба 90%, яшчэ крыху — і яму будзе трэба 100%. І ўсе разумеюць, што гэта фарс, глупства і неадэкватнае стаўленьне да рэчаіснасьці.

**Дракахруст:** Спадар Класкоўскі, пракамэнтуйце дзьве тэзы, якія прагучалі ў нашай гутарцы: што Лукашэнка перамог бы і без фальсыфікацыяў, і што ў Беларусі Майдан не плянаваўся.

**Класкоўскі:** Любыя зьвесткі сацыялягічных апытаньняў можна ставіць пад сумнеў, бо самі сацыёлягі казалі, што Беларусь ужо фактычна выходзіць з поля нармальных сацыялягічных дасьледаваньняў: ва ўмовах такіх рэпрэсіяў, страху людзі проста баяцца адказваць, нават калі ім кажуць, што апытаньне ананімнае. Тут трэба ўлічваць каэфіцыент страху, і калі ён складае больш за 10%, то сапраўды ўзьнікае пытаньне, ці набраў дзейны лідэр больш за палову галасоў.

Я ўжо не кажу пра тое, што рэйтынг Лукашэнкі, як кажуць ягоныя апанэнты, ствараецца штучна, за кошт таго, што да цяперашняй кампаніі шмат хто ня ведаў пэрсанальнай альтэрнатывы. Даволі ўдалыя дзеяньні альтэрнатыўных кандыдатаў разварушылі грамадзтва і паказалі гэтую альтэрнатыву.

Што тычыцца беларускага Майдану, то на сёньняшні дзень лідэры апазыцыі рэальна ацэньваюць патэнцыял і свой, і рэжыму, яны разумеюць, што ў рэжыму сёньня дастаткова сілаў. Вы ведаеце, які сілавы кулак створаны, якая вядзецца прапаганда, гэтае запалохваньне шмат на каго падзейнічала. Вы ж памятаеце, як казаў старшыня КДБ, што тыя, хто выйдзе на вуліцы, могуць быць прыраўнаныя да тэ-

рарыстаў і да іх могуць быць ужытыя пакараньні, ажно да сьмяротных.

Але кропкі над «і» яшчэ не расстаўленыя, лідэры апазыцыі заклікалі людзей і заўтра выйсьці на Плошчу. І найбольш востра гэты сюжэт можа разьвівацца ў сярэднетэрміновай пэрспэктыве.

## Грамадзтва і апазыцыя пасьля выбараў

**Дракахруст:** Віталь, Вы назіралі і вялікія перамогі ў Тбілісі і Кіеве, але і паразы ў Баку і Астане. Ваш прагноз, якой будзе рэакцыя беларускага грамадзтва, беларускай апазыцыі: ці адчуваньне, што мы дасягнулі неймавернага, ці апатыя — ён ізноў выйграў і, магчыма, ужо назаўжды?

**Портнікаў:** Я думаю, што ў гэтай сытуацыі мы і высьветлім рэальныя магчымасьці беларускага грамадзтва. Вы згадвалі Казахстан і Азэрбайджан. І ў тых краінах фактычна дзейнічае палітычная супольнасьць, апазыцыйная дзейнай уладзе. Ёсьць палітычныя партыі, парлямэнцкія фракцыі, праграмы дзеяньняў, лідэры. Яны могуць ніколі ня выйграць выбараў у Нурсултана Назарбаева ці Ільхама Аліева, але сэнс палітычнай барацьбы — ня толькі ў гэтым, а і ў тым, што існуюць грамадзтвы з рознымі поглядамі на будучыню краіны, гэтае грамадзтва можа існаваць у тых эканамічных умовах і яно існуе ў Казахстане і Азэрбайджане, ня кажучы ўжо пра Грузію і Ўкраіну. Ва Ўкраіне на цяперашніх выбарах можа перамагчы партыя, якая прайграла прэзыдэнцкія выбары, але гэта ня зьменіць функцыянаваньня ўкраінскай палітычнай супольнасьці.

Гэтага ў Беларусі няма. Аляксандар Лукашэнка зрабіў усё магчымае, каб аднавіць старую савецкую сыстэму зь яе безвыходнасьцю. У гэтай сыстэме



паўстае вельмі простае пытаньне: якое будзе выйсьце з сытуацыі, калі Лукашэнка будзе ўсё ж вымушаны адысьці ад улады з тых ці іншых прычынаў, урэшце ён ня вечны. Адказу на гэтае пытаньне няма, гэта безвыходнае становішча. У такой безвыходнасьці ёсьць адзіны шлях да захаваньня беларускай дзяржаўнасьці — магчымасьць функцыянаваньня палітычнай супольнасьці, хай нават побач з Лукашэнкам, зь яго парлямэнтам, яго прыхільнікамі, з масамі, якім ён яшчэ падабаецца. Каб гэтая супольнасьць магла існаваць, не баючыся рэпрэсіяў, не баючыся зьнішчэньня — маральнага ці палітычнага.

**Дракахруст:** Павал, шмат хто адзначаў, што падчас гэтых выбараў беларусы нарэшце ўбачылі выразныя альтэрнатывы. Ці захаваюцца Казулін і Мілінкевіч як сымбалі надзеі?

**Шарамет:** Гэта прынцыповае пытаньне для найбліжэйшай будучыні беларускай апазыцыі. Захаваньне Мілінкевіча ці Казуліна ў якасьці адзінага лідэра апазыцыі залежыць ад палітычнага выніку, якога яны могуць дасягнуць. Калі Мілінкевіч застанецца адзіным лідэрам апазыцыі, то гэта дазволіць пазьбегчы ўнутраных канфліктаў паміж дастаткова амбіцыйнымі апазыцыйнымі палітыкамі Беларусі. Тое ж тычыцца і Казуліна. Калі ён захаваецца ў якасьці аднаго з сымбаляў аднаўленьня беларускага грамадзтва, то палітычны працэс у Беларусі будзе дастаткова актыўным. Калі пасьля выбараў пачнецца зьмена лідэраў, калі Мілінкевіча памяняюць на Лябедзьку ці Калякіна, то ні да чога добрага гэта не прывядзе.

Што тычыцца будучыні Казуліна і Мілінкевіча, то тут шмат што будзе залежаць ад Лукашэнкі, ад той злосьці, якую ён мае на гэтых людзей. Ці будзе ён помсьціць ім, зьнішчаць іх, як зьнішчаў Калугіна — кандыдата на прэзыдэнта на мінулых выбарах,

як зьнішчае Марыніча? Я схільны да вэрсіі, што ў найбліжэйшыя месяцы Казуліну і Мілінкевічу давядзецца перанесьці шмат што.

## Беларусь і сьвет пасьля выбараў

**Дракахруст:** Павал, пытаньне пра будучыню Казуліна і Мілінкевіча сапраўды надзвычай складанае. Наступнае пытаньне — больш простае: якой будзе рэакцыя Крамля на беларускія выбары? Як ён адрэагуе адразу і як адрэагуе ў сярэднетэрміновай пэрспэктыве?

**Шарамет:** Гэта сапраўды вельмі складанае пытаньне*. Паводле заяваў афіцыйных расейскіх прадстаўнікоў, напярэдадні выбараў немагчыма было дакладна вызначыць пазыцыю менавіта Крамля. Палітычная супольнасьць Расеі падзялілася: камуністы — за Лукашэнку (шмат у чым гэта карупцыйныя сувязі), расейскія лібэралы — адназначна супраць Лукашэнкі. Што ж тычыцца афіцыйных палітыкаў, то за выключэньнем нехлямяжых заяваў спадара Грызлова і няпэўных выказваньняў прэм'ера Фрадкова сур'ёзныя палітычныя гульцы Расеі захоўвалі маўчаньне наконт сытуацыі ў Беларусі.

У найбліжэйшыя месяцы пасьля выбараў трымаць шматзначнае маўчаньне і ў пэўным сэнсе выкарыстоўваць гэтую двухсэнсоўнасьць перамогі Лукашэнкі ў якасьці інструмэнту ціску на яго — значыць, імкнуцца дасягнуць тых мэтаў, якія яны перад сабой

* Яшчэ да абвешчаньня вынікаў выбараў Аляксандра Лукашэнку павіншавалі зь перамогай Фідэль Кастра, Махмуд Ахмадынэжад, Ху Цзыньтао і Ўладзімер Пуцін. У віншаваньні Пуціна адзначалася, што *«вынікі выбараў, што адбыліся, сьведчаць пра давер выбарнікаў курсу, які Вы праводзіце, на далейшае забесьпячэньне росту дабрабыту беларускага народу».*



ставілі — «Белтрансгаз», адзіны рубель, Канстытуцыйны акт.

**Дракахруст:** Віталь, у мяне да Вас у пэўным сэнсе адваротнае пытаньне: якой будзе рэакцыя Эўразьвязу і ЗША на беларускія выбары? Я задаваў гэтае пытаньне вядомаму нямецкаму экспэрту Аляксандру Рару, і ён адказаў, што зьменаў ня будзе, маўляў, будзем весьці дыялёг, спрабаваць павярнуць Лукашэнку ў дэмакратычную веру, памятаючы пра асаблівыя адносіны Беларусі з Расеяй. Спадар Рар мае рацыю?

**Портнікаў:** Мяркую, што толькі ў тым выпадку, калі Лукашэнка ня будзе рабіць ніякіх жорсткіх захадаў адносна апазыцыі. Калі ўсё скончыцца сёньня — мірныя мітынгі, больш-менш спакойная рэакцыя ўлады, процістаяньне без страляніны, — тады сапраўды Эўропа, магчыма, будзе спрабаваць падтрымліваць са спадаром Лукашэнкам і яго ўрадам пэўны асьцярожны дыялёг, але каб пры гэтым не заплям іць сваёй рэпутацыі. Мы ведаем, што Эўропа гатовая весьці дыялёг ня толькі з Лукашэнкам, яна спрабуе весьці яго нават з ХАМАС, а гэта значна больш небясьпечная справа.

Аднак адразу скажу, што калі беларускі рэжым пяройдзе да сілавых дзеяньняў, тут можна пагадзіцца і з кіраўніком Эўракамісіі спадаром Барозу, які папярэдзіў, што наступствы будуць для Менску дастаткова сур'ёзнымі*. Тады Эўропа ня будзе весьці

* У красавіку 2006 г. Эўразьвяз увёў візавыя санкцыі ў адносінах Аляксандра Лукашэнкі і яшчэ 30 беларускіх чыноўнікаў. У траўні 2006 г. Зьвяз увёў фінансавыя санкцыі да Лукашэнкі і яшчэ 35 беларускіх чыноўнікаў, аддаўшы загад замарозіць усе магчымыя банкаўскія рахункі гэтых асобаў у банках краінаў Эўразьвязу.

Прычынай увядзеньня санкцыяў былі названыя парушэньні правоў чалавека, а таксама фальсыфікацыі, дапушчаныя падчас прэзыдэнцкіх выбараў 2006 г.

ніякага дыялёгу з Лукашэнкам і ягонымі людзьмі і нават пазбавіць іх магчымасьці езьдзіць па краінах Эўразьвязу.

**Дракахруст:** Спадар Портнікаў, а якой будзе рэакцыя Кіева на беларускія выбары? Якой яна будзе зараз, пасьля 19 сакавіка, і праз тыдзень — пасьля ўкраінскіх выбараў?

**Портнікаў:** Тут сапраўды нічога ня зьменіцца. Афіцыйны Кіеў і пасьля перамогі Віктара Юшчанкі на прэзыдэнцкіх выбарах быў дастаткова асьцярожны ў адносінах да беларускага кіраўніцтва. Спадар Лукашэнка быў менш асьцярожным у сваім стаўленьні да Кіева, чым Кіеў — да яго. І асабліва цяпер, калі можа быць створаны кааліцыйны ўрад, у якім, магчыма, будуць людзі, што адкрыта сымпатызуюць Лукашэнку, то будзе захоўвацца пэўная асьцярожнасьць, і кантакты зь беларускай апазыцыяй будуць падтрымлівацца выключна на грамадзкім узроўні. Ёсьць сапраўды пэўная супярэчнасьць у тым, што людзі, якія падтрымлівалі Віктара Юшчанку на прэзыдэнцкіх выбарах, цяпер прыяжджаюць у Менск, выказваюць падтрымку беларускай апазыцыі, а афіцыйны Кіеў прыгадвае пра падзеі ў Менску толькі тады, калі там затрымліваюць украінскіх грамадзянаў.

---

15 траўня 2006 г. прэзыдэнт ЗША Джордж Буш выдаў дэклярацыю, якая ўводзіла візавыя санкцыі адносна шырокага кола беларускіх чыноўнікаў, пачынаючы з Аляксандра Лукашэнкі, якія, на думку Вашынгтону, маюць дачыненьне да парушэньняў правоў чалавека і выбарчых працэдураў.

У кастрычніку 2008 г. Эўразьвяз прыпыніў на 6 месяцаў візавыя санкцыі адносна прэзыдэнта Беларусі і яшчэ 30 чыноўнікаў з «чорнага сьпісу». У сакавіку 2009 г. прыпыненьне візавых санкцыяў працягнутае яшчэ на 9 месяцаў, а Беларусь была афіцыйна запрошаная, разам з Азэрбайджанам, Армэніяй, Грузіяй, Малдовай і Ўкраінай, да ўдзелу ў праграме «Ўсходняе партнэрства».



**Дракахруст:** Спадар Класкоўскі, як зь Менску бачацца адносіны да Беларусі пасьля 19 сакавіка з боку Расеі і Эўразьвязу?

**Класкоўскі:** Натуральна, што ацэнкі гэтых выбараў з боку заходняй супольнасьці будуць жорсткімі. З гледзішча дэмакратычных сілаў вельмі важна, каб справа не абмежавалася фармальнымі дэклярацыямі і каб пільная ўвага пасьля выбараў ня зьнікла.

Што тычыцца Расеі, у мяне няма ілюзіяў наконт экспарту дэмакратыі з Усходу, але я думаю, там будуць ведаць сапраўдны расклад сілаў, і так ці інакш Крэмль будзе вымушаны ўлічваць рэаліі і наўрад ці стане складаць усе яйкі ў адзін кошык.

# Палітычны далягляд у «вакне магчымасьцяў»

Ці азначаюць вынікі фармаваньня акруговых камісіяў і рэгістрацыі ініцыятыўных групаў кандыдатаў, што ўмовы сёлетніх выбараў адкрываюць для апазыцыі «вакно магчымасьцяў»? Наколькі апазыцыя гатовая да гэтага? Ці павінная яна непахісна адстойваць свае прынцыпы альбо прыстасоўваць іх да патрэбаў выбарнікаў?

**5 жніўня 2008**

Удзельнікі: Міхаіл Пашкевіч, Аляксей Пікулік, Павал Севярынец

## Ці адкрываюць умовы правядзеньня выбараў магчымасьці для апазыцыі?

**Дракахруст:** «Цуды», зь якіх пачалася сёлетняя выбарчая кампанія, працягваюцца. На мінулых парлямэнцкіх выбарах ува ўсіх 110 акруговых камісіях быў толькі адзін апазыцыянэр, сёлета — 42. На мінулых выбарах рэгістрацыя ініцыятыўных групаў была тым сітам, фільтрам, пры дапамозе якога было адсеяна шмат апазыцыйных кандыдатаў. Сёлета ізноў сюрпрыз — амаль усе ініцыятыўныя групы апазыцыянэраў зарэгістраваныя. Як той казаў, тэндэнцыя, аднак. Ці не? Некаторыя мяркуюць, што ніякай тэндэнцыі няма. Па-першае, таму, што фон выбарчай кампаніі застаецца такім, як заўжды: запалохваньне кандыдатаў і сябраў іх камандаў, звальненьні з працы, ціск, падатковыя праверкі і іншыя «прыемнасьці» непажаданым кандыдатам. Па-другое, а можа ўлады проста падрыхтавалі пастку на пазьнейшых этапах кампаніі: можна ж не рэгістраваць кандыдатаў, можна скасоўваць іх рэгістрацыю за «няправільную» агітацыю, можна, нарэшце, адпаведна лічыць галасы.



Усё гэта магчыма. Але магчыма і іншае, што сапраўды ўмовы выбарчай кампаніі будуць хаця і ўсё роўна далёкімі ад дэмакратычнага стандарту, але такімі, якія не выключаюць посьпеху апазыцыйных кандыдатаў. Дык як яно будзе?

**Севярынец:** Мяркую, што «вакно магчымасьцяў» абмежаванае інстынктам самазахаваньня рэжыму. Рэжым цудоўна разумее, што дапусьціць свабодныя ў большай ці меншай ступені выбары — гэта асудзіць уласную сыстэму, якая ўжо праіснавала 14 гадоў, на крах. Досьвед іншых краінаў гэта яскрава пацьвярджае. Там, дзе свабода слова, свабода выбараў, свабода асацыяцыяў, там ня можа быць аўтарытарнага рэжыму.

Мне здаецца, што ад рэпрэсіўнай формы існаваньня рэжым пераходзіць да гульнявой. Ён раней гуляў з Расеяй, цяпер гуляецца з Эўропай, пачынае заляцацца, фліртаваць і зь беларускім народам з мэтай перайграць яго, захавацца і адначасна самому эвалюцыянаваць у тую форму, якая дазволіць існаваць ва ўмовах глябалізацыі ў цэнтры Эўропы.

Гэта спроба — і падмануць навакольны сьвет, і мадэрнізаваць сябе. У такой сытуацыі, безумоўна, задача апазыцыі — выкарыстаць момант і пастарацца ажыцьцявіць прынцыповы рывок, праз гэты калідор прарвацца да людзей.

**Дракахруст:** Пра задачы апазыцыі я прапаную пагаварыць крыху пазьней, а зараз паспрабуем ахарактарызаваць сытуацыю. Тыя крокі, якіх не было ў мінулых выбарчых кампаніях — гэта сапраўды адкрыцьцё «вакна магчымасьцяў», ці цяпер ідзе так, а на наступным этапе ўсё адно будзе як заўжды — выбары бяз выбараў?

**Пікулік:** Я мяркую, што рана рабіць высновы, улада яшчэ ня вызначылася да канца. У любым выпад-

ку, варта аддзяляць колькасныя зьмены — ад менш лібэральнага аўтарытарызму да крыху больш лібэральнага — ад якасных. Ці можа гэтая колькасьць перарасьці ў якасьць? У беларускім кантэксьце, мяркую, што ня можа. Чаму?

Па-першае, сумленныя і свабодныя выбары прадугледжваюць эфэктыўныя грамадзянскія і палітычныя правы — права на сходы, інфармацыю, асацыяцыі. А гэтых правоў няма. Па-другое, давайце дапусьцім, што ў беларускім парлямэнце зьявіцца 5—6 апазыцыйных дэпутатаў. А што такое наагул беларускі парлямэнт? У рэйтынгу канстытуцыйнай моцы парлямэнту Беларусь дзеліць апошні радок разам з Узбэкістанам.

Адзінае, чым небясьпечныя для рэжыму 5—7 дэпутатаў — гэта лішні шум. Але і яго нам, хутчэй за ўсё, не пакажуць. Будзе кагосьці цяжэй пасадзіць ці аштрафаваць з прычыны недатыкальнасьці. Вось і ўсё. Няма розьніцы, колькі ў баку машыны засталося бэнзіну — 5 літраў ці 20, калі ў машыны няма колаў.

**Дракахруст:** Міхаіл Пашкевіч, паводле Аляксея, нават пры тых паслабленьнях, пра якія мы вядзем гаворку, беларуская сытуацыя бясконца далёкая ад сытуацыі швайцарскай ці польскай. Але выглядае, што ёсьць пэўныя градацыі аўтарытарызму, градацыі несвабоды. На Вашае меркаваньне, новая выбарчая сытуацыя — гэта новая сытуацыя, сытуацыя ўсё ж большай свабоды ці не?

**Пашкевіч:** Я часткова згодны з Паўлам Севярынцам, што рэжым сапраўды загуляўся. Ён гуляе з намі, зь беларускім народам, з Эўропай.

Я прывяду такі прыклад: днямі я прысутнічаў на паседжаньні Цэнтравыбаркаму, дзе высьветлілася, што нават сама Лідзія Ярмошына ня ведае ўсіх новых зьмяненьняў у Выбарчым кодэксе. Там усе іх ведае толькі адна супрацоўніца — загадчыца прававога аддзелу.



Калі я ўбачыў, што нават спадарыня Ярмошына ня ведае ўсіх акалічнасьцяў, хаця зьбіраецца іх трактаваць, мне стала сьмешна. У мяне склалася ўражаньне, што яны самі яшчэ ня ведаюць дакладна, як будуць гуляць.

Што тычыцца праблемы — удзельнічаць ці ня ўдзельнічаць, то прывяду расейскі прыклад. У свой час Барыс Нямцоў заявіў, што ня будзе балятавацца на прэзыдэнта, патлумачыў, што не гуляе паводле такіх правілаў. На што хтосьці з расейскіх журналістаў сказаў яму, што іншых правілаў у гэтай гульні няма.

Тое самае цяпер і ў нас. Мы, насамрэч, закладнікі сваёй пазыцыі. Я ня ўпэўнены, што мы можам зараз вырашыць стратэгічныя задачы, але мяркую, што ёсьць добрая магчымасьць вырашыць тактычныя задачы.

Павал вельмі трапна сказаў, што трэба зрабіць рывок да людзей. Рэч у тым, што пакуль ніхто ня ведае правілаў, нават улада яшчэ ня вырашыла, што яна будзе рабіць — і з намі, і з выбарамі, і наагул. Нельга сказаць, што ў яе ёсьць плян. Ніхто ня мае пляну.

## Як лезьці ў «вакно магчымасьцяў»?

**Дракахруст:** Я і хачу паразмаўляць на тэму пляну апазыцыі, якую ўжо закранаЛі і Павал, і Міхаіл. Становішча апазыцыі да апошняга часу было надзвычай цяжкім, неспрыяльным, але менавіта з гэтай цяжкасьці парадаксальна вынікала адсутнасьць неабходнасьці рабіць палітычны выбар. Не, маральны выбар апазыцыянэры рабілі і вельмі дорага за

яго плацілі, пра гэта сьведчаць і шматлікія адседкі ўдзельнікаў нашай сёньняшняй размовы — Міхаіла і Паўла.

Але вось наконт палітычнага выбару... Скажам, удзельнічай у выбарах ці не ўдзельнічай — усё адно сыстэма ў прынцыпе выключае абраньне. Ці іншы аспэкт той жа безальтэрнатыўнай сытуацыі: выказвай людзям сваю пазыцыю ва ўсёй яе ідэалягічнай выпакутаванай чысьціні ці спрабуй больш слухаць іх, адаптаваць сьвятыя для цябе прынцыпы да таго, што ёсьць каштоўным і важным для людзей — а на калькуляцыі спадарыні Ярмошынай гэта ніяк не ўплывае.

А калі галасы будуць лічыць, і названыя мной палітычныя дылемы раптам стануць актуальнымі? Ці гатовая апазыцыя лезьці і як у тое самае «вакно магчымасьцяў»? Аляксей, як Вам гэта бачыцца?

**Пікулік:** Мяркую, што не гатовая. Лезьці ці ня лезьці — клясычная дылема з тэорыі гульняў, калі ёсьць два гульцы — улада і апазыцыя, у кожнага ёсьць два варыянты стратэгіі, ніводны ня ведае, які выбар зробіць супернік. Улада можа: А) дазволіць камусьці з апазыцыі патрапіць у парлямэнт, Б) перашкодзіць. І ў апазыцыі ёсьць два варыянты: А) змагацца і Б) байкатаваць. Зразумела, што байкот не прывядзе да зрыву выбараў. Таму атрымліваецца простая матрыца, у якой удзел апазыцыі ў выбарах зьяўляецца адзіным рацыянальным рашэньнем.

Калі апазыцыя ўдзельнічае, то ў лепшым выпадку яна праводзіць 5 чалавек у парлямэнт, у горшым — прайграе на выбарах, але, як сказаў Павал, выкарыстоўвае момант для агітацыі, для барацьбы за розумы і сэрцы выбарнікаў. У выпадку байкоту відавочна, што выбары не сарвуцца, так што апазыцыя ці прайграе, ці застанецца пры сваіх інтарэсах. Таму аптымальнае рашэньне — толькі ўдзел.



**Дракахруст:** Міхаіл, а які Ваш адказ на пытаньне, наколькі апазыцыя гатовая цяпер вырашаць дылемы, якія могуць зрабіцца актуальнымі? Са словаў Паўла вынікае, што чым больш свабоды, тым больш шанцаў у апазыцыі, бо народ гатовы за яе галасаваць, народ хоча пераменаў. А сапраўды — хоча? Ці ня можа так атрымацца, што гэтая невялічкая шчылінка свабоды выявіць даволі вялікую дыстанцыю паміж прынцыпамі апазыцыі і прынцыпамі, каштоўнасьцямі народу?

**Пашкевіч:** Мне здаецца, што дыстанцыя ўжо высьпела. Я адсочваю працу нашых ініцыятыўных групаў па Менску і па рэгіёнах, і вынікі не заўсёды аднародныя. Свабодныя выбары — далёка не гарантыя таго, што апазыцыя трапіць у парлямэнт. Адзін кандыдат адрозьніваецца ад іншага, адпаведна, і падтрымка розная.

Што ж наконт удзелу ці няўдзелу, то ўдзельнічаць і яшчэ раз удзельнічаць. Але выбарнік ня будзе галасаваць за нас толькі таму, што мы адседзелі і яшчэ гатовыя колькі гадоў сядзець. Выбарніка цікавіць праграма, яго цікавіць воля да перамогі — цікавіць усё, акрамя таго, чым кандыдат за гэта заплаціў. Калі я скажу выбарніку, што адседзеў двойчы па 15 сутак, то гэта ня ёсьць маёй праграмай, гэта мае ўласныя праблемы. Выбарніка гэта не цікавіць і ня мусіць цікавіць. Ён наадварот можа падумаць: «Чаго я буду галасаваць за гэтых няўдачнікаў, калі яны толькі і ўмеюць, што сядзець, ня могуць нават добра падстрахавацца?»

Маё меркаваньне, што хутка сярод 30—40-гадовых менчукоў высьпее новая плынь, новая апазыцыя. Яна цяпер ужо фармуецца, гэта, у прыватнасьці, тыя прадпрымальнікі, якія зьбіраюцца балятавацца самастойна. Яны — ня ўлада, але і не апазыцыя, я

баюся, што яны і апазыцыю ненавідзяць гэтак жа, як і ўладу.

І мы насамрэч вельмі далёкія ад народу. А выбары — добрая магчымасьць падкарэктаваць свой курс і схітрыць, але падстроіцца і злавіць хвалю.

**Дракахруст:** Павал, вось Міхаіл канстатуе, што апазыцыя далёкая ад народу. А Вы блізкія да народу? І ці зьбіраецеся Вы неяк карэктаваць сваю пазыцыю, ці наадварот, моц і цэльнасьць Вашай пазыцыі будзе прывабліваць людзей?

**Севярынец:** Мы, апазыцыя, нацыянальны рух — гэта частка народу. І наша задача, задача палітыкаў — весьці людзей за сабой. Наша задача — тое, што людзі інтуітыўна адчуваюць, сфармуляваць і накіраваць у правільнае рэчышча. Што я маю на ўвазе?

Я — сябра васьмі ініцыятыўных групаў. У дзьвюх зь іх я ўжо зьбіраў подпісы, хадзіў па кватэрах. І магу сказаць, што галоўнае, чаго цяпер у людзей няма — гэта веры, веры ў тое, што перамены магчымыя, веры ва ўласную будучыню. Яны ня бачаць пэрспэктывы, яны стомленыя ад хлусьні. Яны загрузьлі ў спажывецтве. Яны самі разумеюць, што гэта кепска. І задача апазыцыі — знайсьці выйсьце, паказаць асобаў, маладых, сумленных, беларускамоўных, вернікаў (на мой погляд, гэта крытычна важна цяпер) і сказаць людзям, што мы разам зь імі можам вырвацца з гэтага застою. Бо ў любой сытуацыі застою высьпяваюць расколіны для будучых пераменаў. І цяпер важна іх разгледзець, паразмаўляць зь людзьмі менавіта пра гэта.

Магчыма, ня гэтай восеньню, а праз некалькі гадоў і будзе той шанец для Беларусі, які нам трэба будзе выкарыстаць. Падчас цяперашняй кампаніі мы мусім закладаць падмуркі дзеля гэтага рыўка.



Але сёньняшні ўнутраны стан апазыцыі не дазваляе нам разьлічваць на посьпех адразу. Апазыцыя ідэалягічна разьяднаная. Камуністы могуць сказаць, што галоўнае — гэта сацыяльныя праблемы. Людзі хочуць наесьціся, накупляцца, адпачываць на Нарачы, дык давайце мы ім паабяцаем, што мы ім усё дамо.

З такім падыходам, як і з ухваленьнем Леніна — Сталіна, салатаў аліўе часоў застою і Машэрава, мы далёка ня зойдзем. Таму вынік цяперашняй кампаніі павінен, у першую чаргу, даць плён у перафарматаваньні апазыцыі. На мой погляд, там абсалютна лішнія камуністы, і там не стае ў поўнай ступені нацыянальнага руху — руху «За Свабоду», «Маладога фронту», «Эўрапейскай кааліцыі». «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя» таксама гатовая ўвайсьці ў склад АДС, калі там ня будзе камуністаў.

Калі ў нас будзе духовая еднасьць, ідэалягічная, мы зможам мабілізавацца для правядзеньня вырашальнай кампаніі. Цяпер, на жаль, у нас у кожнай акрузе кандыдат і ягоная каманда застаюцца сам-насам з рэжымам. Астатнія назіраюць і канцэнтруюцца на сваіх акругах. Яднаньне ўсіх дэмакратаў, якія жывуць і працуюць у адной акрузе, не адбываецца, бо няма адзінага духу.

**Дракахруст:** Міхаіл, Павал ужо намаляваў сцэнар перафарматаваньня апазыцыі — каго зь яе выключыць, каго ўключыць. Наколькі Вы і Вашая партыя згаджаецеся з такім сцэнаром? І яшчэ пытаньне, якое закрануў Павал: пра што будуць выбары? Ёсьць вядомая выбарчая праграма АДС, але ці ёсьць яна тым самым стрыжнем, вакол якога выбары будуць ідэалягічна і ідэйна накручвацца?

**Пашкевіч:** Павал Канстанцінавіч заўсёды казаў, што ня любіць камуністаў, так што Амэрыкі ён зараз

не адкрыў. Пазыцыя Аб'яднанай грамадзянскай партыі такая, што ёсьць АДС, што Партыя камуністаў — удзельніца гэтай кааліцыі, і ня самая благая, дарэчы. Мне здаецца, што самы лёгкі варыянт — шукаць ворагаў сярод сваіх. Я, можа, чагосьці ня ведаю наконт адносінаў паміж «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыяй» і ПКБ, але Сяргей Калякін са сваёй партыяй нічога кепскага АГП не зрабіў. Таму я не зьбіраюся губляць час на вайну зь ветракамі.

Я стаўлю задачу фармаваньня моцных камандаў. Мяне насамрэч ня вельмі хвалюе, якая сытуацыя ў акрузе ў «Маладога фронту» ці ў камуністаў. Мяне хвалююць магчымасьці дзеяньняў для «Маладых дэмакратаў» і для Аб'яднанай грамадзянскай партыі. І ні крокам больш і ні крокам менш. Чаму? Бо калі паглядзець сьпіс актыўных удзельнікаў выбарчай кампаніі па Менску, мы вельмі часта пакутуем ад двайнога і трайнога пераўліку, адны і тыя ж людзі часта задзейнічаныя і ў руху «За Свабоду», і ў «Маладым фронце», і ў АГП, і ў іншых структурах. У нас зьяўляецца памылковае бачаньне, што нас шмат. Нас насамрэч няшмат. Актывістаў у кожнай партыі, якія могуць стаць чыньнікамі пераменаў, нямнога. Перафарматаваньне па выніках выбараў сапраўды патрэбнае, але ў межах кожнай структуры. Каб партыя, напрыклад, магла сабе сказаць — у нас асабовы склад 4 тысячы чалавек, але рэальна мы маем тысячу больш-менш «жывых» людзей, якія здольныя працаваць.

Трэба перастаць хлусіць самім сабе. Можна, зразумела, казаць сабе, што я — выразьнік інтарэсаў народу. Але насамрэч мы кажам народу, што зьменім сытуацыю ў краіне, але часта ня можам зьмяніць сытуацыі нават ва ўласных структурах.

Што тычыцца пасланьня АДС, то я асабіста не лічу, што «Кантроль народу над уладай» — гэта надзвычай удалы лёзунг. Як сябра партыі, я мушу даносіць яго да народу, але мы па нашых моладзевых партыйных структурах зь верасьня распачнем кампанію «Давай паспрабуем», скіраваную на моладзь. Людзі ня маюць веры, і мы хочам сказаць: а давай паспрабуем, давай паспрабуем яшчэ, давай паспрабуем лепей.



Цяпер шмат хто з актывістаў апазыцыі ні ўва што ня верыць. Што да галоўных тэмаў выбараў — мы і самі пакуль ня ведаем. Мяркую, што калі мы ў верасьні пачытаем нашыя сёньняшнія прагнозы, шмат хто за галаву возьмецца.

**Пікулік:** Мне здаецца, што прыйшоў час ня блытаць прычыну і наступствы. Сумленныя і свабодныя выбары — гэта не прычына дэмакратызацыі, не яе перадумова, а факт таго, што дэмакратызацыя адбылася. Я ўпэўнены, што дэмакратызацыя бывае без дэмакратаў. Для дэмакратызацыі патрэбны не кансэнсус, а дысэнсус. Неабходныя арганізаваныя групы з канфліктам інтарэсаў і блізкім аб'ёмам рэсурсаў. Гэтыя раўнамоцныя групы зразумеюць, што сытуацыя, калі пераможца забірае ўсё, немагчымая, і адзіны варыянт — вайна ўсіх супраць усіх, што таксама вельмі дарага для ўсіх. І гэтым групам не застаецца нічога іншага, як дамаўляцца аб супольных правілах гульні, якія ўласна і прыводзяць да лібэральнай Канстытуцыі і да санкцыяў супраць таго, хто парушае адзіныя правілы гульні.

Інакш кажучы, дэмакратызацыя — гэта заўсёды вынік вайны, а не фігурнай лепкі, вайны без выразнага пераможцы, калі падсправаздачным быць больш выгадна, чым заставацца па-за кантролем. Але для гэтага апазыцыя павінная быць дастаткова моцнай, каб прымусіць уладу ўключыць сябе ў палітычнае поле, а не чакаць, што ўлада добраахвотна ампутуе

сабе свае мускулістыя рукі і дазволіць сумленныя і свабодныя выбары.

Чаму я не згаджаюся з Паўлам? Важныя не перакананьні лідэра і не ягоныя ўстаноўкі ў дадзены момант. Важна тое, што ў Лукашэнкі ёсьць манаполія на ўсё. І пакуль ягоныя канкурэнты бясьсільныя і слабыя, у яго няма ніякіх падставаў з кімсьці чымсьці дзяліцца. І няважна, у што вераць Мілінкевіч, Севярынец, Лябедзька — у Джэфэрсана, Таквіля, у ідэі беларускага Адраджэньня. Важна тое, што за гэтымі ідэямі пакуль няма рэсурсаў.

Пераход ад аўтарытарнага рэжыму да дэмакратычнага заўсёды адбываўся праз раскол унутры ўладнай эліты, які прыводзіць да аўтарытарнай лібэралізацыі. Улада пачынае губляцца і перастрахоўвацца і перастае разумець, на чыім баку кольказная перавага. Апазыцыя пачынае блефаваць і гуляць у покер. Таму любы патэнцыйны байкот ставіць пытаньне: «Навошта беларускаму грамадзтву наагул патрэбная апазыцыя?» Каб паведамляць грамадзтву пра парушэньні правоў чалавека і паказваць Захаду, што сумленных і свабодных выбараў няма? Дык грамадзтва пра яго ведае, а Захад не спадзяецца гэтае зьмяніць. Мэта апазыцыі — ці навучыцца назапашваць народны рэсурс, ці навучыцца блефаваць. Ні аднаго ні другога нашая апазыцыя рабіць ня ўмее.

Цяпер наконт стратэгіі апазыцыі. Я згубіў гадзіну, каб знайсьці перадвыбарчае пасланьне АДС у інтэрнэце. Калі я яго знайшоў, мне стала крыху страшна і сьмешна. Бо першая частка нагадвае пачатак рэклямнага кліпу: «Цэны растуць, а дзе ўзяць грошы на жытло? Што рабіць, калі захварэеш?», а другая частка — гэта пасланьне цара сваім халопам: «Мы спынім рост цэнаў, захаваем ільготы» і гэтак далей. Для каго гэтае пасланьне? Чаму апазыцыя думае, што выбарнікі — ідыёты, навошта такі танны папулізм?

Падводзячы вынікі, я скажу, што ня веру «ў халяву». Трэба прымушаць уладу праводзіць сумленныя і свабодныя выбары. Не чакаць, што ўлада прапануе такую магчымасьць сама. Таму «вакно магчымасьцяў», пра якое мы гаворым, — гэта ня тая сытуацыя, калі выпадковая падзея можа пацягнуць за сабой якасныя зьмены. Лукашэнка вучыцца ў тых аўтарытарных лідэраў, якія паспрабавалі фліртаваць з апазыцыяй і прайгралі. Таму ён ня пойдзе на стварэньне спаборнага аўтарытарызму. Зь іншага боку, ён выдатна разумее, што таньней і выгадней мець кіраваную віртуальную дэмакратыю. Паколькі ўлада сама вырашае, праводзіць выбары свабоднымі ці не, то гэта азначае, што апазыцыя ўжо прайграла гэты бой.

**Севярынец:** Выбары будуць, відавочна, пра магчымасьць пераменаў, бо сёньняшняя сытуацыя вельмі яскрава нагадвае застой. Выбары будуць і пра тое, якую Беларусь мы хочам бачыць: альбо чырвона-зялёнае «Забеларусь», альбо Беларусь як краіну эўрапейскай культуры, дэмакратыі, краіну хрысьціянства.

## Прынцыпы ці інтарэсы?

**Дракахруст:** Павал, і Вы лічыце, што ў так жорстка сфармуляванай альтэрнатыве большасьць — за другое?

**Севярынец:** Гаворка не пра тое, за што цяпер большасьць. Калі я заходжу ў кватэру і пачынаю размаўляць зь людзьмі, я бачу, што перада мной — жэле. Ні тое, ні сёе, нешта бясформеннае і дрыжыць. Людзі цяпер падобныя на сырую гліну, яны загрузьлі ў спажывецтве, у тым, што ім утульна жывецца. У

кагосьці там праблемы, але мы тут някепска пражывем. З такой пазыцыі народ трэба выцягваць.

Ня трэба абяцаць, што мы дадзім болей есьці, дадзім прыгажэйшыя машыны. На такім падмурку сапраўдную краіну не пабудуеш. Мы будзем па-ранейшаму загрузаць у хлусьні і ў страху. І апазыцыі не застанецца нічога іншага, як прапанаваць больш бліскучыя, больш прыгожыя, з большымі званочкамі і з большай адпаведнасьцю Эўропе варыянты той самай хлусьні і таго ж самага страху, таго ж самага спажывецтва. На мой погляд, кожны беларус і ўся Беларусь пакліканыя да іншага існаваньня.

На мяжы з Польшчай вы ўбачыце, у чым розьніца паміж эўрапейскасьцю ў польскім варыянце і сёньняшняй «забеларускасьцю». Мат, людзі абгортваюць сябе скотчам, да якога прыляпляюць мабільнікі, потым праносяць іх празь мяжу, даўшы хабар памежнікам. Яны паводзяць сябе як апошнія калгасьнікі. Сёньняшняя Беларусь — на жаль, такая. Калі мы хочам адпавядаць гэтай «беларускасьці», рабіць на гэтым палітыку — прабачце, я не хачу быць у такой кампаніі і ў такім руху.

Вобраз Беларусі, які сёньня патрэбны беларускаму народу, — гэта вобраз моцнай сям'і, вобраз моцных цэркваў, праўда, сапраўдная свабода, якая ёсьць адказнасьцю, усё тое, на чым 1000 гадоў будавалася Эўропа, — гэта хрысьціянскія прынцыпы, вера, што можна зрабіць лепш. Менавіта з такіх пазыцыяў і павінен выступаць дэмакратычны рух. Іншая пазыцыя, пазыцыя гульняў, прапановы таго ж самага, толькі ў іншай абгортцы — вось гэта будзе хлусьня.

**Дракахруст:** Павал, Вы ўсё ж выступаеце ня толькі ў ролі прарока, але і ў ролі палітыка. А калі тое, што Вы прапаноўваеце, будзе адкінутае той самай большасьцю, якая матам лаецца і ў нешта сябе абгортвае? Будзе адкінутае і раз, і два, і тры...



**Севярынец:** «Грукайце, і адчыняць Вам» — напісана ў Эвангельлі. І мы будзем грукацца, будзем старацца абудзіць у людзей самае лепшае, што ў іх ёсьць, што ім Богам дадзенае. Менавіта ў гэтым я бачу місію, пакліканьне сёньняшняй апазыцыі. Можа, калі-небудзь у Эўропе ў нас будзе канкурэнцыя розных партыяў і ў нас будуць іншыя правілы гульні. Цяпер правілы такія. 70 гадоў камуністы і 14 гадоў Лукашэнка разбуралі мараль. Выцягнуць людзей з гэтага балота — цяпер наша задача.

**Пашкевіч:** Аляксей трапна казаў пра рэсурсы. Павал казаў пра 1000-гадовы эўрапейскі досьвед, збудаваны на хрысьціянскіх каштоўнасьцях. Але Эўропа існавала і да хрысьціянскіх каштоўнасьцяў, і вялікі дзякуй за гэта Антычнасьці. Я б ня стаў усё пісаць на рахунак хрысьціянства, паганцы старажытных Грэцыі і Рыму таксама нямала зрабілі для фармаваньня эўрапейскасьці.

Я не пагаджаюся з Паўлам. Гэта прыгожая пазыцыя — грукацца ў дзьверы і казаць, які я шчыры і сумленны ў адрозьненьне ад Лукашэнкі. Мой бацька, які ў 1994 годзе галасаваў за Зянона Пазьняка, кажа: «Зянон ня меў права прайграваць. Ён быў занадта прынцыповы, але прайграваць ён ня меў права». Пазьняк у пэўным сэнсе ў 1994 годзе Беларусь «кінуў» з-за сваёй сумленнасьці. Але ён ня меў права гэтага рабіць.

Мы цяпер таксама можам быць сумленнымі, мы можам быць проста анёламі. Але насамрэч стаіць задача — прыйсьці да ўлады. Бо калі мы ня прыйдзем да ўлады, то нам усім будзе адна дарога — у манастыр, дзе мы ўсе будзем добрымі і сумленнымі.

Задача палітычнай партыі — гэта ўсё ж прыход да ўлады і рэалізацыя сваёй праграмы. А правілы такія, якія ёсьць. І народ ня будзе за нас галасаваць толькі таму, што мы — узоры добрага ладу жыцьця і

наагул сьвятыя. Людзям патрэбныя такія ж, як яны. Мы таксама маем свае хібы і мінусы. Апазыцыя — гэта частка народу, але ня ўвесь народ. І калі мы хочам, каб нас абралі, нам трэба падладоўвацца.

Выбар Паўла — гэта варты выбар высокамаральнага чалавека. Але мы ня маем права прайграваць. Маладая генэрацыя палітыкаў, актывістаў, якая прыходзіць цяпер, мусіць перафармавацца і падладзіцца пад правілы гульні, але прыйсьці да ўлады і зьмяніць іх.

Што мы будзем казаць праз гадоў 20 новаму пакаленьню актывістаў? «Выбачайце, але мы былі вельмі сумленнымі...» «Дык навошта вы былі такімі сумленнымі?» — спытаюць яны. Ды лепш я буду гарэць у пекле, але зьмяню сытуацыю.



## Парлямэнцкія выбары і прызнаньне рэжыму Захадам

Наколькі дэмакратычнай была рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты і наагул усе папярэднія этапы выбарчай кампаніі? Наколькі мэтазгодны байкот выбараў? Якой будзе рэакцыя Захаду на сёлетнія парлямэнцкія выбары ў Беларусі?

**1 верасьня 2008**

Удзельнікі: Анатоль Лябедзька, Андрэй Саньнікаў, Мікола Статкевіч

### Выбарчая кампанія ня можа лічыцца справядлівай

**Дракахруст:** Завяршыўся чарговы этап выбарчай кампаніі — рэгістрацыя кандыдатаў у дэпутаты. Наперадзе — агітацыя і галасаваньне. Як бы вы ацанілі вынікі рэгістрацыі і ўсе папярэднія этапы кампаніі? Як яны выглядаюць у параўнаньні з дэмакратычным стандартам, з практыкай іншых краінаў СНД і з папярэднімі беларускімі выбарамі?

**Лябедзька:** На гэтае пытаньне Аб’яднаныя дэмакратычныя сілы далі адказ. Выбарчая кампанія ня можа лічыцца ні справядлівай, ні легітымнай. Кропка.

**Дракахруст:** А калі ўсё ж паставіць коску... Я прапанаваў тры пункты адліку: дэмакратычны стандарт (я так разумею, што яны гэтаму стандарту не адпавядаюць), практыка іншых краінаў СНД і папярэднія выбары.

**Лябедзька:** Дыстанцыя да стандартаў АБСЭ якой была 4 гады таму, такой і засталася. Што тычыцца стандартаў СНД, то мы не наблізіліся нават да іх. Канвэнцыя СНД аб выбарах была прынятая і ратыфікаваная ўсімі краінамі Садружнасьці, за выклю-

чэньнем Беларусі і Таджыкістану. Беларусь ня хоча далучацца нават да выбарчых стандартаў СНД. Гэта значыць, што ўлады Беларусі трымаюць курс на фальсыфікацыю вынікаў выбараў і на прызначэньне дэпутатаў. Калі параўноўваць з папярэднімі кампаніямі, я таксама ня бачу істотнага прагрэсу. Можа, крыху менш нэрвова ішла працэдура рэгістрацыі кандыдатаў. Але сказаць, што гэта была якасна іншая сытуацыя, няма ніякіх падставаў.

**Дракахруст:** Андрэй Саньнікаў, Вы ад пачатку выступалі за байкот гэтых выбараў. Тым ня менш, як бы Вы ацанілі тое, як праходзіць кампанія? Вы ўпэўніліся — ці наадварот, расчараваліся — у сваёй ідэі байкоту?

**Саньнікаў:** Я цалкам згодны з Анатолем, што нічога не зьмянілася. Я б ня стаў нават узгадваць нейкую практыку СНД, бо мы павінныя кіравацца стандартамі АБСЭ. А тое, што адбываецца ў СНД, таксама ацэньваецца АБСЭ. І мы ведаем, што да дэмакратыі наблізіліся толькі Грузія і Ўкраіна, а ня іншыя краіны СНД, у тым ліку і Расея.

Што тычыцца гэтай кампаніі, я лічу, што ўлады больш упэўненыя ў сваіх сілах і таму яны ўцягваюць апазыцыю ў свой сцэнар і робяць гэта даволі пасьпяхова. Па выніках рэгістрацыі мы бачым, што будзе істотная колькасьць акругаў зь безальтэрнатыўнымі кандыдатамі, і нідзе ня будзе адзінага кандыдата, які стаяў бы на дэмакратычнай плятформе. Гэта значыць, што ўлады ўпэўненыя: яны ўдасканальвалі сыстэму фальсыфікацыяў ад 1996 году. І мэта ўлады была не пайсьці шляхам дэмакратызацыі, а ўцягнуць дэмакратычныя сілы ў гэты фарс, каб атрымаць міжнароднае прызнаньне.

**Дракахруст:** Мікола Статкевіч, Вас асабіста не зарэгістравалі, але некалькі дзясяткаў чалавек са сьпісу «Эўрапейскай кааліцыі» ўсё ж былі зарэгістраваныя. Як бы Вы ацанілі рэгістрацыю і выбарчую кампанію ўвогуле?

**Статкевіч:** Кампанія ўвогуле праводзіцца ў Беларусі па ўжо звыклым сцэнары. «Эўрапейская кааліцыя» ад самага пачатку ацэньвала гэтыя выбары як рытуал і публічна ставіла іншыя задачы, чым афіцыйная перамога, бо яна немагчымая.

Мы ставілі задачы папулярызацыі эўрапейскага выбару, узмацненьня шэрагаў дэмакратычных сілаў, прыцягненьня новых людзей. Напачатку гэтая кампанія станоўча адрозьнівалася ад папярэдніх кампаніяў, мы памятаем, як на выбарах 2004 году. быў шантаж нават на ўзроўні асобных прадпрыемстваў адносна сябраў ініцыятыўных групаў, каб яны выйшлі з гэтых групаў. Цяпер такіх выпадкаў было няшмат. 40% акруговых камісіяў маюць у сваім складзе апазыцыянэраў. Але на гэтым станоўчыя адрозьненьні скончыліся, і да моманту падаваньня подпісаў сытуацыя карэнным чынам зьмянілася.

На папярэдніх кампаніях такога не было, каб на каманду, якая ўжо сабрала подпісы, рабіўся такі беспрэцэдэнтны ціск. Прычым вельмі шырока і нахабна ў гэтым удзельнічаў КДБ. У пэрыяд рэгістрацыі, асабліва ў тых рэгіёнах, дзе высокі рэйтынг эўрапейскай інтэграцыі, КДБ даваў заданьні мясцовым адміністрацыям, а тыя — акруговым камісіям, каб яны не рэгістравалі нашых кандыдатаў. У нас з 51 кандыдата адмову атрымалі 28 чалавек. І яшчэ адзін — Сяржук Коваль у Лідзе, пасьля размовы ў КДБ, дзе яму паабяцалі, што ягоная фірма будзе ліквідаваная, забраў дакумэнты. І толькі 22 кандыдаты прайшлі рэгістрацыю.

Ціск быў разьмеркаваны нераўнамерна. Калі па ўсходніх абласьцях, дзе больш моцны ўплыў Расеі, тры чвэрці кандыдатаў былі зарэгістраваныя, то

ў Менску з дванаццаці — адзін, а па Менскай вобласьці з чатырох — ніводны. Мы тлумачым гэта тым, што ўлада баіцца, каб у апазыцыі не зьявілася эфэктыўнай плятформы. Улада баіцца прыцягненьня новых сілаў у апазыцыю, сярод іх — блёк прадпрымальнікаў, які панёс самыя адчувальныя страты падчас рэгістрацыі. Прычыны адмовы ў рэгістрацыі абсалютна сьмешныя, у людзей знаходзяць нейкія ўчасткі зямлі і машыны, якіх у іх няма.

І трэцяя прычына зьвязаная, магчыма, і зь міжнароднай сытуацыяй, што ўплывае і на пазыцыю ўлады. Улады зразумелі, што могуць ізноў разыгрываць сваю карту паміж Расеяй і Захадам і дэманструюць Расеі, як яны шчэмяць праэўрапейцаў, і спадзяюцца, што яны ізноў сядуць на расейскую «халяву».

## Чаго можна дасягнуць байкотам?

**Дракахруст:** Наколькі я зразумеў, вы ўсе ацэньваеце гэтыя выбары як недэмакратычныя. Магчыма, ізноў робіцца актуальнай ідэя, якую спадар Саньнікаў адстойваў ад пачатку — ідэя байкоту. Вы, Андрэй, сказалі, што ўлады навязваюць свой сцэнар, а апазыцыя мусіла б адстойваць свой. А ў чым мэта сцэнара байкоту, чаго можна дасягнуць: ці таго, што палова выбарнікаў на заклік апазыцыі ня пойдзе галасаваць, ці таго, што гэтыя выбары ня будуць прызнанымі?

**Саньнікаў:** Апазыцыя павінная рабіць моцныя крокі. Яна сасьпела для гэтага. І мы бачым, што цяпер Лукашэнка, як бы ён ні хацеў гуляць цалкам па сваіх правілах, на нейкія саступкі ідзе. Пасьля вызваленьня палітвязьняў мы атрымалі іншую сытуацыю.



І сёньня байкот быў бы найбольш моцным і эфэктыўным крокам. Бо цяпер няма сэнсу змагацца за выбарнікаў, таму што няма цікавасьці ў людзей да выбараў. Няма цікавасьці, мы гэта ведаем, няма жаданьня ўдзельнічаць у выбарах, якія ніякіх зьменаў не прынясуць Беларусі.

**Дракахруст:** А вось гэтае «мы ведаем» — зьвесткі сацыялягічных апытаньняў, досьвед камунікацыі з Вашым колам ці з больш шырокім колам людзей? Адкуль яно?

**Саньнікаў:** Відавочна, што гэта зьвесткі ня Радыё Свабода, бо Радыё Свабода спасылаецца на нейкія дзіўныя неадпаведныя лічбы… Тое, пра што Вы пытаеце, казала Абрамава, казала Ярмошына: яны карыстаюцца статыстычнымі афіцыйнымі апытаньнямі грамадзкай думкі. Яны выказвалі сваю занепакоенасьць тым, што людзі ня прыйдуць галасаваць. Я размаўляў зь людзьмі, якія зьбіралі подпісы, і яны пацьвярджалі тое, пра што казала Абрамава — скасаваньне ільготаў закрэсьліла ўсю цікавасьць людзей да выбараў.

Калі казаць пра байкот, я лічу, што цяпер сытуацыя яшчэ больш спрыяльная. Працэс нерэгістрацыі ў дачыненьні апазыцыйных, дэмакратычных кандыдатаў яшчэ працягнецца. І зараз, калі апазыцыя здолее зрабіць моцны крок і зьняць сваіх кандыдатаў з удзелу ў гэтым фарсе, атрымаецца сытуацыя, калі ня трэба будзе нават падлічваць, якая частка насельніцтва ўдзельнічала ў галасаваньні — выбары проста стануць нелегітымнымі, бо большасьць акругаў стане безальтэрнатыўнай.

**Дракахруст:** Анатоль, Андрэй зьвярнуўся ў чарговы раз да апазыцыі з прапановай байкоту. Ці прыме апазыцыя гэтую прапанову, ці падтрымаеце яе Вы асабіста?

**Лябедзька:** Я не зьяўляюся прыхільнікам байкоту. Але калі б мы гэты сцэнар рэалізоўвалі ад пачатку, то гэта быў бы самы кароткі шлях да легітымізацыі ня столькі нават выбарчай кампаніі і Палаты прадстаўнікоў, колькі рэжыму. Нельга ехаць наперад у вазку мінулага. Эўропу сёньня на гэта ня купіш, ёй патрэбныя доказы таго, што рэжым недэмакратычны сёньня, а не таго, што ён быў такім учора.

Усе аргумэнты, якія сёньня гучаць — за і супраць байкоту, за і супраць удзелу, бяруцца з рэальнай дзейнасьці прадстаўнікоў АДС: хто актыўна ўдзельнічае ў выбарчай кампаніі, каго затрымлівалі, каму перашкаджалі весьці кампанію.

І мы сёньня аргумэнтуем якраз вынікамі гэтай дзейнасьці. Байкот ад самага пачатку быў бы адсутнасьцю дзейнасьці. Я адзін з ініцыятараў байкоту ў 2000 годзе і ведаю, што значная частка дэмакратычных актывістаў разумее байкот менавіта як адсутнасьць дзейнасьці.

Тут трэба адрозьніваць байкот выбараў і няўдзел людзей у выбарчай кампаніі. Я асабіста сабраў 500 подпісаў выбарнікаў, абышоў некалькі тысячаў кватэраў. Нідзе — ні ў Маладэчне, ні ў Ашмянах, ні ў Менску я ня чуў, каб людзі гаварылі пра байкот. Так, значная частка людзей ігнаруе гэтую кампанію, і незалежна ад таго, праводзіцца яна дэмакратычна ці недэмакратычна. У Вярхоўным Савеце 12-га скліканьня у 1990 годзе ў 13 акругах ня здолелі абраць дэпутатаў. І гэта тады, калі быў велізарны ўздым цікаўнасьці да палітыкі і грамадзкай дзейнасьці. Гэта было і ёсьць заўсёды.

Я лічу, што ў дадзенай выбарчай кампаніі трэба прайсьці так далёка, наколькі дазваляюць абставіны і сытуацыя.

Для мяне асабіста было б вельмі камфортна закрыць усе справы, пару разоў выйсьці на дэманстрацыю з расьцяжкай «За байкот», атрымаць 15 сутак і потым падаваць сябе як змагара за перамены ў Беларусі.

Але трэба глядзець на факты. Апытаньні прафэсара Вардамацкага паказалі, што пасьля прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году да 70% людзей казалі, што яна была справядлівай і дэмакратычнай. Праз наш удзел у гэтай кампаніі мы павінны зьмяніць уяўленьні людзей, каб яны зразумелі, што выбарчая кампанія несправядлівая і нелегітымная. Але каб людзі гэта ўсьвядомілі, яны павінныя гэта бачыць.

## Ці прызнае выбары Захад?

**Дракахруст:** Далей я прапаную пагаварыць пра міжнародны кантэкст выбараў. Так здаецца, што калі ня ўсе, то многія рухі цела, якія робіць улада, скіраваныя на дасягненьне менавіта міжнародных мэтаў. Дык вось, на Ваш погляд, ці прызнае Захад гэтыя выбары, ці прызнае ён новы парлямэнт? Вы ўжо казалі пра тое, што ўмовы гэтых выбараў далёкія ад дэмакратычных стандартаў, але ня выключана, што ў парлямэнце зьявіцца купка апазыцыйных палітыкаў. Ёсьць і больш шырокі палітычны кантэкст — я маю на ўвазе і вайну на Каўказе, і вызваленьне палітвязьняў. Захад у любым выпадку будзе прымаць палітычнае рашэньне, а ня проста выступіць як «судовы выканаўца» вэрдыкту назіральнікаў АБСЭ. Якое ж палітычнае рашэньне прыме Захад? Якое рашэньне Вы б яму раілі прыняць?

**Статкевіч:** Я думаю, што Захад будзе кіравацца такімі фармальнымі чыньнікамі, як хада выбарчай кампаніі і падлік галасоў. Вельмі важна, каб у прадстаўнікоў заходніх краінаў была фактура для прыняцьця рашэньняў. Гэта яшчэ адзін аргумэнт за тое,

каб удзельнічаць у выбарчай кампаніі нягледзячы ні на што. «Эўрапейская кааліцыя» ўжо дала шмат фактуры для таго, каб выбары не былі прызнаныя дэмакратычнымі. І яны ня будуць прызнаныя дэмакратычнымі. Пытаньне ў тым, ці будзе там адзначаная станоўчая тэндэнцыя. Але гэта ўжо перадвырашанае.

Я паўтараў і паўтараю, што спадар Лукашэнка ўладай ня дзеліцца. Бо нават у гэтай бутафорскай «палатцы» даць месца — гэта ўсё адно ўжо нейкі кавалачак улады. А ўладу ў спадара Лукашэнкі можна выдраць толькі з зубоў, разам са сківіцамі. Зараз рэжым ня дасьць нагоды Захаду прызнаць выбары больш дэмакратычнымі ў параўнаньні з папярэднімі.

**Дракахруст:** Спадар Саньнікаў, у мяне просьба да Вас як да прафэсійнага дыплямата — даць экспэртнае тлумачэньне, а як да міжнароднага каардынатара «Хартыі'97» — палітычную ацэнку. Вось размовы пра прызнаньне выбараў і парлямэнту Захадам — што гэта такое? Як можа выглядаць гэтае прызнаньне? Скажам, у мінулым сьнежні ў Расеі былі думскія выбары, туды проста не дапусьцілі назіральнікаў бюро дэмакратычных інстытутаў АБСЭ. Дзярждуму прызналі ці не? Як можа выглядаць прызнаньне ці непрызнаньне новага беларускага парлямэнту?

А таксама я папрашу Вас даць палітычную ацэнку: ці варта Захаду, з улікам усіх абставінаў, прызнаваць новы парлямэнт?

**Саньнікаў:** Давайце называць рэчы сваімі імёнамі. Гаворка ідзе не аб прызнаньні парлямэнту, а аб прызнаньні рэжыму. Менавіта такі сцэнар зараз зьявіўся на Захадзе. Мы бачым, як ідзе актыўнае лабіяваньне менавіта такога сцэнара бізнэс-коламі, пэўнымі палітыкамі і аналітыкамі. Мы павінныя ведаць пра цану нашых рашэньняў, дэмакратычных сілаў наагул і апазыцыі, якая ўдзельнічае ў выбарах, у прыватнасьці. Што значыць прызнаць ці не прызнаць? Патрэбны нейкі штуршок тым прыхільнікам прызнаньня Лукашэнкі і яго рэжыму, каб аднавіць кантакты і каб працаваць наўпрост, і толькі з Лукашэнкам, не зважаючы на апазыцыю, не зважаючы на погляды дэмакратычных сілаў Беларусі.

Былі назіральнікі ў Расеі ці не былі, Расея — гэта прызнаная дзяржава, і наконт апошніх парлямэнцкіх выбараў не было нават гаворкі аб іх непрызнаньні. А калі адносна беларускіх выбараў будзе ацэнка, што сытуацыя палепшылася, больш дэмакратычна прайшлі выбары, гэта будзе сыгнал для Захаду менавіта на прызнаньне рэжыму.

Супраць такога сцэнара я выступаю. Цана такога сцэнара вельмі высокая. Вы ўзгадалі вайну на Каўказе, агрэсію Расеі супраць Грузіі. Мы ведаем, што АДС ужо прызналі Паўднёвую Асэтыю і Абхазію. Мы ведаем, што цяпер ідзе гаворка аб прыватызацыі не на карысьць беларускаму народу. Гэта трэба браць пад увагу, калі прымаюцца рашэньні.

А што параіць Захаду? Трымацца сваіх прынцыпаў. Усе суразмоўцы ўзгадвалі, што ўмовы не палепшыліся, а нават пагоршыліся. Неверагодны ціск сапраўды ідзе на грамадзянскую супольнасьць, на ўсіх актывістаў дэмакратычнага руху. Мы ведаем, што прыняты Закон аб сродках масавай інфармацыі, які пачне дзейнічаць пасьля выбараў, мы ведаем, што апынемся ў больш складанай сытуацыі для дзейнасьці. Можа, пэўныя сілы ў Эўропе — прыхільнікі Лукашэнкі — і хацелі б гэтага дасягнуць? Каб апазыцыя не перашкаджала весьці ім свае брудныя справы з рэжымам.

## «Беларусь апынулася перад выбарам»

**Дракахруст:** Андрэй, удакладніце, калі ласка, калі Аб’яднаныя дэмакратычныя сілы прызналі незалежнасьць Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі?

**Саньнікаў:** Калі сустаршыня АДС кажа, што гэтае прызнаньне трэба вітаць і што Беларусь атрымала незалежнасьць «дзіўным чынам», і я ня чуў ніякіх заяваў супраць гэтага, то магу лічыць, што гэта АДС прызналі. І прызнаюць прыватызацыю на карысьць расейскіх колаў ці іншых.

**Дракахруст:** Анатоль, што б Вы параілі Захаду — прызнаваць ці не прызнаваць? І патлумачце пазыцыю АДС наконт Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі.

**Лябедзька:** Пра АДС тут няма прадмету для камэнтара, гэта зьвяно з ланцужка, у якім і вершы Васіля Быкава.

**Дракахруст:** Анатоль, ну чаму ж? Спадар Саньнікаў спаслаўся на факт — на адпаведную заяву сустаршыні АДС Сяргея Калякіна. Можа, спадар Саньнікаў памылкова зрабіў зь яе выснову, што гэта пазыцыя АДС, але факт такі быў.

**Лябедзька:** Факту няма. Сустаршыня АДС ніякіх заяваў па Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі не рабіў. Ён мог рабіць іх як грамадзянін Беларусі ці як кіраўнік ПКБ. Калі казаць пра факты, то можна было б прывесьці мой камэнтар ці камэнтар Вячоркі, і сказаць, што АДС асудзіў прызнаньне незалежнасьці гэтых аўтаноміяў, бо названыя сустаршыні АДС выступілі супраць гэтага.

Што тычыцца пытаньня прызнаньня, калі казаць мовай фактаў, то трэба заўважыць, што Захад стомлены, ён ня ведае, як уплываць на сытуацыю ў Беларусі. Заходнім палітыкам падаецца, што яны вычарпалі ўсе мэханізмы. Па-другое, Захад кажа, і небеспадстаўна, што калі не праяўляць у Беларусі актыўнасьці ў галіне і гуманітарнага, і эканамічнага супрацоўніцтва, то сюды больш актыўна прыйдзе Расея праз свой бізнэс і праз свае праграмы. Па-трэцяе, трэба прызнаць, што на постсавецкай прасторы Захад цяпер цярпіць паразу з-за вайны на Каўказе. І яму патрэбны нейкі, хай і маленькі, посьпех на гэтай прасторы.



І таму ад Захаду ідзе выразнае пасланьне, прычым як ад эўрапейцаў, гэтак і ад амэрыканцаў, што ўдзел ці няўдзел дэмакратаў у выбарах ніяк не зьвязаны з пытаньнем іх легітымнасьці.

Пасьля 2000 году, калі была праведзеная даволі эфэктыўная кампанія байкоту, у 2003 годзе Парлямэнцкая Асамблея АБСЭ прызнала Палату прадстаўнікоў. І на працягу 8 гадоў прадстаўнікі Лукашэнкі туды езьдзілі, прымалі паўнавартасны ўдзел у сэсіях Асамблеі.

Што́ цяпер пакладзена на шалі вагаў? Ці далучыцца да Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ, напрыклад, Парлямэнцкая Асамблея Рады Эўропы. Тут таксама ёсьць свае плюсы і мінусы.

Пытаньне ставіцца так: «Ці трэба сёньня наагул размаўляць зь беларускім рэжымам?» Я стаўлюся да ўладаў Беларусі як да тэрарыстаў, якія захапілі ў закладнікі 9 мільёнаў 800 тысячаў чалавек.

Дык ці трэба размаўляць з «тэрарыстамі», каб вызваліць гэтых людзей? Я лічу, што трэба.

Тэмы такіх гутарак — гэта ў першую чаргу сувэрэнітэт краіны, дапушчэньне прадстаўнікоў апазыцыі ва ўладныя структуры (ня тое, што фальсыфікаваць нешта на карысьць апазыцыі, хай народ гэта сам зробіць), каб і апанэнты ўлады несьлі пэўную частку адказнасьці за тое, што адбываецца ў краіне.

**Саньнікаў**: Я згодны з тым, што трэба шукаць нейкія пункты супадзеньня. Я б нават не казаў пра тэрарыстаў. Сытуацыя мяняецца. І калі апазыцыя здолее прадэманстраваць сваю моц, а гэта можна зрабіць, калі дэмакратычныя кандыдаты здымуцца, то ўзьнікне нагода прамых перамоваў, а не праз нейкіх невядомых заходніх пасярэднікаў. Я за тое, каб шукаць паразуменьня, бо гаворка ідзе пра незалежнасьць краіны.

**Статкевіч**: Пытаньне, якое Андрэй задаў Анатолю, сапраўды вельмі важнае. Беларусь апынулася перад выбарам: альбо ў Азію, альбо ў Эўропу. Балянсаваць доўга ня здолеем, тыя, хто пасьпее саскочыць, як Грузія, Украіна, — пасьпеюць уцячы ў Эўропу. Астатніх паглыне Азія. Гэты выбар вельмі просты і зразумелы, яго трэба рабіць.

# ВУЛІЦА І ПЛОШЧА

## Ці маглі падзеі 19—25 сакавіка 2006 году скончыцца інакш?

Ці маглі падзеі «гарачага тыдня» 19—25 сакавіка разьвівацца інакш, чым яны разьвіваліся? Чым была брутальнасьць прадстаўнікоў сілавых структураў у адносінах да дэманстрантаў — выкананьнем загаду ці праявай уласнай нянавісьці? У якой ступені наагул паводзіны сілавых структураў зьяўляюцца індыкатарам настрояў грамадзтва?

**2 красавіка 2006**

Удзельнікі: Валянцін Акудовіч, Алег Грузьдзіловіч, Юры Хашчавацкі

### Якімі былі альтэрнатывы?

**Дракахруст:** Пасьля падзеяў 19—25 сакавіка шмат хто на інтэрнэт-форумах, у прыватных размовах, нават у газэтах выказваў меркаваньне, што памылкі, нерашучасьць апазыцыйных лідэраў, тое, што яны не заклікалі людзей застававацца на Плошчы ў першы ж дзень пратэстаў, што не павялі людзей да прэзыдэнцкага палацу, сталіся прычынаю таго, што пратэст скончыўся, не дасягнуўшы практычна ніякіх палітычных мэтаў. У пэўным сэнсе такія развагі падобныя да лёгікі генэрала Сухарэнкі: той сказаў пра пагрозу рэвалюцыі, якую нібыта могуць зьдзейсьніць 20—30 тысячаў актыўных людзей, тым часам як крытыкі лідэраў апазыцыі спадзяюцца на тое, што 20—30 тысячаў людзей могуць зьдзейсьніць рэвалюцыю незалежна ад настрою большасьці грамадзтва. А ці могуць?

**Акудовіч:** Кожнаму, хто зласьліва абвінавачвае апазыцыйных лідэраў у тым, што яны не былі адэкватнымі сытуацыі, ня справіліся з узятымі на сябе абавязкамі, я прапаную прарабіць элемэнтарную лягічную маніпуляцыю: вазьміце хоць які свой папрок і змадэлюйце яго ў канцавой стадыі. Скажам: перасунулі б лідэры людзей з Кастрычніцкай плошчы да прэзыдэнцкага палацу, і стаялі б людзі там. Ну і што? Што ў канцэптуальным пляне зьмянілася б? Адным словам, з майго гледзішча, усе падобныя папрокі — гэта пустое. Хаця хібаў у дзеяньнях апазыцыі было сапраўды даволі, але не яны вызначалі агульную сытуацыю. Да таго ж улічым, што штабы дэмакратычных кандыдатаў былі, па сутнасьці, разгромленымі. Гэта значыць, тыя, хто якраз мусіў наладзіць канкрэтныя дзеяньні, сядзеў за кратамі.

Таму давайце лепей зьвернем увагу на сапраўды істотнае. Так, апазыцыя ня выйграла выбараў, бо і не магла іх выйграць па азначэньні. Але апазыцыя выйграла сытуацыю выбараў і выйграла яе з ашаламляльным посьпехам, што й засьведчыў рэальны супраціў цягам тыдня. Тысячы людзей на вуліцах і плошчах і сотні за кратамі, хаця апошняе зусім ня цешыць. Апазыцыя выйграла сытуацыю выбараў, бо выйшла зь яе значна больш моцнай, чым была да гэтага. І яшчэ надзвычай важнае: апошнія выбары дапамаглі апазыцыі пэрсаналізавацца. Нарэшце яна прыдбала сабе лідэра, што для Беларусі надзвычай істотна. А пра тое, што апазыцыя сапраўды выйграла сытуацыю выбараў, найлепей сьведчыць сустрэча польскага прэзыдэнта Леха Качыньскага зь Мілінкевічам. Кіраўнік досыць буйной эўрапейскай дзяржавы ня можа дазволіць сабе сустрэчу з прайгралым палітыкам.

**Дракахруст:** У адказе Валянціна і ў маім першым пытаньні, відаць, адчуваецца пэўны дэтэрмінізм: тое, што адбываецца, інакш і адбывацца ня можа. Але вось ці так гэта ў адносінах да моманту ісьціны 19—25 сакавіка? Магчыма, ад рашэньняў лідэраў

сапраўды залежала шмат і, магчыма, сытуацыя магла разьвівацца прынцыпова інакш? Ці не магла?

**Хашчавацкі:** Я думаю, што не магла. І штабы былі разгромленымі, і недастаткова было апазыцыйных сілаў у грамадзтве. Тыя рамантычныя 30%, пра якія мы гаворым, што яны галасавалі за Мілінкевіча, не маглі вырашаць пытаньня, бо яны былі гатовыя галасаваць, але не выходзіць на вуліцу. Міма Плошчы ехалі тысячы машынаў, шмат якія гудзелі, але яны ехалі міма. Ведаеце, як бы скептычна мы ні ставіліся да прапаганды беларускага радыё і тэлебачаньня, яна, тым ня меней, дасягае адной важнай мэты: убівае ў галовы людзей фальшывую інфармацыю пра тое, наколькі моцная ўлада і наколькі слабая апазыцыя. За радыё і тэлебачаньнем інфармацыю аб перавазе Лукашэнкі, аб тым, што нічога ня зьменіцца, распаўсюджвалі амаль усе мэдыі. У тым ліку і незалежныя: «Эўраньюз», «Бі-Бі-Сі», расейскія тэлеканалы. Рэальнага стаўленьня да Лукашэнкі ня ведае ніхто, бо абсалютна ўсе сацыялягічныя службы раструшчаныя.

Я мяркую, што ўсё ж ёсьць палітычны вынік: у нас зьявіліся два рэйтынгавыя лідэры. Я маю на ўвазе яшчэ і Казуліна. Ён фактычна вельмі моцна дапамагаў Мілінкевічу. На мой погляд, Мілінкевічу крыху не хапала радыкальнасьці. Яе пасьпяхова дадаваў Казулін. У 2001 годзе рэйтынг Ганчарыка складаўся з пратэстаў супраць Лукашэнкі. Сёньня рэйтынг Мілінкевіча складаецца з сымпатыяў да Мілінкевіча. Зьяўленьне такіх рэйтынгавых палітыкаў — гэта вельмі важна. Мэта была пастаўленая і дасягнутая.

**Дракахруст:** Алег Грузьдзіловіч, на Плошчы была ўсё ж такі меншасьць. Але большасьць ніколі не выходзіць на плошчы. Якая існуе сувязь паміж колькасьцю людзей і іх магчымасьцямі, паміж тымі, хто



стаіць на Плошчы, і нейкім адчуваньнем выніку выбараў, які існуе, відаць, у кожнага чалавека? Юры казаў пра сацыялягічныя дасьледаваньні — але кожны чалавек ёсьць стыхійным сацыёлягам, ён прыкідвае, як думае большасьць. Які Ваш адказ на гэтае пытаньне?

**Грузьдзіловіч:** Я думаю, што сувязь наўпростая. Вы дакладна кажаце, што людзі мусяць адчуваць на Плошчы нейкую глыбінную падтрымку — ня толькі тое, што кажа адзін бок, афіцыйны, пра 82%, і што кажа другі бок, пра 42%. Мы ўсе прыходзім на Плошчу з народу — адзін едзе ў аўтобусе, другі — у мэтро, нехта прачнуўся ў сябе дома ў спальным раёне і бачыць, што людзі там, па сутнасьці, ніяк не рэагуюць на падзеі. Некаторых пайсьці на Плошчу падштурхоўвае якраз унутраны радыкалізм: ах, вы супраць, усё абыякава — я пайду, вам дакажу. І ўсё ж такі ён ведае, што яго пакуль не падтрымліваюць. І вось самыя эмацыйныя моманты на Плошчы, якія ўзьнікалі 19-га, калі пачалася сьнежная бура, альбо 25-га, калі насуперак разгону, арыштам раптам прыйшло зноў некалькі тысячаў, прарваліся на Плошчу, — узьнікалі таму, што людзі раптам адчувалі, а вось нас усё болей і болей, раптам гэты працэс пойдзе далей, і нас будзе ўжо велізарная колькасьць, і мы ўбачым, што народ з намі. На жаль, гэтага не атрымалася. Але прадчуваньне і пачуцьцё такое ёсьць, гэта лякмусавая паперка, каб людзі адчулі, што за імі праўда. Людзі на Плошчы чакалі, што прыйдуць усе, і тады праўда будзе за імі, і тыя, хто гэтую Плошчу ачапляў, хто стаяў у падваротнях, сядзеў у аўтобусах, я маю на ўвазе міліцыянтаў, амапаўцаў, — яны таксама пра гэта думалі.

У мяне ёсьць выдатнае назіраньне: мая знаёмая, пераадолеўшы страх, пайшла ў аўтобус да амапаўцаў і пачала іх агітаваць. Яна казала: я маці траіх

дзяцей, вы такія ж хлопчыкі, як і мае дзеці, чаму вы супраць народу? Хлопчыкі сядзелі сапраўды напужаныя, там былі 18-гадовыя, але зь імі стаяў сяржант, які казаў: я таксама галасаваў за Мілінкевіча. Мне таксама не падабаецца гэты прэзыдэнт. Але я супраць таго, каб у нас была такая рэвалюцыйная сытуацыя і такія рэвалюцыйныя забурэньні. Ён казаў: вы абрынеце стабільнасьць, а гэтага мы вам не дазволім. То бок чалавек быў ня супраць Мілінкевіча ці Казуліна, але ён хацеў, каб усё адбывалася законным шляхам, без узброеных выступленьняў, без крыві і гвалту. І вось гэты матыў у тых жа апамаўцаў таксама прысутнічае. Акрамя таго, што яны натуральна запалоханыя, распрапагандаваныя, што над кожным зь іх стаіць сяржант з дубінкай, усё ж такі ў іх таксама ёсьць такі матыў. Яны казалі: каб вас тут было 50—100 тысячаў, тады міліцыя была б сапраўды з народам. Дарэчы, лёзунг Плошчы яны ўвесь час паўтаралі, і гэта паказьнік: так, маўляў, міліцыя з народам, але ня з вамі, вас пакуль мала. Вось калі вас будзе 100 тысячаў, тады мы пяройдзем на ваш бок. Гэта чулі многія, гэта адчувала ўся Плошча, і гэта адчувала міліцыя.

## «Міліцыя — з народам. А ня з вамі»

**Дракахруст:** Алег, фактычна, пачаў ужо адказ на наступнае пытаньне. Ён прывёў эпізод размовы зь міліцыянтам, існуюць сьведчаньні і іншых паводзінаў прадстаўнікоў праваахоўных органаў падчас «гарачага тыдня»: менавіта — надзвычай брутальных. І размова ня толькі пра пабоішча 25 сакавіка, каля Тэатру музкамэдыі, але й пра шматлікія факты зьдзекаў, нават катаваньняў, зьбіцьця затрыманых у пастарунках, аўтазаках. На ваш погляд, у якой ступені гэта было выкананьнем загаду, а ў якой — праявай асабістай нянавісьці да маніфэстантаў? Я хачу прывесьці сьведчаньне Кацярыны Кляцоўкі пра тое, як разганялі Плошчу:

*«Прыехалі аўтобусы, нас, цэлы лягер, ачапілі з усіх бакоў. Выскачылі амапаўцы, чорны спэцназ, яны загадалі нам: “Кладзіцеся на зямлю!” Мы ляглі, а потым другі-трэці — давай біць. Я трымалася за дачку, яе схапіў адзін за валасы, пацягнуў, а яшчэ адзін амапавец крычаў: “Ня бі — гэта малая!” А той б’е яе. Схапілі мяне, як нейкую сьвіньню, кінулі ў аўтобус, на нас крык, што мы сьвіньні, што́ мы робім, што, рэвалюцыі нам захацелася? — і па сьпіне мяне яшчэ білі»**.

Існуе меркаваньне, што паводзіны сілавых структураў у такой крызіснай сытуацыі — гэта наагул своеасаблівы індыкатар настрояў грамадзтва, бо, скажам, сэрбская ці ўкраінская рэвалюцыя мелі посьпех, акрамя ўсяго іншага, ці, можа, нават у першую чаргу дзякуючы таму, што сілавыя структуры — і шарагоўцы, і афіцэры — проста сабатавалі брутальныя загады палітычнага кіраўніцтва.

Ці мае рацыю погляд на сілавікоў як на індыкатар настрояў грамадзтва, і ў якой ступені беларускія падзеі пацьвердзілі ці абверглі гэтую вэрсію?

**Хашчавацкі:** Вялікая частка сілавікоў жыве ў той Беларусі, якую паказваюць па тэлебачаньні. У іх сапраўды вельмі высокія даходы. Адзін мой знаёмы апэратар месяцы тры таму здымаў маленькую акцыю, падчас якой АМАП па-зьверску зьбіваў людзей. На майго знаёмага накінуўся палкоўнік АМАПу, які сказаў: «Калі ты ня пойдзеш прэч, я бу-

* Кацярына Кляцоўка — удзельніца намётавага мястэчка на Кастрычніцкай плошчы, пасьля разгону акцыі была асуджаная на трое сутак адміністрацыйнага арышту.

ду ў цябе страляць». Мой знаёмы ў адказ: «Дык ты што, не разумееш, што гэтыя людзі маюць рацыю?» Палкоўнік гаворыць: «За тыя грошы, што мне плацяць, я буду страляць». Велізарная частка сілавікоў цяпер проста падкупленая.

З другога боку, уявіце сабе гэтых амапаўцаў, якія тыдзень працавалі амаль у тым жа рэжыме, што й людзі, якія стаялі на Плошчы. Яны азьвярэлі, сталіся, яны лічылі, што гэтыя радыкалы вінаватыя ва ўсіх нязручнасьцях. Мяне ўразіла, як людзей, якія несьлі на Плошчу прадукты, абшуквалі. Я прыгадаў жахлівыя кадры са «Звычайнага фашызму» Рома, калі пры ўваходзе ў гета эсэсаўскі афіцэр прымушае дзіця дастаць моркву з кішэні. У грамадзтве разьвіўся велізарны цынізм. Цынізм тых, хто фальсыфікаваў выбары, тых, хто бяздумна выконвае загады. Злосьць, якая назапасілася ў людзях — гэта злосьць і на саміх сябе таксама. Трэба было гэтаму амапаўцу ці сказаць сабе, што ён выконвае злачынны загад, і стаць рэвалюцыянэрам, ці самога сябе ўгаварыць, што там на Плошчы — падонкі й мярзотнікі. Відавочна, што менш небясьпечны другі шлях, і вось ад гэтай сытуацыі ён пакрыху проста зьвярэе. Ня ўсе, але шмат хто.

Як будзе разьвівацца сытуацыя? Я думаю, што ў сувязі з папярэджаньнямі «Газпрому» аб пераходзе на ўсясьветныя цэны на газ даходы ў сілавікоў пачнуць памяншацца. А тым, хто ўсё разумее, але думае, што можна ўладкавацца і ў гэтую сытуацыю, я б хацеў нагадаць лёс нашага выбітнага старшыні калгасу Бядулі. Ён горача падтрымліваў Лукашэнку, а некалькі дзён таму да яго прыехалі і сказалі: ты больш не патрэбны, і выкінулі знакамітага селяніна з працы, пазбавілі яго сэнсу жыцьця. Быў Старавойтаў, які пайшоў у апазыцыю і сеў у турму, і быў Бядуля, які тлумачыў, што можна і трэба жыць з



гэтай уладай, але й да яго дабраліся. Гэта падобнае да велізарнага айсбэргу: улада сама адколвае ад яго вялікія кавалкі і прыводзіць гэтыя сілы на наш бок. Сёньняшняя ўлада ў Беларусі самаразбуральная па сутнасьці.

**Дракахруст:** Алег Грузьдзіловіч, з расповеду Кацярыны Кляцоўкі мы чулі нават пра спрэчку паміж амапаўцамі, калі адзін б'е дзяўчыну, а другі гаворыць: «Ды што ж ты робіш, яе нельга біць». Мы памятаем тую жахлівую гісторыю, як нейкую студэнтку, якая ішла на Плошчу з блінчыкамі, забралі ў пастарунак і прымусілі зьесьці гэтыя блінчыкі. На Ваш погляд, у якой ступені гэтыя людзі выконвалі ўсё ж такі загад, і ў якой ступені гэта быў уласны выкід нянавісьці да маніфэстантаў?

**Грузьдзіловіч:** Я згадваю падзеі шасьцігадовай даўніны, дакладна на Дзень Волі — тады на плошчы Якуба Коласа зьбіраліся маніфэстанты, і прэвэнтыўна ўлады арыштавала шмат удзельнікаў і журналістаў. Я таксама трапіў у лік тых, каго затрымалі. І я памятаю дакладна, што ў аўтобусе пачалося запалохваньне, маральны ціск з боку амапаўцаў, каб ні ў якім разе не дапусьціць нейкага ўсплёску незадавальненьня ці нават забурэньняў у самім аўтобусе. У іх ёсьць пэўны трэнаж, пэўныя інструкцыі, як чалавека прыгнятаць, душыць, каб ён не супраціўляўся. Я думаю, што ў такі трэнаж уваходзіць і тое, як яны абыходзіліся з маніфэстантамі, з тымі, хто быў у намётавым лягеры і хто нёс туды прадукты. Быў загад: не пускаць, арыштоўваць — гэта ўжо прадугледжвае пэўныя дзеяньні: і біць, падаўляць любое найменшае супраціўленьне.

А вось тое, што мы чулі ад некаторых загад: «Ня бі дзіця!» — і адна жанчына нават казала, што на Плошчы яна чула: «Жанчын ня біць!» — вось гэта

якраз рэагаваньні апэратыўныя. Я лічу, што загады начальнікі раздавалі спачатку тыя, як і заўсёды: біць, абыходзіцца як трэба, выконваць загад, ачысьціць Плошчу, а ўжо потым карэктавалі: ня біць жанчын, бо тут ёсьць журналісты — могуць убачыць, паказаць па тэлевізіі, альбо ня біць дзяцей, бо ўсёткі іх прыйдзецца выпускаць праз некалькі гадзінаў, яны няпоўнагадовыя, яны прыйдуць да бацькоў, да журналістаў з гузакамі і скажуць: «Мяне білі». Адна рэч, калі пасадзяць каго з гузакамі на Акрэсьціна, праз 15 дзён ён прыйдзе дадому больш-менш нармалёвы, а іншая — калі з гузакамі вернецца на наступны дзень.

Ці было гэта спантаннай рэакцыяй, нейкім азлабленьнем саміх амапаўцаў? Я думаю, што, канечне, было. Такія спантанныя выкіды энэргіі залежаць ад таго, які амапавец. Я думаю, што нейкія пэўныя службы працавалі на тое, каб справакаваць гэтую рэакцыю. Я добра памятаю 22 сакавіка, калі пачыналіся працэсы над тымі, каго затрымалі на Плошчы, хто нёс прадукты… У калідоры суда сядзелі прыблізна 50 амапаўцаў у чорным. Яны спалі, седзячы на крэслах, яны ўсю ноч дзяжурылі, расьцягвалі людзей, арыштоўвалі, а зараз ім трэба сьведчыць. Яны, канечне, былі вельмі злоснымі, нэрваваліся. Калі журналісты спрабавалі патэлефанаваць на просьбу арыштаваных сваякам ці адвакатам, то яны на іх накідваліся: «Што ты робіш? Я ўсяго тры гадзіны спаў, ці тры дні ня спаў, а зараз мне сядзець тут яшчэ пяць гадзінаў, чакаць адваката?»

Але галоўнае, што калі пачалася размова пра тое, што хтосьці быццам затрыманы з грашыма, і ён гэтыя грошы мусіў раздаваць удзельнікам лягеру — яны ўсе ў гэта верылі стопрацэнтова. Яны казалі, што самі бачылі тыя грошы — ім усім гэта наўмысна паказвалі. Я потым распытаў удзельнікаў лягеру: ці маглі ў прынцыпе амапаўцы бачыць, як у кагосьці ў рэчах знайшлі капэрту з далярамі? Яны кажуць — гэта немагчыма. Амапаўцы стаялі вакол, першымі зайшлі ў лягер нейкія супрацоўнікі ў цывільным — гэта былі КДБісты. Хутчэй за ўсё, яны тыя грошы і падкінулі. Гэта зрабілі спэцслужбы. Потым апамаўцам, якіх увесь час «накручваюць», што вось, яны за грошы Захаду ўсё гэта робяць, паказваюць: вось грошы, капэрта, мы сапраўды казалі праўду. І тады ў чалавека пачынаецца зрух у сьвядомасьці. На злосьць фізычную накладаецца злосьць на тое, што вы — здраднікі, маўляў, вы за грошы Захаду тут седзіце. І тады яны абураюцца сьвядома, прыносяць гэтае абурэньне і ў другую зьмену.

23 сакавіка, калі амапаўцы зноў выйшлі, паспаўшы некалькі гадзінаў, мы назіралі, што, у прынцыпе, стаўленьне іх да ўдзельнікаў лягеру не мянялася — яно рабілася толькі горшым, бо іх увесь час «накручвалі». Я думаю, што, акрамя нейкіх стыхійных эмацыйных уплываў, ёсьць пэўная праца спэцслужбаў, якія ўвесь час падтрымлівалі азначаны градус варожасьці да мітынгоўцаў.

**Дракахруст:** Я зноў хачу вярнуцца да пытаньня пра настрой сілавых структураў як індыкатар настрою грамадзтва. У свой час мае калегі распавядалі, як фармаваўся пры Мілошавічу бялградзкі спэцназ МУСу: з уцекачоў з Косава, Босьніі, з так званай былой «ваеннай мяжы» з Харватыяй. То бок людзі, якія страцілі свае сем'і, свае дамы, у прынцыпе, чужыя бялградзкаму грамадзтву, — яны ішлі ў гэты АМАП, сядзелі на базах, а афіцэры ім казалі, што вось, маўляў, гэтыя сволачы, якія ходзяць па вуліцах Бялграду, — здраднікі, з-за іх забілі вашых бацькоў, спалілі вашыя дамы. І тады яны, як кажуць, білі ад душы. Але калі адбыліся выбары, калі перамог Каштуніца, то й гэты спэцназ не зрабіў анічога:

на народ ён не пайшоў, у самым горшым выпадку амапаўцы адварочваліся і рабілі выгляд, што ня бачаць тысячаў людзей, што ішлі на Плошчу да Скупшчыны. Дык якія тут суадносіны паміж настроем грамадзтва і настроем сілавікоў, якія, у прынцыпе — тое ж грамадзтва, толькі ў форме?

**Акудовіч:** Я думаю, што такі крытэр, гэтая лякмусавая паперка, — досыць аб’ектыўны. Калі мы ўбачым, што сілавікі з пратэстоўцамі абыходзяцца мякчэй, чым дагэтуль, можна будзе рабіць высновы, што ўлада слабее. Але ўвогуле, мае суразмоўцы вельмі падрабязна распавялі пра псыхалёгію і фактаграфію гвалту апошніх дзён, таму я паспрабую коратка канцэптуалізаваць гэтую праблему, якой яна мне бачыцца.

Праблема тут, напэўна, вось у чым: і за камуністамі, і ў сучаснай Беларусі міліцыя і да яе падобныя сілавыя структуры па сваёй сутнасьці не зьяўляліся і не зьяўляюцца праваахоўнымі органамі. Яны — рэпрэсіўны інстытут улады. І таму рэпрэсія — гэта канон іх паводзінаў. Яны зьдзекуюцца з усіх арыштаваных, а ня толькі з тых, хто выходзіць з пратэстам, хаця, напэўна, апошнія рэпрэсуюцца мацней. Тыя, хто пратэстуе супраць беззаконьня ўлады, адначасна пратэстуе непасрэдна супраць тых, хто абараняе гэтую ўладу. Цягам Тыдня Волі маніфэстанты бясконца скандавалі: «Міліцыя з народам!» — і міліцыя сапраўды была з народам, але рэч у тым, што на вуліцы і плошчы Менску выйшаў не народ, а нацыя, ці, прынамсі, тыя людзі, хто пачынае сябе адчуваць нацыянальным чалавекам. А міліцыя была з народам, і таму біла гэтых «чужаніцаў», і біла найперш таму, што беларускі народ быў за Аляксандра Лукашэнку, а нацыянальна заангажаваныя выступалі супраць яго.



**Дракахруст:** Спадар Акудовіч, камэнтуючы апошнія падзеі для БДГ, сказаў: *«Унівэрсальныя каштоўнасьці: свабода, правы чалавека, годнасьць — як каштоўнасьці ўспрымаюцца толькі элітай. Для вясковага, для рабочага чалавека гэта не каштоўнасьці. ...Паводле каштоўнасьцяў Беларусь падзеленая на дзьве часткі: адна зь іх — невялічкая, для якой унівэрсальныя каштоўнасьці рэальныя, за іх можна стаяць на Плошчы. Бо не за хлеб стаялі на Кастрычніцкай, не за каўбасу! Стаяць можна толькі за ідэю».*

Але калі гэты падзел сапраўды ня проста палітычны, але й каштоўнасны — ці ёсьць у тых, хто стаяў на Плошчы, шанец перамагчы хоць калі-небудзь? З чаго гэтая большасьць — паводле Акудовіча «вясковы, рабочы чалавек» — калісьці прасякнецца каштоўнасьцю свабоды? І яшчэ наконт «стаяць можна толькі за ідэю» — ці за яе стаялі на адпаведных плошчах сэрбы, грузіны і ўкраінцы?

**Грузьдзіловіч:** Я ня згодны з тым, што гэта трывалы падзел, што частка — толькі за свабоду і за вольныя выбары, за нацыю, а іншая — толькі за каўбасу і грошы. У 90-я гады мінулага стагодзьдзя быў усплёск дэмакратычных каштоўнасьцяў, калі людзі павярнуліся да галоснасьці, свабоды, пачалі марыць пра дэмакратыю, вольныя выбары і шматпартыйную сыстэму. А зараз прэвалююць каштоўнасьці звычайныя, кансэрватыўныя: бясьпека, сям’я, праца. І таму на фоне гэтай перавагі цяжка марыць пра тое, што большасьць выйдзе на Плошчу.

Але я ня думаю, што гэта назаўжды. Мы можам дачакацца яшчэ аднаго ўсплёску тых募 мараў і спадзяваньняў, якія пераважалі напачатку 1990-х. І цалкам магчыма, што гэта захопіць і людзей, якія сёньня мараць толькі пра заробак і каўбасу. У 1991 годзе рабочыя выходзілі ж на плошчу. Нядаўна тэлевізія

круціла кадры тых часоў, і я запомніў словы працаўніка зь ліцейнага цэху Менскага трактарнага заводу, які казаў: *«Мы ж ліцейшчыкі, нам жа патрэбны бялок, трэба шмат есьці, а дзе той бялок узяць, калі каўбаса стала даражэйшай на 30%?»*

Гэта было грунтоўным для ўсіх, але тыя падзеі далі шмат лідэраў рабочай клясы: Мухін, Антончык, Быкаў. Я думаю, што яны могуць паўтарыцца.

Што да пытаньня пра сілавікоў у Грузіі, ува Ўкраіне і ў Югаславіі. Ва Ўкраіне сытуацыя была зусім іншай, чым у Беларусі. У Менску ўсім кіраваў АМАП, нават не міліцыя — гэта амаль тое, што югаслаўскі варыянт. Людзей бяруць зь вёсак, дзе мала працы і няма пэрспэктываў, тут ім даюць грошы, робяць прамываньне мазгоў — і яны сапраўды нацкаваныя на мітынгоўцаў. У нас сілавыя структуры — гэта бэтон, маналіт, які немагчыма раскалоць, ён трэсьне, калі трэсьне ўсё.

## Розныя бакі «сьцяны каштоўнасьцяў»

**Дракахруст:** Я хачу спытаць пра становішча на тым баку, так бы мовіць, «сьцяны каштоўнасьцяў». Валянцін прыгадаў пра паездку Мілінкевіча пасьля выбараў у Польшчу, пра яго сустрэчу з прэзыдэнтам Качыньскім. У Польшчы 19% беспрацоўных, а ў Беларусі, здаецца, 2%. Чалавек, які нават і ня надта верыць беларускай прапагандзе, можа разважаць так: *«Прыйдзе да ўлады Мілінкевіч, будзе добра студэнтам, будзе добра вось Юр'ю Хашчавацкаму. А мне? Мяне выкінуць з майго МАЗу і скажуць: рынак, мужык, круціся сам як хочаш. Чаму я павінен нават галасаваць за гэта, не гаворачы ўжо пра тое, што выходзіць на Плошчу?»*

Гэты чалавек ня мае рацыі?



**Хашчавацкі:** Гэты чалавек абсалютна мае рацыю. Словы ня могуць быць важнейшымі за такія рэчы, як дабрабыт і здароўе сям'і. Гэта самае галоўнае. Я ў большай ступені падтрымліваю тых людзей, якія гавораць, што ім для здароўя патрэбны бялок, чым тых, якія проста крычаць пра свабоду.

Але парадокс палягае ў тым, што сьцяны паміж такімі каштоўнасьцямі, як правы чалавека і здароўе, дабрабыт сям'і — няма. Пакрысе гэта ўсьведамляе шмат людзей, і ўлада дапамагае гэтаму ўсьведамленьню.

Я прыгадваю, што і ў Кіеве пачыналася прыблізна з такіх жа лічбаў, што і ў Менску. У Кіеве першыя выхады былі крыху большымі за 10 тысячаў чалавек.

Іншая рэч, што брутальнасьць дзеяньняў уладаў Беларусі не дала вырасьці гэтаму пратэсту. Ва Ўкраіне пратэст нарастаў, бо там не было такой жорсткасьці і такога прамываньня мазгоў. Вось нават Вы сказалі, што ў нас 2% беспрацоўя. Але гэта ж няпраўда. У Беларусі ёсьць велізарнае схаванае беспрацоўе. Напрыклад, я беспрацоўны. Гэта ж нідзе не фіксуецца. Не пайду ж я месьці вуліцу, каб зарэгістравацца на біржы працы. Тая лічба, якую Вы назвалі, сьведчыць пра тое, што ў грамадзтве не існуе праўдзівай інфармацыі. Але інфармацыю не стрымаць, і сьцяна гэтая паміж каштоўнасьцямі, якія вызнае эліта, і каштоўнасьцямі, якія патрэбныя народу, паступова зрушваецца і разбураецца.

Мы павінныя паказваць людзям, як свабода й дабрабыт іх сем'яў зьвязаныя. І ўлада будзе нам у гэтым, як ні дзіўна, дапамагаць. Дапамагаць тым, што даваць факты і аргумэнты. Шмат хто лічыць, што з гэтым рэжымам можна суіснаваць. Вось вам прыклады: у таго разбурылі бізнэс, таму зламалі лёс... Ва

ўлады апэтыт ваўка, яна пакуль усё не зжарэ, ня спыніцца.

**Акудовіч:** У першай палове 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя на Плошчу выходзіла нацыянальная і дэмакратычная Беларусь, каб выступіць супраць Беларусі савецкай. Сёньня мы маем зусім іншую сытуацыю. Па сутнасьці, на нашых вачох разгортваецца клясычны канфлікт бацькоў і дзяцей. Паспрабую патлумачыць. Тыя маладыя людзі, якія сёньня выходзяць на Плошчу адстойваць экзыстэнцыяльныя каштоўнасьці свабоды, справядлівасьці, правоў чалавека і гэтак далей, як быццам найперш выступаюць супраць Аляксандра Лукашэнкі. Але насамрэч, не ўсьведамляючы, перадусім яны стаяць на Плошчы супраць сваіх бацькоў і дзядоў, лад і разуменьне жыцьця якіх абараняе Аляксандар Лукашэнка.

Натуральна, у нашым выпадку канфлікт бацькоў і дзяцей — гэта ня ўзроставы канфлікт і нават не палітычны. Гэта цывілізацыйны канфлікт, калі бацькі выгадаваліся ў адной цывілізацыі, дзеці — у радыкальна іншай. І дзеці ня хочуць жыць паводле законаў Атлянтыды, якая даўно патанула.

Дарэчы, канфлікт паміж бацькамі і дзецьмі ў асобных сюжэтах ня менш жорсткі, чым паміж уладай і апазыцыяй. Я ведаю выпадкі, калі бацькі адмаўляліся насіць перадачы сваім дзецям на Акрэсьціна, бо дзеці выступалі супраць Лукашэнкі.

А што да пытаньня пра шанцы тых, хто выходзіць на Плошчу, то адказ тут адназначны: дзеці заўсёды перамагаюць бацькоў, бо не за бацькамі, а за дзецьмі будучыня. Іншая рэч, што гэтая перамога не абавязкова адбудзецца на Плошчы.



# «Памятаць, што дыктатуры руйнуюцца»

Ці магчымай была перамога апазыцыі сёлета ў сакавіку? У чым прычыны ўстойлівасьці беларускай улады і ці перажывае яна крызіс? Ці прызнала грамадзтва перамогу Аляксандра Лукашэнкі? Што залежыць ад незалежнага грамадзтва?

**18 чэрвеня 2006**

Удзельнікі: Вацлаў Арэшка, Уладзімер Мацкевіч, Віталь Сіліцкі

## Ці ў памылках была справа?

**Дракахруст:** Прайшло ўжо амаль паўгоду пасьля прэзыдэнцкіх выбараў і «гарачага тыдня» 19—25 сакавіка на Кастрычніцкай плошчы ў Менску. Той час яшчэ не адышоў канчаткова ў мінулае, але зьявілася магчымасьць асэнсаваньня.

Спробу такога асэнсаваньня зрабіў нядаўна палітоляг Віталь Сіліцкі ў артыкуле «Памятаць, што дыктатуры руйнуюцца», надрукаваным у часопісе «ARCHE»*. Скарочаны варыянт публікацыі зьявіўся ў «Нашай Ніве».

Нягледзячы на назву — «Памятаць, што дыктатуры руйнуюцца» — зьмест артыкулу, бадай, адваротны. Аўтар з горыччу адзначае, што знакамітая беларуская Кастрычніцкая плошча была хутчэй дысыдэнцкай акцыяй, «барацьбой за асабісты гонар прадстаўнікоў дэмакратычнай меншасьці», чым палітычным дзеяньнем, што любыя крокі апазыцыі не маглі прывесьці да зьмены ўлады, што рэжым Аляксандра Лукашэнкі дасягнуў пэўнай раўнавагі зь беларускім грамадзтвам, што й цяпер, як піша аўтар, *«апазыцыя пры самых сваіх актыўных дзеянь-*

---

* *Сіліцкі Віталь.* Памятаць, што дыктатуры руйнуюцца. ARCHE. 2006. №7—8 (47—48).

*нях можа спадзявацца хіба на цуд, на форс-мажор, ці на натуральную хаду падзеяў, якая можа заняць балюча шмат часу».*

Я прапаноўваю абмеркаваць галоўныя тэзы артыкулу спадара Сіліцкага.

Пачнём з высноваў адносна выбараў. Спадар Сіліцкі сьцьвярджае, што ня толькі дзеяньні, не пазбаўленыя памылак, якія рабіла апазыцыя, але і любыя яе захады прывялі б прыкладна да такога ж выніку. Вацлаў Арэшка, ці пагаджаецеся Вы з гэтым?

**Арэшка:** Не зусім. Мне здаецца, што палітычная апазыцыя, пачынаючы перадвыбарчую кампанію, нягледзячы на пэўныя дэклярацыі, што яна як бы ідзе да ўлады, па сутнасьці, такой задачы сабе ня ставіла. Кідаць выклік уладзе яна не плянавала і насамрэч вяла кампанію падвышэньня ўласнага рэйтынгу.

Сваю задачу яна часткова выканала, але Плошча — гэта ўжо ня рэйтынг, а якраз выклік уладзе. А вось да гэтага сьвядомасьць апазыцыі якраз і не дацягнула.

Я б сказаў, што Плошча, як інструмэнт захопу ўлады, проста нікому не была патрэбнай. Ніхто ня ведаў, што зь ёй рабіць у гэтым сэнсе. Плошча на той момант, напэўна, і не дасягнула б мэты захопу ўлады, якой і ня ставіла. Але галоўнае, што апазыцыя не рыхтавалася ані да Плошчы, ані да таго, каб скарыстаць яе вынікі.

Вынікі — гэта новыя людзі, новыя мэтады працы, новая інфармацыя, — наагул новы досьвед. Апазыцыя практычна не скарыстала яго. Я думаю, што калі б Плошча прадказвалася, то хаця б гэта можна было б зрабіць.

**Дракахруст:** Уладзімер Мацкевіч, тут можна правесьці такую аналёгію. Калі Вы сядзеце гуляць у шахматы з Каспаравым, то, магчыма, пасьля партыі Вы скажаце: «Як жа я на 20-м ходзе не туды пайшоў канём! З-за гэтага і прайграў». Ня выключана, што той ход канём сапраўды быў памылкай, але так выглядае, што прычына паразы — ня ў гэтай памылцы, а ў розьніцы клясы гульні паміж Вамі і Каспаравым. Вы прайгралі б яму так ці інакш. Ці ня тое самае адбылося зь сёлетнімі выбарамі: апазыцыя рабіла памылкі, але прайграла б у любым выпадку? Ці не?



**Мацкевіч:** Што тычыцца выбараў як працэдуры, то так. Відавочна, што ніякіх выбараў пры дыктатарскім рэжыме не было і быць ня можа. Калі мы пачалі падрыхтоўку ў Кіеве, мы менавіта гэта й казалі яшчэ за год да выбараў — што трэба рыхтавацца не да саміх выбараў, а да тых падзеяў, якія з нагоды выбараў могуць адбыцца.

На жаль, аналітыкі на той час не падтрымалі нас у гэтай думцы, і мы проста згубілі год падрыхтоўкі. Згублены год падрыхтоўкі да падзеяў, якія могуць быць выкліканыя самім фактам выбараў, — гэта й было лёсавызначальным. За год можна было шмат чаго зрабіць. І толькі ў такім сэнсе я магу сказаць, што пры наяўнай падрыхтоўцы нашай апазыцыі, нашага «адзінага» ці падвойнага «адзінага», што б яны ні рабілі, вынік быў бы аднолькавы.

З Каспаравым гуляць вельмі важна, каб вучыцца гуляць, а ня толькі для таго, каб ганарыцца, што з самім Каспаравым Вы згулялі.

**Дракахруст:** Віталь Сіліцкі, нашыя калегі ў той ці іншай ступені з Вамі не згаджаюцца.

Тут можна прыгадаць і меркаваньне Міколы Статкевіча, які пісаў, што 19 сакавіка ўсё вырашалі літаральна гадзіны й хвіліны: паводле Статкевіча, калі знайшоўся б рашучы чалавек, які павёў бы людзей у асэнсаваным кірунку, а не ўскладаць кветкі на плошчу Перамогі, то вынік мог бы быць зусім іншым. Мог бы ці не?

**Сіліцкі:** Ці можна было дамагчыся большага? Так, безумоўна. Ці можна было падрыхтавацца і ўлічыць спэцыфіку падзеяў, якія будуць разгортвацца? Цалкам згодны, што так.

Але пытаньне аб уладзе вырашаецца пры наяўнасьці двух чыньнікаў: масавай мабілізацыі грамадзтва і стварэньня канфлікту легітымнасьцяў. Гэта значыць ня толькі адмаўленьне легітымнасьці дзейнай улады, але і прад'яўленьне ўласных прэтэнзіяў на ўладу.

Ці магла апазыцыя і напярэдадні выбараў, і пасьля іх вырашыць гэтыя два пытаньні? Тут у мяне адказ цалкам адмоўны. Я ня бачу гэтых магчымасьцяў. Зразумела, людзей трэба было весьці ў нейкі іншы бок, а не ўскладаць кветкі. Але куды? Куды весьці, калі вы не прад'явілі сваіх прэтэнзіяў на ўладу?

**Дракахруст:** Віталь, выказваліся меркаваньні, што трэба было весьці да прэзыдэнцкага палацу, балазе ён побач...

**Сіліцкі:** І што далей?

**Дракахруст:** Гаварылася і пра іншы варыянт — весьці да тэлевізіі, патрабаваць этэру, каб сказаць, напрыклад, што мы перамаглі. Ці што мы, маўляў, патрабуем другога туру.

**Сіліцкі:** Каб весьці людзей на тэлевізію, каб сказаць, што мы перамаглі, трэба абвяшчаць перамогу. Магчымасьці абвесьціць перамогу ў апазыцыі, на мой погляд, не было.

## Дэмакратычная меншасьць — гета?

**Дракахруст:** Адной з самых важных тэзаў артыкулу Сіліцкага мне падаецца наступная: *«...рэжым Лукашэнкі дасягнуў пэўнай раўнавагі з грамадзтвам, заклаўшы, калі так можна сказаць, сьветапогляд і палітычную культуру сярэднестатыстычнага беларуса ў свой уласны падмурак».*



У іншым месцы аўтар гаворыць, што дэмакратычная супольнасьць у Беларусі ператварылася ў гета. З аднаго боку, улада, угрунтаваная на сьветапоглядзе большасьці, зь іншага — паводле Сіліцкага — гета, супольнасьць людзей, чужых для гэтай большасьці, чужых у тым ліку культурна й мэнтальна. Першапачаткова гета — месцы кампактнага пражываньня габрэйскай грамады, якая адрозьнівалася ад той большасьці, сярод якой яна жыла, не палітычнымі поглядамі, а культурна, мэнтальна, рэлігійна і этнічна.

Ці згодны вы з такім поглядам на цяперашняе беларускае грамадзтва? У гісторыі здаралася, што ідэі меншасьці заваёўвалі душы большасьці, але ніколі не было, каб такога выніку дасягала гета.

**Мацкевіч:** Я, калі ўзьнімаю аналягічныя тэмы, выкарыстоўваю слова «барыкада». Так, нашае грамадзтва падзеленае, але падзеленае яно не на большасьць і меншасьць, якая ня можа прыстасавацца да большасьці і ўтрымліваецца ў своеасаблівым гета. Мы сёньня маем падзелены народ, падзелены на дзьве часткі. Яны, зразумела, няроўныя, і большасьць цяпер знаходзіцца ў кантракце з рэжымам, а не з апазыцыяй, і мы з кожным годам, робячы памылкі, губляем усё больш і больш людзей.

Сапраўды, Віталь Сіліцкі слушна заўважае — канфармізм пашыраецца, і ён захоплівае значную частку тых людзей, якія раней знаходзіліся ў апазыцыі да рэжыму. І гэта — вынік памылковых падыходаў апазыцыі, і тут таксама Віталь мае рацыю.

Але я лічу, што галоўная адказнасьць ляжыць не на нашых палітычных лідэрах, а на нашай інтэлектуальнай эліце, на тым забесьпячэньні палітычнага

жыцьця, за якое адказвае інтэлігенцыя ці інтэлектуалы ў краіне. Мы ня робім сваёй працы.

У мяне ў гэтым сэнсе вельмі вялікая прэтэнзія да Віталя Сіліцкага, бо значна лепш было б, калі б тое, што ён піша сёньня, ён напісаў паўтара году таму — і пра кантракт улады з насельніцтвам, і пра іншыя такія рэчы. Трэба было рыхтаваць апазыцыю.

А наша аналітычная эліта, інтэлектуалы сёньня выконваюць сэрвільную функцыю. Яны толькі падтрымліваюць палітычных лідэраў у іх рамантызьме і летуценьнях.

**Дракахруст:** Спадар Арэшка, ці пагаджаецеся Вы з той мадэльлю, якую абмаляваў Віталь, з тым азначэньнем, якое ён даў наўмысна ці выпадкова, што тую меншасьць, якая, прынамсі, стаяла на Плошчы, якая пратэставала, якая галасавала за Казуліна ці Мілінкевіча, аддзяляюць ад большасьці ня толькі палітычныя супярэчнасьці, але й культурныя. І вось гэты культурны бар'ер зьмяншае і без таго невялікія шанцы на посьпех.

**Арэшка:** У гэтым пункце я больш аптымістычны. На мой погляд, і ня толькі на мой, ідзе і адваротны працэс. Чым больш задавальняюцца першасныя патрэбы чалавека, тым больш ён пачынае цікавіцца нечым больш высокім, духоўным.

Менавіта таму мы пачалі кампанію пад лёзунгам «За свабоду». Мы проста матэматычна падлічылі, што якраз свабода можа быць такой каштоўнасьцю, якая закране значную колькасьць людзей. Гэты працэс таксама ідзе.

З аднаго боку, ёсьць працэс канфармізацыі грамадзтва, з другога — на гэтым тле адбываецца і пашырэньне прагі свабоды, прагі лепшага жыцьця ня толькі ў матэрыяльным сэнсе, але і ў сэнсе духоўным, у сэнсе рэалізацыі сваіх магчымасьцяў.



І можна абапірацца не на палітычныя лёзунгі, як спрабавалі нашы палітыкі ўвесь час, не на эканамічныя абяцанкі. Падыход з боку каштоўнасьцяў, з боку духоўнага можа дапамагчы пашырыць сацыяльную базу апазыцыі.

Што да гета, то я пагаджаюся са спадаром Уладзімерам, але хацеў бы зьвярнуць увагу на такую трохі парадаксальную рэч.

Для многіх нашых апазыцыйных палітыкаў сытуацыя гета нават прымальная. Палітычная апазыцыя ў прынцыпе можа існаваць у такой замкнёнай прасторы, калі ёй туды нейкія рэсурсы трапляюць, і гэта даволі зручнае для яе існаваньне.

Мы цяпер бачым канфлікт паміж палітычнай апазыцыяй і грамадзкімі арганізацыямі, якія дэманструюць большую актыўнасьць, бо грамадзкі сэктар ня можа існаваць у гета.

І цяпер для прарыву бар'ераў, якія будуюцца рэжымам, трэба больш абапірацца на грамадзкі сэктар, на грамадзкія ініцыятывы, чым на чыста палітычныя. Тут спадар Сіліцкі таксама мае рацыю ў сваіх некаторых высновах.

**Дракахруст:** Бачыце, Віталь, Вы, як высьвятляецца, ня так шмат і памыляецеся.

**Сіліцкі:** Што да сказанага спадаром Мацкевічам наконт апэратыўнасьці рэагаваньня — я цалкам гэта прымаю. Сапраўды мы, інтэлектуалы, мусім умець загадзя прадказваць рэчы, ня вельмі прымальныя ў нашым уласным асяродку.

Цяпер наконт гета. Гэта можна таксама ахарактарызаваць як субкультуру ці паралельнае грамадзтва. Калі б я пісаў акадэмічны артыкул, я б карыстаўся тэрмінам «паралельнае грамадзтва».

Гэтае гета — толькі ў невялікай ступені культурнае, я б не перабольшваў рэлігійныя ці нават моўныя

адметнасьці дэмакратычнай апазыцыі і незалежнага грамадзтва. Людзі, якія, паводле выразу спадара Мацкевіча, «у кантракце з уладай», таксама неаднародныя.

Ёсьць частка грамадзтва, якая глядзіць на апанэнтаў улады як на чужакоў. Можна пачытаць інтэрнэтчасопісы шмат якіх моладзевых актывістаў, як да іх ставяцца бабулі, нават бацькі. І тут бачны бар'ер.

Зь іншай часткай грамадзтва, якое знаходзіцца ў кантракце з уладай, бар'еры ўсё ж такі хутчэй сацыяльныя, палітычныя, а не культурныя. Тут часта бар'ер неразуменьня: «Чаму ты гэтым займаесься, ты ж ведаеш, чым гэта скончыцца?»

Асабліва адчувальны гэты бар'ер зь людзьмі, якія не ва ўсім падзяляюць пазыцыі ўлады, мы ім проста надакучваем. Яны прыстасоўваюцца, яны бяруць крэдыты, гадуюць дзяцей, пасылаюць іх вучыцца ў дзяржаўныя ўнівэрсытэты — яны будуюць сваё жыцьцё ў гэтай сыстэме, а тут мы лезем са сваімі апазыцыйнымі ідэямі.

Магчыма, сытуацыя не настолькі катастрафічная, але ёсьць адна акалічнасьць.

У гэтае, умоўна кажучы, гета нас улада ня тое што заганяе, яна проста не дае нам зь яго вырвацца, выкарыстоўваючы сілавыя сродкі. Тут вельмі падыходзіць прыклад Плошчы Каліноўскага, калі народ пускаць — пускалі, але выпускаць — не выпускалі.

Перайсьці ў апазыцыйны стан, займацца незалежнай дзейнасьцю — гэта як на «малінах» злодзеяў: уваход — рубель, выхад — два, бо разбураецца ўсё нармальнае жыцьцё.

Улада выкарыстоўвае і віртуальны бар'ер, бар'ер прапаганды, бар'ер прамываньня мазгоў, бар'ер беларускага тэлебачаньня. Ва ўмовах адсутнасьці незалежных крыніцаў інфармацыі гэта працуе вельмі лёгка.



## Ці прызнала грамадзтва перамогу Лукашэнкі?

**Дракахруст:** Віталь, вось яшчэ адна тэза з Вашага артыкулу: *«Грамадзтва аб'ектыўна прызнала перамогу Лукашэнкі ў 2006 годзе»*.

Некаторыя апазыцыйныя партыі дагэтуль ставяць на мэце дэлегітымізацыю вынікаў сакавіцкіх выбараў, а Вы пішаце, што гэта бессэнсоўна, бо грамадзтва гэтыя вынікі прызнала.

Неўзабаве пасьля выбараў Вольга Абрамава ў адной з нашых перадачаў прапаноўвала апазыцыі зрабіць тое самае*. І Вы, спадар Сіліцкі, як я зразумеў,

* У перадачы «Праскі акцэнт» 26 сакавіка 2006 г. дэпутат Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Вольга Абрамава заявіла: *«Відавочна, што грамадзтву патрэбная апазыцыя. Але я ня ўпэўненая, што яму патрэбная радыкальная апазыцыя, якая кідаецца словамі "дыктатура", "фашызм" і г. д. Патрэбная разумная апазыцыя, якая прапаноўвае альтэрнатывы рэальныя, а не абстрактныя і не такія, што немагчыма адаптаваць да нацыянальнага характару беларусаў.*

*З чаго можна пачаць, каб уплываць на грамадзкае жыцьцё? Перш за ўсё — публічна прызнаць вынікі прэзыдэнцкіх выбараў. Я не прапаную лідэрам апазыцыі павіншаваць Аляксандра Лукашэнку зь перамогай, перамога безумоўная, і ў цывілізаваным грамадзтве прынята гэтак сябе паводзіць у падобных сытуацыях. Але я прапаную проста прызнаць вынікі.*

*Другое — зьвярнуцца да заходніх партнэраў з заклікам адмовіцца ад санкцыяў. І трэцяе — прапанаваць сваіх экспэртаў для ўзаемадзеньня з урадам. Трэба зрабіць усё гэта разам і без усялякіх папярэдніх умоваў.*

*І тады можа пачацца рэальны дыялёг аб дасягненьні нацыянальнай згоды — ня весьці вайну, а куды ісьці. Паўтараю, ён можа пачацца, і толькі пасьля дасягненьня гэтага "вадзяного замірэньня" пры мінімальным даверы бакоў можна пераходзіць да выпрацоўкі ўмоваў нацыянальнага кансэнсусу, пры якім апазыцыя можа адыгрываць у грамадзтве годную ролю, быць паважанай дома, а ня толькі на Захадзе, а магчыма, і калісьці прыйсьці да ўлады».*

ужо робіце такое прызнаньне, хай і ў форме акадэмічнай канстатацыі?

**Сіліцкі:** Калі мы хацелі дэлегітымізаваць выбары 2006 году, да гэтага трэба было рыхтавацца з году 2001. Дэлегітымізаваць іх можна было 19—21 сакавіка.

Я сказаў «аб’ектыўна прызнала», а што — не? Калі, скажам, украінскае грамадзтва аб’ектыўна не прызнала вынікаў выбараў, кожны дзень на іх Майдан прыходзіла ўсё больш людзей. У першую ноч прыйшло 5 тысячаў, празь некалькі дзён быў мільён.

У Беларусі ў першы дзень па розных ацэнках было ад 10 да 20 тысячаў, потым засталося некалькі сотняў. Хіба гэта не прызнаньне?

Пытаньне ў тым, будзем мы заставацца ў мінулым ці будзем глядзець наперад і рыхтавацца да наступных падзеяў. Вось у чым розьніца паміж мной і спадарыняй Абрамавай.

Я скажу словамі Вячаслава Сіўчыка. На пытаньне, што трэба рабіць, ён адказаў нешта кшталту: «Рыхтаваць новую Плошчу».

**Дракахруст:** Спадар Арэшка, ці пагаджаецеся Вы з тэзай спадара Сіліцкага: «Грамадзтва аб’ектыўна прызнала перамогу Лукашэнкі ў 2006 годзе»?

**Арэшка:** Гледзячы што лічыць прызнаньнем. Калі тое, што грамадзтва ў чарговы раз зьмірылася з падтасаванымі выбарамі, то так.

Мы ведаем са зьвестак сацыялёгіі, што вельмі вялікая частка грамадзтва здагадваецца, што выбары не зусім справядлівыя, але бачыць, што ў гэтай сытуацыі зьмяніць нічога немагчыма, і прызнае, што гэта ізноў адбылося.

Але што тычыцца перамогі зь вялікай літары, то мне здаецца — якраз сёлета сытуацыя для Лукашэнкі значна горшая, чым была раней.



Нават з асабістага досьведу, з размоваў зь людзьмі вынікае, што аўтарытэт прэзыдэнта значна зьнізіўся, і гэтая тэндэнцыя хутчэй за ўсё незваротная. Гэта азначае, што ўлада ідзе на спад. Наколькі хуткім будзе гэты спад — асобнае пытаньне, але найлепшы час для яе — у мінулым. Гэта дае надзею, што перамога цяперашняя — вельмі часовая.

**Мацкевіч:** Грамадзтва — гэта разнастайнасьць. Калі мы карыстаемся тэрміналягічным апаратам таталітарнасьці, мы кажам: грамадзтва лічыць тое і тое, нацыя, як адзін чалавек... і гэтак далей.

Калі мы кажам пра грамадзтва, карыстаючыся дэмакратычным наратывам, то можам сказаць, што сапраўды значная частка яго зьмірылася з тым, што гэты рэжым усталяваўся ўсур’ёз і надоўга.

Так думае і сам рэжым. Яны паводзяць сябе спакойна, мэлянхалічна, руцінна выконваючы свае дыктатарскія абавязкі.

Што тычыцца мяне асабіста, то я не прызнаў гэтай легітымнасьці і не прызнаю яе з 1996 году. І думаю, што я не адзін, думаю, што часткова і Віталь, і Вацлаў са мной таксама пагодзяцца. І тут ужо ідзе размова пра тое, наколькі мы зь Віталём і Вацлавам лічым сябе таксама грамадзтвам і наколькі асэнсоўваем сваё месца ў ім.

**Дракахруст:** Уладзімер, мне здаецца, што Віталь прывёў вельмі просты крытэр. Ён сказаў, што калі мільёны ўкраінцаў выйшлі на майданы, гэта азначала, што ўкраінскае грамадзтва не прызнала вынікаў выбараў. А ў Беларусі мільёнаў не было, і адсюль вынікае, гаворыць Віталь, што беларускае грамадзтва прызнала вынікі выбараў, незалежна ад таго, што Ўладзімер Мацкевіч, Вацлаў Арэшка і шэраг іншых людзей гавораць аб сваім непрызнаньні.

**Мацкевіч:** Я думаю, што прыклад Украіны ці нейкай іншай краіны заўсёды схоплівае толькі частку нашай рэчаіснасьці.

Мне больш цяпер пасуе прыклад Кубы. Вось Кубаю Кастра кіруе ўжо паўстагодзьдзя, зараз толькі хвароба яго трохі адхіліла ад улады. Але ж ці прызнала кубінскае грамадзтва гэтую перамогу Кастра? Тыя, што бягуць праз праліў на Флорыду?

Калі мы думаем, што гэта праўда, то мы тады павінныя пагадзіцца, што ў Беларусі грамадзтва няма. Ёсьць пэўнае насельніцтва, ёсьць аднадумства і гэтак далей. Калі мы хочам, каб калісьці мы змаглі перамагчы гэтую дыктатуру і ўліцца ў сям'ю эўрапейскіх народаў, мы мусім сказаць: грамадзтва — гэта разнастайнасьць, у ім ёсьць розныя сілы, і тут пытаньне толькі пра наш уплыў, пра наш аўтарытэт, пра тых, хто не прызнае легітымнасьці гэтай улады.

І мы кажам, што трэба падвышаць свой аўтарытэт, трэба павялічваць сваю прысутнасьць у грамадзтве. А зьмірыцца і сказаць, што большасьць усё вызначае, — гэта значыць прызнаць, што мы наагул ня маем у складзе нашай беларускай нацыі грамадзтва як такога.

## Ці існуе крызіс улады?

**Дракахруст:** Уладзімер, вось яшчэ адна тэза з артыкулу Віталя: *«Крызіс улады пакуль не назіраецца, апазыцыя няздольная сваімі сіламі дэзарганізаваць сыстэму».* Гэта якраз наконт таго, што Вы казалі пра пашырэньне ўплыву, аўтарытэту і ўсяго астатняга. А вось Віталь гаворыць, што «сваімі сіламі няздольная», будзе апазыцыя пашыраць уплыў ці ня будзе.



**Мацкевіч:** Калі размова пра апазыцыю ў асобе яе сёньняшніх лідэраў, я пагаджаюся зь Віталём. Але гэта ня значыць, што...

**Дракахруст:** А ў Вашай асобе?

**Мацкевіч:** Я пакуль не магу канкураваць з раскручанымі лідэрамі. Мяне сёньня непакоіць ня столькі падзел і разьмежаваньне ў стане палітычных лідэраў, колькі падзел у стане грамадзянскай супольнасьці.

Сёньня грамадзянская супольнасьць разьяднаная. Мы павінныя нейкім чынам пачынаць сапраўды дысыдэнцка-культурніцкую працу аб'яднаньня, а потым яна дойдзе і да палітычнага.

Таму, зразумела, у асобе сёньняшніх лідэраў (я і сябе таксама магу да іх далучыць), калі казаць пра палітычную дзейнасьць, мы сапраўды няздольныя. Але ж гэта сёньня. Давайце рыхтавацца да заўтра. Тое, што мае быць, зьяўляецца забесьпячэньнем таго, што ёсьць.

**Дракахруст:** Віталь, Вы чулі аргумэнтацыю спадара Мацкевіча. А чаму Вы мяркуеце, што крызісу ўлады няма?

Вось і Аляксандар Мілінкевіч гаворыць, што крызіс ёсьць, і яго трэба толькі паглыбляць, і спадар Арэшка кажа, што аўтарытэт кіраўніка дзяржавы падае, што Лукашэнка губляе прывабнасьць у вачох беларусаў. Яны крызіс бачаць. А Вы не. Чаму?

**Сіліцкі:** Чаму ня бачу?.. Можа, у нас розныя пункты гледзішча.

**Дракахруст:** Віталь, я сфармулюю пытаньне інакш: дакажыце, што крызісу ўлады не існуе.

**Сіліцкі:** Я думаю, што гэта канцэптуальна няправільна пастаўленае пытаньне. Даказаць, што

крызіс улады існуе ці не, можна толькі па выніках існаваньня самой улады і яе здольнасьці выконваць пэўныя палітычныя і сацыяльныя праекты.

Пакуль мы проста ня бачылі, каб такая здольнасьць была зьнішчаная ці радыкальна паменшаная. Гэтая здольнасьць не ўсёабсяжная, але яна дастатковая, каб падтрымліваць рэжым.

Мне здаецца, што крызісныя тэндэнцыі, пра якія мы размаўляем, існуюць у нейкай віртуальнай прасторы.

З курсу марксісцка-ленінскай філязофіі я прыгадваю катэгорыі «неабходнае» і «дастатковае». Ці дастаткова сёньня дзеяньняў апазыцыі, каб дасягнуць палітычных зьменаў? Я думаю, што не.

Ці неабходныя яны, ці неабходная актыўная апазыцыйная грамадзкая, культурніцкая дзейнасьць? Гэта абсалютна іншае пытаньне. Калі мы нечага ня можам сёньня, гэта не азначае, што мы ня зможам гэтага дамагчыся заўтра.

Пытаньне стаіць аб пашырэньні прасторы свабоды ў беларускім грамадзтве, аб пашырэньні гэтага асяродку, аб пераадольваньні бар’ераў віртуалізацыі, якія стварае цяпер улада.

Гэтая праца, якая камусьці сёньня можа падацца безнадзейнай, праца, за якую людзі будуць адно набіваць шышкі, а ня бачыць палітычнага выніку. Але яе трэба рабіць, каб скарыстаць тыя моманты, якія ўзьнікнуць у будучыні, а яны абавязкова ўзьнікнуць.

Я нездарма даў свайму артыкулу назоў «Памятаць, што дыктатуры руйнуюцца». Гэта заклік да працы ў безнадзейных умовах — вось што я меў на ўвазе.

**Дракахруст:** Спадар Арэшка, я разумею, што Вы не згаджаецеся з тэзай Віталя пра тое, што крызісу ўлады пакуль не назіраецца. А вось да Вас просьба,



адваротная той, зь якой я зьвяртаўся да Віталя: дакажыце, што крызіс улады існуе. І што рэч ня ў тым, што Вам так хацелася б, што гэта адпавядае Вашым перакананьням, а што гэта насамрэч так, незалежна ад Вашых хаценьняў.

**Арэшка:** Я якраз думаю крыху інакш. У апошнія месяцы мне давялося ўдзельнічаць у дыскусіях у палітычным асяродку наконт крызісу ўлады. Шмат хто з палітыкаў сапраўды схільны лічыць тое, што ім хацелася б, за існае: дастаткова сказаць, што крызіс ёсьць, ён і зьявіцца.

А для мяне крызісная сытуацыя не настолькі складаная для рэжыму, як некаторым падаецца. Крызісныя зьявы ёсьць у любой сыстэме, у любым грамадзтве, ёсьць яны і ў нашай уладзе, але яны недастаткова сур’ёзныя, каб гэтую ўладу абрынуць.

Таму якраз задача апазыцыі — тое, на што мы спрабавалі палітыкаў зарыентаваць — гэта не пасіўна чакаць, калі крызіс дасягне мяжы, калі ўлада сама абрынецца, а шукаць крызісныя месцы, ціснуць на іх, па сутнасьці пашыраць крызіс сваімі дзеяньнямі.

## Ці можа апазыцыя прыняць правілы гульні ўлады?

**Дракахруст:** Вацлаў, Вы прапанавалі пэўны сцэнар, але Вы самі прызнаяце, што крызісу, прынамсі глыбокага, які ставіць сыстэму на мяжу існаваньня, няма.

Зыходзячы з гэтай канстатацыі, былі і зусім іншыя прапановы. Ужо прыгаданая Вольга Абрамава казала пра варыянт ператварэньня цяперашняй апазыцыі ў апазыцыю ляяльную, цытуючы рускага кадэта Мілюкова: *«Мы — не оппозиция Его Величеству, а оппозиция Его Величества».*

Можа, у гэтым ёсьць пэўная рацыя? Калі ўладу, як мяркуе спадар Сіліцкі, скінуць немагчыма, то, можа, ня варта і ставіць перад сабой такія мэты і дэклараваць такія намеры?

**Арэшка:** Я думаю, што сыход апазыцыі ў чыстае дысыдэнцтва толькі на руку рэжыму, ён створыць сваю апазыцыю з той жа Абрамавай, знойдуцца і іншыя асобы, якія будуць выконваць ролю касмэтычнай апазыцыі і вельмі няблага.

Мне здаецца, што мы, наадварот, павінныя перайсьці да стадыі больш рашучых і актыўных дзеяньняў ня толькі з боку палітычнай апазыцыі, а ўсяго грамадзтва. І тут абсалютна мае рацыю спадар Уладзімер, калі кажа, што трэба кансалідоўваць апазыцыйнае грамадзтва.

Мне здаецца, што зараз пачынаецца пэрыяд, калі сапраўды варта перайсьці ў масіраваны наступ на рэжым на розных франтах.

**Мацкевіч:** Што тычыцца супярэчнасьцяў у паноўнай эліце — яны ёсьць, больш за тое, на іх трымаецца разьвіцьцё. Калі б не было супярэчнасьцяў у атачэньні Лукашэнкі, то яны б і не разьвіваліся, не было б канкурэнцыі розных прапановаў, крокаў, яны б хутка сталі для нас грушай для біцьця.

Што тычыцца самой апазыцыі, я не магу пагадзіцца са словамі Сіўчыка, якія ўзгадаў Віталь. Ня трэба рыхтавацца да новай Плошчы. Ці не, дакладней, так: трэба рыхтавацца, але ня гэта галоўнае.

Мы ўжо паказалі ў сакавіку, што Майдан, імправізаваны Майдан адбываецца без усялякай падрыхтоўкі. Беларусаў можна выклікаць на такія мірныя, негвалтоўныя мэтады супраціву, але гэтага недастаткова.

А хто заменіць? На сёньняшні дзень грамадзтва, аналітыкі, самі палітыкі ня бачаць альтэрнатывы. У апазыцыі няма грунтоўных напрацовак, у нас павярхоўныя погляды на эканоміку — лібэртарыянскія, даўно забытыя ва ўсёй Эўропе заклікі Раманчука ці нейкія састарэлыя ўяўленьні пра палітычны працэс часоў перабудовы.



Папулярнасьцю сярод апазыцыі карыстаюцца павярхоўныя погляды, а ўсё, што больш зьмястоўнае, адкідаецца: маўляў, гэта не для народу. А мы і ня кажам, што гэта сёньня для народу. Давайце паглядзім на ўласную падрыхтоўку. Нам усім трэба вучыцца. Мы будзем сядзець, чакаць крызісу ўлады, але калі нават ён наступіць, а ў нас ня будзе альтэрнатывы, то нічога ня будзе.

Адначасна зьмяніць уладу можа толькі сыстэмная, інстытуцыянальная апазыцыя, якая сядзіць у парлямэнце. Калі гэтага няма, калі мы выціснутыя ў маргіналы, то нам патрэбныя перамовы.

І ў гэтым сэнсе я ня думаю, што Абрамава мае рацыю. Яна па-канфармісцку і прымірэнча падыходзіць да гэтага. Але калі ў тым, што яна гаворыць, ёсьць пэўная рацыя, то толькі тое, што з гэтай уладай нам давядзецца ўступаць у перамовы, бо яна мае сілу.

Але каб улада пагадзілася на перамовы, мы павінныя прадэманстраваць уласную моц і мець нарыхтоўкі.

**Дракахруст:** Віталь, Вы пішаце, што крызісу ўлады няма, што сіламі апазыцыі зьмяніць сыстэму немагчыма, а пасьля гэтага робіце выснову: трэба дзейнічаць. Гэта мне нагадвае лёзунг ідэоляга парыскай вясны 1968 году Гэрбэрта Маркузэ: *«Будзьце рэалістамі, патрабуйце немагчымага».*

Калі Вы канстатуеце, што зьмены немагчымыя, то, можа, сапраўды маюць рацыю тыя, хто гаворыць пра зьніжэньне напружанасьці супрацьстаяньня, пра

ляялізацыю апазыцыі, упісваньне яе ў тыя правілы гульні, якія ёсьць?

**Сіліцкі:** Я бачу ў гэтым пэўную пастку для нас. Ёсьць такая спакуса. Не ў мяне, не ў спадара Мацкевіча, але ў пэўных людзей, каляпалітычных. Хаця гэты закон паралельнага грамадзтва («уваход — рубель, выхад — два») стварае бар'ер: а ці возьмуць іх у гэтую ляяльную апазыцыю, калі яны захочуць? Я ня буду прыгадваць палітычнай біяграфіі спадарыні Абрамавай, але...

**Дракахруст:** Віталь, справа не ў спадарыні Абрамавай. Вы разумееце, што, канстатуючы бездапаможнасьць, бясплённасьць высілкаў цяперашняй традыцыйнай апазыцыі, Вы падмацоўваеце той варыянт, пра які гаворыць Абрамава, незалежна ад Вашага стаўленьня да яе асабіста. Вы гэта разумееце?

**Сіліцкі:** На Вашае пытаньне ўжо адказалі мае суразмоўцы, што менавіта праца, не зважаючы і не чакаючы хуткага палітычнага выніку, цяпер патрэбная.

Я тут з Вамі, спадар Дракахруст, фундамэнтальна не пагаджуся. Такое адлюстраваньне рэчаіснасьці — канстатацыя, што нашых дзеяньняў сёньня недастаткова.

Мы мусім аб гэтым задумвацца: штó рабіць далей? — а ня соваць галаву ў пясок, як той страўс, і крычаць, што на гарызонце нейкі крызіс улады. Тады мы дакладна нічога ня зробім, будзем самі сябе падманваць.



# Год пасьля Плошчы

Беларуская Плошча 2006 году: што гэта было? Ці маглі падзеі на Плошчы пайсьці інакш? Як выглядаюць гэтыя падзеі ў параўнаньні з «каляровымі» рэвалюцыямі ў Сэрбіі, Грузіі і ва Ўкраіне? Якія наступствы беларускай Плошчы?

**22 сакавіка 2007**

Удзельнікі: Вадзім Дубноў, Аляксандар Мілінкевіч, Вячаслаў Сіўчык

## Ці прызнала грамадзтва перамогу Лукашэнкі?

**Дракахруст:** Год таму ў Беларусі прайшлі прэзыдэнцкія выбары. Ужо тут нехта мог бы мне запярэчыць, сказаўшы, што насамрэч ніякіх выбараў летась не было. Аднак вось палітоляг Віталь Сіліцкі, зусім не прыхільнік цяперашняй улады, яшчэ мінулым летам пісаў: *«Грамадзтва аб'ектыўна прызнала перамогу Лукашэнкі ў 2006 годзе».* Аляксандар Мілінкевіч, ці пагаджаецеся Вы з гэтай тэзай цяпер, праз год пасьля 19 сакавіка 2006 году?

**Мілінкевіч:** Паводле зьвестак незалежных сацыёлягаў, за Лукашэнку на мінулагодніх выбарах прагаласавала каля 50% выбарнікаў. Экспэрты кажуць, што ў апошнія гады Лукашэнка ацэньваецца значнай колькасьцю выбарнікаў галоўным чынам на падставе дынамікі сацыяльна-эканамічнай сытуацыі, а не паводле выбараў. Нібыта ёсьць праца, заробак — і гэта ўжо рацыянальны выбар.

Ва ўмовах інфармацыйнага вакууму і цэйтноту, якія стварыў Лукашэнка пераносам прэзыдэнцкіх выбараў, мы не пасьпелі выйсьці на большасьць грамадзтва. Большасьць грамадзтва ня ведае пра цану гэтай стабільнасьці, пра крытычны ўзровень зносу асноўных вытворчых фондаў.

Тое, што на мадэрнізацыю эканомікі не хапае грошай, што ў нас адзін з самых горшых інвэстыцыйных кліматаў у Эўропе, таксама ня ўсе ведаюць. Нафтагазавы канфлікт выявіў, што эканоміка зусім не падрыхтаваная да працы ва ўмовах усясьветных коштаў на газ і нафту. Беларусь ператвараецца ў прыдатак сыравіннай эканомікі Расеі, дабрабыт заснаваны галоўным чынам на магчымасьці экспартаваць нафтапрадукты, на танным газе.

Насамрэч мадэль разьвіцьця краіны, прапанаваная Лукашэнкам, — тупіковая, пачуцьцё дабрабыту і стабільнасьці — павярхоўнае, заснаванае на адсутнасьці інфармацыі. Але для зьмены сытуацыі ў краіне недастаткова ведаў выбарнікаў і іх інфармаванасьці, важна, каб людзі бачылі альтэрнатыву Лукашэнку.

Ад сапраўды аб'яднанай, эфэктыўнай апазыцыі людзі павінныя мець адказ на пытаньне: «Хто, калі ня ён?» Яны чакаюць адказу. Людзі павінныя бачыць у апазыцыі кансалідаваную сілу, якая мае адзіную ідэйную плятформу, мае адказы на важныя пытаньні выбарнікаў. Дабрабыт, незалежнасьць, дэмакратыя, эўрапейская краіна — усё гэта застаецца для людзей надзвычай важным.

**Дракахруст:** Аляксандар, Вы ў адказ на маё пытаньне выклалі свой палітычны сымбаль веры. Астатніх я папрашу адказаць. Вячаслаў, ці пагаджаецеся Вы з тэзай, якую летась сфармуляваў Віталь Сіліцкі — што «грамадзтва аб'ектыўна прызнала перамогу Лукашэнкі»? Не абавязкова на выбарах, але прызнала перамогу. Вы пагаджаецеся?

**Сіўчык:** Не, я тут не пагаджуся. Па-першае, адразу было ясна, што ніхто ў гэтай краіне не зьбіраецца праводзіць у 2006 годзе прэзыдэнцкіх выбараў, не для гэтага Лукашэнка браў уладу. Але ў чым Віталь



ня мае рацыі? Пасьля таго, як быў адкрыты супраціў на Плошчы ў Менску, казаць, што беларускае грамадзтва пагадзілася з тым, што Лукашэнка — прэзыдэнт, не выпадае. Пратэсты былі масавымі.

Іншая рэч, што пасьля рэпрэсіяў беларускае грамадзтва ў пэўнай ступені зьмірылася з гэтым рэжымам. Але ж яно зьмірылася толькі да наступнага «часу Ч», калі ў людзей узьнікне магчымасьць выйсьці на Плошчу. Я думаю, што гэты час не за гарамі. Натуральна, што гэта будзе ня заўтра, але цалкам магчыма, што такія падзеі ў Беларусі адбудуцца сёлета.

**Дракахруст:** Пра Плошчу мы яшчэ пагаворым, а цяпер у мяне пытаньне да Вадзіма Дубнова. Вадзім, Вы былі і на Плошчы ў Менску ў 2006 годзе, і на кіеўскім Майдане ў 2004 годзе, і каля Белага дому ў Маскве ў жніўні 1991-га. Вы можаце параўноўваць. Вы згаджаецеся з тэзай, што «беларускае грамадзтва аб'ектыўна прызнала перамогу Лукашэнкі»?

**Дубноў:** Я, відаць, пагаджуся, але я б крыху ўдакладніў, бо гэтая фраза не зусім вычарпальная. Я б сказаў, што беларускае грамадзтва прызнала Лукашэнку прэзыдэнтам. Гэта не зусім тое самае. Пра перамогу Лукашэнкі размовы няма, бо ён не зьяўляецца пераможцам выбараў. Лукашэнка зьяўляецца адзіным магчымым лідэрам дзяржавы, з чым грамадзтва вымушанае было пагадзіцца. Не зьмірыцца. Яно згоднае з тым, што Лукашэнка зьяўляецца прэзыдэнтам. Калі нешта і прызналі яшчэ раз, дык тое, што фігураў, сувымерных Лукашэнку, не было, няма, і ў найбліжэйшы час, відавочна, не чакаецца.

## Плошча: што гэта было?

**Дракахруст:** Часам сэнс той ці іншай падзеі, зьявы можна вызначыць толькі праз пэўны час, па яе выніках. Прайшоў год пасьля падзеяў 19—25 сакавіка ў Менску, год пасьля Плошчы. Вячаслаў, сёньня як бы Вы адказалі на пытаньне: «Што гэта было?»

**Сіўчык**: Я б сказаў, што былі розныя падзеі. Былі падзеі 19 сакавіка. У ноч з 19-га на 20-га я адчуваў сябе вельмі кепска, бо нічога, акрамя мужнасьці людзей, якія масава выйшлі на цэнтральную плошчу Менску, 19 сакавіка не было. У прынцыпе, тое, што не ўдалося нічога зрабіць у той дзень, — гэта нацыянальная ганьба.

Асобна ад гэтага — падзеі 20—24 сакавіка, калі была Плошча Каліноўскага*, абарона намётавага мястэчка ў самым цэнтры сталіцы. Гэта зусім іншыя падзеі. І 19, і 25 сакавіка рэй вяла аб'яднаная апазыцыя, яе лідэры, а падзеі намётавага мястэчка — гэта рэальны беларускі нацыянальна-вызвольны чын з апорай на беларускі народ, які ўжо ўвайшоў у гісторыю.

Калі ацэньваць менавіта Плошчу Каліноўскага, гэта досыць фантастычная зьява пры тым рэжыме, які ёсьць у Беларусі. Людзі нашы зрабілі больш, чым было магчыма. Я думаў гэтак і калі стаяў на Плошчы, і гэтак жа думаю цяпер, праз год.

Натуральна, што за Плошчу давялося заплаціць досыць сур'ёзна. Я неаднойчы ўжо агучваў лічбы, на жаль, яны рэдка паўтараюцца: пакуль мы стаялі на Плошчы, былі арыштаваныя 1200 нашых грамадзянаў, прычым як тых людзей, што абаранялі Плошчу, гэтак і тых, хто хацеў падтрымаць абаронцаў намётавага мястэчка ці проста апынуўся ў раёне Плошчы Каліноўскага.

Я цудоўна разумею, праз што прайшлі гэтыя людзі. Але іншага выйсьця ў той сытуацыі не было. Нам нельга было дапусьціць паўтарэньня 2001 году, бо ўсё да гэтага ішло. Прычым, ішло ў значна горшым варыянце, чым у 2001 годзе, бо тады ніхто ня ведаў, штó будзе. У 2006 годзе разумелі ўсе, спадзяваліся на цуд — цуду не магло быць, таму трэба было рабіць. І Плошча паўстала, яна ўжо ўвайшла ў гісторыю Беларусі.

**Дракахруст:** Аляксандар, цяжар лідэра, апроч іншага, і ў тым, што даводзіцца адказваць на крытыку. Вадзім мяркуе, што беларускі народ ня бачыў і ня бачыць пэрсанальнай альтэрнатывы Лукашэнку. Паводле Вячаслава, дзейнасьць апазыцыі 19 сакавіка на Плошчы — гэта нацыянальная ганьба. Вам слова для адказу.

**Мілінкевіч:** Я ня думаю, што сёньня ў грамадстве не назавуць альтэрнатывы Лукашэнку. Я ўпэўнены, што многія называюць. І гэта — вялікія зьмены ў грамадзтве, бо людзі ведаюць, што ёсьць сіла. Калі яна аб'яднаная, то моцная. Яна вылучыла альтэрнатыву, і нават можна казаць аб пэрсаніфікаванай кандыдатуры.

Калі мы ацэньваем тое, што адбылося на Плошчы, то гэта сапраўды велізарная падзея ў сучаснай гісторыі Беларусі. Мяркую, што гэта невыпадковая Плошча. Каб яна зьявілася, працавалі тысячы людзей на працягу многіх месяцаў па ўсёй краіне — былі сходы, мітынгі, пікеты. У грамадзтве ўзьнікла

* Падчас падзеяў на Кастрычніцкай плошчы ў Менску 19—25 сакавіка ўдзельнікі акцыі ўхвалілі ініцыятыву пісьменьніка Ўладзімера Арлова перайменаваць пляц у Плошчу Каліноўскага. Кастусь Каліноўскі — лідэр паўстаньня супраць расейскага панаваньня 1863—1864 гадоў, пакараны сьмерцю 22 сакавіка 1864 году.

пачуцьцё, што нешта можа адбыцца, а за перамены — вялікая колькасьць людзей. І Плошча была Плошчай надзеі, Плошчай веры, Плошчай мужнасьці.

Зразумела, вынікі маглі быць іншымі. Рэпрэсіі, той інфармацыйны бруд, што ішоў з боку ўладаў, адыгралі сваю ролю. Я згодны, што аб'яднанай апазыцыі не хапіла еднасьці, не хапіла добрага сцэнара, можа, і палітычнага досьведу таксама. Я згаджаюся з гэтым.

У сакавіцкіх падзеях галоўны рэй вялі не арганізаваныя групы ў складзе апазыцыі, а перш за ўсё моладзь, новая генэрацыя грамадзянаў. Гэта — годныя людзі, якія сапраўды хочуць пераменаў і гатовыя актыўна дзейнічаць дзеля іх. Да сёньняшняга дня працягваецца дыскусія, ці трэба было разыходзіцца ў першы дзень, ці трэба было стаяць зь першага дня, ці трэба было ісьці браць штурмам нейкія адміністрацыйныя будынкі.

Спрэчнае пытаньне. Я шчыра скажу, што́ я думаў у той момант. Я мяркую, што, на жаль, перамагае толькі вялікая колькасьць людзей. Нас было вельмі многа, часта нечакана многа, але замала, каб улада надламалася. І павесьці людзей на штурм — я лічыў, што гэта можа прывесьці да крыві і да сьмерцяў. Хаця ў змаганьні за свабоду людзі аддаюць і жыцьці. Але палітык мае вялікую адказнасьць, калі пасылае людзей на змаганьне з рызыкай сьмерці.

**Дракахруст:** Аляксандар, давайце зададзім такую гіпатэтычную сытуацыю. Вось сёньня Вас, з усімі Вашымі ведамі таго, што было потым, нейкая машына часу пераносіць на год назад, у вечар 19 сакавіка 2006 году. Што б Вы рабілі інакш?

**Мілінкевіч:** Я думаю, што я не павінен быў абвесьціць 19 сакавіка, што заўтра зьбіраемся ізноў. Трэба было заставацца. Я ўлічваў досьвед іншых краінаў, перш за ўсё Украіны. Там пачыналася з малой групы, а калі людзі ўбачылі, што няма жорсткіх рэпрэсіяў, яны далучаліся. 20 сакавіка прыйшло менш, у нас гэта не спрацавала. Намёты ня ставілі ў першы дзень, бо не было ініцыятыўных групаў. Калі на наступны дзень такія групы зьявіліся, я іх падтрымаў і абвесьціў аб гэтым.



Напэўна, можна было мець іншы сцэнар, і я не выключаю, што мы рабілі памылкі. Безумоўна.

**Сіўчык:** Я тут пагаджуся са спадаром Алесем. Я мяркую, што сапраўды, зь сёньняшняга досьведу і спадар Мілінкевіч, і іншыя людзі (хаця тут у мяне больш сумневаў) паводзілі б сябе 19 сакавіка 2006 году інакш.

Тут Украіна ні пры чым, я там таксама знаходзіўся. У нас не было і не магло быць кандыдата тыпу Віктара Юшчанкі, які ішоў на перамогу. Таму ў нас мусілі быць кандыдаты, якія штосьці робяць, мусіла быць канчатковая мэта ўдзелу ў гэтых прэзыдэнцкіх псэўдавыбарах.

Наколькі я разумею, спадар Мілінкевіч для сябе сфармуляваў мэту так: праца на будучыню, выкарыстоўваючы гэтыя псэўдавыбары. Іншае мэты я ня бачыў. І як вынік — нават тэхналягічна ніхто не падумаў, ні ў штабе, ні сярод кандыдатаў, што яны канкрэтна будуць рабіць. Бо колькасьць людзей на Плошчы насамрэч нічога не вызначае, гэта памылка. Вызначае менавіта адказнасьць лідэраў і жаданьне нешта зрабіць. Калі такое жаданьне ёсьць — нейкія падзеі адбываюцца, што і засьведчыў Менск у сакавіку.

**Дракахруст:** Вадзім, тут ужо пачалася беларуская спрэчка. Але я ў гэтую спрэчку запрашаю і Вас. Вам тое ж пытаньне: «Што гэта было?» І яшчэ адно, якое вынікае са спрэчкі Аляксандра і Вячаслава: «Штосьці тады магло быць інакш?»

**Дубноў:** Я б дазволіў сабе заўважыць лірычна — гэта быў гімн асуджаным надзеям. Я б падзяліў на этапы вечар 19 сакавіка. Адна рэч — першыя гадзіны пасьля абвешчаньня вынікаў, калі сапраўды Плошча была поўная народу, — гэта было вельмі моцным відовішчам і магло пасяліць нейкія ілюзіі наконт пэрспэктываў. Але даволі хутка высьветлілася, што Менск сапраўды з Кіевам параўноўваць ня варта. Было адно прынцыповае адрозьненьне: у Кіеве людзі выходзілі перамагаць, у Менску людзі выходзілі пратэставаць. Яны ня надта верылі ў тое, што могуць чагосьці дамагчыся, і гэта было бачна.

Я згодны, была выдатная моладзь. Я тады пісаў, што калі б у Маскве атрымалася сабраць такую Плошчу такой моладзі, ужо можна было б на нешта спадзявацца.

Усё было добра, кепска было адно: людзі сапраўды выходзілі толькі пратэставаць, яны разумелі, што нічога не дамогуцца, асуджанасьць была бачная ў іх вачох, і я абсалютна згодны са спадаром Мілінкевічам — нельга было гэтых людзей весьці на нейкі там штурм. Бо Лукашэнка не спыніўся б ні перад якім пабоішчам.

Таму я думаю, што па-іншаму быць і не магло, тут ёсьць пэўныя аб’ектыўныя прычыны. Тое, што адбылося ў Кіеве, атрымала праекцыю на ўсю Ўкраіну, краіна раскалолася, гэта стала падзеяй нумар адзін, і ні пра што іншае гаварыць не даводзілася. Гэта быў сапраўды крызіс улады.

19 сакавіка ў Беларусі, тым больш 20—21 сакавіка крызісам ужо не былі. Крызісам Лукашэнку маглі западацца першыя гадзіны пасьля выбараў. Але народ хутка пачаў разыходзіцца, і зразумела чаму. Інакш быць не магло, бо аб’ектыўна сытуацыя разьвівалася не па-ўкраінску, не па-сэрбску і не па-грузінску.



Мае рацыю спадар Сіўчык, калі сьцьвярджае, што ў Беларусі не было фігуры тыпу Юшчанкі. Мы кажам не пра канкрэтнага Юшчанку, а пра тыпаж. Такая фігура можа вырасьці толькі зь нетраў улады. Пры ўсёй павазе да спадара Мілінкевіча, час Гаўлаў і Валэнсаў, на жаль, у нашых шыротах мінуў. Любога вулічнага трыбуна гэтая намэнклятурная машына імгненна сьцірае ў пыл з усімі рэйтынгавымі наступствамі.

Таму для грамадзтва не існуе апазыцыйных фігураў рамантычнага кшталту. Плошча можа згуртавацца толькі вакол фігуры, сувымернай афіцыйнаму кіраўніку.

**Сіўчык:** Гэта вельмі спрэчна. Прайшоў час Гаўла і Валэнсы ці не — пакажа будучыня. Мы тут казалі пра Ўкраіну, мне ў 1996 годзе давялося пасьля «Чарнобыльскага шляху» адбываць тэрмін разам з прадстаўнікамі Ўкраінскай нацыянальнай асамблеі — Украінскай народнай самаабароны (УНА-УНСО), дык яны казалі мне: «Вы, беларусы, добрыя людзі, але надта талерантныя і ціхія. Вы выводзіце ў Менску на вуліцу 70 тысячаў і ня можаце ўзяць улады. Калі б у нас у Кіеве столькі людзей выйшла, мы б за 5 хвілінаў разабраліся з гэтай уладай». Што было падчас «аранжавай» рэвалюцыі, вы ведаеце.

Вы не забывайце, што ў змаганьні любога народу ёсьць этапы. І тое, што адбылося ў Менску ў сакавіку 2006-га, на мой погляд, — падзеі лепшыя, чым тое, што было напярэдадні рэвалюцыяў у іншых краінах. Прыгадайце Ўкраіну, акцыю «Ўкраіна бяз Кучмы». Там 18 чалавек села на вельмі сур’ёзныя тэрміны, яны дагэтуль не рэабілітаваныя, частка захварэла на сухоты. Тут удалося дамагчыся, каб нават крымінальнай справы па самой Плошчы не было.

Гэта невыпадкова. Гэта паказьнік таго, што беларусы былі вымушаныя зьмірыцца з тым, што ў краі-

не ёсьць дыктатар. Але ж яны не пагадзіліся з тым, што ён перамог. Доказам гэтага зьяўляецца вельмі простая рэч. Сярод моладзі і прадпрымальнікаў на некалькі парадкаў больш людзей, якія сьцьвярджаюць, што былі на Плошчы Каліноўскага, чым што іх там не было.

**Дракахруст:** Гэта як ленінскае бервяно, якое разам з Ільлічом на суботніку паўкраіны цягнула.

**Сіўчык:** Абсалютна. Я дакладна ведаю, бо неаднойчы даводзілася гаварыць. І я вельмі ўдзячны, што так адбываецца. Гэта добра насамрэч, калі ўдумацца.

## Пралёг, рэпэтыцыя ці выпадковасьць?

**Дракахруст:** Аляксандар, у сэрбскай 2000-га і ўкраінскай 2004-га «каляровых» рэвалюцыяў былі, так бы мовіць, генэральныя рэпэтыцыі — у Сэрбіі шматлікія пратэсты ў 1997 годзе супраць фальсыфікацыі вынікаў мясцовых выбараў, ва Ўкраіне ў 2000 годзе кампанія «Ўкраіна бяз Кучмы». Можа, і беларуская Плошча была такой рэпэтыцыяй?

**Мілінкевіч:** Я ня ведаю, ці была Плошча генэральнай рэпэтыцыяй ці вельмі важным этапам — напэўна, і адно і другое. У беларускім грамадзтве адбываюцца вялікія зьмены. Сацыяльная база рэжыму звужаецца. Колькі б грошай яны ні ўкладалі ў сілавыя структуры, зьяўляюцца ўсё новыя і новыя пагрозы рэжыму з боку грамадзтва, якое самаарганізуецца. Пакуль у Лукашэнкі хапае рэсурсаў ісьці супраць плыні, але ўсё яшчэ наперадзе.

Тое, што адбылося на Плошчы, сапраўды дадало грамадзтву пачуцьця годнасьці, самапавагі. Я ежджу цяпер па краіне і адчуваю гэта. І сапраўды, нават тыя людзі, якія не былі на Плошчы па розных прычынах, кажуць: «Мы паказалі, што мы народ, што мы хочам волі, што мы хочам жыць цывілізавана, што мы за эўрапейскі выбар». Гэта дадало грамадзтву маральных сілаў, і ў гэтым вялікае значэньне таго, што адбылося.



**Дракахруст:** Аляксандар, мне здаецца, што Вадзім адзначыў цікавы псыхалягічны момант: паводле яго, у Кіеве людзі ішлі абараняць перамогу, а ў Менску — толькі пратэставаць. Афіцыйным вынікам ня верылі ані Вы, ані тыя, хто прыйшоў на Плошчу, поўнамаштабнага незалежнага назіраньня не было, зьвесткі сацыялягічных апытаньняў — рэч спрэчная і няпэўная. Такім чынам, з Вашага гледзішча, сапраўдныя вынікі выбараў былі проста «чорнай скрыняй». Дык чаму б тады было Вам і не сказаць: «Я перамог, давайце абараняць маю перамогу?»

**Мілінкевіч:** Я шчыра Вам скажу — я ведаў, што мы ня выйгралі. Нават разам з Казуліным мы набралі, магчыма, трэцюю частку галасоў. Я вельмі сумняваўся, ці выйграў Лукашэнка. Сацыялягічныя дасьледаваньні паказваюць, што хутчэй за ўсё не — мусіў быць другі тур.

Псыхалягічна гэта вельмі важна. Калі ты адчуваеш, што перамогу ў цябе скралі — гэта адна сытуацыя, а калі ты адчуваеш, што цябе проста абразілі гэтымі ганебнымі лічбамі, фальсыфікацыяй, перасьледам людзей — гэта іншае. І таму сытуацыя на Плошчы ў нас была, безумоўна, не такой, як у Сэрбіі ці ва Ўкраіне.

**Сіўчык:** Я хацеў бы сказаць, чаму была Плошча Каліноўскага. Калі былі падзеі 2004 году, пасьля рэфэрэндуму, я ўжо тады са зьдзіўленьнем пабачыў, што выйшлі на Плошчу не актывісты палітычных партыяў, не актывісты незарэгістраваных палітыч-

ных арганізацыяў: 95% тых, хто быў тады на Плошчы, — гэта былі проста грамадзяне. І таму яны паводзілі сябе ня так, як апазыцыя, якая ня раз сутыкалася з рэальнымі рэпрэсіямі, яны не баяліся міліцыі. Вось чаму там было шмат новых людзей.

Магчыма, Вадзім мае рацыю, калі ён разьбіў 19 сакавіка па гадзінах. Плошча дастаткова доўга чакала кандыдатаў на прэзыдэнта.

Але асноўнае, чаму адбылася Плошча Каліноўскага: у Беларусі толькі лянівы ня ведае, як у нас праводзяцца выбары. І нягледзячы на запалохваньні ўсіх сілавых структураў людзі не зьмірыліся і выйшлі. І ніякіх тэрмомэтраў, хто колькі атрымаў галасоў, у такой сытуацыі быць ня можа, бо гэта палітычная кампанія. Між іншага, колькі галасоў атрымаў Аляксандар Лукашэнка, ён і сам нават ня ведае.

**Дракахруст:** Вадзім, Вячаслаў адстойвае вэрсію, паводле якой выбараў у Беларусі не было, і ўсе гэта ведалі. Тады ўзьнікае пытаньне, чаму выйшлі менавіта 19 сакавіка, а не за месяц да таго, не праз тры пасьля, чаму не цяпер? Сытуацыя выбараў тут усё ж адыгрывала сваю ролю?

**Дубноў:** Зразумела, з гледзішча нармальнай дэмакратыі, ніякіх выбараў не было, гэта і абмяркоўваць ня варта. Але самы факт выбараў — гэта традыцыйны момант мабілізацыі і ўлады, і апазыцыі, і масаў. І тут быў яшчэ адзін важны момант — Кіеў. Дух Кіева лунаў над Плошчай у Менску. Усе алюзіі былі кіеўскія, і кіеўскія хлопцы прыяжджалі дзяліцца досьведам. І гэта вельмі важна.

Вяртаючыся да папярэдняга пытаньня: я б не параўноўваў сэрбскай і ўкраінскай сытуацыі. Баюся, што нічога былі б ня вартыя «рэпэтыцыі» сэрбскай апазыцыі 1997 году, калі б не было вайны Мілошавіча з НАТО, і скажам наўпрост: Мілошавіч гэтую



вайну прайграў. А апазыцыя даволі пасьпяхова такую сытуацыю выкарыстала.

А Кіеў, яшчэ раз паўтаруся, быў унутрыэлітным супрацьстаяньнем. Украінская апазыцыя была часткай намэнклятуры, і менавіта ў такой форме адбываюцца «аранжавыя» рэвалюцыі. На жаль, гэта факт. У Беларусі ніякіх перадумоваў для «аранжавай» рэвалюцыі паводле гэтага сцэнара, грузінскага ці ўкраінскага, на жаль, не было і, баюся, яшчэ даволі доўга ня будзе.

**Сіўчык:** Рэч у тым, што любыя прэзыдэнцкія выбары ў Беларусі — гэта «дзень Ч». Палітычнай кампаніяй пад назовам «выбары» ўлада падымае ўвесь беларускі народ. Усе ведаюць, і тыя ж сілавыя структуры, што гэта абсалютна незаконна. Узьнікае пэўны момант разгубленасьці, узьнікае незалежна ад таго, якія лічбы, дзе большасьць, колькі хто набраў.

І натуральна, што людзі пачынаюць шукаць гэтыя лічбы, якіх рэальна няма. І тая ж міліцыя ўвесь час пытала: «А колькі Мілінкевіч атрымаў галасоў? А колькі Лукашэнка?» Але ў сувязі з тым, што не было дзе браць сапраўдных лічбаў, гэта ўжо было маніпуляваньнем сьвядомасьцю народу ці яго часткі. Таму сам дзень выбараў 19 сакавіка быў ключавым. У іншыя дні да беларускага народу проста не дагрукацца.

## Ці магчыма захаваць дух Плошчы?

**Дракахруст:** Аляксандар, пасьля Плошчы шмат палітыкаў, у тым ліку і Вы, казалі пра неабходнасьць захаваць дух Плошчы, неяк арганізаваць тых новых людзей, якіх яна выявіла. Але так выглядае, што гэтага не атрымалася ані ў Беларусі, ані ва Ўкраіне, ані ў Сэрбіі. Ва Ўкраіне ня ўзьнікла нейкай партыі Май-

дану — хтосьці з тых, хто тады стаяў на Крашчаціку, пайшоў у «Нашу Ўкраіну», хтосьці ў Блёк Юліі Цімашэнкі, хтосьці вярнуўся ў прыватнае жыцьцё. Мне даводзілася чуць меркаваньні, што падзеі такога кшталту, як Плошча, Майдан ці расейскі Белы дом у жніўні 1991 году — гэта Боская ласка, Боскі цуд, які нельга захаваць, як нельга спыніць імгненьне. Вы згаджаецеся?

**Мілінкевіч:** Я думаю, што ў сэрцы людзей, у іх духу засталося тое, што адбылося на Плошчы. На жаль, падзеі пасьля выбараў не дазволілі распаўсюдзіць дух Плошчы, дух супраціву, змаганьня за перамены на значную частку грамадзтва. Я мяркую, што мы вельмі кепска выкарысталі тых новых людзей, якія зьявіліся на Плошчы. Гэта не былі сябры грамадзкіх арганізацыяў ці партыяў — гэта былі новыя людзі.

За год пасьля выбараў грамадзтва атрымала сыгнал, што ў апазыцыі няма еднасьці, няма адзінага погляду на будучыню. Сёньня адбываецца перафармаваньне апазыцыі, гэта складаны працэс, і, на жаль, Палітычная рада, якой я кірую, не змагла ўзначаліць руху.

Мяркую, што без грамадзянскага грамадзкага руху немагчыма перамагчы. І мы ізноў трапілі ў сваё гета.

Я думаю, што мы паправім гэтую сытуацыю. Я цяпер ствараю рух «За Свабоду», я яго ствару, я ведаю, як гэта рабіць, але гэта будзе аб’яднаньне ня зьверху, не ад менскіх лідэраў (ім важна паміж сабой знайсьці паразуменьне), гэта будзе аб’яднаньне зьнізу, ад рэгіёнаў. Гэта робіцца, і я лічу, што тых людзей, што былі на Плошчы, мы ня маем права згубіць і ня згубім. Дух Плошчы захаваўся, і ня толькі ў тых, хто зьявіўся тады на Плошчы Каліноўскага.



**Дракахруст:** Вадзім, а як мяркуеце Вы, зыходзячы з досьведу ня толькі Беларусі, але й іншых краінаў: ці можна гэты парыў, гэты дух Плошчы захаваць у нейкіх арганізацыйных формах?

**Дубноў:** Не, я ня думаю. І досьвед паказвае, што і «Пара» ня стала сур’ёзнай сілай, нават ператварыўшыся ў партыю, і «Кмара» не засталася сілай. У гэтых сытуацыях Майдан, назавем яго так, адыгрывае другасную, інструмэнтальную ролю — гэта выключна тэхналёгія перамогі адной групы ўладнай эліты над другой. І на наступны дзень пасьля перамогі гэты інструмэнт робіцца непатрэбным, ён аджывае сябе, калі перамога дасягнутая.

У Беларусі крыху іншая сытуацыя, бо для захаваньня духу адзінай апазыцыі, духу Плошчы патрэбны ці посьпех, ці шанец на посьпех. А ў Беларусі яго няма.

Спадар Мілінкевіч здолеў стаць адзіным кандыдатам у даволі няпростым спаборніцтве са сваімі калегамі. Гэтыя калегі такую паразу нібыта чакалі і ёю скарысталіся. На жаль, у Беларусі такая сытуацыя бяз шанцу на посьпех паўтаралася і будзе паўтарацца. Ніводзін з адзіных кандыдатаў не захоўваецца пасьля паразы. Можна сказаць, што гэта памылка беларускай апазыцыі, але, на мой погляд, гэта аб’ектыўная зьява.

У той сытуацыі, калі апазыцыя толькі самасьцьвярджаецца, але ня мае шанцаў перамагчы, яна, відаць, асуджаная на такія спазмы ўнутры сябе.

**Сіўчык:** Плошча Каліноўскага дала дастаткова сур’ёзную хвалю ў беларускім грамадзтве. Я мяркую, што яна ўскалыхвала краіну недзе месяц. Шмат у якіх калектывах людзям было сорамна, што яны засталіся на свабодзе. Пры такім рэжыме, як у Беларусі, гэта наагул неймавернае адчуваньне людзей.

Але што адбылося потым? Тыя людзі, якія знайшлі ў сабе мужнасьць стаяць у абароне намётавага мястэчка, падзяліліся на 4 групы. Першая група ўвайшла ў афіцыйную апазыцыю, стала сябрамі розных партыяў, моладзевых арганізацыяў і дзейнічае па тых сцэнарах, як і дзейнічала 19 сакавіка. Другая, дастаткова значная, была выціснутая на эміграцыю. Трэцяя частка, прайшоўшы праз рэпрэсіі (а каму гэта падабаецца? — мы ж усе жывыя людзі), дала сабе зарок, што больш гэтага рабіць ня будзе. І толькі чацьвёртая частка спрабуе сапраўды захаваць дух Плошчы і дзейнічаць, абапіраючыся на беларускі народ.

Была сытуацыя, калі можна было захаваць усю Плошчу, але для гэтага патрэбныя былі іншыя захады. Палітычная апазыцыя вызначылася, што рабіць з Плошчай, днём 21 сакавіка, калі вырашыла, што намёты трэба ўбіраць. Адрозьненьні паміж тымі, хто стаяў на Плошчы, і апазыцыяй былі вельмі вялікімі. На Плошчы быў нацыянальны, народны чын, там апірышча было толькі на беларускую нацыянальную ідэю. Там была зусім іншая атмасфэра, чым на звычайных апазыцыйных мітынгах.

Ідэалёгія Плошчы палягала ў тым, што мы не выступалі супраць людзей, якія прагаласавалі за Аляксандра Лукашэнку, бо гэта частка беларускага народу. Мы не выступалі супраць беларускай міліцыі, бо гэта таксама частка беларускага народу. Мы спрабавалі навязваць кантакты зь міліцыяй — гэта адбывалася і на нефармальным узроўні, і ў выступах ад мікрафону.

Была дынаміка, людзей прыходзіла ўсё больш і больш, таму і быў аддадзены гэты дзікунскі загад разагнаць намётавае мястэчка.



## Лёс Плошчы і лёс Майдану: адрозьненьні і падабенства

**Дракахруст:** На першы погляд вынікі беларускай Плошчы і ўкраінскага Майдану былі супрацьлеглыя — Плошча прайграла, Майдан перамог. Але гледзячы на цяперашні ўкраінскі палітычны ляндшафт, неяк пра перамогу казаць складана. Зразумела, сытуацыя там не такая, як у Беларусі, але ж яна была не такой і да Майдану. Можа, гэта такая праява мяжы Гантынгтана, паводле якога Эўропа сканчаецца на Бугу?

**Дубноў:** Не, я не пагаджуся наконт Украіны. Я разумею, што перамога Януковіча і цяперашняя сытуацыя ва Ўкраіне можа падацца «бела-блакітным» рэваншам і паразай «аранжавых». Але тут пытаньне ў тым, штó называць рэвалюцыяй. Калі абмяжоўвацца ў разуменьні рэвалюцыі тагачаснай перамогай Юшчанкі, то пройгрыш відавочны.

Але рэвалюцыя — гэта ня толькі перамога адной групы над другой ці адной асобы над другой. Рэвалюцыя — гэта зьмена рэчаіснасьці. Мы маем ва Ўкраіне зусім іншую краіну. Мы маем там зусім іншага Януковіча. Гэта ня той Януковіч, які біўся на выбарах зь Юшчанкам. Гэта не Януковіч часоў «вэртыкалі ўлады», хай яна ва Ўкраіне і не дабудаваная так, як у Расеі ці ў Беларусі. Гэта Януковіч, які вымушаны вучыцца гуляць па правілах, які вымушаны гуляць у сытуацыі, калі няма ніякага мадэратара, які быў да прэзыдэнцкіх выбараў. Таму я мяркую, што ва Ўкраіне рэвалюцыя перамагла.

Па гэтых жа прычынах рэвалюцыя перамагла і ў Грузіі. Бо мы маем зусім іншую Грузію, хаця Саакашвілі з дэмакратычнага гледзішча шмат у чым можа прайграваць Шэварднадзэ. Гэтак жа, як мы маем зусім іншую Расею, чым тая, што была да 1991 году, што б ні казалі пра 19 жніўня.

**Сіўчык:** Я тут не пагаджуся. Рэч у тым, што ва Ўкраіне былі выкашаныя ўсе лідэры нацыянальна-вызвольнага руху. Таму, з аднаго боку, «аранжавая» рэвалюцыя — рэвалюцыя ўкраінскіх масаў, а з другога — там ужо не знайшлося іншых лідэраў, акрамя намэнклятурных.

Лідэры, якія вылучыліся падчас супрацьстаяньня на Майдане, вельмі доўга і дарма арыентаваліся на Юшчанку і ягоны штаб, хаця рабілі ўсё самі. У выніку ўсё прыйшло да таго, што ва Ўкраіне — абсалютна рэальная сытуацыя ўсталяваньня дыктатуры. Я ніколі не пагаджуся, што Януковіч за гэты год зьмяніўся. За ім стаяць пэўныя палітычныя групоўкі, за ім стаяць пэўныя стасункі з той жа Масквой, і гэта ёсьць небясьпекай для будучыні Ўкраіны. Будучыня Ўкраіны, як і будучыня Беларусі, будзе вызначацца наступнымі падзеямі.

Яшчэ я хацеў бы запярэчыць слову «рэпэтыцыя». У Беларусі такая сытуацыя, што тэатральныя тэрміны тут наагул не падыходзяць. І калі я крытыкаваў палітычную апазыцыю, я хачу дадаць, што той жа спадар Мілінкевіч спрабаваў, наколькі магчыма, з гэтай палітычнай апазыцыі падчас Плошчы сысьці. Бо там усё было няпроста і цяжка ня толькі зь сілавымі структурамі, але і з апазыцыяй. І гэта добры знак, таму я і сказаў, што Мілінкевіч зь сёньняшнім досьведам паводзіў бы сябе 19 сакавіка 2006 году зусім па-іншаму.

**Дракахруст:** Аляксандар, я папрасіў бы Вас пракамэнтаваць тэзу, якую Вадзім увесь час адстойвае — што «каляровыя» рэвалюцыі, нягледзячы на масы на вуліцах, былі намэнклятурнымі рэвалюцыямі. І яны былі ўдалымі толькі тады, калі былі намэнклятурнымі, калі суправаджаліся расколам уладнай эліты. А паколькі, як гаворыць Вадзім, у Беларусі



такога расколу няма, то і вынік той, які вы маеце. Вы пагаджаецеся з такім меркаваньнем?

**Мілінкевіч:** Я думаю, што ёсьць шмат рознага паміж тым, што адбывалася па-за Майданам і па-за Плошчай. Ва Ўкраіне сапраўды намэнклятура вельмі актыўна ўдзельнічала ў гэтай барацьбе. У нас намэнклятура стаяла толькі па адзін бок. У нас, каб прыйсьці на Плошчу Каліноўскага, трэба было перамагчы ня толькі апатыю, як на Майдане, але яшчэ і страх.

Безумоўна, кожная краіна мае свае асаблівасьці. Беларуская Плошча — гэта вялікі крок наперад, гэта дадае аптымізму, хаця, безумоўна, расчараваньне ў некаторых людзей ёсьць, ім хацелася хутчэйшай перамогі. Аднак настрой у грамадзтве значна лепшы, чым той, які мы адчуваем, калі едзем з таксістам па Кіеву і ён расказвае пра вынікі «аранжавай» рэвалюцыі.

А цяпер да таго пытаньня, ці Беларусь эўрапейская краіна, ці Эўропа сканчаецца на Бугу. Я думаю, што мяжа не праходзіць па Бугу. У Беларусі калі і ёсьць пэўнае адрозьненьне, то гэта мяжа 1939 году, хаця і яна больш сьцёртая і не такая яўная, як ва Ўкраіне. У нас у краіне няма такога расколу, як паміж левабярэжнай і правабярэжнай Украінай, у нас грамадзтва больш кансалідаванае, чым там, у палітычным, культурным, этнічным сэнсе. І гэта дадае шанцаў на будучыню. Наш шанец на трываласьць і посьпех дэмакратычных пераўтварэньняў менавіта ў гэтым.

Грамадзтва адчувае неабходнасьць пераменаў, большасьць за гэтыя перамены. Грамадзтва ня хоча жыць у страху, яно хоча эўрапейскага выбару. І гэта — падмурак для пасьпяховага руху ў Эўропу.

# У нас свая незалежнасьць, у вас — свая

Чаму ўлада жорстка супрацьдзейнічала сьвяткаваньню апазыцыяй гадавіны прыняцьця Дэкларацыі аб сувэрэнітэце? Чаму акцыя атрымалася такой малалюднай? Чаму ўлада па-ранейшаму адмаўляе ў праве на існаваньне любой альтэрнатыўнай вэрсіі незалежнасьці краіны?

**29 ліпеня 2007**

Удзельнікі: Аляксандар Фядута, Віталь Цыганкоў, Алесь Чобат

## Хапун: звыклая рэакцыя ў нязвыклых абставінах

**Дракахруст:** Напярэдадні сьвяткаваньня апазыцыяй 27 ліпеня ўлады паводзілі сябе ў звыклым стылі: забарона, масавыя затрыманьні, хапун. Гэтай канстатацыяй — усё як заўжды — можна было б і абмежавацца, калі б ня два чыньнікі.

Па-першае, адстаўка кіраўнікоў КДБ, якія, як ніхто зь іх папярэднікаў, перасьледавалі апазыцыянэраў і іншадумцаў, здаецца, была знакам таго, што ў сэнсе ціску будзе дадзеная хоць нейкая палёгка. Некаторыя экспэрты зьвярнулі ўвагу на словы Аляксандра Лукашэнкі, сказаныя новаму шэфу КДБ: «Вы павінныя служыць ня мне, а дзяржаве». Але традыцыя, як бачым, захоўваецца.

Па-другое, незалежніцкая рыторыка і сымболіка адыгрывае ўсё большую ролю ў дзяржаўнай прапагандзе і палітыцы. 27 ліпеня апазыцыя ня тое што не зьбіралася рабіць рэвалюцыю, яна меркавала адзначаць дату, якую прызнае легітымнай і цяперашняя ўлада, урэшце, за Дэклярацыю аб сувэрэнітэце галасаваў у 1990 годзе ў Вярхоўным Савеце БССР і дэпутат Лукашэнка. А ў адказ — забарона, хапун, арышты. Чаму?



**Фядута:** На мой погляд, улада добра памятае сакавік 2006 году і вельмі ня хоча, каб ён паўтарыўся. Бо калі сёньня моладзь паспрабуе зрабіць нешта кшталту намётавага мястэчка, гэта будзе вельмі важным знакам для ўсёй структуры ўлады Беларусі, знакам таго, што Лукашэнка не кантралюе сытуацыі. Менавіта таму адразу пасьля адставак кіраўнікоў КДБ і трэба было чакаць, што ўлада пачне «хапуны». Не зьбіцьцё — гэта ўжо не ўкладаецца ў новую сыстэму працы Лукашэнкі з грамадзкай думкай, у першую чаргу на Захадзе, — а менавіта «хапун».

І хапалі ня самых радыкальных, хапалі тых, хто можа павесьці за сабой моладзь.

**Дракахруст:** Віталь, чаму не спрацавалі на больш мяккую, больш лагодную лінію гэтыя два чыньнікі: кадравы «землятрус» у КДБ і фактар незалежнасьці, тое, што апазыцыя сьвяткавала дату, якую прызнае і ўлада?

**Цыганкоў:** Улада яшчэ раз даказала, што ніякія кадравыя ператрусы, ніякія кадравыя перамены не павінныя зьмяніць галоўнага — стратэгіі стаўленьня ўлады да незалежнага грамадзтва. І ўся рыторыка, і ўсе дзеяньні ўладаў мусяць дэманстраваць, што ў нас свая незалежнасьць, а ў вас — свая. У нас будзе незалежнасьць са скокамі, салютам і спартовым парадам, а вашая незалежнасьць хай застаецца за кратамі альбо, у найлепшым выпадку, у суправаджэньні спэцназу.

Цяпер шмат кажуць пра тое, што ўлада перахоплівае лёзунгі апазыцыі, і гэта пачалося ўжо даволі даўно, пасьля ідэалягічнага павароту да незалежнасьці. Але прырода сёньняшняй улады не дазваляе ёй дзяліць з кім-небудзь нешта прывабнае.

Калі Лукашэнка быў галоўным інтэгратарам, ён не дапускаў канкурэнтаў на гэтым палітычным полі,

ён імкнуўся не дапускаць іх ня толькі ў Беларусі, але нават за яе межамі. Цяпер, калі ён галоўны незалежнік, яму тым болей не патрэбныя канкурэнты.

Канкурэнты на гэтым ідэалягічным і палітычным полі павінны быць ідэалягічна зьнішчаныя — пакуль толькі ідэалягічна.

Паводле гэтай лёгікі, нават няважна, пад якімі лёзунгамі, зь якімі ціхімі, памяркоўнымі падыходамі выходзіць апазыцыя — яе ўсё роўна сустрэне спэцназ.

Уявім сабе, што апазыцыя арганізуе шэсьце зь лёзунгам «Мы любім Лукашэнку». Што будзе? Разгоняць у першую ж хвіліну, і нават асабліва жорстка за няшчырасьць і нахабства.

Ці ўявіце сабе, што ўзьнік бы нейкі самастойны рух у падтрымку Лукашэнкі, рух, не інсьпіраваны зьверху. Былі б праблемы, быў бы пярэпалах ва ўсіх уладных структурах — што з гэтым рабіць?

Так што ўлада не цярпіць канкурэнтаў і хоча заставацца адзінай у любым полі, якое яна выбірае.

**Дракахруст:** Алесь, а які Ваш адказ на пытаньне: «Чаму здарыўся звыклы “хапун”, якога ў новых умовах, здавалася б, магло і ня быць?»

**Чобат:** На мой просты розум, усталяваўся стары калгасны канвэер — транспартэр для гною. Ён робіць так, як ён робіць, на яго трапляе ўсё. Віктара Івашкевіча забралі каля Чырвонага касьцёлу. Значыць, няможна выходзіць на вуліцу. Забіралі тых, каго забіраць прызвычаіліся. Ведалі, дзе забіраць, ведалі, як забіраць.

І тое самае тычыцца пераменаў міністраў ці старшыняў КГБ СССР — вечнага, неадменнага і да т. п. Гэта той самы транспартэр для гною. Ня могуць інакш рабіць у той адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусі. Можа, часам і хочуць, але ня могуць.



## 27 ліпеня — нічыё сьвята?

**Дракахруст:** А цяпер я прапаную паглядзець на падзеі акцыі 27 ліпеня з боку апазыцыі. Мінулай буйной акцыі — 25 сакавіка — таксама папярэднічаў маштабны «хапун». І тым ня менш тады на вуліцы Менску выйшлі тысячы людзей. А зараз пасьля «хапуна» на вуліцу выйшла некалькі дзясяткаў. Чаму?

**Цыганкоў:** Прычыны, мне падаецца, празаічныя. Для большасьці тых беларусаў, якія здольныя выходзіць на вуліцу, у пэўны момант выказваць сваю грамадзкую пазыцыю, 25 сакавіка — гэта галоўная дата.

Акрамя таго, у грамадзтве, сярод палітычна актыўных людзей ёсьць прадчуваньне — што́ прынясе тая ці іншая акцыя. Перад такімі акцыямі, як 25 сакавіка, «Чарнобыльскі шлях», прэзыдэнцкія выбары, ёсьць прадчуваньне, што людзі могуць прыйсьці, нешта можа адбыцца. А тут з-за таго, што мерапрыемства не было дазволенае, што была заяўленая толькі сустрэча з дэпутатамі, а галоўны «ўдар» вырашылі нанесьці восеньню «Эўрапейскім маршам» — усё гэта прывяло да таго, што палітычна актыўныя людзі не ўспрымалі 27 ліпеня як дату вельмі важную і неабходную для выхаду на вуліцу. У градацыі гістарычных датаў 27 ліпеня не займае першага месца.

**Чобат:** Неяк Аляксандар Мілінкевіч публічна заявіў праз Радыё Свабода: *«Не прыйшло да мяне столькі людзей, колькі трэба. Вось калі б да мяне прыйшло 100 тысячаў, то...»* І не сказаў, што было б. Вы ведаеце, калі б да яго прыйшло 200 тысячаў, то не было б нічога. Ён таксама б пагаварыў і прапанаваў — разыходзьцеся па дамах.

Я гаварыў са старэйшымі за нас з вамі людзьмі, якія хадзілі на мітынгі, шэсьці. І яны сказалі: «А што

мы будзем хадзіць больш? Паслухаць яшчэ раз, дык мы ўсё гэта чулі».

Я б папрасіў цяпер маладых людзей, каб яны грунтоўна падумалі. І перш за ўсё паміж сабой, бяз гэтых партыяў, наладзілі нейкую салідарнасьць, найперш людзкую, не палітычную. Тады прыйдуць 100 тысячаў. А так прыходзіць 100 тысячаў па адным. А тады якая розьніца — 100 тысячаў прыйшло ці 20 чалавек? І што яны там будуць рабіць, на той Плошчы? Прыйдуць, і калі іх не забяруць, то пойдуць. А калі забяруць, то будуць сядзець.

**Дракахруст:** Дарэчы, 100 тысячаў таксама не магічная лічба. У 1997 годзе ў Югаславіі, калі Мілошавіч сфальсыфікаваў вынікі мясцовых выбараў, у Бялградзе некалькі тыдняў дэманстравалі 200 тысячаў чалавек, пераважна студэнты. Аднак тады рэжым Мілошавіча ўтрымаўся і абрынуўся толькі праз тры гады, калі на вуліцу выйшаў ужо мільён чалавек.

Але вернемся да нашага пытаньня пра колькасьць удзельнікаў акцыі 27 ліпеня. Чаму акцыя была такой маналікай? Так, перашкодзіў «хапун», але 25 сакавіка ён не перашкодзіў.

**Фядута:** Я цалкам пагаджуся з тым, што сказаў спадар Цыганкоў. У нас, на жаль, краіна, якая жыве пад двума сьцягамі і сьвяткуе розныя сьвяты. Тая апазыцыя, для якой 25 сакавіка — галоўнае сьвята, 27 ліпеня не сьвяткуе. Ніхто ня будзе сьвяткаваць 27 ліпеня і ў наступны год, і праз год, і праз два.



## Адна Беларусь — дзьве незалежнасьці?

**Дракахруст:** Віталь Цыганкоў, адказваючы на маё першае пытаньне, пачаў размову пра ідэалягічны выбар улады. Улада нібыта гаворыць апазыцыі: у нас свая незалежнасьць, у вас — свая. І вось падзеі перад 27 ліпеня і падчас 27 ліпеня — сьведчаньне таго, што ўлады па-ранейшаму адмаўляюць у праве на існаваньне любой іншай вэрсіі незалежнасьці краіны. Чаму так адбываецца? Надыход цяжкіх часоў зараз, здаецца, прагназуюць усе, нават Павал Якубовіч у «Праскім акцэнце» казаў пра гэта. У значнай ступені цяжкія часы, якія надыходзяць, — зьбег вонкавых чыньнікаў. А ў такіх умовах улада і апазыцыя ў пэўным сэнсе аб’ектыўна апынаюцца ў адной лодцы, яны ўсе — беларусы. І чаму, нягледзячы на гэта, працягваецца ранейшае: у нас свая незалежнасьць, у вас — свая?

**Фядута:** Калі ты прымаеш, што нехта, акрамя цябе, мае рацыю, ты тым самым прызнаеш, што ён мае тое ж права на ўладу, як і ты. А калі ты прызнаеш, што апазыцыя мае права на ўладу, ты павінен нечым зь ёй падзяліцца. На мой погляд, адбываецца менавіта гэта. Лукашэнка ня хоча дзяліцца ўладай. Я не кажу нават пра сапраўдныя рычагі ўлады, я кажу пра ідэалягічную ўладу. Ён выкарыстоўвае лёзунгі апазыцыі, але ён ніколі не прызнае, што існуе яшчэ нехта, хто прапаноўвае гэтыя лёзунгі і вызнае іх.

І менавіта таму ён ніколі не дазволіць, каб апазыцыя сьвяткавала нешта дзяржаўнае. Недзяржаўнае, 25 сакавіка, — калі ласка. І, дарэчы, апазыцыя ставіцца да гэтага з пэўным разуменьнем.

Прыгадайце, калі апошні раз беларуская апазыцыя выкарыстоўвала дзяржаўны сьцяг. Ня той сьцяг, які яна вызнае дзяржаўным і які быў ганебна зьняты ў 1995 годзе, а той, які ўлада і значная частка народу

лічыць дзяржаўным сёньня. Гэтага не было ніколі. Гэтага і ня будзе. І не таму, што апазыцыя наагул ня хоча мець да дзяржавы ніякіх адносінаў. Проста так склалася.

**Дракахруст:** Віталь, нядаўна нехта на форуме газэты «Наша Ніва» ўжыў адносна беларускай сытуацыі аналёгію з палёгкай, якую Сталін даў праваслаўнай царкве ў 1941 годзе, калі Гітлер падыходзіў да Масквы. Ня тое, што Хрыстовы вобраз зьявіўся на чырвоным сьцягу — не, камуністычная ідэалёгія заставалася нязьменнай, але дадатковае апірышча Сталін тады сабе знайшоў. Аўтар камэнтара на форуме «Нашай Нівы» выказаў меркаваньне, што, магчыма, і ўлада Беларусі зараз будзе гатовая хаця б часткова абаперціся на культурніцкі нацыяналізм, які вызнае апазыцыя.

Не, не абаперлася. Чаму?

**Цыганкоў:** Адказ на гэтае пытаньне відавочны: цяпер не 1941 год пакуль што для Аляксандра Лукашэнкі. Праўда, гэта адразу ж спараджае пытаньне: а што будзе, калі наступіць такая крытычная сытуацыя — выбар паміж палітычным жыцьцём і сьмерцю. Мяркую, што нават у такой сытуацыі Аляксандар Лукашэнка не абапрэцца на тыя сілы, пра якія Вы, Юры, казалі. Чаму?

Я ўжо гаварыў пра тое, што ўлада пачала даволі актыўна перахопліваць некаторыя апазыцыйныя лёзунгі, менавіта зьвязаныя зь незалежнасьцю. Але пры гэтым Лукашэнка бессаромна перахоплівае толькі тыя лёзунгі, якія падтрымліваюцца большасьцю насельніцтва ў дадзены момант. Незалежнасьць у той ці іншай інтэрпрэтацыі ўсе апошнія 10 гадоў падтрымлівалася большасьцю беларусаў, тут заставалася толькі даць сваю інтэрпрэтацыю гэтым ідэям, якія і так папулярныя. Мы ведалі, што, паводле сацыялягічных апытаньняў, 50—60% беларусаў былі за інтэграцыю з Расеяй, але адначасна 80% беларусаў выказваліся за незалежнасьць Беларусі. Проста ўлада дала сваю вэрсію незалежнасьці.

Часта можна пачуць — гэтак дойдзе да таго, што Аляксандар Лукашэнка загаворыць па-беларуску. Ды не загаворыць. Чаму? Бо гэта, на ягоную думку, не дадасьць яму балаў сярод большасьці беларусаў. Як гэта ні крыўдна, напрыклад, мне, гэта ня тое, што дадасьць яму папулярнасьці. Хто гэта ацэніць, відаць, наўрад ці стане ягоным выбарнікам.

Таму Аляксандар Лукашэнка і паводле свайго адчуваньня, і паводле інфармацыі (адпаведныя службы працуюць) усё ж ужывае тыя ідэі, якія падзяляе большасьць беларусаў.

**Дракахруст:** Алесь, а чаму тут не працуе гэтая аналёгія? Сказаць, што таварыш Сталін быў надта талерантным да іншай думкі, гэта, відаць, было б няправільна. Але тады, у крытычнай сытуацыі, ён вырашыў па змоўчаньні абаперціся на праваслаўную царкву, на зусім не камуністычнае апірышча. Здаецца, цяжкая сытуацыя ў Беларусі, а чакаецца — яшчэ цяжэйшая, і чаму б тут Лукашэнку не пагуляць зь іншай лініяй, якая мацуе дзяржаўнасьць. А вось, аказваецца, ня трэба. Чаму?

**Чобат:** Аляксандар Лукашэнка не загаворыць пабеларуску, бо ён чалавек савецкі. Ён усім абавязаны Савецкаму Саюзу, пры якім вырас. Як чалавек абавязаны, ён будзе да канца сьвету трымацца ўсяго савецкага. І ўсё беларускае ён успрымае як жывёльна чужое, як гадзюку якую-небудзь. Ён гэта ані нэрвова, ані фізычна не ўспрымае, яго трасе і калоціць, бедалагу. І так разам зь ім трасе і калоціць увесь беларускі народ, які ёсьць савецкім. А яго можа 90%, а можа — 99%.

А тое што 50—60% хацелі б быць разам з Расеяй і пры гэтым 80% — ад яе асобна, гэта цалкам зразумела. Гэта — рэгіяналізм, уяўленьне сваёй асобнасьці як асобнасьці правінцыйнай, а не асобнасьці адной дзяржаўнай супольнасьці ад другой. Расейцы маюць дзяржаўную супольнасьць, беларусы савецкія дзяржаўнай супольнасьці ня маюць. Толькі рэгіянальную. І з тае прычыны ім абыякавыя ўсе гэтыя мовы і культуры.

**Цыганкоў:** Чаму ідзе перахопліваньне лёзунгаў, але нацыянальныя ідэі ў незалежнага грамадзтва і ва ўлады вельмі розныя? Кажуць, што ўлада ня мае нацыянальнай ідэі, але, па-мойму, яна неяк сфармавалася ў апошнія гады, і лёзунг яе такі: «Жывіце і ні пра што ня думайце». У сродках масавай інфармацыі цяпер ідзе пэўная дэідэалягізацыя і дэпалітызацыя. Аляксандра Лукашэнку ўжо не паказваюць на тэлевізіі так часта, як яшчэ 3—5 гадоў таму.

Я б хацеў вярнуцца да таго «Праскага акцэнту»*, дзе бралі ўдзел Павал Якубовіч, Сьвятлана Алексіевіч і Пётра Садоўскі. Як тады паказальна заявіў Павал Якубовіч, *«чым менш грамадзкая думка будзе разважаць пра нацыянальную ідэнтычнасьць, тым, магчыма, хутчэй Беларусь выйдзе з глыбокага крызісу»*. І сапраўды — навошта лішнія размовы, навошта рэфлексіі? Рабіце кар'еру, зарабляйце грошы, гуляйце, адпачывайце — гэта вось нацыянальная ідэя ўлады. І ня трэба тлуміць сабе галавы нейкай там дэмакратыяй, правамі чалавека, адраджэньнем беларускай мовы — пра гэта ўлада сама паклапоціцца. Ніякіх «праклятых» пытаньняў Дастаеўскага і Пазьняка.

* Гл. гэтае выданьне, с. 75—90.



Той «Праскі акцэнт» меў назву «Сумесь турмы і дзіцячага садка» — гэта азначэньне Сьвятланы Алексіевіч. І сапраўды, беларусы, як малыя дзеці, радуюцца, што ім далі цацкі, а з кожным годам цацкі ўсё даражэйшыя, і пазбавілі неабходнасьці адказваць на розныя пытаньні. За іх адкажуць дарослыя — улада. І здаецца, беларускаму грамадзтву гэта падабаецца, значнай частцы, прынамсі.

## Замест 500 мільёнаў даляраў — перадвыбарчы плякат КПРФ

**Дракахруст:** Напрыканцы я прашу вас супаставіць два факты: кампартыя Расеі ў якасьці перадвыбарчага брэнду выбірае выявы Уга Чавэса, Фідэля Кастра і Аляксандра Лукашэнкі. Лукашэнка публічна дае права на выкарыстаньне ягонага вобразу ў расейскай перадвыбарчай барацьбе. Заўважым, на выкарыстаньне апазыцыяй, тымі, хто супрацьпастаўляе добрага Лукашэнку кепскаму Крамлю.

І іншы факт: 23 ліпеня надышоў апошні тэрмін выплаты запазычанасьці за газ, якая вырасла ўжо да 500 мільёнаў даляраў. Беларусь заяўляе, што заплаціць ня можа, ходзяць вэрсіі, што ў адказ «Газпром» можа скасаваць сьнежаньскую дамову і выставіць эўрапейскую цану — 280 даляраў за тысячу кубамэтраў, пры тым, што Беларусь не змагла заплаціць і 100.

Чаму ў такой крытычнай сытуацыі Лукашэнка гуляе ва-банк, чаму дражніць крамлёўскіх «гусей»? На што ён разьлічвае?

**Фядута:** Па-першае, ён ужо разьлічыў. Як стала вядома, Расея дае крэдыт у паўтара мільярда даляраў, каб Беларусь разьлічылася па запазычанасьці. На мой погляд, Лукашэнка меў рацыю. Менавіта

сёньня, калі Крэмль залежыць ад грамадзкай думкі, Лукашэнка мае козыры. Для большай часткі выбарнікаў Расеі, на каго будзе імкнуцца абаперціся ў наступным годзе крамлёўскі кандыдат, Лукашэнка, як і Чавэс, і Кастра, калі не сьвяты, дык, прынамсі, постаць, якую трэба паважаць. Таму сёньня Крэмль нічога зь ім зрабіць ня зможа. Бо ўсё, што б ён ні спрабаваў зрабіць кепскага сёньня Лукашэнку, будзе супраць крамлёўскага кандыдата.

Што будзе потым? Аляксандар Рыгоравіч заўсёды працаваў паводле прынцыпу «пачакаем, нічога ня будзе». І цяпер ён спадзяецца, што пачакае і нічога ня будзе. І, дарэчы, хто б ня стаў наступным прэзыдэнтам Расеі, яму давядзецца мець справу з Лукашэнкам незалежна ад таго, падабаецца яму беларускі лідэр ці не. І ў першыя гады ён ня зможа размаўляць зь ім так, як сёньня размаўляе Пуцін. Бо калі мы прыгадаем, то і Пуцін напачатку ні пра якія «мухи и котлеты» не казаў.

Таму, як мне здаецца, Лукашэнка і гэтым разам выйграе дуэль з Расеяй.

Што да тэмы беларускай мовы, дык я хачу нагадаць спадару Чобату, што 27 ліпеня 1994 году Аляксандар Лукашэнка паспрабаваў трымаць прамову менавіта ў Дзень незалежнасьці па-беларуску. І ў той час яго не падтрымала перш за ўсё творчая інтэлігенцыя: як гэта, прыйшоў саўгасьнік, размаўляе па-беларуску і спрабуе нас вучыць. На мой погляд, тады была зробленая пэўная памылка, і сёньня Лукашэнка ўжо ня будзе паўтараць тое, што ён спрабаваў рабіць у 1994 годзе. Сёньня ён ужо мае ўсю ўладу, і іншае яму непатрэбнае. На жаль.

**Дракахруст:** Алесь, Вам слова для адказу на пярэчаньне спадара Фядуты.



**Чобат:** Лукашэнка ў тым 1994 годзе чытаў з паперкі. Лепш бы ён не чытаў зусім, лепш бы ён адразу гаварыў па-расейску. Тое было фальшам. І з тае прычыны творчая інтэлігенцыя яго не падтрымала, бо што падтрымліваць «пустышку»?

Я сам пачынаў з падручніка, успамінаў беларускую мову, бо я яе не ўжываў шмат гадоў, пакуль вучыўся і рабіў на вайсковых фабрыках. Трэба вучыцца. А ён ня вучыцца і ня будзе.

Цяпер наконт адносінаў з Расеяй. Ён усё яшчэ хоча быць расейскім прэзыдэнтам. Гэта яго мроя, можа, з малалецтва. І любымі сродкамі, нават карыкатурнымі, ён будзе лезьці і лезьці ў Крэмль. «Беларусь — это пройденный этап» — гэта даўно было сказана.

Ён як гісторык, можа, разьлічваў, што паўторыцца тое, што было падчас Крэўскай уніі: ты мне аддаеш Літву і Русь, а я табе аддаю Карону разам з каралевай. Такога цяпер ня будзе. І ніякі Крэмль яму ня сьвеціць. Але яму хочацца. А жаданьне мацнейшае за ўсё на сьвеце.

**Цыганкоў:** Я пагаджуся з Аляксандрам Фядутам, што Лукашэнка не адчувае ніякай пагрозы з боку Крамля. Ён адчувае, што цяперашняя перадвыбарчая сытуацыя ў Расеі — гэта тая, у якой Крэмль ня будзе занадта жорстка на яго ціснуць.

Тут ёсьць і іншы, больш празаічны аспэкт. Ён даў згоду на выкарыстаньне ягонага яскравага вобразу расейскімі камуністамі, але ён ня лічыць гэта нейкім рэзкім крокам. Там выкарыстоўваюць і вобраз Уга Чавэса. Чавэс прыяжджаў у Маскву, падпісваў шэраг дамоўленасьцяў напярэдадні візыту Пуціна да Буша. А тут сусед, беларус. Зразумела, што яму больш дазваляюць. Тым больш, што расейскія камуністы цяпер не пагражаюць усур’ёз тамтэйшай палітычнай сыстэме. Яны — структурная апазыцыя, яны ўбуда-

ваныя ў палітычную сыстэму і дзейнічаюць у межах дазволенага. І ім можна вось браць вобраз Лукашэнкі. Там ня лічыцца, што Лукашэнка тым самым парушыў нейкія правілы. Пэўнае раздражненьне гэта можа выклікаць, але не такое, каб Крэмль пачаў арганізоўваць супраць Лукашэнкі крыжовы паход. Паўтару ўсьлед за Фядутам, што Крамлю гэта цяпер вельмі нявыгадна.

# НА ЎСХОД АД ШЛЯХУ

# Вынікі «газавай вайны» лютага 2004 году

Чаму «Газпром» пайшоў на адключэньне газавага транзыту праз Беларусь, рызыкуючы фінансавымі стратамі і сваёй рэпутацыяй дастаўцы? Чаму Аляксандар Лукашэнка саступіў і прыняў расейскія ўмовы менш як праз суткі пасьля той газавай блякады? Як цяперашні газавы канфлікт і паводзіны абодвух бакоў адаб'юцца на настроях беларускага насельніцтва?

**20 лютага 2004**

Удзельнікі: Сяргей Караганаў, Уладзімер Падгол, Яраслаў Раманчук, Аляксандар Рар

## Чаму «Газпром» адключыў газ?

**Дракахруст:** «Тэрарызм на найвышэйшым узроўні», — такімі словамі Аляксандар Лукашэнка ахарактарызаваў беспрэцэдэнтны крок «Газпрому» — цалкам адключыць Беларусь ад газу, спыніць ня толькі пастаўкі, але і транзыт. Такога не было ня толькі ў двухбаковых адносінах, але і ў адносінах «Газпрому», Расеі зь іншымі яе суседзямі.

Канфлікт, дакладней, яго цяперашняя стадыя, пачаўся яшчэ летась, калі і «Газпром», і расейскія кіраўнікі, у тым ліку і Ўладзімер Пуцін, паведамілі, што ранейшага таннага газу для Беларусі больш ня будзе. Ужо сёлета Менск тройчы атрымліваў папярэджаньні пра магчымасьць спыненьня паставак.

Праўда, на гэта беларускі бок адказваў, што лічыць дзейнай леташнюю дамову і таму пакідае за сабой права ў выпадку чаго адкачваць транзытны газ на свае патрэбы і пры гэтым плаціць за яго па ўнутрырасейскіх цэнах. «Газпром» рэагаваў на такую пэрспэктыву вельмі хваравіта, папярэджваючы пра надзвычай непрыемныя наступствы. Але што стаіць за гэтымі пагрозамі, было ня надта зразумелым. Труба ж адна, на другім канцы — свае калінінградцы і эўрапейскія спажыўцы: польскія, нямецкія, галяндзкія. Як яе адключыць? Быць таго ня можа. Раптам высьветлілася, што можа.

Праўда, зь нечаканасьцямі сутыкнуліся абодва бакі. Напярэдадні 18 лютага расейскія адмыслоўцы казалі, што калі справа дойдзе да адключэньня транзыту, то немцы і палякі будуць абурацца і прад'яўляць прэтэнзіі Беларусі, якая сваімі паводзінамі вымусіла «Газпром» спыніць транзыт. Але рэакцыя, прынамсі польская, сталася супрацьлеглай. Кіраўнік польскага ўраду Лешак Мілер паставіў пад сумнеў надзейнасьць Расеі як імпартэра газу. Міністар эканомікі Яцэк Пяхота заявіў пра фінансавую адказнасьць менавіта расейскіх пастаўнікоў. Больш за тое, ужо ў дзень адключэньня транзыту газу праз Беларусь Польшча падпісала мэмарандум пра магчымасьць пашырэньня паставак газу з Нарвэгіі. Мэмарандум — гэта яшчэ не пагадненьне, дый нарвэскі газ на чвэрць даражэйшы за расейскі, але рабіцца закладнікамі беларуска-расейскіх газавых боек палякам не хацелася б.

Нямецкая рэакцыя была больш стрыманай і менш акцэнтаванай на Расею. Вось погляд супрацоўніка нямецкай Рады замежнай палітыкі Аляксандра Рара.

**Рар:** Нямеччына праблемаў не адчула. Мяркую, што гэты канфлікт зьяўляецца канфліктам паміж Беларусьсю і Расеяй, Нямеччына і Ўсходняя Эўропа ў яго ўцягнутыя ня будуць, прынамсі пакуль. «Рургаз», які прадае расейскі газ у Нямеччыне, мяркуе, што стратэгічны газавы альянс паміж Нямеччынай і Расеяй даволі моцны. Зразумела, палякі больш баяцца расейскага ўплыву, чым немцы. Таму польская рэакцыя мяне не зьдзіўляе. Але Нямеччына ставіцца да гэтага больш спакойна.

**Дракахруст:** Разам з тым спадар Рар падкрэсьлівае, што калі б крызіс працягваўся даўжэй, то прэтэнзіі прад'яўляліся б усё ж Расеі.

**Рар:** Калі б гэта працягвалася доўга, то вінавацілі б усё ж Расею. Але ж гэтага не адбылося. Я мяркую, што абяцаньні, што гэтага не адбудзецца, былі дадзеныя на найвышэйшым узроўні — адміністрацыяй прэзыдэнта Расеі ведамству фэдэральнага канцлера. Я ня ведаю ніводнай крытычнай рэакцыі ў Нямеччыне.

**Дракахруст:** У любым выпадку крок з адключэньнем газавага транзыту быў даволі рызыкоўным для Расеі. «Газпром» рызыкаваў і сваёй рэпутацыяй дзелавога партнэра, і грашовымі стратамі — паводле падлікаў, кожны дзень газавай блякады каштаваў расейскаму газаваму манапалісту стратай даходу ў памеры 10 мільёнаў даляраў. Лёгіку расейскага боку тлумачыць кіраўнік расейскай Рады замежнай і абароннай палітыкі Сяргей Караганаў.

**Караганаў:** Мы разумеем, што калі Беларусь пайшла шляхам крадзяжу газу, то наша рэпутацыя ўсё роўна пацярпіць. А Беларусь пайшла на несанкцыяваны адбор газу, што азначае проста крадзеж. На канцы трубы будзе падаць ціск. Такія праблемы трэба вырашаць жорстка, што і будзе рабіцца.

**Дракахруст:** А нельга было падпампаваць газу, каб і ў гэтым выпадку заходнія спажыўцы не пацярпелі?

**Караганаў:** Што значыць «падпампаваць», калі крадуць? Што, злодзеям дадатковыя пастаўкі энэргіі рабіць? Так не бывае. Таму і ў далейшым гэтак жа будзе. У Маскве зразумелі, што ў Менску мы маем ненадзейнага партнэра, які вядзе справу не да інтэграцыі, а да разбурэньня і інтэграцыі, і ўласнай краіны. Дапамагаць яму ў гэтым мы больш ня будзем.



## Чаму Менск урэшце саступіў?

**Дракахруст:** Беларусь у падземных сховішчах мае каля 600 мільёнаў кубамэтраў газу. Гэта мала, але нават пры звычайным рэжыме спажываньня хапіла б на 10 дзён. З кожным днём газавай блякады Беларусі і часткова — праз яе — Эўропы нарастала б раздражненьне эўрапейцаў, і скіраванае яно было б хутчэй за ўсё на Расею. Але, як вядома, хапіла дня, дакладней, 18 гадзінаў.

Калі абстрагавацца ад красамоўных прыёмаў, якіх было багата ў прамове Аляксандра Лукашэнкі, то сухая рэшта — простая: Беларусь прымае цану, на якой настойвае Пуцін. Колькі дзён, тыдняў не прымала, а адключылі газ — і прыняла. Чаму ж давялося саступіць?

Надзвычай цікавы адказ даў міністар замежных справаў Сяргей Мартынаў:

*«Учора, калі Расея перакрыла газавыя заслонкі на Беларусь, адключанымі ад газу апынуліся і Літва, і частка Польшчы, і Калінінград. Беларускі ўрад прыняў рашэньне адносна аднаўленьня гэтага забесьпячэньня з Расеі. І адным з двух фактараў было тое, што за намі стаяць народы і Літвы, і Польшчы, і Нямеччыны, і іншых спажыўцоў. Урад Беларусі пайшоў на тыя ўмовы, на якія не пагаджаўся, каб дапамагчы сваім братам, не саромеюся гэтых словаў, па заходні бок ад нашых межаў».*

Клопат пра заходніх суседзяў, якія раптам сталі братамі, зразумела, прычына сур'ёзная. Але на погляд «нямецкага брата» Аляксандра Рара, прычыны рашэньня Лукашэнкі — крыху менш узвышаныя.

**Рар:** Я думаю, што ў яго не было аніякіх іншых магчымасьцяў. Лукашэнка ня мог чакаць стратэгічнай абароны ані ад Нямеччыны, ані ад іншых краінаў, якія атрымліваюць газ. Таму ён быў вымушаны здацца. Яго пазыцыі ў Эўразьвязе значна горшыя, чым расейскія. Тут ён разглядаецца як ізгой, палітычныя адносіны Беларусі з Эўразьвязам не паляпшаюцца, а нават пагаршаюцца. Да каго яму было зьвяртацца па абарону? Ён трапіў у ізаляцыю і ад Расеі, і ад Захаду. Ён зараз будзе вымушаны зрабіць сур'ёзны выбар: ці далей інтэгравацца з Расеяй, ці шукаць выхады на Эўрапейскі Зьвяз.

**Дракахруст:** І зусім крыўдны для беларускага кіраўніка камэнтар дае намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі Яраслаў Раманчук.

**Раманчук:** Насамрэч перабольшаныя магутнасьць і сіла спадара Лукашэнкі. Ён слабы чалавек, ён разгубіўся і ня мае пляну дзеяньняў. Калі ён трапіў у такую сытуацыю, ён запанікаваў, і ня ведаючы, што рабіць, зрабіў першае, што прыйшло ў галаву: пакрычаць, распавесьці, што Расея зьдзейсьніла тэрарыстычны акт, а потым пагадзіцца на пуцінскія ўмовы. Але я б яшчэ не казаў, што гэта факт. Пра тое, што Лукашэнка сапраўды пагадзіўся, можна будзе казаць толькі тады, калі дамова будзе падпісаная.

**Дракахруст:** Палітоляг Уладзімер Падгол таксама ставіць пад сумнеў сьцьверджаньне, што Беларусь саступіла ціску.

**Падгол:** Я лічу вельмі пасьпешлівай выснову, што дня хапіла. Дамова, на якую пайшло кіраўніцтва Беларусі з-за газу — на 10 дзён. Гэта не гадавая дамова. Таму па сутнасьці «Газпром» нічога не дамогся. Лукашэнка на 10 дзён адцягнуў час.



Для Лукашэнкі ідзе шыкоўная перадвыбарчая кампанія. Ён выстаўляе Пуціна ворагам беларускага народу, ворагам Эўропы і, нарэшце, ворагам расейскага народу — Калінінград застаўся бяз газу. А Лукашэнка — самаахвярны, клапатлівы гаспадар, які паказвае сябе абаронцам трубы, заводаў, на якія хціва разявілі раты алігархі.

## «Газавая вайна» ў люстры грамадзкай думкі

**Дракахруст:** Ацэнка спадара Падгола мае пэўную рацыю нават у чыста эканамічным сэнсе. Лукашэнка пагадзіўся на больш высокую цану за газ, але ўжо ўвечары ў пятніцу стала вядомым, што Беларусь падвысіла і плату за транзыт газу.

Ня менш важная і заўвага Ўладзімера Падгола наконт ідэалягічных наступстваў крызісу. Тое, што Лукашэнка выстаўляе Пуціна ворагам Беларусі, — гэта цалкам зразумела і чакана, і адбываецца, дарэчы, ня першы раз. Хаця заўважым — такіх жорсткіх абвінавачаньняў на адрас гаспадара Крамля раней з вуснаў кіраўніка Беларусі не гучала. Навіною стала і «стыхійная» дэманстрацыя пратэсту каля расейскай амбасады.

Стыхійнасьць канкрэтна гэтай маніфэстацыі выклікае пэўныя сумневы, але варта адзначыць, што і бяз працы інфармацыйна-прапагандысцкага комплексу крок «Газпрому» не палепшыў бы стаўленьня беларусаў да Расеі. Звычайны чалавек ня будзе ўдавацца ў пункты пагадненьняў, разьбірацца, хто каму вінаваты — ён бачыць факты: зіма, холадна, а Расея газ «адрубіла». Дык што ж — «дзякуем» казаць?

Наколькі Масква ўлічыла гэтую зусім натуральную рэакцыю беларускага грамадзтва?

**Караганаў:** Наколькі я ведаю, гэты фактар улічваўся. Але ўлічваўся і той чыньнік, што ў апошнія месяцы і нават гады беларускае кіраўніцтва і бяз гэтага валіць усе свае грахі на Расею, нягледзячы на тое, што амаль траціна беларускага бюджэту — гэта субсыдыі Расеі праз наўпроставыя і ўскосныя каналы. «Дзякуем» нам не казалі, а паліваць нас палівалі. Таму мы вырашылі проста паказаць, што гэтак больш ня будзе. Мы шчыра спачуваем брацкаму беларускаму народу, там нашы родныя людзі, але мы больш ня будзем падтрымліваць ілюзіі, што беларуская мадэль мае будучыню. Праз пэўны час і беларусы зразумеюць, што з такой мадэльлю выжыць нельга.

**Дракахруст:** На думку Аляксандра Рара, падобны крок Масквы — паказьнік яе, так бы мовіць, геапалітычнай занепакоенасьці сытуацыяй, якая склалася ў рэгіёне.

**Рар:** Я мяркую, што з боку Пуціна гэта быў намёк, што ён хоча размаўляць зь Беларусьсю, калі трэба, і моваю сілы. Пуцін разумее, што ён страчвае ўплыў у блізкім замежжы Расеі, блізкае замежжа Расеі на вачох ператвараецца ў блізкае замежжа Эўразьвязу. Беларусь была галоўным партнэрам Расеі на працягу 90-х гадоў XX стагодзьдзя. Лічылася, што зь ім усё вырашана, што інтэгравацца зь Беларусьсю прасьцей за ўсё, толькі ня трэба сьпяшацца, пакуль да аб'яднаньня не падцягнуцца іншыя краіны СНД. А цяпер атрымліваецца, што і Ўкраіна, і каўкаскія краіны, і Малдова ўсё больш выходзяць з расейскай арбіты, ператвараюцца ў найбліжэйшых партнэраў Эўразьвязу і НАТО. Таму некаторыя людзі ў Маскве пачынаюць нэрвавацца, злавацца і ўжываць у сваіх дачыненьнях з партнэрамі па СНД ня толькі пернік, але і бізун.



**Дракахруст:** Безумоўна, «газавая вайна» стала сьведчаньнем зьмены стаўленьня расейцаў, прынамсі, расейскай эліты да Беларусі і беларусаў. Раней у падмурку інтэграцыйных праектаў і ўвогуле двухбаковых адносінаў ляжала настальгія па СССР, прыпраўленая дактрынай славянскага братэрства. Зараз на зьмену гэтаму стаўленьню прыйшло імкненьне да геапалітычнага рэгіянальнага дамінаваньня, да ўтрыманьня суседніх краінаў у сваёй сфэры ўплыву, перш за ўсё эканамічнага. А для гэтага любоў жыхароў гэтай сфэры да цэнтру ўплыву — рэч пажаданая, але не абавязковая. Таму і «газавая вайна», палітычна і псыхалягічна выключаная ў 1990-я гады, цяпер крок цалкам дарэчны.

Нейкі час таму, калі Пуцін заявіў, што Расея ня будзе больш «дойной коровой для соседей», адзін з нашых слухачоў выказаў наступнае меркаваньне: *«Я зьвяртаюся да Лукашэнкі. Я заклікаю яго выгнаць гэтую “дойную карову”, як кажа Пуцін, але насамрэч гэта сьвінаматка. Выгнаць яе раз і назаўсёды, выгнаць зь яе базамі, зь яе транзытам».*

Расея сама выканала пажаданьне нашага слухача, прынамсі ў частцы газавага транзыту. І як адразу кепска зрабілася. Аднак інфармацыйная рэакцыя Беларусі на газавы ціск можа мець даволі нечаканыя ідэалягічныя наступствы.

**Падгол:** Пакуль прэзыдэнцкая прапаганда робіць усё, каб выставіць і Пуціна, і «Газпром», і Расею ворагамі беларускага народу. Вынікам гэтага стане павелічэньне адмоўнага рэйтынгу інтэграцыі з Расеяй, пры гэтым можа павялічыцца станоўчы рэйтынг інтэграцыі з Эўразьвязам. Сытуацыя не на карысьць Расеі. Яна на карысьць перш-наперш Лукашэнку, бо ўмацоўвае яго рэйтынг, а таксама ўскосна ўмацоўвае незалежніцкі рэйтынг у сьвядомасьці беларусаў.

## Выбар Беларусі і выбар Расеі

**Дракахруст:** Насамрэч, на тле сапраўднай эканамічнай вайны размовы пра пэрспэктывы інтэграцыі гучаць увогуле недарэчна. Якая інтэграцыя — звычайныя добрасуседзкія адносіны выглядалі б у гэтых умовах крокам наперад.

Яраслаў Раманчук не пагаджаеца са спадаром Падголам у тым, што крок «Газпрому» выкліча ў Беларусі такую ўжо вялікую крыўду на Расею.

**Раманчук:** Каб урад Беларусі ня мог сьцьвярджаць, што гэта выключна палітычны акт, Расея пагадзілася даць 200 мільёнаў даляраў крэдыту для Беларусі, каб нашая краіна магла разьлічыцца за газ па новых цэнах. Беларусь гаворыць: «Няма грошай, чым мы будзем плаціць?» Ну, калі вы такія бедныя, спажывайце менш. Насельніцтва ж плаціць за газ. Чаму Расея павінная на 80% датаваць беларускія дзяржаўныя прамысловыя прадпрыемствы, якія ўлазяць у даўгі? Я не разумею, у чым тут акт недружалюбства?

Лукашэнка, маючы манаполію ў інфармацыйнай прасторы Беларусі, цяпер, безумоўна, будзе казаць, што вінаваты ня ён, а хцівая Расея. Але я бачу безумоўную віну Беларусі. Я заяўляю як эканаміст і беларускі грамадзянін, што Беларусі карысна будзе жыць па сусьветных цэнах на газ. Тады мы зможам весьці сваю незалежную замежную палітыку і размаўляць з Расеяй на роўных, а ня весьці нейкія прыніжальныя перамовы пра 10 мільёнаў даляраў.

Я пагаджуся з Лукашэнкам, бадай, у тым, што сёньняшні дзень сапраўды гістарычны. Гэта пачатак канца ягонага пляну пабудовы саюзнай дзяржавы. Сёньня на гэтай замежнай палітыцы пастаўлены тлусты крыж, якога ўжо нішто ня вытра з памяці ўраду Беларусі і беларускага народу.



**Дракахруст:** Спадар Падгол мяркуе, што гэта, у прынцыпе, уваходзіла ў пляны Лукашэнкі. Палітоляг лічыць, што апошнія гады кіраўнік Беларусі меў на мэце разбурыць падмуркі інтэграцыі, ускладаючы адказнасьць за гэта на Расею.

**Падгол:** Для Лукашэнкі «Газпром» і Пуцін зрабілі ўнікальны падарунак, закруціўшы гэты вэнтыль. Лукашэнка ўжо даўно згортваў беларуска-расейскія адносіны, бачачы ў шчыльнай інтэграцыі з Расеяй пагрозу свайму існаваньню. І вось гэты падарунак дазваляе яму рэзка выйсьці з усіх дамоўленасьцяў, пра што ён ужо публічна заявіў. Перагледзець абсалютна ўсе дамоўленасьці і па арэндзе вайсковых базаў, і па транзыце, і па мяжы, і па мытні і выставіць Расеі рынкавыя рахункі.

**Дракахруст:** Магчыма, спадар Падгол мае рацыю, і Лукашэнка сапраўды апошнім часам пачаў паціху разбураць узьведзены ім разам зь Ельцыным будынак інтэграцыі. Ускосна за гэта гавораць меркаваньні беларускіх і заходніх эканамістаў, што прапанаваныя Масквой газавыя цэны стануць для беларускай эканомікі непрыемнасьцю, але не катастрофаю. Калі так, то навошта было насьмерць біцца за прывід унутрырасейскіх газавых цэнаў, даводзячы справу да эканамічнай вайны? Але вайна атрымалася хуткацечнай, беларусы яе практычных вынікаў фактычна і не адчулі, кіраўнік Беларусі здолеў атрымаць у інфармацыйнай прасторы перамогу. Гэтак мяркуе Ўладзімер Падгол.

Але варта сказаць, што і Масква ў апошнія гады пасьлядоўна разбурала падмурак інтэграцыі, прынамсі, ранейшай, лукашэнкаўска-ельцынскай. Пра тое, што дамова пра стварэньне саюзнай дзяржавы 1999 году патрабуе зьменаў, калі не скасаваньня, у Маскве казалі і ўскосна і наўпрост. Катэгарычнае

нежаданьне Крамля нават абмяркоўваць праект Канстытуцыйнага акту сьведчыць пра тое ж. Але як Лукашэнка спрабуе перакласьці віну за крах інтэграцыі на Маскву, гэтак жа і Масква сьпіхвае адказнасьць на Лукашэнку. Гэта — як гарачая бульбіна, якую партнэры перакідваюць адзін аднаму.

**Падгол:** Тут трэба падзяліць два пакеты пагадненьняў. Адзін тычыцца нафты і газу, другі — вайсковых базаў. Тут ёсьць алігархічна-бізнэсовы аспэкт, а ёсьць і стратэгічна-вайсковы. І расейцы, магчыма, думалі, што рука Лукашэнкі ніколі не падымецца на гэтую вайсковую частку.

А можа, яны яго на гэта і штурхаюць. У Лукашэнкі быў адзіны козыр у вачох расейцаў, што ён абаронца заходняй мяжы. А калі Лукашэнка на гэта пойдзе, ён робіцца ворагам Расеі, лягічны і наступны крок — гэтага ворага трэба прыбіраць.

**Дракахруст:** Расейскі палітоляг Сяргей Караганаў лічыць, што пэрспэктыва пазбавіцца сваіх ваенных базаў у Беларусі для Расеі непрыемная, але не крытычная.

**Караганаў:** Калі нас папросяць, што ж, мы вымушаныя будзем іх кампэнсаваць. Але пакуль нам з Захаду ніхто не пагражае. Больш за ўсё нам з Захаду пагражае развал і дэстабілізацыя ў Беларусі ў выпадку працягу яе цяперашняй палітыкі. Так што ў Маскве, відаць, вырашылі прымусіць Беларусь распачаць рэформы, рызыкуючы пры гэтым ваеннымі базамі, тым больш што рызыка невялікая. Базы не спатрэбяцца, калі ў Беларусі ўсё разваліцца. Нас непакоіць, што будзе зь беларускім народам пры такім кіраваньні.

**Дракахруст:** Раней у нашай размове Ўладзімер Падгол выказаў меркаваньне, што, магчыма, цяперашні «газавы канфлікт» — частка шматкрокавай камбінацыі для адхіленьня ад улады Аляксандра Лукашэнкі. Дарэчы, меркаваньні наконт таго, што Лукашэнка — не найлепшы для Расеі кіраўнік Беларусі, падчас цяперашняга крызісу гучала з вуснаў расейскіх экспэртаў даволі часта.

Бадай, першым з расейскіх экспэртаў пра міт безальтэрнатыўнасьці Лукашэнкі напісаў некалькі тыдняў таму наш калега Сяргей Караганаў. Як ён бачыць адпаведны сцэнар разьвіцьця падзеяў — Лукашэнка сыходзіць, прыходзіць чалавек Масквы і далучае Беларусь да Расеі?

**Караганаў:** Нас цікавіць не далучэньне Беларусі, нас цікавіць выжываньне Беларусі і яе інтэграцыя з расейскай эканомікай. Калі б Лукашэнка праводзіў разумную палітыку, яго б падтрымлівалі, хаця мы наўрад ці падтрымлівалі б рэжым, які ідзе на трэці тэрмін, мяняючы Канстытуцыю. Таму трэці тэрмін Расея не падтрымае ў любым варыянце. Мы нікога не навязваем, Беларусь павінная абраць свайго лідэра, калі прыйдзе час.



.......................................................................

«Круглы стол», прысьвечаны аднаму з самых вострых момантаў у беларуска-расейскіх адносінах, варта суправадзіць як «перадгісторыяй», гэтак і «пасьлягісторыяй» падзеяў, аб якіх ішла гутарка ў гэтай перадачы.

У красавіку 2002 г. Менск і Масква падпісалі пагадненьне, паводле якога Расея забавязалася пастаўляць Беларусі газ па цане Смаленскай вобласьці, а Беларусь абяцала прадаць «Газпрому» палову акцыяў «Белтрансгазу».

У чэрвені 2002 г., празь некалькі дзён пасьля 10-гадзінных перамоваў з А. Лукашэнкам, У. Пуцін рэзка скрытыкаваў інтэграцыйныя прапановы Менску. Менавіта тады прагучала пажаданьне ў працэсе інтэграцыі аддзяліць «мух от котлет».

У жніўні 2002 г. Пуцін прапанаваў Беларусі ўвайсьці ў склад Расейскай Фэдэрацыі ў якасьці 7 губэрняў. Адначасна як альтэрнатыва быў прапанаваны саюз паводле ўзору Эўразьвязу.

Першая прапанова выклікала рэзкую адмоўную рэакцыю Лукашэнкі і пераважнай большасьці палітычных сілаў Беларусі.

У 2003 г. высьветлілася, што ўяўленьні пра цану беларускага газатранспартнага прадпрыемства ў бакоў розныя: «Газпром» заяўляў, што гатовы заплаціць максымум 600 мільёнаў даляраў, Лукашэнка лічыў, што цана «Белтрансгазу» — 5 мільярдаў даляраў.

У 2004-ты Беларусь увайшла без дамовы на пастаўку газу, «Газпром» — без дамовы на транзыт. Месяц «дзіркі» затыкаліся газам незалежных імпартэраў, а ў лютым Беларусь пачала адпампоўваць на свае патрэбы транзытны газ, і 18 лютага 2004 г. пастаўкі спыніліся наагул.

Пасьля лютаўскай «газавай вайны» Менск саступіў у пытаньні цаны. Аднак толькі ў чэрвені бакі падпісалі кантракт на пастаўкі газу на 2004 г., дзе цана была вызначаная ў памеры 46,68 даляра за тысячу кубамэтраў.

Гэтая цана, дарэчы, пратрымалася нязьменнай 2,5 году і падвысілася толькі на пачатку 2007 г.

7 верасьня 2004 г., на другі дзень жалобы па бэсланскай трагедыі, Аляксандар Лукашэнка абвесьціў правядзеньне рэфэрэндуму аб скасаваньні канстытуцыйнага абмежаваньня на колькасьць прэзыдэнцкіх тэрмінаў для адной асобы.



Рэфэрэндум адбыўся 17 кастрычніка 2004 г., празь некалькі дзён афіцыйная Масква праз МЗС прызнала вынікі беларускага плебісцыту.

Неўзабаве пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Беларусі 2006 г. «Газпром» паведаміў пра тое, што цана на газ на 2007 г. будзе істотна больш высокай, на працягу перамоваў, якія доўжыліся да канца году, называліся лічбы 200—250 даляраў за тысячу кубамэтраў.

31 сьнежня 2006 г., за дзьве хвіліны да Новага году, было падпісанае пагадненьне, паводле якога цана на газ для Беларусі ў 2007 г. усталёўвалася ў памеры 100 даляраў за тысячу кубамэтраў. Акрамя таго, была ўзгодненая формула паступовага, да 2011 г., падвышэньня цаны на газ для Беларусі да сярэднеэўрапейскага ўзроўню.

Адначасна ў дамове Беларусь пагадзілася на продаж 50% акцыяў «Белтрансгазу» за 2,5 мільярда даляраў.

# Супярэчлівыя інтэграцыйныя настроі ў Беларусі, Расеі і ва Ўкраіне

Расейцы ў найменшай ступені схільныя да інтэграцыі як з Эўропай, гэтак і з бліжэйшымі суседзямі, у беларускім грамадзтве колькасьць прыхільнікаў інтэграцыі на Ўсход і на Захад прыблізна роўная, да інтэграцыі ў межах Адзінай эканамічнай прасторы найбольш прыхільна ставяцца казахі, а да інтэграцыі ў Эўропу — украінцы. Такія вынікі дасьледаваньня, праведзенага ў траўні 2005 году ў Беларусі, Казахстане, Расеі і ва Ўкраіне міжнародным кансорцыюмам «Эўразійскі манітор».
Чым тлумачацца і што азначаюць параўнальна нізкія паказьнікі інтэграцыйных памкненьняў ва ўсіх 4-х краінах? Чым абумоўленае імкненьне людзей атрымаць усе плюсы інтэграцыі, пазьбегнуўшы ўсіх мінусаў? Ахаладжаньне да інтэграцыі на постсавецкай прасторы і правал Эўрапейскай Канстытуцыі на рэфэрэндумах у Францыі і Галяндыі — гэта падобныя ці розныя зьявы?

**27 чэрвеня 2005**

Удзельнікі: Аляксандар Грыцанаў, Уладзімер Дорахаў, Валер Фёдараў, Валер Хмялько

## З кім хочуць аб'ядноўвацца беларусы і ўкраінцы?

**Дракахруст:** На гэтым тыдні сышоўся шэраг падзеяў, зьвязаных з інтэграцыяй на постсавецкай прасторы. У Маскве прайшоў саміт Эўразійскай эканамічнай супольнасьці (ЭўрАзЭС), у Гомелі сабраліся дэпутаты саюзнага парлямэнту Беларусі і Расеі, напрыканцы тыдня ў Кіеве адбылося 21-е паседжаньне Групы высокага ўзроўню па фармаваньні Адзінай эканамічнай прасторы Беларусі, Казахстану, Расеі і Ўкраіны*.

* Адзіная эканамічная прастора — праект эканамічнай інтэграцыі Беларусі, Казахстану, Расеі і Ўкраіны. Упершыню ідэю



Але за гэтым інтэграцыйным мільгаценьнем застаецца па-за ўвагаю пытаньне: «А як да гэтых разнастайных аб'яднаньняў ставяцца самі народы, якіх лідэры так старанна імкнуцца аб'ядноўваць?»

Пэўны адказ даюць вынікі дасьледаваньня, праведзенага сёлета ў траўні адначасна ў Беларусі, Казахстане, Расеі і ва Ўкраіне. Лічбы — рэч сумная. Але ў дадзеным выпадку бязь іх не абысьціся. Паводле зьвестак «Эўразійскага манітору», у Беларусі прыхільнікі далучэньня да Эўразьвязу і жыцьця ў Адзінай эканамічнай прасторы падзяліліся амаль пароўну: 22% — за Эўропу, 24% — за АЭП. Яшчэ 14% беларусаў наагул марацць пра адроджаны СССР, а 21% хацелі б жыць проста ва ўласнай краіне.

У параўнаньні з гэтым ва Ўкраіне — больш грамадзянаў за Эўразьвяз (30%) і крыху больш, чым у Беларусі, — за АЭП (26%). Расейцаў адносна мала вабіць што Эўропа, што саюз з блізкімі суседзямі — па 15%, затое там больш за іншых марацць пра аднаўленьне СССР — 27%. Нарэшце, у Казахстане большае за астатніх імкненьне да Адзінай эканамічнай прасторы і меншае — да Эўразьвязу.

Свой погляд на гэтыя лічбы прапануе беларускі філёзаф Аляксандар Грыцанаў.

**Грыцанаў:** Беларускія і ўкраінскія адсоткі — гэта не аднолькавыя рэчы. Украінскія адсоткі — гэта прага часткі грамадзтва, пераважна ў Заходняй Украіне, жыць у Эўропе, і жаданьне іншай часткі грамадзтва жыць наўпрост у Расеі. У Беларусі найбольшая доля — гэта савецкія грамадзяне, якія марацць пра былы Саюз і, мабыць, аб саюзнай дзяржаве Расеі і Беларусі.

сфармулявалі кіраўнікі гэтых краінаў у лютым 2003 г. Аднак з прычыны нязгоды Ўкраіны перадаваць свае сувэрэнныя правы наддзяржаўным утварэньням праект так і ня быў рэалізаваны.

**Дракахруст:** Аляксандар Грыцанаў гаворыць пра істотныя адрозьненьні ўкраінцаў і беларусаў, маўляў, беларусы больш савецкія. У пэўным сэнсе яно і так — з апытаньня вынікае, што паводле прагі да аднаўленьня СССР беларусы — трэція пасьля расейцаў і казахаў.

Аднак варыянт адказу «за СССР» трохі блытае карціну, не дае магчымасьці вымяраць інтэграцыйныя памкненьні да рэальных утварэньняў. Вось меркаваньне былога намесьніка дырэктара Незалежнага інстытуту сацыяльна-эканамічных дасьледаваньняў Уладзімера Дарахава. Нагадаем, што рашэньне Вярхоўнага суда ліквідавала гэты беларускі дасьледчы цэнтар у красавіку 2005 году, цяпер ён дзейнічае як арганізацыя, зарэгістраваная ў Літве.

**Дарахаў:** Па-першае, трэба сказаць, што адказы на пытаньні пра інтэграцыю істотна мяняюцца ў залежнасьці ад фармулёўкі пытаньня. Калі задаецца пытаньне: «Ці хочаце Вы інтэграцыі Беларусі ў Эўразьвяз», — атрымліваюцца адны лічбы, калі апытаным даецца магчымасьць выбраць паміж інтэграцыяй у аб'яднаную Эўропу і інтэграцыяй з Расеяй — лічбы заўважальна іншыя, значна ніжэйшыя.

Калі ж дадаваць яшчэ нейкія магчымасьці — вяртаньне ў СССР, як варыянт адказу, то колькасьць прыхільнікаў аб'яднаньня хоць з Эўропай, хоць з Расеяй яшчэ зьменшыцца.

У травеньскім апытаньні НІСЭПД 48% рэспандэнтаў з той ці іншай ступеньню ўпэўненасьці выказаліся за далучэньне Беларусі да Эўразьвязу. Гэта вельмі ўнушальная колькасьць, асабліва калі ўлічыць, што выказаліся супраць толькі крыху болей за трэціну — 35%.

Паводле нашых апытаньняў, імкненьне далучыць Беларусь да Эўразьвязу было найбольшым напрыканцы 2002 году, тады за гэта выказваліся нават 60% апытаных. Але і падчас іншых апытаньняў колькасьць прыхільнікаў эўраінтэграцыі вагалася каля 50%.



Здавалася б, гэтыя зьвесткі сьведчаць пра выразную перавагу праэўрапейцаў. Але насамрэч гэта ня так.

Калі задаецца пытаньне, чаму б Вы аддалі перавагу: інтэграцыі з Эўразьвязам ці з Расеяй, колькасьць прыхільнікаў эўрапейскага вэктару істотна зьніжаецца. Напрыклад, у нашым леташнім лістападаўскім апытаньні 30% адказалі, што аддаюць перавагу аб'яднаньню з Расеяй, 20% — уступленьню ў Эўразьвяз, а яшчэ амаль 20% хацелі б і таго, і іншага. А калі пытаньне ставіцца рубам: тое ці тое — колькасьць прыхільнікаў інтэграцыі з Расеяй узрастае да 49%, з Эўразьвязам — да 33%.

**Дракахруст:** Нягледзячы на істотную адрознасьць палітыкі Беларусі і Ўкраіны, на супрацьлеглыя геапалітычныя прыярытэты, дэкляраваныя лідэрамі абедзьвюх краінаў, стаўленьне да інтэграцыі на Захад і на Ўсход украінцаў і беларусаў насамрэч даволі падобнае. Пункт гледзішча дырэктара Кіеўскага міжнароднага інстытуту сацыялёгіі Валера Хмялька такі.

**Хмялько:** Тое, што ўкраінцы хочуць мець сваю дзяржаву — адназначна, за гэтае большасьць. Але яно не выключае магчымасьці ўваходжаньня нашай дзяржавы ў іншыя міждзяржаўныя аб'яднаньні. Тут усё залежыць ад таго, як ставіцца пытаньне. Калі мы ставім пытаньне: «Ці пагодзіцеся Вы, каб Украіна ўвайшла ў Эўрапейскі Зьвяз?», то крыху больш за палову рэспандэнтаў (52%) пагаджаюцца з такім выбарам. Але калі мы ставім пытаньне: «У якім саюзе дзяржаваў было б лепш жыць народу Ўкраіны: у Эўразьвязе ці ў Саюзе Расеі і Беларусі?», то каля

40% аддаюць перавагу Эўразьвязу, а каля 50% — усе ж Саюзу Расеі і Беларусі. Іншыя хістаюцца ў выбары.

**Дракахруст:** Як бачым, падабенства навідавоку: калі пытаньне ставіцца рубам, у абедзьвюх краінах ад траціны да 40% — за Захад, амаль палова — за Ўсход. Праўда, украінцаў толькі пытаюць пра беларуска-расейскі саюз, а беларусы ўжо там.

## Адметны шлях Расеі

**Дракахруст:** А зараз вернемся да апытаньня «Эўразійскага манітору» ў Расеі, выканаўцам якога быў Усерасейскі цэнтар вывучэньня грамадзкай думкі (ВЦИОМ). Гаворыць дырэктар Цэнтру Валер Фёдараў.

**Фёдараў:** Тут назіраецца пэўны максымалізм у намерах расейцаў. Ці ўсё, ці нічога. «Усё» — гэта ў дадзеным выпадку адроджаны Савецкі Саюз. Але ўсе разумеюць, што казаць сёньня пра гэта — фантазіі. Для людзей былы Савецкі Саюз — ня толькі саюз нацыяў, але і ўстойлівыя жыцьцёвыя пэрспэктывы, магчымасьць плянаваць жыцьцё на некалькі дзесяцігодзьдзяў наперад, усьведамленьне сваёй дзяржавы як адной зь вялікіх усясьветных дзяржаваў, зь якой павінны лічыцца ўсе ў сьвеце, прыблізная роўнасьць даходаў. Аднак людзі цьвяроза да гэтага ставяцца і разумеюць, што толькі цуд можа вярнуць нас туды. Але калі ў якасьці альтэрнатываў «залатому веку», хутчэй за ўсё незваротна мінуламу, прапаноўваюцца іншыя формы інтэграцыйных аб’яднаньняў — гэта для расейцаў занадта мала.

Другі аспэкт палягае ў тым, што зашмат было спробаў аб’яднацца, занадта многа было розных



формаў — і СНД, і ЭўрАзЭС, вось зараз Адзіная эканамічная прастора зьявілася. Але вельмі мала рэальнай інтэграцыі, вельмі мала даверу да тых палітыкаў, якія вылучаюць аб’яднаўчыя ініцыятывы, мала веры ў тое, што гэтае аб’яднаньне станоўча адаб’ецца на жыцьці людзей.

Ёсьць і трэці чыньнік. Для расейскай палітычнай эліты, якая ўзьнімае на шчыт усе інтэграцыйныя праекты, галоўным зьяўляецца зьнешні кірунак — нашыя палітыкі вядуць працу зь беларускімі, казахскімі, украінскімі палітыкамі, але яны мала працуюць з уласным электаратам, мала тлумачаць неабходнасьць і мэтазгоднасьць інтэграцыі, мала гавораць пра тое, як яна адаб’ецца на жыцьці людзей, калі яна адбудзецца. Паводле вынікаў дасьледаваньня, Расея — ядро, рухавік інтэграцыйных праектаў — сёньня на ўзроўні грамадзкай думкі ў найменшай ступені гатовая да рэалізацыі такога аб’яднаньня.

## Ад чаго залежаць інтэграцыйныя памкненьні?

**Дракахруст:** А чым адрозьніваюцца ў трох краінах тыя, хто схіляецца да таго ці іншага кірунку інтэграцыі?

**Дорахаў:** Залежнасьці тут вельмі жорсткія. Моладзь, людзі з высокай адукацыяй, гараджане ў большай ступені, чым насельніцтва ўвогуле, аддаюць перавагу эўрапейскаму вэктару, людзі сталага веку, зь нізкім узроўнем адукацыі, сяляне — расейскаму. Асабліва моцная сувязь з узростам: сярод моладзі праэўрапейцы складаюць болей за палову, сярод пэнсіянэраў колькасьць прыхільнікаў аб’яднаньня з Расеяй перавышае 60%.

**Дракахруст:** Паводле Валера Хмялька, падобная сувязь паміж узростам і пажаданым кірункам інтэграцыі існуе і ва Ўкраіне.

**Хмялько:** Сярод тых, каму 60 гадоў і болей, за Эўрапейскі Зьвяз выказваюцца 24%, а за саюз з Расеяй і Беларусьсю — 53%. А сярод тых, каму да 30 гадоў, за Эўрапейскі Зьвяз — 51%, больш за палову, а за саюз з Расеяй і Беларусьсю — 35%. Такім чынам, і ў гэтым аспэкце ёсьць заўважальныя адрозьненьні ў стаўленьні да інтэграцыі на Захад і на Ўсход.

**Дракахруст:** Ува Ўкраіне надзвычай значны і вызначальны ў сэнсе інтэграцыйных памкненьняў тэрытарыяльны чыньнік. Тут адрозьненьні велізарныя.

**Хмялько:** Калі на Ўсходзе задаём пытаньне: «У якім саюзе лепш?», то тут толькі 13% называюць Эўразьвяз, а 77% аддаюць перавагу расейска-беларускаму саюзу.

Іншая рэч — Заходняя Ўкраіна, там толькі 11% аддаюць перавагу саюзу з Расеяй і Беларусьсю, і 73% — Эўрапейскаму Зьвязу.

Гэтыя паказьнікі паступова мяняюцца пры пераходзе з Усходу на Захад. Усход і Захад сталіся крайнімі паводле вынікаў галасаваньня і на апошніх прэзыдэнцкіх выбарах паміж кандыдатам, які прапанаваў эўрапейскі выбар, і кандыдатам, які прапанаваў усё ж такі больш расейскі выбар.

Такая праблема існуе, і трэба яшчэ шмат што зрабіць, каб знайсьці кансэнсус, які б задаволіў большасьць украінцаў.

**Дракахруст:** У Расеі — трэці варыянт залежнасьці, не падобны ані на беларускі, ані на ўкраінскі.

**Фёдараў:** У Расеі «карцінка» даволі простая і лягічная. Людзі старэйшага ўзросту — тыя, каму



мінула 45 гадоў, больш настальгуюць па савецкім часе, маладзейшыя, хто ўвайшоў у жыцьцё пасьля распаду СССР ці калі стала зразумела, што адзінай краіны хутка ня будзе, больш рэалістычна ставяцца да сытуацыі, і яны настроеныя на тое, каб Расея разьвівалася па самастойным сцэнары, ішла па ўласнай траекторыі, не ўступаючы ні ў якія формы міждзяржаўнага аб’яднаньня.

Што тычыцца прыхільнікаў інтэграцыйных аб’яднаньняў — ці то Эўразьвяз, ці то Адзіная эканамічная прастора — гэтыя групы ў асноўным сканцэнтраваныя зь людзей сярэдняга ўзросту і маюць сярэдні ўзровень адукацыі. Тыя, хто больш адукаваны і больш заможны, схіляюцца да эўрапейскага вэктару інтэграцыі, да Эўразьвязу, а тыя, хто мае ніжэйшую адукацыю і горшае матэрыяльнае становішча, больш сымпатызуюць эўразійскаму вэктару.

**Дракахруст:** Як бачым, расейцы сталага веку больш схільныя да СССР, маладыя — не да Эўразьвязу, як іх беларускія і ўкраінскія раўналеткі, а да самадастатковай Расеі. Вяртаючыся да Беларусі і Ўкраіны, варта адзначыць даволі вялікую катэгорыю насельніцтва зь дзіўнымі геапалітычнымі арыентацыямі — адначасна і на Захад і на Ўсход.

**Хмялько:** Гэта выяўляецца тады, калі асобна ставіцца пытаньне пра Эўропу і асобна — пра Саюз Расеі і Беларусі. Калі Вы фармулюеце пытаньне асобна, то больш за 50% выказваюцца за Эўразьвяз, а калі пытаеце: «Ці пагодзіцеся Вы, каб мы ўвайшлі ў Саюз з Расеяй і Беларусьсю?», то больш за 60% апытаных выказваюцца станоўча. Атрымліваецца, значная частка насельніцтва выказваецца і за адно і за другое.

Тэрытарыяльна гэта найбольш распаўсюджанае ў Цэнтральнай Украіне. Такі амбівалентны выбар часьцей сустракаецца сярод людзей, якія ідэнтыфікуюць сябе адначасна і як украінцы, і як расейцы. Каля 20% насельніцтва адчуваюць сябе належнымі да двух этнасаў. Гэта, як правіла, зьвязана са зьмяшанымі шлюбамі, у нас больш за траціну шлюбаў былі міжэтнічнымі. Гэтым людзям цяжка выбіраць штосьці адно.

**Дракахруст:** Спадар Хмялько мяркуе, што прычына падобнай падвойнай геапалітычнай арыентацыі — у падвойнай этнічнай ідэнтыфікацыі многіх украінцаў, якія адчуваюць сябе і ўкраінцамі, і расейцамі. У Беларусі такіх людзей менш, бо расейцаў значна менш. А вынік — падобны.

## «Шматвэктарная» інтэграцыя

**Дарахаў:** Грамадзкая думка пра ролю Беларусі ў сьвеце выяўляе надзвычайную супярэчлівасьць*. Гэта мы бачым нават на ўзроўні прынцыпаў — ад пятай часткі да чвэрці нашых суграмадзянаў хацелі б быць разам і з Эўропай, і з Расеяй, прычым людзі ня надта дакладна ўсьведамляюць нават для саміх сябе, што азначае гэтае «разам». Але такія супярэчнасьці, як паказвае дасьледаваньне «Эўразійскага манітору», выяўляюцца ў стаўленьні да канкрэтных тэмаў міждзяржаўнага ўзаемадзеяньня: мы хочам, каб у нас было шмат замежных тавараў, у тым ліку з Расеі, Украіны, каб у нас быў выбар, але мы таксама хочам, каб гэтая плынь імпарту не падрывала нашую вытворчасьць, дзе мы працуем і зарабляем грошы.

* Гл. зноску да дыскусіі Сямёна Букчына з Андрэем Дыньком, с. 33.



Людзі нібыта хочуць інтэграцыі, але да пэрспэктывы скупкі айчынных прадпрыемстваў ставяцца ня надта добра. А што такое свабодны рух капіталу, як не магчымасьць менавіта такой скупкі? Прычым цікава: паводле зьвестак апытаньня «Эўразійскага барамэтра», беларусы ставяцца да скупкі сваіх прадпрыемстваў гэтак жа кепска, як расейцы і казахі, але беларусы найбольш спрыяльна глядзяць на тое, каб нашыя, айчынныя бізнэсоўцы скуплялі ўласнасьць у Расеі, Украіне, Казахстане. Такая вось мадэль зьнешняй эканамічнай экспансіі.

Часткова гэта тлумачыцца тым, што беларусы і цяпер больш за іншых уключаныя на асабістым узроўні ў эканамічныя ўзаемадзеяньні з гэтымі краінамі. На пытаньне: «Ці даводзілася Вам ці Вашым родным у апошнія 5 гадоў працаваць у іншых краінах Адзінай эканамічнай прасторы», — у Расеі «так» адказала 4%, у Казахстане — 15%, ва Ўкраіне — 24%, у Беларусі — 34%. Заўважце, больш за траціну, прычым зразумела, што размова ідзе пераважна аб працы ў Расеі.

**Дракахруст:** Спадар Дарахаў пачаў размову пра яшчэ адзін цікавы аспэкт інтэграцыйных настрояў — супярэчлівае стаўленьне народаў да наступстваў інтэграцыі.

**Грыцанаў:** З гэтых матэрыялаў вынікае вельмі істотная выснова, што інтэграцыя не падрыхтаваная на ўзроўні сьвядомасьці простых людзей. Тут мы бачым, што простыя людзі ня ведаюць і палохаюцца наступстваў інтэграцыі. А калі цяпер мы бачым пляны ўвайсьці ўва Ўсясьветную гандлёвую арганізацыю з боку Расеі і Беларусі, то гэта жорсткая пэрспэктыва.

Больш танны імпарт, але й цяжкія выпрабаваньні для нацыянальнай прамысловасьці. Людзям ніхто нічога не тлумачыць.

**Дракахруст:** А можа, такое супярэчлівае стаўленьне да наступстваў інтэграцыі, эканамічнага ўзаемадзеяньня зь іншымі краінамі — рыса, уласьцівая толькі народам постсавецкай прасторы, якія страцілі адну ідэнтычнасьць — савецкую, і яшчэ толькі набываюць новую?

**Фёдараў:** Я б не сказаў, што гэта асаблівасьць тых, хто жыве на абшарах былога СССР. Не, гэта даволі распаўсюджаная тэндэнцыя, калі людзі хочуць атрымаць усе плюсы, пазьбегнуўшы ўсіх мінусаў. Гэта можна назіраць у стаўленьні людзей да глябалізацыі. Людзі хочуць атрымліваць інфармацыю, магчымасьць свабодна перасякаць мяжу, шукаць і атрымліваць працу за межамі бацькаўшчыны, але разам з тым выступаюць супраць такіх наступстваў глябалізацыі, як імклівая іміграцыя ў іх уласную краіну, свабодны рух капіталу, скупка замежнымі прадпрымальнікамі прадпрыемстваў на тэрыторыі іх краіны.

Нашая грамадзкая думка сапраўды вельмі супярэчлівая. Гэта бачна і на прыкладзе стаўленьня да аб'яднанага рынку тавараў — так, мы хочам больш выбару, тым больш за кошт тавараў з культурна блізкіх нам краінаў, але мы ня хочам, каб украінскія тавары канкуравалі з нашымі і тым самым наносілі ўдар па нашай сельскай гаспадарцы і харчовай прамысловасьці.

**Дракахруст:** Дарэчы, варта вярнуцца да цікавых зьвестак, якія прывёў спадар Дорахаў. У адказах на пытаньне «Эўразійскага манітору» аб працы ў краінах Адзінай эканамічнай прасторы полюсы склалі расейцы і беларусы: расейцаў у постсавецкія краіны за апошнія 5 гадоў езьдзіла працаваць 4%, беларусаў — 34%.

**Грыцанаў:** Мы бачым адкрытую хлусьню беларускай афіцыйнай прапаганды. Мы бачым, што лічбы пра беспрацоўе ў Беларусі, пра высокі ўзровень даходаў — гэта няпраўда. Жыцьцё вельмі цяжкае, беларусы — людзі мабільныя і ў пошуках лепшага жыцьця едуць за мяжу. 34% — гэта вельмі высокі паказьнік. І гэтая лічба — паказьнік таго, наколькі нахабна хлусіць афіцыйная прапаганда.

**Дракахруст:** Палітыкі ўва ўсім сьвеце схільныя маніпуляваць грамадзкай думкай, а ў нашых краёх — асабліва. Але так выглядае, што менавіта на постсавецкай прасторы, прынамсі ў Беларусі, Украіне і Расеі, гэтаму спрыяе і самы стан грамадзкай думкі, яе разарванасьць, супярэчлівасьць, людзі адначасна хочуць супрацьлеглых рэчаў.

**Фёдараў:** Вы маеце рацыю, і мы бачым прыклады ў той жа Эўропе, калі антыглябалісцкія рухі, вылучаючы антыімігранцкія лёзунгі, атрымліваюць сур'ёзную падтрымку выбарнікаў. Яскравы прыклад — апошнія выбары прэзыдэнта Францыі, дзе Жан Мары Ле Пэн выйшаў у другі тур. Магчымасьці маніпуляцыяў тут сапраўды шырокія, і ўсё залежыць ад таго, ці будуць у нас разумныя палітыкі, якія возьмуць на сябе сьмеласьць патлумачыць грамадзянам, што бясплатных пернікаў не бывае і за выгады інтэграцыі, глябалізацыі трэба нечым плаціць.

**Дорахаў:** Пэрспэктывы для маніпуляцыяў тут сапраўды адкрываюцца велізарныя. Палітыкі могуць нават ня хлусіць, а ціснуць на тыя ці іншыя часткі супярэчлівых уяўленьняў, што існуюць у сьвядомасьці людзей. Скажам, агітуючы за закры-

цьцё ўсходняй мяжы, можна казаць пра небясьпеку наплыву крыміналу, мігрантаў, якіх нідзе надта ня любяць — і гэта знойдзе водгук.

Але апанэнты такіх прапановаў могуць нагадваць, што закрытая мяжа будзе азначаць і цяжкасьці пры паездках у Расею, што многім будзе відавочна недаспадобы. Аднак калі казаць пра нейкую раўнадзейную, то яна пакуль усё ж у бок Расеі, але значная частка людзей робіць гэты выбар зь цяжкім сэрцам, аглядаючыся і на блізкую беларусу Эўропу.

Што тычыцца межаў, то, натуральна, пераважная бальшыня беларусаў хацела б езьдзіць бязь візаў і на Ўсход, і на Захад.

## Інтэграцыя на ўсходзе і захадзе Эўропы: падабенства і адрозьненьні

**Дракахруст:** Спадар Фёдараў пачаў параўноўваць сытуацыю на постсавецкай прасторы з падзеямі ў Заходняй Эўропе. На ягоную думку, ахалоджаньне беларусаў, украінцаў, і асабліва расейцаў да інтэграцыі і правал Эўрапейскай Канстытуцыі — зьявы аднатыповыя.

**Фёдараў:** Безумоўна, інтэграцыя ў Эўразьвязе прасунулася значна далей, але ня трэба перабольшваць ролю і ўплыў эўрабюракратыі, ролю Брусэлю, наднацыянальных органаў. Палітыка кіраўніцтва Эўразьвязу — гэта, па вялікім рахунку, узгодненая палітыка найбуйнейшых эўрапейскіх краінаў. Тое, што мы бачылі на рэфэрэндумах у Францыі і Галяндыі, — гэта выступ ня супраць Брусэлю як такога, а супраць сваіх элітаў, палітычных і эканамічных, якія зрабілі стаўку на глябалізацыю і інтэграцыю, не ўлічыўшы інтарэсаў дастаткова шырокіх групаў,



якія на сваёй скуры адчуваюць ня столькі плюсы, колькі мінусы гэтых рэчаў.

Эўрапейскія палітыкі ў сваіх інтэграцыянісцкіх плянах і дзеяньнях занадта адарваліся ад меркаваньня масаў. У нас гэтага не адбылося, магчыма, таму, што нашыя посьпехі ў галіне інтэграцыі пакуль невялікія. Але калі размова пойдзе пра сапраўды сур'ёзныя рэчы, як, напрыклад, стварэньне зоны свабоднага гандлю, то і эканомікі, і грамадзяне нашых краінаў досыць хутка адчуюць на сабе як плюсы, гэтак і мінусы. Мы хочам папярэдзіць, што трэба ўзгадняць тэмпы і кірункі аб'яднаньня з настроямі людзей, трэба тлумачыць, а навошта нам наагул патрэбныя адзіны рынак працы, свабодны рух капіталу, зона свабоднага гандлю. Калі мы гэтага не патлумачым, то атрымаем сур'ёзныя палітычныя праблемы, я ня буду казаць пра тры іншыя краіны, але ў Расеі мы іх атрымаем дакладна.

**Дракахруст:** Аляксандар Грыцанаў не зусім згаджаецца з расейскім калегам. Паводле яго, інтэграцыйныя крызісы ў Эўразьвязе і на постсавецкай прасторы — гэта крызісы рознай прыроды.

**Грыцанаў:** У Эўразьвязе заможныя ведаюць, што яны заможныя, бедныя, новыя сябры Эўразьвязу ведаюць, што яны бедныя, а таму там бедныя змагаюцца супраць багатых, дакладней, багатыя — супраць бедных, заможныя не жадаюць дзяліцца. У нас сытуацыя іншая — тут кожны баіцца кожнага, і ўсе ведаюць, што яны бедныя. Багатых тут няма, і кожны змагаецца з кожным, гэта гобсаўская вайна ўсіх супраць усіх.

## Ці пагражае незалежнасьці Беларусі цяперашні беларуска-расейскі газавы крызіс?

Ці можа Беларусь за кошт сваіх козыраў у адносінах з Расеяй кампэнсаваць шок ад скачка цэнаў на энэрганосьбіты? Якое значэньне ў гэтай сытуацыі маюць прапановы Беларусі з боку Эўразьвязу, абнародаваныя на гэтым тыдні?

**28 лістапада 2006**

Удзельнікі: Віталь Портнікаў, Яраслаў Раманчук, Павал Якубовіч

### «Будзе катастрафічна цяжка»

**Дракахруст:** Цяперашні газавы крызіс стварыў для Беларусі вельмі складаную сытуацыю. Менавіта гэта канстатаваў Аляксандар Лукашэнка, калі на ўрадавай нарадзе сказаў: *«Гэта будзе вельмі цяжкі год, будзе катастрафічна цяжка»*. Ён дадаў, што трэба будзе рабіць надзвычайныя захады, *«калі мы хочам захаваць нашую краіну для нашых дзяцей, калі хочам захаваць сувэрэнітэт і незалежнасьць»*.

Ці стварае цяперашні крызіс пагрозу незалежнасьці Беларусі?

**Раманчук:** На мой погляд, адны газавыя праблемы ня здольныя стварыць пагрозу беларускай незалежнасьці. Я мяркую, што беларусы ўжо ўсьведамляюць каштоўнасьць сувэрэнітэту, і калі газ будзе каштаваць нават 150—200 даляраў за тысячу кубамэтраў, гэта само па сабе не прымусіць урад ісьці на аншлюс з Расеяй.

Але калі да газу далучыцца і нафта, і гандлёвы транзыт з Расеяй, тады ў нашай краіне могуць зьявіцца значныя сілы, якія будуць настойваць на іншых узаемаадносінах з Расеяй. У Беларусі зьвіцца



вельмі магутнае прарасейскае прамысловае лобі, якога цяпер у нас няма. Спадар Лукашэнка вельмі пасьпяхова праводзіў палітыку «манэтызацыі абяцанак», але сёньня за гэтую палітыку даводзіцца плаціць, плаціць рэформамі, якія трэба будзе праводзіць у больш складаным стане эканомікі, з больш разбалянсаваным бюджэтам, чым гэта можна было зрабіць тры-чатыры гады таму.

Тое, што мы наагул ставім пытаньне аб магчымай страце сувэрэнітэту, сьведчыць, што тая палітыка разьлічвалася на кароткі тэрмін, была нестабільнай і прывяла да таго, што ў нас сёньня амаль няма сяброў — няма структураў і арганізацыяў, да якіх мы можам зьвярнуцца і атрымаць дапамогу: і фінансавую, і інтэлектуальную, і зьнешнепалітычную. І таму гэты тупік — тупік рукатворны, і тут няма віны Расеі, якая ў свой час «павялася» на гэтую гульню, гуляла ў яе, але цяпер завяршае яе.

**Дракахруст:** Павал Якубовіч, ці пагражае гэтая сытуацыя, гэты, паводле Лукашэнкі, катастрафічна цяжкі год, які чакае Беларусь, яе незалежнасьці?

**Якубовіч:** Я пагаджуся зь Яраславам, што незалежнасьці ў літаральным сэнсе і літаральна заўтра гэта не пагражае. Але зразумела, што ўскладняе жыцьцё нашай эканоміцы з усімі сацыяльнымі наступствамі. А працяг такога вэктару з боку пэўных расейскіх сілаў, дазволю сабе такі эўфэмізм, можа прывесьці да небясьпечных рэчаў.

Слухаючы Яраслава, я зразумеў, што ад эканомікі нашыя апазыцыянэры, да якіх спадар Раманчук належыць, адразу пераходзяць на тое, што зьявяцца сілы і магчымасьць скіданьня рэжыму. Мяркую, што ў нечым ён і тут мае рацыю, бо тыя, хто сёньня ў Маскве канструюе, так бы мовіць, «новы стыль» адносна Беларусі, разьлічвае на зьяўленьне гэтых фан-

томаў, на ўзмацненьне настрояў, што шлях, па якім Беларусь ішла ўсе гэтыя гады — памылковы і вядзе да рэвалюцыі.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, я вымушаны Вас перапыніць. Яраслаў казаў не пра зьяўленьне ў выніку крызісу сілаў, якія будуць імкнуцца скінуць Лукашэнку, ён казаў пра зьяўленьне сілаў, якія будуць падштурхоўваць уладу ў бок Расеі.

**Якубовіч:** Я зразумеў яго так. Можна паспрачацца наконт тэзы аб тым, што калі б некалькі гадоў таму Аляксандар Лукашэнка і ўрад пайшлі на нейкія рэформы, то сёньня была б зусім іншай сытуацыя. Мне здаецца, што якія б рэформы ў нашай краіне ні рабіліся, а іх характар і пажаданасьць можна абмяркоўваць, усё роўна радовішчы газу ў Беларусі не зьявіліся б. І сёньняшняя сытуацыя магла б склясьціся і 5 гадоў таму, і праз 5 гадоў, бо ў руках Расеі ёсьць моцны аргумэнт, які сёньня стаў і сур'ёзным палітычным аргумэнтам. Маніпуляваньне цэнамі на вуглевадародную сыравіну адчуваюць і ў Эўропе, і ў Менску.

Але незалежнасьці сёньняшняя сытуацыя ўсё ж не пагражае, бо я мяркую, што пераможа здаровы сэнс і ўсьведамленьне каштоўнасьці двухбаковых адносінаў, якія прывядуць ад фантастычных лічбаў да рэальных цэнаў. І я мяркую, што сытуацыя пяройдзе ў фазу стабільнасьці.

**Дракахруст:** Віталь Портнікаў, Вы вельмі ўважліва адсочвалі сёлетні ўкраінска-расейскі газавы крызіс і можаце параўноўваць. Які Ваш адказ на пытаньне: «Ці пагражае крызіс, які насоўваецца на Беларусь, яе незалежнасьці?»

**Портнікаў:** Мне здаецца, што пагрозы беларускай дзяржаўнасьці, беларускай незалежнасьці якраз няма. Хаця б таму, што беларускае насельніцтва і беларуская прамысловасьць купляюць газ не за тыя цэны, за якія прадае газ Беларусі Расейская Фэдэрацыя. Адзінае, што можа сур'ёзна зьмяніцца (і тут спадар Лукашэнка мае рацыю, калі кажа, што гэта будзе цяжкі год), — сацыяльная палітыка ўлады Беларусі. Бо магчымасьці плаціць такія заробкі і пэнсіі, якія плацяцца сёньня ў Беларусі, ня будзе, і тут беларускі народ павінен рыхтавацца да сур'ёзнай зьмены сваёй сацыяльнай сытуацыі.

Але і ў гэтым я ня бачу нічога нэгатыўнага, бо рэформы — гэта заўжды зацягваньне паясоў. Тое, што не адбываецца такога зацягваньня ў суседняй Украіне, сьведчыць пра беспадстаўнасьць заяваў аб сур'ёзных зьменах ва Ўкраіне.

Трэба, каб насельніцтва падрыхтавалася да доўгіх гадоў цяжкага жыцьця дзеля будучыні сваёй краіны. І гэта тычыцца ўсёй постсавецкай прасторы. Гэта тычыцца і Расеі.

Тут варта сказаць і пра тое, што такія падзеі паказваюць сапраўднае стаўленьне расейскага кіраўніцтва да Беларусі. Калі летась быў украінскі крызіс, украінскія ўдзельнікі перамоваў казалі, што яны ня супраць падвышэньня цаны на газ да ўсясьветнага ўзроўню, але яно павіннае адбывацца паступова. Бо сама Расея ня можа быць зацікаўленай у каляпсе ўкраінскай эканомікі.

Цяпер узьнікае пытаньне адносна Беларусі. Беларусь і Расея, прынамсі паводле словаў іх лідэраў — Уладзімера Пуціна і Аляксандра Лукашэнкі, — жывуць у саюзнай дзяржаве.

Мы ведаем, што саюзная дзяржава — фантом, што яе няма і ніколі ня будзе. Але ж прэзыдэнты гэтага ня ведаюць. І калі ў межах саюзнай дзяржавы ўзьнікае жаданьне падвысіць цану адразу да ўсясьветнага ўзроўню, то як можна зразумець жаданьне часткі са-

юзнай дзяржавы зьнішчыць эканоміку іншай? Мы павінныя сабе дакладна сказаць, што адмаўленьне ад саюзнай дзяржавы — гэта наступны крок беларускага палітычнага кіраўніцтва. У той момант, калі цана на газ і іншыя энэрганосьбіты для Беларусі будзе ўсясьветнай, Беларусь павінная будзе проста забыць пра Расею, як забылі пра яе ў іншых краінах постсавецкай прасторы, і думаць пра эўрапейскі вэктар разьвіцьця.

## Козыры Беларусі

**Дракахруст:** Спадар Портнікаў, менавіта пра магчымы крах саюзу Аляксандар Лукашэнка і казаў на гэтым тыдні на прэсавай канфэрэнцыі для ўкраінскіх журналістаў. Паводле яго, калі адносіны будуць разьвівацца такім чынам, як гэта адбываецца цяпер, то саюзу проста ня будзе.

Але ўявім сабе, што яны будуць разьвівацца менавіта так, як разьвіваюцца. Калі цана на газ скокне з 47 да 200 даляраў за тысячу кубамэтраў, атрымаецца «дзірка» ў 3 мільярды даляраў. Ці зможа Беларусь скампэнсаваць гэтую «дзірку» сваімі козырамі: узьняць цану за транзыт, запатрабаваць арэндную плату за вайсковыя базы і па ўсім спэктры двухбаковых адносінаў выставіць свае прэтэнзіі да Расеі?

Зь іншага боку, ёсьць жа і пэўныя палітычныя аргумэнты, пра якія казаў Павал Якубовіч: Менск можа даводзіць Маскве, што разбурэньне саюзу, дэстабілізацыя беларускай эканомікі наўрад ці ў інтарэсах Расеі. На Ваш погляд, ці могуць спрацаваць гэтыя эканамічныя і палітычныя рычагі?

**Портнікаў:** Мне здаецца, што трэба імкнуцца зрабіць усё, што ў нацыянальных інтарэсах Беларусі. Калі мы гаворым, што трэба адмовіцца ад міту



пра саюзную дзяржаву, трэба пераглядаць адносіны па ўсім спэктры. Адзінае, што існуюць дамовы, падпісаныя на шмат гадоў наперад, і ад іх ніхто не адмаўляецца. Украіна не адмаўляецца ад дамоўленасьці па Чарнаморскім флёце. Аднак папярэджвае Расею, што калі падзеі будуць разьвівацца так, як цяпер, то Чарнаморскі флёт, зразумела, пасьля заканчэньня тэрміну пагадненьня, павінен будзе пайсьці прэч з нашай тэрыторыі. І гэты аргумэнт так ці інакш дзейнічае. Бо людзі ў Крамлі жывуць ня толькі сёньняшнім днём, але і геапалітычнымі мітамі пра будучыню.

Гэта ж тычыцца і тых паслугаў, якія Беларусь без асаблівай карысьці для сябе аказвае Расеі на працягу 15 гадоў.

А што да саюзнай дзяржавы, цяжка сказаць, як у Крамлі паставяцца да гэтага аргумэнту. Сёньня расейскія ўлады ставяцца да адносінаў зь Беларусьсю як да надзвычайных, праводзяцца адмысловыя нарады, на якіх Аляксандар Лукашэнка і Міхаіл Саакашвілі стаяць поруч, як два галоўныя апанэнты расейскай дзяржаўнасьці, ад якіх варта пазбавіцца. І такі погляд на гэтых двух прэзыдэнтаў ня ўтойваецца ў найвышэйшым палітычным кіраўніцтве Расеі. Ці патрэбныя Расеі такія адносіны зь Беларусьсю, якія былі дагэтуль, ці трэба зрабіць зь Беларусі другую Грузію — на гэтыя пытаньні нельга даць адказу, бо сёньняшняя лінія расейскага палітычнага кіраўніцтва не паддаецца фармальнай лёгіцы.

**Дракахруст:** Так, падманутая любоў часам ператвараецца ў нянавісьць. Яраслаў, а як Вы лічыце, ці можа Беларусь за кошт сваіх унутраных рэзэрваў, а таксама сваіх козыраў у адносінах з Расеяй, істотна скампэнсаваць гэты цэнавы шок? Паводле падлікаў, калі цана за транзыт узьнімецца да ўсясьветнай, гэта дасьць Беларусі 500 мільёнаў даляраў. Гэта вялікія

грошы, але значна меншыя, чым 3 мільярды даляраў. Часам гучаць прапановы, што, маўляў, давайце мы возьмем грошы за вайсковыя базы, але радыёлякацыйная станцыя, аналягічная ганцавіцкай, дзейнічае ў Габале, у Азэрбайджане. І Расея Азэрбайджану, зь якім не знаходзіцца ні ў якім саюзе, плаціць за яе 7 мільёнаў даляраў у год. Гэта наагул дробязь.

**Раманчук:** Няма такога ў сьвеце, калі б краіна, губляючы 5% ВУП за кошт страты толькі адной пазыцыі, магла кампэнсаваць гэта нейкімі ўнутранымі рэзэрвамі. Бо газ — тое, што купляюць і хатнія гаспадаркі, і прадпрыемствы, і калі наш урад пераводзіў краіну на газ (ён займае ў нашым энэргабалянсе 90%), гэта было вельмі зручна. А сёньня адкуль мы можам атрымаць энэрганосьбіты па меншых цэнах? Азэрбайджан не прадасьць, Іран не прадасьць, Вэнэсуэла не прадасьць — гэтыя краіны маюць нафту, але ня маюць шляхоў яе дастаўкі ў Беларусь. Туркмэністан газу таксама не прадасьць. Таму, безумоўна, будзе чыстая страта беларускай гаспадаркі, і рэзэрвы трэба шукаць зусім у іншым. І калі мы гаворым, што патрэбныя рэформы, што неабходна падрыхтаваць структуру нашай гаспадаркі да ўсясьветных цэнаў, — гэта ёсьць стратэгія будучыні Беларусі. А так мы 10 гадоў куплялі танны газ і думалі, што так будзе вечна, і адначасна прэтэндавалі на тое, каб быць незалежнай краінай і ставіць нейкія свае ўмовы Расеі.

Каб кампэнсаваць гэтыя 2,5—3 мільярды даляраў, рэзэрвы трэба шукаць у тым, што мы зусім інакш будзем ставіцца да нашай інвэстыцыйнай палітыкі, да бюджэту, каб у нашу краіну грошы прыйшлі ў выглядзе найпраставых замежных інвэстыцыяў.

**Дракахруст:** Яраслаў, Вы гаворыце пра рэформы, аб прыцягненьні замежных інвэстыцыяў, але гэта справа ня хуткая. Цяпер ёсьць канкрэтная праблема — праз месяц газавы шок абрынецца на Беларусь. Вы гаворыце, што прад'яўляць прэтэнзіі Расеі ня варта — а што рабіць у такой сытуацыі? Паўтараю яшчэ раз: «дзірка» ў 3 мільярды даляраў. Патрэбныя рэформы? Рэформы зоймуць гады, а ўжо ў наступным годзе ў Беларусі можа адбыцца катастрофа, калі гэтая «дзірка» ня будзе скампэнсаваная. Хіба ня так?



**Раманчук:** «Дзірка» не адразу зьявілася. Першы кантракт на пастаўку газу ў 2007 годзе Расея пераслала ў Беларусь у сакавіку. Можна было да гэтага падрыхтавацца, правесьці нейкія перамовы. Нашыя ўлады нічога не зрабілі. Безумоўна, давядзецца зацягваць паясы, бо скампэнсаваць такія сумы нельга інакш, як перакладаючы іх на плечы насельніцтва і прадпрыемстваў. Калі мы паглядзім, як выконваецца бюджэт гэтага году, як працуе Нацыянальны банк, мы ўбачым, што сыстэма працуе на мяжы магчымасьцяў.

І ня варта спадзявацца, што ўнутры краіны за два месяцы знойдуцца рэсурсы, каб 3 мільярды даляраў кампэнсаваць. Мы гаворым пра газ, але больш за газ наш урад баіцца страціць так званы нафтавы грант, які складае яшчэ большую суму. І калі Беларусь пазбавіцца і газавага, і нафтавага грантаў, вось тады будзе шок, да якога давядзецца прыстасоўвацца выключна за кошт рэчаў, якія не прынясуць прыбытку на працягу 2—3 месяцаў. Але яны зьяўляюцца адзіным шляхам да стабільнасьці, да ўключэньня нашай краіны ў Эўропу. Іншага проста няма.

Ёсьць адна эканамічная аксіёма, якую трэба вельмі добра завучыць. З Расеяй, на якую прыпадае прыблізна палова нашага гандлёвага абароту, нам гандлёвую вайну ніколі ня выйграць, бо яе эканоміка значна мацнейшая за нашу. Нам, як малой гаспадарцы, як мабільнай краіне, трэба не імітаваць са-

юзную дзяржаву, не спадзявацца на СНД, а будаваць сваю незалежную гаспадарку і краіну на тых рынкавых і дэмакратычных прынцыпах, на якіх збудавалі свае гаспадаркі Літва, Латвія і Эстонія.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, Вы не эканаміст, але, паводле Вашага досьведу, паводле Вашых ведаў: ці зможа Беларусь скампэнсаваць гэты эканамічны шок?

**Якубовіч:** Юры, я заклікаю да таго, каб наша размова была менш палітызаванай і больш набліжанай да рэальнасьці. Рэальнасьць палягае ў тым, што цана яшчэ не абвешчаная, і нашая размова набывае крыху фантастычныя формы. 200 даляраў, некаторыя ў Маскве казалі нават пра 300 даляраў за тысячу кубамэтраў газу. Мы ж выдатна ведаем, што людзі, якія рэпрэзэнтуюць «Газпром», ня маюць абсалютна ніякага дачыненьня да рэальных цэнаў на газ і на нафтавы грант, як яго назваў Яраслаў. Ключык знаходзіцца ў Крамлі. І я тут пагаджуся са спадаром Портнікавым, які заўважыў, што фармальнай лёгікай цяжка патлумачыць некаторыя дэкларацыі і практычныя дзеяньні Крамля.

Але калі справа дойдзе да рашэньня, то пераважаць прагматычныя меркаваньні, і Крэмль будзе лічыць усе «за» і «супраць» ад магчымага разбурэньня эканомікі Беларусі. Тады ўзьнікне шмат пытаньняў, і ня толькі такія другасныя, як кампэнсацыйная цана за базу ў Баранавічах. Узьнікнуць больш сур'ёзныя чыньнікі: і разбурэньне СНД, і новая палітычная канфігурацыя, і пазыцыя Эўропы, якая ўжо праявілася ў вядомых прапановах Беларусі. І тады пераважаць больш сур'ёзныя стратэгічныя меркаваньні.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, я яшчэ раз нагадваю фармулёўку: «Будзе катастрафічна цяжка». Гэтую фармулёўку прыдумаў ня я і не спадар Раманчук, яе выказаў Аляксандар Лукашэнка, які, напэўна, ведае, як менавіта складваюцца адносіны і як ідуць перамовы з Крамлём.



**Якубовіч:** Не, я ня ўдзельнік перамоваў і не магу сказаць, што ведаю больш за тое, што ведаеце Вы. Я сапраўды лічу, што трэба будзе «зацягнуць паясы». Гэтая мэтафара красамоўная і рэальная. Магчыма, пра пэўныя элемэнты камфорту давядзецца забыць, але ў любым выпадку зыходзіць з таго, што заўтра цана будзе 200 даляраў за тысячу кубамэтраў і гэта — дадзенасьць, мякка кажучы, заўчасная.

## Прапановы Эўразьвязу — ўратаваньне ад крызісу?

**Дракахруст:** Прапановы Эўразьвязу Беларусі былі абнародаваныя на гэтым тыдні ў Брусэлі і Менску*. Сутнасьць іх можна сфармуляваць так: Эўразьвяз прапануе Беларусі нейкую эканамічную дапамогу, у тым ліку, як я разумею, і тэрміновую, а ў абмен просіць ці прапануе Беларусі зрабіць крок у бок дэмакратызацыі. Спадар Якубовіч, наколькі істотнай Вам падаецца прапанаваная дапамога? І наколькі прымальнымі Вам падаюцца просьбы-патрабаваньні наконт дэмакратызацыі?

**Якубовіч:** Я мяркую, што любая прапанова павінна быць узятая да ўвагі і абмяркоўвацца і ў грамадзтве, і ў палітычным кіраўніцтве краіны, бо ёсьць ініцыятыва, ёсьць ідэя.

---

* У лістападзе 2006 г. Эўразьвяз прыняў неафіцыйны (non paper) дакумэнт, у якім былі выкладзеныя ўмовы паляпшэньня адносінаў зь Беларусьсю. Сярод гэтых 12-ці ўмоваў фігуравалі, у прыватнасьці, вызваленьне ўсіх палітычных вязьняў, доступ грамадзянаў краіны да дзяржаўных СМІ, павага правоў няўрадавых арганізацыяў і незалежных прафсаюзаў, нацыянальных меншасьцяў, спыненьне ўмяшаньня ўладаў у бізнэс, правядзеньне свабодных і адкрытых выбараў.

**Дракахруст:** Спадар Портнікаў, а як Вы ацэньваеце гэтыя прапановы Эўразьвязу, наколькі сур'ёзнымі і выратавальнымі для Беларусі яны Вам падаюцца? І наколькі, на Ваш погляд, яны прымальныя для беларускага кіраўніцтва?

**Портнікаў:** Па-першае, трэба сказаць, што дагэтуль Эўразьвяз праводзіў адносна Беларусі даволі нерэалістычную палітыку. Трэба было разумець, што нават у выпадку выбараў, якія б на Захадзе кваліфікаваліся як дэмакратычныя, наўрад ці мы б цяпер бачылі на чале Беларусі іншага прэзыдэнта. Нават калі б не было трэцяга тэрміну, прэзыдэнтам Беларусі быў бы чалавек з поглядамі, блізкімі да поглядаў Аляксандра Лукашэнкі. Гэта — адлюстраваньне сёньняшняга стану беларускага грамадзтва як такога.

І я лічу, што ня надта рэалістычнай была палітыка Эўразьвязу і адносна той жа Ўкраіны. Чамусьці лічылася, што адразу пасьля «аранжавай» рэвалюцыі адбудуцца эканамічныя рэформы і палітычныя пераўтварэньні. Не было разуменьня, што ўкраінскае грамадзтва — постсавецкае, і ня варта спадзявацца на зьмены, якія істотна наблізяць яго да эўрапейскіх каштоўнасьцяў.

Разам з тым, няма сумневу, што ёсьць магчымасьць зьмены вэктару будучыні Беларусі. Бо Расея можа быць сёньня такой, якой яна ёсьць, толькі дзякуючы цэнам на энэрганосьбіты. І кожны дзень такіх цэнаў павялічвае магчымасьць трагедыі Расеі, бо эфэктыўнай мадэлі ў Расеі не пабудавана. І кожны новы дзень саюзнай дзяржавы з Расеяй пагражае такой жа катастрофай для Беларусі і для беларускай улады.

У Беларусі цалкам магчымы шлях паступовай дэмакратызацыі і пабудовы не такой дэмакратыі, як у Эўропе, я ня веру ў такую дэмакратыю на постсавецкай прасторы ў найбліжэйшыя гады, а дэмакратыі з элементамі элітнага ўплыву, намэнклятурнага ўплыву на супольныя рашэньні. Больш за тое, у такой сыстэме Аляксандар Лукашэнка будзе адыгрываць амаль такую ролю, якую ён адыгрывае сёньня. Мне здаецца, што Аляксандру Лукашэнку і іншым асобам, якія сёньня кіруюць Беларусьсю, ня шмат што пагражае.



**Дракахруст:** Яраслаў Раманчук, а як Вы ацэньваеце такія прапановы Эўразьвязу і пэрспэктывы таго, што ў гэтай «катастрафічна цяжкай» сытуацыі яны будуць прынятыя? Вось спадар Портнікаў мяркуе, што ня надта штосьці беларускаму кіраўніцтву і пагражае, нават калі яно прыме ўсе ўмовы.

**Раманчук:** Перш за ўсё нагадаю, што Эўразьвяз, па сутнасьці, працягвае палітыку іншых эўрапейскіх структураў — была дэклярацыя АБСЭ наконт Беларусі, рашэньні Рады Эўропы і Эўрапарлямэнту. Эўракамісія, па сутнасьці, зрабіла падсумаваньне ўсіх дакумэнтаў і заявіла: «Калі вы хочаце, каб Беларусь атрымала палітычную і эканамічную падтрымку — выконвайце гэтыя патрабаваньні». Я лічу, што ў дакумэнце шмат бізуноў, але ня вельмі канкрэтныя пернікі. Нават калі Менск пагодзіцца пачаць перамовы з Эўразьвязам і дэмакратызацыю, то гэты працэс зацягнецца на гады, а Менску дапамога патрэбная ўжо ў 2007 годзе, каб закрыць тую «дзірку», пра якую Вы, Юры, казалі — 3—5 мільярдаў даляраў. А няма такіх мэханізмаў у Эўракамісіі, у эўрапейскім бюджэце, каб даць 5 мільярдаў даляраў пад гіпатэтычныя рэформы ў Беларусі. І таму Менск павінен думаць над тым, ці варта яму пайсьці на дэмакратызацыю, якая прынясе дывідэнды невядома калі.

Я б прапанаваў разьдзяліць кар'еры некаторых палітыкаў і будучыню нашай краіны. Безумоўна, нам будзе цяжка, безумоўна, давядзецца «зацягваць паясы», але альтэрнатывы эўрапейскай інтэграцыі

ў нас няма. І калі мы разам з Эўрапейскім банкам рэканструкцыі і разьвіцьця, з МВФ, з Усясьветным банкам, з нашымі суседзямі пачнём распрацоўваць комплекс рэформаў і яго рэалізацыю ў наступным годзе, то нам дадуць ня толькі 100 мільёнаў даляраў крэдыту, нам дадуць значна больш, калі нашыя намеры будуць сур'ёзнымі. Але сур'ёзнымі яны будуць тады, калі будуць канкрэтныя прапановы і новыя людзі. Адзіны адказ на той шок, які мы перажывем у наступным годзе — эўрапейскі кірунак нашай краіны. Тут патрэбныя ня толькі намаганьні ўладаў, але і дыялёг з апазыцыяй і грамадзянскай супольнасьцю. Тады прасьцей будзе праводзіць рэформы, якія гарантуюць незалежнасьць краіны.

**Дракахруст:** Яраслаў, перад тым, як задаць наступнае пытаньне, я хачу прывесьці цытату з інтэрвію вядомага нямецкага палітоляга Аляксандра Рара, якое ён нядаўна даў «Белгазеце»:

*«Для Эўропы большым пудзілам, чым Лукашэнка, зьяўляецца Расея. Ёсьць страх, што калі сытуацыю ў Беларусі разгайдаць, калі давесьці да рэвалюцыі, гэта прывядзе не да аддаленьня Беларусі ад Расеі, а да прыходу да ўлады прарасейскага палітыка. Вынікам гэтага можа стаць паглынаньне Беларусі Расеяй. Захад ад гэтага толькі прайграе...*

*Кожны раз, калі на небасхіле зьяўляецца пэрспэктыва аб'яднаньня Беларусі з Расеяй, дакладней, калі камусьці здаецца, што такая пэрспэктыва зьяўляецца, шмат хто пачынае абараняць Лукашэнку. Бо куды больш за парушэньні правоў чалавека ў Беларусі Эўропа баіцца новай расейскай імпэрыі. Апошнія заявы Пуціна аб падвышэньні цэнаў на газ у 2007 годзе актывізавалі ў эўрапейскіх палітыкаў "украінскі рэфлекс": трэба любой цаной абараніць Беларусь ад рускага мядзьведзя».*



Прапановы Эўразьвязу, пра якія мы гаворым, своеасаблівая зьдзелка: мы вам — тое, вы нам — тое. Але ці не атрымаецца так, як яно часткова было ў 2004 годзе, што калі крызіс дойдзе да крытычнай кропкі — адключэньня газу, — Эўропа з геапалітычных меркаваньняў стане на бок Лукашэнкі, і ён, ня плацячы дэмакратызацыяй, атрымае ўсё тое, што Эўразьвяз прапануе на пэўных умовах?

**Раманчук:** Я мяркую, што сёньня сытуацыя зусім іншая, чым тая, што была ўва Ўкраіне год таму. Тады быў Юшчанка, і Крэмль хацеў пакараць Украіну, да таго ж у Масквы не было магчымасьці кантраляваць транзыт газу і забясьпечыць сваіх пакупнікоў у Эўропе. Сёньня адносіны паміж Расеяй і Эўразьвязам значна больш шчыльныя. Сёньня ў Брусэлі вельмі добра разумеюць сытуацыю і на бок Лукашэнкі ня стануць.

Але нават калі такая дэкляратыўная падтрымка з боку Брусэлю і будзе, то што гэта дасьць Лукашэнку? Яму ж давядзецца тлумачыць насельніцтву і прадпрыемствам, што няма газу, адключаецца сьвятло, няма з чаго плаціць пэнсіі і заробкі. Гэтых пытаньняў Эўразьвяз ці Крэмль не вырашаюць. Вырашаць іх давядзецца Лукашэнку, які ўзяў на сябе ўсю адказнасьць за сытуацыю.

Так што калі і будуць дэклярацыі Эўразьвязу, што кепска, калі адключаецца газ, то ніякіх рашучых дзеяньняў Брусэлю ў дачыненьні Масквы ня будзе. Цяперашні альянс паміж Масквой і Бэрлінам гарантуе вельмі ўплывовыя пазыцыі Расеі ў Эўразьвязе, якім на сёньняшні дзень нічога не пагражае.

**Якубовіч:** Перш за ўсё я хацеў бы сказаць наконт зьместу дакумэнту, які цяпер жвава камэнтуецца ў Маскве, Эўропе і, зразумела, Менску. Мне здаецца, што ён супярэчлівы. З аднаго боку, Эўразьвяз, пра-

паноўваючы нейкія салодкія пернікі для Беларусі, гаворыць аб тым, што ўсё гэта будзе, калі ня будзе Лукашэнкі і цяперашняга ўраду. З другога боку, там ясна падкрэсьліваецца, што Эўразьвяз прызнае легітымнасьць прэзыдэнта Лукашэнкі.

**Дракахруст:** Спадар Якубовіч, наколькі я ведаю, у гэтым дакумэнце не сказана, што ўмовай зьяўляецца сыход Лукашэнкі і ягонага ўраду. Там гаворыцца пра магчымасьці для апазыцыі, незалежных мэдыяў, але не пра скіданьне ўраду.

**Якубовіч:** Аднак са зьместу гэта вынікае, бо гаворыцца, што ў новай беларускай канфігурацыі Эўразьвяз ня бачыць Лукашэнкі і ягонага ўраду. З другога боку, прызнаецца іх легітымнасьць. Мне здаецца, што тут ёсьць супярэчнасьць. Нягледзячы на антылукашэнкаўскую сутнасьць дакумэнту, прапануецца прэзыдэнту Лукашэнку падтрымка і нейкія схаваныя козыры ў яго канфрантацыі з крамлёўскім кіраўніцтвам. Я мяркую, што гэтыя прапановы ня надта рэалістычныя і ня надта патрэбныя. Ці можна ўсур’ёз паверыць, што на Беларусь могуць пасыпацца нейкія гіганцкія грошы на вырашэньне бягучых эканамічных задачаў?

Віталь Портнікаў ужо казаў пра тое, што ўкраінскае грамадзтва было расчараванае чаканьнямі, якія на Майдане здаваліся яснымі, што як толькі будуць выкананыя ўмовы, як толькі ўкраінскае грамадзтва адгукнецца на эўрапейскія прапановы, адразу ж усе праблемы будуць вырашаныя дзякуючы спонсарскай дапамозе.

Мне гэты дакумэнт нагадвае пугачоўскія «прелестные грамоты», калі грамадзтву даваліся абяцаньні лёгкіх грошай. Гэты дакумэнт вельмі палітызаваны й скіраваны на пашырэньне магчымай канфрантацыі паміж Менскам і Масквой, што ўжо пасьпеў заўважыць расейскі друк. «Известия» пішуць, што Лукашэнка ідзе ў раскрытыя абдымкі Эўропы. Гэтыя чыньнікі, як і не пазбаўленыя цікавасьці меркаваньні Аляксандра Рара, варта браць да ўвагі, але трэба разумець, што апакаліптычныя часы не прыйшлі і наўрад ці прыйдуць у такім выглядзе, як гэта ўяўляе Яраслаў.



Абмяркоўваць дакумэнт трэба, але ня больш за тое. Кідацца на гукі гамэльнаўскай дудкі, якія прагучалі з Эўропы, наўрад ці варта. Як і адмахвацца адразу таксама ня трэба, тым больш што гэтыя прапановы зыходзяць ад такой сур’ёзнай арганізацыі.

Прымаць гэта за чыстую манэту могуць толькі нашы менскія «пікейныя камізэлькі», якім, з аднаго боку, усё ў жыцьці зразумела, а з другога, зразумелым робіцца тады, калі прыйдзе чарговае тлумачэньне з Эўропы.

Наўрад ці маюць рацыю тыя, хто лічыць беларускае кіраўніцтва людзьмі, якія нічога не разумеюць у навакольным жыцьці і толькі рэагуюць на падзеі. Мы пачыналі зь вельмі складанай сытуацыі, цяпер яна стабільная, эканамічна больш-менш прыстойная. Гэта сьведчыць пра тое, што працэс ня быў стыхійным, як гэта часам уяўляюць сабе нашыя лінейнадумныя камэнтатары.

## «Вы ўсе ў адным чоўне»

**Портнікаў:** Эўропа можа быць прыхільнікам беларускай пазыцыі, бо размова ідзе пра лёгіку рынкавай эканомікі, якая палягае ня толькі ў тым, што дзяржава, якая прадае энэрганосьбіты, можа проста так падвышаць на іх цану без дакладнай праграмы такога падвышэньня і тлумачэньня, чаму яно не адбывалася раней. Усяго гэтага ў расейскіх рашэньнях

няма ані адносна Беларусі, ані адносна Ўкраіны, а ёсьць тое, што завецца палітычнай воляй.

Я прыгадваю аповед былога прэм'ер-міністра Расеі Міхаіла Касьянава, які падчас папярэдняга газавага крызісу ў стасунках зь Беларусьсю, у лютым 2004 году, размаўляў з прэзыдэнтам Пуціным і казаў, што калі перакрыць газ, беларусы замерзнуць. Касьянаў тады сустрэўся з поўнай абыякавасьцю да гэтай інфармацыі з боку прэзыдэнта. І гэтая абыякавасьць добра адлюстроўвае стаўленьне Пуціна да грамадзянаў Беларусі і, дарэчы, да прэзыдэнта.

Я заклікаю спадара Якубовіча з вялікай павагай ставіцца да настрояў беларускай апазыцыі (хаця і можна зразумець, што яе пазыцыя яму можа не падабацца), бо цяпер усе ў адным чоўне — і прэзыдэнт, і спадар Якубовіч, і апазыцыянэры, і апошні беларускі селянін. Яны ў тым чоўне, у якім Расея намагаецца зрабіць такую дзірку, каб човен патануў. І калі ён патоне, на дне апынуцца і прэзыдэнт Лукашэнка, і спадар Якубовіч, і апошні беларускі селянін, і лідэры беларускай апазыцыі. Трэба, каб човен выплыў. І хай усе спакойна пастаўяцца да таго, якая на тым чоўне будзе палітычная праграма. Ня гэта галоўнае. Галоўнае — уратаваць беларускую дзяржаўнасьць.

**Дракахруст:** Віталь, але Вы на самым пачатку нашай размовы сказалі, што беларускай дзяржаўнасьці гэты крызіс не пагражае.

**Портнікаў:** Безумоўна. У дадзеным выпадку пад ратаваньнем я маю на ўвазе ўратаваньне нармальнага стану рэчаў у дзяржаве. Я ня маю на ўвазе ліквідацыю беларускай дзяржавы. Але мне здаецца, што калі дзяржава пачынае жыць бедна, калі ў ёй пачынаецца барацьба амбіцыяў на вяршыні ўлады, то тое тычыцца кожнага яе жыхара.



# Беларусь і Расея пасьля 2 сакавіка: якіх зьменаў можна чакаць у беларуска-расейскіх адносінах пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у Расеі?

Наколькі імавернае аднаўленьне праекту саюзнай дзяржавы? Наколькі магчыма, што новая расейская ўлада хутка скасуе эканамічныя прэфэрэнцыі, якія атрымлівае Беларусь?

**2 сакавіка 2008**

Удзельнікі: Дзьмітры Арлоў, Станіслаў Бялкоўскі, Сяргей Караганаў, Сяргей Маркаў, Мікалай Пятроў, Леанід Радзіхоўскі, Марк Урноў, Аляксандар Фадзееў

## Безь пераменаў?

**Дракахруст:** Расейскія палітолягі, незалежна ад іх палітычных поглядаў, не чакаюць кардынальных зьменаў у беларуска-расейскіх адносінах пасьля расейскіх выбараў.

**Маркаў:** Я мяркую, што ніякіх прынцыповых зьменаў у сувязі з прэзыдэнцкімі выбарамі ў Расеі не адбудзецца. Пуцінская каманда застаецца ва ўладзе, пуцінская палітыка будзе працягвацца і, нягледзячы на значнае павелічэньне ролі Мядзьведзева, чалавекам нумар 1 у гэтай камандзе пакуль застаецца Ўладзімер Пуцін. Палітыка адносна Беларусі будзе той жа, хаця яе нельга назваць пасьпяховай. Нягледзячы на агульныя стратэгічныя інтарэсы, Расея і Беларусь занадта многа канфліктуюць, і я мяркую, што ворагі Расеі і Беларусі радуюцца, калі краіны-суседкі спрачаюцца наконт цэнаў на нафту і газ.

**Дракахруст:** Палітоляг і публіцыст Леанід Радзіхоўскі ня бачыць пунктаў сутыкненьня, у сувязі зь якімі зьмены маглі б адбыцца.

**Радзіхоўскі:** Я ня думаю, што расейска-беларускія адносіны неяк зьменяцца. Яны апошнія гады абсалютна стабільныя, можна сказаць замарожаныя. Размовы пра саюз скончыліся, час ад часу пра яго недарэчна прыгадваюць, але гэта зусім ужо рытуальныя заклінаньні, якіх наагул ніхто ня чуе. А ў астатнім — пакрысе, вельмі пакрысе падвышаюць цану на газ. Больш ніякіх адносінаў няма. Ва ўнутраную палітыку Беларусі Расея ніколі ня лезла і цяпер ня лезе, «бацьку» па магчымасьці падтрымлівае, бо ён вельмі выгадны для Масквы.

**Дракахруст:** Старшыня расейскай Рады зьнешняй і абароннай палітыкі Сяргей Караганаў мяркуе, што Беларусь і Расея рушаць у пэўным сэнсе ў адваротных кірунках: Беларусь, паводле Караганава, — да большай лібэралізацыі, Расея — да большага аўтарытарызму, але яны яшчэ не сустрэліся.

**Караганаў:** Ня бачу ніякіх прыкметаў, што адносіны будуць мяняцца. Зразумела, што беларускі рэжым рушыць у бок эканамічнай, калі не палітычнай лібэралізацыі, а ў Расеі ўсталяваўся напаўдэмакратычны аўтарытарны рэжым, праўда, больш свабодны, чым у Беларусі. З прычыны неразумнай палітыкі Захаду ў Расеі няма іншага выйсьця, як падтрымліваць Беларусь у любым выглядзе.

**Дракахруст:** Некаторыя беларускія экспэрты мяркуюць, што падчас візыту Аляксандра Лукашэнкі ў Сочы беларускаму кіраўніку ад кіраўніцтва Расеі былі зробленыя нейкія жорсткія прапановы, ад якіх цяжка адмовіцца. Кіраўнік дасьледчага цэнтру «Экспэртыза» Марк Урноў нязгодны з такой трактоўкай.



**Урноў:** Я не чакаю пасьля 2 сакавіка ці пасьля траўня радыкальных зьменаў ва ўзаемаадносінах. Візыт Лукашэнкі быў зьвязаны з тым, што яму хацелася падстрахавацца і зразумець, як будуць разьвівацца адносіны. Толькі адзін фактар мог бы зьмяніць пазыцыю Расеі — гэта рашэньне зьліцца ў адзіную дзяржаву. Але ў Лукашэнкі такога жаданьня няма, а ў Расеі, адпаведна, няма жаданьня рабіць гэта ў тым фармаце, які падышоў бы Лукашэнку. Гэтага проста не існуе, а значыць, і імпульсаў для радыкальных пераменаў таксама няма. Ідзе балючая выпрацоўка правілаў стасункаў дзьвюх незалежных дзяржаваў, расейская эліта ўсё больш прызвычайваецца да таго, што Беларусь — сапраўды незалежная дзяржава. Ідэя зьліцьця дзяржаваў не падтрымліваецца і грамадзкай думкай у Беларусі.

**Дракахруст:** Паводле палітоляга Станіслава Бялкоўскага, прэзыдэнцтва Мядзьведзева ў беларуска-расейскіх адносінах будзе часам давядзеньня да канца тых тэндэнцыяў, якія азначыліся пры Пуціну.

**Бялкоўскі:** Расейская ўладная эліта насамрэч ніколі не ўспрымала саюзную дзяржаву ўсур'ёз. Проста ў апошнія гады кіраваньня Барыса Ельцына і часткова ў першыя гады кіраваньня Ўладзімера Пуціна гэты фактар быў патрэбны расейскай эліце, каб у пэўных сытуацыях паляпшаць сваё ўнутрыпалітычнае становішча і прадаваць гэты міт расейскаму народу, для якога саюз зь Беларусьсю быў і застаецца вельмі папулярным. Пры Ўладзімеру Пуціну на прынцыповае нежаданьне расейскай эліты ствараць агульную дзяржаву наклалася яшчэ і асабістая непрыязь Уладзімера Пуціна да Аляксандра Лукашэнкі, на што Лукашэнка адказваў узаемнасьцю.

Гэтая непрыязь абумоўленая перш за ўсё адрозьненьнямі ў сыстэмах каштоўнасьцяў і эстэтыцы

двух лідэраў. Пуцін — клясычны постсавецкі бізнэсовец, у той час як Лукашэнка — нэасавецкі першы сакратар ЦК кампартыі саюзнай рэспублікі.

А што тычыцца Мядзьведзева, то ён проста касьмічна далёкі ад Лукашэнкі і ад тых каштоўнасьцяў, якімі жыве прэзыдэнт Беларусі, таму пры ім фактычны крах саюзнай дзяржавы паскорыцца і пяройдзе ў фармальны крах. Таму нельга казаць пра зьяўленьне новых тэндэнцыяў, можна толькі меркаваць, што тэндэнцыі, якія аформіліся пры Ўладзімеру Пуціну, будуць даведзеныя да лягічнага канца.

**Дракахруст:** Дырэктар Агенцтва палітычных і эканамічных камунікацыяў Дзьмітры Арлоў лічыць, што магчымая зьмена толькі стылю адносінаў.

**Арлоў:** У адносінах Расеі і Беларусі пасьля 2 сакавіка ніякіх зьменаў не адбудзецца. Зразумела, магчымая зьмена стылю. Дзьмітры Мядзьведзеў больш спакойны, роўны палітык, ня схільны да яркіх заяваў, часам да палітычнай агрэсіі, што вызначае Ўладзімера Пуціна, але інтарэсы Расеі, зьвязаныя з энэргетычным транзытам, захаваюцца і пры прэзыдэнту Мядзьведзеву.

## Пат саюзнага будаўніцтва

**Дракахруст:** Падчас леташняга сьнежаньскага візыту Пуціна ў Менск хадзілі ўпартыя чуткі, што праект саюзнай дзяржавы выцягнуты з доўгай скрыні, што палітычная інтэграцыя будзе фарсавацца, каб забясьпечыць Пуціну месца саюзнага прэзыдэнта. Нечаканы візыт Лукашэнкі ў Сочы, ягоныя перамовы з кіраўніцтвам Расеі падлілі алею ў агонь такіх гіпотэзаў. Наколькі гэты праект рэальны? Вось меркаваньне кіраўніка аддзелу Беларусі расейскага Інстытуту краінаў СНД Аляксандра Фадзеева.



**Фадзееў:** З майго гледзішча, ён немагчымы, паколькі ў кіроўных клясах дзьвюх краінаў ёсьць істотныя супярэчнасьці наконт разьмеркаваньня ўладных паўнамоцтваў, вызначэньня функцыяў і сфэраў дзеяньня наднацыянальных органаў, нарэшце, ёсьць істотныя супярэчнасьці ў пытаньні, хто будзе ажыцьцяўляць вярхоўную ўладу ў саюзнай дзяржаве.

Пакуль гэтыя разыходжаньні не пераадоленыя і наўрад ці будуць пераадоленыя ў хуткім часе. Паколькі беларускі бок настойвае на раўнапраўным падыходзе менавіта ў гэтым пытаньні, то натуральна, што расейская эліта не зацікаўленая ў такой форме інтэграцыі, калі яна вымушаная будзе як мінімум палову сваіх паўнамоцтваў аддаць беларускаму боку.

Што тычыцца заняцьця Ўладзімерам Пуціным мітычнай пасады саюзнага прэзыдэнта, якой няма ў праекце канстытуцыйнага акту, то я б назваў гэта палітычнымі спэкуляцыямі. Уладзімер Пуцін віртуальную дзяржаву ня будзе ўзначальваць ніколі, і такіх плянаў у яго няма, гэта відавочна.

**Дракахруст:** Калі Аляксандар Фадзееў ужывае далікатныя формулы, сьцьвярджаючы, што расейская эліта не гатовая аддаць беларускаму боку палову сваіх паўнамоцтваў у саюзным утварэньні, то ягоны калега Дзьмітры Арлоў выказваецца больш шчыра і прасталінейна.

**Арлоў:** Аб'яднаньне Расеі і Беларусі магчымае толькі паводле аднаго сцэнара: уваходжаньне Беларусі ў склад Расеі некалькімі суб'ектамі. Гэта абумоўлена маштабамі эканомікі і палітычнай сыстэмы. Іншай формы аб'яднаньня я ня бачу. Улічваючы настроі беларускай палітычнай эліты, перш за ўсё самога Лукашэнкі, мне гэта здаецца малаімаверным.

**Дракахруст:** Цяперашнія заляцаньні афіцыйнага Менску да Эўропы, беспрэцэдэнтнае вызваленьннне

не палітычных вязьняў* — ці ня сьведчаць яны, што Масква робіць на Менск нейкі ціск, які Лукашэнка спрабуе збалянсаваць стасункамі з Захадам?

**Бялкоўскі:** Ніхто з боку Расеі на яго, зразумела, ня цісьне. Расейская ўладная эліта наагул зацікаўленая ў тым, каб мінімізаваць кантакты з Лукашэнкам па любых пытаньнях, акрамя энэргетычных. Чутка аб стварэньні саюзнай дзяржавы, якую ўзначаліць Пуцін, ня мае пад сабой аніякіх падставаў, як ня мела і напрыканцы мінулага году.

Па-першае, Пуцін ня хоча быць прэзыдэнтам саюзу і ня любіць самую ідэю саюзу. Для яго глыбока чужое ўсё савецкае, усё саюзнае, хаця часам ён з каньюнктурнымі мэтамі ўжывае прасавецкую рыторыку і настальгічна пускае сьліну па СССР, але па сутнасьці сваёй ён антысаветчык. Ён клясычны бізнэсовец-фарцоўшчык позьнесавецкага пэрыяду, для якога імпэрскія каштоўнасьці глыбока чужыя.

Акрамя таго, немагчыма ўявіць сабе, каб Аляксандар Лукашэнка аддаў уладу, тым больш ненавіснаму для яго Пуціну. Такія чуткі будуць яшчэ запускацца ў прапагандысцкіх мэтах. Тады, напрыканцы году, гэта было зроблена, каб напалохаць расейскія эліты такой пэрспэктывай, а потым прад'явіць народу пераемніка Дзьмітрыя Мядзьведзева як меншае зло.

А Лукашэнка актывізуе кантакты з Эўразьвязам, бо зразумеў, што Расея — гэта «отрезанный ломоть», яна для яго больш не партнэр і не абаронца, і ён шукае іншыя цэнтры сілы, якія маглі б абараніць і легітымізаваць ягоны рэжым, прычым ня толькі ў Эўропе, але і ў Кітаі. І ён яшчэ пэўны час будзе балянсаваць паміж Эўразьвязам і Кітаем, пасуючы ў адным і другім кірунку. Вызваленьне палітвязьняў — гэта пас у бок Захаду. Ён выбраў удалы момант. У Расеі сытуацыя робіцца больш жорсткай, колькасьць людзей, якіх перасьледуюць паводле палітычных матываў, расьце, і якраз у гэты момант Лукашэнка не ўпускае шанцу выглядаць прыгожым і добрым нават на тле Ўладзімера Пуціна.

**Дракахруст:** З калегам Бялкоўскім не зусім згодны супрацоўнік маскоўскага Цэнтру Карнэгі Мікалай Пятроў. Паводле яго, ня ў тым справа, што Масква ня цісьне на Лукашэнку, а ў тым, што магчымасьці ціснуць досыць абмежаваныя.

**Пятроў:** Я мяркую, што спробы прымусіць Беларусь да палітычнай інтэграцыі паводле расейскай мадэлі ў разумных межах рабіліся. Іншая рэч, што зрабіць гэта па-за разумнымі межамі контрапрадуктыўна. Я думаю, што на дадзеным этапе магчымасьці Масквы нейкім чынам ціснуць на ўладу Беларусі, каб прымусіць яе і Лукашэнку адмовіцца ад сувэрэнітэту, абмежаваныя і ўсе выкарыстаныя.

**Дракахруст:** Пракрамлёўскі палітоляг Сяргей Маркаў бачыць перашкоды на шляху стварэньня саюзнай дзяржавы ў наступным.

**Маркаў:** Я мяркую, што гэты праект па-ранейшаму ляжыць на стале для рэалізацыі, народы Расеі і Беларусі патрабуюць стварэньня саюзнай дзяржавы, але палітыкі паказалі няздольнасьць дамовіцца. Галоўная перашкода — тое месца, якое зойме ў саюзе Аляксандар Лукашэнка. Першае месца ён ня можа

* Напачатку 2008 г. былі вызваленыя асобы, якіх міжнародная супольнасьць лічыла палітычнымі вязьнямі. Гэта Мікалай Аўтуховіч, Зьміцер Дашкевіч, Аляксандар Зьдзьвіжкоў, Андрэй Клімаў, Юры Лявонаў і Артур Фінькевіч. У жніўні таго ж году былі вызваленыя Аляксандар Казулін, Андрэй Кім і Сяргей Парсюкевіч. У лютым 2009 г. арыштаваныя Мікалай Аўтуховіч, Юры Лявонаў і Ўладзімер Асіпенка. Ім было прад'яўленае абвінавачаньне «ў наўмысным зьнішчэньні маёмасьці, якое нанесла страты ў буйных памерах, зьдзейсьненае арганізаванай групай».

заняць па зразумелых прычынах, другое месца яго не задавальняе — ці там мала ўлады, ці мала гарантыяў нязьменнасьці.

Яму гатовыя прапанаваць пасаду віцэ-прэзыдэнта, што ёсьць пасадай нязьменнай, ці пасаду прэм'ера, якая дае вялікую ўладу, але ня ёсьць нязьменнай. Ён хацеў бы быць фактычна другім прэзыдэнтам. Гэта занадта шмат і занадта канфліктна. Праблема пакуль ня вырашаная, да гэтага дадаюцца яшчэ асабістыя адносіны. Але мы спадзяемся, што праблема ўсё ж вырашыцца, і палітыкі рэалізуюць волю народаў Расеі і Беларусі.

**Урноў:** Для гэтага трэба, каб Лукашэнка пагадзіўся. А навошта яму гэта? Апынуцца ў ролі чалавека нумар 2 з сумнеўнай пэрспэктывай? Ціску грамадзкай думкі на яго ня будзе. Ён больш хутка і вельмі лёгка мабілізуе грамадзкую думку Беларусі, падкрэсьліваючы тое, што Расея са сваімі імпэрскімі амбіцыямі ў чарговы раз спрабуе нас зьесьці, паставіць на калені, і пад воплескі большасьці беларусаў будзе супрацьстаяць нашаму ціску. А чым можа быць забясьпечаны ціск? Ізноў газам? Адзін раз памахалі газавай трубой, другі раз памахалі, а на трэці раз гэта ўжо будзе проста сьмешна. Так што няма глебы.

**Дракахруст:** Сяргей Караганаў лічыць, што цяперашнія заляцаньні Лукашэнкі да Захаду не зьвязаныя наўпрост са стасункамі Беларусі з Расеяй.

**Караганаў:** Тупіковасьць эканамічнай палітыкі і палітычнага рэжыму ў Беларусі відавочная. Магчыма, і з Лукашэнкам адбылася пэўная трансфармацыя. Гэта першае, а другое — ён увесь час спрабуе, як і частка беларускай апазыцыі, гуляць «эўрапейскай картай», пагражаючы Расеі, што ён зблізіцца з Эўропай. Для нас збліжэньне ў тых межах, пра якія гаворыцца, пагрозай не зьяўляецца. Чым больш



прыстойнай краінай будзе Беларусь, тым лепш для Расеі. Тое, што ў Беларусі ёсьць палітзьняволеныя, я лічу ганьбай для нашай саюзнай дзяржавы, якая фармальна існуе, і ганьбай для Расеі.

## Адносіны без братэрства

**Дракахруст:** А зараз пра сцэнар, у пэўным сэнсе адваротны інтэграцыйнаму. Ня варта забываць, што да апошняга часу Дзьмітры Мядзьведзеў быў старшынём Рады дырэктараў «Газпрому», таго самага «Газпрому», якім у Беларусі зь некаторага часу пужаюць малых дзяцей.

Дарэчы, на апошнім саміце СНД Уладзімер Пуцін, прэзэнтуючы Мядзьведзева, падкрэсьліў, што той быў суаўтарам расейскай палітыкі на постсавецкай прасторы ў апошнія гады. Дык ці ня можа здарыцца так, што прэзыдэнт Мядзьведзеў скажа: «Ніякага саюзу няма й ня будзе, ніякія вы, беларусы, нам не браты, а незалежная дзяржава, такая ж, як Польшча ці Нямеччына. І плаціце нам за наш газ і нафту так, як павінная плаціць незалежная краіна. Братэрства адмяняецца — рахунак да аплаты».

Ці магчымы такі паварот, контуры якога абазначыліся ў апошнія гады? Сяргей Маркаў нагадвае, што Мядзьведзеў быў усё ж не кіраўніком «Газпрому», а дзяржаўным наглядчыкам за карпарацыяй.

**Маркаў:** Я лічу, што перавод адносінаў на цалкам рынкавыя рэйкі, як з Польшчай ці Нямеччынай, магчымы, але гэта было б паразай Расеі і паразай Беларусі. Ня трэба перабольшваць павелічэньня ролі «Газпрому» ў сувязі з прыходам Дзьмітрыя Мядзьведзева. Ён старшыня Рады дырэктараў «Газпрому», але апэратыўным кіраўніком «Газпрому» зьяўляецца Мілер, а стратэгічным — прэзыдэнт Расеі. Так што не кіраўнік «Газпрому» робіцца прэзыдэнтам.

**Дракахруст:** Аляксандар Фадзееў мяркуе, што Беларусь можа спыніць рух да рынкавых цэнаў на энэрганосьбіты толькі істотнымі крокамі насустрач Расеі ў шэрагу кірункаў.

**Фадзееў:** Беларусь была папярэджаная, што праз пэўны час яна будзе вымушаная пераходзіць на рынкавыя цэны па энэрганосьбітах, якія імпартуюцца з Расеі. Беларусь ня будзе выключэньнем, пра гэта неаднаразова казаў дзейны прэзыдэнт Уладзімер Пуцін. Іншая рэч, што Беларусі, у адрозьненьне ад іншых краінаў, быў дадзены пераходны пэрыяд. За гэты час Беларусь можа, і яна гэта робіць, перайсьці на энэргаашчаджальныя тэхналёгіі, шукаць шляхі пакупкі і транспартаваньня энэрганосьбітаў зь іншых краінаў. Расея гэтаму перашкаджаць ня будзе.

Але пераход на рынкавыя ўмовы будзе адбывацца, праўда, за адным выключэньнем — калі Беларусь будзе рабіць Расеі саступкі палітычнага, ваенна-стратэгічнага кшталту. Тады магчымыя ільготныя пастаўкі, так робіцца ва ўсім сьвеце. Аднак Беларусь да гэтага не гатовая, і таму казаць пра гэта заўчасна.

**Дракахруст:** А на думку Леаніда Радзіхоўскага і без саступак з боку Менску 119 даляраў за тысячу кубамэтраў газу для Беларусі неператворацца ў хуткім часе ў 300 даляраў, як для Польшчы.

**Радзіхоўскі:** Такі сцэнар малаімаверны. Гэтая розьніца не зьяўляецца крытычнай для «Газпрому» і для Расеі. Але яна зьяўляецца крытычнай для Беларусі. Калі ўвядуць такую высокую цану, то пачнуцца ўсе тыя радасьці, якія Расея мае з Украінай: перакрываньне трубы, зрыў паставак у Эўропу, скандал на скандале.

Другое — гэтая ідэя надзвычай непапулярная ў Расеі. Чамусьці расейская грамадзкая думка лічыць, што расейскі патрыёт — гэта той, хто паводзіць сябе, як абсалютны жлоб, адносна ўсяго сьвету, але робіць дарагія падарункі Беларусі. Вось такая моцная дамінанта ў расейскай грамадзкай думцы. А падымаць цэны — раздражняць грамадзкую думку.

Трэцяе — гэта наносіць моцны ўдар па рэжыме Лукашэнкі. Ягоны эканамічны росквіт ці прывід росквіту — за кошт расейскай «халявы». Уявім сабе, што беларускаму народу стане зусім кепска жыць — і абрынецца рэжым Лукашэнкі. І што за радасьць для Расеі? Лукашэнка — кепскі хлопец. На ягоным тле, якая б ні была расейская ўлада, яна ўсё роўна здаецца больш дэмакратычнай. Калі абрынецца рэжым Лукашэнкі, расейская ўлада будзе самай недэмакратычнай ва ўсёй Эўропе, ня будзе шырокай сьпіны «бацькі», за якую можна схавацца.

Ці каштуе гэта ўсё тых некалькіх соцень мільёнаў даляраў, якія «Газпром» атрымае? Зразумела, не.

**Дракахруст:** Паводле Мікалая Пятрова, калі пераход на цалкам рынкавыя двухбаковыя адносіны не адбыўся пры Ельцыну і Пуціну, то рэч не ў нежаданьні Крамля ажыцьцявіць гэты пераход.

**Пятроў:** Я думаю, што ў адносінах Расеі, дзе прэзыдэнт Лукашэнка ўбачыць ужо трэцяга расейскага прэзыдэнта ў якасьці свайго партнэра і калегі, Беларусь знаходзіцца ў пэўным сэнсе ў выйгрышным стане. І калі ні ў Ельцына, ні ў Пуціна, які жорстка выступаў у шэрагу выпадкаў, гэтага не атрымалася, то прычына не ў адсутнасьці жаданьня ці рашучасьці з боку расейскага лідэра, а ў комплексе тых праблемаў, якія робяць ня толькі Беларусь залежнай ад Расеі, але й Расею залежнай ад Беларусі.

Мне здаецца, што радыкальныя зьмены тут немагчымыя, наадварот, можна меркаваць, што прэзыдэнт Мядзьведзеў, прынамсі напачатку, будзе менш спрактыкаваным і менш здольным да палітычнай

гульні з прэзыдэнтам Лукашэнкам, чым гэта было ў выпадку з Пуціным.

**Дракахруст:** На думку Станіслава Бялкоўскага, рух да рынкавых цэнаў адбываецца, але Расея ня можа надта паскорыць гэтага руху.

**Бялкоўскі:** Дэ факта гэта ўжо адбываецца. Калі не прысутнічае ў публічнай прасторы, дык толькі таму, што расейская эліта ня хоча сапсаваць сваіх пазыцыяў, паколькі для расейскага народу міт аб беларуска-расейскім саюзе застаецца вельмі важным і будзе такім яшчэ доўга. І расейская эліта баіцца, што Лукашэнка будзе больш папулярным у Расеі, чым наступны расейскі прэзыдэнт, што ня выключана. Я мяркую, што пры свабодных выбарах прэзыдэнта Расеі, пры вольным доступе да мэдыяў Лукашэнка перамог бы Мядзьведзева адной левай.

Што тычыцца гандлю газам, то досьвед «газавых войнаў», як расейска-беларускіх, гэтак і расейска-ўкраінскіх, паказаў, што Расея залежыць ад транзытных краінаў, Беларусі і Ўкраіны, ня менш, чым наадварот.

Таму Расея павінная ўлічваць плацежаздольны попыт на газ і ня можа падымаць цаны вышэй за яго. Газавы рычаг шмат у чым эфэмэрны, бо на вялікі тэрмін перакрыць заслонку «Газпром» ня можа, ён ня можа скараціць здабычу газу без кансэрвацыі радовішчаў, ён павінен ці адпраўляць газ праз трубу на экспарт, незалежна ад умоваў яго аплаты, ці спальваць. Другое наўрад ці магчыма.

Таму транзытныя краіны, такія, як Беларусь і Ўкраіна, таксама маюць рычагі ціску, якімі і будуць карыстацца, і пэрыядычныя «газпромаўскія» гістэрыкі будуць прыводзіць да нейкіх кампрамісных вынікаў: цана будзе вышэйшай, але яна ня будзе эўрапейскай.

# НА ЗАХАД АД ШЛЯХУ

# Беларуска-польскі канфлікт: перадумовы і пэрспэктывы

Чаму ўзьнік канфлікт вакол новага кіраўніцтва Саюзу палякаў Беларусі? Якую ролю можа і павінен адыграць Эўразьвяз у яго вырашэньні? Якія наступствы будзе мець гэты канфлікт?

**2 жніўня 2005**

Удзельнікі: Станіслаў Бялкоўскі, Мікалай Злобін, Тадэвуш Івіньскі, Аляксандар Рар, Андрэй Фёдараў, Аляксандар Фядута

## Наступ на Саюз палякаў: новая хваля

**Дракахруст:** Два тыдні таму беларуска-польскі канфлікт здаваўся ня вырашаным, але замарожаным. І раптам «баявыя дзеяньні» разгарнуліся з новай сілай: у Беларусі была зачыненая філія Польскага навуковага фонду, выдалены яшчэ адзін, ужо трэці, польскі дыплямат, пэўнай кульмінацыяй стаўся амапаўскі штурм сядзібы Саюзу палякаў Беларусі, у выніку якога старшыня Саюзу Анджэліка Борыс апынулася ў пастарунку, а ў сядзібе — ранейшы кіраўнік СПБ Тадэвуш Кручкоўскі, якога ўлады Беларусі прызнаюць законным кіраўніком гэтай грамадзкай арганізацыі.

Крокі ў адказ зрабіў і польскі бок, выдаліўшы беларускага дыплямата і адклікаўшы зь Беларусі свайго амбасадара.

Рэпартажы пра беларуска-польскі канфлікт нагадваюць зводкі «баявых дзеяньняў», польскія палітыкі ўсур'ёз абмяркоўваюць пэрспэктыву разрыву дыпляматычных адносінаў.

У чым прычына гэтай «халоднай вайны», якая разгарэлася паміж дзьвюма суседнімі краінамі? Вось меркаваньне амэрыканскага дасьледніка, кіраўніка Вашынгтонскага цэнтру абароннай інфармацыі Мікалая Злобіна.



**Злобін:** Прычына такога кшталту падзеяў дастаткова відавочная. Калі побач знаходзяцца дзьве краіны, якія прытрымліваюцца розных сыстэмаў каштоўнасьцяў, то супярэчнасьці паміж імі будуць узьнікаць непазьбежна. Фармальная падстава тут ня мае вялікага значэньня. Людзі, якія спрабуюць аналізаваць гэтыя падставы з абодвух бакоў, па-свойму маюць рацыю. Зразумела, і Польшча, і іншыя краіны Эўропы зацікаўленыя ў тым, каб палітычны рэжым у Беларусі зьмяніўся, каб яна стала нармальнай эўрапейскай краінай. Зь іншага боку, і Беларусь па-свойму мае рацыю, абараняючы свой недэмакратычны рэжым. Але сутнасьць праблемы палягае ў тым, што Беларусь, знаходзячыся ў Эўропе, не зьяўляецца эўрапейскай краінай.

**Дракахруст:** Беларускі аналітык Аляксандар Фядута мяркуе, што канкрэтныя падставы ўсё ж маюць значэньне. Паводле яго, наступ уладаў на Саюз палякаў наўпрост зьвязаны з пэрспэктывай выбараў 2006 году. Аднак Фядута лічыць, што рэч ня ў тым, што ўлада моцна баялася, што польская грамада выступіць супраць Лукашэнкі.

**Фядута:** Уладзе патрэбна, каб была ўплывовая няўрадавая арганізацыя, якая скажа, што выбары 2006 году — цалкам дэмакратычныя, празрыстыя, і ўсё адбываецца так, як трэба. Саюз палякаў быў у гэтым сэнсе вельмі прыдатным для ўлады Беларусі. Па-першае, на чале яго стаяў чалавек, лёгка кантраляваны з боку ўлады. Па-другое, калі б Саюз палякаў — другая паводле колькасьці пасьля прафсаюзаў грамадзкая арганізацыя — сказаў бы, што ўсё доб-

ра… ну, дык добра*. І былі б палітыкі нават у самой Польшчы, якія сказалі б: «Так, у Беларусі ўсё добра, калі нашы палякі кажуць гэта».

Але такая мадэль адносінаў не прайшла. Старшынёй Саюзу палякаў была абраная Анджэліка Борыс, жанчына, наколькі я ведаю, разумная, вельмі стрыманая і якая ніколі не займалася палітыкай. Яна была цалкам гатовая да канфармізму ў адносінах з уладай, акрамя аднаго — ня лезьці ў палітыку. І вось гэта нашу ўладу пачало не задавальняць.

**Дракахруст:** Расейскаму палітолягу Станіславу Бялкоўскаму цяперашні беларуска-расейскі канфлікт бачыцца як вынік страты Расеяй геапалітычнага ўплыву ў рэгіёне. У адрозьненьне ад уладаў Беларусі, якія заяўляюць, што Польшча выконвае загад сваіх заакіянскіх патронаў, паводле Бялкоўскага, Варшава вядзе ўласную гульню, заснаваную на гістарычных рэмінісцэнцыях.

**Бялкоўскі:** Расея перастала быць цэнтрам прыцягненьня постсавецкіх краінаў і стала проста самай вялікай дзяржавай у гэтай частцы зямной кулі.

Іншыя геапалітычныя суб'екты пачалі набіраць сілу і ўрывацца ў гэтую прастору. Польшча заявіла пра свае правы мадэратара канфліктаў на тэрыторыі былога Вялікага Княства Літоўскага і Рускага. Польшча фактычна заявіла пра тое, што адраджае свае

* У жніўні 2005 г. у Ваўкавыску прайшоў зьезд Саюзу палякаў Беларусі, большасьць дэлегатаў якога была схільнаю да супрацоўніцтва з уладамі. На гэтым зьезьдзе старшынём Саюзу быў абраны Юзаф Лучнік. Кіраўніцтва Саюзу, абранае зьездам у Ваўкавыску, не прызнаецца афіцыйнай Варшавай, а ўлады Беларусі не прызнаюць кіраўніцтва Саюзу на чале з Анджэлікай Борыс. З 2005 г. працягваецца перасьлед, у тым ліку і юрыдычны, спадарыні Борыс і яе прыхільнікаў.



гістарычныя амбіцыі і, насуперак Расеі, лічыць Беларусь і Ўкраіну зонай свайго ўплыву і кантролю.

Лукашэнка зьдзейсьніў рэвалюцыю яшчэ ў 1994 годзе і пачаў рэалізоўваць нэасавецкі праект, які ніяк ня ўпісваецца ў тую карціну сьвету, якую хацелі б бачыць у рэгіёне Польшча і Ўкраіна пасьля перамогі «аранжавай» рэвалюцыі.

Лукашэнка абараняецца ад пранікненьня Польшчы як новага мадэратара гэтай часткі Эўропы. Таму адносіны абвастраюцца з кожным днём. Тое, што Лукашэнка ў гэтай сытуацыі дэманстратыўна сябруе з Пуціным, нікога не павінна падманваць — Пуцін і Лукашэнка ненавідзяць адзін аднаго, проста Лукашэнку трэба дэманстраваць сяброўства зь нейкімі кіраўнікамі, калі сьвет вакол яго робіцца ўсё больш варожым.

**Дракахруст:** Беларускі палітоляг Андрэй Фёдараў у пэўнай ступені пагаджаецца з расейскім калегам, аднак нагадвае, што часам Польшча спрабавала адыгрываць у межах Эўразьвязу ролю адваката Беларусі, не зважаючы на існы ў ёй палітычны рэжым.

**Фёдараў:** Я магу пагадзіцца з тым, што Польшча бачыць сябе як нейкі фарпост Эўразьвязу на Ўсходзе і ў адпаведнасьці з гэтым, а таксама памятаючы далёкую, а можа, і адносна недалёкую гісторыю, хоча выкарыстаць свой уплыў дзеля сваёй карысьці, перш за ўсё, але і дзеля карысьці Эўрапейскага Зьвязу таксама.

Яна ўжо даволі даўно праводзіць гэтую палітыку, у Літве яна лічыла сябе і сапраўды была пэўным лякаматывам руху Літвы ў Эўразьвяз і НАТО, а ва Ўкраіне — мы ведаем, якімі былі паводзіны польскага боку.

У Беларусі гэта не атрымліваецца зь вядомых прычынаў, перш за ўсё таму, што беларускае грама-

дзтва пакуль яшчэ ня вельмі гатовае для такіх пераменаў.

Зь іншага боку, Польшча паводзіла сябе іншым разам больш лагодна адносна Беларусі, чым кіраўніцтва Эўразьвязу, яна не падтрымлівала яго візавыя санкцыі, якія ўводзіліся некалькі разоў, супраціўлялася ўвядзеньню эканамічных санкцыяў. Яна спрабавала зрабіць зь сябе нешта накшталт мосту, нават нягледзячы на тое, што Эўразьвяз увогуле даволі нэгатыўна ставіўся да ўнутранай палітыкі ў Беларусі.

Я не магу сказаць, што ў цяперашнім сутыкненьні вінаваты польскі бок, гэта ўсё ж беларуская традыцыя апошніх гадоў — душыць недзяржаўныя арганізацыі, калі яны нейкім чынам не адпавядаюць уяўленьню ўладаў Беларусі. Адным з прыярытэтаў Польшчы ў Беларусі зьяўляецца яе дыяспара, і яна не магла тут не ўмяшацца. Беларускі бок таксама не хацеў ісьці на саступкі. Таму гэты канфлікт пачаўся і таму ён разгараецца.

## Канфлікт беларуска-польскі ці беларуска-эўразьвязаўскі?

**Дракахруст:** У пэўным сэнсе цяперашні беларуска-польскі канфлікт — гэта і чарговае выпрабаваньне для Эўрапейскага Зьвязу, сябрам якога Польшча стала год таму. На працягу ўсяго канфлікту польскія прадстаўнікі неаднаразова падкрэслівалі, што абвастрэньне адносінаў паміж Менскам і Варшавай зьяўляецца не двухбаковай, а агульнаэўрапейскай праблемай. Нядаўна пра гэта заявіў міністар замежных справаў Польшчы Адам Ротфэльд. Аднак адзін з прэсавых сакратароў Эўракамісіі Амадэў Альтафаў выказаў іншае меркаваньне: паводле яго, Брусэль будзе дамагацца ад Беларусі выкананьня правоў чалавека, але ня хоча камэнтаваць «дыпляматычную вайну» паміж Менскам і Варшавай і лічыць гэта двухбаковай праблемай. Дык хто тут мае рацыю? Пытаньне ў Бэрлін, дырэктару праграмаў у пытаньнях Расеі і СНД Нямецкай рады зьнешняй палітыкі Аляксандру Рару.

**Рар:** Я мяркую, што мае рацыю прадстаўнік Польшчы. Польшча ўступіла ў Эўразьвяз, яна ўзяла на сябе пэўныя абавязкі ўмацоўваць наш палітычны саюз, з 2004 году яна аддала частку свайго сувэрэнітэту ў пытаньнях зьнешняй і абароннай палітыкі Брусэлю. Таму натуральна, што калі мае месца канфлікт сябра Эўразьвязу са зьнешнім сьветам, як гэта цяпер адбываецца паміж Польшчай і Беларусьсю, то гэты канфлікт закране ўвесь Эўрапейскі Зьвяз як цэлае. Таму заявы Брусэлю, пра якія Вы гаворыце, выглядаюць недарэчнымі.

Пытаньне Беларусі ўжо даўно стаіць у парадку дня перамоваў Эўразьвязу зь яго ўсходнімі суседзямі, пытаньне дэмакратызацыі Беларусі распрацоўваецца даволі працяглы час, і ўсе сябры Эўразьвязу шукаюць новыя падыходы, як вырашыць гэтую праблему.

Праўда, варта сказаць, што стары Эўразьвяз, якім ён быў да пашырэньня 2004 году, заўсёды казаў, што ён хоча вырашыць беларускую праблему не рэвалюцыйным шляхам, ціснучы на Лукашэнку, а эвалюцыйным. Але ёсьць іншыя меркаваньні, якіх прытрымліваюцца правыя колы ў Злучаных Штатах, а таксама ў Польшчы, дзе апазыцыя гаворыць, што трэба зьмяніць рэжым у Беларусі любымі сродкамі, каб наблізіць гэтую краіну да Эўропы. Лукашэнка, дарэчы, гэта адчуў і ідзе на канфлікт, каб умацаваць свае пазыцыі сярод свайго электарату.

**Дракахруст:** Станіслаў Бялкоўскі мяркуе, што нежаданьне Брусэлю падтрымаць Польшчу ў яе канфлікце зь Беларусьсю мае шэраг дастаткова важкіх чыньнікаў.

**Бялкоўскі:** Польшча — новы сябра Эўразьвязу, яна ў большай ступені арыентуецца на Злучаныя Штаты Амэрыкі, чым на брусэльскую эўрабюракратыю і на краіны-заснавальніцы Эўразьвязу — Францыю і Нямеччыну. Відавочна, што Эўразьвяз стрымлівае геапалітычныя амбіцыі Польшчы. Папершае, бо фактычнае аднаўленьне Вялікага Княства Літоўскага групай дзяржаваў, што знаходзяцца пад уплывам Польшчы, разбурае самую дактрыну Эўразьвязу як аднароднага ўтварэньня, а па-другое, бо Эўразьвяз перасьцерагаецца росту ўплыву Польшчы як саюзьніцы ЗША.

Таму тут ня можа быць поўнага адзінства, у тым ліку і адносна Беларусі.

За Польшчай стаяць Злучаныя Штаты, якія зацікаўленыя ў дывэрсыфікацыі цэнтраў прыняцьця рашэньняў у Эўразьвязе, у чым, у сваю чаргу, не зацікаўленыя Парыж і Бэрлін. Эўразьвяз зацікаўлены ў тым, каб Беларусь бачыла пэўную крыніцу легітымнасьці ў Эўразьвязе цалкам, а ня ў Польшчы асобна.

**Дракахруст:** Віцэ-сьпікер Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы Тадэвуш Івіньскі гаворыць аб прычынах адрозьненьняў пазіцыяў Брусэлю і Варшавы досыць дыпляматычна.

**Івіньскі:** Па-мойму, адна з прычынаў — гэта тое, што цяпер вакацыі, няма магчымасьці сустракацца і глыбей прааналізаваць усе працэсы. Па-другое, шчыра кажучы, у многіх краінаў-сябраў Эўразьвязу няма глыбокага разуменьня ўсходніх праблемаў, асабліва праблемаў Беларусі. Заходнія палітыкі лепш ведаюць праблемы, зьвязаныя з Расеяй, апошнім часам — таксама з Украінай, але няшмат — зь Беларусьсю. Мы тут у Польшчы мяркуем, што праблему нельга зводзіць да двухбаковых стасункаў.



**Дракахруст:** Амэрыканскі дасьледнік Мікалай Злобін схільны да больш рэзкіх ацэнак.

**Злобін:** Варшава хоча падаць гэтую праблему як праблему ўзаемаадносінаў усіх эўрапейскіх краінаў з адзінай недэмакратычнай краінай Эўропы. Я мяркую, што ў такім падыходзе ёсьць вялікі сэнс з гледзішча палітыкі і геапалітыкі. Але, зь іншага боку, эўрапейцы, навучаныя горкім досьведам XX стагодзьдзя, крывавым досьведам канфліктаў, якія ўзьнікалі на этнічнай і рэлігійнай глебе, спрабуюць вельмі акуратна ацэньваць тыя падзеі, якія маюць нацыянальную, этнічную ці рэлігійную афарбоўку. Эўрапейскія чыноўнікі — людзі нясьмелыя ў палітычным пляне.

**Дракахруст:** І нарэшце, паводле беларускага палітоляга Андрэя Фёдарава, пазыцыя Брусэлю тлумачыцца, апроч іншага, тым, што ён мае няшмат рычагоў уплыву на Беларусь.

**Фёдараў:** Кіраўніцтва Эўразьвязу, безумоўна, разумее, што ў яго няма сур'ёзных рычагоў уплыву на беларускае кіраўніцтва. Мы ведаем, што ўжо рабіліся шматлікія захады і Эўрапарлямэнтам, і Эўракамісіяй, але фактычна ні да якіх станоўчых пераменаў у Беларусі яны не прывялі. Кіраўніцтва Эўразьвязу і цяпер ведае, што яно няшмат можа зрабіць, а калі пачне нешта рабіць, а не атрымаецца, то яно ў пэўным сэнсе «згубіць твар». Таму яно паводзіцца пакуль вельмі асьцярожна. Тым больш што Польшча — даволі вялікая краіна, і такая ўжо вялікая дапамога ёй і непатрэбная.

Іншая рэч, што, можа, Эўразьвяз будзе спрабаваць працаваць праз Маскву, каб тая паўплывала на ўлады Беларусі. Але гэта толькі гіпотэза, бо ў Масквы з Польшчай цяпер таксама ня надта добрыя стасункі.

**Дракахруст:** Паводле геапалітычных канструкцыяў расейскага палітоляга Станіслава Бялкоўскага, Польшча мае ўласныя амбіцыі ў рэгіёне, якія стрымліваюць больш мудрыя старыя сябры Эўразьвязу. Схема прыгожая, але ня надта адпаведная фактам. Як нагадаў Андрэй Фёдараў, шмат у якіх сытуацыях менавіта Польшча пярэчыла жорсткім захадам, якія плянаваў адносна Беларусі Эўразьвяз. У сувязі з гэтым чаму ж улады Беларусі разьдзімаюць канфлікт, падштурхоўваючы Варшаву да жорсткай палітыкі?

**Фядута:** Аляксандар Лукашэнка заўсёды адчуваў сябе найбольш камфортна падчас «вайны». Гэта можа быць вайна з уласнай апазыцыяй, з Расеяй ці з усёй Эўропай, як было падчас вядомага крызісу вакол Драздоў*. Зараз яму патрэбная маленькая вайна з Польшчай, і ён будзе ваяваць.

Лукашэнка жыве інтарэсамі аднаго дня, таго, які будзе заўтра. А што будзе пасьлязаўтра — пра гэта мы заўтра і падумаем. Тое, што адбываецца сёньня, адпавядае ягоным інтарэсам наступнага году, як ён іх сабе ўяўляе. Што будзе пасьля гэтага — я ня ўпэўнены, што ён цяпер разважае над гэтым.

У яго ёсьць больш складаная праблема — праблема Масквы. Ён усё яшчэ ня ўпэўнены, што Пуцін да канца будзе яго падтрымліваць. І тое, што ён абвастрае адносіны менавіта з Польшчай, — гэта таксама сыгнал Пуціну. Польшча і Латвія — сёньня дзьве найбольш «балючыя» для Расеі краіны блізкага замежжа.

* Аляксандар Фядута гаворыць аб дыпляматычным крызісе 1998 г., калі ўлады Беларусі прымусілі амбасадараў пакінуць свае рэзыдэнцыі ў Драздах, дзе месьцілася і рэзыдэнцыя прэзыдэнта. На знак пратэсту Беларусь тады пакінулі паслы краінаў Эўразьвязу, ЗША і шэрагу іншых дзяржаваў. Пазьней крызіс быў урэгуляваны, аднак у Драздах амбасадары ўжо не вярнуліся.



## Расея і беларуска-польскі канфлікт

**Дракахруст:** І Аляксандар Фядута, і Андрэй Фёдараў пачалі гутарку пра яшчэ аднаго патэнцыйнага ўдзельніка канфлікту — Расею. Дарэчы, днямі былы міністар абароны Польшчы Браніслаў Камароўскі, характарызуючы цяперашні канфлікт, заявіў, што ў ім за Лукашэнкам стаіць Пуцін.

**Івіньскі:** Я не падзяляю пункту гледзішча свайго калегі спадара Камароўскага. Ключавое пытаньне для мяне — будучыня самога Лукашэнкі. У наступным годзе будуць прэзыдэнцкія выбары, і ён робіць усё, каб умацаваць сваю ўладу, каб быць нанова пераабраным. Я бачу шмат адрозьненьняў у палітыцы Беларусі й Расеі. Я не выключаю, што сапраўды менскае кіраўніцтва хоча ў пэўнай ступені ўцягнуць у арбіту сваёй палітыкі і Расею.

**Дракахруст:** Свой погляд на магчымыя рэакцыі на беларуска-польскі канфлікт галоўных геапалітычных цэнтраў прапануе Мікалай Злобін.

**Злобін:** Сёньня польскае кіраўніцтва імкнецца пératварыць гэтую праблему ў адну з самых заўважальных на кантынэнце і тым самым прыцягнуць да яе ўвагу з боку Эўразьвязу, Злучаных Штатаў і Расеі. Посьпех такой польскай палітыкі будзе залежаць ад таго, наколькі гэтыя краіны пагодзяцца ўключыцца ў вырашэньне існай праблемы. Я мяркую, што ў Маскве зацікаўленасьць у ёй надзвычай вялікая, і пазыцыя Масквы будзе адыгрываць немалую ролю

ў тым, як канфлікт вырашыцца. У Масквы таксама назапасіўся вялікі сьпіс прэтэнзіяў да рэжыму Лукашэнкі, і Крэмль хацеў бы бачыць у Беларусі кіраўніка менш экстравагантнага і больш прымальнага для Захаду.

Што ж тычыцца ЗША, то Беларусь у вачох Вашынгтону — гэта апошняя дыктатура Эўропы, і любую магчымасьць зьмяніць палітычны рэжым у Беларусі Злучаныя Штаты будуць разглядаць вельмі сур'ёзна. Тым больш што Польшча ў апошнія гады стала адной зь любімых краінаў прэзыдэнта Буша, у кіраўніцтва Польшчы цяпер ёсьць наўпроставы выхад на Белы дом, чаго няма ў лідэраў іншых краінаў сьвету. Таму сёньня ў Вашынгтоне ўсур'ёз разглядаецца пытаньне, ці варта Злучаным Штатам умяшацца ў сытуацыю, ці ня можа гэта стаць спускавым кручком зьмены рэжыму, чарговай «каляровай» рэвалюцыі. На сёньняшні дзень я гэтага ня бачу. Але канфлікт толькі разгараецца, і цалкам імаверна, што Злучаныя Штаты праявяць сябе ў гэтай сытуацыі. І тады будзе зразумелай карціна цалкам.

**Дракахруст:** Мікалай Злобін згаджаецца зь меркаваньнем, што ўцягваньне Расеі ў беларуска-польскі канфлікт — важны элемэнт палітыкі Менску.

**Злобін:** Прэзыдэнт Пуцін апошнім часам дае розным сілам уцягнуць сябе ў разборкі, якія яго ці Расеі ня тычацца. Ён усё часьцей робіцца аб'ектам маніпуляцыяў, можа, сам таго не заўважаючы. У выніку ягоны палітычны аўтарытэт робіцца разьменнай манэтай. Прэзыдэнт Лукашэнка ўжо неаднойчы спрабаваў гэта рабіць, і ня толькі адносна Пуціна, але і яго папярэдніка.

Усё, што спрыяе пагаршэньню адносінаў паміж Расеяй і Эўропай, Расеяй і Польшчай, надзвычай выгаднае ўладам Беларусі. Любая расколіна паміж



Расеяй і Эўразьвязам будзе пашырацца Менскам усімі магчымымі сродкамі. Я ня ўпэўнены, што гэта было першапачатковай мэтай прэзыдэнта Беларусі, але з улікам праблемаў, якія існуюць паміж Масквой і Варшавай, я не выключаю, што Беларусь паспрабуе паглыбіць гэтыя супярэчнасьці. Бо калі Расея і Эўразьвяз ва ўсё большай ступені будуць знаходзіць паразуменьні ў пытаньнях эўрапейскай палітыкі, то месца для сёньняшняй Беларусі там не застанецца. Яе месца — там, дзе Расея і Эўразьвяз не знаходзяць згоды.

**Дракахруст:** Большасьць польскіх экспэртаў і палітыкаў выказваюць меркаваньне, што прычына цяперашняга канфлікту палягае ў страху Лукашэнкі перад пэрспэктывай «каляровай» рэвалюцыі. Каб передухіліць такую пэрспэктыву, кіраўнік Беларусі сьвядома правакуе ізаляцыю сваёй краіны.

Цяпер сярод польскіх палітыкаў усе выразьней гучаць прапановы разарваць дыпляматычныя адносіны зь Беларусьсю, польскія гарады перапыняюць партнэрскія сувязі зь беларускімі. На выклікі трэба адказваць, але ці не дасягаецца такім чынам тая самая ізаляцыя Беларусі, да якой імкнуўся Лукашэнка, разьдзімаючы канфлікт?

**Івіньскі:** У гэтым і палягае галоўны выклік. Я шчыра казаў пра сытуацыю ў Сойме. Палітыка Польшчы, якая паводле ацэнак апазыцыі была мяккай, насамрэч была цьвярозай і пазытыўнай, паколькі праблема даволі складаная. Як ізаляваць недэмакратычныя, аўтарытарныя ўлады Беларусі, але пры гэтым не ізаляваць беларускае грамадзтва? Я мяркую, што мы мусім не разрываць дыпляматычных адносінаў, а шукаць рашэньне ў межах Рады Эўропы — я кажу пра гэта як віцэ-старшыня Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы — і ў межах Эўразьвязу.

**Дракахруст:** Наконт таго, ці імкнецца Лукашэнка да ізаляцыі, свой пункт гледзішча мае Станіслаў Бялкоўскі.

**Бялкоўскі:** Лукашэнка сапраўды ў пэўнай ступені зацікаўлены ў ізаляцыі Беларусі, у той ступені, наколькі гэта спрыяе рэалізацыі яго нэасавецкага праекту. І, зразумела, зацікаўлены ў тым, каб ізаляцыя Беларусі адбывалася не зь яго віны. Ва ўзьнікненьні праблемы польскай меншасьці ён не зацікаўлены, і таму занадта далёка ў сваіх антыпольскіх настроях ён ня пойдзе. Гэтак жа і Польшча сёньня не настолькі моцная, каб пайсьці занадта далёка. На ўзроўні рыторыкі напружанасьць будзе ўзрастаць яшчэ неаднойчы, а на ўзроўні канкрэтных справаў бакі спыняцца перад пэўнай рысай, якая адлюстроўвае ступень разуменьня Аляксандрам Квасьнеўскім і Аляксандрам Лукашэнкам тых рызыкаў і пагрозаў, якія зьвязаныя з разрастаньнем канфлікту і яго непрадказальнымі наступствамі.

**Дракахруст:** І нарэшце — да якіх межаў можа дайсьці эскаляцыя цяперашняй напружанасьці?

**Фёдараў:** Магу вызначыць толькі самую крайнюю мяжу, да якой яны пэўна ня дойдуць — ваенных дзеяньняў паміж Беларусьсю і Польшчай з гэтай прычыны ня будзе. Я ў гэтым упэўнены абсалютна. Што да іншага, то могуць быць самыя розныя рэчы. Палякі ўжо адклікалі свайго амбасадара. Я думаю, што зараз наступіць нейкае зацішша, і бакі будуць думаць, што рабіць далей. Бо наступны крок — гэта сапраўды разрыў дыпляматычных адносінаў. І я не выключаю, што ён можа адбыцца, бо ўлады Беларусі цьвёрда стаяць на сваім, а польскі гонар тут адыгрывае не апошнюю ролю.



**Дракахруст:** Расеец Станіслаў Бялкоўскі прагназуе хуткае замарожваньне канфлікту.

**Бялкоўскі:** Я мяркую, што канфлікт на пэўным этапе замарозіцца, і гэты этап даволі блізкі. Разрыву дыпляматычных адносінаў і санкцыяў ня будзе, будзе рэжым узброенага, нядобразычлівага, але ўсё ж нэўтралітэту. Польшча па-ранейшаму праз Украіну і няўрадавыя арганізацыі будзе спрабаваць уплываць на Беларусь і рыхтаваць зьмену рэжыму ў патрэбным для яе кірунку. Але мяркую, што польскія палітыкі выдатна разумеюць, што, у адрозьненьне ад Украіны, у Беларусі рэальнай альтэрнатывы Лукашэнку, хочам мы таго ці не, няма. Таму пакуль Лукашэнка будзе прызнаны ў якасьці адзінай рэальнасьці, здольнай кантраляваць сытуацыю ў Беларусі, зь ім будуць падтрымлівацца фармальныя адносіны і ціск не пяройдзе пэўнай мяжы.

**Дракахруст:** Аляксандар Фядута зьвязвае дынаміку двухбаковых адносінаў з выбарамі — спачатку ў Польшчы, потым у Беларусі.

**Фядута:** На мой погляд, да разрыву дыпляматычных адносінаў ня дойдзе. У Польшчы наперадзе выбары, польскія беларусы — грамадзяне Польшчы, і іх галасоў даволі шмат, каб іх можна было ігнараваць. Тым больш што гэта электарат аднаго з самых уплывовых кандыдатаў на прэзыдэнта, маршалка Сойму Ўладзімежа Цімашэвіча.

А вось што будзе пасьля выбараў у Беларусі?.. Лукашэнка, калі застанецца на трэці тэрмін, атрымае ад польскага боку ўсё, на што ён ня мог разьлічваць нават у самым страшным сьне.

# Эўразьвяз і Беларусь пасьля беларускага рэфэрэндуму 2004 году

Якой будзе палітыка Эўразьвязу ў дачыненьні Беларусі пасьля рэфэрэндуму і выбараў 17 кастрычніка? Якой хацелі б бачыць гэтую палітыку дэмакратычныя сілы Беларусі? Ці варта рабіць заклік «Беларусь — у Эўропу» галоўным лёзунгам передвыбарчай кампаніі апазыцыі на прэзыдэнцкіх выбарах 2006 году?

**18 лістапада 2004**

Удзельнікі: Ганс-Георг Вік, Кляўдыя Нольтэ, Яраслаў Раманчук, Павал Севярынец

## Эўрапейскі Эдып перад беларускім сьфінксам

**Дракахруст:** На гэтым тыдні адбылося некалькі палітычных скандалаў, якія сьведчаць пра тое, што пасьля рэфэрэндуму і выбараў афіцыйны Менск не зьбіраецца адмаўляцца ад канфрантацыі з Захадам, у тым ліку і ад канфрантацыі з Эўропай. У Беларусь не пусьцілі кіраўніка рэгіянальнага аддзелу нямецкага Фонду Эбэрта Гэльмута Курта, а з краіны былі дэпартаваныя карэспандэнты францускай тэлевізіі.

У сваю чаргу, у Эўропе даволі актыўна абмяркоўваюць беларускае пытаньне. Абурэньне тым, як прайшлі выбары і рэфэрэндум, спараджае і адчуваньне тупіковасьці ранейшай эўрапейскай палітыкі адносна Беларусі. А што ўзамен? Якой павінная быць гэтая новая эўрапейская палітыка?

**Раманчук:** Перш за ўсё, мы хацелі б, каб эўрапейская палітыка адносна Беларусі нагадвала амэрыканскую палітыку. Мы хацелі б, каб Эўразьвязам быў прыняты такі ж «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі», які быў прыняты Злучанымі Штатамі, каб Эўразьвяз адкрыў місію ў Менску, каб Эўразьвяз не трапляў



у працэдурную пастку немагчымасьці працаваць у Беларусі з-за таго, што беларускі ўрад ня хоча працаваць з Эўразьвязам. Мы хацелі б, каб Эўразьвяз зразумеў, што Беларусь зьяўляецца апошняй аўтарытарнай краінай на мапе Эўропы, што гэта стварае нестабільнасьць у рэгіёне, што 10 мільёнаў людзей трапілі ў такую пастку, і што грамадзянская супольнасьць Беларусі вельмі чакае дапамогі Эўразьвязу, а ў адказ мы бачым індыфэрэнтнасьць, абыякавасьць да нашай краіны, спробы схавацца за працэдурнымі рашэньнямі.

Мы настойваем і просім Эўразьвяз, каб у канцэпцыі разьвіцьця ўзаемаадносінаў з нашай краінай ён прыняў першы этап, якога няма ў ніводным рамачным дакумэнце пра стасункі зь іншымі краінамі — этап дэмакратызацыі. Гэтыя нашыя пажаданьні, на жаль, вельмі далёкія ад рэалізацыі. Рэчаіснасьць такая, што нам перш за ўсё трэба тлумачыць эўрапейскім партнэрам, што беларускае пытаньне варта вырашаць праз дыялёг менавіта з грамадзянскай супольнасьцю і палітычнымі партыямі Беларусі, а не празь нейкія кулюарныя дамоўленасьці з Масквой, не праз прызму эканамічнага імпэрыялізму расейскага газу.

**Дракахруст:** Павал Севярынец, спадар Раманчук мяркуе, што эўрапейская палітыка адносна Беларусі павінная быць такой жа, як і амэрыканская. Аднак, здаецца, ніхто не імкнецца далучыць Беларусь да ЗША. У той жа час заклікі наконт далучэньня Беларусі да аб'яднанай Эўропы гучаць даволі часта. Пры гэтым варта заўважыць, што на сёньняшні дзень беларуская дзяржава існуе толькі адна — лукашэнкаўская. Калі эўрапейская палітыка будзе тоесная амэрыканскай, у якой ступені гэта будзе спрыяць набліжэньню Беларусі да Эўропы?

**Севярынец:** Шкада, што з геаграфічных і геапалітычных прычынаў мы ня можам папрасіцца ў Злучаныя Штаты. Але калі сур'ёзна, то Беларусь — гэта частка Эўропы, Эўропа — гэта натуральны стан Беларусі, таму мы заклікаем не да таго, каб перасунуць Беларусь кудысьці на Захад, а каб вярнуць Беларусь да таго першапачатковага стану, зь якога нашая краіна, уласна кажучы, і ўзьнікла. «Беларусь — у Эўропу» — гэта супольныя хрысьціянскія карані, супольная духоўная й культурная прастора. І таму «Беларусь — у Эўропу» — гэта заклік да натуральнага стану.

Што магла б зрабіць Эўропа для Беларусі? Гэта, у першую чаргу, цьвёрда адказаць на пытаньне, ці патрэбная Беларусь Эўропе. Самы страшны стэрэатып, які пануе сярод беларускага насельніцтва: «Нас у Эўропе ніхто не чакае». Калі Эўропа хоча бачыць нас у сябе, варта пра гэта заявіць і паставіць адназначную цьвёрдую ўмову: «Беларусь чакаюць тады, калі зьменіцца рэжым Лукашэнкі». Наконт іншых захадаў — перш за ўсё, трэба было б на сустрэчы з Расеяй заявіць пра непрымальнасьць падтрымкі лукашэнкаўскага рэжыму з боку Расеі. Палітычная, маральная, эканамічная падтрымка, якая ажыцьцяўляецца цяпер рэжымам Пуціна, нягледзячы на ўсе акалічнасьці, трымае Лукашэнку. Безумоўна, Эўропа павінная дапамагчы беларускай дэмакратыі інфармацыйна. Некалькі тэлеканалаў, якія б трансьлявалі на Беларусь, зрабілі б больш, чым дзясяткі заяваў Эўрапарлямэнту. Іншымі словамі, болей канкрэтыкі, мэтанакіраванай стратэгіі. Тут я згодны са спадаром Яраславам — амэрыканская палітыка выглядае больш стратэгічнай і канцэптуальнай.

Шлях «задобрываньня» Лукашэнкі, шлях ускоснай падтрымкі Лукашэнкі, перамовы з Лукашэнкам дадуць яму магчымасьць балянсаваць паміж Расеяй і Эўропай, дадуць магчымасьць захоўвацца. Тады мы можам атрымаць дзясяткі гадоў з Лукашэнкам. Таму мне здаецца, што час флірту Эўропы з Лукашэнкам скончыўся — трэба пераходзіць да рашучых дзеяньняў.



**Дракахруст:** А як гэтыя контуры новай палітыкі Эўразьвязу, «рашучыя захады» бачацца з Заходняй Эўропы, прынамсі — з Бэрліну?

**Вік:** Эўразьвяз у часе свайго апошняга саміту вызначыў палітыку новага суседзтва. Пра двухбаковыя дачыненьні зь Беларусьсю не вялося размовы, паколькі беларускае кіраўніцтва не зрабіла ніякіх крокаў на шляху дэмакратызацыі краіны. Тым часам на саміце была вызначаная лінія на ўзмацненьне супрацоўніцтва зь беларускай грамадзянскай супольнасьцю.

Эўрапейскія міністры зоймуцца беларускім пытаньнем дзесьці ў апошняй дэкадзе лістапада. Супрацоўніцтва зь беларускім рэжымам застанецца, але на стрымана-абмежаваным узроўні, будзе інтэнсіўная праца з грамадзянскай супольнасьцю. Наколькі мне вядома, у «партфэлі» эўрапейскага кіраўніцтва шмат прапановаў на гэты конт.

Але пакуль няма нейкай адзінай пазыцыі. Вядома таксама, што ёсьць нямала прапановаў з боку вядомых эўрапейскіх арганізацыяў і палітычных фондаў — напрыклад, Фонду Конрада Адэнаўэра. Усё гэта гучала на апошніх міжнародных форумах у Варшаве, Брусэлі, Вільні. Наколькі я магу меркаваць, ніколі раней Эўразьвяз ня вёў такой інтэнсіўнай працы ў дачыненьні Беларусі, як цяпер, пасьля выбараў і гэтага адыёзнага рэфэрэндуму.

## Ці патрэбны эўрапейскі «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі»?

**Дракахруст:** Амэрыканскі «Акт аб дэмакратыі ў Беларусі» прадугледжвае некаторыя эканамічныя санкцыі. Праўда, санкцыі гэтыя досыць стрыманыя і лібэральныя, і, як патлумачыў амбасадар ЗША ў Беларусі Джордж Крол, галоўны сэнс Акту зусім ня ў іх. А наколькі эфэктыўнымі маглі б быць эканамічныя санкцыі з боку Эўразьвязу?

**Вік:** На працягу сваёй дзейнасьці я ўвесь час быў супраць эканамічных санкцыяў, паколькі яны ня ёсьць эфэктыўнымі. У часы «халоднай вайны», калі міжнародная сытуацыя была значна больш складанай, чым цяпер у канфлікце зь Беларусьсю, існавала гандлёвае супрацоўніцтва з СССР. Тады, безумоўна, не магло быць ніякага стратэгічнага супрацоўніцтва ў галіне тэхналёгіяў. Аднак жыцьцёва важныя для Савецкага Саюзу тавары: збожжа, харчаваньне — экспартаваліся ў СССР, а адтуль на Захад ішлі газ і нафта.

Іншая рэч, што ў дачыненьні Беларусі існуе шэраг палітычных абмежаваньняў з боку Захаду. Напрыклад, пагадненьні аб супрацоўніцтве паміж Эўразьвязам і Беларусьсю не ратыфікаваныя. Эўразьвяз чакае, калі Беларусь трансфармуецца ў дэмакратычную краіну. У якасьці палітычных санкцыяў дзейнічаюць візавыя абмежаваньні для высокіх беларускіх чыноўнікаў, ня выключаная і іншая стратэгія.

**Дракахруст:** Гэтым летам падчас сэсіі Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ ў Эдынбургу кіраўніца працоўнай групы Асамблеі ў справах Беларусі Ута Цапф падпісала з кіраўніком беларускай парлямэнцкай дэлегацыі Міхаілам Ардой мэмарандум пра будучыя беларускія выбары. Выбары адбыліся, іх ацэнкі вядомыя. Сябрам нямецкай парлямэнцкай дэлегацыі была дэпутатка Бундэстагу ад Хрысьціянска-дэмакратычнай партыі Кляўдыя Нольтэ. Ці ня быў мэмарандум памылкай, і калі так, то які ўрок можна зь яе зрабіць?



**Нольтэ:** Што да падпісаньня мэмарандуму зь беларускім бокам у Эдынбургу, то гэта быў вельмі напружаны момант на саміце Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ. Напярэдадні нямецкія парлямэнтары атрымалі ліст ад беларускага амбасадара, у якім гаварылася, што беларуская дэлегацыя на саміце АБСЭ, парлямэнтары зробяць усё, каб супрацоўнічаць, каб правесьці выбары ў адпаведнасьці са стандартамі АБСЭ. Мы далі беларускаму боку такі шанец, прадэманстравалі гатоўнасьць да перамоваў. Аднак у выніку былі вельмі расчараваныя тым, што і выбары, і рэфэрэндум у Беларусі ў любым выпадку не былі ані дэмакратычнымі, ані свабоднымі, ані празрыстымі.

За перамовы зь Менскам у Эдынбургу выступіла мая калега па Бундэстагу ад Сацыял-дэмакратычнай партыі. Гэтую прапанову падтрымала парлямэнцкая большасьць Асамблеі. Я асабіста магу зазначыць, што мае чаканьні ў гэтым сэнсе не былі высокімі. З досьведу былой ГДР мне вядома, што ва ўмовах таталітарнай сыстэмы парлямэнтары ня маюць ніякай самастойнасьці. Галоўнай матывацыяй для прыняцьця таго рашэньня было: Захад ня мае на мэце ізаляваць Беларусь.

Я думаю, што для маіх калегаў па Парлямэнцкай Асамблеі той мэмарандум стаў неблагім досьведам. Калі яны прыбылі ў Менск на выбары, іх двойчы выставілі з выбарчых участкаў з дапамогай міліцыянтаў. Пазьней мы дамовіліся, што распрацуем іншую сумесную рэзалюцыю адносна Беларусі і пададзім яе на абмеркаваньне Бундэстагу. Гэта будзе магчымым альбо на апошнім сьнежаньскім паседжаньні Бундэстагу альбо, калі спатрэбіцца больш часу на падрыхтоўку, на першым паседжаньні ў студзені.

## Навошта Эўропе дэмакратызаваць Беларусь?

**Дракахруст:** Нядаўна Эўразьвяз прыняў вельмі важнае рашэньне пра пачатак перамоваў з Турэччынай аб яе ўступленьні ў Эўразьвяз. Гэтае рашэньне сьведчыць пра тое, што Эўразьвяз не абмяжоўваецца гістарычнымі, культурнымі, рэлігійнымі перадумовамі — ён пачынае перамовы пра ўступленьне з краінай, якая ніколі не была часткай Эўропы, якая на працягу стагодзьдзяў была жахлівай пагрозай Эўропе. На першы плян выходзяць палітычныя, эканамічныя і іншыя ўмовы, якія трэба выканаць, каб уступіць у Эўразьвяз.

Але ў гэтага рашэньня ёсьць і іншы бок. Зь яго можна зрабіць выснову, што калі нейкая краіна, наадварот, мае супольныя культурныя і гістарычныя карані з Эўропай, але абсалютна не адпавядае палітычным і эканамічным умовам, то і размаўляць няма пра што. Ці не падаецца Вам, што гэтае рашэньне адносна Турэччыны, як ні дзіўна, можа адбіцца на нашай краіне ў тым сэнсе, што Эўразьвяз скажа Беларусі: «Калі вы не адпавядаеце канкрэтнаму набору ўмоваў, то вашая культура, вашае колішняе Вялікае Княства Літоўскае ня ёсьць прадметам для размоваў»? Спадар Раманчук, якое Вашае меркаваньне?

**Раманчук:** Каб дыялёг з Эўразьвязам, з нашымі эўрапейскімі калегамі быў пасьпяховым, трэба зыходзіць з рэальнасьці. Тое, што мы належым да Эўропы, ведаем толькі мы самі, у Эўропе вельмі шмат звычайных людзей, на якіх, аднак, і арыентуюцца палітыкі, якія проста ня ведаюць нашай краіны, лічаць, што яна знаходзіцца ў зьвязе з Расеяй. Мы можам гаварыць пра нашую супольную культуру, традыцыі, але гэта сапраўды не зьяўляецца падставай для таго, каб нам быць сябрамі Эўразьвязу. Галоўная праблема на наступныя два гады — каб Эўразьвяз, перш за ўсё Нямеччына і Францыя, зразумелі, што мы не дамагаемся, каб у 2006 годзе Беларусь пачала размовы пра сяброўства ў Эўразьвязе, каб Эўразьвяз быў пастаўлены перад фактам, што гэта трэба зрабіць да 2010 году.



Мы разумеем, што на працягу 15—20 гадоў нам трэба шмат прайсьці, каб уступіць у Эўразьвяз. І на сёньняшні дзень трэба пераканаць Эўропу, што Беларусь тэарэтычна мае такую магчымасьць. Ані наконт Украіны, ані наконт Малдовы, ані наконт Беларусі такое рашэньне яшчэ не прынятае нават у прынцыпе. Прамежкавай мэтай для Беларусі магло б быць сяброўства ў Радзе Эўропы. Мы не павінныя палохаць эўрапейскіх палітыкаў, што мы ледзь ня заўтра зьбіраемся ехаць у Брусэль падпісваць дамову пра далучэньне да Эўразьвязу. Мы мусім паказаць, што добра разумеем сытуацыю, у тым ліку й праблемы самога Эўразьвязу. У адносінах з Эўразьвязам Расея пайшла значна далей, чым Беларусь.

Я мяркую, што трэба перавесьці дыялёг паміж беларускай дэмакратычнай апазыцыяй і Эўропай з тэмы сяброўства Беларусі ў Эўразьвязе, якой эўрапейцы палохаюцца, на тэму дэмакратызацыі нашай краіны. Я ведаю па шматлікіх размовах з дэпутатамі Эўрапарлямэнту, зь іншымі эўрапейскімі палітыкамі, што калі нашая апазыцыя пачынае казаць пра мэту — быць у Эўразьвязе, — яны адразу «закрываюцца», для іх псыхалягічна непрымальная такая пастаноўка пытаньня.

**Дракахруст:** Наступнае пытаньне прагучыць як пытаньне «адваката д'ябла»: навошта Эўропе наагул рабіць нейкія спробы па дэмакратызацыі Беларусі? Магчыма, праводзячы Realpolitik, яна магла б атрымаць больш спрыяльныя ўмовы суіснаваньня са сваім дыктатарскім суседам — а беларускую дыкта-

туру, можа, варта было б палічыць праблемай саміх беларусаў?

**Вік:** Мы скончылі з «халоднай вайной», з савецкім інтэрвэнцыянізмам у Сярэдняй Эўропе — Чэхіі, Славакіі, Вугоршчыне, Польшчы, адбылося аб'яднаньне Нямеччыны. У 1990 годзе мы сумесна падпісалі ў Капэнгагене Каталёг дэмакратычных прынцыпаў, сярод якіх былі свабодныя й дэмакратычныя выбары, правы чалавека, незалежныя суд і мэдыі. Потым у Парыжы была прынятая Хартыя, якую падпісалі краіны былога Варшаўскага пакту і НАТО. Па ўсёй Эўропе, ад Атлянтыкі да Ўралу, вядзецца назіраньне за выкананьнем гэтых прынцыпаў. Мы канстатуем, што Беларусь пад кіраўніцтвам Лукашэнкі вельмі аддаленая ад усяго гэтага. І таму ў кампэтэнцыі эўрапейскіх арганізацыяў, уключна з Радай Эўропы і Эўразьвязам, нагадваць Беларусі пра неабходнасьць адпавядаць дэмакратычным нормам. У меншай ступені гэта дасягаецца праз дыялёг з афіцыйным Менскам, у большай — праз супрацоўніцтва зь сіламі грамадзянскай супольнасьці.

Пасьля выбараў 2000 і 2001 гадоў Беларусь стала палітычна расколатай краінай. У часе мінулых прэзыдэнцкіх выбараў Лукашэнка атрымаў мінімальную большасьць. Цяпер яго папулярнасьць яшчэ больш зьнізілася, што даказваюць апытаньні падчас рэфэрэндуму. Яны таксама паказваюць, што беларускае насельніцтва не зацікаўленае ў тым парадку, які стварыў Лукашэнка. Магчыма, для вэтэранаў, пэўных грамадзкіх слаёў, асабліва ў правінцыі, гэта нармальны парадак, аднак для большасьці насельніцтва — гэта анамалія. Калі б эканамічна ў краіне быў сапраўдны ўздым, то не спатрэбіліся б фальсыфікацыі падчас апошніх выбараў і рэфэрэндуму.



**Дракахруст:** Калі Эўропа прыме нешта падобнае да амэрыканскага «Акту аб дэмакратыі ў Беларусі», ці ня выкліча гэта ў беларускім грамадзтве рэакцыю, адваротную чаканай — прывядзе да росту падтрымкі Лукашэнкі?

**Вік:** Такое пытаньне, я думаю, нават не стаіць. Усе гэтыя захады дзейнічаюць ужо некалькі гадоў пасьля першага рэфэрэндуму, калі ў Беларусі быў усталяваны аўтарытарны рэжым. Сёньня беларускае насельніцтва добра ставіцца і да Расеі, і да краінаў Эўразьвязу. Сёньня ніхто не выключае для Беларусі пэрспэктывы сяброўства ў Эўразьвязе. Стаўленьне да Эўропы ў Беларусі за апошнія 8 гадоў істотна зьмяніліся. І важную ролю адыгрывае той момант, што Беларусь зьяўляецца непасрэдным суседам Зьвязу.

**Дракахруст:** Спадар Вік прыгадаў, што пэўныя санкцыі адносна Беларусі пачалі дзейнічаць яшчэ пасьля першага канстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 году. Тады Палата прадстаўнікоў не атрымала месца ў Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ, у Асамблеі быў рэпрэзэнтаваны Вярхоўны Савет — дакладней, яго дэпутаты, якія не пагадзіліся з вынікамі рэфэрэндуму і не ўвайшлі ў Палату прадстаўнікоў. З прычыны недэмакратычнасьці рэфэрэндуму і выбараў 17 кастрычніка 2004 году ці ня можа быць зьменены статус новаабранай Палаты прадстаўнікоў у Парлямэнцкай Асамблеі АБСЭ?

**Нольтэ:** У мяне пакуль няма ніякай інфармацыі, як Парлямэнцкая Асамблея АБСЭ будзе разглядаць надалей пытаньне сяброўства Беларусі ў сваім складзе. Цяпер, наколькі я ведаю, няма нейкіх праўных магчымасьцяў зьмены статусу. Што да мяне, то я не магу адназначна сьцьвярджаць, было б гэта добра ці дрэнна. Я перакананая, што ў любым выпадку беларускаму кіраўніцтву трэба выразна даводзіць, што

яго антыдэмакратычная палітыка — непрымальная. Заўсёды хочацца мець апошнюю надзею на тое, што ўсё ж існуе нейкі ўзровень, на якім можна весьці перамовы. Вядома, на вялікі посьпех тут ня варта спадзявацца. Але ж трэба ўлічваць, што Беларусь больш не належыць да нейкіх іншых эўраструктураў. АБСЭ і яе Парлямэнцкая Асамблея — адзіныя эўрапейскія структуры, у якіх Беларусь засталася.

**Дракахруст:** Пасьля галасаваньня 17 кастрычніка ў апазыцыйных колах Беларусі атрымала распаўсюд думка, што шляхам выбараў немагчыма вырашыць праблемы Беларусі. Гэтая выснова здаецца вельмі важнай у любых дыскусіях адносна 2006 году. Пытаньне Гансу-Георгу Віку: ці згодны ён зь меркаваньнем, што з дапамогай выбараў беларускія праблемы вырашыць немагчыма?

**Вік:** Самае важнае, каб у межах грамадзянскай супольнасьці ствараліся контуры палітычных і грамадзкіх альтэрнатываў, якія ў любы момант, калі ў гэтым будзе неабходнасьць, прыйдуць на зьмену ўрадавым праграмам. Выбары — гэта адзін са шляхоў да пераменаў. Было б вельмі важна, каб у часе выбараў функцыянавала разгалінаваная сыстэма незалежнага назіраньня, каб праводзіўся паралельны падлік галасоў, экзыт-полы і гэтак далей. Выбары — гэта натуральная, арганічная форма зьмены ўлады, аднак ва ўмовах Беларусі могуць быць выкарыстаныя іншыя формы — адстаўка, штосьці іншае. Але ж падкрэсьлю: самае важнае цяпер — гэта здольнасьць грамадзтва да дзеяньняў. І менавіта на гэтым моманце трэба канцэнтравацца, а не спэкуляваць на тэму, пры якіх уладных перастаноўках магчымыя палітычныя перамены.



## Эўропа як тэма прэзыдэнцкай кампаніі 2006 году

**Дракахруст:** Сярод тых беларускіх дэмакратычных палітыкаў, якія ўсё ж спадзяюцца на перамены ў выніку прэзыдэнцкіх выбараў 2006 году, няма адзінства наконт таго, як гэтага посьпеху дасягнуць. На апошніх парлямэнцкіх выбарах поўнага аб’яднаньня апазыцыі не адбылося. Прынамсі фармальна, паводле вэрсіі кіраўніка Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада» Міколы Статкевіча, прычынай гэтага сталася тое, што кааліцыя «Пяцёрка +» адмовілася прыняць канцэпцыю «Эўрапейскай кааліцыі», што пытаньне эўрапейскага выбару мусіла быць галоўным лёзунгам передвыбарчай кампаніі. Як вынікае з апошніх заяваў спадара Статкевіча, ён і на прэзыдэнцкія выбары будзе прапаноўваць тую ж ідэю.

**Раманчук:** Калі б мы, сядаючы за стол перамоваў, запатрабавалі, каб у супольнай передвыбарчай плятформе было напісана, што лібэралізм — мэта Беларусі, гэта было б пазыцыяй канфрантацыі. Нашыя супярэчнасьці са спадаром Статкевічам і партыяй БСДП зусім ня ў тым, што нібыта мы прынцыпова разыходзімся ў пытаньні, ці павінная Беларусь быць сябрам Эўразьвязу. Мы разыходзімся ў прыярытэтах: на наш погляд, дэмакратычныя сілы Беларусі павінныя вырашаць адно пытаньне, на погляд спадара Статкевіча — другое. І ён суне гэтую эўрапейскую карту туды, куды яна не пасуе: мы гуляем у прэфэранс, а ён спрабуе гуляць у падкіднога. Па сутнасьці, такі падыход разбурае падмурак нармальных адносінаў якраз з Захадам. Бо калі Захад чуе Статкевіча, што задача № 1 для Беларусі — гэта эўрапейская інтэграцыя, Захад шарахаецца ад такога падыходу. Статкевіч такім чынам не набліжае Беларусь да Эўропы, а ізалюе Беларусь ад Эўропы.

Эўропа, і тут я пагаджаюся зь ёй, мяркуе так: беларускім людзям трэба гаварыць сёньня пра дэфіцыт дэмакратыі, пра тое, што яны ня могуць сёньня рэалізаваць свае грамадзянскія правы, пра тое, што Беларусь ізаляваная эканамічна, і па віне ўраду Лукашэнкі мы жывем значна бядней, чым маглі б, і што мы ня можам карыстацца шэрагам праграмаў Эўразьвязу, якімі маглі б карыстацца, нават не зьяўляючыся сябрамі Эўразьвязу. Проста Статкевіч неадэкватна рэагуе на сытуацыю, што мае месца ў Эўропе, і гэта пагаршае адносіны паміж беларускай апазыцыяй і тымі структурамі ў Эўразьвязе, на актывізацыю якіх мы разьлічваем.

**Дракахруст:** «Малады фронт» уступіў у «Эўрапейскую кааліцыю», так што крытыка спадара Раманчука адрасаваная і Вам, спадар Севярынец. Эўрапейскі кірунак — гэта крэда «Эўрапейскай кааліцыі». Чаму Вы думаеце, што гэтая ідэя была б добрай менавіта на прэзыдэнцкія выбары? Прэзыдэнцкія выбары маюць сваю асаблівасьць, там для перамогі трэба прыцягнуць на свой бок палову насельніцтва. Прычым размова ідзе пра тое насельніцтва, якое ёсьць, а не пра тое, якімі беларусаў хтосьці хацеў бы бачыць ці выхаваць. Вы мяркуеце, што гэтае існае насельніцтва так ужо схільнае да гэтай ідэі?

**Севярынец:** Па-першае, зараз у беларускай апазыцыі няма пэрсанальнай альтэрнатывы Лукашэнку, такой, якой стаў Ючшанка ўва Ўкраіне. І менавіта таму грунтаваць гэтую пэрсанальную альтэрнатыву на прэзыдэнцкія выбары лягічна было на арганізацыйнай альтэрнатыве, якая магла б вылучыць лідэра ўжо пад самыя выбары — як гэта было, напрыклад, у Сэрбіі. Насамрэч, сёньняшні стан беларускай апазыцыі — гэта сур’ёзная праблема, але мне здаецца, што яго прычына — зусім не ў «Эўрапейскай кааліцыі».



Наконт эўрапейскай ідэі. Патрэбная ясная альтэрнатыва, моцны лёзунг. «“Пяцёрка +” — хадзем за намі» — гэта ня проста нэўтральны лёзунг, гэта ніякі лёзунг. А вось «Беларусь — у Эўропу» — гэта лёзунг, які зразумелы большасьці насельніцтва. Менавіта таму «Малады фронт», які праводзіў акцыі «Беларусь — у Эўропу» 8 гадоў, выбірае вось такі шлях і вось такую альтэрнатыву.

Мы ведаем, што на прэзыдэнцкіх выбарах будзе прыблізна тое ж, што было 17 кастрычніка. Мы разумеем, што зламаць сытуацыю знутры вельмі складана. Мы павінныя абапірацца на Эўропу, ЗША, каб супрацьстаяць уплыву Расеі і магчымасьці кансэрвацыі рэжыму Лукашэнкі. Для гэтага патрэбная ясная геапалітычная, прабачце за такое банальнае слова, арыентацыя. Калі нам гавораць: «Мы, “Пяцёрка +”, распасьціраемся ад камуністаў да лібэралаў, ад саюзу з Расеяй да саюзу з Эўропай», то, апроч блытаніны, у галовах людзей анічога ня будзе. Лукашэнка ўжо цяпер займае нішу патрыятызму, нішу нацыяналізму. Апошняя кампанія пад лёзунгам «За Беларусь» — відавочны сыгнал усяму нацыянальнаму руху, які губляе ініцыятыву ў дадзеным пытаньні.

Але разам з тым мы павінныя ісьці далей. Калі Лукашэнка сёньня гаворыць пра Беларусь, пра беларускія каштоўнасьці, давайце мы пойдзем далей, паставім плянку яшчэ вышэй, давайце прапануем Эўропу. Геапалітычны выбар Беларусь павінная зрабіць. Насамрэч ён ляжыць у аснове ўсіх палітычных супярэчнасьцяў, і ён ёсьць ключом, якім адмыкаецца праблема рэжыму Лукашэнкі.

Лукашэнка ўдала балянсаваў паміж Расеяй і Эўропай, схіляючыся больш на бок Расеі. І захоўваў сваю дыктатуру. Зараз трэба адназначна заявіць: «У

Эўропе такога, як Лукашэнка, не пацярпяць». Масква, дзякуючы сваёй бізантыйскай палітыцы, можа падтрымліваць Лукашэнку яшчэ колькі заўгодна доўга, будзе там Пуцін ці пераемнік Пуціна. Лукашэнка адстойвае стратэгічныя інтарэсы Расеі. Нам трэба заявіць адназначна: «Мы — за ўваходжаньне ў Эўропу». І пакуль мы ў Эўропу ня ўвойдзем, мы ня можам пачувацца бясьпечнымі, маючы тысячакілямэтровую мяжу з Расеяй.

Мы разумеем, што перад намі ёсьць цяжкасьці, але палітыка ёсьць пераадоленьнем цяжкасьцяў. Наша задача — за найбліжэйшыя паўтара году стварыць альтэрнатыву Лукашэнку, спачатку арганізацыйную, а потым зь яе атрымаць альтэрнатыву асабістую, лідэра, які здольны супрацьстаяць Лукашэнку, і лепшай плятформы, чым эўрапейская плятформа, я пакуль, па шчырасьці, ня бачу.

Змаганьне за нацыянальную ідэю апазыцыя ўжо прайграе. Адмовіўшыся ад ідэі апазыцыйнага руху як сутнасна нацыянальнага, мы аддалі ініцыятыву Лукашэнку. І таму ясная і простая ідэя, якая заўжды турбуе беларуса: ён глядзіць то на Захад, то на Ўсход — што выбіраць. Мы павінныя прыводзіць сытуацыю да таго, каб большасьць людзей выбрала Эўропу. Дарэчы, калі ня ставіць рэзка пытаньне: «Вы за Расею ці за Эўропу», — то за Эўропу гатовая галасаваць якраз такі большасьць. Захоўваючы добрыя стасункі з Расеяй, мы, тым ня менш, уваходзім у Эўразьвяз — чым не фармулёўка?

Што тычыцца эўрапейскіх палітыкаў, то там ёсьць рознае стаўленьне. Дастаткова любому зь іх паглядзець на мапу, як ён убачыць: геаграфічнае сэрца Эўропы трапляе ў Беларусь. І гэта трэба тлумачыць людзям. Менавіта для гэтага трэба езьдзіць на Захад, а ня толькі для таго, каб атрымліваць там указаньні, што нам зараз рабіць і якія крокі распрацоўваць.



**Дракахруст:** І напрыканцы — ізноў у Бэрлін. Як паведаміў спадар Вік, да канца гэтага месяца Эўракамісія правядзе адмысловае паседжаньне, на якім будзе выпрацоўваць стратэгію адносна Беларусі. Але ці ня сталі парлямэнцкія выбары і рэфэрэндум сьведчаньнем няздольнасьці Эўропы ўплываць на беларускую сытуацыю? Можа, праблема тут не ў няправільнай палітыцы, а ў фактычнай немагчымасьці такога ўплыву?

**Нольтэ:** Ва ўсялякім разе, трэба канстатаваць, што Лукашэнка не рэагуе на адпаведныя чаканьні заходніх краінаў. Менску неаднойчы выказваліся настойлівыя пажаданьні адносна выбараў, каб яны праходзілі дэмакратычна, свабодна й празрыста. Аднак з боку ўладаў Беларусі не было зроблена ніякіх намаганьняў у гэтым кірунку.

Лукашэнка дэманструе сваю негатоўнасьць да дыялёгу з Захадам. Зразумела, значных надзеяў паўплываць на беларускую сытуацыю мець нельга. Важна даць адказ на пытаньне: «А што мы будзем рабіць з усім гэтым далей?» Я мяркую, што людзі ў Беларусі мусяць ведаць, што Нямеччыну і Эўразьвяз вельмі хвалюе сытуацыя ў гэтай краіне, што Эўропа хоча падтрымаць дэмакратычнае разьвіцьцё ў Беларусі.

# Якія наступствы будуць мець вынікі рэфэрэндумаў у Францыі і Галяндыі?

Што азначае «не» Эўрапейскай Канстытуцыі, якое прагучала на францускім і галяндзкім рэфэрэндумах? Ці не прывядзе гэты крызіс да распаду Эўразьвязу ў цяперашнім выглядзе? Ці можа Эўразьвяз пайсьці шляхам «інтэграцыі дзьвюх хуткасьцяў» — стварэньня «клюбу абраных» і «другой лігі»? Як вынікі галасаваньня ў Францыі і Галяндыі паўплываюць на палітыку пашырэньня Эўразьвязу — на далучэньне да яго Турэччыны, балканскіх і постсавецкіх краінаў, у прыватнасьці Ўкраіны і Беларусі?

**6 траўня 2005**

Удзельнікі: Андрэй Дынько, Зянон Пазьняк, Аляксандар Рар, Фёдар Лук'янаў

## Злучаныя Штаты Эўропы ці Эўропа Айчынаў?

**Дракахруст:** Цяперашні працэс інтэграцыі Эўропы бярэ пачатак з 1952 году, калі Францыя, Нямеччына, Бэльгія, Галяндыя, Італія і Люксэмбург стварылі Саюз вугалю і сталі. За больш чым 60 гадоў Эўропа зьведала некалькі крызісаў, якія, здавалася, ставілі пад сумнеў працяг працэсу аб'яднаньня: у 1954 годзе Францыя заблякавала стварэньне Эўрапейскай абароннай супольнасьці, у 1992 годзе Данія на рэфэрэндуме адхіліла Маастрыхцкую дамову аб ператварэньні Эўрасупольнасьці ў Эўразьвяз, у 2001 годзе Ірляндыя на рэфэрэндуме не падтрымала рэформы Зьвязу і далучэньня да яго новых сябраў з Усходняй Эўропы.

Але крызісы так ці інакш пераадольваліся, у прыватнасьці, у Даніі і Ірляндыі прайшлі паўторныя рэфэрэндумы, на якіх згода была ўсё ж атрыманая. Але на гэты раз і праект аб'яднаньня быў значна больш амбіцыйным, чым ранейшыя, і адхілілі яго



нацыі-заснавальніцы эўрапейскай інтэграцыі. Да таго ж крызіс, які перажываецца сёньня, людзі заўсёды схільныя лічыць самым драматычным і самым прынцыповым, які закранае самыя падмуркі, асновы існаваньня.

Канцэптуальны погляд на прычыны цяперашняга эўрапейскага крызісу прапануе старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ Зянон Пазьняк.

**Пазьняк:** Мая агульная ацэнка такая: сама ідэя стварэньня цэнтралізаванай аб'яднанай Эўропы са сваім урадам, прэзыдэнтам небясьпечная, бо гэтая ўлада можа пераўтварыцца ва ўладу некантраляваную. Адным словам, такая ідэя — імпэрская. І народы Эўропы не хацелі б жыць у краіне, дзе бюракратыя будзе вырашаць усё.

Гэта — падсьвядомая рэакцыя. Народы Эўропы хацелі б жыць у дзяржавах-айчынах, дзе нацыянальныя традыцыі маюць значэньне, дзе захоўваюцца традыцыі культуры, дзе ёсьць свая валюта, свой інтарэс, і, адпаведна, павага да гэтага інтарэсу з боку іншых краінаў і з боку краіны, якая гэты інтарэс мае.

Тое, што прапанавала Францыя і Нямеччына, — гэта шлях да цэнтралізаванай Эўропы, якая, урэшце, мае пагрозу і для правоў чалавека, і для нацыянальных культураў. Як бы пра гэта ні гаварылі, як бы не абстаўлялі дыпляматычна. Вось асноўная ідэя, якая рухае людзьмі ў Эўропе. Хаця прычыны могуць быць рознымі. У Францыі — гэта прычыны сацыяльнага пляну, людзі былі напалоханыя наплывам з Усходу таннай працоўнай сілы. Гэтая ідэя стварэньня цэнтралізаванай краіны — памылковая.

Ёсьць іншая ідэя, якая ў Эўрапейскім Зьвязе таксама падтрымліваецца. Гэта — Эўропа Айчынаў. Мне здаецца, пасьля рэфэрэндумаў ня будуць адмаўляцца ад ідэі аб'яднаньня, але яна павінная пад-

карэктавацца з улікам рэфэрэндумаў. Я думаю, што пазыцыя Эўропы Айчынаў тут узмоцніцца. Калі гэтага ня будзе зроблена, калі будзе пазыцыя ўпартая — даказаць сваё, гэта прывядзе толькі да расколу. Я думаю, будуць зробленыя высновы і карэктаваньне палітыкі. Такі варыянт — найлепшы.

**Дракахруст:** Пасьля таго, як сталі вядомымі вынікі францускага рэфэрэндуму, прэзыдэнт Жак Шырак заўважыў, што Францыя засталася ў тым Эўразьвязе, у якім была ў суботу 28 траўня, за дзень да галасаваньня. Але ці так гэта? Ці ня можа вынікам францускага і ўжо і галяндзкага рэфэрэндумаў стаць дэмантаж той канструкцыі Эўразьвязу, які існаваў дагэтуль? Дарэчы, літаральна праз паўгадзіны пасьля абвешчаньня вынікаў галяндзкага рэфэрэндуму тамтэйшы міністар фінансаў заявіў, што Галяндыя плаціць у бюджэт Зьвязу больш за ўсіх у пераліку на душу насельніцтва, і гэта трэба зьмяніць. Ці не паказальная заява?

**Лук'янаў:** Канструкцыя, якая існавала да мінулай суботы, адчувала вялікую ўнутраную напружанасьць, зьвязаную зь леташнім пашырэньнем. Прэм'ер-міністар Бэльгіі Гі Вэргафстат днямі вельмі вобразна сказаў, што эўраінтэграцыя — як ровар, ён устойлівы, пакуль рушыць наперад. І сапраўды, эўраінтэграцыя — настолькі неймаверны і амбіцыйны праект, што ён можа разьвівацца толькі наперад.

Зразумела, цяжка сабе ўявіць адмову ад эўра — быў бы катаклізм усясьветнага маштабу, гэта дакладна было б канцом эўрапейскай інтэграцыі, і яно малаімаверна. Але відавочна, што шмат пытаньняў давядзецца абмяркоўваць нанова: і фінансаваньне, і субсыдыі, і прынцыпы.

Цікава, што французы прагаласавалі супраць, бо Канстытуцыя занадта лібэральная, галяндцы — бо занадта зарэгуляваная. Чым больш краінаў, тым складаней знайсьці кампраміс.

І таму спадзявацца, што Эўразьвяз будзе актыўна ангажавацца ў праграму новага суседзтва, у працу зь Беларусьсю, Украінай, Малдовай, не выпадае.

Калі яны зоймуцца такой працай, то ў хуткім часе страцяць галоўнае, што ў іх ёсьць, — унутранае адзінства.



## Дзе апынулася Эўропа пасьля рэфэрэндумаў у Францыі і Галяндыі?

**Дракахруст:** Пра пэрспэктывы пашырэньня Зьвязу крыху пазьней, а зараз слова Андрэю Дыньку, які нязгодны з расейскім калегам.

**Дынько:** Эўразьвяз не разваліцца ад паразы Канстытуцыйнага праекту. Эўропа застанецца Эўропай Айчынаў, але гэта ня будзе азначаць развалу Эўразьвязу. За Эўразьвязам стаяць дзьве вялікія ідэі — ідэя салідарнасьці і ідэя свабоды, гэта значыць, узаемадапамогі эўрапейцаў і адкрытасьці межаў у Эўропе.

Гэтыя дзьве вялікія ідэі па-ранейшаму падзяляюць як палітычныя эліты, бізнэс-эліты, гэтак і шырокія слаі насельніцтва. Зь іншага боку, эліты разглядаюць Эўразьвяз як нешта вельмі выгаднае для разьвіцьця іхніх краінаў, гэта галоўная зарука таго, што ён застанецца.

**Дракахруст:** Прынцыпы салідарнасьці і адкрытасьці — рэчы сапраўды цудоўныя. Адначасна і брусэльская эўрабюракратыя — зьява насамрэч маланатхняльная, і, магчыма, менавіта нежаданьне падпарадкоўвацца ёй і было адным з чыньнікаў францускага і галяндзкага «не». Але хто тэхналягіч-

на забясьпечвае гэтыя выдатныя прынцыпы ў Эўропе? Проста тамтэйшыя добрыя норавы і звычкі? А хіба не менавіта тая самая эўрапейская бюракратыя? Ці можа адно існаваць без другога?

**Дынько:** Напэўна, не. І калі б зараз у Францыі ці Галяндыі прайшоў бы рэфэрэндум, ці варта ім заставацца ў Эўразьвязе, то абсалютная большасьць выбарнікаў прагаласавала б «за». Толькі малаўплывовыя палітычныя сілы ў Францыі выступаюць супраць удзелу краіны ў Эўразьвязе як такім.

Нелягічна меркаваць, што гэтыя рэфэрэндумы ставяць пад пагрозу існаваньне Эўразьвязу. Яны ставяць пад пытаньне амбіцыі эўрапейскіх палітычных элітаў і бізнэс-элітаў да стварэньня супэрдзяржавы. Французы і галяндцы фактычна прагаласавалі супраць стварэньня супэрдзяржавы, яны хочуць пакуль ці заўжды будуць хацець захаваньня сваіх нацыянальных дзяржаваў. Іх нацыянальныя пачуцьці аказаліся мацнейшымі за жаданьне стварыць наднацыянальную супольнасьць.

Гэта, дарэчы, цікава з гледзішча тэорыі нацыяў — наколькі нацыі будуць жывучымі, наколькі лёгка яны будуць саступаць месца нейкім наднацыянальным супольнасьцям, ці гэта ўсё ж сталыя ўтварэньні, якія так проста ня сыдуць з гістарычнае арэны.

Да французскага і галяндзкага рэфэрэндумаў толькі Гішпанія ратыфікавала Канстытуцыю таксама на рэфэрэндуме, астатнія краіны, дзе адбылася ратыфікацыя, ухвалілі яе ў парлямэнтах. Тое, што ўхваленьне прайшло ў парлямэнтах, — зразумела: абсалютная большасьць эліты дзьвюма рукамі за паглыбленьне інтэграцыі, за ўмацаваньне наднацыянальных структураў. Але грамадзяне, нацыі вельмі сумняюцца.



## Адзіная Эўропа ці Эўропа Realpolitik узору XIX стагодзьдзя?

**Дракахруст:** І спадар Дынько, і спадар Пазьняк казалі пра Эўропу Айчынаў як пра станоўчую альтэрнатыву адзінай эўрапейскай дзяржаве, Злучаным Штатам Эўропы. Але значную частку сваёй гісторыі, скажам, у XIX стагодзьдзі, Эўропа і была неінтэграванай Эўропай Айчынаў. І гэта, дарэчы, была Эўропа войнаў і, між іншага, Эўропа, дзе ўсё вырашалі моцныя, якія ні ў якой ступені не лічыліся з інтарэсамі малых нацыяў. Ці такая гэта натхняльная пэрспэктыва?

**Пазьняк:** Эўропа XIX стагодзьдзя — гэта Эўропа імпэрыяў, гэта Габсбурская, Нямецкая, Атаманская (на значнай частцы Эўропы) імпэрыі, гэта Расея. Манархіі не лічыліся з думкай народаў, яны кроілі Эўропу як хацелі, у сваіх інтарэсах. І якраз рух да аднаўленьня Эўропы ішоў праз адмаўленьне ад імпэрскага свавольства і праз стварэньне Эўропы Айчынаў. Выяўленьнем такіх ідэяў была «Вясна народаў». І яна аднавіла Эўропу. Але працяг імпэрскага распаду ішоў фактычна ўсё XX стагодзьдзе, маючца на ўвазе Першая і Другая ўсясьветныя войны. І толькі пасьля Другой усясьветнай вайны стабілізавалася Эўропа Айчынаў, Эўропа дэмакратыяў.

Нацыянальная дзяржава ня можа быць недэмакратычнай, самая нацыянальная ідэя мае на ўвазе стварэньне нацыянальнай дзяржавы, абапіраецца на нацыю, на ўвесь народ. І няможна інакш вырашыць праблемы нацыянальных інтарэсаў, як разам, супольна. Таму ўжо самая гэтая ідэя мае на ўвазе дэмакратыю.

Эўропа, якая ўтварылася пасьля вайны і распаду сыстэмаў Савецкага Саюзу, імкнецца замацаваць свае набыткі XIX стагодзьдзя. Тут узьніклі пэўныя

паракосы, але няма аніякай падставы казаць, што паўтараецца сытуацыя, якая была ў XIX стагодзьдзі. Гэта ўжо зусім іншы сьвет, іншыя ідэі, няма ўжо ані манархаў, ані традыцыяў манархіі.

Але ёсьць геапалітычныя інтарэсы, якія адыгрываюць вялікую ролю ў любой палітыцы — і амэрыканскай, і нямецкай. Нямеччына цяпер разьвіваецца, думае пра будучыню, але той мэтад, які прапаноўвае Ёшка Фішэр і Жак Шырак, каб умацаваць Эўропу пад бэрлем бюракратыі, не ўспрымаецца эўрапейскімі людзьмі. Пасьля гэтых рэфэрэндумаў трэба глыбока задумацца і адкарэктаваць палітыку. Калі гэта ня будзе зробленае, а будзе ізноў націск, то перш за ўсё пацярпяць паразу тыя палітыкі, якія будуць гэтае рабіць, а самая ідэя будзе скарэктаванай, я мяркую, у лепшы бок.

**Дракахруст:** Пасьляваенная Эўропа — гэта сапраўды Эўропа дэмакратычных нацыянальных дзяржаваў, але гэта адначасна і Эўропа інтэграцыі — яшчэ раз нагадаем, Саюз вугалю і сталі 6-ці дзяржаваў быў створаны ў 1952 годзе. Што больш паспрыяла таму, што войны і дамінаваньне моцных адышлі ў мінулае — нацыянальныя дзяржавы ці іх аб'яднаньне? Адказ на гэтае пытаньне, як мінімум, невідавочны.

## «Польскі сантэхнік»: рэха пашырэньня Эўразьвязу ў 2004 годзе

**Дракахруст:** Напярэдадні рэфэрэндуму ў Францыі адным з галоўных лёзунгаў праціўнікаў Канстытуцыі было «Абаронім француcкага працаўніка ад канкурэнцыі "польскага сантэхніка"». Наколькі гэты фактар, гэты страх перад наплывам канкурэнтаў з новых краінаў-сябраў і магчымых будучых краінаў-



сябраў быў істотным? На думку Фёдара Лук'янава, ён быў вырашальным.

**Лук'янаў:** Ужо стала зразумела, што старая Эўропа новую Эўропу не прыняла. Ня тое што адкінула, але не прыняла. Насельніцтва краінаў, якія інтэграваліся 50 гадоў, не разумее, навошта патрэбна гэтае пашырэньне. З гледзішча эканомікі яно Эўропе пакуль нічога не дае, хутчэй забірае. З гледзішча палітыкі сумневаў яшчэ больш, паколькі большая частка новых краінаў-сябраў у ірацкай калізіі рашуча падтрымала Злучаныя Штаты, кінуўшы выклік сваім донарам зь Нямеччыны і Францыі. І ўзьнікае пытаньне: «А гэтыя людзі — навошта ў нашым саюзе, які мы гэтак старанна і доўга будавалі?»

**Дракахруст:** Андрэй Дынько з інтэрпрэтацыяй спадара Лук'янава нязгодны цалкам.

**Дынько:** У 1992 годзе на папярэднім рэфэрэндуме ў Францыі Маастрыхцкая дамова была ратыфікаванай зь мінімальнай перавагай галасоў. Мітэрану тады ледзь удалося пераканаць суайчыньнікаў прагаласаваць «за». Між тым «польскага сантэхніка» яшчэ не было нават на даляглядзе. І Турэччыны не было. Што здарылася цяпер? Цяпер проста на 5% больш людзей прагаласавала супраць. Калі нехта і кіраваўся тут імкненьнем адгарадзіцца ад таннай працоўнай сілы з Усходу, дык гэта ўсё ж не асноўная частка тых, хто галасаваў супраць.

Матывацыі былі самымі рознымі, але пераважная большасьць людзей, якія галасавалі супраць і ў 1992 годзе, і цяпер, не прымае ідэі перадачы палітычных і эканамічных функцыяў рэгуляваньня ад нацыянальных дзяржаваў у эўрапейскі цэнтар, баіцца размываньня сваёй культурнай ідэнтычнасьці ў адзінай Эўропе.

**Дракахруст:** Шмат хто, у тым ліку і з нашых сёньняшніх суразмоўцаў, тлумачыць галасаваньне на рэфэрэндумах французаў і галяндцаў іх прыхільнасьцю да нацыянальных каштоўнасьцяў, нацыянальных сувэрэнітэтаў, нежаданьнем перадаваць іх нейкай наддзяржаўнай бюракратыі. Але насамрэч тыя ж французы даволі прыхільна ставяцца нават да больш шчыльнай інтэграцыі, чым прапануе Канстытуцыя, але ў сваім звыклым коле: Францыя + Нямеччына +, магчыма, краіны Бэнілюксу.

Ідэя ня новая, летась яе паўтарыў прэзыдэнт Францыі Шырак. Ці ня можа так здарыцца, што вынікам цяперашняга крызісу стане падзел Эўропы на два колы інтэграцыі: вельмі шчыльна інтэграваны «клюб абраных» і ўсе астатнія, пэрыфэрыя?

**Рар:** Цалкам імаверна, што будучы Эўрапейскі Зьвяз у найбліжэйшыя 10—20—30 гадоў будзе сапраўды пабудаваны як матронка: будуць 3—4 дзяржавы, зацікаўленыя ў самай шчыльнай інтэграцыі, іншыя — толькі ў эканамічнай, яшчэ нехта — у нейкіх яе прамежкавых формах.

Эўразьвяз можа рушыць і гэтым шляхам, але тут ёсьць калясальныя праблемы. У Эўразьвязе могуць зьявіцца «шэрыя зоны», асабліва гэта тычыцца тых краінаў, якія ня трапілі ў Зьвяз ці толькі што ўвайшлі ў яго і маюць патрэбу ў палітычнай падтрымцы з боку старых сябраў аб'яднаньня. Яны могуць ня мець гэтай падтрымкі, калі Эўропа будзе ісьці да аб'яднаньня на розных хуткасьцях.

Другі момант — трэба разумець, што «не» аб'яднанай Эўропе сказала Францыя, якая 50 гадоў выношвала гэтую ідэю і разам зь Нямеччынай выступала за яе пабудову.

Францыя цяпер пры любым прэзыдэнту — Шыраку ці кім іншым — ужо ня можа выступаць маторам інтэграцыі, яна выходзіць з гульні. Застаюцца немцы, якія знаходзяцца таксама на мяжы перамены ўлады. І шмат якія ключавыя пытаньні, тое ж уступленьне ў Эўразьвяз Турэччыны, будуць разглядацца зусім інакш, чым пры цяперашнім урадзе.



Наперадзе шмат крызісаў, і ў лепшым выпадку мы будзем казаць пра гістарычную паўзу, якую Эўразьвяз вымушаны ўзяць. У горшым выпадку мы будзем казаць пра поўнае замарожваньне інтэграцыйных працэсаў, пра тое, што Эўразьвяз аказаўся няздольным перайсьці ад эканамічнага саюзу да палітычнага, які ў будучыні мог быператварыцца ў Злучаныя Штаты Эўропы.

### Ці зачыняюцца дзьверы пашырэньня?

**Дракахруст:** Паводле ацэнак экспэртаў, вынікі францускага і галяндзкага рэфэрэндумаў не перашкодзяць уступленьню ў Эўразьвяз Баўгарыі і Румыніі — рашэньне аб гэтым прынятае і наўрад ці будзе пераглядацца. А вось Турэччына, перамовы аб уступленьні якой пачнуцца сёлета ў кастрычніку, Харватыя, якая стаіць у чарзе, Украіна, якая дэклявала свой шлях у Эўропу, Беларусь, якая ў будучыні магла б зрабіць падобны выбар, — як крызіс адаб'ецца на іх шанцах далучыцца да Эўразьвязу? І дарэчы, калі ўжо ўлада эўрабюракратаў такая кепская, то ці варта Беларусі імкнуцца пад гэтую «дыктатуру» Брусэлю? У Эўропе Айчынаў можна быць, ні да кога не далучаючыся.

**Дынько:** Пра якую дыктатуру Брусэлю Вы гаворыце? Ужо сам факт, што адбываюцца рэфэрэндумы і людзі галасуюць супраць, сьведчыць пра адваротнае. Дыктатура — гэта калі праводзіцца рэфэрэндум, на якім ніхто ня лічыць галасоў, а пасьля абвяшчаецца, што 85% — «за». Вось гэта дыктатура.

Калі для людзей непрымальныя нейкія ідэі, яны проста адкідаюцца, а прымаюцца новыя.

Я думаю, што гэтыя рэфэрэндумы пазытыўна адаб’юцца на пэрспэктывах далучэньня Беларусі да Эўропы. Беларусі было б цяжэй далучыцца да моцна інтэграванай Эўропы, якая непазьбежна пачала б ператварацца ў замкнёнае кола. Але лёгка далучыцца да гнуткага, адкрытага саюзу дзяржаваў.

Дарэчы, беручы нашыя беларускія паралелі, трэба адзначыць істотную розьніцу ў працэсах інтэграцыі Беларусі і Расеі ды эўрапейскай інтэграцыі, якія часта параўноўваюць. Калі ў Эўропе палітычная эліта і бізнэс-эліта амаль уся аднадушна падтрымлівае працэс інтэграцыі, то ў Беларусі палітычная эліта, і асабліва бізнэс-эліта, вельмі насьцярожана ставяцца да інтэграцыі з Расеяй. Яны бачаць у ёй патэнцыйную пагрозу для свайго статусу, а таксама для статусу дзяржавы як такой, для яе культурнай ідэнтычнасьці.

Карэнная розьніца паміж інтэграцыяй у межах Эўразьвязу і той інтэграцыяй, якая адбываецца на постсавецкай прасторы, ці можа ня столькі адбываецца, колькі дэкляруецца, палягае ў тым, што ў Эўропе інтэграцыя не замахваецца на культурную ідэнтычнасьць нацыяў, не замахваецца на роўнасьць нацыяў. Зараз толькі ідэя стварэньня палітычнай наднацыянальнай супольнасьці пачала рэалізоўвацца, і то, як бачым, вельмі асьцярожна, і невядома, ці будзе яна ўвасобленая ў жыцьцё.

**Дракахруст:** Фёдар Лук’янаў зь лёгікай беларускага калегі не пагаджаецца.

**Лук’янаў:** Уступіць у саюз дзяржаваў, магчыма, прасьцей, чым у саюзную дзяржаву, але для ўступленьня трэба, каб гэтая супольнасьць дакладна вызначыла, што яна сабой уяўляе, якой яна хоча быць і дзе яна бачыць свае межы. Гэта пачалося ня ў дзень францускага рэфэрэндуму, а гады два-тры таму. Пасьля посьпеху ўвядзеньня наяўнага эўра перад кіраўніцтвам, элітай Зьвязу зьявіліся, як ім здавалася, велізарныя пэрспэктывы, і амбіцыі рэзка ўзрасьлі.

Было адчуваньне, што Эўропа робіцца магутным міжнародным гульцом, аб’яднаным ня толькі законамі, каштоўнасьцямі і правіламі, але і валютай, што спрадвеку было апірышчам сувэрэнітэту. Зьявілася ўражаньне, што Эўропа можа ўсё што заўгодна, — адначасна паглыбляць інтэграцыю і распаўсюджвацца на сумежныя тэрыторыі. Выглядае, што гэтыя два працэсы прыйшлі ў супярэчнасьць.

Зразумела, што Швэцыя вельмі адрозьніваецца ад Гішпаніі, але палітычны мэнталітэт там аднатыпны. І зусім іншае, калі ў гэтую сям’ю ўліваюцца нацыі, якія прайшлі зусім іншую школу і маюць зусім іншы палітычны мэнталітэт.

Нежаданьне зь меркаваньняў паліткарэктнасьці заўважаць гэтую розьніцу прывяло да разбалянсаваньня ўсёй сыстэмы.

# Веснавыя «замаразкі»

Якая лёгіка стаіць за раптоўным паваротам уладаў Беларусі да палітычных «замаразкаў»? Наколькі імаверна, што Эўропа падтрымае эканамічныя санкцыі адносна Беларусі, уведзеныя Злучанымі Штатамі? Якую ролю адыгрывае расейскі фактар у цяперашніх палітычных «замаразках» у Беларусі?

**9 красавіка 2008**

Удзельнікі: Віктар Марціновіч, Марцін Шэн, Фёдар Лук'янаў

## Чаму скончылася «адліга»?

**Дракахруст:** Калі распачаўся дыпляматычны канфлікт Менску з Вашынгтонам*, многім здавалася, што Аляксандар Лукашэнка спрабуе згуляць на супярэчнасьцях паміж ЗША і Эўразьвязам, варагуючы заднымі і наладжваючы адносіны з другімі.

Лукашэнка асабіста вёў перамовы з амбасадарам Нямеччыны ў Менску, кіраўнік беларускага Міністэрства замежных справаў Сяргей Мартынаў сустракаўся ў Бэрліне з кіраўніцтвам нямецкага замежнага ведамства, шасьцёра палітвязьняў выйшлі на волю. І раптам — брутальны разгон маніфэстацыі на 90-годзьдзе БНР і масавыяператрусы ў офісах замежных тэле- і радыёканалаў і ў кватэрах іх карэспандэнтаў. Тут ужо нават самыя вялікія эўрапейскія прыхільнікі дыялёгу з афіцыйным Менскам разводзяць рукамі — ну што тут зробіш, ня хочуць людзі, дакладней, адзін чалавек, прытрымлівацца хоць якой прыстойнасьці. Міністэрства замежных справаў Нямеччыны выступіла з рэдкай для яго заявай. І тут — чарговы раўнд дыпляматычнай вайны з Амэрыкай, новае патрабаваньне аб скарачэньні пэрсаналу амбасады, цяпер ужо да 7 чалавек.

Якая палітычная лёгіка такой зьмены пазыцыі Менску, чаго і якім чынам ён зьбіраецца дамагчыся?

**Марціновіч:** Сапраўды, тое, што адбылося, не ўкладаецца ў лёгіку мінулых палітычных падзеяў у Беларусі, падзеяў прынамсі апошніх 6 месяцаў. Самае прыгожае тлумачэньне гэтага павароту, якое я чуў, — гэта кланавая вэрсія. Паводле яе, апошнія падзеі абумоўленыя ранейшым супрацьстаяньнем паміж сілавымі групоўкамі, паміж МУС і КДБ. Яны спаборнічалі ў дэманстрацыі прэзыдэнту, хто зь іх больш «круты» ў абароне дзяржаўнага парадку ў Беларусі. На карысьць гэтай вэрсіі гаворыць тое, што 25 сакавіка жорсткія дзеяньні міліцыі пачаліся раптоўна. Але гэтая вэрсія не тлумачыць, чаму спаборніцтва паміж сілавікамі не выходзіла з-пад коўдры, чаму мы ўжо працяглы час ня бачылі такой крыві на вуліцах і такіхператрусаў у кватэрах журналістаў замежных мэдыяў.

У мяне ёсьць адчуваньне, што цягам апошніх месяцаў палітыка Беларусі генэравалася не самім прэзыдэнтам, а ягоным атачэньнем, дакладней, часткай гэтага атачэньня, якую з доляй умоўнасьці можна назваць лібэральнай. Відавочна, што ідэя дыялёгу з Эўропай была прапанаваная не самім прэзыдэнтам, ён, відавочна, адчуваў сябе няёмка, калі казаў пра эўрапейскую інтэграцыю. Ён больш утульна пачуваецца ў кантэксьце інтэграцыі з Расеяй. А цяпер Лукашэнка вярнуўся. І тое, што мы сёньня бачым, — гэта рэалізацыя стандартнай палітыкі à la Лукашэнка, палітыкі жорсткай, прамой і пры гэтым эфэктыўнай.

* У лістападзе 2007 г. Злучаныя Штаты ўвялі эканамічныя санкцыі адносна беларускага дзяржаўнага канцэрну «Белнафтахім». У адказ у сакавіку 2008 г. з Вашынгтону быў адкліканы пасол Беларусі Міхаіл Хвастоў. МЗС Беларусі пад пагрозай выдварэньня дамогся ад'езду зь Менску пасла ЗША Карэн Ст'юарт. На патрабаваньне Менску штат амбасады ЗША ў Беларусі зьменьшыўся з 35-ці да 4-х супрацоўнікаў.

Чаму ж прэзыдэнт адмовіўся ад лініі, прапанаванай «лібэраламі» ў ягоным атачэньні?

На мой погляд, гэта абумоўлена адным чалавекам — Аляксандрам Казуліным. Вось такая тактыка «лібэралаў» уперлася ў фэномэн Казуліна, калі б яго вызвалілі і ён зьехаў у Нямеччыну, то ў нас бы і цяпер працягваўся дыялёг з Эўропай і ні пра якія брутальныя разгоны дэманстрацыяў і перасьлед журналістаў не было б і гаворкі.

**Дракахруст:** Марцін Шэн, а якой гэтая лёгіка бачыцца Вам, дзеля чаго і чаму адбылася такая рэзкая зьмена палітыкі?

**Шэн:** Можна пагадзіцца зь Віктарам, што мае месца момант кланавай барацьбы, што існуе суперніцтва паміж «галубамі» і «ястрабамі» ў атачэньні прэзыдэнта. Але мне таксама спадабалася вэрсія, паводле якой у рэжыму ёсьць уласная лёгіка, і Лукашэнка робіць тое, што ён заўсёды ўмеў рабіць лепш за ўсё, — гэта гуляць, гуляць на палітычным полі. Пры гэтым ЗША тут не вырашальны гулец. Ёсьць клясычны трохкутнік: Беларусь—Эўразьвяз—Расея.

Многія меркавалі, што Менск выкарыстоўвае эўрапейскі варыянт менавіта дзеля таго, каб гуляць з Расеяй. Аляксандар Лукашэнка выдатна ведае, што рэальнага збліжэньня з Эўразьвязам у яго ня можа быць, бо ягоныя краіны-чальцы дамовіліся паміж сабой на гэтыя 12 патрабаваньняў. Зразумела, што яны ня могуць быць выкананымі. Лукашэнка можа паразмаўляць з тым або іншым амбасадарам, можа паказаць сваю добрую волю, вызваляючы палітвязьняў, але раней ці пазьней ён мусіць закруціць гайкі хаця б дзеля таго, каб паказаць апазыцыі, што ёй нельга надта свабодна паводзіцца.

Так што сярод прычынаў, якія прымусілі Лукашэнку так зрабіць, ёсьць унутрыпалітычныя: паказаць сілам унутры Беларусі, што ня будзе сцэнара, на які шмат хто разьлічваў, маўляў, зараз пачнецца лібэралізацыя, нарэшце адбудуцца вольныя выбары і гэтыя сілы прыйдуць да ўлады. А другі чыньнік — зьнешнепалітычны. Апошнімі дзеяньнямі Лукашэнка гаворыць Эўразьвязу: «Я ня буду гуляць паводле вашых правілаў, я вам пайшоў насустрач, вы кроку ў адказ не зрабілі, дык гэта мая краіна, я тут гаспадар і сам вырашаю, што мне рабіць».



Рэакцыя Эўразьвязу на такі паварот сытуацыі паказвае, што там да гэтага не былі гатовыя. Там чакалі, што будзе адкрыцьцё Беларусі, будзе збліжэньне, чакалі, што Менск будзе паводзіць сябе так, як звычайна паводзімся мы, калі вядзем перамовы: што ніхто ня робіць крокаў назад. Але Лукашэнка не гуляе паводле гэтых правілаў, і цяпер у Эўразьвязе назіраецца пэўная разгубленасьць, там ня ведаюць, што рабіць.

**Дракахруст:** Фёдар Лук'янаў, а якую лёгіку бачыце Вы ў гэтым раптоўным павароце беларускай палітыкі?

**Лук'янаў:** Я не выключаю, што гэты ланцужок дзеяньняў зьвязаны зь першапачаткова памылковым разьлікам прэзыдэнта Лукашэнкі. Бо калі ён сапраўды лічыў, што Беларусь здольная гуляць у «кепскую Амэрыку і добрую Эўропу», то мне здаецца, што ён проста неадэкватна ацэньвае сытуацыю. Часткова падобную палітыку магла б праводзіць Расея. Да яе можна ставіцца як заўгодна, але яе немагчыма ігнараваць. Пры гэтым варта сказаць, што Расея, калі і спрабуе гуляць на супярэчнасьцях паміж ЗША і Эўразьвязам, то робіць гэта вельмі асьцярожна.

Аляксандар Рыгоравіч вельмі пераацэньвае значнасьць Беларусі — ніхто ня будзе ладзіць складаныя інтрыгі (асабліва калі гэта тычыцца такіх шчыль-

ных саюзьнікаў, як ЗША і Эўропа) дзеля Беларусі, пры ўсёй павазе да гэтай дзяржавы.

Магчыма, зразумеўшы, што гэты плян не працуе, Лукашэнка пакрыўдзіўся, і вось вынік — эмацыйная рэакцыя на камбінацыю, якая не атрымалася.

## Ці далучыцца Эўропа да амэрыканскіх санкцыяў?

**Дракахруст:** Санкцыі супраць канцэрну «Белнафтахім», уведзеныя ЗША, пачынаюць праяўляцца ў самых нечаканых сфэрах. То зь Беларусі сыходзіць кампанія крэдытных картак, то кампутарныя фірмы сутыкаюцца з адмовай амэрыканскіх партнэраў супрацоўнічаць зь імі. На гэтым тыдні пасол Беларусі ў Літве распавёў пра цяжкасьці, якія мае ў гэтай краіне філіял канцэрну «Белнафтахім», сур'ёзныя банкі адмаўляюцца абслугоўваць яго апэрацыі. Старшыня Нацыянальнага банку Пётар Пракаповіч, камэнтуючы заяву пасла, сказаў, што самае небясьпечнае — калі да амэрыканскіх санкцыяў далучыцца Эўразьвяз. А гэта магчыма?

**Шэн:** Я лічу вельмі малаімаверным, што Эўразьвяз пойдзе на нейкія эканамічныя санкцыі. Па-першае, мне здаецца, што пазыцыю Эўразьвязу часам наагул цяжка вызначыць, гэта не маналітная структура, там кожная краіна мае свае інтарэсы. Гэта можна было выразна бачыць пры абмеркаваньні пытаньня, ці пазбаўляць Беларусь гандлёвых прэфэрэнцыяў*. Рашэньне ўрэшце было прынятае, але засталося пытаньне, наколькі вялікую шкоду прычыніла гэтае рашэньне беларускай эканоміцы.

* Беларусь была выключаная з Генэральнай сыстэмы прэфэрэнцыяў Эўразьвязу ў чэрвені 2007 г. Падставай стала заключэньне Міжнароднай арганізацыі працы, што ў Беларусі сыстэматычна парушаюцца правы незалежных прафсаюзаў. Паводле ацэнак беларускіх афіцыйных органаў, страты эканомікі ад гэтай меры склалі каля 12 мільёнаў эўра ў год.



Па-другое, ці зацікаўленыя дзяржавы Зьвязу пайсьці на такія крокі, калі па-ранейшаму значная частка энэрганосьбітаў ідзе ў Эўропу праз Беларусь. Да таго ж яна лічыцца часткай зоны ўплыву Расеі. З улікам усяго гэтага ў Эўразьвязе мяркуюць, што з-за правоў чалавека ня варта ісьці на канфлікт, каб потым адчуць яго наступствы.

Цяпер шэраг эўрапарлямэнтароў, прадстаўнікоў іншых эўраструктураў выступаюць з рэзкімі заявамі наконт Беларусі. Але такія заявы гучаць усе апошнія 10 гадоў. Яны вельмі моцна гучалі пасьля апошніх прэзыдэнцкіх выбараў. Тады быў момант, калі мне асабіста здавалася, што нешта канкрэтнае будзе зроблена. Але калі тады нічога не было, то як цяпер нешта будзе? Гэта нерэальна.

Нават прадстаўніца Эўрапарлямэнту Элізабэт Шротдэр, якая звычайна рэзка выказваецца наконт Беларусі, нядаўна сказала, што Эўразьвяз ня хоча нанесьці шкоды беларускаму насельніцтву.

**Дракахруст:** Віктар, ці згодны Вы з Марцінам? Вось ён напачатку нашай гутаркі казаў пра «трохкутнік», адным з «кутоў» якога зьяўляецца Зьвяз. Але высьвятляецца, што пернікаў у яго няшмат і нейкія яны няпэўныя, а бізуноў дык і наагул няма.

**Марціновіч:** Эўразьвяз не далучыцца да санкцыяў ЗША. Хутчэй за ўсё размова пойдзе пра санкцыі, прынятыя раней, — я маю на ўвазе візавыя для некалькіх дзясяткаў службовых асобаў Беларусі. Тэрмін тых санкцыяў канчаецца 10 красавіка, і яны проста скажуць, што забарона на ўезд працягваецца яшчэ на год. Таксама ня будуць вернутыя гандлёвыя прэфэрэнцыі.

**Чым вышэйшая цана на газ, тым больш свабоды?**

**Дракахруст:** І напрыканцы — пра расейскі «кут» трохкутніка, пра які казаў Марцін. Сэнсацыяй гэтага тыдня стала заява расейскага пасла Сурыкава, што падвышэньне ад 1 красавіка цаны на газ для Беларусі са 119 да 128 даляраў за тысячу кубамэтраў — сёлета апошняе. 128 — гэта вельмі малая лічба ня толькі ў параўнаньні з цаной для Ўкраіны, але, здаецца, і паводле базавай дамовы ад сьнежня 2006 году, дзе зьмена формулы цаны расьпісаная да 2011 году і паводле якой Беларусь ужо сёлета павінная плаціць даляраў 200. Дык як трэба разумець такі жэст? У якой ступені наагул сытуацыяй у беларуска-расейскіх адносінах можна патлумачыць і беларуска-амэрыканскую дыпляматычную вайну, і чарговыя палітычныя «замаразкі» ў Беларусі?

**Марціновіч:** Я б зьвярнуў увагу на тое, што візыт расейскага прэм'ера Віктара Зубкова адбыўся напярэдадні жорсткіх дзеяньняў, якімі скончылася беларуская «адліга». Ужо тады Мікола Статкевіч сказаў, што мы будзем ведаць, як будзе паводзіць сябе міліцыя, па выніках візыту Зубкова. Калі цану на газ падвысяць істотна, то ўсё будзе добра. Калі кошт не падвысіцца ці падвысіцца ненашмат, то будуць лютаваць. Так і адбылося: цана падвысілася ненашмат, міліцыянты лютавалі, «адліга» пачала канчацца.

Можна выказаць такую гіпотэзу, што ў пэрыяд падзелу ўлады паміж атачэньнем Мядзьведзева і атачэньнем Пуціна Расеі лепш ні з кім не сварыцца.

Можа, сваю ролю адыграў і той факт, што Беларусь цяпер публічна сварыцца з Амэрыкай, і Расеі гэта прыемна. Але адзінае, пра што можна казаць дакладна, дык гэта пра ўзаемасувязь паміж цаной на газ і ступеньню дэмакратыі ў Беларусі. Калі расейскі газ будзе танным, дэмакратыі тут ня будзе, бо ў Беларусі ня будзе патрэбы кантактаваць з Эўропай. І «лібэралы» ў атачэньні прэзыдэнта ня будуць мець важкіх аргумэнтаў, каб запэўніць Лукашэнку, што такі дыялёг патрэбны.

Мае расейскія калегі кажуць, што недзе да верасьня будзе канчаткова зразумелая новая канфігурацыя расейскай улады. І вось тады яна вернецца да беларускага пытаньня і пачне падвышаць кошт на газ. Цяперашнія словы Сурыкава тут нічога не гарантуюць, бо ён не зьяўляецца пэрсонай, якая прымае такія рашэньні.

**Дракахруст:** Марцін, Вы пагаджаецеся з гэтай «формулай Марціновіча»: чым вышэйшая цана на газ для Беларусі, тым больш у Беларусі свабоды?

**Шэн:** Прынцыпова я згодны зь Віктарам. Але я б не пагадзіўся з тым, што цана на газ і наагул паводзіны Расеі могуць разьвівацца ў такі бок, што адбудзецца дэмакратызацыя Беларусі ў сэнсе лібэралізацыі палітычнай сыстэмы. Мне здаецца, што Расея не зацікаўленая ў дэмакратызаванай Беларусі, якая набліжаецца да Эўропы. Расеі гэта нецікава, бо яна губляе ня толькі палітычнага сатэліта, але й даволі карыснага партнэра. Гэта рынак збыту, гэта магчымасьць інвэставаць свой капітал. І таму нават калі Расея пойдзе на паступовае падвышэньне цэнаў на газ для Беларусі да рынкавых, гэта будзе суправаджацца захадамі, якія будуць падтрымліваць зацікаўленасьць Лукашэнкі быць больш блізкім да Расеі, чым да Эўропы: будуць танныя крэдыты, будуць іншыя субсыдыі — Расея ня будзе паводзіць сябе так, каб згубіць Беларусь. Цяперашняе мізэрнае падвышэньне цаны на газ я тлумачу гэтак жа, як і Віктар, — расейскай эліце не патрэбныя ніякія забурэньні, ніякія публічныя спрэчкі з «братамі».

Яшчэ невядома, як пэўныя групоўкі эліты будуць рэагаваць на новага расейскага прэзыдэнта, якую рэальную ролю будзе адыгрываць Пуцін у новай сыстэме ўлады. Пакуль гэта ня высьветліцца, Расея будзе весьці сябе спакайней.

Калі казаць наагул, то мне здаецца, што Беларусі выгадна гуляць і з Эўразьвязам, і з Расеяй і не далучацца ні да кога. Аляксандар Лукашэнка проста выдатна гуляе на гэтым полі. І я б даў яму яшчэ доўгі тэрмін. Пакуль я ня бачу сур'ёзных падставаў, чаму гэтая гульня павінная скончыцца.

**Лук'янаў:** Сапраўды, абвешчанае падвышэньне выглядае больш чым гуманным. Пры тым, што цэны растуць, і Расея ўсяляк нагадвае сваім кліентам, што рынак дыктуе свае законы. Што да Беларусі, то тут, нягледзячы на нядаўнія канфлікты, падыход вельмі чалавечы. Я мяркую, прычына тут у тым, што Расея пры новым прэзыдэнту будзе дзейнічаць гэтак жа, як і пры старым, але будзе імкнуцца быць больш вытанчанай.

Тое, што Беларусі даецца больш прывілеяваны цэнавы статус, безумоўна, ня можа не базавацца на нейкіх чаканьнях Расеі адносна Беларусі.

Я мяркую, што будзе ўзяты курс на тое, каб Беларусь рабілася ўсё больш залежнай ад Масквы. Залежнай эканамічна, бо што тычыцца залежнасьці палітычнай, гэта цяпер зусім непапулярна ў Крамлі, бо ўсе зразумелі, што гульня з суседнімі краінамі ў сяброўства, у саюзьніцтва нічога не дае.

А вось эканамічная залежнасьць — наадварот, што паказаў досьвед апошніх гадоў, калі Расея рэзка ўзьняла цэны і заняла бескампрамісную пазыцыю. Папулярнасьці Расеі гэта не дадало, але вельмі выразна паказала межы як самастойнасьці многіх краінаў постсавецкай прасторы, так і межы здольнасьці і гатоўнасьці Захаду штосьці рабіць на постсавецкай



прасторы. Адна рэч — абстрактна патрабаваць дэмакратызацыі, другая — уступаць у жорсткае змаганьне з Расеяй і браць на сябе выдаткі постсавецкіх краінаў, якія цярпяць ад расейскіх дзеяньняў. Вось наконт апошняга ў Захаду аказалася вельмі мала жаданьня.

Беларусь у гэтым сэнсе таксама прыклад вельмі яскравы, бо мы памятаем, як летась Лукашэнка пасылаў сыгналы ў бок Захаду, што з расейцамі стала кепска і давайце сябраваць на такой аснове. Ніякага выніку гэта ня мела. Па-першае, бо базы каштоўнасьцяў аніяк не стасуюцца, але па-другое — навошта Эўропе дзеля Беларусі ці любой іншай постсавецкай краіны ісьці на дадатковае абвастрэньне з Расеяй?

Я мяркую, што пры наступным прэзыдэнту Расея паспрабуе капіталізаваць такое разуменьне многіх краінаў, што ўсё значна больш сур'ёзна, чым здавалася. Капіталізаваць не абавязкова ў сэнсе больш жорсткай пазыцыі. У гэтым кірунку ёсьць пэўная мяжа, пасьля якой жорсткая пазыцыя пачынае працаваць наадварот, як гэта адбываецца з Грузіяй. Расейская пазыцыя, калі яна будзе больш гнуткай і нюансаванай і ў большай ступені абапірацца на мяккую моц, можа стаць больш эфэктыўнай.

Але наколькі такім чынам атрымаецца ад Беларусі нечага дамагчыся — зусім не відавочна. Аляксандар Рыгоравіч Лукашэнка за доўгі тэрмін узаемадзеяньня з Масквой паказаў сябе чалавекам, настолькі спрактыкаваным у невыкананьні любых забавязаньняў, што цяжка чакаць, што ягоныя таленты зараз не спрацуюць. Хаця мне здаецца, што ягоная прастора для манэўру аб'ектыўна звужаецца. Эканамічна Расея ўсё больш асэнсоўвае свае інтарэсы, а што тычыцца Захаду, то там усё менш шанцаў на тое, што атрымаецца збудаваць нешта новае, прынамсі да таго часу, пакуль Лукашэнка застаецца прэзыдэнтам.

## Адносіны Захаду зь Беларусьсю: стандарты супраць геапалітыкі

Сытуацыя ў Беларусі вачыма замежнікаў. Што можа даць удзел у несправядлівых выбарах у бясправаўны парлямэнт? Якія ўмовы й магчымыя наступствы нармалізацыі адносінаў паміж Беларусьсю і Захадам?

**15 верасьня 2008**

Удзельнікі: Віталь Портнікаў, Леанід Радзіхоўскі, Стэфані Шыфэр

### Ці варта ўдзельнічаць у несправядлівых выбарах?

**Дракахруст:** Ці варта ўдзельнічаць у несправядлівых выбарах у бясьсільны парлямэнт? Сёлетнія выбары ў Беларусі — яскравая ілюстрацыя да гэтай праблемы. З аднаго боку, сярод сябраў участковых выбарчых камісіяў, тых, хто рэальна будзе лічыць галасы, прадстаўнікі апазыцыі складаюць долі адсотка, апазыцыйныя кандыдаты і сябры іх камандаў адчуваюць моцны ціск з боку ўладаў. Зь іншага боку, большасьць апазыцыйных кандыдатаў усё ж зарэгістраваная, пакуль не назіраецца масавых і істотных перашкодаў для вядзеньня перадвыбарчай агітацыі. Праўда, варта дадаць, што беларускі парлямэнт мае на дзіва сьціплыя паўнамоцтвы. Паводле Канстытуцыі, прэзыдэнцкі дэкрэт вышэйшы за закон, так што кіраўнік дзяржавы можа кіраваць, нагул не зважаючы на заканадаўцаў. І вось уявім сабе (што аднак зусім ня факт), што ў новы парлямэнт трапяць 3—5—10 апазыцыйных дэпутатаў. І што яны там будуць рабіць? Наўпроставых трансьляцыяў сэсіяў няма, паўнамоцтвы сьціплыя.

Дык у чым сэнс удзелу ў выбарах у такі парлямэнт?



**Шыфэр:** Беларускія калегі разумеюць, што ўдзел у такіх выбарах — гэта хіба не адзіны шанец для апазыцыі ўступіць у кантакт з насельніцтвам, бо яны не рэпрэзэнтаваныя ў парлямэнце і ня маюць доступу да дзяржаўных мэдыяў. Гэтая кампанія дае ім магчымасьці, праўда, вельмі абмежаваныя, фармуляваць свае прапановы і даносіць іх да насельніцтва. Хаця ўмовы несправядлівыя і няроўныя, але яны вырашылі скарыстацца такім шанцам, і гэта правільна.

**Дракахруст:** Віталь Портнікаў, Вы назіралі за такімі выбарамі ў многіх краінах постсавецкай прасторы. Які Ваш адказ на пытаньне: «Ці варта ўдзельнічаць у несправядлівых выбарах у бясьсільны парлямэнт?»

**Портнікаў:** Я асьвятляў яшчэ й зьезды дэпутатаў СССР напрыканцы 1980-х — напачатку 1990-х гадоў, і сэсіі першых парлямэнтаў саюзных рэспублік, у якія траплялі прадстаўнікі ня тое што апазыцыі, а хутчэй людзі, якія былі не зусім згодныя з камуністычнай партыяй. Тады галоўнымі аргумэнтамі было тое, што, па-першае, падчас выбараў можна было камунікаваць з насельніцтвам і казаць тое, што немагчыма сказаць у іншых умовах, а па-другое, у самім парлямэнце павінныя быць людзі, якія могуць выступаць з пунктам гледзішча, адрозным ад меркаваньня ўладаў. Мы бачым, што страціла Дзяржаўная дума Расеі, пазбавіўшыся ад нешматлікіх апазыцыянэраў, якія там прысутнічалі яшчэ ў пуцінскія часы.

На мой погляд, самая прысутнасьць некалькіх чалавек, якія проста заклікаюць выконваць закон, вельмі важная для любога заканадаўчага органу, нават цалкам кантраляванага прэзыдэнцкай адміністрацыяй.

**Дракахруст:** Віталь, так выглядае, што ўсе «каляровыя» рэвалюцыі на постсавецкай прасторы былі, па сутнасьці, змовамі ўнутры намэнклятурных элітаў. Дык ці ня можа нават невялічкая апазыцыйная фракцыя ў парлямэнце стаць каналам камунікацыі апазыцыі з уладнай элітай краіны, з тымі, хто рэальна здольны ініцыяваць перамены?

**Портнікаў:** Тут трэба пагадзіцца, што любы момант зьмены ўлады ў былых савецкіх рэспубліках — барацьба ўнутры самой намэнклятуры, якая была ўдала аформленая пад народнае абурэньне. Народнае абурэньне, безумоўна, таксама было, але пытаньне ў тым, хто скарыстаўся яго вынікамі.

Цалкам магчыма, што беларуская «каляровая» рэвалюцыя, калі людзі выйшлі на Плошчу, не атрымалася, бо нават у часткі намэнклятуры не было жаданьня пазбавіцца ад Аляксандра Лукашэнкі. Тут узьнікае пытаньне: чаму мы мяркуем, што ў Беларусі зьмена ўлады адбудзецца менавіта паводле гэтага сцэнара? У мяне ёсьць падазрэньне, што пасьля таго, што адбылося ў Грузіі, і таго, што цяпер адбываецца ва Ўкраіне, можа высьветліцца, што сам сцэнар — неадэкватны. Мы пакуль маем два рэцэпты зьмены ўлады на постсавецкай прасторы: гэта перадача ўлады пераемніку (расейскі варыянт) і Майдан (грузінска-ўкраінска-кіргіскі варыянт). Ёсьць, дарэчы, і трэці — проста выбары, пройгрыш улады на выбарах. Гэта таксама калісьці было, і ва Ўкраіне, і ў Малдове, але пра тое ўжо ўсе забылі, бо зразумела, што гэта былі асаблівасьці станаўленьня дэмакратыі.

Мне здаецца, што Беларусь можа аказацца краінай, дзе будуць шукаць трэці шлях, можа, нешта сярэдняе паміж пераемнікам і Майданам.



**Дракахруст:** Леанід Радзіхоўскі, мы абмяркоўваем гэтае пытаньне тэарэтычна. А Вы ў свой час былі дэпутатам Дзярждумы Расеі. Паводле асабістага досьведу і Вашага разуменьня: ці варта ўдзельнічаць у несправядлівых выбарах у бясьсільны парлямэнт?

**Радзіхоўскі:** Я сапраўды непрацяглы час быў дэпутатам Дзяржлумы. Адзін з самых сьмешных і жахлівых успамінаў, як прыгадаю — дык уздрыгануся. Гэта быў 1993 год, выбары былі адносна справядлівымі, падлік галасоў параўнальна сумленны, дый парлямэнт у Расеі тады быў не такі ўжо і бясьсільны, гадасьцяў ён пасьпеў панарабіць дастаткова.

Таму я таксама магу разважаць больш тэарэтычна. Я пагаджаюся з тым, што казалі калегі.

Я б яшчэ дадаў адно простае меркаваньне. А што рабіць апазыцыянэрам, калі яны ў выбарах ня ўдзельнічаюць, у парлямэнтах не засядаюць і не спрабуюць засядаць? Вось вам прыклад расейскай апазыцыі. Ад выбараў іх адштурхнулі — кагосьці не дапусьцілі, дзякуючы новаму закону аб партыях, каго дапусьцілі, то так галасы падлічылі, што ўсё стала бессэнсоўным. Ніхто зь іх у Думу ня трапіў. І што ж яны робяць, небаракі, апынуўшыся за парогам Думы? Як Уладзімер Ільліч, гуртуюць масы і падымаюць іх на рэвалюцыйную барацьбу?

**Дракахруст:** «Шакаляць» каля замежных амбасадаў, паводле выразу Пуціна.

**Радзіхоўскі:** Лідэр Саюзу правых сілаў Бялых «шакаліць» не ля замежных амбасадаў, а працуе спартовым камэнтатарам на «Эхо Москвы». Лідэр Рэспубліканскай партыі Рыжкоў вядзе гістарычную перадачу на тым жа «Эхо». Касьянава наагул не відаць і не чуваць. Каспараў актыўна камэнтуе прэзыдэнцкую кампанію, толькі ў ЗША. Словам, вар’ятня.

З палітыкі іх выкінулі. Ніякіх магчымасьцяў уплываць на нешта ў іх няма. Іх закаталі ў асфальт.

Калі ў палітыка ёсьць мінімальная магчымасьць удзельнічаць у нейкім палітычным працэсе, ён абавязаны ўдзельнічаць. Прафэсія патрабуе.

## Шанцы нармалізацыі

**Дракахруст:** А зараз мы вернемся ў Беларусь і крыху пашырым межы гутаркі. Умовы правядзеньня парлямэнцкіх выбараў — гэта толькі адна са ставак гандлю, распачатага Аляксандрам Лукашэнкам з Захадам. Іншыя стаўкі — ня менш, калі ня больш важкія. Нядаўна ў краіне былі вызваленыя ўсе палітвязьні, у тым ліку і асабісты вораг Лукашэнкі Аляксандар Казулін. Пасьля таго, як Расея прызнала незалежнасьць Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі, Лукашэнка, насуперак чаканьням многіх, за «старэйшым братам» не пайшоў.

Дык ці пойдзе Захад — Эўразьвяз і ЗША — на зьдзелку нармалізацыі? Усё ж і пасьля названых крокаў, і нават калі выбары пройдуць больш-менш прыстойна паводле мерак СНД, Беларусь усё роўна застанецца аўтарытарнай дзяржавай. Дык ці пойдзе ўсё ж Захад на такую ўгоду?

**Радзіхоўскі:** Захад бы ўзяў Аляксандра Рыгоравіча з рукамі і нагамі, калі б той мінімальна вусы расчасаў і прычоску справа налева пераклаў. Паводле майго сьціплага меркаваньня, на тое, якая там у Беларусі дэмакратыя, заходнім палітыкам глыбока напляваць. Заходнія праваабаронцы і журналісты, зразумела, будуць шумець, але гэта іх справа такая — шумець. А вось адарваць ад Расеі надзейнага саюзьніка і пакінуць яе з Паўднёвай Асэтыяй і Абхазіяй, гэта быў бы калясальны падарунак. Адарвалі б зь вялікім задавальненьнем. Але праблема ў тым, што флірт Лукашэнкі з Захадам — гэта ўсяго толькі клясычная «дынама», як кажуць. Ён «дынаміць» Захад, і Захад гэта выдатна разумее. Па-першае, Аляксандру Рыгоравічу патрэбныя грошы. А адвальваць яму столькі грошай, колькі адвальвае Расея ў выглядзе крэдытаў ці дзікіх цэнаў на газ, — ня будуць на Захадзе гэтага рабіць. Адарваць у Расеі саюзьніка — справа добрая, але даваць за гэтае задавальненьне мільярды — такіх дзівакоў няма нідзе, акрамя Расеі. Па-другое, нават невялічкае паслабленьне ў выпадку кантактаў з Захадам прывядзе да стану, пра які казаў Міхаіл Сяргеевіч: «працэс пайшоў». І зусім не пад ціскам Захаду, а пад ціскам інфармацыйнай адкрытасьці, новых сувязяў і шмат чаго іншага. Пойдзе працэс і паляціць увесь рэжым Аляксандра Рыгоравіча дагары нагамі. Навошта яму гэта трэба? Таму ні на які сур’ёзны кантакт з Захадам ён ня пойдзе. Але цану сабе ў вачох Масквы ён набівае — і правільна робіць. Розуму і здольнасьці гандлявацца ў яго, вядома, хопіць.

**Дракахруст:** Леанід, я б папрасіў Вас удакладніць дзьве тэзы. Вы сказалі — Захад бы ўзяў. Узяў куды? У Эўразьвяз, у НАТО, скасаваў санкцыі, якія дзейнічаюць адносна Беларусі, даў грошай?

І другое — Лукашэнка не жадае прызнаць грузінскія аўтаноміі. Ці не азначае гэта, што ён моцна рызыкуе, што расейская падманутая і пакрыўджаная любоў можа вельмі хутка ператварыцца ў нянавісьць з даволі важкімі фінансавымі наступствамі?

**Радзіхоўскі:** Наконт «узяў» — гэта Вы маеце рацыю. Ніхто яго ні ў НАТО, ні ў Эўразьвяз ня возьме. А вось санкцыі, безумоўна, скасавалі б. І пачалася б валтузьня. Вось, скажам, Украіна ці Грузія. Яны — ня сябры ані НАТО, ані Эўразьвязу. Але зь

імі вядуць актыўны і прыемны раман. Што значыць «узяў»? Гэта памякчэньне рэжыму гандлю, гэта і шэраг дробных, але прыемных радасьцяў. Прыём у ангельскай каралевы, напрыклад. Парукацца з Папам, пастаяць каля прэзыдэнта Францыі. Кажуць, што лідэры «свабодалюбівых» дыктатарскіх краінаў вельмі любяць камунікаваць з «усясьветнай імпэрыялістычнай пачварай». Проста хлебам не кармі. За такія маленькія радасьці Аляксандар Рыгоравіч дорага б заплаціў. Дый Захад бы з радасьцю. Каб яго прымалі розныя заходнія лідэры і каб скасаваць санкцыі — на гэта б яны пайшлі. Але грошай, сувымерных з тымі, што ён атрымлівае ад Расеі, яму ня ўбачыць, як сваіх вушэй. З Мэркель пад ручку пастаяць прыемна, але грошы ж больш важныя.

А наконт таго, ці ня зьменіцца пакрыўджаная любоў мядзьведзя супрацьлеглымі пачуцьцямі — ведаеце, пачуцьці пачуцьцямі, але Расеі цяпер не да такіх вытанчаных перажываньняў. У Расеі няма ніводнага саюзьніка ў сьвеце, калі не лічыць дзіўнаватых лацінаамэрыканцаў, якія гэтак жа кепска разумеюць, што такое Расея, як і Расея кепска разумее, што такое Нікарагуа і Вэнэсуэла. І ў такой сытуацыі дазваляць сабе крыўдзіцца на Лукашэнку...

Асабістыя адносіны з Пуціным у яго вядома якія — ненашмат лепшыя, чым у Пуціна з Саакашвілі. Пра асабістую любоў тут размова не ідзе, і яе ніколі не было. А рваць з апошнім саюзьнікам — гэта для Расеі занадта. Так што сёньня Расея зацікаўленая ў Беларусі яшчэ больш, чым учора.

**Дракахруст:** Стэфані, Леанід прапанаваў інтэрпрэтацыі ў стылі Realpolitik, à la Бісмарк. Ён сказаў, што заходнія праваабаронцы будуць, зразумела, шумець, але гэта ні на што не паўплывае. Вось Вы якраз такім заходнім праваабаронцам і ёсьць. Вам



слова для адказу на пытаньне: «Ці адбудзецца ўгода Беларусь—Захад?»

**Шыфэр:** У Эўропы ёсьць вялікі інтарэс да Беларусі, як і інтарэс, каб краіны-суседзі Эўразьвязу былі дэмакратычнымі і надзейнымі партнэрамі. Гэта — уласны інтарэс Эўразьвязу. Таму калі будуць сур’ёзнымі, а ня ўяўнымі знакі паляпшэньня сытуацыі ў Беларусі, тады Эўразьвяз выканае тыя абяцаньні, якія ён рабіў: скасуе візавыя санкцыі і верне Беларусі гандлёвыя прэфэрэнцыі. Я мяркую, што Захад павінен вельмі ўважліва глядзець на разьвіцьцё сытуацыі і не купляцца на ілжывыя сыгналы з боку Беларусі. Напрыклад, вызваленьне палітвязьняў — гэта адназначна пазытыўны крок. Другі крытэр — гэта хада выбараў. Вельмі важна, што ў Беларусі праводзіцца і нацыянальны, і міжнародны маніторынг выбарчай кампаніі з боку Эўразьвязу, АБСЭ і СНД. І толькі калі вынікі гэтага маніторынгу будуць станоўчымі, можна будзе казаць аб паляпшэньні адносінаў. Гэтае паляпшэньне — у інтарэсах Эўропы, але і ў інтарэсах Беларусі, і ў інтарэсах Лукашэнкі. Зразумела, што Захад жадаў бы сабе не такога партнэра, як Лукашэнка. Але калі Лукашэнка насамрэч зьменіць сваю палітыку, то я абедзьвюма рукамі буду за паляпшэньне адносінаў, нават калі прэзыдэнтам будзе заставацца Лукашэнка.

**Дракахруст:** Стэфані, мне падалося, што Вы ў сваім адказе зьвялі палітычную праблему да праблемы праваабаронцай. Але ёсьць і палітычныя фактары. Ёсьць геапалітычныя фактары, пра якія казаў Леанід. Ёсьць і фактар часу: 14 гадоў Эўропа праводзіла прыкладна такую палітыку, пра якую Вы гаворыце. І да чаго гэта прывяло? Да таго, што ў Беларусі тых дэмакратычных стандартаў як не было, так і няма.

**Шыфэр:** Але гэта ня нашая справа, ня справа эўрапейскіх краінаў ці праваабаронцаў — зьмяніць сытуацыю ў Беларусі ці ў якой іншай краіне. Гэта справа нашых партнэраў у Беларусі, ва Ўкраіне — выступаць за правы чалавека, за свабоду, за справядлівыя выбары. Захад можа толькі вітаць і аказваць палітычную падтрымку. Я мяркую, што гэтыя стандарты важныя і яны павінныя быць дакладнымі. А палітычныя гульні не вядуць да станоўчых вынікаў. Беларусь — гэта ня пешка ў гульні. Нават калі геапалітычная сытуацыя зьмяняецца, то Эўропа не гуляе, як раней, як Бісмарк у XIX стагодзьдзі. Гэта, дзякаваць Богу, і адрозьнівае Эўразьвяз ад нямецкага Райху і ад ранейшых імпэрыяў. Эўразьвяз — гэта такая бюракратычная структура, але гэта і добра. Ёсьць правілы, ёсьць умовы, і калі ўмовы выконваюцца, тады перамовы могуць быць. Гэта зразумела і палітыкам, і простым людзям. Беларусь не павінная быць аб’ектам у геапалітычнай гульні Эўропы ці Расеі. Так што хаця мы часам раздражняемся, што Эўропа павольная ў сваіх рашэньнях, але наяўнасьць гэтых крытэраў дае нам зразумець, што яны будуць выкананыя.

У гэтым — вялікая сіла Эўропы. І гэта адрозьнівае яе ад імпэрыі, да прыкладу, ад таго, што мы бачым сёньня ў Расеі.

**Дракахруст:** Віталь, Леанід і Стэфані выклалі фактычна два палярныя падыходы. Які Вам бліжэй? І які Ваш адказ — ці адбудзецца зьдзелка паміж Лукашэнкам і Захадам і на якіх умовах?

**Портнікаў:** Я ня ўпэўнены, што кожны з такіх падыходаў можа лічыцца рэалістычным з гледзішча таго, што адбываецца насамрэч. Калі б мы бачылі з боку Эўропы такую ж жорсткую рэакцыю на парушэньне свабоды слова ў Грузіі, калі малойцы, зьвязаныя з уладамі, грамілі адзіную незалежную тэлекампанію, якая засталася пры Міхаілу Саакашвілі, калі б мы бачылі адэкватную рэакцыю на разгон мітынгу апазыцыі пры дапамозе сілы, я б пагадзіўся са Стэфані. І я б хацеў, дарэчы, нагадаць, што ўсё гэта было да грузінска-расейскага канфлікту, калі не было ніякай неабходнасьці абараняць Грузію ад уварваньня расейскіх войскаў. Я дапускаю, што тое, што адбылося ў Грузіі зараз, зьяўляецца сьледзтвам «ужываньня» тых самых дэмакратычных стандартаў краінамі, якія ўпэўненыя, што на Беларусь можна рэагаваць так, бо Беларусь — гэта саюзьнік Расеі, а на Грузію — інакш, бо Грузія нібыта саюзьніца Заходу. Насамрэч і Грузія, і Беларусь — сапраўдныя саюзьніцы Расеі, бо яны будуюць свае грамадзтвы паводле савецкага ці постсавецкага ўзору. І прывучаюць сваё насельніцтва да двудумства. Проста ў Грузіі гэта атрымліваецца значна лепш, чым у Беларусі. Я б хацеў, каб мы пра гэта памяталі, калі гаворым аб магчымых угодах Аляксандра Лукашэнкі з Захадам, пра тое, што гэтыя ўгоды нібыта ня могуць адбыцца толькі таму, што Беларусь не прытрымліваецца пэўных стандартаў. Мне здаецца, што сёньня і ЗША, і Эўразьвязу патрэбныя не стандарты ў нармальным разуменьні гэтага слова, а своеасаблівая плёнка, якой трэба пакрыць краіну, каб не было бачна, што там пад плёнкай адбываецца, каб можна было распавядаць казкі пра дэмакратычныя пераўтварэньні. Адзіная праблема палягае ў тым, што Лукашэнка сам па сабе — ня тая асоба, якую можна так прыгожа ўпакаваць. Ён нічым не адрозьніваецца ад Міхаіла Саакашвілі, які пачаў сваю палітычную дзейнасьць з дэмакратычнай дэмагогіі. А Лукашэнка пачаў палітычную дзейнасьць з дэмагогіі савецкага ўзору — пра неабходнасьць аб’яднаньня Беларусі і Расеі, пра аднаўленьне СССР і гэтак далей.

Я дапускаю, што адзінае, чаго ён можа дамагчыся ад Захаду, — некаторых паслабленьняў у абмен на тое, што ён не прызнае Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі, ня пусьціць іх у склад саюзнай дзяржавы. Гэта ўжо будуць вялікія подзьвігі.

Але зразумела іншае: любы спадкаемца Лукашэнкі з шэрагаў намэнклятуры, незалежна ад таго, ці прыйдзе ён да ўлады шляхам «каляровай» рэвалюцыі ці проста шляхам звычайных выбараў, якія арганізуе намэнклятура, будзе абвешчаны дэмакратам, лідэрам, які імкнецца да дэмакратызацыі Беларусі.

Я вам гэта проста гарантую. І пры гэтым ніякай сапраўднай дэмакратызацыі Беларусі не спатрэбіцца, як не спатрэбілася ніякай сапраўднай дэмакратызацыі Грузіі, каб мы сталі сьведкамі той камэдыі, якую мы назіраем пасьля «каляровай» рэвалюцыі ў гэтай краіне.

## Ці будзе Захад плаціць Беларусі?

**Дракахруст:** Віталь, Вас не задавальняюць абодва падыходы, і падыход Леаніда таксама. А чым?

**Портнікаў:** Я меў на ўвазе словы Леаніда, што Беларусь застанецца сам-насам з Расеяй, бо Захад ня будзе ёй столькі плаціць, колькі плаціць Расея. Мне здаецца, што гэта крыху ўтапічны падыход. Захад (калі не Эўразьвяз, то ЗША) можа знайсьці рэсурсы, каб аплаціць калі не выдаткі беларускай дзяржавы, дык выдаткі беларускай намэнклятуры. А людзі ў Беларусі і бяз гэтага не настолькі багатыя, каб меркаваць, што яны жывуць выключна за кошт расейскіх датацыяў. За расейскія датацыі — і ў выглядзе цэнаў на газ, і ў выглядзе наўпроставых сродкаў, якія перапампоўваюцца праз Беларусь, можна было б жыць нашмат лепш, чым жыве сярэдні беларус.



Я ўжо не кажу пра транзыт энэрганосьбітаў праз Беларусь, які ніколі ня спыніцца, і пра зацікаўленасьць Расеі ў сувязях зь Беларусьсю шмат у якіх кірунках. Можна павялічыць цэны на энэрганосьбіты, але пэўныя эканамічныя магчымасьці Беларусі ўсё адно захаваюцца — звычайныя, нармальныя, ня звышвыродлівыя, нават калі яна перастане быць сатэлітам Расеі і зробіцца проста яе добразычлівым суседам. Чаму мы ўвесь час думаем, што можа быць альбо — альбо? Альбо сатэліт — альбо вораг. Беларусь можа стаць нармальным суседам Расеі, хаця б такім, якім была Ўкраіна часоў Леаніда Кучмы. Я ня бачу эканамічнай трагедыі для Беларусі ў выпадку, калі яна адмовіцца ад расейскіх прэфэрэнцыяў. Я ўпэўнены, што і ў гэтым выпадку ў яе захаваюцца магчымасьці разьвіцьця і рэфармаваньня эканомікі.

**Дракахруст:** Стэфані, Вас абвінавацілі ў «падвойных стандартах». Што Вы можаце сказаць у сваё апраўданьне?

**Шыфэр:** Гэта хутчэй не абвінавачаньне, а пацьвярджэньне таго, што я сказала. Калі зараз ужываць іншую палітыку адносна Беларусі з тае прычыны, што існуюць пэўныя палітычныя інтарэсы, то тады якраз і можна будзе казаць пра «падвойныя стандарты». Віталь правільна папракае Захад у тым, што той падтрымлівае Саакашвілі, хаця сапраўды там і са свабодай мэдыяў, і са свабодай сходаў былі велізарныя праблемы. Гэта правільны папрок. Я лічу, што гэты папрок часткова да Эўропы, але і да ЗША, якія маюць там вельмі істотныя інтарэсы. Я мяркую, што Захад павінен перасьцерагацца такіх папрокаў, таму я сказала, што менавіта цяпер Эўропа адносна Беларусі мусіць вельмі дакладна вызначыць свае стандарты і абапірацца на свае прынцыпы. Небясьпечна

ўжываць розныя крытэрыі да тых, хто для цябе блізкі, і да тых, хто для цябе далёкі.

**Дракахруст:** Леанід, звычайна Вас абвінавачваюць у цынізьме, а Віталь, насуперак гэтаму звычаю, назваў Ваш падыход утапічным.

**Радзіхоўскі:** Сьвет разнастайны, нехта для аднаго цынік, а для другога — ідэаліст. Гэта лішні доказ перавагаў дэмакратыі. Я мяркую, што, тым ня менш, Эўразьвяз ня мае цяпер магчымасьці кідаць мільярды на падтрыманьне беларускай эканомікі. Такія жарты магчымыя ў Расеі, дзе бюджэт прымаецца на загад з Крамля. Вось Расея плаціць Паўднёвай Асэтыі і сама ня ведае, колькі. І ніхто ня ведае, але ўсе задаволеныя. У Эўразьвязе такія штукі не праходзяць.

Я часткова згодны зь Віталем, што магла б быць нейкая падтрымка з Амэрыкі. Вось яны Грузіі даюць мільярд на аднаўленьне, маглі б і Беларусі нешта даць. Але я, па-першае, ня ўпэўнены, што амэрыканцы ў гэтым тэндэры перамогуць, перакупяць Беларусь у Расеі. Па-другое, як ні круці, тут мяне ізноў можна абвінаваціць у ідэалізьме, але мне здаецца, што амэрыканскія грошы больш празрыстыя, чым расейскія. Якія там прэфэрэнцыі Аляксандар Рыгоравіч ад Расеі атрымлівае і як імі распараджаецца, вядома толькі яму самому. Калі б ён атрымліваў нават такія ж грошы ад Амэрыкі, то за іх давядзецца трымаць справаздачу перад Кангрэсам, перад нейкімі правяральнікамі, да чаго ў яго няма аніякай схільнасьці. Тут звычка простая: атрымаў — маё. Грашовыя кантакты з Расеяй для яго ня толькі выгаднейшыя, але і зручнейшыя. А што да таго, што казала Стэфані, то я згодны, што ў XXI стагодзьдзі найлепшы прагматызм — гэта ідэалізм. Калі вы спрабуеце кагосьці пад дэмакратычным покрывам падманваць, а пад ім займацца старым добрым імпэрыялізмам, то на 5 хвілінаў гэта выгадная палітыка, а потым яна па вас жа і ўдарыць. Але палітыкі, тым больш палітыкі на постсавецкай прасторы, ня мысьляць далей, чым на 5 хвілінаў. І таму такая далёкасяжная стратэгія ім абсалютна чужая. А па-другое — гэта прынцыповая спрэчка з эўрапейскімі праваабаронцамі. Я ня думаю, што адны і тыя ж нарматывы ў роўнай ступені павінныя прыкладацца да розных дзяржаваў. Віталь справядліва казаў пра абмежаваньні дэмакратыі ў Грузіі. Але я б да гэтага дадаў, што вельмі добра, што ў Грузіі дэмакратыя пры Саакашвілі была абмежаванай. Бо пры такой абмежаванай дэмакратыі яны здолелі зьляпіць хоць нешта, падобнае на дзяржаву. У часы Шэварднадзэ дэмакратыі было нашмат болей, але людзі, якія там жывуць, кажуць, што нічога падобнага на дзяржаву не было наагул. Па вуліцах хадзілі нейкія галаварэзы, бралі што хацелі, законаў не было, уладаў не было, была анархія — маці парадку. Іншая рэч, што ўлады заўсёды на гэтым спэкулююць і кажуць, што, маўляў, у нас асаблівая сытуацыя, у прынцыпе мы за дэмакратыю і за правы, але бліжэйшыя 30 гадоў, калі ласка, пасядзіце ў лягеры. Гэта выгадна для ўладаў, і яны схільныя перабольшваць існыя цяжкасьці. Але ў Грузіі, як я разумею. цяжкасьці дэмакратычнага разьвіцьця былі, і які б там Саакашвілі ні быў, але нейкую дзяржаву ён, хаця і нехлямяжа, але здолеў збудаваць. У ягоных папярэднікаў і гэтага не атрымлівалася.

# Казулін і Мілінкевіч паміж Салянам і Лукашэнкам

Дабром ці злом стане для Беларусі цяперашняе зьбліжэньне Эўропы з афіцыйным Менскам? Ці прывядзе гэта да ўзмацненьня палітычных рэпрэсіяў у Беларусі? Ці будзе спрыяць выхаду краіны з зоны расейскага ўплыву? Які балянс плюсоў і мінусаў гэтага працэсу?

**2 сакавіка 2009**

Удзельнікі: Аляксандар Казулін, Аляксандар Мілінкевіч

## Зьбліжэньне Эўропы з афіцыйным Менскам – дабро ці зло?

**Дракахруст:** На гэтым тыдні міністры замежных справаў краінаў Эўразьвязу абмяркоўвалі ў Брусэлі ініцыятыву «Ўсходняе партнэрства». Адна з самых вострых дыскусіяў тычылася месца ў гэтай ініцыятыве Беларусі*. Пакуль ні да якіх пэўных высноваў кіраўнікі Зьвязу не прыйшлі. А на мінулым тыдні Менск наведаў каардынатар зьнешняй палітыкі Эўразьвязу Хавіер Саляна, які перад перамовамі зь міністрам зьнешнепалітычнага ведамства Сяргеем Мартынавым і прэзыдэнтам Аляксандрам Лукашэнкам сустракаўся з прадстаўнікамі незалежнага грамадзтва, у тым ліку і з удзельнікамі нашага сёньняшняга «круглага стала».

Зьбліжэньне Эўропы зь Беларусьсю, а дакладней — з афіцыйным Менскам, выклікае ў самой Беларусі ня менш гарачыя спрэчкі, чым у Брусэлі. Добра гэта ці кепска? Своечасова ці заўчасна?

Спадар Казулін, на мінулым тыдні адбылася прэсавая канфэрэнцыя, на якой Вы разам зь Лявонам Баршчэўскім, Міхаілам Марынічам, Андрэем Саньнікавым і Станіславам Шушкевічам рэзка скрытыкавалі пазыцыю Эўропы ў гэтым пытаньні. А чым пазыцыя Эўропы Вам не падабаецца, спадар Казулін? На думку некаторых, не ў апошнюю чаргу дзякуючы ёй Вы апынуліся на волі.

**Казулін:** Памыляюцца тыя, хто думае, што на прэсавай канфэрэнцыі гучала рэзкая крытыка пазыцыі Эўразьвязу. Была выказаная толькі занепакоенасьць тым, што адбываецца. Калі ў нас магчымы эўрапейскі тыдзень, прыяжджаюць дэлегацыі Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы, Эўрапарлямэнту, Хавіер Саляна, то гэта моцныя і важкія крокі наперад. Але калі ўлады ізноў праводзяць рэпрэсіі, калі ў нас ізноў зьяўляюцца палітвязьні, калі ў Дзень сьвятога Валянціна, 14 лютага, моладзь жорстка зьбіваюць, калі 16 лютага — ізноў жорсткае зьбіцьцё, то выклікае занепакоенасьць, што эўрапейскія візыты адбываюцца на такім фоне. Мы хацелі б пачуць ад чыноўнікаў Эўразьвязу, якую пазыцыю яны вязуць у Беларусь. Бо палітык такога ўзроўню, як Хавіер Саляна, вёз нейкі пакет прапановаў.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, дык Вы ж і сустракаліся са спадаром Салянам напярэдадні яго перамоваў са спадаром Лукашэнкам. Вы б Саляну і спыталі. А можа Вы яго і спыталі — што ж ён прывёз у Менск, пра што будзе размаўляць з Лукашэнкам?

**Казулін:** Былі зададзеныя пэўныя пытаньні, і мы чакалі, што пасьля сустрэчаў з Мартынавым і Лукашэнкам Саляна адкажа на іх, скажа, чаго ж нам чакаць далей. Але мы гэтага не пачулі.

* У сакавіку 2009 г. Беларусь была афіцыйна запрошаная ва «Ўсходняе партнэрства». 7 траўня 2009 г. першы віцэ-прэм'ер Беларусі Ўладзімер Сямашка рэпрэзэнтоўваў краіну на ўстаноўчым саміце і падпісаў ад імя Беларусі Дэклярацыю аб утварэньні «Ўсходняга партнэрства».

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, многія ўдзельнікі прыгаданай прэсавай канфэрэнцыі — жорсткія, канцэптуальныя крытыкі цяперашняй палітыкі Эўропы. Аднак большасьць іншых апазыцыйных сілаў, у тым ліку і спадар Казулін, таксама ў той ці іншай ступені ёй незадаволеная — афіцыйны Брусэль вядзе дыялёг з афіцыйным Менскам, менш, чым раней, зважаючы на меркаваньні беларускай апазыцыі. Вы хіба не адзіны палітык першага рангу, хто захады Эўропы ўхваляе, за што ўжо атрымалі абвінавачаньні і ў здрадзе, і ў прыслужваньні рэжыму, і ў іншых грахах. Што Вы скажаце ў сваё апраўданьне?

**Мілінкевіч:** Палітыка — гэта дзеяньні, якія прыводзяць да канкрэтнага выніку. Паводзіны праваабаронцы — гэта адна рэч, паводзіны журналіста — другая, а паводзіны палітыка — зусім іншая. Нас аб'ядноўвае больш-менш аднолькавая ацэнка сытуацыі ў Беларусі. Сапраўды, працягваецца палітычна матываваны перасьлед, ёсьць праблемы з рэгістрацыяй арганізацыяў і шмат чаго іншага. Але Эўропа, не мяняючы стратэгіі, зьмяніла тактыку. За 13 гадоў пасьля вядомага рэфэрэндуму і зьмены Канстытуцыі ў Беларусі так і не ўдалося дамагчыся пэўных пераменаў, наадварот, Беларусь з прычыны самаізаляцыі, санкцыяў, якія былі ўведзеныя, закрылася, рэпрэсіі павялічыліся.

І Эўропа вырашыла, што трэба зьмяніць паводзіны, каб дамагчыся канкрэтных вынікаў. Гэтыя вынікі ёсьць, яны шмат разоў былі названыя, я ня буду паўтарацца. Зразумела, нам хочацца больш і адразу. Але ня ўсё атрымліваецца. Я ня бачу ў паводзінах Эўразьвязу непасьлядоўнасьці і ня бачу ніякай здрады. Ёсьць спосабы публічна асуджаць рэжым, гэта мог рабіць Саляна і раней рабіў. Сёньня ён перайшоў да размоваў сам-насам, бо шмат можна зрабіць і так. Я ўпэўнены, што такая палітыка дасьць вынік.



І апошняе. Надзвычай важна кожны раз, калі мы ацэньваем ці паводзіны Эўразьвязу, ці свае паводзіны, ці паводзіны ўлады, думаць увесь час пра беларускі народ. Пастаўце сабе пытаньне: «А што выгадна беларускаму народу?» Я ведаю, што абсалютнай большасьці беларусаў выгадна шчыльнае супрацоўніцтва з Эўропай, разбурэньне гэтага «Бэрлінскага муру». Працэс будзе складаным, неадназначным, але я веру ў яго посьпех.

## Маральная палітыка ці палітычная мараль?

**Дракахруст:** Спадар Казулін, наколькі я зразумеў, Вашая пазыцыя — паміж пазыцыяй спадара Мілінкевіча і пазыцыяй некаторых удзельнікаў прыгаданай прэсавай канфэрэнцыі. Вось я працытую словы, напрыклад, спадара Шушкевіча, сказаныя там: *«Чаму менавіта цяпер забываюцца пра чатыры ўмовы, якія былі агучаны ў Стамбуле ў 1999 годзе, пра 12 умоваў, якія паўсталі ў 2006 годзе? Ні адна з гэтых умоваў ня выкананая. Палітвязьняў адных памянялі на другіх, і сёньня людзей саджаюць у турму за палітычную дзейнасьць».* Чаму ня маюць рацыі і спадар Шушкевіч, і спадар Мілінкевіч, а Вы маеце?

**Казулін:** Галоўнае пытаньне: тое, што адбываецца — маральна ці амаральна? На гэтае пытаньне нам, грамадзянам Беларусі, хацелася б пачуць адказ. На працягу 13 гадоў тая палітыка, якую праводзілі эўрапейцы, не дала ніякіх вынікаў. Але хіба мы забылі пра тое, што было за гэтыя гады — што было ў 1996-м, 1999-м, 2001-м, 2004-м гадох, калі былі і парушэньні Канстытуцыі, і заканадаўства, і зьніклыя*?

---

* У траўні 1999 г. загадкава зьнік вядомы апазыцыянэр, былы міністар унутраных справаў Беларусі Юры Захаранка.

Грамадзянаў Беларусі вельмі цікавіць адказ на гэтыя пытаньні. І мы хочам ведаць, у якім кірунку будзем рухацца далей і ці прыйдуць да нас у краіну эўрапейскія каштоўнасьці. Калі мы кажам, што Беларусь — эўрапейская краіна, то мы ў гэтым зацікаўленыя.

**Мілінкевіч:** Галоўны аргумэнт спадара Казуліна — гэта маральнасьць. Я згодны з гэтым, амаральная палітыка ня мае пэрспэктываў нават на кароткі тэрмін. Мы павінныя паводзіць сябе маральна, Эўропа таксама. Ці гэта амаральна, калі эўрапейцы спрабуюць дапамагаць Беларусі вырашыць нашы праблемы з дэмакратыяй, зь незалежнасьцю? Абсалютна маральна, бо гэта каштоўнасьці. І Эўропа ніколі не адмаўлялася ад 12-ці ўмоваў, і сёньня (я гэта выдатна ведаю) — у справаздачах тых, хто прыяжджае сюды, у справаздачах амбасадаў краінаў Эўропы, увесь час ідзе ацэнка сытуацыі паводле 12-ці крытэраў. Ніхто іх не адмяняў. Іншая рэч, што па палове крытэраў праца яшчэ і не пачыналася. Але яны разумеюць, што гэта немагчыма зрабіць у адзін дзень.

Так што Эўропа не паводзіць сябе амаральна. Саляна, які наведаў Беларусь, усё ж такі першую сустрэчу правёў з намі, з прадстаўнікамі грамадзянскай супольнасьці. Гэты жэст вельмі важны. Ён і сказаў

У верасьні таго ж году зьніклі адзін з лідэраў апазыцыі Віктар Ганчар і ягоны сябра бізнэсовец Анатоль Красоўскі, у ліпені 2000 г. — апэратар расейскай тэлекампаніі ОРТ Зьміцер Завадзкі. Камісія Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы на чале з дэпутатам Хрыстасам Пургурыдэсам зрабіла справаздачу аб датычнасьці да зьнікненьня гэтых беларускіх палітыкаў і грамадзскіх дзеячаў прадстаўнікоў беларускай ўлады. Эўразьвяз увёў у 2004 г. візавыя санкцыі супраць тагачасных генэральнага пракурора Беларусі Віктара Шэймана, міністра унутраных справаў Уладзімера Навумава, былога міністра ўнутраных справаў Юрыя Сівакова, кіраўніка аддзелу спецыяльных сілаў МУС Дзьмітрыя Паўлічэнкі.



на гэтай сустрэчы — мы адстойваем аднолькавыя маральныя каштоўнасьці. Калі спадар Саляна выйшаў пасьля сустрэчы сам-насам з Лукашэнкам, ён паведаміў, што ўсё, што мелася быць сказаным, сказанае. Ён не абавязаны даваць справаздачу пра ўсе дэталі канфідэнцыйных размоваў. Я веру, што Эўропа шчыра хацела б дапамагаць нам вырашаць многія праблемы, але мы самі многае мусім зрабіць, а не станавіцца ў пазыцыю ацэншчыкаў, якія будуць даваць парады.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, я прашу ў Вас прабачэньня за наступнае пытаньне, аднак Вы самі задалі шырокі гістарычны кантэкст, калі казалі пра сумнавядомы рэфэрэндум 1996 году, пра зьнікненьне палітыкаў у 1999 годзе, пра «элегантныя» выбары 2001 году. Але калі ўсё гэта рабілася, то многія людзі былі высокімі дзяржаўнымі чыноўнікамі, да прыкладу, рэктарамі галоўных унівэрсытэтаў краіны, і не сыходзілі са сваіх пасадаў. Можа, яны не настолькі ўжо і амаральнымі былі, займаючы высокія пасады пры тым, што ў краіне рабілася? Можа, іх прагматызм можна было апраўдаць тым, што яны, прынамсі, спадзяваліся, што служаць Беларусі?

**Казулін:** Заўсёды існуе мяжа, за якую чалавек, які мае маральныя каштоўнасьці, можа пераступіць альбо не пераступіць. Натуральна, кожны з нас спадзяецца на тое, што кіраўнік дзяржавы і іншыя людзі могуць мяняцца да лепшага. Але калі тэндэнцыі вядуць да зусім відавочных вынікаў, і калі ты разумееш, што ўжо ня можаш удзельнічаць у гэтым, тады і наступае гэтая мяжа. Чаму я свабодна магу сёньня казаць пра пытаньні маралі? Я быў ва ўладзе, быў у найбліжэйшым атачэньні прэзыдэнта, таму я ведаю, чым кіруюцца людзі ва ўладзе ў Беларусі. Я

быў таксама і ў турме і бачыў вялікую колькасьць зламаных лёсаў.

Вельмі шкада, што няма людзей ад беларускага грамадзтва, якія могуць удзельнічаць у гэтым дыялёгу. Калі ідзе дыялёг, то, зразумела, прыезды, сустрэчы, супрацоўніцтва і спробы зьмяніць сытуацыю да лепшага — гэта ўсё добра. Але, на мой погляд, калі зьяўляюцца новыя палітвязьні, калі ў Дзень каханьня, 14 лютага, жорстка зьбіваюць маладых дзяўчат і юнакоў, а 16 лютага разганяюць акцыю памяці, то я лічу, што было б маральным Хавіеру Саляну затрымаць свой візыт хаця б на тыдзень, каб былі прынятыя рашэньні па гэтых пытаньнях. Зразумела, што мы палітыкі не такога ўзроўню, як Хавіер Саляна, і ня выключана, што прыехаўшы ў Менск, ён дамовіўся пра нейкія сур'ёзныя крокі з боку кіраўніцтва Беларусі. Мы гэтых крокаў чакаем. 13 сакавіка да нас прыяжджае эўракамісар Бэніта Фэрэра-Вальднэр. Нам будзе вельмі цікава паглядзець, на якім фоне пройдзе гэты візыт.

Пакуль улады Беларусі (і гэта гавораць усе экспэрты) не зрабілі ніводнага сыстэмнага, інстытуцыйнага кроку па зьмене сытуацыі, яны зрабілі толькі сыгнальныя, «шыльдавыя» зьмены.

## За што адказваюць палітыкі?

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, у нас размова перайшла да аднаго з ключавых пытаньняў –– наконт той самай лібэралізацыі. Ці адбываецца яна, ці гэта толькі ўяўнасьць? Факты супярэчлівыя: з аднаго боку –– вызваленьне Казуліна, Парсюкевіча і Кіма, вяртаньне ў легальны распаўсюд «Народнай волі» і «Нашай Нівы», рэгістрацыя руху «За свабоду» Мілінкевіча, дазвол на правядзеньне ўстаноўчага зьезду «Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі», зь іншага — жорсткі разгон акцыяў 14 і 16 лютага, арышт ваўкавыскіх прадпрымальнікаў Аўтуховіча, Лявонава і Асіпенкі, аднаўленьне крымінальных справаў Дубскага і Дашука, прызнаньне экстрэмісцкім зьместу канфіскаваных нумароў часопісу «ARCHE». Ці можна ў гэтых супярэчлівых кроках уладаў знайсьці нейкую раўнадзейную? Дык ёсьць лібэралізацыя ці яе няма?

**Мілінкевіч:** І Вы, Юры, і Аляксандар, і я –– мы ўсе прадстаўнікі дакладных навукаў. І там ёсьць выдатны спосаб доказу — ад адваротнага. Вось у мяне пытаньне: калі мы здолеем зараз затрымаць, спыніць шанец Беларусі на далучэньне да праграмы «Ўсходняе партнэрства» — што тады будзе? Замест «Ўсходняга партнэрства» з Эўропай пачнём ізноў будаваць «саюзную дзяржаву»? І дзе будзе больш правоў чалавека — ва «Ўсходнім партнэрстве» ці ў інтэграцыі з Расеяй? Беларусь, безумоўна, павінная застацца незалежнай дзяржавай.

Ёсьць складанасьці: улада зрабіла пэўныя рэчы, якія некаторыя называюць касмэтычнымі, непасьлядоўнымі, неглыбокімі. Але зрабіла. Мала. Мы хочам, каб больш было зроблена, каб усе 12 умоваў былі выкананымі. Але ўсё ж такі я думаю, што шлях наш адзін: усімі сіламі спрабаваць удзельнічаць у праграмах Эўразьвязу. Гэта гістарычны шанец Беларусі. Шмат і ад нас залежыць — як мы папрацуем зь людзьмі. Але я мяркую, што альтэрнатывы няма. І казаць: «Спыніце ўдзел Беларусі ва "Ўсходнім партнэрстве", не пускайце Лукашэнку ў Прагу», — гэта няправільна. Ці паедзе ён у Прагу, вырашыцца ў апошні момант. Але гэта будзе запрашэньне не кіраўніку беларускай дзяржавы, а запрашэньне Беларусі.

І прыезд Саляны — гэта таксама дэманстрацыя ўвагі да краіны. Улада заўсёды казала: «У Эўропе нас

ніхто не чакае». Прыехаў Саляна, сказаў: «Чакаем, лічым вельмі важнай краінай». Нам даюць выдатны шанец працаваць з Эўропай. І калі мы яго не скарыстаем, убачыўшы ў ім нейкую «амаральнасьць», мы зробім самагубства.

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, вось Вы гаворыце аб адказнасьці палітыка за наступствы яго дзеяньняў і пры гэтым ухваляеце цяперашнюю палітыку Эўразьвязу. Але ня выключана, што ўлады Беларусі ўспрымуць яе як карт-бланш на ўзмацненьне рэпрэсіяў супраць апазыцыі: раней на Захадзе з гэтай нагоды шум узьнімалі, а цяпер — ва «Ўсходняе партнэрства» запрашаюць, дык чаго сябе стрымліваць? Зразумела, рэпрэсаваць гэтых людзей будзе ўлада, Лукашэнка, але ж гэта стане вынікам палітыкі, якую Вы ўхваляеце. І Вы ня будзеце адчуваць сябе за гэта адказным?

**Мілінкевіч:** Я гатовы несьці адказнасьць за сваю пазыцыю, але веру, што мне ня прыйдзецца гэтага рабіць. Чаму? Бо далучэньне краінаў да праграмы «Ўсходняе партнэрства» будзе залежаць ад таго, наколькі далёка гэтыя краіны будуць ісьці шляхам дэмакратызацыі. Ёсьць праблемы ва Ўкраіне, у Грузіі, Азэрбайджане, і Эўропа цудоўна гэта разумее. І там будзе значна больш магчымасьцяў спрыяць працэсу дэмакратызацыі, бо глыбіня інтэграцыі, глыбіня супрацоўніцтва будзе залежаць ад таго, наколькі далёка краіны пойдуць шляхам лібэралізацыі.

Чым больш улада зробіць у гэтым кірунку, тым больш будзе эканамічнага супрацоўніцтва, ад якога залежыць лёс краіны, але і для ўлады гэта вельмі важна.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, а ўявіце сабе, што Эўропа Вас паслухае, прызнае, што зьменаў у Беларусі няма, зачыніць перад Лукашэнкам, ну і перад краінай таксама, дзьверы ва «Ўсходняе партнэрства». Добра, калі Лукашэнку гэта выхавае і ён пачне няўрымсьлівую сапраўдную лібэралізацыю. А калі наадварот — закруціць усе гайкі. Закруціць-то ён, а хіба на Вас ня будзе ніякай адказнасьці за гэта? Ці калі Беларусь ня пусьцяць ва «Ўсходняе партнэрства» і яна яшчэ глыбей трапіць у залежнасьць ад Расеі? І на Вас, з Вашай цяперашняй пазыцыяй, ня будзе ніякай адказнасьці за гэта?



**Казулін:** Мы павінныя сыходзіць з таго, што мы хочам бачыць у выніку гэтых дзеяньняў. Ніякі разумны чалавек ня можа адмовіцца ад імкненьня да супрацоўніцтва, каапэрацыі і зьмены сытуацыі да лепшага. Але ніводзін маральны чалавек ня можа дамагацца мэты любымі сродкамі. І вельмі хацелася б пачуць адказ на пытаньне: «Ці забыла Эўропа ўсе папярэднія 13 гадоў, ці дае яна індульгенцыю Лукашэнку і ці лічыць яна маральным такі падыход?»

Трэба задаць і наступнае пытаньне: «Чаму Лукашэнка гэтак палюбіў эўрапейцаў і ці зьменшылася залежнасьць ад Расеі ў такой сытуацыі?» Трэба ж паглядзець, якія крокі робяцца ў адносінах з Расеяй. Яны як ішлі, так і ідуць, і ніхто на гэтыя пытаньні паўплываць ня можа. Пытаньне незалежнасьці Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі — гэта надта дробны аспэкт, які наўрад ці зьяўляецца чымсьці сур’ёзным. А на пытаньні дамоваў, крэдытаў, газу Эўропа ніяк паўплываць ня можа.

Трэба таксама адказаць на пытаньне: «Ці не зьяўляецца сёньня эканамічная падтрымка пад лёзунгам абароны незалежнасьці падтрымкай апошняга дыктатара Эўропы? Ці можа ў нас ужо дыктатуры няма і дыктатара няма? І ці не атрымаецца так, што калі скончыцца фінансава-эканамічны крызіс і ня будзе патрэбы ў дапамозе Эўропы, то мы ізноў вернемся да тых пазыцыяў, якія былі раней?» Мы бачым, што

сутнасных зьменаў сёньня няма, ёсьць толькі спробы палепшыць фасад, нават не зьмяніць яго.

Вельмі хацелася б пачуць адказы на пастаўленыя пытаньні з боку тых, хто праводзіць гэтую палітыку — як з боку эўрапейцаў, гэтак і з боку спадара Лукашэнкі. Калі няма маральнай палітыкі, калі ўсё адбываецца за зачыненымі дзьвярыма, то пра якую маральнасьць можа ісьці гаворка? Мы выказваем занепакоенасьць, бо магчыма, што гэты працэс ужо нельга павярнуць у адваротны бок.

## Партнэрства для Беларусі і грузінскія аўтаноміі

**Дракахруст:** Спадар Мілінкевіч, мы пачулі ад спадара Казуліна, што пытаньне аб прызнаньні незалежнасьці Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі — гэта дробнае пытаньне. Але зусім нядаўна яно было адным з фокусаў дыскусіяў. На прыгаданай міністэрскай нарадзе ў Брусэлі з вуснаў кіраўніка чэскага МЗС Карэла Шварцэнбэрга і эўракамісаркі Бэніты Фэрэры-Вальднэр прагучала тэза, што ўмовай далучэньня Беларусі да «Ўсходняга партнэрства» зьяўляецца непрызнаньне ёй незалежнасьці Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі. Спадарыня Фэрэра-Вальднэр наўпрост сказала, што «Ўсходняе партнэрства» ёсьць адказам Эўразьвязу на вайну Расеі з Грузіяй і на газавы канфлікт Расеі з Украінай. Дык можа матывацыя як гэтага праекту, так і паляпшэньня адносінаў паміж Эўропай і Беларусьсю зусім адрозная ад той, што ўяўляецца беларускай апазыцыі, калі ставяцца такія ўмовы і гучаць такія заявы?

**Мілінкевіч:** Слова «партнэрства», якое ёсьць ключавым у гэтай праграме, прадугледжвае супрацоўніцтва ня толькі кожнай з шасьці краінаў з Эўропай, гэта і супрацоўніцтва краінаў паміж сабой, і партнэрства ў тым ліку і Беларусі і Грузіі. Я ўпэўнены, што Грузія адрэагуе катэгарычна адмоўна на магчымае прызнаньне Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі Беларусьсю і не пагодзіцца ўдзельнічаць у адной праграме з краінай, якая не прызнае яе тэрытарыяльную цэласнасьць. Тут вельмі сур'ёзнае пытаньне. Эўропа пакідае за Беларусьсю права вызначацца самастойна, мы — незалежная краіна. Але трэба памятаць аб нашым грузінскім партнэры. Я асабіста думаю, што ў XXI стагодзьдзі вырашаць праблемы межаў з дапамогай танкаў — гэта выключна амаральна, і яно ня можа практыкавацца ў Эўропе. Эўропа пра гэта казала неаднойчы, мая пазыцыя абсалютна такая ж.



**Дракахруст:** Спадар Казулін спытаў: «Дык што, Эўропа забылася пра свае прынцыпы?» А калі адказ: «Так, забылася, бо ёсьць іншыя чыньнікі». Тая ж заўвага спадарыні Фэрэры-Вальднэр аб палітыцы Расеі як матыве ўтварэньня «Ўсходняга партнэрства» сьведчыць пра наяўнасьць прынцыпу выжываньня Эўропы як палітычнага цэлага. А калі адказ такі, то што?

**Мілінкевіч:** Прагматызм у палітыцы заўсёды прысутнічае, і ў гэтым няма нічога кепскага. Калі гэты прагматызм прысутнічае за кошт маральнай палітыкі — гэта безнадзейна. Эўропа ня зможа адмовіцца ад маральных каштоўнасьцяў, на якіх яна аб'ядналася, гэтага не дазволіць грамадзтва. Таму я абсалютна не баюся таго, што яна раптам так зробіць.

**Дракахруст:** Спадар Казулін, я працягваю тое рытарычнае пытаньне, якое Вы задалі: «Ці забыла Эўропа пра свае прынцыпы?» А калі забыла, то што?

**Казулін:** Пра гэта проста трэба сказаць услых. Выбар заўсёды застаецца за кожным асобна ўзятым

чалавекам, палітыкам, краінай. Гэта сёньня галоўнае пытаньне. Мы цяпер жывём у краіне, дзе абсалютна разбуранае правасудзьдзе, дзе законы не абараняюць грамадзяніна.

У нас няма нават інстытуту амбудсмэна. У астатніх 5 краінах, якім прапаноўваецца «Ўсходняе партнэрства», ён ёсьць. Але гэтае пытаньне ні ў кога не выклікае занепакоенасьці: каго цікавяць правы і свабоды грамадзянаў на фоне прызнаньня Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі? Зразумела ж, што Лукашэнка і бяз гэтага стаіць перад вялікім выбарам наконт Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі. Але гэта ягоная праблема. Калі Беларусь стане другой ці трэцяй краінай сьвету, якая прызнае гэтыя рэспублікі, наўрад ці моцна зьменіць сытуацыю. Гэта выбар Лукашэнкі, і хай ён сябе праяўляе напоўніцу.

**Дракахруст:** Гэта выбар Лукашэнкі ці выбар Беларусі?

**Казулін:** Прызнаньне незалежнасьці Паўднёвай Асэтыі і Абхазіі будзе ня выбарам Беларусі, а выбарам Лукашэнкі. Ва ўмовах эканамічнага крызісу трэба разумець, каму выгадней у першую чаргу шчыльнае супрацоўніцтва з Эўропай — Эўропе ці Беларусі? Размова ж сёньня ідзе аб простай рэчы, аб выжываньні існага рэжыму. І пытаньне палягае ў тым, ці гатовая Эўропа падтрымаць гэтае выжываньне? Калі так, то хацелася б пачуць, на якой падставе і што ўзамен гэтага будзе? Калі проста падтрымліваем, бо ранейшая палітыка правалілася і трэба запісаць сабе ў актыў нешта новае, гэта таксама варта пачуць. Хацелася б, каб было нешта іншае, калі нават пры падтрымцы існага рэжыму ў Беларусі ў адказ адбыліся сур'ёзныя інстытуцыянальныя зьмены і зьявіліся мінімальна эўрапейскія каштоўнасьці.



## На доўгім шляху

*Пасьляслоўе*

Гэтая кніга складаецца з тэкстаў перадачаў «Праскі акцэнт», якія я шмат гадоў вёў на Радыё Свабода.

Адбіраючы тэмы «круглых сталоў» для кнігі, я кіраваўся забаўным прынцыпам, які сфармуляваў для сябе: дакладны прагноз адлюстроўвае рэчаіснасьць, няправільны — эпоху.

У кнізе багата і адных і другіх. Гэта — не задачнік з правільнымі адказамі, а хроніка напружанага інтэлектуальнага пошуку, у якім памылкі, няспраўджаныя прагнозы і тупікі часам больш карысныя, чым цаляньні і адгадкі. Карысныя, бо самы працэс пошуку, самы працэс разгадваньня таямніцаў грамадства стварае дадатковую да будзённага існаваньня ідэальную прастору — прастору сэнсаў. Меркаваньні ўдзельнікаў «круглых сталоў» — ня столькі спаборніцтва ў дакладнасьці ўгадваньня будучыні, колькі адказы на пытаньне: «Чаму?»

Мая першая аўтарская аналітычная праграма на Радыё Свабода называлася «На доўгім шляху». Гэткую назву навеяла іранічная баляда «Песьня пра таварышча Сапегу» барда Віктара Шалкевіча:

> ...Стаяў разьняшчасны таварышч Сапега
> На длінным і скользкім пуці...

На «длінным і скользкім пуці» — ня толькі лірычны герой Шалкевіча, але і ўсё беларускае грамадзтва.

Многія палітычныя сюжэты, вакол якіх ламалі дзіды ўдзельнікі «круглых сталоў», састарэлі ці атрымалі новае, часам нечаканае, разьвіцьцё ўжо на момант выхаду кнігі. Яшчэ большая колькасьць іх састарэе праз пэўны час. Але спадзяюся, што карціна, якая вымалёўваецца з гэтых тэкстаў, будзе і тады ўяўляць не адно гістарычны інтарэс. Бо пачатак XXI стагодзьдзя быў ня толькі часам сталеньня аўтарытарнай сыстэмы і барацьбы зь ёй, ня толькі вы-

хадам з пострэвалюцыйнага крызісу 90-х гадоў мінулага стагодзьдзя — ён быў і надзвычай важным этапам станаўленьня беларускай ідэнтычнасьці, кажучы мэтафарычна, этапам станаўленьня беларускай нацыі. І шлях гэтага станаўленьня прымушае прыгадаць думку Гэгеля наконт ірыоніі гісторыі — яно адбываецца ня толькі, а можа нават і ня столькі сьвядомымі высілкамі энтузіястаў нацыянальнай ідэі, колькі зьбегам абставінаў, лёгікай пабудовы незалежнай самастойнай дзяржавы.

Парадоксы гэтага «шляху назад, які вядзе наперад», — адна з галоўных тэмаў кнігі.

Прыкладна траціна ўдзельнікаў перадачаў — замежнікі: расейцы, украінцы, палякі, немцы, амэрыканцы, літоўцы. Замежны погляд, які не заўважае ці ня ведае некаторых дэталяў, часам больш дакладна бачыць сутнасныя рэчы, кантэкст, наконт якога ня надта здольныя рэфлексаваць людзі, якія ў ім жывуць. І краіна, і яе інтэлектуальная супольнасьць лепш спазнаюць і сябе, і свае праблемы ў поглядзе і меркаваньні іншых.

Назва «Акцэнты Свабоды», прапанаваная маім бацькам незадоўга да яго сьмерці, адлюстроўвае ня толькі тое, што кніга — своеасаблівы міжнародны «мазгавы штурм» беларускіх праблемаў, але і тое, што свабода — непадзельная і што без свабоды Беларусі вольнасьці не стае ўсяму сьвету.

Эрнэст Гэмінгўэй пісаў, што старэюць ня толькі адказы, але і пытаньні. Нашыя пытаньні састарэюць з нашай эпохай. Але само напружаньне пошуку адказаў на іх пакідае надзею, што прастора свабоды, прастора новых пытаньняў і выклікаў стане ўсё ж шырэйшай.

*Юры Дракахруст*

## Пра аўтара



**Юры Дракахруст** — журналіст. Нарадзіўся ў 1960 г. у Хабараўску (Расея). У 1964 г. з бацькамі пераехаў у Менск. Скончыў мэханіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту (БДУ). У 1986 г. абараніў кандыдацкую дысэртацыю па алгебраічнай тэорыі лічбаў. У 1982—1991 гг. працаваў у Інстытуце матэматыкі Акадэміі навук Беларусі, у 1991—1994 гг. — у Інстытуце экономікі Акадэміі навук Беларусі, у 1992—2000 гг. — у Незалежным інстытуце сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў. Выступаў з артыкуламі ў газэтах «Знамя юности», «Белорусский рынок», «Белорусская деловая газета», «Белорусская газета», у інтэрнэт-выданьні «Белорусские новости», у часопісах «ARCHE», «Неприкосновенный запас» (Расея).
Аўтар артыкулаў пра палітычную сытуацыю ў Беларусі ў кнігах «Белоруссия и Россия: общества и государства» (Масква) і «Independent Belarus: Domestic Determinants, Regional Dynamics, and Implications for the West» (Harvard, Cambridge, MA). У 1990—1991 гг. — сакратар управы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне». З 1991 г. працуе на Радыё Свабода, з 1996 г. — карэспандэнт Беларускай службы Радыё Свабода, з 2000 г. — супрацоўнік Беларускай рэдакцыі Радыё Свабода ў Празе.
Узнагароджаны мэдалём Акадэміі навук СССР за найлепшую дыплёмную працу (1982), ляўрэат прэміі Беларускай асацыяцыі журналістаў (1996).

## Пра ўдзельнікаў



**Акудовіч Валянцін** — філёзаф, паэт, літаратурны крытык. Нарадзіўся ў 1950 г. у мястэчку Сьвіслач Гарадзенскай вобласьці. Скончыў Літаратурны інстытут у Маскве. Працаваў у штотыднёвіках «Культура», «ЛіМ», часопісах «Крыніца» і «Фрагмэнты», рэдагаваў філязофскі часопіс «Перекрестки». Аўтар кніг «Мяне няма. Роздум на руінах чалавека», «Разбурыць Парыж», «Дыялёгі з Богам», «Код адсутнасьці». Ляўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-Цэнтру і літаратурнай прэміі «Гліняны Вялес». Мае мэдаль «За вайсковую доблесьць».



**Алексіевіч Сьвятлана** — пісьменьніца. Нарадзілася ў 1948 г. у Івана-Франкоўску (Украіна). Скончыла аддзяленьне журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працавала ў раённых газэтах, у «Сельской газете», часопісе «Неман». Аўтарка кніг «У войны не женское лицо», «Последние свидетели», «Цинковые мальчики», «Зачарованные смертью», «Чернобыльская молитва», перакладзеных на 36 моваў сьвету. Ляўрэатка прэміяў Курта Тухольскага (Швэдзкі ПЭН-Цэнтар), імя Андрэя Сіняўскага, расейскай прэміі «Трыюмф», нямецкай — «За найлепшую палітычную кнігу», аўстрыйскай — імя Гэрдэра.



**Арлоў Дзьмітры** — расейскі палітоляг, паліттэхноляг. Нарадзіўся ў 1971 г. у Маскве. Скончыў гістарычны факультэт Маскоўскага пэдагагічнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэтах «Российские вести», «Труд», у часопісе «Новое время», галоўным рэдактарам сайту «Политком.ru». Дырэктар Агенцтва палітычных і эканамічных камунікацыяў.



**Арэшка Вацлаў** — палітык, перакладчык. Нарадзіўся ў 1955 г. у Свярдлоўску (цяпер Екацярынбург, Расея). Скончыў Беларускі тэатральна-мастацкі інстытут і асьпірантуру пры ім. Працаваў у Беларускім рэспубліканскім тэатры юнага гледача, Дзяржаўным мастацкім музэі БССР, Акадэміі мастацтваў. Быў намесьнікам старшыні працоўнай групы Асамблеі няўрадавых арганізацыяў, каардынатарам плянава-аналітычнай групы дэмакратычнай кааліцыі «Пяцёрка +», выканаўцам абавязкаў рэдактара бюлетэню Аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Аўтар перакладаў з польскай мовы твораў Уршулі Радзівіл і Сяргея Пясецкага.



**Бабкоў Ігар** — паэт, празаік, філёзаф. Нарадзіўся ў 1964 г. у Гомелі, скончыў аддзяленьне філязофіі гістарычнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працуе ў Інстытуце філязофіі НАН РБ. Рэдагаваў часопіс «Фрагмэнты». Аўтар паэтычных зборнікаў «Solus Rex» і «Герой вайны за празрыстасьць», раману «Адам Клакоцкі і ягоныя цені», кнігі «Філязофія Яна Сьнядэцкага».



**Бялініс Лаўрас** — літоўскі палітоляг, палітычны кансультант. Нарадзіўся ў 1957 г. у Вільні (Літва), скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт. Доктар паліталёгіі. Працаваў галоўным рэдактарам часопісу «Politologija», які заснаваў у 1991 г. З 1994 г. выкладае ў Інстытуце міжнародных зносінаў і палітычных навук пры Віленскім і Клайпэдзкім унівэрсытэтах. З 2006 г. — дарадца прэзыдэнта Літоўскай Рэспублікі, кіраўнік групы ў пытаньнях унутранай палітыкі і аналізу. Аўтар кніг «Уводзіны ў выбарчыя тэхналёгіі», «Расея і СНД», «Анатомія прэзыдэнцкіх выбараў: прэзыдэнцкія выбары ў Літве ў 2002 г.», «Грамадзтва, улада і СМІ. Супярэчлівы камунікацыйны сымбіёз».



**Букчын Сямён** — пісьменьнік, публіцыст. Нарадзіўся ў 1941 г. у сяле Валаконаўка Курскай вобласьці (Расея), скончыў аддзяленьне журналістыкі філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў рэдактарам на беларускім тэлебачаньні, у выдавецтве «Беларуская энцыкляпэдыя», адказным сакратаром часопісу «Весці АН БССР», у Інстытуце літаратуры імя Янкі Купалы Акадэміі навук Беларусі. Кандыдат філялягічных навук. Аўтар кніг «Судьба фельетониста: Жизнь и творчество Власа Дорошевича», «Народ издревле нам родной: Русские писатели и Белоруссия» і інш. Цяпер — вольны пісьменьнік, вядзе аўтарскую калёнку «Незлобивые заметки» ў «Народнай волі».



**Бялкоўскі Станіслаў** — расейскі палітоляг, публіцыст, паліттэхноляг. Нарадзіўся ў 1971 г. у Маскве, скончыў факультэт эканамічнай кібэрнэтыкі Маскоўскага інстытуту кіраваньня, займаўся палітычным кансультаваньнем, з 1999 г. — галоўны рэдактар сайту «Агентство политических новостей» («АПН»), у 2002 г. заснаваў Раду нацыянальнай стратэгіі, адзін з аўтараў дакладу Рады «Государство и олигархия», зь якога пачалася справа супраць канцэрну ЮКАС. З 2004 г. узначальвае Інстытут нацыянальнай стратэгіі (Масква).



**Вік Ганс-Георг** — нямецкі палітык, дыплямат. Нарадзіўся ў 1928 г. у Гамбургу. Вывучаў гісторыю, філязофію і права ў Гамбурскім унівэрсытэце. З 1954 г. — на дыпляматычнай службе Фэдэратыўнай рэспублікі Нямеччына (ФРН), быў амбасадарам ФРН у СССР, Іране, Індыі, прадстаўніком ФРН у НАТО, узначальваў Нямецкае выведнае агенцтва. У 1998—2001 гг. — кіраўнік місіі АБСЭ ў Беларусі. Цяпер сябра Рады Нямецка-беларускага таварыства, кансультант МЗС Нямеччыны.



**Вольскі Лявон** — музыка, паэт, сьпявак. Нарадзіўся ў 1965 г. у Менску, скончыў Менскую мастацкую вучэльню. Удзельнік музычных гуртоў «Мроя», «N.R.M.», «ZET», «Крамбамбуля». Дыскаграфія ў складзе гуртоў і супольных праектаў: «Стары храм» (1983, 1986), «Зрок» (1987), «Студыя БМ» (1988), «Дваццаць восьмая зорка» (1989, 1997), «Народны альбом» (1997), «Пашпарт грамадзяніна N.R.M.» (1998), «Samotnik» (2000), «Try čarapachi» (2000), «Dom kultury» (2002), «Сьвяты вечар» (2000), «Я нарадзіўся тут» (2001), «Крамбамбуля» (2002), «Крамбамбуля 1½: Каралі раёну» (2003), «Крамбамбуля 0,33 FM» (2004), «Радзіма.com» (2006), «Крамбамбуля сьвяточная» (2007). Аўтар кнігі вершаў «Калідор» (1993). Уганараваны рок-каронамі ў 1996, 1997, 2000, 2005 гг.



**Вяжбоўска-Мязга Агата** — польскі палітоляг, дасьледніца праблемаў Беларусі, Украіны і Расеі. Нарадзілася ў 1976 г. у Варшаве. Скончыла Інстытут этналёгіі і культурнай антрапалёгіі Варшаўскага ўнівэрсытэту, з 2000 г. працуе аналітыкам беларускай сэкцыі ўрадавага Цэнтру ўсходніх дасьледаваньняў. У 2004 і 2006 гг. была назіральніцай АБСЭ на выбарах у Беларусі.



**Гардзіенка Алег** — гісторык. Нарадзіўся ў 1977 г. у вёсцы Раёўка Маладэчанскага раёну Менскай вобласьці. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У 1999—2004 гг. працаваў у Інстытуце гісторыі НАН Беларусі, адкуль сышоў з ідэалягічных прычынаў. Працаваў у інфармацыйнай кампаніі БелаПАН, а са студзеня 2005 г. — супрацоўнік газэты «Наша Ніва». Аўтар кнігі «Беларускі кангрэсавы камітэт Амэрыкі».



**Грузьдзіловіч Алег** — журналіст. Нарадзіўся ў 1958 г. у Маладэчне. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэтах «Знамя юности» (супрацоўнік, намесьнік галоўнага рэдактара), «Народная газета», «Свабода», «Навіны». З 1995 г. — карэспандэнт Беларускай службы Радыё Свабода.



**Грыцанаў Аляксандар** — філёзаф. Нарадзіўся ў 1958 г. у Менску. Скончыў аддзяленьне філязофіі гістарычнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат філязофскіх навук. Працаваў на катэдры філязофіі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту (асьпірант, выкладчык, дацэнт), дацэнтам катэдры сацыялёгіі Міжнароднага дзяржаўнага экалягічнага ўнівэрсытэту імя Андрэя Сахарава. Кіруе найбуйнейшай у СНД энцыкляпэдычнай сэрыяй. Сярод выданьняў сэрыі — «Новейший философский словарь», «Всемирная энциклопедия. Философия», «Всемирная энциклопедия. Философия XX века», «История философии», «Постмодернизм», «Эзотеризм», «Социология», «Религия». Аўтар кніг: «Социологический психологизм», «Человек и отчуждение», «История социологии» (у суаўтарстве), «Современная западная философия» (у суаўтарстве), «Христианство», «Язычество», «Индуизм», «Протестантство», «Католичество», «Жиль Делёз», «Мишель Фуко» (у суаўтарстве з У. Абушэнкам), «Жак Деррида» (у суаўтарстве з А. Гурко), «Жан Бодрийяр» (у суаўтарстве з М. Кацуком).



**Дорахаў Уладзімер** — журналіст. Нарадзіўся ў 1967 г. у Бранску (Расея). Скончыў Беларускі дзяржаўны тэхналягічны ўнівэрсытэт і Акадэмію кіраваньня пры прэзыдэнту РБ. Працаваў у «Белорусской деловой газете» («БДГ»), «Белорусской газете», у Незалежным інстытуце сацыяльна-эканамічных і палітычных дасьледаваньняў, карэспандэнтам радыёстанцыі «Deutsche Welle» ў Беларусі. З 2005 г. — супрацоўнік Расейскай рэдакцыі «Deutsche Welle» ў Боне.



**Дубноў Вадзім** — расейскі журналіст. Нарадзіўся ў 1962 г. у Кіеве, скончыў Маскоўскі інстытут інжынэраў чыгункі. З 1984 па 2007 г. — агляднік, рэдактар аддзелу, намесьнік галоўнага рэдактара часопісу «Новое время». Супрацоўнічаў з інтэрнэт-выданьнямі «Газета.ru», «Грани.ru», агенцтвам «РИА-Новости». З 2007 г. — карэспандэнт часопісу «New Times».



**Дынько Андрэй** — публіцыст. Нарадзіўся ў 1974 г. у Берасьці. Скончыў Менскі дзяржаўны пэдагагічны інстытут замежных моваў. З 1998 г. — рэдактар часопісу «ARCHE», з 2000 г. — галоўны рэдактар газэты «Наша Ніва», з 2007 г. — шэф-рэдактар газэты і рэдактар сайту «nn.by». У 2002—2004 гг. — віцэ-прэзыдэнт Беларускага ПЭН-Цэнтру. Аўтар кнігі «Беларусь за 10 падарожжаў» (у суаўтарстве з А. Скуркам). Ляўрэат прэміі Міжнароднага ПЭН-Цэнтру і галяндзкага фонду «Oxfam Novib» «За свабоду думкі» (2006), прэміі «За журналісцкую мужнасьць і прафэсіяналізм» расейскага Першага тэлеканалу (2006), прэміі Эўракамісіі імя Лярэнца Наталі (2006) за кнігу «Турэмны дзёньнік».



**Злобін Мікалай** — амэрыканскі палітоляг. Нарадзіўся ў 1958 г. у Расеі. Скончыў гістарычны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у МДУ і шэрагу ўнівэрсытэтаў ЗША і Заходняй Эўропы, у расейскіх выданьнях «Известия», «Литературная газета», «Общая газета», «Независимая газета». З 1993 г. жыве ў ЗША. Дырэктар Інстытуту ўсясьветнай бясьпекі.



**Івіньскі Тадэвуш** — польскі палітык. Нарадзіўся ў 1944 г. у Пяставе (Польшча). Працаваў у Польскай акадэміі навук. З 1990 г. — сябра Сацыял-дэмакратычнай партыі Польшчы, з 1991 г. — дэпутат Сойму Польшчы. У 2001 г. быў дарадцам прэм'ер-міністра Польшчы ў міжнародных справах. У 1994—1998 гг. і з 2003 г. па цяперашні час — віцэ-сьпікер Парлямэнцкай Асамблеі Рады Эўропы.



**Казулін Аляксандар** — навуковец, палітык. Нарадзіўся ў 1955 г. у Менску. Скончыў мэханіка-матэматычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат фізыка-матэматычных навук, доктар пэдагагічных навук, прафэсар. Працаваў у БДУ, Міністэрстве адукацыі (начальнік аддзелу, начальнік упраўленьня, першы намесьнік міністра), з 1996 па 2003 г. — рэктар БДУ, у 2003 г. звольнены ўказам прэзыдэнта. У 2005 г. абраны старшынём Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Грамада», у канцы 2008 г. выйшаў з партыі. Удзельнічаў у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г. У сакавіку 2006 г. арыштаваны падчас масавых выступаў пратэсту пасьля прэзыдэнцкіх выбараў, асуджаны на 5,5 году пазбаўленьня волі па абвінавачаньні ў «злосным хуліганстве і арганізацыі масавых беспарадкаў». У жніўні 2008 г. вызвалены паводле ўказу прэзыдэнта.



**Караганаў Сяргей** — расейскі палітоляг, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў 1952 г. у Маскве. Скончыў эканамічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат эканамічных навук, доктар гістарычных навук, прафэсар. Працаваў у Інстытуце ЗША і Канады АН СССР, у Інстытуце Эўропы АН СССР (РАН). З 1989 г. — намесьнік дырэктара Інстытуту Эўропы. З 1994 г. — кіраўнік Рады зьнешняй і абароннай палітыкі РФ. Аўтар 17 кніг і болей як 300 артыкулаў.



**Класкоўскі Аляксандар** — журналіст. Нарадзіўся ў 1958 г. у вёсцы Новы Двор Менскага раёну. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Быў рэдактарам моладзевага часопісу «Парус», адказным сакратаром газэты «Звязда», рэдактарам газэты «Знамя юности», намесьнікам рэдактара «Народнай газеты». Першы галоўны рэдактар інтэрнэт-газэты «Белорусские новости». Цяпер — рэдактар аналітычнага бюлетэню інфармацыйнай кампаніі БелаПАН.



**Лук'янаў Фёдар** — расейскі палітоляг, журналіст-міжнароднік. Нарадзіўся ў 1967 г. у Маскве. Скончыў філялягічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў на радыёстанцыі «Голос России», у газэтах «Сегодня», «Время МН», быў намесьнікам галоўнага рэдактара газэты «Время новостей». З 2002 г. — галоўны рэдактар часопісу «Россия в глобальной политике».



**Лябедзька Анатоль** — палітык. Нарадзіўся ў 1961 г. у вёсцы Трылес Стаўпцоўскага раёну Менскай вобласьці. Скончыў факультэт гісторыі і францускай мовы Менскага пэдагагічнага інстытуту і юрыдычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Дэпутат Вярхоўнага Савету РБ 12-га і 13-га скліканьняў. У 1994 г. — сябра передвыбарчага штабу кандыдата на прэзыдэнта Аляксандра Лукашэнкі, пазьней дарадца і прадстаўнік прэзыдэнта ў Вярхоўным Савеце. З 1995 г. — у апазыцыі да прэзыдэнта Лукашэнкі. У 1995 г. уступіў у Аб'яднаную грамадзянскую партыю, з 2000 г. — старшыня партыі. Неаднаразова быў пакараны адміністрацыйнымі арыштамі і штрафамі за арганізацыю і ўдзел у масавых акцыях апазыцыі.



**Маркаў Сяргей** — расейскі палітоляг і палітык. Нарадзіўся ў 1958 г. у горадзе Дубна Маскоўскай вобласьці. Скончыў філязофскі факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў выкладчыкам МДУ, у Радзе бясьпекі Расеі, у Маскоўскім цэнтры Фонду Карнэгі. Кандыдат паліталягічных навук, дацэнт катэдры дзяржаўнай палітыкі філязофскага факультэту Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту, прафэсар факультэту паліталёгіі Маскоўскага дзяржаўнага інстытуту міжнародных зносінаў, дырэктар Інстытуту палітычных дасьледаваньняў. З 2007 г. — дэпутат Дзяржаўнай думы Расеі ад партыі «Единая Россия».



**Марціновіч Віктар** — журналіст. Нарадзіўся ў 1977 г. у Ашмянах Гарадзенскай вобласьці. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Доктар мастацтвазнаўства. Працаваў у «Белорусской деловой газете» («БДГ»). З 2000 г. працуе ў «Белгазете» (з 2002 г. — намесьнік рэдактара).



**Мацкевіч Уладзімер** — філёзаф, палітык, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў 1956 г. у горадзе Чарамхова Іркуцкай вобласьці (Расея), у сям'і, дэпартаванай з Заходняй Беларусі. Скончыў факультэт псыхалёгіі Ленінградзкага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў выкладчыкам Ліепайскага ўнівэрсытэту (Латвія), быў дарадцам першага ўраду Латвіі пасьля аднаўленьня незалежнасьці краіны. З 1994 г. — кіраўнік Агенцтва гуманітарных тэхналёгіяў у Менску, арганізатар філязофскіх і мэтадалягічных сэмінараў. Аўтар і вядоўца ток-шоў «Выбар» на беларускім тэлебачаньні (2003). У 1995—1998 гг. — сябра Палітрады Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Аўтар кніг «Полемические этюды об образовании», «Думать Беларусь», «Белорусская демократия: вопреки очевидности», «Вызывающее молчание».



**Мілінкевіч Аляксандар** — палітык. Нарадзіўся ў 1947 г. у Горадні. Скончыў фізыка-матэматычны факультэт Гарадзенскага пэдагагічнага інстытуту. Кандыдат фізыка-матэматычных навук. Працаваў школьным настаўнікам, малодшым навуковым супрацоўнікам Інстытуту фізыкі АН БССР, дацэнтам фізычнага факультэту Гарадзенскага ўнівэрсытэту, загадчыкам катэдры фізыкі Сэтыфскага ўнівэрсытэту (Альжыр). У 1990—1996 гг. — намесьнік старшыні Гарадзенскага гарвыканкаму ў пытаньнях культуры, адукацыі, мэдыцыны, спорту, моладзі і міжнародных зносінаў. З 1996 г. — старшыня Беларускай асацыяцыі рэсурсавых цэнтраў (ліквідаваная ў 2003 г.). Удзельнічаў у прэзыдэнцкіх выбарах 2006 г. як адзіны кандыдат ад аб'яднанай апазыцыі. У 2005—2007 гг. — старшыня Палітычнай рады Аб'яднаных дэмакратычных сілаў. Цяпер — кіраўнік руху «За Свабоду». Ляўрэат прэміі Эўрапарляманту імя Андрэя Сахарава «За свабоду думкі» (2006), прэміі незалежнага фонду «PolCul» (Аўстралія), уганараваны ордэнам Польшчы «За заслугі перад польскай культурай». Аўтар 65 навуковых працаў і манаграфіяў па квантавай электроніцы, лазэрнай фізыцы, гісторыі, культуры, адукацыі і архітэктуры Беларусі.



**Нольтэ Кляўдыя** — нямецкі палітык. Нарадзілася ў 1966 у Ростаку (Нямеччына). Скончыла Тэхнічны ўнівэрсытэт у Ільмэнаў. У палітыцы ад 1989 г., з 1990 г. — сябра Хрысьціянска-дэмакратычнага саюзу (ХДС). У 1991—1994, 1999—2002, 2002—2005 гг. — дэпутатка ад фракцыі ХДС у Бундэстагу. У 1994—1998 гг. — міністарка ў справах сям'і, жанчын і моладзі ў кабінэце канцлера Гэльмута Коля. Ад 2006 г. — прадстаўніца палітычнай фундацыі імя Конрада Адэнаўэра ў Бялградзе.



**Някляеў Уладзімер** — пісьменьнік. Нарадзіўся ў 1946 г. у Смаргоні Гарадзенскай вобласьці. Скончыў Менскі тэхнікум сувязі, філялягічны факультэт Менскага пэдагагічнага інстытуту. Працаваў у газэце «Знамя юности», быў галоўным рэдактарам часопісу «Крыніца», штотыднёвіка «Літаратура і мастацтва». З 1998 па 2001 г. — старшыня Саюзу пісьменьнікаў. З 1999 г. жыў у Польшчы і Фінляндыі, абвесьціўшы разрыў з уладамі Беларусі. У 2001 г. вярнуўся ў Беларусь. У 2005 г. быў абраны старшынём Беларускага ПЭН-Цэнтру. Аўтар кніг: «Адкрыцьцё», «Галубіная пошта», «Прошча», «Лабух», «Так» і інш. Узнагароджаны прэміяй камсамолу Беларусі, ордэнам «Знак Пашаны», Дзяржаўнай прэміяй Беларусі.



**Падгол Уладзімер** — палітоляг, паліттэхноляг, філёзаф. Нарадзіўся ў 1952 г. у Віцебску. Скончыў аддзяленьне філязофіі гістарычнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат філязофскіх навук. Кіраўнік інфармацыйна-аналітычнага цэнтру «Інфармацыйныя і сацыяльныя інавацыі». Аўтар кніг «Основы политической психологии», «Народный телевизор», раманаў «Куля для президента», «Властелин кули», «Чертовы Жернова».



**Пазьняк Зянон** — палітык. Нарадзіўся ў 1944 г. у мястэчку Суботнікі Іўеўскага раёну Гарадзенскай вобласьці. Скончыў Беларускі дзяржаўны тэатральна-мастацкі інстытут. Кандыдат мастацтвазнаўства. Працаваў у аддзеле археалёгіі Інстытуту гісторыі Акадэміі навук Беларусі. У 1988 г. апублікаваў (у суаўтарстве зь Я. Шмыгалёвым) у газэце «Літаратура і мастацтва» артыкул «Курапаты — дарога сьмерці» аб месцы масавых расстрэлаў пад Менскам у сталінскую эпоху. Старшыня Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» (1989—1999) і Партыі БНФ (1993—1999). З 1999 г. па цяперашні час — старшыня Кансэрватыўна-хрысьціянскай партыі БНФ. Дэпутат Вярхоўнага Савету Беларусі 12-га скліканьня (1990—1995), лідэр фракцыі БНФ. Удзельнічаў у прэзыдэнцкіх выбарах 1994 г. Вылучаўся кандыдатам на прэзыдэнцкіх выбарах 2001 і 2006 г. У 1996 г. пасьля апазыцыйнага шэсьця «Чарнобыльскі шлях» эміграваў у ЗША, дзе атрымаў палітычны прытулак. Жыве ў Нью-Ёрку і ў Варшаве. Аўтар кніг «Браслаўшчына», «Рэха даўняга часу», «Курапаты», «Глёрыя Патрыя».



**Пашкевіч Міхаіл** — палітык. Нарадзіўся ў 1986 г. у пасёлку Малінаўка ў Рэспубліцы Комі (Расея). З 1999 г. — сябра «Маладога фронту». З 2006 г. — сябра Аб'яднанай грамадзянскай партыі. У 2007 г. абраны намесьнікам старшыні арганізацыі «Маладыя дэмакраты», з 2008 г. — старшыня гэтай арганізацыі. Быў пазбаўлены волі на год умоўна па абвінавачаньні ў арганізацыі мітынгу прадпрымальнікаў 10 студзеня 2008 г.



**Пікулік Аляксей** — палітоляг. Нарадзіўся ў 1982 г. у Менску. Скончыў аддзяленьне філязофіі і сацыяльных навук Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Магістар сацыялёгіі. З 2005 г. — дактарант у European University Institute (Флярэнцыя).



**Портнікаў Віталь** — расейскі і ўкраінскі журналіст. Нарадзіўся ў 1967 г. у Кіеве. Скончыў факультэт журналістыкі Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэтах «Молодь України», «Независимая газета». Супрацоўнічаў з выданьнямі «Русский телеграф», «Ведомости», «Время МН» (Расея), «День», «Зеркало недели» (Украіна), «Бизнес @ Балтия», «Телеграф» (Латвія), «Эстония», «Postimees» (Эстонія), «Polityka», «Gazeta Wyborcza» (Польшча), «Белгазета» (Беларусь), «Вести» (Ізраіль). З 1990 г. супрацоўнічае з Радыё Свабода, выступае ў этэры Беларускай, Расейскай, Украінскай службаў Радыё Свабода. Ляўрэат прэміі Саюзу журналістаў Украіны «Залатое пяро» (1989), прэміі імя гетмана Піліпа Орліка (1998).



**Пятроў Мікалай** — расейскі палітоляг. Нарадзіўся ў 1960 г. у Перваўральску (Расея). Скончыў геаграфічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат геаграфічных навук. Працаваў у Інстытуце геаграфіі АН СССР (РАН), быў кіраўніком сэктару аналізу і прагназаваньня Вярхоўнага Савету РФ, кіраўніком працоўнай групы ў праблемах рэгіянальнага разьвіцьця пры ўрадзе РФ, супрацоўнікам аналітычнага цэнтру адміністрацыі прэзыдэнта РФ, прафэсарам коледжу Макалестэр (ЗША). Цяпер — экспэрт Маскоўскага цэнтру Фонду Карнэгі.



**Пяхоўшэк Вячаслаў** — украінскі журналіст. Нарадзіўся ў 1966 г. у горадзе Тальнэ Чаркаскай вобласьці (Украіна). Скончыў факультэт філязофіі Кіеўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. У палітычнай журналістыцы з 1988 г. З 1995 г. — аўтар і вядоўца палітычнага ток-шоў «Пяты кут» на тэлеканале «1+1». З 1999 па студзень 2005 г. — аўтар і вядоўца праграмаў «Эпіцэнтар» і «Эпіцэнтар-дэбаты» на тэлеканале «1+1». Зь верасьня 2006 г. — ізноў вядоўца тэлепраграмы «Эпіцэнтар» на «1+1».



**Радзіхоўскі Леанід** — палітоляг, публіцыст, паліттэхноляг. Нарадзіўся ў 1953 г. у Маскве. Скончыў псыхалягічны факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат псыхалягічных навук. Працаваў у Інстытуце псыхалёгіі АН СССР, быў палітычным аглядальнікам тэлекампаніі «Останкино», дырэктарам рэдакцыі палітычнага вяшчаньня тэлеканалу РТР, палітычным аглядальнікам тэлеканалу «Россия». Супрацоўнічаў з выданьнямі «Сегодня», «Куранты», «Демократическая Россия», «Собеседник», «Огонек», «Итоги» (Расея), «Gazeta Wyborcza» (Польшча), «Новое русское слово» (ЗША). Удзельнічаў у якасьці паліттэхноляга ў кампаніях па выбарах у Дзяржаўную думу Расеі ў 1995 г. (партыя «Демократический выбор России»), у 1995 г. (рух «Наш дом — Россия», НДР), у 1999 г. (НДР), у 2003 г. (Союз правых сил), у кампаніі Аляксандра Лебедзя на выбарах прэзыдэнта Расеі ў 1996 г. У 1993—1995 гг. — дэпутат Дзяржаўнай думы Расеі ад партыі «Демократический выбор России». Ляўрэат прэміі «Залатое пяро Расеі» (1993).



**Раманчук Яраслаў** — эканаміст, палітык. Нарадзіўся ў 1966 г. у гарадзкім пасёлку Сапоцкін Гарадзенскага раёну. Скончыў Менскі дзяржаўны пэдагагічны інстытут замежных моваў, школу Ўсясьветнага банку па мікра-, макраэканоміцы і пэнсійнай рэформе, Інстытут бюджэтнай палітыкі (Латвія). Працаваў кіраўніком аддзелу зьнешніх сувязяў Беларускага саюзу прадпрымальнікаў, дырэктарам замежнага прадпрыемства «Марыён», экспэртам навукава-дасьледчага цэнтру «Усход—Захад». Цяпер — выканаўчы дырэктар Аналітычнага цэнтру «Стратэгія» і кіраўнік навукова-дасьледчага цэнтру імя Л. Мізэса. Намесьнік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Аўтар кніг «Беларусь: путь в будущее. Книга для парламента», «Либерализм. Идеология счастливого человека», «Бизнес Беларуси. В круге первом», «Экономическая Конституция Республики Беларусь», «В поисках экономического чуда. Уроки для Беларуси», «Беларусь на разломе».



**Рар Аляксандар** — нямецкі палітоляг. Нарадзіўся ў 1959 г. у Тайбэі (Тайвань), скончыў Мюнхэнскі ўнівэрсытэт. Працаваў у Фэдэральным інстытуце ўсходнеэўрапейскіх і міжнародных дасьледаваньняў, у дасьледчым інстытуце Радыё Свабода, у RAND Corporation і East-West Institute (ЗША). Цяпер — дырэктар праграмаў у пытаньнях Расеі і СНД Нямецкай рады зьнешняй палітыкі. Аўтар кнігі «Ўладзімер Пуцін. Немец у Крамлі» і сотняў публікацыяў. Сябра Рады дырэктараў клюбу YES (Yalta European Strategy), сябра Клюбу экспэртаў у пытаньнях Расеі.



**Садоўскі Пётра** — палітык, дыплямат, філёляг. Нарадзіўся ў 1939 г. у вёсцы Будзькаўшчына Полацкага раёну Віцебскай вобласьці. Скончыў Менскі дзяржаўны пэдагагічны інстытут замежных моваў. Кандыдат філялягічных навук. Працаваў дацэнтам у ВНУ. Быў старшынём камісіі Вярхоўнага Савету 12-га скліканьня ў замежных справах і зьнешнеэканамічнай дзейнасьці, першым паслом незалежнай Беларусі ў Нямеччыне. Працаваў у аддзеле зьнешніх сувязяў «Приорбанка». Сябра Беларускага ПЭН-Цэнтру.



**Саньнікаў Андрэй** — палітык, дыплямат, грамадзкі дзеяч. Нарадзіўся ў 1954 г. у Менску. Скончыў Менскі дзяржаўны пэдагагічны інстытут замежных моваў, Дыпляматычную акадэмію МЗС СССР. Працаваў у Беларускім таварystве сяброўства і культурных сувязяў з замежнымі краінамі, у Сакратарыяце ААН у Нью-Ёрку, з 1991 па 1996 г. — у МЗС Беларусі. Напярэдадні канстытуцыйнага рэфэрэндуму 1996 г. пайшоў у адстаўку з пасады намесьніка міністра замежных справаў на знак пратэсту супраць палітыкі прэзыдэнта. З 1997 г. па цяперашні час — міжнародны каардынатар грамадзянскай ініцыятывы «Хартыя'97». Ляўрэат міжнароднай прэміі імя Бруна Крайскага ў галіне правоў чалавека (2005).



**Севярынец Павал** — палітык, пісьменьнік. Нарадзіўся ў 1976 г. у горадзе Ворша Віцебскай вобласьці. Скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Сябра Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне», Партыі БНФ, стваральнік і старшыня «Маладога фронту» (1999—2004). З 2005 г. — адзін зь лідэраў незарэгістраванай партыі «Беларуская хрысьціянская дэмакратыя». На ўстаноўчым зьезьдзе партыі ў 2009 г. быў абраны яе сустаршынём.

Неаднаразова пакараны адміністрацыйнымі арыштамі і штрафамі за арганізацыю і ўдзел у масавых акцыях апазыцыі. У 2005 г. асуджаны на тры гады абмежаваньня волі за арганізацыю акцыі пратэсту ў кастрычніку 2004 г. пасьля правядзеньня рэфэрэндуму аб зьмене Канстытуцыі. Па амністыі тэрмін скарочаны на год. Адбываў пакараньне ў лясгасе Малое Сітна Віцебскай вобласьці. Вызвалены ў 2007 г. Ляўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-Цэнтру (2006) за цыкль «Лісты зь лесу», матэрыялы да якога Севярынец перасылаў са зьняволеньня для друку ў газэце «Наша Ніва» (2005).

Аўтар кнігаў: «Ды-джэй Адраджэньня», «Пакаленьне “Маладога фронту”», «Нацыянальная ідэя. Фэнамэналёгія Беларусі», «Лісты зь лесу», «Брату».



**Сіліцкі Віталь** — палітоляг, публіцыст. Нарадзіўся ў 1972 г. у Менску. Скончыў Беларускі дзяржаўны ўнівэрсытэт, вучыўся ў Цэнтральнаэўрапейскім унівэрсытэце ў Будапэшце і ў Ратгерскім унівэрсытэце Нью-Брансўіку. Доктар паліталёгіі. У 1998—2003 гг. працаваў выкладчыкам факультэту эканомікі Эўрапейскага гуманітарнага ўнівэрсытэту (звольнены за крытыку ўладаў Беларусі). З 2007 г. — дырэктар Беларускага інстытуту стратэгічных дасьледаваньняў. Аўтар кнігі «Historical Dictionary of Belarus. Second Edition» (Lanham MD and London: Scarecrow Press, у суаўтарстве зь Янкам Запруднікам) і шэрагу артыкулаў у беларускіх і замежных выданьнях.



**Сіўчык Вячаслаў** — палітык. Нарадзіўся ў 1962 г. у Менску. Скончыў геаграфічны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў геолягам у Грузіі і Беларусі. Сябра Сойму (з 1993 г.), сакратар, адказны сакратар управы Беларускага Народнага Фронту «Адраджэньне» (з 1995 г.), намесьнік старшыні БНФ «Адраджэньне» і Партыі БНФ (з 1999 г.). У 2003 г. рашэньнем Сойму выключаны з Партыі БНФ. Заяўнік і арганізатар многіх вулічных акцыяў апазыцыі, у тым ліку Дня Волі (1996, 1997, 2000, 2001), «Чарнобыльскага шляху» (1996—2001), акцыі пратэсту на Кастрычніцкай плошчы ў Менску пасьля прэзыдэнцкіх выбараў у сакавіку 2006 г. Неаднаразова быў асуджаны да адміністрацыйных арыштаў, зьбіты міліцыяй пры затрыманьнях.



**Статкевіч Мікола** — палітык. Нарадзіўся ў 1956 г. у вёсцы Лядна Слуцкага раёну Менскай вобласьці. Скончыў Менскую вышэйшую інжынэрную зэнітна-ракетную вучэльню (МВІЗРВ). Падпалкоўнік запасу. Кандыдат тэхнічных навук. Служыў у Савецкай Арміі, быў выкладчыкам МВІЗРВ. У 1991—1995 гг. — кіраўнік Беларускага згуртаваньня вайскоўцаў. У 1991—2005 гг. — сябра кіраўніцтва Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная Грамада», у 1995—2005 гг. — старшыня партыі. Неаднаразова пакараны адміністрацыйнымі арыштамі і штрафамі за арганізацыю і ўдзел у масавых акцыях апазыцыі. У 2005 г. атрымаў тры гады абмежаваньня волі за арганізацыю акцыі пратэсту ў кастрычніку 2004 г. пасьля правядзеньня рэфэрэндуму аб зьмене Канстытуцыі. Па амністыі тэрмін скарочаны на год. Выйшаў на волю ў траўні 2007 г. Цяпер — лідэр «Эўрапейскай кааліцыі». Узнагароджаны трыма мэдалямі Ўзброеных сілаў СССР.



**Тарас Валянцін** — пісьменьнік. Нарадзіўся ў 1930 г. у Менску, памёр у 2009 г. У гады Другой усясьветнай вайны 13-гадовым хлопчыкам пайшоў у партызаны, быў байцом атраду «За Савецкую Радзіму». Скончыў аддзяленьне журналістыкі філялягічнага факультэту Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэце «Звязда», у часопісе «Неман». Аўтар кніг вершаў і прозы: «Минска улицы родные», «Доверие», «Тревожная земля», «Первая молния», «Ни минуты раскаяния», «Под созвездием Льва», «Прощальные костры», «Две тетради», «Размышление», «Пазыцыя», «Дань времени», «На высьпе ўспамінаў». Аўтар сцэнароў шэрагу дакумэнтальных фільмаў. Перакладчык на расейскую мову раману Г. Г. Маркеса «Восень патрыярха» (разам з К. Шэрманам). Узнагароджаны ордэнам Айчынай вайны II ступені, мэдалямі.



**Урноў Марк** — расейскі палітоляг. Нарадзіўся ў 1947 г. у Маскве. Скончыў факультэт міжнародных эканамічных зносінаў Маскоўскага дзяржаўнага інстытуту міжнародных зносінаў. Кандыдат эканамічных навук. Працаваў у Інстытуце ўсясьветнай эканомікі і міжнародных зносінаў АН СССР, Інстытуце міжнароднага рабочага руху АН СССР, кіраўніком праектаў у «Гарбачоў-фондзе», у 1997—2000 гг. быў першым намесьнікам кіраўніка працоўнага цэнтру эканамічных рэформаў пры ўрадзе РФ. З 2000 г. — старшыня Фонду аналітычных праграмаў «Экспэртыза». З 2004 г. — дэкан факультэту практычнай паліталёгіі Вышэйшай школы эканомікі (Масква).



**Фадзееў Аляксандар** — расейскі палітоляг. Нарадзіўся ў 1953 г. у Маскве. Скончыў Маскоўскі дзяржаўны ўнівэрсытэт, асьпірантуру Інстытуту славяназнаўства і балканістыкі АН СССР. Кандыдат гістарычных навук. Кіраўнік аддзелу Беларусі ў Інстытуце краінаў СНД. Выкладчык Маскоўскага дзяржаўнага лінгвістычнага унівэрсытэту і Маскоўскага дзяржаўнага пэдагагічнага ўнівэрсытэту.



**Фёдараў Андрэй** — палітоляг. Нарадзіўся ў 1949 г. у Менску. Скончыў фізычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. З 1970 па 1990 г. працаваў у Інстытуце фізыкі Акадэміі навук Беларусі, кандыдат фізыка-матэматычных навук. У 1990—1992 гг. — старшы рэфэрэнт камісіі Вярхоўнага Савету РБ у пытаньнях навукі і навукова-тэхнічнага прагрэсу, у 1993—1996 гг. — кіраўнік упраўленьня міжнародных сувязяў Вярхоўнага Савету Рэспублікі Беларусь, у 1997—2004 гг. — супрацоўнік недзяржаўнага Міжнароднага інстытуту палітычных дасьледаваньняў, у 2005—2006 гг. — рэдактар аддзелу міжнароднай інфармацыі «Белорусской деловой газеты».



**Фёдараў Валер** — расейскі сацыёляг. Нарадзіўся ў 1974 г. у Маскве. Скончыў філязофскі факультэт Маскоўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў навуковым супрацоўнікам Інстытуту масавых палітычных рухаў Расейска-амэрыканскага ўнівэрсытэту, у 1995—2003 гг. — кіраўнік упраўленьня, намесьнік дырэктара, дырэктар Цэнтру палітычнай кан'юнктуры. Адначасна быў супрацоўнікам Інстытуту сацыяльна-палітычных дасьледаваньняў РАН. З 2003 г. — генэральны дырэктар Усерасейскага цэнтру вывучэньня грамадзкай думкі (ВЦИОМ). Аўтар кніг «Механизмы власти. 10 лет политической аналитики», «Эпоха Путина» (у суаўтарстве), «Россия на перепутье: как мы думали в 2004 г.» (у суаўтарстве).



**Фядута Аляксандар** — публіцыст, паліттэхноляг, філёляг. Нарадзіўся ў 1964 г. у Горадні. Скончыў філялягічны факультэт Гарадзенскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Кандыдат філялягічных навук. Працаваў настаўнікам расейскай мовы ў школе, сакратаром у пытаньнях вучнёўскай маладзі і першым сакратаром ЦК беларускага камсамолу (ЛКСМБ). Быў сябрам выбарчага штабу кандыдата на прэзыдэнта А. Лукашэнкі, кіраўніком упраўленьня грамадзка-палітычнай інфармацыі адміністрацыі прэзыдэнта. Сышоў у адстаўку з гэтай пасады на знак пратэсту супраць увядзеньня палітычнай цэнзуры друку. Пасьля гэтага працаваў у «Белорусской деловой газете», газэтах «Имя» і «Народная воля». Быў уласным карэспандэнтам газэты «Московские новости» ў Беларусі, сябрам Рэспубліканскай партыі працы і справядлівасьці (1993), беларускага аб'яднаньня «Яблоко» (1997—2007).
Аўтар кніг: «Читатель в творческом сознании А. С. Пушкина» (у суаўтарстве з І. Ягоравым), «Политические партии Беларуси — необходимая часть гражданского общества» (у суаўтарстве з А. Багуцкім і В. Марціновічам), «Лукашенко: политическая биография», «Паэтычны аглядальнік».



**Халезін Мікалай** — мастак, драматург, журналіст. Нарадзіўся ў 1964 г. у Менску. Працаваў у газэтах «Навіны», «Наша свабода», «Имя», удзельнічаў у стварэньні інтэрнэт-рэсурсу «Хартыя'97». Адзін з заснавальнікаў мастацкай галерэі «Віта нова» (пазьней — Цэнтар сучаснага мастацтва). Адзін з заснавальнікаў і сцэнограф Менскага альтэрнатыўнага тэатру. У 2005 г. заснаваў «Свабодны тэатар», мастацкім кіраўніком якога цяпер зьяўляецца.



**Хашчавацкі Юры** — кінадакумэнталіст, паліттэхноляг. Нарадзіўся ў 1947 г. у Адэсе (Украіна). Скончыў Адэскі тэхналягічны інстытут і Ленінградзкі інстытут тэатру, музыкі і кіно. Аўтар 30 фільмаў, сярод якіх «Встречный иск» (1989, сумесна з Аркадзем Рудэрманам), «Все хорошо» (1991), «Лифт для промежуточного человека», «Русское счастье» (1992), «Оазис» (1995), «Обыкновенный президент» (1996), «Боги серпа и молота» (2000), «Кавказские пленники» (2002), «Плошча» (2007). Ляўрэат шматлікіх міжнародных кінэматаграфічных прэміяў, у тым ліку прэміі міру на Бэрлінскім кінафэстывалі, Гран-пры кінафэстывалю ў Нью-Ёрку, прэміі Саюзу пісьменьнікаў Расеі «Апрель» імя Андрэя Сахарава, Гран-пры фэстывалю дакумэнтальнага кіно ў Мюнхэне.



**Хмялько Валеры** — украінскі сацыёляг. Нарадзіўся ў 1939 г. у Кіеве. Скончыў фізычны і філязофскі факультэты Кіеўскага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Доктар філязофскіх навук. Працаваў у Міністэрстве адукацыі УССР, Інстытуце гісторыі партыі пры ЦК КПУ, унівэрсытэце Джона Гопкінза (ЗША), дэканам факультэту сацыяльных навук і тэхналёгіяў Кіева-Магілянскай акадэміі. Прафэсар катэдры сацыялёгіі Кіева-Магілянскай акадэміі, прэзыдэнт Кіеўскага міжнароднага інстытуту сацыялёгіі (з 1992 г.).



**Цыганкоў Віталь** — журналіст. Нарадзіўся ў 1969 г. у Менску. Скончыў факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэтах «Знамя юности», «Звязда», «Свабода». Быў карэспандэнтам ў Беларусі расейскай «Независимой газеты» і «Associated Press». Працуе на Беларускай службе Радыё Свабода з 1994 г. Ляўрэат прэміі імя Алеся Адамовіча Беларускага ПЭН-Цэнтру (1995) і прэміі Беларускай асацыяцыі журналістаў «Вольнае слова» (2008).



**Чобат Алесь** — паэт, празаік і публіцыст. Нарадзіўся ў 1959 г. у горадзе Скідалі Гарадзенскай вобласьці. У 1981 г. скончыў Беларускі тэхналягічны інстытут у Менску. Працаваў канструктарам, журналістам, навуковым супрацоўнікам. Аўтар кніг «Год», «Новая Галілея», «Ты не самотны...», «Крэсы».



**Шарамет Павал** — журналіст. Нарадзіўся ў 1971 г. у Менску. Скончыў факультэт міжнародных эканамічных зносінаў Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў вядоўцам штотыднёвай аналітычнай праграмы «Праспэкт» беларускага тэлебачаньня, галоўным рэдактарам «Белорусской деловой газеты», дырэктарам Беларускага бюро, уласным карэспандэнтам тэлеканалу «Общественное российское телевидение» (ОРТ). У 1997 г. арыштаваны паводле абвінавачаньня ў незаконным пераходзе беларуска-літоўскай мяжы, правёў у турме 3 месяцы. Быў вызвалены на асабістае патрабаваньне прэзыдэнта Расеі Барыса Ельцына. Пазьней паводле абвінавачаньня ў незаконным перасячэньні мяжы быў на 2 гады пазбаўлены волі ўмоўна. З 1998 г. працуе ў Расеі. Быў спэцыяльным карэспандэнтам праграмаў «Новости» і «Время», шэф-рэдактарам расейскай і замежнай карэспандэнцкай сеткі ОРТ, аўтарам і вядоўцам штотыднёвага інфармацыйна-аналітычнага выпуску праграмы «Время», аўтарам і вядоўцам «Информационной программы с Павлом Шереметом», кіраўніком аддзелу спэцыяльных праектаў ОРТ. Аўтар чатырохсэрыйнага фільму пра вайну ў Чачэніі (2000). Адзін з заснавальнікаў інтэрнэтвыданьня «Белорусский партизан». Ляўрэат Міжнароднай прэміі Камітэту абароны журналістаў (1998 ), прэміі АБСЭ за дасягненьні ў галіне журналістыкі і абарону правоў чалавека (2002). Аўтар кнігі «Случайный президент» (у суаўтарстве з С. Калінкінай).



**Шыбека Захар** — гісторык. Нарадзіўся ў 1948 г. у вёсцы Асінаўка Сеньненскага раёну Віцебскай вобласьці. Скончыў гістарычны факультэт Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Доктар гістарычных навук, прафэсар. Працаваў у Інстытуце гісторыі АН Беларусі, у Нацыянальным навукова-асьветніцкім цэнтры імя Ф. Скарыны, быў дырэктарам Нацыянальнага музэю гісторыі і культуры Беларусі, з 2000 г. па цяперашні час — выкладчык Беларускага дзяржаўнага эканамічнага ўнівэрсытэту. Ляўрэат прэміі польскага часопісу «Przeglądu Wschodniego» (2001) і прэміі імя Францішка Багушэвіча Беларускага ПЭН-Цэнтру (2003). Аўтар кніг: «Минск в конце XIX — начале XX в. Очерк социально-экономического развития», «Гарады Беларусі (60-я гады XIX — пачатак XX стагоддзяў)», «Historia Białorusi. 1795—2000» (Lublin), «Нарыс гісторыі Беларусі. 1795—2002 гг.», «Мінск сто гадоў таму». Суаўтар кніг: «Мінск: Старонкі жыцця дарэвалюцыйнага горада» (у суаўтарстве з С. Шыбека), «Handbuch der Geschichte Wieβruβlands» (Gottingen), «Памяць: Гісторыка-дакументальная хроніка Мінска» (У 4-х кнігах. Кн. 2-я), «Гісторыя сялянства Беларусі» (У 3 тамах. Т. 2), «Гісторыя Беларусі ў кантэксце сусветных цывілізацый», «Dějiny Běloruska» (Praha, сумесна з Г. Сагановічам).



**Шыфэр Стэфані** — нямецкая праваабаронца. Нарадзілася ў 1965 г. у Хэйлброне, зямля Бадэн-Вюртэнбэрг (Нямеччына). Вывучала гісторыю ў Цюбінгенскім і Мюнхэнскім унівэрсытэтах. У 1992—1995 гг. працавала дырэктарам Санкт-Пецярбурскага офісу нямецка-расейскай грамадзкай арганізацыі «Deutsch-Russischer Austausch e. V.», у 1997—2006 г. — у «Deutsch-Russischer Austausch e. V.» у Бэрліне. З 2006 г. працуе ў арганізацыі «European Exchange GgbH», якая займаецца падтрымкай структураў грамадзянскай супольнасьці ў Беларусі і ва Ўкраіне. Сябра фундацыі Гайнрыха Бёля, Назіральнай рады фундацыі Марыён Доэнгоф, Рады арганізацыі «Правы чалавека ў Беларусі».



**Шэн Марцін** — нямецкі грамадзкі дзеяч, палітоляг. Нарадзіўся ў 1979 г. у Візбадэне (Нямеччына). Прыехаў у Беларусь у 2000 г. як добраахвотнік нямецкай арганізацыі «Акцыя выкупленьня і службы міру», працаваў зь дзецьмі-інвалідамі ў Менску. У 2002 г. пачаў вучобу ў Эўрапейскім гуманітарным унівэрсытэце на спэцыяльнасьці «Культуралёгія». Пасьля закрыцьця ЭГУ перавёўся ў Эўрапейскі ўнівэрсытэт «Выядрына» ў Франкфурце-на-Одэры. З 2002 г. — рэдактар нямецкага часопісу «Belarus-Perspektiven».



**Якубовіч Павал** — журналіст, рэдактар. Нарадзіўся ў 1946 г. у мястэчку Унеча Бранскай вобласьці (Расея). Скончыў Саратаўскую вышэйшую вайсковую камандную вучэльню МУС і факультэт журналістыкі Беларускага дзяржаўнага ўнівэрсытэту. Працаваў у газэтах «Знамя юности», «Народная газета». З 1995 г. — галоўны рэдактар газэты «Советская Белоруссия — Беларусь сегодня», органу адміністрацыі прэзыдэнта Рэспублікі Беларусь. Ляўрэат міжнароднай прэміі «Залатое пяро» за абарону дэмакратыі, прэміі «За духоўнае адраджэньне». Мае ордэн «Знак Пашаны».

## Паказьнік асобаў

## Summary

This book is a collection of selected broadcasts of the Belarusian Service of Radio Liberty program «Prague Accent», broadcasted in 2001—2008. Paradoxes of emerging of Belarusian nation and the statehood, authoritarianism and a struggle for democracy, Belarus between East and West — topics of round-table discussions where well-known Belarusian and foreign experts exchanged their opinions and experiences.

**«Бібліятэка Свабоды. XXI стагодзьдзе» —**
кніжны праект Беларускай службы Радыё Свабода.
Чытайце ў інтэрнэце: **www.svaboda.org**




**Верш на Свабоду.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.




**Дарога**
**праз Курапаты.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2002. — 464 с.: іл.




**Poems on Liberty:**
**Reflections for**
**Belarus.**
*Пераклады Веры Рыч.*
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 312 с.




**Быкаў на Свабодзе.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 536 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
Збор выступаў клясыка
беларускай літаратуры
ў этэры Радыё Свабода.
Аўдыёдыск.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004.




**Дуліна**
**ад Барадуліна.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2004. — 254 с.: іл.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА**
**ў Беларусі.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.




**Быкаў на Свабодзе.**
2-е выд., дапоўненае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 662 с.: іл.




*Сяргей Дубавец.*
**Вострая Брама.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 520 с.




*Аляксандар Лукашук.*
**Прыгоды АРА**
**ў Беларусі.**
2-е выд., папраўленае.
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2005. — 500 с.: іл.




*Вячаслаў Ракіцкі.*
**Беларуская**
**Атлянтыда.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 504 с.: іл.




**Плошча, 19.03—**
**25.03.2006.**
Радыё Свабодная
Эўропа/Радыё Свабода,
2006. — 400 с.: іл.



*Вінцэсь Мудроў.*
**Альбом сямейны.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 232 с.: іл.



**Начная чытанка. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007.




*Уладзімер Арлоў.*
**Імёны Свабоды.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2007. — 576 с.: іл.



*Івонка Сурвіла.*
**Дарога. Стоўпцы – Капэнгаген – Парыж – Мадрыд – Атава – Менск.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 144 с.: іл.




*Пётра Садоўскі.*
**Мой шыбалет.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2008. — 426 с.: іл.



**Начная чытанка 2. 50 аўтараў з этэру Радыё Свабода.**
Мультымэдыйны дыск. Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009.




**Адзін дзень палітвязьня.**
Радыё Свабодная Эўропа/Радыё Свабода, 2009. — 364 с.: іл.